УДК 94(476)(082)

Укладальнікі:
Валянціна Трыгубовіч і Аляксандр Фядута

У сёмы выпуск беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час» увайшлі матэрыялы, прсывечаныя пісьменнікам Яну Баршчэўскаму, Францішку Багушэвічу і Юрыю Гуменюку, грамадскім і палітычным дзеячам Тэафіліі Сапезе, Францішку Малевічу, Аркадзю Смолічу. Упершыню друкуюцца захаваныя ў архівах вершы за і супраць Міхаіла Мураўёва-Віленскага. Асобны раздзел прысвечаны актыўнай дзяячцы нацыянальнага руху 1990-х гадоў Веры Чуйко.

ISSN 2218-2039

*Сёмы выпуск беларускага*
*біяграфічнага альманаха «Асоба і час»*
*прысвячаецца памяці вялікіх сыноў нашай зямлі,*
*прапаведнікаў беларускага слова, выдатных паэтаў*
*Рыгора Іванавіча Барадуліна (1935–2014),*
*Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна (1936–2014)*
*і Ніла Сымонавіча Гілевіча (1931–2016).*
*Вершы іх заўсёды будуць гучаць*
*у сэрцах беларусаў.*

# ГОД ПАМІЖ ПАРЫЖАМ І СТРАСБУРГАМ
## (з дзённіка барскай канфедэраткі
## княгіні Тэафіліі Сапегі)

Год 1774 ад нараджэння Хрыстова выдаўся даволі багатым на падзеі. Тады быў падпісаны Кучук-Кайнарджыйскі мір паміж Расійскай імперыяй і Атаманскай Портай, памёр Папа Рымскі Клімент XIV, французскай каралевай стала Марыя Антонія з роду Габсбургаў, а на расійскі трон заявіла свае правы Лізавета Уладзімірская, вядомая таксама як княжна Тараканава. І ўсе гэтыя навіны адбіліся ў дзённіку княгіні Тэафіліі з Ябланоўскіх Сапегі.

Яна нарадзілася 8 жніўня 1742 года ў сям'і князя Юзафа Аляксандра Ябланоўскага (1711–1777), ваяводы навагрудскага, і княгіні Караліны з Радзівілаў Ябланоўскай (1707–1765). Па бацькоўскай лініі была ў сваяцкіх стасунках са Станіславам Ляшчынскім, а гэта значыць і з французскім каралеўскім дваром праз Марыю Ляшчынскую. Бацька быў вядомы як эрудыт, мецэнат і фундатар знакамітага навуковага «Таварыства Яблаўскага» (Societas Jablonowiana) у Лейпцыгу. Зразумела, што ягоная дачка атрымала найлепшую адукацыю, размаўляла па-французску і па-італьянску, грала на музычных іструментах, з найбольшай прыемнасцю — на арфе. Па матчынай лініі яна была пляменніцай князя Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі і стрыечнай сястрой князя Караля Станіслава Радзівіла пане Каханку. Пры такім радаводзе, сваяцтве і выхаванні княгіня Тэафілія Сапега магла разлічваць на ўвагу і прыхільнае стаўленне з боку наймагутнейшых валадароў гэтага свету і звяртацца да іх альбо непасрэдна, альбо праз набліжаных асоб. Такія кантакты вельмі спатрэбіліся ёй падчас і пасля Барскай канфедэрацыі, у якой яе муж — ваявода мсціслаўскі князь Юзаф Сапега (1737–1792) — браў актыўны ўдзел.

Падтрымка з боку радавітай, адукаванай і абазнанай жонкі была яму тым больш патрэбная, што вялікай пашаны сярод канфедэратаў ён сваімі ўчынкамі не дабіўся. Спроба з дапамогай Пуласкіх падняць улетку 1769 года паўстанне на Піншчыне і стварыць Ваўкавыскую павятовую канфедэрацыю скончылася беспаспяхова, і ў 1770 годзе князь Юзаф з жонкай выехаў на поўнач Рэчы Паспалітай, дзе правёў цэлы год паміж Гданьскам і Лідзбаркам. Абраны рэгіментарам літоўскім, заахвочаны французскім консулам у Гданьску Жазэфам Матыясам Жэрарам і палкоўнікам Шарлем Франсуа Дзюмур'е, ён, аднак, так і не вырушыў да Вялікага Княства Літоўскага, а ўвесь ягоны ўдзел у «літоўскіх» справах абмежаваўся спрэчкай на генеральнай радзе з гетманам Міхалам Казімірам Агінскім за камандаванне войскам. Той жа Дзюмур'е прызнаў Юзафа Сапегу за такія паводзіны «чалавекам зусім нядарным», Казімір Пуласкі ім увогуле грэбаваў[1], жонка рабіла ўсё магчымае, каб праз перамовы з рознымі партыямі вырашыць канфлікт мірам і на карысць сваёй сям'і.

Памянутая спрэчка паміж Агінскім і Сапегам адбылася напрыканцы 1771 года, а неўзабаве пасля яе, 27 снежня, распачала свой дзённік княгіня Тэафілія Сапега. Дзённік шмат у чым неардынарны. Як зазначае французская даследчыца жаночай мемуарнай спадчыны Катрыёна Сэт, «у класічным жанры мемуараў тэкст атрымлівае права на жыццё, паколькі аўтар прысутнічаў пры вялікіх падзеях, на якія ён зрэдку ўплываў. Жанчыны знаходзіліся ў баку ад публічнага жыцця і не ведалі такіх формаў легітымацыі»[2].

[1] La vie et les mémoires du général Dumouriez, avec des notes et des éclaircissements historiques, par MM. Berville et Barrière. T. I. Paris: Baudoin frères, 1822. P. 200.

[2] Seth C. La fabrique de l'intime: Mémoires et journaux de femmes du XVIII[e] siècle. Paris: Laffont, 2013. P. 24.

То бок сітуацыя Тэафіліі Сапегі — некласічная[3]. Яна якраз разумее, што знаходзіцца ў цэнтры найважнейшых падзей і мае права на асабісты погляд на іх. Падзеі, з якіх пачынаецца дзённік, — упадак генеральнай рады канфедэратаў увесну 1772 года, ад'езд галоўных дзеячаў паўстання, у тым ліку саміх Сапегаў, за мяжу. Княская сям'я вырушыла з Цешына праз Дрэздэн і Мюнхен, дзе вяла перамовы з французскімі дыпламатамі графам Луі Габрыэлем Дзюбюа дэ Нансэ і Юбэрам дэ Фаларам, да Страсбурга, куды прыбыла 30 жніўня 1772 года.

Дом Тэафіліі Сапегі ў сталіцы Эльзаса, а на кароткі час і ў Парыжы, дзе яна жыве з канца снежня 1773 да красавіка 1774 года, становіцца магнітам для самых розных дзеячаў канфедэрацыі, якая ніколі не была маналітнай. Княгіня стала лістуецца з графам Міхалам Вельгорскім, прадстаўніком Барскай канфедэрацыі пры версальскім двары, прымае яго ў сябе 9–12 лістапада 1772 года. Побач з ёю, часам і ў адным доме, жыве Ігнацы Богуш, якога яна проста кліча «сябрам» ці «прыяцелем» і паслугамі якога часта карыстаецца для занатавання лістоў і навін у свой дзённік. Да яе ў розныя часы завітваюць князь Караль Станіслаў Радзівіл, граф Міхал Ян Пац, былы маршалак канфедэрацыі, генерал войска кароннага граф Міхал Аўгустын Збаінскі. Падчас княгінінага побыту ў Парыжы за дапамогай да яе звяртаюцца Казімір Пуласкі і Шыман Касакоўскі. Кідаецца ў вочы адсутнасць у спісе гасцей і карэспандэнтаў Тэафіліі Сапегі графа Міхала Казіміра Агінскага. Патлумачыць даволі халодныя адносіны гетмана вялікага літоўскага з жонкай свайго суперніка ваяводы мсціслаўскага можна трыма прычынамі. Па-першае, як заўважыла тое і парыжская паліцыя[4], на эміграцыі гетман вялікі літоўскі ўвогуле ні з кім — ані з суайчыннікамі, ані з французамі — не падтрымліваў асабліва цесных стасункаў. Па-другое, яшчэ ў часы спрэчкі за трон паміж французскім прынцам Канці і курфюрстам саксонскім Аўгустам адносіны Агінскіх і Сапегаў сталі адкрыта варожымі. І па-трэцяе, у 1770–1771 гадах Міхал Казімір Агінскі і Тэафілія Сапега вялі судовую цяжбу за мястэчка Смілавічы Мінскага павета[5], што наўрад ці дадавала ім узаемных сімпатый.

Пакінем, аднак, пераказ фактаў з жыцця княгіні Сапегі, хоць бы і малавядомых, — чытач зможа даведацца пра некаторыя з іх  па публікацыі дзённіка княгіні Сапегі за 1771–1773 гады, зробленай У. Канапчыньскім[6] у 1914 годзе. Аддадзім і аб'ектыўны аналіз падзей на водкуп спецыялістам-гісторыкам. Звернемся, хутчэй, да формаў суб'ектыўнага ўспрымання падзей, да тэмаў, якія выклікаюць асабістую зацікаўленасць нашай аўтаркі, да стылю яе пісьма. Менавіта праз гэта можна нарэшце скласці больш поўны сацыяльны і псіхалагічны партрэт гэтай неардынарнай жанчыны, пра якую дагэтуль вядома зусім няшмат[7].

У дзённіку Тэафіліі Сапегі выразна вылучаюцца тры асноўныя тэмы: палітычнае жыццё ў Рэчы Паспалітай і Францыі, грамадскае жыццё ў Страсбургу і Парыжы, прыватныя (не толькі сямейныя) адносіны. Прычым усе яны ўзаемазвязаны. Княгіня

[3] Але нельга сказаць, што яна выключная: калі французскія арыстакраткі канца XVIII стагоддзя распавядалі пра палітычнае жыццё з некаторай дыстанцыі, то ліцвінкі і палячкі актыўна ўмешваліся ў традыцыйна мужчынскія справы. Гл. аб гэтым: Konopczyński W. Kiedy nami rządziły kobiety. London: Veritas, 1960.

[4] Гл. рапарт ад 5 жніўня 1774 г. (Асоба і час. Вып. 6. С. 8).

[5] Гл. пленіпатэнцыйны ліст ад 25 сакавіка 1771 года, дадзены М. К. Агінскім А. Шукевічу на заканчэнне гэтай справы: Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, ф. 2 (Агінскія), КП 8776.

[6] Z pamiętnika kanfederatki księżnej Teofili z Jabłonowskich Sapieżyny (1771–1773); przypisami opatrzył i wydał W. Konopczyński. Kraków: Spółka Wydawnicza Polska, 1914.

[7] Да гэтага часу найбольш падрабязным жыццяпісам княгіні Тэафіліі Сапегі застаецца біяграма, складзеная Ежы Скраўронэкам для «Польскага біяграфічнага слоўніка»: Skowronek J. Sapieżyna z Jabłonowskich Teofila Strzeżysława // Polski Słownik Biograficzny. T. XXX/2 (Sapieżyna Anna — Sawicki Jerzy). Warszawa ; Kraków: PAN, 1994. S. 171–173.

Сапега ўчытваецца ў бюлетэні здароўя караля Людовіка XV, пільна назірае за інтрыгамі і хаўрусамі, што складаюцца потым пры версальскім двары, бо ад балансу сілаў там залежыць атрыманне ці скасаванне пенсіёну для яе мужа і яе самой. Падзеі на радзіме выклікаюць занепакоеннасць як за лёсы ўсяго краю, так і за маёмасць сям'і, як за гонар суайчыннікаў, так і за фамільную гордасць. Тыя самыя падзеі ствараюць для французаў яе вобраз ахвяры, пакутніцы за высокія інтарэсы. Сяброўства з французскімі ўраднікамі і вайскоўцамі, святарамі і літаратарамі дазваляе падтрымліваць грамадскія стасункі і атрымліваць неабходную інфармацыю пра падзеі ў Францыі і Еўропе. Нарэшце, штодзённыя заняткі княгіні — візіты, прагулянкі, прыватныя ўрокі, спектаклі, ліставанне — з'яўляюцца не так прыемнасцямі, як неабходнымі формамі дачынення да грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця ў чужой краіне.

За выключэннем некалькіх месяцаў, што Тэафілія Сапега праводзіць у Парыжы, на эміграцыі яна мае магчымасць сачыць за спектаклем прыдворнага жыцця, як версальскага, так і варшаўскага, толькі здалёк. Яна здабывае палітычную і значную грамадскую інфармацыю праз размовы са знаёмымі, лісты і «рукапісныя навіны» («nouvelles à la main»), невялікія інфармацыйныя ўлёткі, у якіх распаўсюджваюцца не афіцыйныя звесткі, а чуткі і пагалоскі. Увогуле самі гэтыя словы (па-французску «les rumeurs» і «les bruits») і іхныя кантэкстуальныя сінонімы сустракаюцца ў тэксце дзённіка так часта, што нават часам можа падацца: перад намі шэраг анекдотаў і плётак, разбаўлены кароткімі запісамі пра асабістыя справы. Можна разглядаць нататкі княгіні Сапегі і так, толькі трэба аддзяляць чуткі ад хлусні. Уплывовы французскі сацыёлаг Жан-Наэль Капфэрэр прысвяціў вывучэнню чутак як сродку масавай інфармацыі, інструмента складання і руйнавання рэпутацый асобную манаграфію[8]. Арлет Фарж, гісторык французскай культуры XVIII стагоддзя, даводзіць, што пры старым рэжыме чуткі не толькі спатоляюць прагу да інфармацыі, але і ствараюць іншую рэчаіснасць, цалкам верагодную ілюзію дачынення да свету вялікай палітыкі[9]. Менавіта ў такой рэчаіснасці неправераных і неправяральных фактаў жыла на эміграцыі Тэафілія Сапега — іншых крыніц інфармацыі для яе не было, і, як заўважыць чытач, яна сама гэтую сітуацыю добра разумела.

На жыццё княгіні моцна ўплывала не толькі своеасаблівае інфармацыйнае поле, але і культурны асяродак. Яна пачынае весці свой дзённік у Рэчы Паспалітай выключна па-польску, у дарозе да Страсбурга ўводзіць французскія выразы, дае кароткія апісанні асобных цікавостак на lingua franca тагачаснай Еўропы. Размясціўшыся ў сталіцы Эльзаса, яна працягвае пісаць на роднай мове, але гісторыі з мясцовага жыцця, словы, пачутыя ад тутэйшых, занатоўвае па-французску. А ўжо ў красавіку 1774 года, адразу пасля вяртання з Парыжа і расстання з Ігнацыям Богушам, які з'язджае жыць у Нансі, пераходзіць выключна на французскую мову, ад якой не адмовіцца да вясны 1776 года, калі ўжо ўвогуле знікне жаданне пісаць.

Негледзячы на сталую прысутнасць у княгініным доме ў Страсбургу палякаў і ліцвінаў, ліставанне з сястрой Ганнай Паўлінай з Сапегаў Ябланоўскай (магчыма, яно таксама ішло на французскай мове — арыгіналы не захаваліся), культура і мова Францыі становяцца дамінантамі духоўнага жыцця Тэафіліі Сапегі на час яе побыту там, дапамагаюць ёй выразна раскрыць сваю ідэнтычнасць. І перш за ўсё жаноцкасць, якую неабходна акцэнтаваць у выключна мужчынскім асяроддзі канфедэратаў. Княгіня не прымае свой пол як знак нешчаслівага і цяжкага лёсу. Наадварот, як тое падказвае ёй эсэ Антуана Леанара Тама «Аб характары, норавах і розуме жанчын у розныя стагоддзі» (1772), якое яна чытае ў красавіку 1773 года[10], жаночы пачатак адзначаны асаблівай сілай, вытрым-

[8] Kapferer J.-N. Rumeurs: Le plus vieux média du monde. Paris: Seuil, 1987.
[9] Farge A. Dire et maldire: l'opinion publique au XVIII$^{e}$ siècle. Paris: Seuil, 1992.
[10] Biblioteka polska w Paryżu (BPP), fonds 46, vol. II, p. 455.

кай і адказнасцю. А вось яе асабістая фармулёўка: «Можа, тое і крыху ганарліва, але добра пасуе майму полу, які створаны, каб аддаваць загады»[11] (у арыгінале: «Peut-être bien que ce soit une petite vanité, mais elle sied bien à mon sexe qui est fait pour commander»). Гэтая фраза, якую Тэафілія Сапега занатоўвае 31 жніўня 1772 года, можа служыць яе дэвізам як у палітычных, так і дамашніх справах, бо і ў першых, і ў другіх яе воля моцна ўплывае на волю мужаву і ўвогуле на мужчынскую.

Княгіня відавочна ідзе насуперак тым парадам, якія даў канфедэратам па просьбе графа Міхала Вельгорскага Жан-Жак Русо ў сваіх «Разважаннях аб сродках праўлення ў Польшчы…» (1770–1771). Напомнім, што французскі філосаф у якасці маральнага прыкладу прыводзіў палякам і ліцвінам маскулінную героіку Антычнасці, супрацьпастаўляючы яе фемініннай, вытанчанай культуры тагачаснай Францыі. Гэты тэзіс быў, несумненна, знаёмы Тэафіліі Сапезе[12], што не замінала ёй чытаць у сваім салоне з французскімі афіцэрамі іншыя творы Русо[13], па некалькі разоў глядзець з захапленнем у тэатры ягонага «Вясковага вешчуна».

Дарэчы, страсбургскі тэатр стаўся для княгіні не толькі важным месцам для публічнага з'яўлення і забаў. Мова тэатральных знакаў і сітуацый дазваляе княгіне Тэафіліі надаць вытанчаную форму сваім мацярынскім пачуццям. Яе сустрэчы ці развітанні з дзецьмі Аляксандрам[14] (3.09.1773–8.08.1812) і Ганнай (8.04.1775–1.02.1794), што нарадзіліся ў Страсбургу і гадаваліся ў карміліцы пані дэ Барэгар у Люнэвілі, часта суправаджаюцца слязамі. Апісанні такіх сцэн выкрываюць не толькі чуллівасць княгіні, але і залежнасць стылю ад раманных і драматургічных клішэ таго часу. Першае з'яўленне ў вялікім свеце яе сына адбываецца ў тэатры 29 жніўня 1775 года. Княгіня Сапега прыводзіць амаль двухгадовага Аляксандра на спектакль, каб убачыць, «якое ўражанне зробіць [на яго] увесь гэты натоўп, убранне залы, ігра акцёраў, што ён убачыць у першы раз у сваім жыцці»[15]. Гэты досвед павінен быў таксама паўплываць на развіццё эмацыйнага свету дзіцяці, якое «здаецца вельмі сур'ёзна паставілася да гэтага новага для яго відовішча, і калі вярнулася дадому, не ўмеючы яшчэ выказаць сваіх ідэй, пантамімай паказала ўсё, што ўбачыла»[16]. Мацярынскія пачуцці княгіня Сапега таксама выражае, карыстаючыся літаратурнымі мадэлямі: «Трымаючы яго [Аляксандра] падчас спектакля на каленях, я разважала аб годнасці словаў Карнэліі, маці Гракхаў, якая іх называла перад іншымі рымлянкамі сваімі сапраўднымі каштоўнасцямі і скарбамі. І мне здавалася, што які бы ні быў малым мой сын, але ён дадаваў мне гонару»[17].

І ўсё ж такі прыведзены пасаж — хутчэй рэдкая, чым звыклая для Тэафіліі Сапегі пісьмовая форма выражэння пачуццяў. Дзённік XVIII стагоддзя не прыдатны для самых шчырых прызнанняў, бо акрамя інтымнага (у разуменні той эпохі) вымярэння ён мае і сацыяльна-камунікатыўную функцыю. Дзённік маглі чытаць уголас блізкім, адрасаваць канкрэтнай асобе ці асобам альбо пісаць у некалькі рук, як, напрыклад, рабіла Тэафілія Сапега з Ігнацыем Богушам і сваім сакратаром Антонам. Таму мы нічога не даведаемся з яго пра амурныя справы княгіні на эміграцыі: ні пра тое, як яна адпавяла

[11] Z pamiętnika kanfederatki… S. 130.

[12] Рукапісныя копіі «Разважанняў…» Русо, завершаных у чэрвені 1771 года (паводле версіі Жана Фабра, на пачатку 1772 года), намаганнямі графа Вельгорскага пачалі адразу цыркуляваць у Парыжы, трапіўшы да Рэчы Паспалітай і караля Станіслава Аўгуста самае позняе ўлетку 1772 года: Fabre J. Stanislas-Auguste Poniatowski et l'Europe des Lumières, Paris: Institut d'études slaves, 1952. P. 343–347; Trousson R. Jean-Jacques Rousseau. Paris: Gallimard, 2011. P. 314.

[13] BPP, fonds 46, vol. II, p. 456.

[14] Гл. ягоную біяграфію: Skowronek J. Z magnackiego gniazda do napoleońskiego wywiadu: Aleksander Sapieha. Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PAN, 1992.

[15] BPP, fonds 46, vol. IV, p. 1264.

[16] Ibid.

[17] Ibid.

насамрэч на заляцанні страсбургскіх афіцэраў (гл. запіс ад 30 красавіка 1774 года), якімі былі яе адносіны з мужам. Зыходзячы з даступнага нам тэксту, яны падаюцца даволі прахалоднымі, але ў гэты час у сям'і нараджаецца двое дзяцей… Між тым каханне як вытанчаны рытуал вабіла Тэафілію Сапегу. Пра гэта сведчыць экзэмпляр паэмы папулярнага ў 1770-я гады галантнага французскага паэта П'ера-Жазэфа Бернара «Мастацтва кахання» (L'Art d'aimer, 1775) з экслібрысам княгіні, які захаваўся ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы[18]. Пра гэтую кнігу ці яе аўтараў у дзённіку, на жаль, няма ніякіх згадак.

Шмат яшчэ якія падзеі канфедэрацкага жыцця і жыцця Тэафіліі Сапегі не трапілі ў дзённік, які яна, верагодна, занудзіўшыся без рэальнай справы, без дакладных і пазітыўных навін, кінула весці напрыканцы сакавіка 1776 года. Таму мы не ведаем дакладнай даты ад'езду Ігнацыя Богуша з маленькім князем Аляксандрам да Ганны Паўліны Яблаunion на Падляшша, даты вяртання самой княгіні і яе мужа ў Рэч Паспалітую, прычын, па якіх яны раз'ехаліся і памерлі паасобку: князь Юзаф у Лахоўцах (цяпер Белагор'е) на Падоллі 10 студзеня 1792 года, а княгіня Тэафілія ў сваім маёнтку Тэафіпалі (цяпер мястэчка ў Хмяльніцкай вобласці Украіны) у 1816 годзе, у адзіноце, перажыўшы і мужа, і дзяцей, аддаліўшыся ад грамадскіх і палітычных спраў.

Дзённік княгіні за 1771–1776 гады захаваў для нас зусім іншы вобраз — вобраз маладой, актыўнай, прывабнай і неардынарнай асобы, пасярэдніцы паміж барскімі канфедэратамі і французскімі дыпламатамі, якая жыла на памежжы дзвюх нацыянальных культур (сармацкай і асветніцкай), дзвюх моў (польскай і французскай), прымала на сябе і жаночыя, і мужчынскія абавязкі.

Пераклад фрагментаў дзённіка Тэафіліі Сапегі за 1774 год, якія прапаноўваюцца чытачу, зроблены паводле арыгінальнага рукапісу, што зберагаецца ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы: Biblioteka polska w Paryżu, fonds 46, vol. III, p. 639–954 (белавы варыянт), p. 955–1152 (чарнавы аўтограф і арыгіналы лістоў).

*Дзяніс КАНДАКОЎ*

---

[18] Гл.: Нікалаеў М. В. Бібліятэкі Сапегаў // Сапегіяна: кнігазбор роду Сапегаў [Электронны рэсурс] / НББ, РНБ; склад.: Л. Г. Кірухіна, К. В. Суша; пад навук. рэд. М. В. Нікалаева, Т. І. Рошчынай. — Электронныя, тэкставыя, графічныя дадзеныя і праграма (1,7 Гб). — Мінск: НББ, 2011. — 1 электронны аптычны дыск (DVD-ROM).

## КНЯГІНЯ ТЭАФІЛІЯ З ЯБЛАНОЎСКІХ САПЕГА
### Фрагменты дзённіка за 1774 год

10 студзеня. Пасля ранняга абеду была з маёрам Росі[1] ў Версалі. Прыбыла да пані дэ Нарбон[2], калі тая ўжо садзілася абедаць, і я засталася, сказаўшы, што кармлю грудзямі. Пасля абеду мела гутарку з ёю дзеля абмеркавання новых праектаў атрымання пенсіёну з каралеўскай казны. Яна, а хутчэй, пані Адэлаіда[3] настроена рашуча. Астатні час размова ішла пра розныя прадметы і прыдворныя хаўрусы. Пра даверлівыя і блізкія адносіны, якія склаліся паміж ёю і міністрам[4] ці, хутчэй, партыяй Дзюбары[5]. Увесну прыедзе Імператар[6].

Бачылася з пані Адэлаідай з пятай да сёмай гадзіны. Гутарылі пра рознае: шмат пра мае асабістыя справы, а потым пра Чартарыскую[7]. Яна дала мне зразумець, што ёй было б прыемна, калі б пан муж мой быў на паляванні з каралём. Пані Вікторыя і Сафія[8] ўвайшлі да яе, калі я была ў пакоі. Развіталася, калі настаў час разводзіць агонь.

Перш чым з'ехаць, я зайшла ў кабінет пана Жэрара[9], былога рэзідэнта ў Гданьску, які цяпер стаў звацца дэ Рэнваль, каб пазбегнуць блытаніны, якая пачалася паміж дзвюма дэпартаментамі праз лісты да розных адрасатаў.

Размаўляла з ім аб праекце пана мужа майго. Ён паабяцаў скласці запіску, якую папрасіў мяне перапісаць сваёю рукою.

11. Цягам дня зрабіла колькі візітаў. Увечары прымала графа Вельгорскага[10], маркіза д'Эстурмэля[11], пана дэ Росі і Падоскага.

12. Я абедала ў графіні дэ Турпэн[12] і прабавіла ў яе частку дня. Увечары зрабіла некалькі візітаў у суседнія дамы. Мела візіт ад пана дэ Рульера[13].

13. Я абедала ў графа Мюрынэ[14]. Мела першае знаёмства з пані графавай жонкай. Вярнуўшыся дадому, сустрэлася з графіняй дэ Нарбон, якой абяцала быць разам

---

1 Каміль дэ Росі (1727–1794), маёр Карсіканскага легіёна з 24 сакавіка 1772 года.

2 Франсуаза дэ Шалю, герцагіня дэ Нарбон-Лара (1734–1821), фаварытка Людовіка XV з 1749 года.

3 Марыя Адэлаіда Французская (1732–1800), у 1774 годзе — старэйшая з дзяцей Людовіка XV і Марыі Ляшчынскай. Далёкая сваячка княгіні Сапегі па бацькоўскай лініі, рабіла ёй пратэкцыю пры Версальскім двары ў 1774–1776 гадах.

4 Маецца на ўвазе Эманюэль Арман дэ Віньро дзю Плесі-Рышэльє, герцаг д'Эгіён (1720–1788), міністр замежных спраў (1771–1774), ваенны міністр са студзеня да чэрвеня 1774 года.

5 Жанна Бэкю, графіня Дзюбары (1743–1793), апошняя фаварытка Людовіка XV.

6 Іосіф II (1741–1790), імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі (1765–1790), двойчы быў з візітам у Парыжы: у красавіку — маі 1777 і ліпені 1781 года.

7 Княгіня Ізабэла (Эльжбета) Дарота з Флемінгаў Чартарыская (1746–1835), жонка Адама Казіміра Чартарыскага.

8 Вікторыя Луіза Марыя Тарэза Французская (1733–1799) і Сафія Філіпа Лізавета Жюсціна Французская (1734–1782), малодшыя дочкі Людовіка XV і Марыі Ляшчынскай.

9 Жазэф Матыяс Жэрар дэ Рэнваль (1737–1812), консул і рэзідэнт Францыі ў Гданьску (1768–1773), першы сакратар другога бюро міністэрства замежных спраў Францыі (1774), сакратар Дзяржаўнай рады (1776), дзяржаўны дарадца (1783). Старэйшы брат Жэрара дэ Рэнваля, Александр Конрад дэ Жэрар (1730–1790) у 1766–1779 гадах быў першым сакратаром першага бюро міністэрства замежных спраў.

10 Граф Міхал Вельгорскі (каля 1730–1814), абозны вялікі каронны (1758–1762), стольнік літоўскі (1762), кухмістр вялікі літоўскі (1763–1774); афіцыйны прадстаўнік Барскай канфедэрацыі пры версальскім двары (1770–1772), жыў у Парыжы з 1770 да 1776 год.

11 Луі Мары, маркіз д'Эстурмэль (1744–1823), палкоўнік Польскага кавалерыйскага рэгімента (да 1784).

12 Лізавета Марыя Канстан Бенэдыкта Сафія, графіня Турпэн дэ Крэсэ (1742 — 1785), у дзявоцтве фон Лёвэндаль, літаратарка і мецэнатка.

13 Клод Карламан дэ Рульер (1734–1791), дыпламат і гісторык, аўтар нясконачанай «Гісторыі анархіі ў Польшчы і падзелу гэтай рэспублікі» (апубл. 1807).

14 Антуан Віктор Агюстэн д'Абэржон, шэвалье дэ Мюрынэ (1731–1798), палкоўнік (1766–1770), брыгадзір драгунаў (1770–1780), брыгадны генерал (з 1780). У 1770–1771 гадах — эмісар французскага

у Оперы. Узяла з сабою туды таксама малога графа Андрэя Вельгорскага[15]. Паехала адтуль на вечар да пані маркізы дэ Манкансэй[16].

14. Ездзіла аглядаць карэты пані дэ Тальмон[17] з яе сакратаром Кальмэ, якога запрасіла паабедаць у сябе. Зрабіла некалькі пустых візітаў, толькі графіня дэ Бецюн[18] прыняла мяне. Вярнулася дадому рана, каб адпачыць перад заўтрашняй паездкай у Версаль.

15. Прачнулася з крывацёкам, аслабела так, што не магла ехаць у Версаль, і не выходзіла са спальні. Напісала пані дэ Нарбон і Жэрару. Адаслала перапрасіць у графіні дэ Бранка[19], у якой павінна была быць увечары. Бачыла шэвалье Фрэдзі[20].

16. Немач мая ўзмацнілася, і я вымушана была заставацца ў ложку. Граф Вельгорскі прыслаў мне свайго лекара, якога клічуць Бруна. Сам граф прыйшоў да мяне бавіць вечар. Былі таксама маркіза дэ Манкансэй і пан дэ Росі. Ліст, што атрымаў пан Вельгорскі ад свайго сына[21] з Варшавы наконт бунта ў Расіі. Адказ ад графіні дэ Нарбон.

17. Не змагла ўстаць з ложка, бо немач мая не адступае. Мела візіт ад графіні дэ Бранка. Вечарам атрымала лісты ад сястры маёй[22], ад якіх усё ўва мне страшэнна перавярнулася.

18. Ноч мела вельмі кепскую, прачнулася ў надзвычайнай слабасці. Між тым лекар прадпісаў мне ўстаць з ложка, каб сабрацца з сіламі, што я і зрабіла папалудні. Пан муж мой у гэты дзень быў пры ранішнім туалеце караля ў Версалі. Ён вярнуўся а шостай гадзіне разам з графам Вельгорскім.

19. Пан кардынал дэ Раган[23] прыслаў зранку справіцца аб маіх навінах. Напісала запіску пану дэ Аранда[24], перапрашаючы за тое, што здароўе не дазволіць мне быць у яго ўвечары згодна з даўнім запрашэннем. У гэты дзень у мяне былі пан кардынал дэ Раган, які пакінуў мяне, каб зайсці да пана д'Утрэмона[25] пагутарыць пра мае справы, потым пан граф дэ Турпэн[26] з сынам і жонкай, пані графіня дэ Бранка, біскуп Санліскі[27], пан

---

міністра замежных спраў герцага д'Эгійона па сувязях з літоўскай часткай Барскай канфедэрацыі. Ліставанне княгіні Сапегі з шэвалье дэ Мюрынэ захавалася ў архіве Міністэрства замежных спраў Францыі (AMAE, Correspondance politique, Pologne, vol. 299).

15 Малодшы з сыноў графа Міхала Вельгорскага, даты жыцця не вядомы.

16 Сэсіль Тэрэза Паліна, маркіза дэ Манкансэй (1706/1707–1787), у дзявоцтве дэ Рыу дэ Кюрзэ, фрэйліна Кацярыны Апалінскай, жонкі Станіслава Ляшчынскага.

17 Марыя Ганна Луіза з Ябланоўскіх, прынцэса дэ Тальмон (1711–20.12.1773), стрыечная цётка княгіні Тэафіліі Сапегі, якая ў студзені — сакавіку 1774 года дбала аб сваёй долі цётчынай спадчыны. Прынцэса дэ Тальмон з 1730 года жыла ў Францыі, пры двары Станіслава Ляшчынскага, чыёй палюбоўніцай была, і ў Версалі пры каралеве Францыі Марыі Ляшчынскай. Карэспандэнтка Вальтэра.

18 Антуанэта Марыя Луіза, графіня дэ Бецюн (1731–1809), у дзявоцтве дэ Краза, нявестка графа Луі Мары Віктора дэ Бецюн, камергера караля Станіслава Ляшчынскага.

19 Марыя Луіза, графіня дэ Бранка (1746–1834), у дзявоцтве Лёвэндаль, родная сястра графіні дэ Турпэн Крэсэ.

20 Нікаля дэ Фрэдзі (1719 — пасля 1791), палкоўнік артылерыі (1774), брыгадзір (1780), брыгадны генерал (1784–1791).

21 Граф Ежы Вінцэнт (Юры Міхайлавіч) Вельгорскі (1753–1809), пісар польны літоўскі (1783–1790), паўнамоцны міністр Таргавіцкай канфедэрацыі пры расійскім двары (1792–1794); з траўня 1794 года — на рускай службе.

22 Княгіня Ганна Паўліна з Сапегаў Ябланоўская (1728–1800), прыродная сястра княгіні Тэафіліі Сапегі.

23 Луі Сэзар Канстантэн, прынц дэ Раган-Геменэ (1697–1779), біскуп Страсбургскі (1757), кардынал (1761–1779).

24 Пэдра Пабла Абарка дэ Балеа, граф дэ Аранда (1718–1798), іспанскі амбасадар у Рэчы Паспалітай (1760–1762) і Францыі (1773–1787).

25 Ансэльм Жазэф д'Утрэмон (1712–1790), адвакат парыжскага Парламента (судовай установы дарэвалюцыйнай Францыі), выканаўца тастамента прынцэсы дэ Тальмон, потым — тастамента Людовіка XV.

26 Лансэло Турпэн, граф дэ Крэсэ (1716–1793), французскі вайсковец і літаратар.

27 Жан-Арман дэ Раклор (1721–1818), біскуп Санліскі (1754–1801), сябра Французскай Акадэміі (1771).

дэ Росі, Фрэдзі, Трэфон, Рульер, Касакоўскі[28] і Пулаўскі[29]. Пан біскуп Санліскі казаў мне, што кароль і пані дафіна[30] атрымалі ў нядзелю весткі пра тое, што туркі не пакінулі ніводнага рускага на другім беразе Дуная.

Паны Касакоўскі і Пулаўскі даручылі мне паразмаўляць з панам Фрэдзі, каб знайсці для іх чалавека, які б пагадзіўся адправіцца з імі ў Турэччыну і ведаў бы інжынерную справу.

20. Мы абедалі з панамі Росі, Фрэдзі, Пулаўскім і Касакоўскім. Устаўшы з-за стала, прагулялася з двума першымі ў Пасі. Адтуль паехалі ў Булонскі лес, спыніліся ў Ла Мюэт агледзець каралеўскі дом. Ён размешчаны ў вельмі прывабным месцы, з аднаго боку вокны выходзяць на сад, за якім раскінуўся шырокі дол. Мы зайшлі ў апартаменты караля, якія звязаны патаемнай лесвіцай з апартаментамі пані Дзюбары. Я прайшла ў салон і іншыя пакоі, мэбля там сціплая, і ва ўсім астатнім дом выглядае проста для каралеўскага жытла, але для прыватнай асобы быў бы найпекным. Заспелі там вялікую вясельную вячэру і безліч людзей. То брамнік таго дому пан Філёль узяў шлюб з дачкой аднаго адваката са старога Парламента. Багата народу выйшла з-за стала паглядзець на мяне ў маім польскім строі.

Навіна дня такая, што Авіньён будзе перададзены Папе Рымскаму. У наступным месяцы Карсіканскі каралеўскі рэгімент будзе расквatараваны ў Марсэлі.

21. Была на прагулцы на той частцы бульвараў, якія завуцца Барампар. У тым квартале жыве маркіз Велапольскі[31]. Мой муж паклікаў мяне адведаць пані маркізу[32]. З намі быў пан дэ Росі. Нас запрасілі на абед і потым усіх разам з'ездзіць на спектакль да Адзіно[33]. Запрасілі і пана дэ Росі далучыцца да нас. Пасля спектакля мужчыны вячэралі ў горадзе, а я засталася з маркізай да адзінаццатай гадзіны, калі тыя вярнуліся. Тады мы адкланяліся.

Размясціліся яны найлепшым чынам, кватэра з добрай мэбліроўкай, і ўвогуле жывуць яны вельмі ладна і з вялікай эканомнасцю. Разам з імі месцяцца Панінскі[34], Жычынскі і іх сын[35], які пакутуе на шкарлятыну. Лекі на падтрымку яго здароўя, яго навучанне, вялікая колькасць настаўнікаў для іх саміх і выдаткі на дамашнюю гаспадарку патрабуюць трыццаці тысяч ліўраў. […]

23. Ездзіла ў Версаль. Заспела пана д'Утрэмона, выканаўцу тастамента прынцэсы дэ Тальмон на абедзе ў пані дэ Нарбон. Меў са мной размову, у якой быў больш чым звычайна адкрыты наконт справы аб спадчыне, і распавёў пра добрае стаўленне да мяне пані Адэлаіды.

---

[28] Шыман Марцін Касакоўскі (1741–1794), барскі канфедэрат. У Парыжы з канца лістапада 1773 да пачатку лютага 1774 года. Разам з іншымі барскімі канфедэратамі браў удзел у баявых дзеяннях супраць расійскіх войскаў у Турэччыне.

[29] Казімір Пуласкі (1745–1779), удзельнік Барскай канфедэрацыі, з траўня 1772 года ў эміграцыі (Саксонія, Францыя, Турэччына). Брыгадны генерал Кантынентальнай арміі (1777), герой вайны за незалежнасць ЗША. Яго прозвішча ў дзённіку княгіні Сапегі заўсёды падаецца як Пулаўскі.

[30] У дзявоцтве Марыя Антонія Юзэфа Габсбург-Латарынгская (1755–1793), дафіна Францыі (1770–1774), каралева Францыі Марыя Антуанэта (1774–1792), жонка Людовіка XVI.

[31] Маркіз Францішак Велапольскі (1732–1809), маршалак надворны каронны (1767–1773), удзельнік Барскай канфедэрацыі. У Парыжы жыў з ліпеня 1773 да лютага 1774 года.

[32] Маркіза Эльжбета з Белінскіх Велапольская (памерла ў 1814).

[33] Нікаля Мэдар Адзіно (1732–1801), заснавальнік папулярнага тэатра Амбігю-Камік (1769), які спачатку даваў марыянетачныя прадстаўленні, з 1772 года марыянетак замянілі дзеці.

[34] Ян Непамуцэн Панінскі (1735 — пасля 1782), удзельнік Барскай канфедэрацыі.

[35] Найверагодней, маркіз Юзаф Ян Немапуцэн Велапольскі (не раней за 1761 — 1839). Пасля ад'езду бацькі жыў у Парыжы пад наглядам гувернёра прынамсі да восені 1774 года. Гл. рапарты паліцыі ад 5.08.1774 і 6.03.1778 (Archives du Ministère des affaires étrangères, Contrôle des étrangers, vol. 2, f. 38r°; vol. 20, f. 133 r–v).

Бачыла пані Адэлаіду, якая прыняла мяне як звычайна, гэта значыць прыязна. Ад яе выйшла пісаць да прынцэсы Крысціны[36], якая толькі што прыехала. Яна хоча зберагчы пенсіён у сто тысяч ліўраў, які кароль Францыі даравыў ёй, пакуль будзе вакантным месца абата ў кляштары Рэмірмон. Яно сапраўды дагэтуль было вакантным. Лічаць, што яе намаганні не прынясуць карысці, бо кароль ніяк не выказвае да яе сяброўства.

Таксама зайшла напісаць да герцагіні д'Эгіён[37]. Герцагіня дэ Бавільe прыняла мяне, і я скончыла свае хаджэнні ў малодшага Жэрара, якога заспела ў кабінеце. Гутарыла з ім пра справу майго мужа. Пакуль была там, зайшоў абат дэ Лавіль[38]. Гэта той самы, што колькі дзён таму саступіў Жэрару пасаду першага сакратара і быў узведзены ў сан тытуляранага біскупа і на пасаду дырэктара канцылярыі міністэрства замежных спраў. Пасада цалкам новая і створаная спецыяльна для яго.

24. Зранку адаслала Сябра[39] ўчыніць д'Утрэмону апытанне. Той адказаў, што трэба чакаць. Дафіна ў найлепшых да мяне адносінах і казала яму, што стан мой выклікае вялікае спачуванне, што ахвяраваць радзіму і маёмасць на карысць грамадскай справы вялікай дабрачыннасці ёсць вялікім няшчасцем. […]

1 лютага. Прымала ў сябе пана дэ Рульера. Гэта адзін з выбітнейшых пісьменнікаў у Францыі. Спачатку быў прызначаны панам дэ Шуазолем[40] агентам па сувязях з кіраўнікамі канфедэрацыі, потым той жа міністр даручыў яму пісаць гісторыю Польшчы ад смерці Аўгуста III. Прыходзіць да мяне вельмі часта чыніць неабходныя тлумачэнні для найбольш цікавых раздзелаў свайго сачынення.

У размове памянулі мы Агінскага[41]. Уразілася я дзіўнаму складу спраў чалавечых. Вось жа праўда, што анічога тайнага не бывае, чаго б з часам не адкрылася. Гісторыя заляцанняў Агінскага да царыцы ў мінулагоднім дзённіку запісана. Здавалася мне, што нікому яна не можа быць вядома, хіба што сам яе герой каму пра яе канфідэнцыю ўчыніў[42]. Вось жа пан Рульер ведаў яе да слова ды яшчэ больш, бо ведаў нават, што царыца жартавала з усёй гэтай гісторыі. Паколькі быў пры пане дэ Брэтэе[43], які асабісты меў крэдыт ад Кацярыны, то мог чытаць запіскі, якія царыца ўласнай рукой да Брэтэя пісала, у якіх яна кпіць вельмі моцна і з Агінскага, і з яго заступніка Остэна[44].

2. Была ад рання ў Вельгорскага, учыніўшы яму канфідэнцыю праекта мужа майго. Ніякага рашэння не вынес, узяўшы час на роздум. Абедала ў Велапольскіх. Увечары зноў бачылася з панам дэ Рульерам, які пад сакрэтам паведаміў мне, што пры двары вялікую інтрыгу закруціў амбасадар іспанскі. Мэта яе яшчэ насамрэч не ясная, але мож-

36 Прынцэса Марыя Крысціна Саксонская, (1735–1782), дачка караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III, з 1762 года да смерці жыла ў Эльзасе.

37 Луіза Фелісітэ, герцагіня д'Эгіён (1726–1796), у дзявоцтве графіня дэ Плэло.

38 Жан Іньяс дэ Лавіль (1690–15.04.1774), святар, дыпламат, сябра Французскай Акадэміі (1746).

39 Так княгіня Сапега называе Ігнацыя Богуша (каля 1720–1778), сакратара Барскай канфедэрацыі. У эміграцыі разам з сям'ёй Сапегаў з траўня 1772 года. Жыў у Страсбургу, Нансі і Парыжы, вярнуўся ў Рэч Паспалітую ў жніўні 1777 года.

40 Эцьен-Франсуа, герцаг дэ Шуазоль-Стэнвіль (1719–1785), ваенны (1761–1770) і марскі (1761–1766) міністр, міністр замежных спраў (1766–1770). Трапіўшы ў няміласць, 24 снежня 1770 года адправіўся ў адстаўку з усіх пасад і выехаў у выгнанне ў маёнтак Кантлу. Падчас свайго міністэрства актыўна падтрымліваў барскіх канфедэратаў.

41 Князь Міхал Казімір Агінскі (1728/1730–1800), гетман вялікі літоўскі (1768–1793), удзельнік Барскай канфедэрацыі. Пасля паразы ў бітве пад Сталавічамі выехаў у эміграцыю, жыў у Парыжы з 1773 да лістапада 1774 года.

42 Рэляцыю гэтай гісторыі нехта (верагодна, сам Рульер) учыніў і парыжскай паліцыі. Яна выкладзена ў рапарце ад 11 лістапада 1774 года, прысвечаным Агінскаму (гл. «Асоба і час», вып. 6, с. 12).

43 Луі Агюст Летанэльe, барон дэ Брэтэй (1730–1807), амбасадар Францыі ў Пецярбургу (1760–1763) і Вене (1775–1783). У Расіі Рульер выконваў пры ім абавязкі сакратара амбасады.

44 Адольф Зігфрыд, барон фон дэр Остэн (1726–1797), пасланнік Даніі ў Рэчы Паспалітай (1761–1763) і Расіі (1763–1765).

на зрабіць выснову, што накіравана яна супраць д'Эгіёна, паколькі амбасадар надзвычай часта стасуецца з панам дэ Тэрэ, генеральным кантралёрам[45].

3. Ідзе тут пагалоска, яшчэ пацвярджэння патрабуе, нібыта Імператрыца расійская хутка памрэ. Хоць тая вестка не мае яшчэ пэўнасці, але здаецца, што магла бы быць згоднай з законам натуры і справядлівасці. Чаму б і ёй не пайсці тым шляхам, які сама яна паліла крывёю цёткі, мужа і Івана[46], прыроднага спадкаемцы трона па Пятры Першым. […]

8. Быў аўкцыён на карэты прынцэсы дэ Тальмон. Яны прынеслі капітал у 12 тысяч ліўраў. Прыдбала і я дзве карэты, адну парадную, яшчэ ні разу не запрэжаную, за 3000 ліўраў і адзін су; другую, што завецца берліна вясковая, за 1681 ліўр.

Пан дэ Рульер учыніў рэляцыю смешнага выпадку на бале ў дафіны. Дафін[47] вельмі блага танчыць і ведае адзін толькі контрданс. Д'Артуа[48] танчыць вельмі зграбна і прыгожа. Калі змянілася мелодыя контрданса, дафін памыліўся, і адразу прагучаў свісток. Раз'юшаны дафін сказаў капэле перастаць граць і каб знайшлі свістуна. Нарэшце паабяцаў, што даруе, але каб прызнаўся. Ніхто не аб'явіўся. Дафін загадаў замкнуць дзверы іператрусіць усіх. У той час граф д'Артуа паказаў дудку. Дафін хацеў яе ў яго адабраць, але толькі ўспацеў. Паклікаў тады пана Ла Сюза[49], каб дапамог яму адолець брата. Як той ні быў збянтэжаны, але, як яго хаўруснік, насмеліўся вызваліць руку д'Артуа з рук дафіна. […]

4 сакавіка […] А восьмай вечара ў моцны дождж вырушыла да Версаля, бо ведала, што змагу сустрэцца з пані [Адэлаідай] толькі аб адзінаццатай ночы. Так і сталася, што засведчыла ёй сваю павагу ў пакоях пані дэ Нарбон, калі яны гулялі ў карты, і вярнулася ў Парыж а трэцяй гадзіне. Паездка такога кшталту сапраўды годная канфедэраткі.

Як зайшла размова пра прынцэсу дэ Тальмон, Адэлаіда распавяла такі анекдот. Кароль Станіслаў, уцякаючы з Гданьску, прымушаны быў схавацца ў аднаго шляхціца ў Прусах польскіх і быў там забяспечаны ўсім неабходным. Калі выехаў ён адтуль, а маскавіты даведаліся пра тое, то не толькі зрабавалі ўсю вёску, але і спалілі яе разам з домам шляхецкім. Праз нейкі час сын таго шляхціца прыбыў да караля ў Люнэвіль з просьбай не толькі скласці для яго пратэкцыю, каб паступіць на французскую службу, але і падтрымаць грашыма. Кароль, шукаючы падставы адмовіць у просьбе, запытаўся, якой ён веры. Той, не збянтэжыўшыся, адказаў: «Кароль! Як ты хаваўся ў бацькі майго, дык ён не пытаў у цябе аб тваёй веры, не глядзеў на яе, а глядзеў на стан гаротны твой». Кароль, разгневаны адказам, пачаў скардзіцца пані дэ Тальмон на такое нахабства. Тая павярнулася да шляхціца і запрасіла да сябе ў дом, да стола і абяцала ўсялякія выгоды. Потым, дабыўшы кашалёк, ахвяравала яго таму небараку, дадаўшы, што няма ніякага прыніжэння для мужчыны прыняць ад панны прэзент. Тады, вярнуўшыся да караля, сказала яму: «Сір, вучыцеся ад мяне сваймy абавязку!»

5. Пан д'Утрэмон разам з панам Баронам, натарыусам, ездзілі ў Версаль падпісаць у пані Адэлаіды акт данацыі на маю карысць.

Прыняла некалькіх з візітамі, была з візітамі і сама. Вечар бавіла з Росі.

---

45 Абат Жазэф Мары Тэрэ (1715–1778), генеральны кантралёр фінансаў Францыі (1769–1774).

46 Ідзецца пра расійскага імператара Пятра III (1728–1762) і спадкаемца трона Івана Антонавіча (1740–1764), згодна з адной з гістарычных версій, забітых на загады Кацярыны II. Незразумела, аднак, якую цётку Кацярыны II мае на ўвазе княгіня Сапега.

47 Луі Агюст Французскі (1754–1793), дафін Францыі (1765–1774), кароль Людовік XVI (1774–1791).

48 Шарль-Філіп Французскі (1757–1836), малодшы ўнук Людовіка XV, малодшы брат караля Людовіка XVI, граф д'Артуа (1757–1824), кароль Францыі Карл X (1824–1830).

49 Луі Франсуа дэ Шаміяр, маркіз дэ Ла Сюз (1751–1833), вайсковец і палітычны дзеяч.

6. Была на імшы ў Сэн-Дэні, каб адначасова ўбачыць грабніцы каралёў Францыі. Нішто мяне так не ўразіла, як надмагілле Турэна[50]. Аглядала скарбніцу, у якой захоўваецца шмат залатых вырабаў, антыкаў, розных твораў мастацтва, а таксама вялікую частку Крыжа Святога і цвікі Хрыстовы, цяпер у золата апранутыя. Ёсць там яшчэ меч і даспехі Карла Вялікага і іншыя рэчы розных каралёў французскіх.

Пасля абеду ў мяне быў пан Барон, натарыус, таксама для падпісання шматразова памянутага акта як атрымальніцы. Вечар бавіла з Росі.

7. Нічога новага не адбылося. Баль быў. Прымала візіты. […]

9. Муж мой і Сябра елі ў гетмана [Агінскага]. Абед з адных толькі палякаў складаўся. Пані Вісloцкая[51] была адна і сталася праз тое каралевай абеду. […] Вечар бавіла з Росі.

10. На абедзе мела ў сябе паноў Росі[52]. Перад абедам мела візіт ад кардынала. Пасля абеду ездзіла на мануфактуру габеленаў. Робяць іх навыварат, сілаю аднаго толькі ўяўлення ствараючы падабенства да карцін. Імітуюць іх гарусам прыгажэй, чым пэндзлем. У рабоце некалькі дзясяткаў варштатаў, за кожным двое працуюць. Адна полка патрабуе трох гадоў працы і каштуе да пяці ці да шасці тысяч ліўраў. Адтуль паехала ў Бісэтр[53]. Будынак агідны, але велізарны. У ім зараз пакутуюць больш як пяць тысяч няшчасных, усе асуджаныя на пакаранне. Відовішча тое надта сумнае, каб уважліва ўглядацца ў яго. Мяне запэўнілі, што зараз тут знаходзіцца багата графаў, маркізаў і розных абатаў. Вечар бавіла з Росі.

11. Лісты ад Паца[54], да якіх ён далучыў «Газету Варшаўскую» з прамовай Вільчынскага.

Пасля абеду была ў граф[іні] дэ Турпэн, якая раілася ў справе сваёй спадчыны па Шэмбеках[55], што ўтварылася па смерці князя Любамірскага[56], мечніка кароннага, і ёй часткова выпадае дзякуючы паходжанню з дому Лёвэндаляў. Паабяцала Яемосці дапамогу і зацікаўленасць сваю.

Атрымала ліст ад сястры маёй, якая піша мне з паездкі да Гданьска. Дадае весткі, што аўстрыйскія рэгіменты атрымалі загад ісці маршам на Валахію. Ведае і больш за тое яшчэ, што Імператар хоча аб'явіць вайну туркам. […]

22. Пан Юзаф вярнуўся з Версаля пасля палявання караля. Падаўся мне засмучаным. З тых, хто паляваў з каралём, адзін ён ніколі не быў званы на вячэру і не ведаў прычыны на тое: ці праз тое, што ён іншаземец, ці што не належыць да каралеўскай світы, паводле этыкету не мог быць запрошаны. Трэба ж ведаць, што тыя, што належаць да каралеўскай світы, маюць абавязкам садзіцца ў каралеўскую карэту. Я ўжо пра тое ведала, але паколькі тая цырымонія каштуе колькі дзясяткаў луідораў, выдаткаваць на яе не спяшалася. Вечар бавіла з Росі. […]

25. У той дзень ездзіла ў Версаль. Хоць і не мела ніякага інтарэсу, абы толькі не прыпыніць знакаў увагі, якія звыкла рабіць Адэлаідзе падчас вырашэння бягучых спраў. Спазніўшыся на абед, які мела есці ў [пані] Нарбон, каб не турбаваць яе, паехала папросту да пана Жэрара. Ад яго пасля абеду вярнулася да [пані] Нарбон і адразу атрымала дазвол зайсці да пані [Адэлаіды]. Заспела яе ў пакоі адну, калі яна падцягвала

[50] Анры дэ Латур д'Авернь, віконт дэ Турэн (1611–1675), маршал Францыі, выбітны палкаводзец.

[51] У дзявоцтве дэ Марн. Жонка Тэадора Вісloцкага (гл. зноску 60).

[52] Акрамя маёра Каміля дэ Росі маецца на ўвазе яго старэйшы брат, Антуан Франсуа дэ Росі (1726–1800), падпалкоўнік (1772) Карсіканскага легіёна.

[53] Мужчынская турма для жабракоў, вар'ятаў, венерыкаў. Апісанне Бісэтра напрыканцы старога рэжыму ёсць у раздзеле 154 «Выяў Парыжа» (1781–1788) Луі-Сэбасцьена Мерсье.

[54] Граф Міхал Ян Пац (1730–1787), маршалак Барскай канфедэрацыі, у эміграцыі з красавіка 1772 года.

[55] Маці графіні дэ Турпэн, Барбара Лізавета фон Лёвэндаль (1709–1762), паходзіла з графскага роду Шэмбекаў.

[56] Князь Францішак Фердынанд Любамірскі (каля 1710 — 29.01.1774), мечнік каронны (1761–1772).

фатэль да акна, што выходзіць на сад. Звяртаючыся да мяне, [сказала]: «Гэта для вас, пані Сапега, я павінна быць гасцінная у сябе». У інтарэсах [пані] Барэгар[57], а менавіта ў справе аб замаўленні для яе пакоя ў кляштары на астатак жыцця, атрымала канчатковую рэзалюцыю: гэтая ласка будзе ёй зроблена праз пані [Адэлаіду] з прыязнасці да мяне. Атрымаўшы гэткія знакі літасці і дабрадзейства, развіталася і выйшла на прагулянку з пані дэ Нарбон у вялікі сад, дзе, маючы намер хутка яе папярэдзіць, учыніла ёй рэляцыю авантуры пані дэ Гіменэ[58].

Граф д'Артуа хворы, і мяркуюць, што бацькоўства, у якім ён апярэдзіць сваіх братоў, запатрабавала вялікіх высілкаў, бо сапраўды лічаць, што пані д'Артуа[59] зацяжарыла. Нішто не можа выразней характарызаваць французскую нацыю, як гэтае здарэнне. Вось жа ўвесь народ незадаволены ўрадам і распалены нянавісцю нават да самога караля. Між тым чутка пра цяжарнасць выклікае радасць і весялосць.

Была нарэшце ў кабінеце Жэрара, дзе пад сакрэтам ён паведаміў мне вынік справы мужа майго. Міністр [ваенны] выдаў патэнт тытулярнага палкоўніка з пенсіёнам у шэсць тысяч ліўраў без утрымкі. Адтуль ужо дужа позна вярнулася ў Парыж. […]

20 красавіка. Пан Сапега захацеў застацца яшчэ на адзін дзень у Парыжы, таму наш ад'езд адкладзены на заўтра. Я зусім не выходзіла з дома. Напісала вялікую процьму лістоў да сваіх парыжскіх і версальскіх знаёмых. Увечары прымала ў сябе графа Вельгорскага, Агінскага і Вісloцкага[60]. Абодва пана Росі прыйшлі развітацца з намі: старэйшы едзе заўтра да свайго палка ў Страсбург, малодшы далучыцца да свайго палка ў Марсэлі.

21. Раніцай прымала графа Мюрынэ. Выйшла папалудні, каб аддаць загад знайсці паштовых коней а чацвёртай гадзіне папалудні і забраць нас ад графа Вельгорскага, які запрасіў нас на абед з нагоды нашага ад'езду. Перад тым як ехаць да яго, я была з візітам у некаторых асоб, чыё сяброўства заклікала мяне яшчэ раз з імі ўбачыцца, нягледзячы на тое што ўжо развіталася з імі.

Мы нарэшце выехалі а шостай гадзіне вечара і пасля спыніліся на начлег у Мо, паколькі доктар забараніў мне ехаць уночы з прычыны боляў у грудзях. Мы сустрэлі пана Росі падпалкоўніка на гэтым прыстанку. Нейкі час была гаворка пра тое, каб ён ехаў у адной з нашых карэт, але, баючыся нам замінаць, ён не даў згоды.

22. Мы выехалі а сёмай гадзіне раніцы. Пакінулі пана Росі з трыма афіцэрамі яго палка ў Ла Фертэ. У гэты дзень далей Эпернэ праехаць не змаглі.

23. Мы спыніліся ў Шалоне на момант, каб адрамантаваць нейкую паломку ў коле маёй карэты. У гэтым горадзе сустрэлі знаёмых афіцэраў з Карсіканскага легіёна, якія ехалі ў Страсбург, і мы рухаліся ўвесь дзень і ўсю ноч.

24. Мы спынілі карэту ў Туле, каб выпіць кавы і праслухаць імшу, а потым прадоўжылі свой шлях да Нансі, дзе паабедалі. Я адправіла свайго сакратара з даручэннем замовіць для нас жытло ў Люнэвілі і выехала толькі а пятай гадзіне папалудні, заняўшы ўвесь час пасля абеду прагулянкай і размовай з панам Богушам, які развітаецца з намі

---

57 Нянька сына Тэафіліі Сапегі Аляксандра, былая фрэйліна Кацярыны Апалінскай у Люнэвілі.

58 Вікторыя Арманда Жазэфа дэ Раган (1743–1807), у шлюбе прынцэса дэ Геменэ (1761–1807), выхавальніца дзяцей (1778–1782) Людовіка XVI і Марыі Антуанэты.

59 Марыя Тэрэза Савойская (1756–1805), графіня д'Артуа (1773–1805), жонка малодшага брата Людовіка XVI. Вестка пра яе цяжарнасць няпраўдзівая: першае дзіця графа і графіні д'Артуа, Луі Антуан, нарадзілася 6.08.1775.

60 Магчыма, Тэадор Вісloцкі (нар. каля 1750), барскі кафедэрат. Відавочна, гэты самы пан Вісloцкі ўпамінаецца ў рапартах парыжскай паліцыі за 1773–1775 гады. Справа ад 22.10.1773 характэрызуе яго як «маладога і заможнага шляхціца», сведчыць пра яго «нядаўні» шлюб з нейкай мадэмуазэль дэ Марн, немкай з паходжання, яго прабыванне ў Парыжы «нейкі час» і ад'езд у Польшчу ў канцы 1773 — пачатку 1774 года ў сувязі са смерцю бацькі (AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 8, f. 38r°— 44r°).

і застанецца жыць у гэтым горадзе. Прыбыўшы ў Люнэвіль, я знайшла свайго сына вельмі дарослым і здаровым, але пані дэ Барэгар у надта кепскім і вельмі небяспечным стане.

25. Я абедала ў графа Джулі[61], прабыла са сваім сынам да пяці гадзін, пагуляла колькі гадзін у садзе і вярнулася да сябе ў гатэль «Дзікун», каб зрабіць спробу папрацаваць. Але, не маючы дастаткова настрою для гэтага, вярнулася да сына, якога пакінула, толькі каб паспаць.

26. Я паабедала ў сябе, напісала пану Богушу праз Пердрызэ, лекара, які прыехаў з Нансі, каб правесці колькі дзён з намі. Я прагулялася па садзе. Паны афіцэры з цяжкай кавалерыі адвялі мяне паглядзець на апартамент маркіза дэ Кастра[62], той самы, які займаў і дзе памёр нябожчык кароль польскі[63]. Мы таксама агледзелі невялічкі дамок, якім валодае маркіз дэ Кастр у садзе, што называецца Трэфль, а потым я бавіла вечар з сынам.

27. Прыбылі дзве дачкі[64] князя Чартарыскага[65], што едуць у Польшчу следам за сваёй маткай, якая апярэдзіла іх на некалькі дзён. Яны спыніліся ў нашым гатэлі і адразу падняліся ў мой пакой. Пасля абеду я адвяла іх у сад. Між тым маёр цяжкай кавалерыі пан маркіз дэ Паніс[66] прышоў да мяне з візітам і, даведаўшыся, што я выйшла, зайшоў да мяне ў сад. Ён загадаў войскам зрабіць пешы экзэрсіс, а пасля гэтага праводзіў мяне разам з іншымі старэйшымі афіцэрамі сваёй часткі. Я сказала маёру, каб ён запрасіў да мяне маркізу[67], і папрасіла маленькіх княжон патаньчыць. Яны атрымалі годную порцыю апладысментаў, бо таньчаць надзвычай добра для свайго ўзросту. Як скончыліся танцы, яны адправіліся на начлег у Бламон. Прыбыў пан дэ Росі, ён прадоўжыць заўтра свой шлях да Страсбурга. Маёр адкланяўся разам са сваімі афіцэрамі, прапанаваўшы назаўтра прыйсці на абед. Пан Сапега пайшоў да яго бавіць вечар.

28. Маёр прыйшоў раніцай сказаць мне, што войскі сабраліся на пляцы і што мяне чакаюць, каб правесці змену варты. Ён падаў мне руку, каб дайсці, і правёў перад строем. Войскі былі ў святочнай уніформе. Пікет з шасцідзесяці прыгожых мужчын, якія ладна сядзяць на конях, рабіў чароўны эфект. Пасля змены варты я наведала свайго сына. Маёр і афіцэры мяне праводзілі, я вярнулася ў замак паабедаць і засталася там да часу спектакля. Тыя паны ад мяне ні на імгненне не адыходзілі, з іх боку я атрымала разнастайныя знакі ўвагі. Яны пакінулі мяне толькі па заканчэнні спектакля, адвезшы мяне дадому.

29. Маркіз дэ Паніс прапанаваў мне карэту, каб паехаць паглядзець на манёўры пяці эскадронаў а восьмай гадзіне раніцы. Я паехала і адразу ўбачыла войскі, якія ўжо чакалі мяне на пляцы. Ён сам камандаваў і кіраваў войскамі насупраць маёй карэты і загадваў аддаваць мне розныя знакі пашаны. Пасля абеду я мела ахвоту крыху заняцца сваімі дэпешамі для заўтрашняй пошты, але адзін са старэйшых афіцэраў, маркіз дэ Лаферанэ[68], прыехаў да мяне, каб суправадзіць на спектакль. Я забараніла сабе туды ехаць,

[61] Аляксандр Джулі (1709–1781), канюшы пры двары Станіслава Ляшчынскага ў Люнэвілі (1737–1766), у снежні 1774 года атрымаў ліст на натуралізацыю і стаў французскім падданым.

[62] Шарль Эжэн Габрыэль дэ Лакруа, маркіз дэ Кастры (1727–1801), камандуючы цяжкай кавалерыі (1770–1788), маршал Францыі (1783), марскі міністр (1780–1787).

[63] Маецца на ўвазе Станіслаў Ляшчынскі.

[64] Княгіні Тэрэза (1765–1780) і Марыя Ганна (1768–1854) Чартарыскія.

[65] Князь Адам Казімір Чартарыскі (1734–1823), генеральны стараста падольскі, прэтэндэнт на польскі трон у 1763–1764 гадах. Сям'я Чартарыскіх была ў Францыі з восені 1773 да вясны 1774 года.

[66] Анры дэ Марк-Трыпалі, маркіз дэ Паніс-Пасіс (1739–1826), афіцэр цяжкай коннай гвардыі з 1759 года.

[67] Жанна Шарлота, маркіза дэ Паніс-Пасіс, у дзявоцтве графіня д'Альбертас (1749–1816).

[68] Поль Ферон, шэвалье дэ Лаферанэ (1740–1817), палкоўнік (1771), потым брыгадны генерал (1788) Каралеўскага легіёна.

але п’еса Бамаршэ «Яўгенія»[69], якую павінны былі граць, мяне нарэшце пераканала. Пан дэ Лаферанэ адкланяўся, каб дазволіць мне яшчэ папрацаваць, і не забыўся вярнуцца падаць мне руку. Гэта чалавек надзвычай уважлівы і сумленны, з твару не надта прыемны, але вельмі самавіты і значна больш разважлівы, чым шмат хто з людзей яго нацыі і яго ўзросту; ён мяркуе пра ўсё грунтоўна і слушна, не выказваючы прэтэнзій на дасціпнасць.

«Яўгенія» прынесла мне бясконцую асалоду. Гэта найлепшым чынам напісаная п’еса, што выяўляе пачуццё з найвялікшай сілай. Яна расчуліла мяне да слёз. Немагчыма ўявіць, каб яна не мела самага вялікага поспеху, бо яна робіць найвялікшае ўражанне і пры благіх акцёрах, якія звычайна бываюць у правінцыі. Пасля спектакля паны афіцэры адвезлі мяне дадому.

30. Пану Сапегу прапанавалі паехаць на паляванне са сняданкам за адзін лье ад Люнэвіля. Я пісала ўвесь дзень. Надвячоркам прыбыў пан дэ Лаферанэ пазнаёміць мяне са сваім старэйшым братам[70], які толькі што прыехаў, але, убачыўшы, што я занятая, гэтыя паны адкланяліся. Я выйшла ў сад прагуляцца з кнігай. За мной назіралі тыя два афіцэры, пра якіх я толькі што казала і якіх я не заўважыла, яны не сталі перашкаджаць майму чытанню. Пакуль я была ў садзе, маркіз дэ Паніс прыйшоў да мяне развітацца, бо ён заўтра саступае свой пост каменданта, і новы камендант пан Дзюкло[71], які толькі што прыбыў, прыйшоў да мяне з візітам разам з іншымі афіцэрамі. Трэба прызнаць, што нягледзячы на ўсю далікатнасць гэтых паноў, якія паводзяць сябе найлепшым чынам, яны ёсць прычынай таго, што я губляю шмат часу, патрэбнага мне, каб займацца справамі. Нават прагулянка па садзе прычыняе няёмкасць, бо кожную хвіліну з’яўляюцца і кланяюцца чырвоныя мундзіры, і застаецца толькі ўперыць вочы ў кнігу. І аднаго кроку зрабіць нельга, каб не абысціся без рэверанса.

1 мая. Паны дэ Лаферанэ прыйшлі да мяне з прапановай схадзіць у замак праслухаць імшу для паноў з цяжкай кавалерыі. Яны размясцілі мяне высока пад скляпеннямі, усе іншыя афіцэры сабраліся вакол мяне. Пасля імшы камендант падаў мне руку і адвёў паглядзець на змену варты. Ён запытаў у мяне слова для пароля, а не атрымаўшы, захацеў даведацца маё хроснае імя, якое ён зрабіў паролем. Я прагулялася па садзе з малодшым панам дэ Лаферанэ, пакуль не надышоў час абеду. Тады мы рассталіся, пасля таго як ён давёў мяне да дома.

Камендант прыехаў з прапановай адправіцца на спектакль, але я адказала яму, што занятая. Да таго ж ён прапанаваў мне размясціцца ў замку, запытаўся, а якой гадзіне правесці назаўтра манёўры, вельмі прасіў выбраць дзень для баля-рэдута, які зрабіў бы вялікую прыемнасць спадарству з палка цяжкай кавалерыі і ўсяму гораду, і, нарэшце, прапанаваў вячэру ў гэты дзень. Я адказала, што не маю мажлівасці скарыстацца з тых прапаноў, паколькі мой ад’езд да Страсбурга ўжо недалёка. Я папрасіла ў яго літасці для двух арыштаваных кавалерыстаў. Ён сказаў мне, што ахвотна справіцца аб іх, ці іхныя хібы, што прывялі да такога пакарання, сур’ёзныя, і што зробіць усё, чаго я жадаю, але між тым просіць у мяне літасці для сябе самога.

Ён пакінуў мяне і адправіўся з панам Сапегам на спектакль. Я крыху папрацавала і потым пайшла прагуляцца ў сад, дзе да мяне пасля заканчэння спектакля далучыліся паны афіцэры.

---

69 Драма П.-А. Карона дэ Бамаршэ «Яўгенія» (1767).

70 У шэвалье де Ля Феранэ было тры старэйшыя браты. Хутчэй за ўсё, ідзецца пра П’ера Жака Франсуа Агюста, віконта дэ Ля Феранэ (1727–1784), падпалкоўніка (1764), потым брыгаднага генерала (1766) цяжкай кавалерыі.

71 Напэўна, Франсуа Анры Басар Дзюкло (пам. пасля 1790), драгунскі падпалкоўнік (1779).

2. Перад абедам мела візіт ад пана дэ Лаферанэ. Ён запрасіў мяне папаляваць на зайцоў пасля палудня. Пан Касцюшка[72], які праязджаў з некаторымі людзьмі са світы князя Чартарыскага, завітаў да нас. Ён паведаміў, што размаўляў з кур'ерам, які вязе прынцу дэ Ламбэск[73] навіну пра тое, што кароль Францыі захварэў на воспу.

Пан дэ Лаферанэ прыбыў за мною а пятай гадзіне. Мы пайшлі праз сад ажно да ваколіц вёскі, што завецца Шан-До, дзе раней знаходзіўся прыгожы дамок караля Польшчы, ужо зруйнаваны, як і шмат якія з той пары. Паны кавалерысты, што суправаджалі нас, найперш сам пан дэ Лаферанэ, шчыравалі як найлепш, каб знайсці зайца. Два зайцы з'явіліся даволі далёка ад таго месца, дзе я стаяла, і, не маючы мажлівасці іх падстрэліць, я скончыла тым, што ўпалявала прасянку. Вярнуўшыся, я была ў свайго сына. Пан Джулі пацвердзіў нам навіну пра хваробу караля. Нейкі абат Маран атрымаў толькі што весткі пра некаторыя акалічнасці гэтага здарэння, а менавіта што каралю двойчы пускалі кроў, што ўся каралеўская сям'я пакінула Версаль і што пані Дзюбары ўжо ўпарадкавала свае рэчы і ад'ехала на небяспечную адлегласць. Я папрасіла пана дэ Лаферанэ, які сыходзіў вячэраць, даведацца, ці не атрымаў хто з паноў яго аднавайскоўцаў лістоў на гэты конт. Ён прыйшоў у момант, калі я адыходзіла ў свой пакой распавесці пра тое, што пан граф дэ Лаблаш[74] толькі што атрымаў ліст ад сваёй жонкі, якім яна яму паведамляе тую ж навіну.

Адзін з афіцэраў нядаўна прыбылага палка, які выйшаў з Парыжа яшчэ да таго, як пайшла гаворка пра хваробу караля, запэўнівае, што распаўсюдзілася чутка пра сур'ёзную хваробу караля Прусіі.

3. Князь Чартарыскі, прыехаўшы з Парыжа, піў у мяне каву. Ён запытаўся ў нас, на які дзень прызначаны наш ад'езд у Страсбург, і, даведаўшыся, што мы разлічваем выехаць сёння ноччу а другой гадзіне, выказаў жаданне дачакацца нас, каб ехаць разам. Але калі поштмайстар сказаў, што нам немагчыма будзе знайсці столькі коней па дарозе, ён вырашыў паехаць наперад і чакаць нас у Страсбургу заўтра да шостай гадзіны вечара.

Я абедала ў графа Джулі з двума братамі маркізамі дэ Лаферанэ, яны развіталіся з намі а чацвёртай гадзіне. Я выйшла ў адзін з пакояў пані дэ Барэгар скласці рахунак таго, што ёй належала па пенсіёне майго сына, і напісаць пані графіне дэ Нарбон наконт хваробы караля і ўсім іншым маім знаёмым і сябрам у гэтай краіне з просьбай паведамляць мне навіны пра гэта.

Па заканчэнні спектакля пан дэ Лаферанэ прыехаў з карэтай адвезці мяне на мануфактуру, дзе робяць неглазураваную парцаляну таго ж кшталту, што і ў Сэўры, але па якасці і белі першая саступае другой.

Раніцай я паслала сказаць каменданту, што навіна пра хваробу караля не дае падстаў для таго, каб ладзіць баль-рэдут. Я прасіла яго нават звольніць мяне ад вячэрняй сустрэчы, бо ад'езд мой да Страсбурга прызначаны на гэтую ноч і коні замоўлены на другую гадзіну раніцы. Ён загадаў вартавому ізноў неадступна прасіць мяне прыйсці да яго. Я моцна абаранялася і не пакінула яму ніякай надзеі. Ён вярнуўся другі раз папалудні, ізноў настойліва прасіў на загад каменданта і асабіста запэўніваў, што той вельмі засмуціцца, калі я адмоўлюся. Я павінна была абяцаць, што прыйду, вярнулася да сябе пасля паездкі на мануфактуру ўсё сабраць, нібы каб ужо садзіцца ў карэту. Тады

[72] Анжэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка (1746–1817), лідар паўстання 1794 года, з лістапада 1769 да красавіка 1774 года навучаўся ў парыжскай Школе вытанчаных мастацтваў па пратэкцыі князя А. К. Чартарыскага.

[73] Шарль Эжэн, прынц Латарынгскі, прынц дэ Ламбэск (1751–1824), вялікі канюшы Францыі (1761), ачольваў французскую галіну Латарынгскага дому з 1763 года.

[74] Ларан Аляксандр Жазэф Фалькоз, граф дэ Лаблаш (1739–1799), шэф драгунскага каралеўскага палка (1757), генерал-маёр (1770), вёў у 1771–1778 гадах гучны судовы працэс супраць Бамаршэ па спадчыне фінансіста Пары-Дзюварнэ.

я пайшла пацалаваць свайго сына, развітацца з пані дэ Барэгар, а потым накіравалася да каменданта. Я знайшла багата новапрыбылых афіцэраў, адмовілася сядаць за вячэру. Маркіз дэ Лаферанэ застаўся скласці мне кампанію і правёў мяне дадому, калі пачыналі выходзіць з-за стала.

4. Мы выехалі а чацвёртай гадзіне раніцы і прыбылі дакладна ў той жа час папалудні ў Страсбург. Мы на некалькі гадзін апярэдзілі нашу вялікую карэту, спыняўшыся, толькі каб выпіць кавы ў Бламоне, якую замовіў нам загадзя пасланы кур'ер. Мы спыніліся непасрэдна ў самой біскупскай рэзідэнцыі. Наш уезд у горад віталі, як звычайна, людзі на вуліцах глядзелі на нас з цікавасцю і задавальненнем. Загады, якія аддаў кардынал, былі выкананы да нашага з'яўлення. Ён напісаў сваім людзям размясціць нас згодна з нашымі жаданнямі і забяспечыць нам усё неабходнае. Гэтак мы маемся найлепшым чынам, таксама як нават апошні з маіх людзей.

Князь Чартарыскі завітаў да нас, а яшчэ ўсе мае знаёмыя шэфы палкоў. Ён узяў пана майго мужа з сабою ў Эспры на вячэру, пасля якой яны вярнуліся да мяне.

5. З усіх палкоў прыйшлі раніцай з візітам да пана Сапегі. Яны таксама былі ў мяне пасля абеду, а яшчэ некаторыя з маіх знаёмых паннаў. Я была ў царкве на імшы, якую зладзілі зранку за караля, выставіўшы святыя дары. Я бавіла вечар з нашымі сябрамі, камандзірамі з гарнізона. З Версаля прыйшоў да мяне ліст. Пан Рэнваль паведамляе мне, што аб'яўлена пра хваробу караля, што на яго выздараўленне ёсць найтрывалейшыя спадзяванні, і дадае, што пані Адэлаіда ні на імгненне ад яго не адыходзіць.

6. Я была апоўдні на імшы, якую служаць за караля ў царкве. Пан маршал[75] быў на ёй разам з шэфамі ўсіх палкоў і ўсім гарнізонам. Так будзе ўвесь час хваробы караля. Прыйшло пастырскае пасланне ад пана біскупа Парыжскага, які прадпісвае дакладна маліцца два разы на дзень. Пасля абеду атрымала некалькі візітаў, увечары была тая ж кампанія, што і ўчора. Пан дэ Лор[76], які быў у мяне, перадаў «Бюлетэнь хваробы караля» з першага дня, што прыпаў на 27 красавіка, па другое бягучага месяца. […]

7. Раніцай была ў царкве, аддала колькі часу на ўладкаванне нашага новага месца. Пан Мулюр, падпалкоўнік Шартрскага кавалерыйскага палка, завітаў да мяне, і я зрабіла з ім невялічкую прагулянку ў карэце. Вечарам мела кампанію.

8. Да таго як мне было ісці ў царкву, з'явіўся пан дэ Росі і паказаў мне ліст, што ён атрымаў чацвёртага бягучага месяца ад пана д'Аркамбаля[77], які піша: «Усе тут страшна прыгнечаны праз хваробу караля. Стан яго вельмі непакоіць, і так будзе яшчэ на працягу некалькіх дзён, сёння ідзе толькі пяты дзень. Дзень быў вельмі благі, пад канец чацвёртага дня пульс стаў больш часты, каралю палепшала. Яго павінны спавядаць сёння ўвечары і сабораваць заўтра. Пані графіня Дзюбары адправілася разам з пані герцагіняй д'Эгіён у Руэй». Іншыя лісты дадаюць, што падчас хваробы кароль убачыўся з палюбоўніцай і сказаў ёй: «Нам трэба расстацца, мадам». Яна выйшла ў слязах, пан герцаг д'Эгіён затрымаўся яшчэ на некалькі хвілін з каралём, і пасля гэтага адбыўся ад'езд пані Дзюбары да Руэя, які ляжыць у ваколіцах Парыжа і належыць пану д'Эгіёну. Усе іншыя навіны, што распаўсюджваліся пра яе ад'езд, ілжывыя, нават такая, што кароль сам рэкамендаваў яе пану герцагу Цвайбрукен[78] як аднаму з найлепшых сваіх сяброў, каб той прывёз яе ў Парыж і такім чынам ніхто са двара не быў бы скампраметаваны.

[75] Луі Жорж Эразм, маркіз дэ Кантад (1704–1793), маршал Францыі (1758), узведзены ў герцагскую годнасць у 1789 годзе, галоўнакамандуючы Эльзаса (1762–1788), губернатар Латарынгіі (1770).

[76] Шарль Фрэдэрык, барон дэ Лор дэ Сэн-Віктор (1710 — пасля 1791), генерал-маёр (1767), каралеўскі намеснік у Страсбургу (1762–1782).

[77] Антуан Жазэф Франсуа дэ Лак дзю Буске, маркіз д'Аркамбаль (1727–1789), палкоўнік і ўладальнік Карсіканскага легіёна (1769–1775), палкоўнік Легіёна Дафінэ (1775), брыгадны генерал шостага егерскага палка (1779), генерал-маёр (1780).

[78] Крысціян IV (1722–1775), герцаг Цвайбрукен Біркенфельд (1734–1775).

Увесь час папалудні я раз’язджала з візітамі. Адведала ўсіх, з кім пазнаёмілася ў мой першы побыт у Страсбургу. Была прынятая толькі прынцам і прынцесай Гагенцолерн, якіх убачыла першы раз. Абое яны надзвычай сумленныя людзі. Прынц спусціўся падаць мне руку і дапамагчы выйсці з карэты, калі абвесцілі аб маім прыездзе. У гэтым доме даведалася пра адну цікавую акалічнасць хваробы караля: нібыта ён заразіўся воспай у пані Дзюбары, сустрэўшы ў яе апартаментах адну з яе пакаёвак, што пакутавала на гэтую хваробу, і не ведаўшы, што яна была хворая.

Паміж візітаў, якія я атрымала, быў візіт ад пана біскупа Араскага[79], які жыве з намі ў адным доме. Я забыла сказаць пра чутку, якая распаўсюдзілася тут пра хваробу караля Прусіі, з такой акалічнасцю: нібыта прычынай яе сталася падзенне з каня, пасля чаго каралю зрабілі аперацыю на галаве, каб выдаліць нарыў.

Я атрымала вельмі далікатны ліст з Люнэвіля ад пана маркіза дэ Лаферанэ. Ён паведамляе мне тыя ж акалічнасці хваробы караля, якія я ўжо прыводзіла, і перадае добрыя навіны пра майго сына.

9. Раніцай працавала. У царкву я адправілася ў звычайны час, апоўдні. Муж абедаў у палкоўніка дэ Росі. Мела візіты ад прынца і прынцэсы Гагенцолерн, пані дэ Лор[80] з сястрой і дачкой і ад пані дэ Петанвіль. Пан Збаінскі, генералаў брат[81], які едзе ў Швейцарыю, завітаў да мяне. Я прагулялася з ім і палкоўнікам дэ Росі па крапасных мурах з боку цытадэлі. Сустрэла пана Нажака, які ішоў да мяне, і ўсе мы разам зайшлі ў асабняк. Рэшта нашай звыклай сябрыны сабралася, каб бавіць вечар з намі.

Мэта ваяжу пана Збаінскага — даведацца пра добрых патрыётаў, ці ёсць на што спадзявацца Польшчы ад французскага двара. Ён сказаў нам, што ваявода раўскі[82] і кашталян брацлаўскі[83] памерлі, што Браніцкі[84] з’ехаў у Расію, не зладзіўшы свайго шлюбу, што пан Радавіцкі[85] ўжо даўно знаходзіцца ў Варшаве пры князю канцлеры[86].

10. У мяне былі пані дэ Расьер і пан дэ Набла[87], ваенны камісар, вельмі далікатны малады чалавек, якога я яшчэ не бачыла тут. Ён брат пана Барб’е[88] і толькі што пакінуў Шведскі рэгімент. Я таксама пазнаёмілася з чацвёртым братам паноў Жэрараў, баі ў Верхнім Эльзасе. Ён старэйшы з усіх, тварам падобны да таго, што быў у Гданьску, а характарам на капітана з палка Насаў. Ён вельмі ветлівы, разважае з вялікай мяккасцю. Мне падалося, што ён быў расчулены знакамі сяброўства, якія я выказала яго братам, і сказаў, што яны завітаюць да мяне ў гэтай якасці. […]

[79] Луі Франсуа Марк Ілэр дэ Канзье (1732–1804), біскуп Араскі (1769).

[80] Марыя Анжэліка Ніколь, баранеса дэ Лор дэ Сэн-Віктор (з 1759), у дзявоцтве дэ Марклезі.

[81] Ідзецца пра аднаго з братоў, Ігнацыя альбо Казіміра, графа Міхала Аўгустына Збаінскага (каля 1714–1788), генерала-лейтэнанта войска кароннага (1763), барскага канфедэрата.

[82] Казімір Грaноўскі (1721–1774), ваявода раўскі (1757–1774), генерал-лейтэнант войскаў каронных (1759).

[83] Ян Антоні Чарнецкі (1700–1774), у маладосці кліент Радзівілаў і Сапегаў, кашталян брацлаўскі (1762–1774).

[84] Граф Францішак Ксаверы Браніцкі (каля 1730–1819), вялікі гетман каронны (1774–1793), у 1772–1773 гадах ад імя караля Станіслава Аўгуста вёў перамовы з герцагам д’Эгіёнам аб пасярэдніцтве Францыі ў справах Рэчы Паспалітай, у 1774 годзе быў з палітычнай місіяй пры двары Кацярыны II у Пецярбургу.

[85] Вайсковы пісар, рэгіментар ваўкавыскай павятовай канфедэрацыі ў складзе Барскай канфедэрацыі, маршалкам якой быў князь Юзаф Сапега, муж Тэафіліі Сапегі.

[86] Князь Міхал Фрыдэрык Чартарыскі (1696–1775), канцлер вялікі літоўскі (1752).

[87] Мары Франсуа П’ер Набла (1752–1827), ваенны камісар (1770–1791), дэпутат Заканадаўчай асамблеі (1791) ад Ніжняга Рэйна.

[88] Насамрэч швагер М. Ф. П. Набла, Тэадоз Лебарб’е дэ Цінан (1738–1790), ваенны камісар, вынаходнік, фундатар эльзаскага «Таварыства рэвалюцыі» (1790).

11. Раніцай адправіла сваю пошту. Вярнуўшыся з царквы, заспела ў пана Сапегі пана палкоўніка дэ Росі, які прыйшоў яму прадставіць пана Джавані[89], афіцэра са свайго легіёна, разам з яго сынам[90], які толькі што быў залічаны валанцёрам. Гэта дванаццацігадовае дзіця, прыгожае, як амур. Ніколі яшчэ не бачыла такога прывабнага твару з такімі правільнымі рысамі. […]

«Бюлетэнь здароўя караля» прынёс суцяшальныя навіны. […]

Увечары да мяне завіталі пан барон дэ Пуі[91], падпалкоўнік Харвацкага палка, пан Фрэдзі, Аж'е[92], Дзюмон, Нажак і Брукс[93]. З апошнім я прагулялася па плошчы Бралі, а пан муж мой зладзіў з астатнімі партыю ў трысэтэ[94].

12. З царквы мяне праводзілі паны Брукс і Аж'е. Потым на хвіліну завітаў разам з панам мужам пан дэ Росі, вельмі засмучаны тым, што сёння ноччу збеглі дзевяць узброеных салдатаў, усе карсіканцы. Ён паслаў за імі пяцьдзясят драгунаў і вельмі турбуецца аб долі гэтых небаракаў.

Пасля абеду да мяне завіталі граф дэ Цюрэ, канонік капітулу, пан дэ Ляршэ[95] з жонкай. Была на вячэрняй імшы, а адтуль пайшла прагуляцца па крэпасных мурах з панам дэ Росі, які толькі што выйшаў ад нас. Падчас прагулянкі афіцэр з яго легіёна разам з драгунам пад'ехаў да яго на кані, каб дакласці, што няшчасныя дэзерціры знаходзяцца на паўвостраве на беразе Рэйна. Ён адразу аддаў адмысловыя загады.

Я не атрымала «Бюлетэнь здароўя караля», але ўсе атрымалі вельмі трывожныя лісты. Кажуць, што выцяжныя пластыры больш не адсасваюць, болькі сохнуць, вялікія болі ў вантробах суправаджаюцца моцным ванітаваннем, нават лёгкім трызненнем, ёсць падазрэнне на гангрэну.

Перадаюць гэткія словы дафіны, якія яна нібыта сказала свайму мужу: «Вашамосць, мне вельмі будзе шкада вас, калі праз гэтыя злыя падзеі, вы станеце гасударам у такім узросце». Дафін заспакоіў яе, сказаўшы, што разумее ўсю важнасць гэтай пасады і прыступіць да адпаведных абавязкаў як след. Надвячоркам прайшла абвестка, што прынцэса Крысціна атрымала паведамленне, нібыта кароль памёр дзявятага аб адзінаццатай гадзіне раніцы.

Пан барон дэ Пуі даслаў мне прамову пана кардынала дэ Рагана, майго спавядальніка, якую той зрабіў напярэдадні. Увесь двор сабраўся, калі караля саборавалі. […]

13. Зранку ў парку Кантада[96] прымала ванны. Вярнуўшыся, сустрэла лёкая пана дэ Лора, які прынёс мне «Белютэнь» за дзявятае мая. […]

Вечарам сабралася наша звыклая кампанія. Цэлы дзень не выходзіла са свайго пакоя, бо то не дазваляла маё здароўе. Пан Фрэдзі паказаў мне ліст з ваколіц Версаля і «Белютэнь здароўя караля» за дзясятае мая. […]

---

[89] Шарль Паскаль дэ Джавані-Лімперані (1734 — пасля 1791), капітан Карсіканскага кавалерыйскага палка (1758), капітан Карсіканскага легіёна (1769).

[90] Леанар дэ Джавані-Лімперані (1762–1806), харунжы Каралеўскага карсіканскага палка (1781), капітан каралеўскіх егераў (1788), генерал-ад'ютант (1800) і брыгадны генерал (1806) у напалеонаўскім войску.

[91] Альбер Луі, барон дэ Пуі (1731–1795), падпалкоўнік Харвацкага кавалерыйскага палка (1764), генерал-маёр каралеўскіх войскаў (1778).

[92] Франсуа д'Аж'е дэ Мангрэмье (1727 — пасля 1791), маёр, потым падпалкоўнік каралеўскага пяхотнага палка (1766–1780), брыгадзір (1780–1784), потым генерал-маёр ад інфантэрыі (1784–1791).

[93] Франсуа дэ Брукс (1729 — пасля 1784), маёр каралеўскага пяхотнага палка (1765–1775), падпалкоўнік пяхотнага палка Бры (1775–1780), брыгадзір (1780–1783), потым генерал-маёр ад інфантэрыі (1784).

[94] Стратэгічная картачная гульня італьянскага паходжання (назва літаральна азначае «тры сямёркі»).

[95] Інжынер-фартыфікатар, генерал-маёр (1768).

[96] Квартал у Страсбургу, вядомы сваім паркам, закладзеным у 1764 годзе.

Копія ліста, напісанага са двара да пана маршала Броя[97]: «Кароль памёр учора ў аўторак а трэцяй гадзіне і некалькі хвілінах вечара, падыходзіў да канца дзясяты дзень яго хваробы. У ноч з суботы на нядзелю гасудараў стан зрабіўся безнадзейным, але ён захаваў светлы розум да апошняга моманту. Ён сам паклікаў спавядальніка ў другі раз, той прабыў з ім тры гадзіны, пасля чаго гасудар папрасіў саборавання, якое прыняў з належнымі знакамі веры, адказваючы на ўсе малітвы з найвялікшай пабожнасцю. Сёння раніцай уся каралеўская сям'я адпраўляецца ў Марлі, Шуазі альбо Мант. Пан дафін цалкам абачліва не захацеў аддаць загад аб сваім ад'ездзе, ні назваць месца, куды паедзе пасля смерці караля. Падчас хваробы караля спадкаемца выказаў сябе найлепшым чынам. Ён аддаў загад, каб яго папярэдзілі ў любы час, калі караля будуць сабораваць. Згодна з гэтым увайшлі ў яго спальню а другой гадзіне раніцы паведаміць яму пра гэтую падзею. Ён спачываў з пані дафінай, абое адразу ўкленчылі на ложку, памаліўшыся за свайго бацьку і падзякаваўшы Богу за ласку, што дараваў самому папрасіць і прыняць апошнія таінствы. Здаецца, што праз колькі дзён збярэцца рада, але ёсць вялікая цяжкасць: большасць міністраў бачыла караля падчас яго хваробы, з тае прычыны яны змогуць сустрэцца з асобамі з каралеўскай сям'і толькі праз некалькі дзён з-за дурнога паветра. Між тым лічаць, што дактары ў адказ на гэтае пытанне скажуць, што, добра ачысціўшыся, міністры змогуць з'явіцца.

14. Раніцай займалася сваёй поштай. Пасля абеду прыйшоў мой сакратар сказаць, што заўважыў ён, зазірнуўшы ў сабор, што святыя дары ўжо не былі выстаўлены, і што кажуць, нібыта больш не будзе імшы за караля. Гэта ўпэўнівае мяне, што ён сапраўды памёр, тое ж праз нейкі час прыйшоў мне абвесціць пан дэ Росі. Спецыяльны кур'ер прынёс вестку пану маршалу Кантаду, што кароль памёр дзясятага а трэцяй гадзіне папалудні.

15. Я атрымала ліст ад маркіза дэ Лаферанэ, якім ён паведамляе мне аб смерці караля. Ён дадае, што ідзецца нават пра змену міністраў, але кажа, што цяжка дабіцца праўдзівых навін, бо ў Парыжы ўсе лісты, і што прыходзяць, і што адпраўляюцца, распячатваюцца.

16. Я напісала раніцай пані Адэлаідзе жалобны ліст з нагоды смерці караля і яшчэ адзін пані графіне дэ Нарбон. Пасля абеду мела багата візітаў, між іншымі ад пана генерала д'Энвільe[98], які вярнуўся з-за горада. Атрымала ліст ад графа Вельгорскага, які паведамляе, што не мог пісаць мне дагэтуль, бо падчас хваробы караля ўсе лісты распячатваліся на пошце і тыя, што казалі пра яго сапраўдны стан, знішчаліся. Піша, што вяртанне Шуазоля падаецца неверагодным, але і герцаг д'Эгіён застанецца на сваім месцы толькі на кароткі час у гэтыя першыя дні. Між тым ёсць меркаванні, згодна з якімі калі ён здолее пратрымацца два месяцы, то зможа замацаваць свае пазіцыі і ўсталявацца. Кажуць, што зараз каралева аддае ўсе загады ад імя караля, які пачне працаваць з міністрамі толькі праз тыдзень.

Пані маркіза дэ Манкансэй у сваім лісце паведамляе мне асаблівую акалічнасць, якой я не ведала, што ні пані Адэлаіда, ні яе сёстры, якія былі зачынены ў адным пакоі з каралём падчас яго хваробы, не захварэлі на воспу.

Цела караля ўжо перавезена ў Сэн-Дэні з зусім невялікім эскортам ахоўнікаў і змешчана ў склепе; яго не вазілі ў Парыж, каб выстаўляць у Луўры.

Па заведзеным звычаі ўся сям'я пакінула Версаль і выехала ў Шуазі. Панны цётухны некалькі дзён прабавяць у павільёне асобна ад астатніх сямейнікаў. Архібіскуп

[97] Віктар Франсуа, герцаг дэ Брой (1718–1804), маршал Францыі (1759), губернатар вобласці Труа-Эвешэ (1771–1790).
[98] Генерал каралеўскіх войскаў, камандуючы артылерыяй страсбургскага гарнізона.

Парыжскі запатрабаваў вантробы і сэрца караля, каб выставіць у царкве Сэн-Дэні, як заведзена, але медыкі запярэчылі, што цела ўскрываць нельга з прычыны гангрэны, якая зрабіла шкоду.

Пані Дзюбары асаблівым загадам пераведзена ў кляштар, які завецца Пон-о-Дам за тры лье ад Мо. Абацісе сказана, што пані Дзюбары не дазваляецца ні з кім размаўляць, ёй прызначаецца пенсіён у трыццаць тысяч ліўраў. Апячатана цалкам уся яе маёмасць. Кажуць, што пана Дзюбары[99], яе дзевера, выдалілі, але невядома куды.

Двое ўвайшлі да пані Дзюбары ў пошуках кахання і заспелі ў яе пана герцага дэ Лаваля[100], што адразу было паведамлена пры двары.

Пані дэ Грамон[101] вярнулася да двара, каб ізноў выконваць абавязкі фрэйліны каралевы.

Газеты шмат гавораць пра падрыхтоўку да вайны і жаданне туркаў працягваць яе, між тым муфці адхілены ад улады і выдалены ў выгнанне.

Артыкул пра Польшчу ад чацвёртага сакавіка: «Лісты з Расіі даносяць, што генерал Бібікаў[102] працягвае паспяховыя дзеянні супраць бунтаўшчыкоў, хоць тыя і змагаюцца па-ранейшаму, вынішчаючы ўсё агнём і мячом. Генерал пастаянна патрабуе значных падмацаванняў, асабліва кавалерыі, але такім чынам, каб не было зразумела, што бунт будзе хутка задушаны».

17. Атрымала процьму лістоў з Парыжа, між іншымі і ліст з Польшчы ад графіні Велапольскай[103], жонкі небаракі графа Юзафа[104], майго стрыечнага брата, які нядаўна памёр. Яна абвяшчае, да майго вялікага здзіўлення, пра яго смерць. За некалькі дзён да ад'езду з Парыжа я атрымала ад яго самога вельмі кранальны ліст, якім ён паведаміў пра смерць свайго бацькі ваяводы сандамірскага[105], якога перажыў толькі на нейкі месяц. Страта гэтая тым больш для мяне балючая, бо я мела да яго шчырую прыхільнасць. Па ўсім ён быў адным з самых прыемных маладых людзей, якіх я ведала ў Польшчы, добрага нораву, з прывабным тварам, добрым розумам і сэрцам. […]

18. Займалася раніцай карэспандэнцыяй і музыкай. Пасля абеду былі ў мяне пан Арлоўскі[106], пан і пані Вíслоцкая, якія прыехалі з Парыжа, а ўвечары шэфы ўсіх палкоў і іншыя афіцэры.

Новыя госці кажуць, што пан дэ Шуазоль несумненна вернецца да сваіх першых абавязкаў і што пан д'Аўрыер [дэ Лаўрыер[107]] выйшаў у адстаўку, а яго пасаду заняў пан дэ Сарцін[108].

[Яны кажуць таксама], што пагалоска, якая прайшла адразу, нібыта кароль падхапіў хваробу ў пакоях пані Дзюбары, спраўдзілася, але адбылося тое іншым чынам.

---

99 Жан-Батыст, граф Дзюбары (1723–1794).

100 Гі Андрэ П'ер, герцаг дэ Манмарансі-Лаваль (1723–1798), маршал Францыі (1783).

101 Герцагіня Беатрыса дэ Грамон (1730–1794), у дзявоцтве дэ Шуазоль-Стэнвіль.

102 Аляксандр Ільіч Бібікаў (1729–1774), генерал-аншэф (1773), змагаўся супраць паўстання Емяльяна Пугачова.

103 Графіня Тэрэза Апалонія з Сулкоўскіх Велапольская (1746–1818).

104 Граф Ян Юзаф Велапольскі (каля 1740 — 1774), староста ланцкаронскі.

105 Граф Ян Велапольскі (1700–18.12.1773), у 1733 годзе ажаніўся з княгіняй Марыянай з Ябланоўскіх (1708–1765), старэйшай сястрой бацькі Тэафіліі Сапегі.

106 Юзаф Арлоўскі (1742–1807), сябра і каляжанін Тадэвуша Касцюшкі па Рыцарскай школе ў Варшаве (1766–1769) і парыжскай Школе вытанчаных мастацтваў (1769–1774), удзельнік паўстання 1794 года, генерал-лейтэнант (1794).

107 Луі Феліпо, граф дэ Сэн-Фларантэн (1705–1777), герцаг дэ Лаўрыер (1770–1777), дзяржаўны сакратар Каралеўскага дома (1749–1774).

108 Антуан дэ Сарцін, граф д'Альбі (1729–1801), інтэндант паліцыі (1759–1774), марскі міністр (1774–1780).

І вось як. Кароль прыехаў адведаць напярэдадні сваёй хваробы пані Дзюбары ў Люсьен [Луўсьен[109]]. Тая пазнаёміла яго з прыгожанькай сялянкай, што пасвіла яе кароў. Кароль упадабаў яе, загадаў правесці ў дом, нават пасадзіў за стол вячэраць, і астатняе ўсё потым адбылося. Тая хамка ў гэтую ж самую ноч захварэла на воспу, і кароль следам за ёю захварэў. На наступны дзень, ужо хворы, пытаўся аб ёй. Каб заспакоіць наконт яго асабістага стану, сказалі яму, што яна ўжо скача па палях.

Паколькі хвароба караля стала прычынай найвялікшага ўзрушэння, то смерць яго зрабіла не большае ўражанне, чым смерць простай і нецікавай асобы. Так хутка ішоў распад, што праз некалькі гадзін пасля скону прыйшлося абсыпаць цела вапнай. Напярэдадні яго смерці ўведзены быў новы падатак на дровы, які спрычыніў найгоршыя водгукі. Каралева, якая зараз пануе, абурылася на пана генеральнага кантралёра на гэты конт, сказаўшы, што нягодна гэтак рабіць ненавіснымі самыя апошнія моманты жыцця караля.

Пан Дзюбары, пра якога ішлося вышэй, змешчаны ў Бастылію. Яго схапілі за чатыры лье ад Парыжа, ён ужо накіраваўся ўцячы.

Даўгі пані Дзюбары складаюць каля трох мільёнаў. Пачалі ўжо распрадаваць яе дамы і потым дойдуць да ўпрыгожанняў, якіх яна мае вялікае мноства. Ёй забаронена пісаць каму б то ні было і нават нельга ні з кім размаўляць. Прычына такога суворага ўтрымання ёсць у тым, што баяцца, ці не ведае яна дзяржаўнай тайны, бо ўсе справы вырашаліся і абмяркоўваліся ў яе спальні альбо ў яе прысутнасці, і да таго яшчэ мела яна магчымасць выведаць усё, што хацела, у караля, падпойваючы яго.

19. Сёння з поштай атрымала шмат лістоў. Пан Жэрар не паведамляе мне нічога надзвычайнага, ён перасылае мне два лісты ад маёй сястры. […] Яна піша мне, што хоча ўзяць суму з майго пасагу ад земляў, якія я трымаю па бацьку, Падгорцы[110] і Странібабы[111], і што яна запрашае спаткацца ў Гданьску ў студзені наступнага года, а зараз выязджае з Гданьска, каб жыць на сваіх землях у Польшчы. Пан маркіз дэ Лаферанэ дасылае мне вельмі добрыя навіны пра сына, з якім рэгулярна бачыцца. Гаворачы пра смерць караля, карыстаецца такімі выразамі: «Даць веры цяжка, як мала спачування выклікала смерць караля. Прашу вас, княгіня, не судзіце француза па гэтым часе. Каб такое няшчасце абылося дваццаць гадоў таму, Францыя сапраўды аплаквала б яго, але канец гэтага праўлення сапраўды гаротны, і ў гэтым ён не быў вінаваты». […]

Перыяд смерці караля спараджае багата санетаў і досціпаў. Адзін такі склалі ў сувязі з падаткам, уведзеным напярэдадні смерці караля: «Гэта развітанне нашага любага караля».

У дадатак да няміласці, якая напаткала дом Дзюбары, кажуць, што з аднаго палка знята гэтае імя. […]

Увечары мела ў сябе пані Вислоцкую з іншымі палякамі і афіцэрамі гарнізона.

20. Пані Вислоцка і нашыя палякі, а таксама пан дэ Росі і пан Цяглінскі[112] абедалі з намі. З гэтай паннай, панам дэ Росі і панам Забелам[113], які два дні таму прыехаў сюды са свайго гарнізона, мы зрабілі прагулянку па англійскім садзе. Ён вельмі прыемны, мае выгоднае становішча, дом надта прыгожы і прасторны для простага гаспадара, які ім

[109] Мястэчка нападалёк ад Версаля.

[110] Цяпер вёска ў Стрыйскім раёне Львоўскай вобласці ва Украіне.

[111] Цяпер вёска ў Бужскім раёне Львоўскай вобласці ва Украіне.

[112] Францішак Караль Цяглінскі, альбо Франсуа Шарль Шэнглінскі (1740–1797), нарадзіўся ў Рэчы Паспалітай, на французскай вайсковай службе з 1759 года, капітан драгунскага палка Карсіканскага легіёна ў 1774 годзе, палкоўнік (1792), брыгадны генерал (1793) французскага войска.

[113] Шыман Забела (1750–1821/1824), навучаўся ў кадэцкай школе ў Люнэвілі, капітан французскага Каралеўскага германскага кавалерыйскага палка (1770-я гг.), генерал-маёр (1788–1790), генерал-лейтэнант (1790–1792) арміі ВКЛ, кашталян мінскі (1787–1792), удзельнік паўстання 1794 года.

валодае. Адтуль мы пайшлі на прагулянку ў парк Кантада. Па вяртанні дадому да мяне завітаў пан Фрэдзі з вельмі дрэннай навіной, якую пан маршал дэ Кантад атрымаў пра здароўе пані Адэлаіды. Яе б'е ліхаманка, пачаліся галаўны боль разам з ванітамі, усё гэта падобна да сімптомаў воспы. Так я была ўзрушана ў сувязі з гэтым, што ўсю ноч вачэй не заплюшчыла. Калі ў выніку памрэ прынцэса, гэта будзе для мяне сапраўднай стратай.

21. Напісала панству ў Парыж і Версаль, каб атрымаць звесткі пра здароўе пані Адэлаіды, між іншымі [напісала] пані вікантэсе дэ Нарбон[114], нявестцы графіні, фрэйліне [пані Адэлаіды], прадбачачы, што гэтай апошняй немагчыма будзе мне адказаць зараз, калі яна не можа пакінуць пані ні на імгненне. Пан Арлоўскі еў абед з намі. Пасля абеду вярнулася да заняткаў, каб падрыхтаваць пошту на заўтра.

А сёмай гадзіне выйшла адна прагуляцца. А палове дзявятай вярнулася, калі ўжо ў мяне сабраліся. […]

22. Атрымала адзін ліст ад графа Вельгорскага і другі ад пана Богуша. Першы мне піша ад 18 мая і паведамляе пра хваробу пані Адэлаіды і пані Сафіі. Абедзве яны маюць сімптомы воспы. Старэйшая захварэла першай, ёй пусцілі кроў, кроў аказалася вельмі добрай. Ён дадае таксама, што новае праўленне дае найспрыяльнейшыя надзеі, што ўсе зараз здзіўлены, што ў караля столькі розуму спалучаецца з найлепшымі якасцямі, якія да гэтага часу былі прыхаваныя. Ён аддае загады і адказвае вельмі мудра і вельмі спора, ні з кім не раючыся, ні па якой справе не звяртаючыся да каралевы, да якой ставіцца нібыта падазрона.

Ліст ад пана Богуша ад 22 мая. Ён таксама мне паведамляе пра хваробу пані Адэлаіды і дадае ў разважанне, што, не зважаючы на стан майго здароўя, ён бы дазволіў сабе даць мне ласкавую параду, а менавіта што трэба мне было б зараз з'явіцца перад пані [Адэлаідай]. Пэўна, што ўсё мяне да гэтай думкі падводзіць і што я зусім не ведаю, да чаго схіліцца, [пагатоў] тысячу нюансаў трэба ўлічыць у такім учынку. І пан Вельгорскі, і пан Богуш, ведаючы маю прыхільнасць да пані [Адэлаіды], мне распавядаюць пра яе з вялікай асцярогай. […]

Была на прагулцы ў карэце з пані Віслоцкай, генералам д'Энвільe і панам дэ Росі.

23. Раніцай адправіла пошту ў Парыж. Я напісала біскупу Санліскаму, першаму духоўніку караля, які мае да мяне вялікую прыязнасць, просячы паведаміць мне пра здароўе пані Адэлаіды, выяўляючы вялікае жаданне з'явіцца і самой засведчыць яе стан. [Запыталася], ці магу спадзявацца, што мне будзе мажлівасць прыехаць у Шуазі і будзе дазвол застацца з пані. Запыталася ў яго нават парады, якога рашэння трымацца.

Атрымала ліст ад графа дэ Мюрынэ. Ён мне піша пра стан паннаў, у асноўным пра стан пані Адэлаіды. Шмат кажа пра ўзорную адвагу гэтых прынцэс, што знайшлі сілы, хоць бязмерна баяліся захварэць на воспу і не захварэлі, але ахвяравалі сябе і клапаціліся аб бацьку. Дадае мне таксама, што пані Вікторыя адчувае ўжо таксама тую ж слабасць, і напрыканцы, завяршаючы размову пра гэтыя журботныя справы, паведамляе, даючы мне невялікі прамень надзеі, што ад пачатку хваробы караля гэтых трох прынцэс рыхтавалі да такой падзеі і што спадзяюцца, нібыта тое зробіць іх хваробу менш пагрозлівай.

Муж мой абедаў у пані Віслоцкай, я мела на яго месцы пана дэ Брукса. А пятай гадзіне мы зладзілі водную прагулянку, на якой былі ўсе палякі, генерал д'Энвільe, два палкоўнікі Росі і Брукс і маёр каралеўскага палка Аж'е. Мы высадзіліся на Руберсо[115]

[114] Антуанэта Франсуаза Кладзіна (1750–1838), у дзявоцтве дэ Ларош-Эмон, вікантэса дэ Нарбон-Лара (1771), герцагіня дэ Нарбон-Лара (1780), жонка старэйшага сына графіні дэ Нарбон-Лара (гл. зноску 152).

[115] Нямецкі варыянт — Робертзаў, цяпер квартал на поўначы Страсбурга.

і гулялі да паловы восьмай. Вяртаючыся, высадзілі генерала д'Энвільe на Ільгар[116], і амаль у той жа момант наляцела навальніца. Баючыся, каб лодка не перакулілася ад моцнай буры, мы вырашылі прыстаць да дома нейкага селяніна і дачакацца там, пакуль надвор'е супакоіцца.

Наша польская кампанія з'язджае заўтра.

24. Сёння прыняла лекі, тым не менш адаслала пошту на заўтра. […]

Пан Дэмарэ[117] сакратар-дарадца інтэнданта даслаў мне бюлетэнь, яшчэ адзін атрымала ад пана маршала дэ Кантада.

Пан дэ Росі прынёс мне таксама справаздачу пра першую нараду, якую праводзіў кароль, але сказаў, што не паручыцца за яе дакладнасць па ўсіх пунктах, бо гэты дакумент хадзіў па руках і такім чынам трапіў да яго. […]

25. Муж мой з'ехаў у Саверн[118] з генералам д'Энвільe. Будзе госцем у пана кардынала да пятніцы, пасля вернецца сюды.

Лекі, якія я прыняла ўчора, вельмі мне дапамаглі. Адчувала на працягу ўсяго дня млявасць, шмат разоў за дзень мне рабілася млосна, канчалася гэта страшэннымі ванітамі. […]

26. …Мела на абедзе ў сябе графа Бжастоўскага[119], барона Пуца, пана Шыля і Забелу. Першыя трое едуць у Парыж. Бжастоўскі дзеля таго, каб уступіць у Латарынгскі легіён, які з нядаўніх пор належыць герцагу дэ Лазэну[120]. Пуц, паж пані курфюрстыны саксонскай[121], атрымаў ад яе дазвол ехаць з ёю, каб пабачыць свет. Шыль дзеля таго, каб спагнаць з графа Агінскага, якога знайшоў у Парыжы, кампенсацыю за сродкі, якія ён нібыта ахвяраваў у час, калі граф Агінскі схіліў яго ўступіць у канфедэрацыю, і месца, што ён страціў у сваім палку на саксонскай службе. […]

30. …Цэлы дзень не выходзіла з пакоя праз вялікі галаўны боль.

31. Атрымала з кур'ерам лісты з Парыжа. Ліст пана Вельгорскага ад 27 паведамляе мне, што мінулай ноччу пані Адэлаіда была ў вельмі благім стане і што баяцца за яе жыццё. Між тым, нягледзячы на трывожны тон гэтага ліста, усе іншыя, якія я атрымала разам з ім пад той жа датай, настолькі абнадзейныя, што я не стала на гэты конт турбавацца.

Ён дадае, што замежныя амбасадары яшчэ не мелі магчымасці бачыць караля і што, магчыма, яны будуць адасланыя ў Камп'ень. Ён кажа, што атрымаў навіны ад пана Хамінскага[122], што гетмана пакінуць пераследаваць, што сойм будзе доўжыцца да кастрычніка і што кароль польскі настойліва запрашае яго вярнуцца ў краіну.

Пан Жэрар паведамляе мне вельмі абнадзейныя навіны пра стан пані Адэлаіды, і маркіз дэ Лаферанэ таксама. Лічаць, што яна цалкам у небяспецы. Апошні дадае, што на радзе, якую трымаў кароль, нічога не адбылося. Ён папросту аб'явіў міністрам, што, апынуўшыся на троне праз злашчасны выпадак, смерць свайго прашчура, ён хоча дбаць толькі аб славе свайго каралеўства і шчасці свайго народа. Такім чынам, яны павінны трымацца напагатове, каб кожнаму ўчыніць яму справаздачу пра сваё міністэрства

[116] Цяпер Сітэ дэ Ліль, квартал на поўначы Страсбурга непадалёк ад Робертзаў.

[117] Сакратар-дарадца каралеўскага інтэнданта правінцыі Эльзас.

[118] Невялікі горад у Эльзасе непадалёк ад Страсбурга, у XVII–XVIII стагоддзях — сталая рэзідэнцыя прынцаў дэ Раган.

[119] Граф Міхал Бжастоўскі (1747–1800), староста пуньскі, сын кашталяна полацкага (1758–1776) Адама Бжастоўскага (1722–1790) і Генавефы з Агінскіх (1725–1792), старэйшай сястры Міхала Казіміра Агінскага.

[120] Луі Арман дэ Ганто Бірон (1747–1793), герцаг дэ Лазэн (1766–1788), герцаг дэ Бірон і пэр Францыі (1788–1793).

[121] Амалія Цвайбрукен-Біркенфельд (1752–1828), курфюрстына саксонская (1769–1806).

[122] Францішак Ксаверы Хамінскі (пам. 1809), удзельнік Барскай канфедэрацыі, агент Міхала Казіміра Агінскага пры венскім і версальскім дварах, перакладчык з французскай.

ў дзень, які ім будзе прызначаны. Баяцца, што давер да пана дэ Марэпа[123] некалькі паменшыцца.

Той жа пан дэ Лаферанэ абʼяўляе мне пра цудоўнае здароўе майго сына. […]

Увечары прагулялася, каб прагнаць галаўны боль, які трымаецца на працягу двух дзён. Ад прагулянкі было крыху лягчэй. […]

1 чэрвеня. Раніцай адправіла пошту, пасля абеду зрабіла некалькі візітаў.

Паны Жэрар і Брунэ[124] абодва паведамляюць мне, што пані Адэлаіда амаль цалкам ачуняла. Апошні дадае, што Булонскі лес кожны дзень запаўняецца людам, які шукае задавальнення ўбачыць новых уладароў, што падаюць найлепшыя надзеі. Што паездка ў Кампʼень адбудзецца паміж 9 і 15 чэрвеня і што калі будзе добрае надворʼе, то на чацвёрты дзень свята Цела Божага збярэцца шмат людзей на працэсію да Пасі. Уся каралеўская сямʼя павінна прысутнічаць. […]

3. Атрымала багата лістоў. […] Атрымала адказ ад пана біскупа Санліскага, які раіць мне ў гэты момант абмежавацца віншавальным лістом да пані Адэлаіды з нагоды яе папраўкі.

Пан Богуш, мяркуючы, што я паеду на воды ў Пламбʼер[125], хоча пабачыць мяне, калі я буду праездам у Нансі. [Піша], што пан дʼЭгіён быццам бы застанецца пры падтрымцы пана дэ Марэпа, свайго дзядзькі. У тым самым запэўнівае граф Вельгорскі. [Пан Богуш піша], што мір паміж Расіяй і Портай хутка будзе заключаны. Дадае да гэтага такое меркаванне, што адсюль можа пачацца эпоха нашага шчасця, калі Францыя паспрыяе гэтаму міру.

Калі каралева папрасіла ў караля вярнуць графіню дэ Грамон, той адказаў ёй: «Пагаджаюся на тое, вашамосць, з задавальненнем, абы гэта была першая і апошняя ласка, аб якой вы мяне просіце».

Сцвярджаюць, нібыта праз тое, што экіпажы герцага Цвайбрукен праехалі праз Нансі, пайшла глухая пагалоска, што ў іх везлі значную суму грошаў, якія належаць пану Дзюбары. Знайшліся нават такія, што наважыліся іх спыніць, але да гэтага не дайшло, і задаволіліся тым, што ўчынілі рапарт да двара.

Нейкая парыжская акцёрка [піша] аднаму са сваіх сяброў наступнае: «Наш час адышоў, вашамосць, мы прайгралі вялікую бітву, нашу генеральшу схапілі, і, нягледзячы на ўсе яе скарбы, няма ніякай надзеі, каб яна змагла адкупіцца. Ці можна калі было падумаць, што нашая параза настане праз воспу? Мы заслугоўвалі чагосьці больш значнага».

4. Зранку была ў купелі ў парку Кантад. […]

5. Хацела ехаць сёння ў Саврн, але пошта і шмат іншых дамашніх заняткаў прымусілі мяне адкласці паездку да заўтра. […]

6. Я выехала пасля абеду ў Саврн з генералам дʼЭнвільe. Убачыла пана кардынала каля агароджы, ён загадаў вынесці сябе мне насустрач. Ён ужо выязджаў на карэце ўчора на адзін лье, мяркуючы, што я прыеду. Ён прыняў мяне з самымі шчырымі знакамі сяброўства. Ён заняты толькі тым, каб зрабіць маё знаходжанне тут прыемным, і звяртае пільную ўвагу нават на дробязі. Ён прымушае сваіх людзей завіхацца, каб я не мела патрэбы ні ў чым. Ён увесь час паўтарае мне, як бы ён хацеў, каб я размясцілася ў яго, і сапраўды робіць усё для гэтага.

Сённяшні вечар скончыўся партыяй у трысэтэ, якую ён прапанаваў мне зладзіць.

---

[123] Жан Фрэдэрык Феліпо, граф дэ Марэпа (1701–1781), марскі міністр (1723–1749), дзяржаўны міністр (1774–1781).

[124] Магчыма, Гаспар Жан-Батыст Брунэ (1734–1793), капітан Латарынгскага пяхотнага палка (1759–1762).

[125] Горад у Латарынгіі, вядомы сваімі тэрмальнымі крыніцамі.

7. …Пасля абеду размаўляла нядоўга з гаспадаром. Ён абвесціў мне, што пані дэ Нарбон толькі рабіла заўсёды выгляд, быццам яна варагуе з панам д'Эгіёнам, а сама сакрэтна вадзіла з ім хаўрус, і выкрылася гэта толькі зараз. Але ён добра не ведае, ці ведала пра гэтыя хітрыкі пані Адэлаіда, якой пан д'Эгіён ніколі не падабаўся. Ён таксама мне паведаміў, што Бары-Прахадзімец[126] знаходзіцца ў Базэлі; што першы ягоны прытулак быў у землях герцага Цвайбрукен і што выехаў ён адтуль толькі таму, што не пачуваўся дастаткова бяспечна; і што быў загад пасля смерці караля арыштаваць яго, але загад няпэўны; што збіраючыся ўцякаць, ён меў вялікае жаданне звезці скарбонку пані Дзюбары, але яна не захацела яму яе даверыць.

Надвячоркам выехала з панам кардыналам прагуляцца ў карэце. Ён паказаў мне гай, звярынец і ўсе ваколіцы свайго дома. Усё цалкам вельмі прыгожа і прасторна і складае дыхтоўны маёнтак.

8. Атрымала свае лісты са Страсбурга. […] Надвячоркам прагулялася ў карэце з пані дэ Бодэк, жонкай стайніка пана кардынала. Прайшлася па лесе са стрэльбай, каб папаляваць на птушак.

9. Я выйшла а восьмай гадзіне раніцы і прагулялася два лье пехатой з генералам д'Энвільe. Вярнулася аб адзінаццатай гадзіне і зазірнула да пана кардынала, які чакаў мяне, каб даведацца, ці вызвалю я яго, бо ён павінен ехаць за два лье да пані дэ Вагюэ[127], быўшы запрошаным да яе яшчэ на мінулым тыдні. Я ласкава прасіла яго выканаць свой абавязак, што ён і зрабіў. […]

Пан Богуш мне паведамляе, што з'язджае на воды ў Пламб'ер.

10. Лісты, што атрымаў пан кардынал, нарэшце канчаткова пацвердзілі, што на пасаду міністра замежных спраў прызначаны пан дэ Вержэн[128]. У Швецыю накіравалі кур'ера, каб ён прывёз яго.

Раніцай падрабязна агледзела ўсе пакоі ў замку, вельмі прыгожыя, і стайні, якія пабудаваны на загад самога пана кардынала і таксама вельмі прыгожыя, вельмі прасторныя, цудоўна размешчаныя. Ён сам прыедзе ў Страсбург 25 на імшу, прысвечаную каралю, і з'едзе 28 у Швейцарыю, адкуль вернецца праз Монцыш у Савэрн праз два тыдні.

Я праехала праз Брумт[129], каб засведчыць сваю павагу прынцэсе Крысціне, якая падалася мне вельмі прыгнечанай з прычыны адстаўкі пана д'Эгіёна і скрытнай у дачыненні да спраў Францыі. Па шкадаванні, якое яна выказала аб смерці караля, здаецца, што яна не зусім задаволена тым, хто зараз сядзіць на троне.

Прыехала а палове дзявятай і заспела ў сябе ўсіх нашых знаёмых, якія прыйшлі дачакацца мяне.

11. Дзень нараджэння майго мужа, на які я хацела яго здзівіць і прыехаць да Страсбурга.

На абедзе ў мяне былі генерал д'Энвільe, пан дэ Пуі, Росі, Брукс, Фрэдзі і Аж'е, якіх я запрасіла на гэты дзень яшчэ да таго, як з'ехаць у Савэрн, і абат дэ Люньe, які прыехаў з Савэрна, улюбёнец пана кардынала. Пасля абеду прымала канонікаў капітула, прынца Хаэнлоэ[130] і графа дэ Фрукс, графа дэ Клюні[131], камандуючага палка Бавуазі, з маёрам

---

[126] Бары-Прахадзімец — мянушка графа Жана-Батыста Дзюбары.

[127] Луіза Кацярына, маркіза дэ Вагюэ (пам. 1783), у дзявоцтве Буе дэ Вэрсальё, другая жонка маркіза дэ Вагюэ (гл. зноску 143).

[128] Шарль Граўе, граф дэ Вержэн (1719–1787), амбасадар Францыі ў Турэччыне (1755–1768) і Швецыі (1771–1774), міністр замежных спраў (1774–1787).

[129] Брумат — невялікі горад за 20 кіламетраў на поўнач ад Страсбурга.

[130] Ёзаф Крысціян Франц, прынц Хаэнлоэ (1740–1816), канонік страсбургскі (1771–1776) і вроцлаўскі (1781–1788).

[131] Шарль дэ Клюні (1727–1816), палкоўнік (1759–1768), брыгадзір (1768–1789?) пяхотнага палка Бавуазі.

і некалькімі афіцэрамі са свайго палка. Быў канцэрт, пасля якога некаторыя з нашай кампаніі сышлі. З астатнімі я выйшла на прагулянку і прабавіла на ёй увесь вечар.

Атрымала ліст ад сястры маёй, якім яна паведамляе, што падрыхтоўка да падзелу рэштак Польшчы не выклікае амаль ніякіх сумневаў. […]

Яна сведчыць яшчэ, што прымас[132] з’яўляецца шчырым патрыётам, што ён адсылае ў Францыю эмісара, які павязе лісты да караля і міністра. Яна далучае да свайго ліста яшчэ і ліст ад яго, рэкамендуючы мне між тым не паказваць ніяк, што я ведаю пра яго місію.

Граф Вельгорскі… мне піша таксама, што 7 гэтага месяца ўсе амбасадары былі пры двары, каб прэзентаваць свае даверчыя граматы. Што да яго самога, то, не атрымаўшы ніякіх іншых [грамат] і да таго ж не ведаючы зусім, як ён будзе прыняты, разлічвае прадставіцца толькі ў Камп’ені.

Ён піша мне таксама пра пана Вержэне і лічыць, што той будзе схільным да нашых інтарэсаў як чалавек, дужа адукаваны і 14 гадоў адбыўшы ў амбасадзе ў Турэччыне. […]

12. Муж мой з’ехаў у Брумт з візітам ветлівасці да прынцэсы каралеўскага дому разам з канонікамі капітула прынцам Ёзафам Хаэнлоэ, якога клічуць Ружовым Прынцам, і графам дэ Фрукс. Яны вернуцца на спектакль, які пачынаецца сёння і ў якім з’явіцца акцёр, званы Афрэнэ. […]

13. Была а восьмай гадзіне ў Руберсо, каб убачыць Карсіканскі легіён у поўным узбраенні, якому палкоўнік пан дэ Росі чыніў агляд. Гэты аддзел найлепш утрымліваецца з усяго гарнізона, мяркуючы па чысціні і парадку, і робіць найлепшае ўражанне звонку. Пані графіня Вартэнслебен прыехала на кані, каб паглядзець на яго, а таксама была яе дачка ў карэце і яшчэ некаторыя панны. Атрымала ад тых паноў [афіцэраў] усялякія знакі пашаны. Пан Брукс быў пры мне.

Папалудні пайшла на паляванне з панам Бруксам. Сённяшні дзень не прынёс ніякіх навін.

Муж мой з’ехаў у Савэрн з прынцам Хаэнлоэ. […]

15. Надвячоркам пайшла на паляванне з панам дэ Росі, нас суправаджаў егер, якога горад мне прапанаваў на кожны раз, як мне захочацца выйсці пастраляць.

Навіны сцвярджаюць, што пан дэ Марэпа амаль напэўна трапіў у няміласць, абставіны яшчэ невядомыя. Кажуць, што прышчэпку[133] адклалі да верасня.

Сястра мая паведамляе, што Расія даслала загад ці, хутчэй, прапанову жыхарам Гданьска аддаць порт цалкам каралю Прусіі, пагражаючы іх пакінуць без дапамогі. Магістрат трымаў раду тры дні і нарэшце пагадзіўся тое зрабіць, але трэцяе саслоўе і купцы так моцна ўспрацівіліся, што ўсё засталося па-ранейшаму. Ім пагражаюць нападам, які, як лічыцца, адбудзецца пасля таго, як кароль стане лагерам 6 гэтага месяца.

[Сястра піша], што нашы патрыятычныя справы знаходзяцца ў вельмі благім стане. Нашых суайчыннікаў у Варшаве займаюць толькі вялікія стаўкі, пагулянкі, балі, тэатральныя відовішчы і ўсялякія забаўкі шчаслівага народа. Тыя, што лічаць сябе кіраўнікамі, нажываюць вялікае багацце, рабуючы нас. Пан Панінскі[134] бясконца скупае землі, маёнткі і вёскі для сваіх уцех і забаў. У апошні раз ён заплаціў за Ужэндаў білетам з банка караля фараона[135]. Я лічу, што Патоцкі[136] ў гэтай справе застанецца з пустой кішэняй.

---

132 Габрыэль Падоскі (1719–1777), прымас Польшчы (1767–1777).

133 Маецца на ўвазе вакцынацыя ад воспы французскай каралеўскай сям’і, якая адбылася 18 чэрвеня 1774 года.

134 Адам Панінскі (1732–1798), князь Свяшчэннай Рымскай імперыі (1774), маршалак сойма па першым падзеле Рэчы Паспалітай (1773–1775), падскарбі вялікі каронны (1775–1791).

135 Папулярная ў XVIII стагоддзі картачная гульня.

136 Граф Каятан Патоцкі (каля 1745 — 1802?), староста ўжандоўскі, прадаў сваю пасаду Адаму Панінскаму ў 1774 годзе. Згодна з рапартамі парыжскай паліцыі, знаходзіўся ў французскай сталіцы

Староста гаўралінскі пан Бялінскі[137], пазбавіўшыся надакучлівага назірання з боку маткі[138], гуляе на рэштткі сваёй маёмасці. Ён разлічвае на тое, што здолее скінуць з сябе цяжар упраўлення сваімі маёнткамі.

16. Пішуць мне, што пан д'Аўрыер [дэ Лаўрыер] у момант сваёй адстаўкі кінуўся ў слёзы. Невядома, ці дапамогуць яны яму ўтрымацца на пасадзе. Іншыя навіны тыя ж, пра якія тут ішлося раней.

Была ў гэты дзень на спектаклі, каб паглядзець, як грае Афрэнэ ў «Магамеце»[139]. Пан д'Аркамбаль, палкоўнік Карсіканскага легіёна, прыехаў з Парыжа.

17. Раніцай з прыемнасцю папалявала за адзін лье адсюль. Надвячоркам мела ў сябе генерала д'Энвільe, потым пана дэ Брукса, прагулялася па крапасных мурах з апошнім. Пан Сапега вярнуўся з Савэрна.

Мне пішуць, што пан Шуазоль быў сустрэты парыжскім людам па сваім вяртанні громкімі воклічамі радасці. Кароль прыняў яго даволі халодна, граф Правансkі[140] быў больш прыязны, а каралева вельмі добра паставілася да яго.

Месье, брат караля, значыцца, той жа самы граф Правансkі мае вельмі вялікі ўплыў на караля, вось што мне кажа адзін з маіх парыжскіх сяброў: «Каралю і двум ягоным сёстрам і братам пэўна зробіць прышчэпку васямнаццатага доктар Рышар[141]. Паездка ў Камп'ень адбудзецца толькі ў жніўні. Тры панны[142] будуць кожны дзень гуляць па новых бульварах, а каралева са сваімі залоўкамі ў Булонскім лесе. Пан Шуазоль вярнуўся ўчора і сёння раніцай убачыцца з каралём». […]

18. Сённяшні дзень не прынёс ніякіх навін. Я бавіла вечар з панам маркізам дэ Вагюэ[143] і пачула анекдот наконт прышчэпкі, якую, як спачатку вырашыў кароль, павінны былі зрабіць панам графам Правансkаму і д'Артуа. Кароль, здаецца, зусім не быў схільны яе рабіць, але размова з каралевай яго нарэшце пераканала. Тая сказала каралю, што публіка разлічвае, што ён паследуе прыкладу двух прынцаў у жніўні месяцы. Ён ускіпеў ад тых словаў і сказаў, што хоча давесці, што ён не здольны на такі нягодны ўчынак у адносінах да братоў, і з таго моманту вырашыў зрабіць прышчэпку.

19. Сёння раніцай адаслала пошту.

Даведалася, што прынц дэ Кандэ[144] знаходзіўся ўвесь час хваробы пад замком з пані Адэлаідай і ні на імгненне ад яе не адыходзіў. З гэтай прычыны ён яшчэ не бачыўся з каралём. […]

20. Была на манёўрах Ангальтскага рэгімента з двума новапрыбылымі батальёнамі. Гэты рэгімент адзіны ў гарнізоне робіць найлепшым чынам практыкаванні па новай сістэме, якую

---

ў 1772, 1775, 1777–1778 гадах і прайграваў вялікія сумы ў карты, пакідаючы запазыкі і не плацячы своечасова па вэксалях (AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 4, f. 71r°-v°; vol. 5, f. 1r°-v°; vol. 18, f. 70r°-v°; vol. 22, f. 27v°).

137 Станіслаў Костка Бялінскі (каля 1740 — 1812), маршалак каронны (1793), маршалак гарадзенскага сойма 1793 года.

138 Тэкля з Пяплоўскіх Бялінская (пам. 5.05.1774).

139 «Фанатызм, альбо Прарок Магамет» (1736) — трагедыя Вальтэра.

140 Луі Станіслаў Ксаўе Французскі (1755–1824), граф Правансkі (1755–1814), кароль Францыі Людовік XVIII (1814–1815, 1815–1824).

141 Франсуа Рышар дэ Атсьерк (1713–1789), барон д'Юбэрхерн (1778), галоўны армейскі медык і галоўны інспектар вайсковых шпіталяў (1769–1789), за паспяховую вакцынацыю караля прызваны Бясстрашны Рышар.

142 Маюцца на ўвазе тры дачкі Людовіка XV і Марыі Ляшчынскай — пані Адэлаіда, пані Вікторыя і пані Сафія.

143 Сэрыс Франсуа Мельхіёр, маркіз дэ Вагюэ (1732–1812), шэф кавалерыйскага палка (1759–1789), генерал-лейтэнант каралеўскага войска.

144 Луі Жазэф дэ Бурбон, прынц дэ Кандэ (1736–1818), прынц крыві.

французскае войска пераняло ў пана Пірха[145], маёра таго самага палка. Пан маркіз дэ Вагюэ на хвіліну наблізіўся да маёй карэты, загадаў пасунуць яе, каб я магла бачыць, як праходзяць маршам войскі, і паслаў сказаць іншым паннам стаць з таго боку, дзе знаходзіцца мая карэта. Полк, праходзячы зусім побач з маёй карэтай, аддаў мне знакі пашаны. Паколькі я да таго не была падрыхтаваная, то выйшла з карэты толькі пры першым вітанні падпалкоўніка, які ішоў наперадзе і аддаў загад усяму палку. Вельмі была расчулена і ўдзячна панам за тую шчырасць, але ж перажывала за іншых паннаў, а менавіта за прынцэсу Гагенцолерн з дачкой, графіню Вартэнслебен з дачкой і шмат якіх іншых прысутных тут.

Пан Сухадольскі[146] прыехаў у гэты дзень з Баварыі.

Даведалася ад свайго настаўніка арфы, што спыніўся тут праездам нейкі іншаземец, швейцарац на службе ў галандскай гвардыі, які вельмі хораша грае на арфе. Папрасіла пана дэ Росі завязаць знаёмства з ім і запрасіць прыйсці да нас увечары, што ён і зрабіў. Той прыйшоў з двума сваімі людзьмі ў ліўрэях, якія акампанавалі яму на скрыпцы і альце, а ён цудоўна перабіраў струны на арфе. Ён грае на клавесіне і шмат якіх іншых інструментах. Мяркуючы па п'есах, якія ён граў нам, арфа яго зроблена з асаблівым густам і па ягонай асабістай задуме, без педаляў, цалкам непадобная да іншых. У ёй ёсць два шэрагі струнаў, што даюць стройнае гучанне, і клавішы ад клавесіна. Ён запэўнівае, што [гэтая прылада] дае бясконцае задавальненне тым, хто валодае клавесінам, бо яны могуць навучыцца граць на арфе самі, не маючы патрэбы ў настаўніку, і што сам авалодаў ёю такім чынам. […]

21. Атрымала ліст ад графа Вельгорскага, якім ён мне паведамляе, што каралю была зроблена прышчэпка 18 у Марлі, таксама як графу Праванскаму, графу д'Артуа і яго жонцы. […]

З іншага ліста, ад пана біскупа Санліскага, першага духоўніка караля, я даведалася, што прышчэпка ўвайшла ў моду пры двары, бо ён кажа мне, што налічваецца 30 чалавек, паннаў і кавалераў, якія робяць прышчэпкі адначасова з каралеўскай сям'ёй. Ён дадае мне, што пані дэ Нарбон прымае воды ў Шуазі, і што ён разлічваў убачыцца з ёй на наступны дзень пасля яе ліста і пагутарыць аба мне. […]

23. Атрымала ліст ад пана Вельгорскага, які мне паведамляе, што пані дэ Нарбон захоўвае сваё становішча без усялякай рызыкі, што пагалоска, якая распаўсюдзілася на гэты конт, не мае пад сабой нічога праўдзівага.

24. Прыйшоў мне ліст з Рагузы[147] ад 30 красавіка ад маладога французскага інжынера, званага Ралан дэ Брыё, якога я рэкамендавала Касакоўскаму. Ён паведамляе мне, што Пулаўскі з некалькімі французскімі афіцэрамі далучыўся да іх у Венецыі 9 красавіка, што яны рушылі ўсе разам да Рагузы, куды прыбылі толькі 24 з прычыны неспрыяльных ветраў, што пан Касакоўскі разам з ім і яшчэ адным афіцэрам павінны выправіцца на наступны пасля даты ліста дзень у Канстанцінопаль, каб правесці перамовы з Портай. Пан Пулаўскі паедзе папросту да войска разам з [астатнімі] афіцэрамі.

Князь Радзівіл[148] адаслаў двух афіцэраў у Канстанцінопаль, каб атрымаць фірман[149] і далучыцца да іх адразу пасля іх вяртання. «Маем надзею, — дадае ён мне, — атрымаць

145 Ёган Эрнст, барон фон Пірх (1744–1783), прускі вайсковец, з 1772 года на французскай службе, маёр Ангальтскага палка (1774–1777), палкоўнік Каралеўскага Баварскага палка (1779–1783).

146 Войцэх Валерыян Сухадольскі (1749–1826), канфедэрат барскі, кашталян радомскі (1790–1793), граф Свяшчэннай Рымскай імперыі (1800), альбо, што менш верагодна, Міхал Маўрыцы Сухадольскі (пам. 1781), падчашы холмскі.

147 У XVIII стагоддзі — незалежная рэспубліка са сталіцай у горадзе Рагуза (цяпер горад Дуброўнік у Харватыі).

148 Князь Караль Станіслаў Радзівіл (1734–1790), ваявода віленскі (1762–1764, 1768–1790), барскі канфедэрат, стрыечны брат княгіні Тэафіліі Сапегі па матчынай лініі.

149 У часы Атаманскай Порты — указ султана.

шэсцьсот чалавек, якіх адна асоба вызвалася ўтрымліваць за свой кошт». Ён абяцае мне паведамляць пра дамовы, якія будуць заключаны з султанам, і працягваць ліставанне са мной, якое пан Касакоўскі рэкамендаваў весці са мной рэгулярна. Я адкажу яму заўтра, адсылаючы ліст да пана дэ Сэн-Пры[150], амбасадара Францыі ў Канстанцінопалі, якому таксама хачу напісаць, каб заручыцца яго падтрымкай. […]

Брунэ паведамляе мне, што ўплыў пані Адэлаіды на караля па-ранейшаму вялікі і праяўляецца ў самых дробязях.

25. Я толькі што атрымала навіны ад маёй сястры, якая паведамляе мне, што горад Гданьск адказаў каралю Прусіі на ягоную прапанову, якую ён паўтарыў разам з Расіяй, саступіць яму цалкам порт, што яны хутчэй будуць абараняцца да апошняй кроплі крыві, чым аддадуць яго. Да таго ж кароль пасля гэтага загадаў свайму рэзідэнту выехаць з Гданьска і зняць з фасада рэзідэнцыі свой герб. Ягоны лагер пад Гродэнцам[151] зняты, але невядома яшчэ, якія загады атрымаюць палкі, што былі сабраныя там з гэтай нагоды.

Выехала насустрач пану кардыналу, які прыбыў сёння папалудні. Сустрэла яго больш чым за палову лье. Ён запрасіў мяне сесці ў ягоную карэту, выправіўшы асоб, якія былі разам з ім, і застаўся вельмі ўдзячны за такую павагу з майго боку. Гарнізон выказаў яму належныя знакі пашаны. Стрэлілі з пушак, на плошчы яго чакаў увесь камандуючы корпус з камендантам. Пяхота стаяла па двух баках уздоўж усіх вуліц горада са сцягамі, і камандзіры аддалі загад высока ўзняць іх, калі [кардынал] уехаў у горад. Ён праехаў праз браму, пры якой стаяў пан маркіз дэ Вагюэ, які зараз жа прывітаў яго разам з пікетам, адасланым наперад на палову лье. Прыбыўшы, ён заспеў у сваім доме шмат асоб, якія чакалі яго, потым сталі прыходзіць па чарзе саслоўі. У пакоях было людна ажно да дзявятай гадзіны і пазней. Я засталася ў яго да адзінаццатай, таксама як і пан Сапега, які гуляў у трысэтэ разам з нашай звыклай сябрынай шэфаў палкоў, [кардынал] захацеў, каб гульня працягвалася ў ягоным доме.

26. Пан кардынал завітаў да мяне раніцай. Апрануўшыся, я спусцілася засведчыць яму сваю павагу. Была разам з ім на імшы ў капліцы. Ён абедаў у пана маркіза дэ Вагюэ, таксама як пан Сапега. Вярнуўшыся пасля абеду, ён пажадаў застацца адзін на пару гадзін, каб папрацаваць. Пакуль ён працаваў, я крыху прагулялася ў карэце з панамі Росі і Бруксам. Вярнуўшыся, я не пакідала яго ажно да адзінаццатай гадзіны. Ён прымаў з візітам велізарную колькасць паннаў, гэта значыць усіх, якія толькі ёсць у Страсбургу, і процьму паноў. Усе гэтыя візіты ледзьве скончыліся а дзясятай гадзіне, рэшта вечара скончылася, як учора. Быўшы запрошанай ад пана кардынала да яго дадому і маючы вярнуць яму невялікую паслугу за тыя знакі сяброўства, якія ён рабіў мне, напрыканцы дня я зусім стамілася ад гэтай нялёгкай працы.

27. Раніцай на хвіліначку зайшла да пана кардынала засведчыць павагу. Ад яго накіравалася ў царкву на цырыманіяльную службу, якая ладзілася сёння ў гонар караля і была вельмі велічная. Былі адведзены месцы для ўсіхураднікаў і саслоўяў. Першымі ўбачыла на трыбуне іншаземных паннаў, якія жывуць тут зараз, яны саступілі мне першае месца. Цырымонія пачалася а дзясятай гадзіне і доўжылася да паловы першай. Каб пазбегнуць натоўпу, пускалі ўваходзіць толькі па запісках, і ўсё роўна была даволі вялікая цісканіна, так што мы задыхаліся ад гарачыні. Пасля царквы зайшла на хвіліну ў свае пакоі, потым спусцілася да пана кардынала, каб прыняць яго гасцей. Быў абед на дзевяноста асоб, было толькі дзесяць паннаў, а ўсе астатнія былі мужчыны. У гэтым ліку ледзьве змясціліся толькі ўсе шэфы гарнізона. Пасля абеду склалі партыі для

---

[150] Франсуа Эманюэль Гіньяр, граф дэ Сэн-Пры (1735–1821), абасадар Францыі ў Канстанцінопалі (1768–1785).

[151] Напэўна, маецца на ўвазе Гродзец, невялікае мястэчка на поўдзень ад Гданьска.

гульні, я патрапіла да партыі генералаў. Пан кардынал адасобіўся ў сваім пакоі. Я сышла да сваіх пакояў толькі а шостай гадзіне пасля таго, як кампанія разышлася да апошняга чалавека. Я скінула свой жалобны ўбор і зрабіла прагулянку па вадзе. А восьмай гадзіне я зайшла да пана кардынала і бавіла рэшту вечара ў яго. Была нас невялікая купа, як у мінулыя дні.

Атрымала лісты ад пана Жэрара і пані маркізы дэ Манкансэй. Першы распавядае мне толькі пра прышчэпку для караля і каралеўскай сям'і, якая мае шчаслівыя наступствы, і што, нягледзячы на тую аперацыю, кароль маецца трымаць раду 22. Другая падрабязна распавядае пра пані дэ Нарбон, аб якой яна справілася, як я яе пра тое раней прасіла, і высветліла дакладна, што каралева пра тое размаўляла з пані Адэлаідай, з намерам нават амаль патрабаваць яе выдалення, але тая пані дэ Нарбон выявіла столькі паслухмянасці і стараннасці падчас хваробы сваёй гаспадыні, што ніякай змены ў прыхільнасці да яе не заўважана.

Атрымала ліст ад князя Адама Чартарыскага, які ў двух словах кажа мне, што мужу майму трэба даслаць прашэнне аб памілаванні і што ён абяцае паклапаціцца аб яго справах у Польшчы. […]

28. Пан кардынал даваў абед, такі ж вялікі, як і ўчора. Увесь дзень было так жа багата людзей. Я пакідала яго толькі на пару гадзін, каб падрыхтаваць пошту на заўтра. Сышла ад яго а чацвёртай гадзіне. Ён развітаўся са мной, але я разлічваю зрабіць яму заўтра сюрпрыз і пажадаць добрай дарогі.

29. Я ўзнялася з ложка а пятай гадзіне, праз паўгадзіны зайшла да пана кардынала, каб развітацца з ім. Дачакалася яго ад'езду, потым была на імшы і прагулянцы на плошчы Бралі. […]

30. …Пан дэ Лаферанэ паведамляе мне, што быў у Люнэвілі вялікі пажар, але далёка ад таго квартала, дзе мой сын, іначай ён бы паляцеў яму на дапамогу. [Піша], што горад шмат абавязаны яго палку за тое, што прадухілілі распаўсюджанне агню і большыя шкоды. Пані дэ Барэгар аб'яўляе мне, што была вымушана адняць майго сына ад грудзей з прычыны хваробы, якая напаткала карміліцу. Гэта абавязвае мяне паехаць у тыя мясціны, але муж мой хоча зрабіць гэта сам, каб пабачыць адначасова пана дэ Кастра, які там жыве цяпер.

А восьмай гадзіне вечара прымала ванны ў парку Кантада.

1 [ліпеня]. Скончыўшы заняткі з настаўнікамі клавесіна, арфы і італьянскай мовы, адправілася на рынак па пакупкі для мужа майго, а таксама для сына. Сустрэлася там з панам маркізам дэ Вагюэ, які праводзіў мяне дадому. Пасля была на прагулянцы.

2. […] Муж мой з'ехаў апоўначы ў Люнэвіль з хірург-маёрам Каралеўскага палка, які павінен агледзець майго сына і выявіць стан яго з той пары, як яго аднялі ад грудзей.

3. Нічога новага не даведалася ад людзей, якіх бачыла ўдзень. Атрымала адзін толькі ліст ад маркіза дэ Лаферанэ, які паведамляе мне, што сын пані дэ Нарбон[152] прыбыў да Люнэвіля.

4. Адказвала на шматлікія лісты з Парыжа. Напісала між іншымі пані дэ Нарбон даведацца пра нагоду, з якой яна маўчыць, і адаслала ліст мужу майму, каб ён перадаў яго яе сыну, які зараз у Люнэвілі.

5. Абедала сёння ў цытадэлі ў генерала дэ л'Аршэ з панам маркізам дэ Вагюэ, яго сынам абатам, які прыехаў з Парыжа, некалькімі афіцэрамі са штаба і трыма жанчынамі. Увечары была ў купелі ў парку Кантада. […]

6. Атрымала ліст з Люнэвіля ад пана Ракіля, хірург-маёр Каралеўскага палка, які паведамляе мне пра добры стан майго сына, пра першыя зубы, якія ў яго пачынаюць з'яўляцца. Ён дадае, што пан Сапега наважыўся, як я таго жадала, запрасіць мяне туды. […]

[152] Філіп дэ Нарбон-Лара (1750–1834), герцаг (1780), старэйшы сын графіні дэ Нарбон-Лара.

7. Атрымала ліст ад пана Жэрара дэ Рэнваля ў адказ на мой ліст, які я напісала, папракаючы яго за таямнічасць, у якой ён трымае ад мяне падзеі пры двары. Яго вельмі закранулі мае папрокі, ён перапрашае за тыя нагоды, што вымушаюць яго маўчаць, і выказвае мне самыя шчырыя запэўніванні ў вечным сяброўстве.

Пан Богуш вярнуўся з пламб'ерскіх водаў і піша мне з Нансі, паведамляючы, што нейкі афіцэр са страсбургскага гарнізона, ні імя якога, ні чыну, ні палка ён не здолеў высветліць, за некалькі дзён да ягонага вяртання ў Нансі быў там праездам і, спыніўшыся ў яго гатэлі, казаў гаспадару, нібыта наша справа ў Варшаве вырашылася мірна і мы праз тое хутка вернемся ў Польшчу і нібыта тая ласка напаткала нас з павагі да маіх паслуг. […]

8. Калі я абедала, муж мой прыехаў з Люнэвіля з панам маркізам дэ Лаферанэ, які з сяброўскай прыхільнасці да нас прыехаў прабавіць тут колькі дзён. Яны абвесцілі мне, што пакінулі майго сына ў Савэрне і што яго прывязуць надвячоркам пані дэ Барэгар і пан Ракіль, хірург-маёр Каралеўскага палка. Каля шасці гадзін я выехала ім насустрач з панам маркізам дэ Лаферанэ і двума палкоўнікамі, Росі і Фрэдзі. Мы сустрэлі яго ля гарадской брамы. Я вярнулася ўладкаваць яго ў сваіх пакоях і пазней выйшла на прагулянку ў той жа самай кампаніі.

9. Цешуся, што сын мой побач са мной знаходзіцца, нягледзячы на лёгкае недамаганне, якое ён адчувае зараз. Я менш непакоюся пра яго стан, бо тут ён можа атрымаць усялякую дапамогу, якой быў пазбаўлены ў Люнэвілі. Усе, хто бачыць яго, не могуць ім налюбавацца. Гэтае дзіцё такое прыгожае, здзіўляе сілай, добрым ростам і ўкормленасцю, здаецца, што яму тры гады, а не дзесяць месяцаў, як тое ёсць насамрэч. […]

10. Муж мой і пан маркіз дэ Лаферанэ абедалі ў пана дэ Вагюэ. Пасля яны былі разам з візітамі і [потым] далучыліся да мяне. Я даехала з імі на сваёй карэце да тэатра, там іх высадзіла. Потым зрабіла некалькі візітаў і вярнулася ў тэатр. […]

11. Была на воднай прагулянцы з панам маркізам дэ Лаферанэ, маёрам панам Аж'е і іншымі афіцэрамі Каралеўскага палка.

Той жа маркіз дэ Лаферанэ распавёў мне два даволі прыемныя анекдоты. Першы пра тое, як пан дэ Рышэльe[153] прапаноўваў свае паслугі каралю ў прысутнасці каралевы, а той адказаў яму толькі: «Гляньце на каралеву, пан маршал».

Другі — пра каралеву, якая вельмі хоча мець дзяцей, сказала сваім дамам, смуткуючы, што ў яе няма больш на тое ніколі надзеі. Адна з яе дам адказала, што трэба верыць у Наканаванне, якое дасць ёй іх. Але на тое яна адказала: «Не існуе Наканавання для каралевы Францыі».

12. Прыехаў прынц Луі[154] між шостай і сёмай гадзінамі раніцы. Заставаўся толькі каля гадзіны, спяшаючыся з Вены да Парыжа ўночы і ўдзень. Папрасіў у мяне дазволу зайсці ў ботах, але я толькі што ўзнялася і таму перадала яму свае перапрашэнні за тое, што не змагу яго прыняць. Я параіла пану Сапегу яго прыняць. Ён, здаецца, быў удзячны за такія знакі ўвагі і запытаў у майго мужа, якія ёсць навіны аб Польшчы. Той адказаў, што па-ранейшаму дрэнныя, тады ён працягнуў: «Хутка будзеце мець добрыя, бо аўстрыйскі двор расплюшчыў вочы на падазроныя захады караля Прусіі і стане гарой за вас». Потым запытаў, ці ёсць у нас прадстаўнік у Парыжы. Муж мой адказаў, што граф Вельгорскі па-ранейшаму там. Ён запэўніў, што будзе шукаць сустрэчы з ім.

---

153 Луі Франсуа Арман дэ Віньро дзю Плесі, герцаг Рышэльe (1696–1788), маршал Францыі (1748–1788).

154 Луі Рэнэ Эдуар, прынц дэ Раган-Геменэ (1734–1803), пляменнік кардынала Луі Сэзара Канстантэна дэ Рагана, амбасадар Францыі ў Вене (1772–1774), біскуп-каад'ютар Страсбургскі (1759–1779), кардынал (1778) і біскуп Страсбургскі (1779). Галоўны фігурант справы аб калье каралевы, у сувязі з якім у 1785–1786 гадах быў у Бастыліі.

Гэтая навіна, якой бы добрай ні была, выклікае ў мяне недавер, бо не магу зразумець, як прынц у сваім абавязку мог сказаць такое. Мне падаецца, што такія словы для амбасадара роўна падазроныя і паспешлівыя.

У гэты ж дзень прагулялася з панам маркізам дэ Лаферанэ па мальцхаймскім лесе, дзе яшчэ не была.

13. Прыехаў пан Лапускі[155], радца чарнігаўскі. Ён быў разам з князем Радзівілам і яго сястрой пані Мараўскай[156]. Князь сеў на карабель да Канстанцінопаля, а ён паехаў з [ягонай] сястрой з Венецыі да Рыма. Пакінуў яе, каб скончыць тут сваё навучанне. Пані Мараўская накіравалася да Вены, адкуль вернецца ў Польшчу.

Пан маркіз дэ Вагюэ завітаў да мяне з візітам і паведаміў, што рускія былі разбіты туркамі і з другога боку бунтаўшчыкамі, аднак ніякіх падрабязнасцяў на гэты конт дадаць не здолеў.

14. Пан маркіз дэ Лаферанэ развітаўся са мной пасля абеду і вярнуўся ў Люнэвіль.

Пан Сухадольскі, дарадца холмскі, які знаходзіцца тут нейкі час, перадаў мне ліст з Люцэрна такога зместу. Паведамляюць яму, што падчас побыту князя ваяводы віленскага ў Венецыі з'явілася нейкая панна[157], высокая і ладная постаццю, прыгожая тварам, светлая розумам, размаўляючы на розных мовах, а больш за ўсё па-ангельску. Хавала сваё імя і сваё паходжанне, гадоў ёй павінна быць каля трыццаці. Спачатку называлася палячкай і баранесай. Пазнаёмілася з князем і іншымі палякамі, якія прыйшлі з цікаўнасцю на яе паглядзець. Князь часта вяртаўся потым да яе і паведаміў ёй пра свой праект падарожжа ў Турэччыну. Яна яго ўхваліла і даверліва паведаміла, што таксама ў тую краіну едзе. У той момант, як князь наважыўся распачаць падарожжа, але грошай на яго не меў, тая аддала яму свой кашалёк. Даведаліся, што за некалькі дзён да яе ад'езду яна атрымала па пошце вэксаль на вельмі значную суму. Яе світа складалася з камергера, двух неграў і дзвюх пакаёвак. 18 чэрвеня яна і князь селі на два караблі, што плылі ў Рагузу. Настойліва просячы князя не марнаваць час і не адкладваць падарожжа, яна ўспрацівілася, каб ён узяў свой гарэм, які падарожнічае з ім, і прымусіла яго пакінуць усіх тых хамак у Венецыі. У момант адплыцця яна адправіла свайго камергера з дзвюма дэпешамі, але невядома куды.

Я запыталася ў пана Лапускага, які прыехаў адтуль, і ён мне тое пацвердзіў, дадаўшы пад вялікім сакрэтам, што яна даверылася князю, сказаўшы, што яна спадкаеміца трона расійскага. Яна прэзентавала князевай сястры шмат рэдкіх і каштоўных рэчаў з найноўшай гісторыі.

15. Працавала цэлы дзень, не выходзячы са сваіх пакояў, бо крыху запусціла свае справы, якімі не магла займацца ўсе гэтыя дні, калі ў мяне быў маркіз дэ Лаферанэ. Я была вымушана заўсёды падтрымліваць яму кампанію, паколькі ягоны прыезд сюды быў цалкам праяўленнем ветлівасці ў адносінах да нас і паколькі ён не мае тут ніякіх знаёмцаў.

Вечарам прымалі ў сябе асоб з нашай звыклай сябрыны. Пан дэ Брук паведаміў мне, што адносіны паміж Англіяй і Іспаніяй заблытваюцца. Апошняя з дзяржаў патапіла два караблі іншай за карабель, які англічане ў яе захапілі. Ён дадаў мне, што пан д'Аранда хадайнічае аб дапамозе Францыі.

---

[155] Антоні Лапускі (1747–1785), радца чарнігаўскі Барскай канфедэрацыі, перакладчык з французскай.

[156] Тэафілія Канстанцыя з Радзівілаў Мараўская (1738–1807/1818), з 1764 года жонка Ігнацыя Фелікса Мараўскага (гл. зноску 160). Апублікаваны дыярыуш яе еўрапейскага падарожжа 1773–1774 гадоў: Morawska, Teofila Konstacja. Diariusz podróży europejskiej w latach 1773–1774. Wstęp i oprac. Bogdan Rok. Wrocław: Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, 2002.

[157] Авантурыстка, вядомая ў гісторыі як княжна Тараканава (пам. 4/15.12.1775), прэтэндэнтка на расійскі трон.

16. Мела ў сябе на вечары вялікую колькасць асоб, сярод іншых герцага дэ Мэльфора[158], палкоўніка ў штабе правансальскіх войскаў. Ён прыехаў сюды для навучання і быў мне прадстаўлены панам дэ Росі, якому быў рэкамендаваны ягоным кузэнам інспектарам.

Гэта хоць і малады чалавек, але разважае разумна. Ён фанабэрысты і шляхетны духам, што набліжае яго да характару сваёй нацыі, паколькі ён ірландзец. Ягоная сям'я была адной з прыхільніц Прэтэндэнта[159], якія выехалі да Францыі. Яго добра ведала пані дэ Тальмон, ён часта бываў у яе, ягоны дзядзька мілорд Трумон [Драманд] быў яе блізкім сябрам. Малады чалавек папрасіў дазволу заходзіць да мяне на вечары. Ён крыху мой родзіч па лініі Сцюартаў.

17. Атрымала ліст ад пана Мараўскага[160], які знаходзіцца з маладым князем Радзівілам[161] у Мангейме. Ён паведаміў мне, што князь ваявода віленскі быў атакаваны двума расійскімі караблямі каля порта Катар, але восем узброеных чоўнаў таго ж самага порта зараз жа падышлі яму на дапамогу і без небяспекі высадзілі князя на бераг. Але ўсё роўна той быў сур'ёзна напужаны.

18. Пан кардынал, вярнуўшыся са Швейцарыі да Савэрна чатырнаццатага, даслаў да мяне тэрмінова кур'ера з паведамленнем, што ён прыязджае сюды заўтра на абед, на які запрашае мяне. Тое будзе невялікае нечаканае падарожжа, якое ён робіць дзеля біскупа Блуаскага[162], свайго сябра, які прыехаў яго адведаць і хоча ўбачыць горад Страсбург.

19. Пан кардынал прыехаў каля палудня, я абедала з ім. Ён засведчыў мне свае самыя лагодныя сяброўскія пачуцці пры першай сустрэчы. Я трымала яму кампанію цэлы дзень. Ён забараніў прымаць з візітам, не жадаючы прымаць вялікую колькасць асоб, ён разлічвае вярнуцца ў Савэрн заўтра. Між тым абед складаўся з шаснаццаці асоб, большай часткай святароў, я была адзінай жанчынай. Ён бавіў вечар у малым коле нашай сябрыны, прыйшлі генерал д'Энвільe, пан дэ Росі, герцаг дэ Мэльфор і некалькі іншых.

Я запыталася ў пана кардынала, з якой нагоды прынц Луі так спяшаўся, што праязджаючы праз Савэрн, не дачакаўся ягонага вяртання са Швейцарыі. Ён мне адказаў, што таму было вельмі важна як мага хутчэй прыбыць да двара, каб працаваць з каралём самнасам да прыезду пана дэ Вержэна. […]

20. Узняўшыся вельмі рана, працавала над сваёй поштай. Спусцілася да пана кардынала каля адзінаццатай гадзіны, ён абедаў у князя Латарынгскага, таксама як і пан Сапега. Ён развітаўся са мною, маючы жаданне адразу пасля стала вярнуцца ў Савэрн. Ён настойліва прасіў мяне як мага хутчэй прыехаць да яго ў Савэрн. Зрабіць тое я ніяк не магу, толькі калі пані дэ Барэгар захоча адкласці свой ад'езд у Люнэвіль, бо не магу пакінуць свайго сына тут аднаго, калі яна з'едзе.

21. Атрымала ліст ад пана Жэрара, якім ён мне паведамляе, што пан Макраноўскі[163] павінен хутка прыехаць у Францыю, каб тут жыць. […]

22. Атрымала ліст ад пана Богуша, які кажа мне, што ён атрымаў ліст ад пана Вельгорскага, які яму паведамляе аб прыбыцці Хамінскага ў Парыж па справах гра-

[158] Джэймс Луіс Драманд, герцаг дэ Мэльфор (1750–1800).

[159] Чарльз Эдвард Сцюарт (1720–1788), вядомы як «малады Прэтэндэнт», праўнук караля Рэчы Паспалітай Яна Сабескага, прэтэндэнт на англійскі, шатландскі і ірландскі троны ў 1766–1788 гадах, каханак прынцэсы дэ Тальмон.

[160] Ігнацы Фелікс Мараўскі (1744–1790), швагер князя Станіслава Караля Радзівіла, генерал-маёр (1768), генерал-лейтэнант войска ВКЛ (1783), пісар вялікі ВКЛ (1783–1787).

[161] Князь Геранім Вінцэнт Радзівіл (1759–1786), прыродны брат Станіслава Караля Радзівіла, староста мінскі (1783–1786).

[162] Шарль Жыльбер дэ Мэ дэ Тэрмон (1712–1776), біскуп Блуаскі (1753–1776).

[163] Анджэй Макраноўскі (1713–1784), генерал-маёр французскага войска (1754–1762), генерал-лейтэнант войск каронных (1759), ваявода мазавецкі (1781).

фа Агінскага. [Піша], што ў лісце не можа пасвяціць ва ўсе інтрыгі, якія распачаты. Яго прыслаў Штакельберг[164]. Кароль[165] замешаны ў гэтую інтрыгу, ён хоча да таго ж, каб Тызенгаўз[166] атрымаў пасаду вялікага падскарбія, а Штакельберг жадае яе для князя Міхала Радзівіла[167]. Таму Штакельберг, баючыся, каб кароль яго не падмануў, прапаноўвае графу Агінскаму адмовіцца ад сваёй пасады і запэўнівае ва ўсялякіх міласцях і выгодах, якія яму гарантуе асабіста. У Пецярбург быў адасланы кур'ер атрымаць апошнія загады імператрыцы ў адносінах да гетмана, які цвёрда трымаецца свайго рашэння і гатовы адмовіцца ад выгод, прапанаваных панам Штакельбергам, абы захаваць сваю пасаду. Ён і мой брат[168] на гэты конт праз лісты кінулі адзін аднаму нешта накшталт выкліку.

25. Абедала ў барона Вюрмзэра[169] ў вельмі вялікай кампаніі і дамовілася з прынцэсай Гагенцолерн, панам і пані дэ Лор ехаць разам на наступным тыдні ў Савэрн. […]

27. За дзень не даведалася нічога новага. Вельмі была незадаволена сваім здароўем. Ад цяжкай спёкі, якая стаіць зараз, павялічылася мая немач. Паны Росі, Брукс і Аж'е прыехалі да мяне ўвечары, як звычайна. Я папрасіла ў іх дазволу акунуцца ў купель, што яны не толькі ўхвалілі, але і самі вырашылі зрабіць тое, і мы разам вырушылі ў парк Кантада.

31. Бжастоўскі, кашталян полацкі[170], тут праездам з Парыжа ў Баварыю. Ён разлічвае спыніцца на некалькі дзён праз непрыемны выпадак, які здарыўся з ім, а менавіта праз тое, што ён згубіў у дарозе свае валізы з паперамі і лістамі, якія яму былі давераныя ў Парыжы. Ён спадзяецца, што іх знойдзе які-небудзь кур'ер, бо ён пра тое ласкава прасіў усіх, каго сустрэў па дарозе сюды.

1 жніўня. Той самы пан Бжастоўскі паведаміў мне, што граф д'Артуа знаходзіцца пад арыштам за размовы пра няміласць паноў герцагаў Арлеанскага[171] і Шартрскага[172]. Да таго ж ён даверліва распавёў мне пра парады, якія даў Шылю, каб той атрымаў грошы ад ягонага дзядзькі гетмана Агінскага. Ён [параіў] ягонаму крэдытору пагражаць таму выклікам на двубой. Такі сродак, падказаны мілым пляменнікам, не мог не зрабіць уражання, і Агінскі, прызнаўшы запазыку ў тры тысячы пістоляў, часткова задаволіў свайго крэдытора і даў яму гарантыю на рэшту сумы, якую павінен заплаціць у Польшчы.

2. Атрымала ліст ад сястры маёй, якая паведамляе мне пра сваё прыбыццё ў Семятычы[173]. Яна кажа мне, што сустрэла па дарозе нявестку майго мужа ваяводзіну Сапегу[174],

---

164 Барон Ота Магнус Штакельберг (1736–1800), амбасадар Расійскай імперыі ў Варшаве (1772–1790).

165 Маецца на ўвазе апошні кароль Рэчы Паспалітай (1764–1795) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1732–1798).

166 Граф Антоні Тызенгаўз (1733–1785), староста гарадзенскі і падскарбі надворны літоўскі ў 1765–1780 гадах.

167 Князь Міхал Геранім Радзівіл (1744–1831), мечнік вялікі літоўскі (1771–1775), кашталян віленскі (1775–1790).

168 Князь Аляксандр Міхал Сапега (1730–1793), прыродны брат княгіні Тэафіліі Сапегі, ваявода полацкі (1754–1775), гетман польны літоўскі (1762–1775), канцлер вялікі літоўскі (1775–1793).

169 Крысціян Луі, барон дэ Вюрмзэр, генерал-лейтэнант французскіх войскаў (з 1762).

170 Да 1776 года пасаду займаў Адам Бжастоўскі, а не ягоны сын Міхал, як піша княгіня Сапега (гл. зноску 119).

171 Луі Філіп Арлеанскі (1725–1785), герцаг Арлеанскі (1752–1785), першы прынц крыві.

172 Луі Філіп Жазэф Арлеанскі (1747–1793), герцаг Шартрскі (1752–1785), прынц крыві.

173 Цяпер мястэчка ў Падляскім ваяводстве ў Польшчы, недалёка ад мяжы з Беларуссю. З 1758 да 1800 год — маёмасць княгіні Ганны з Сапегаў Ябланоўскай, у якой яна зладзіла знакаміты музей натуральнай гісторыі.

174 Княгіня Тэрэза з Суфчыньскіх Сапега (каля 1744–1827), жонка ваяводы смаленскага (1791–1793) князя Францішка Ксаверыя Сапегі (1741/1746–1808).

з якой доўга спрачалася. Яна прымусіла тую прызнаць за сабой праўду амаль па ўсіх пунктах. Тая запытала ў маёй сястры, ці напіша муж мой прашэнне аб памілаванні, на што яна адказала, што не пасуе годнаму чалавеку такое рабіць, і запытала ў сваю чаргу, што б тая сама рабіла ў падобным становішчы. Тая пагадзілася, што дзейнічала б такім самым чынам.

Мне паведамляюць з Польшчы, што Браніцкі яшчэ не вярнуўся з Пецярбурга, што ён чакае там адказаў венскага двара, а таксама прускага, на лісты імператрыцы расійскай. Тая аб'явіла гэтым двум дварам, што не хоча ўвогуле нічога слухаць пра поўны падзел Польшчы і што яна ў апошні раз пытаецца іх канчатковага адказу на гэты конт. Але між тым імператар дзейнічае па-свойму, захапіўшы частку ваяводства Валынскага і цалкам Падолле, а кароль Прусіі са свайго боку захапіў два іншыя ваяводствы, Вроцлаўскае і Куяўскае. Ідзе зараз буйная спрэчка аб Камянцы[175].

4. Даведалася з ліста, які атрымала толькі што ад маёй сястры, што Браніцкі, больш верны каралю, чым сваёй названай, адной з маіх пляменніц, дачок ваяводы пазнанскага Ябланоўскага[176], закахаўся моцна ў Пецярбургу ў паненку Мацюшкіну, якая павінна быць прыгожай асобай, пляменніцай самога пана Паніна[177].

5. Атрымала пэўныя навіны, якія паведамляюць, што імператар пасля таго, як аваладаў усім Падоллем, загадаў сваім войскам ісці на Валахію, ад чаго неўзабаве вырашыцца лёс Камянца.

Мне дадаюць, што новыя законы абвешчаны ў Львове і што ніякай не патрабавалі прысягі, акрамя як ад тых асоб, што займаюць якія-небудзь судовыя пасады. Ад гэтага часу будзе скасавана права на пажыццёвае ўладанне пасля смерці ўдоваў, якія цяпер карыстаюцца гэтым прывілеем.

6. Прыехаў пан граф Машчынскі, сын ваяводы інаўроцлаўскага[178], з намерам правесці стала год у Швейцарыі. Гэта малады чалавек, вельмі разважлівы, з меркаваннямі справядлівымі. Я мела першае знаёмства з ім у свой побыт у Гданьску. Тады ён вяртаўся са свайго падарожжа па Францыі, Англіі і Італіі з маім стрыечным братам нябожчыкам Юзафам Велапольскім, старостам ланцкаронскім. Даверыўся мне, што мае найвялікшае жаданне паехаць ўслед за князем ваяводам віленскім у Турэччыну і яшчэ не адмовіўся ад гэтай задумы, дадаўшы, што мог бы яшчэ здзейсніць яе, прабавіўшы колькі месяцаў у Швейцарыі.

7. […] Мела ўвечары гасцей, і ў момант, калі ўсе збіраліся разыходзіцца, мы пачулі на тэрасе сэрэнаду, якую гралі для мяне з нагоды майго дня нараджэння, пра які пан Сапега распавёў сваім сябрам. Гралі музыкі Карсіканскага легіёна, і праз нейкі час з'явіўся сам выканаўца сэрэнады з букетам. Гэты галантны ўчынак зрабіў адзін з маіх суайчыннікаў пан Цяглінскі, капітан таго ж самага палка. Пакуль я слухала гэтую сэрэнаду, прыйшлі паведаміць мне, што ў двары сабралося яшчэ больш музыкаў і граюць іншую сэрэнаду. Я прайшла ў пакой, які выходзіць вокнамі на двор, каб праслухаць і гэтую. Сапраўды сабраліся ўсе музыкі Ангальтскага палка, якіх прывёў пад мае вокны пан барон дэ Брос. Гэты малады афіцэр служыць капітанам у Ангальтскім рэгіменце, вызначаецца радавітасцю, і заможнасцю, і вялікай прываблівасцю, грае цудоўна на розных інструментах і яшчэ мае шмат розных талентаў. Мы не так даўно з ім пазнаёміліся, бо яго рэгімент нядаўна з'явіўся тут.

175 Цяпер Камянец-Падольскі, горад у Хмяльніцкай вобласці Украіны.

176 Князь Антоні Барнаба Яблаоўскі (1732–1799), ваявода пазнанскі (1765–1778), кашталян кракаўскі (1782–1795).

177 Граф Нікіта Пятровіч Панін (1718–1783), фактычны кіраўнік замежнай палітыкі Расіі ў 1762–1783 гадах.

178 Анджэй Машчэньскі (1717–1783), кашталян (1754–1764) і ваявода (1764–1783) інаўроцлаўскі. Дакладных біяграфічных звестак пра сыноў А. Машчэньскага няма.

8. Мелі на абедзе каля дваццаці асоб, пасля абеду прыйшлі да нас амаль удвая больш бавіць з намі ўвесь дзень. Усе шэфы рэгіментаў былі сярод іх і шмат яшчэ якія з афіцэраў. Пасля абеду склаліся партыі, а тыя, хто не пажадаў гуляць, таньчылі. Кампанія толькі павялічвалася, а не змяншалася бліжэй да вечара. Музыка двух рэгіментаў, [Карсіканскага] легіёна і Харвацкага палка, прыбыла граць падчас абеду і зладзіла гэты нечаканы баль. Каля шасці гадзін вечара мы выйшлі на прагулянку з усёй кампаніяй, каб пракаціцца на звязаных паміж сабой і падрыхтаваных для нас чоўнах. Музыка і лёкаі адплылі раней за нас на трэцім чоўне. Мы высадзіліся на праменадзе ў Руберсо, гулялі і таньчылі на траве да самага змяркання, потым вярнуліся пры святле паходняў. Вяртаючыся, бачылі на мастах, пад якімі праплывалі, такія вялікія натоўпы, што ледзьве не абрушвалі тыя масты нам на галовы. У той момант, як мы высадзіліся, музыка артылерыйскага палка дала нам знак, што феерверк падрыхтаваны. Я распаліла агонь, відовішча атрымалася на задавальненне безлічнаму натоўпу гледачоў. Павячэралі садавінай і лёгкімі стравамі і разышліся пасля поўначы, ні на хвіліну не адчуўшы маркоты ці змены ў вясёлым настроі нашай сябрыны.

9. Атрымала ліст ад пана Богуша, якім ён паведамляе мне пад самым вялікім сакрэтам, што пан Пац праінфармаваў яго наконт той панны, якая далучылася да князя Радзівіла ў Венецыі. Яго запэўнілі, што гэта дачка імператрыцы Лізаветы ад яе законнага шлюбу з Разумоўскім[179] і сястра самога Пугачова, які ачольвае бунтаўшчыкоў, сына той жа імператрыцы ад таго ж шлюбу. Яна едзе ў Турэччыну заявіць свае і свайго брата прэтэнзіі на трон і вязе з сабою ў тую краіну сведкаў законнага шлюбу паміж Лізаветай і Разумоўскім.

10. Выехалі надвячоркам да Савэрна. Кур'ер, які выехаў загадзя, крыху ўсхваляваў пана кардынала ў сувязі з нашым прыездам. Яму не цярпелася нас убачыць, таму даслаў нам насустрач да бліжэйшай паштовай станцыі. Мы прыбылі а дзясятай гадзіне вечара, ён ужо даў загад падрыхтаваць нам вячэру. Заспелі пана д'Юнальстэйна[180], кавалерыйскага палкоўніка Шартрскага рэгімента з ягоным маёрам панам Аргюфам, якія павінны заўтра з'ехаць у Страсбург. Такім чынам, нікога з чужынцаў не будзе, акрамя дамашняй абслугі і дзвюх паннаў, якія звычайна жывуць у пана кардынала, старой пані дэ Клінглін і пані дзю Пантуа, сястры той, якая была з прынцэсай дэ Рашфор, высланай год таму са двара курфюрста[181] ў Мангейме за надта добра вядомую ў свеце прыхільнасць да адной асобы пры тым двары, якую прыхільнасць пані курфюрстына[182] не адобрыла.

11. Пан кардынал, увесь час заняты тым, каб забаўляць нас у сябе, прапанаваў мне прагулянку ў карэце і паляванне на зайцоў, і такім чынам прабавілі вельмі прыемна час пасля абеду. […]

13. Атрымала з Мангейма дзённік навігацыі князя Радзівіла з Венецыі да Рагузы. […] Дзень прайшоў амаль гэтаксама, як учора, з прагулянкай і паляваннем.

14. Мелі на абедзе пані дэ Вагюэ, і пана і пані дэ Флаксланд, і трох братоў Шэно. Яны развіталіся з кардыналам каля шостай гадзіны. Той пасля іх сыходу пажадаў быць са мною на паляванні, таксама як пані дзю Пантуа. Вярнуўшыся з палявання, пайшла на доўгую прагулянку ў гай адна з кнігай. Па змярканні мусіла вярнуцца да кампаніі. […]

---

179 Граф Аляксей Рыгоравіч Разумоўскі (1709–1771), фаварыт расійскай імператрыцы Лізаветы Пятроўны ў 1730–1740 гадах. Дакументальныя сведчанні пра шлюб Разумоўскага і імператрыцы цяпер невядомы.

180 Граф Філіп Антуан Фогт д'Юнальстэйн (1750–1831), палкоўнік кавалерыйскага Шартрскага рэгімента (1774–1784), брыгадны генерал (1784–1788), генерал-маёр (1788–1789).

181 Карл Філіп Тэадор (1724–1799), курфюрст пфальцскі (1742–1777), курфюрст і герцаг баварскі (1777–1799).

182 Лізавета Аўгуста Зульцбахская (1721–1793), курфюрстына пфальцская, курфюрстына і герцагіня баварская.

15. Дзень прайшоў гэтаксама, як учора. […]

Атрымала ліст ад сястры маёй з Семятычаў, якая паведамляе мне аб сваім прыбыцці і аднačасова кажа, што мусіла збегчы адтуль праз надта шкодную пошасць, занесеную рускімі. Яна паслала па лекара, каб дапамагчы жыхарам, і сама выправілася ў дарогу да Коцка[183] з намерам спыніцца там.

16. Сястра мая падае навіны ў момант прыбыцця да Коцка. Яна суцяшае мяне наконт свайго здароўя, якое пахіснулася ад злога паветра Семятычаў. […]

Была на прагулянцы ў гаі разам з пані дзю Пантуа каля адзінаццатай гадзіны, у той час, калі пан кардынал зачыняецца [у пакоі]. Пан Машчынскі, барон д'Абэркірх[184], абат Грандзідзье[185] і абат Габардзіні былі з намі нейкі час, калі мы толькі выйшлі. Пан кардынал вырашыў пажартаваць з нас, загадаўшы падняць масты і сказаўшы сваім людзям, каб не пускалі нас, як чужынцаў, якім у такі час няма ходу ў дом. Толькі прамарнаваўшы нас так нейкі час, дазволіў нам зайсці.

17. Атрымала ліст ад пана дэ Росі, якім ён мяне папярэджвае, што яго капітан пан Цяглінскі, вярнуўшыся з Імеліна, сказаў яму, што пан барон Вьёмэніль[186] едзе наўмысна са Страсбурга ўбачыцца са мной, і такім чынам [пан дэ Росі] раіць мне адаслаць чалавека на паштовую станцыю ў Саврн папярэдзіць яго, што я знаходжуся тут. Я зараз жа так і зрабіла, але прайшла ўжо чвэрць гадзіны, як ён праехаў.

Пан барон дэ Брос раніцай прыслаў сказаць мне, што ўжо прыехаў, і запытацца, а якой гадзіне ён мог бы завітаць да мяне. Паколькі ўжо была апранутая, то прасіла казаць, што чакаю яго. Пан Сапега спусціўся, каб прадставіць яго пану кардыналу. Папалудні пайшла на паляванне, са мною былі паны дэ Брос і д'Абэркірх. Увечары таньчылі да поўначы, потым гулялі ў лёгкія гульні амаль да трох гадзін, усе вельмі весяліліся і нават не заўважалі, што было так позна. Пан кардынал насуперак сваёй звычцы не спаў да поўначы і, здаецца, вельмі цешыўся з забавак нашай сябрыны.

18. Раніцай была на прагулянцы ў гаі разам з баронам дэ Бросам і панам Машчынскім. Сустрэлі там пана кардынала, якому мы падтрымлівалі кампанію ажно да часу, калі трэба было вяртацца, гэта значыць да абеду. Як выйшлі з-за стала, карэты ўжо былі запрэжаныя. Я развіталася з панам кардыналам і паехала назад у Страсбург, а ён у той жа час сеў у карэту і накіраваўся ў Мюцыг[187], ласкава мяне запрасіўшы далучыцца да яго ў першыя дні тыдня. Я яму тое паабяцала, тым больш што на дзень святога Людовіка прыпадаюць ягоныя імяніны. Як мы выправіліся ў дарогу, лёкай пана Машчынскага прымусіў нас спыніцца, бо ўспомніў, што забыўся на куфэрак свайго гаспадара. Тым часам нас нагнаў пан кардынал і, наблізіўшыся да маёй карэты, ласкавымі словамі запрасіў мяне заняць месца ў яго карэце і ехаць з ім да Мюцыга. Я дала яму слова далучыцца да яго, як толькі буду мець магчымасць, і на гэтым мы раз'ехаліся. У карэце з намі быў барон дэ Брос, якому мы саступілі месца. Калі прыбылі ў Страсбург, усе нашыя знаёмыя прыйшлі нас адведаць і правесці з намі вечар, сярод іх і генерал Збаінскі, які чакаў некалькі дзён нашага вяртання. Разышліся апоўначы.

---

[183] Цяпер горад у Любельскім ваяводстве Польшчы. Як і Семятычы, маёмасць княгіні Ганны Паўліны Ябланоўскай.

[184] Найверагодней, Шарль Зігфрыд, барон д'Абэркірх (1735–1797), капітан рэгімента Цвайбрукен, каралеўскі намеснік у Старсбургу (1788).

[185] Філіп Андрэ Грандзідзье (1752–1787), святар, аўтар шматлікіх прац па гісторыі Эльзаса, пратэжэ кардынала дэ Рагана.

[186] Антуан Шарль Дзюу, барон дэ Вьёмэніль (1728–1792), генерал-маёр (1769), у 1771–1772 гадах знаходзіўся ў Рэчы Паспалітай, браў удзел у баявых дзеяннях на баку Барскай кафедэрацыі.

[187] Невялікі горад у Эльзасе за 30 кіламетраў на захад ад Старсбурга і 30 кіламетраў на поўдзень ад Саврна.

19. Атрымала ліст ад сястры, у якім яна мне піша шыфрам, што сям'я Чартарыскіх высунула двух шэфаў, князя маршалка Любамірскага[188] і князя Адама Чартарыскага, якія мусяць прапанаваць сябе Францыі і Аўстрыі, каб звергнуць Панятоўскага і абраць эрцгерцага Максіміліяна[189] каралём Польшчы. Яны не адважваюцца самі прапанаваць свае паслугі Францыі, баючыся, што не будуць выслуханы, і карыстаюцца для гэтага паслугамі Хамінскага. Перадаюць гэты праект праз яго як нібыта ім самім складзены з інструкцыямі зрабіць намаганне дабіцца да яго прыязнасці з боку Вельгорскага і Агінскага. Гэта адзіная мэта цяперашняга ваяжу таго эмісара ў Францыю. [Сястра] дадае, што трэба папярэдзіць як мага хутчэй Паца, каб перашкодзіць [гэтаму плану]. […]

20. Дайшоў да мяне іншы ліст ад маёй сястры, якім яна мне паведамляе, што зрабіла маёго сына спадкаемцам усіх нашых земляў, мяркуючы такім чынам выратаваць [нас] ад праследаванняў. Дадае мне шыфрам, што пані ваяводзіна, нявестка мужа майго, пад сакрэтам піша ёй, што ваяводства Віленскае будзе ў князя Радзівіла аднята і перададзена Агінскаму, а пасада гетмана літоўскага дастанецца нашаму брату. Усё гэта робіцца на загад Расіі; што канфіскацыя зямель канфедэратаў адкладзена толькі на два тыдні і што за гэты час замежныя двары складуць пастаянную раду.

21. Былі ў нас на абедзе паны Збаінскі і Машчынскі. З гутаркі з першым пра розныя справы даведалася я, што граф Вельгорскі напісаў графу Пацу пра сваю размову з князем Барацінскім[190]. Ад яго даведаўся ён, што імператрыца расійская не хоча нічога чуць аб другім падзеле Польшчы і што яшчэ дадаў той, што паведаміў бы і больш, калі б мог размаўляць з ім як сябар, а не як амбасадар. […]

22. Пан Богуш паведамляе мне, што чуткі абвяшчаюць, нібы каралева зацяжарыла, і што пан дэ Вержэн, як толькі заняў пасаду, адаслаў па нейкага пана Дзюрываля[191], якога раней выдалілі з бюро замежных спраў. Пан кардынал мне паведаміў тое самае падчас майго побыту ў Савэрне, сцвярджаючы, што пан дэ Вержэн зрабіў гэтага пана Дзюрываля сваім давераным сакратаром. […]

23. […] Дадаюць таксама, што пан Браніцкі, зладзіўшы ў гонар сваёй прыгажуні ў Пецярбургу свята, якое каштавала яму велізарную суму, напісаў у Варшаву з просьбай прысладзь яму грошаў і што ў той жа час сама імператрыца запатрабавала, каб ён быў адазваны з прычыны гнюснай гісторыі, якая здарылася ў дзень таго свята. Напіўшыся па сваім звычаі, ён даў аплявуху прыдворнаму перакладчыку з усходніх моў. Той вярнуў яму аплявуху зараз жа, сказаўшы, што цяпер яны цалкам квіты.

Сцвярджаюць, што аўстрыякі згубілі васямсот чалавек пад Камянцом, калі хацелі сілай узяць яго ў войскаў польскіх, якія абаранялі горад. Дадаюць, што былі яны не больш шчаслівыя і пад Палонным[192], адкуль хацелі прагнаць рускіх.

Была здзіўлена сёння прыбыццём пана кардынала, якога павінна была ехаць адведаць заўтра ў Мюцыгу. Сустрэла яго ў асабняку, калі вярнулася з купелі. Ён сказаў мне, што прыехаў па мяне, каб быць заўтра разам на абедзе ў прынцэсы Крысціны; што будзе паслязаўтра абедаць у Сімэры [семінарыі] і, не маючы жадання нікога прымаць у сябе ў дзень сваіх імянін, хоча ўзяць мяне ў той жа дзень з сабою ў Мюцыг.

188 Князь Станіслаў Любамірскі (1722–1783), маршалак вялікі каронны (1766–1783), прыхільнік Фаміліі (магнацкай групоўкі, звязанай з княскай сям'ёй Чартарыскіх).

189 Максіміліян Франц Аўстрыйскі (1756–1801), эрцгерцаг, курфюрст і арцыбіскуп Кёльнскі (1784–1801).

190 Князь Іван Сяргеевіч Барацінскі (1738–1811), расійскі пасланнік у Парыжы (1774–1785).

191 Жан-Батыст Лютон Дзюрываль (1725–1810), сябра Каралеўскага таварыства навук і мастацтваў у Нансі, сакратар рады Станіслава Ляшчынскага, першы сакратар міністэрства замежных спраў Францыі (1766–1770).

192 Цяпер горад у Хмельніцкай вобласці ва Украіне.

Ён сказаў мне, што па-ранейшаму робяцца падкопы супраць каралеўскай сям'і і што ёсць два абаты, праз якіх яны [падкопы] робяцца. З партыі пані Адэлаіды абат Радонвілье[193] і з партыі каралевы адзін з яе чытачоў, на імя якога я забылася. Я добра ведаю першага, бачыла яго кожны дзень у кампаніі пані дэ Нарбон і пані [Адэлаіды], звонку падаецца вельмі разумным. Пра другога кажуць, што і яму розуму не займаць і што ён падаецца больш стрыманым і не так часта з'яўляецца ў свеце, як першы. Каралева ведала яго яшчэ ў Вене, дзе ім былі вельмі задаволеныя. […]

24. Замест таго каб ехаць з панам кардыналам да Брумта, з прычыны свайго хісткага здароўя, якое непакоіць мяне ўжо колькі дзён, і падазрэння на запаленне, якое з'явілася ў лекараў, мусіла зрабіць сабе кровапусканне. Папрасіла пана Сапегу паехаць з панам кардыналам замест сябе. Той хацеў зайсці да мяне, але я пазбавіла яго клопату, адаслаўшы сказаць, што змагу з ім убачыцца толькі, як ён будзе вяртацца. Такім чынам, ён быў у мяне, як толькі вярнуўся. Тое стала прычынай, што ў сябе мела ўсе візіты, якія ён павінен быў прымаць, і безліч людзей ажно да дзясятай гадзіны вечара.

25. Апранулася на хвілінку, каб спусціцца да пана кардынала і павіншаваць яго з імянінамі. Адчувала такую млявасць, што ледзь на нагах трымалася. Было шматлюдна, я прабыла да таго часу, як ён сышоў абедаць у семінарыю, а я паднялася да сябе распрануцца і легчы на шэзлонг.

Вярнуўшыся са сваёй семінарыі, пан кардынал прыехаў мяне адведаць і развітаўся а пятай гадзіне, каб вярнуцца ў Мюцыг.

Атрымала ліст ад графа Вельгорскага, які паведамляе мне, што нарэшце здолеў убачыцца з пані дэ Нарбон, якая патлумачыла яму сваё маўчанне са мною вельмі нядобрымі прычынамі. Ён дадае, што біскуп Санліскі падтрымлівае яго шмат больш, што яна ўрэшце дала яму слова мне напісаць, але не раней, чым яе спадарыня пані Адэлаіда, якая, паводле яе словаў графу Вельгорскаму, па-ранейшаму ставіцца да мяне прыязна. Яна дадала да таго, што калі я маю жаданне засведчыць сваю павагу да пані, то самым спрыяльным часам будзе прамежак між двума выездамі двара, які застаецца на месцы да першага кастрычніка пасля вяртання з Камп'еня, але толькі ў тым выпадку, калі тое мяне не патурбуе. Напрыканцы пан Вельгорскі пытаецца ў мяне, ці павінен ён мне замовіць гатэль «Трэвіль», дзе сам ён будзе жыць з першага наступнага месяца. […]

27. Не выходзіла са свайго пакоя цэлы дзень, незадаволеная па-ранейшаму сваім здароўем. Працавала над сваёй заўтрашняй поштай. Увечары прымала візіты. Няма ніякіх навін, акрамя той, што пан дэ Брэтой быў прызначаны на пасольства ў Вену, але не захацеў той пасады і толькі падзякаваў.

28. Раніцай лекар не дазволіў мне выйсці ў царкву, але прапісаў прагулянку пасля абеду. Каля пятай гадзіны была на прагулянцы адна і ў карэце. […]

1 верасня. Пан маркіз[194] і пані маркіза дэ Нэль[195], якія прыехалі ўчора, прыслалі да мяне справіцца аб стане майго здароўя. Я адказала, што сама з'явілася б да пані падзякаваць, калі б не з'язджала хутка ў Мюцыг. Накіравалася туды каля пятай гадзіны. Нікога з чужынцаў у пана кардынала не заспела, акрамя пана графа д'Юнальстэйна, палкоўніка Шартрскага рэгімента.

Атрымала перад выездам са Страсбурга вельмі прыемны адказ ад пана біскупа Санліскага на апошні мой ліст да яго. Ён запэўнівае мяне, што пані дэ Нарбон не хавае ад пані Адэлаіды спачування, якое я выказвала падчас яе хваробы. Ён таксама патлумачыў маўчанне пані дэ Нарбон са мною не самымі добрымі прычынамі і сказаў, што двор

[193] Клод Франсуа Лізард дэ Радонвілье (1709–1789), сябра Французскай Акадэміі (1763), аўтар педагагічных трактатаў, выхавальнік дзяцей Людовіка XV.

[194] Луі Жазэф дэ Маі, маркіз дэ Нэль (1744–1810), генерал-маёр (1781) французскіх войскаў.

[195] Адэлаіда Юлія, маркіза дэ Нэль (1743–1783), у дзявоцтве д'Атфор.

павінен выехаць 15 кастрычніка да Фантэнбло, таму я магу прыехаць засведчыць сваю павагу пані на святога Марціна, калі сям'я мусіць вярнуцца, альбо ў прамежак між двума выездамі, калі гэта мне пасуе лепей.

2. На абед да пана кардынала сабраліся пан д'Аркамбаль, пан дзю Муцье[196], пан д'Аргюсоф і пасланнік маркграфа Бадэнскага барон д'Ідэльсхайм, які прыехаў весці перамовы аб мяжы за Рэйнам паміж землямі маркграфства і біскупства.

Каля шостай гадзіны вечара прагулялася ў карэце з пані дзю Пантуа і панам д'Абэркірхам. Увечары ніхто не застаўся: усе, хто быў на абедзе, з'ехалі да Страсбурга.

3. Пайшла на паляванне а шостай гадзіне раніцы з мужам маім і панам д'Абэркірхам. Вельмі цешылася з той колькасці дзічыны, якую ўбачыла, і мела прыемнасць самой падстрэліць двух зайцоў, трэцяга загнаў мой хорт. Яшчэ пяць забілі паляўнічыя.

Вярнуўшыся з палявання, сустрэла прынцэсу Гагенцолерн, якая прыехала сюды на пару дзён. Потым прыехалі пан дэ Блэр[197], пан дэ Росі, абат дэ Кэрпэн[198]. Пасля абеду была на прагулянцы разам з пані дзю Пантуа і панам дэ Росі. […]

Паліцыя парыжская перададзена ў рукі пана Ленуара[199], інтэнданта ліможскага. […]

4. Атрымала ліст ад пана дэ Сэн-Пры, амбасадара Францыі ў Турэччыне. Гэта адказ на мой ліст, які я напісала яму, адпраўляючы пакет для пана Ралана. Ён кажа мне, што князь Радзівіл яшчэ ў Рагузе і што ён зрабіў бы вельмі разумна, калі б далей не паехаў, асабліва цяпер, калі туркі заключылі мір[200]. Гэты ліст знішчыў канчаткова ўсе сумненні, якія маглі быць наконт гэтага злашчаснага прадпрыемства.

5. Раніцай развіталася з панам кардыналам. Дала месца ў сваёй карэце пані дзю Пантуа і пану дэ Росі, якія вяртаюцца ў Страсбург. Мы ўсе спыніліся ў пана Энберга на абед, куды я была запрошаная яшчэ некалькі дзён таму. У той жа вечар прыбыў пан кардынал, я засведчыла яму сваю павагу вельмі коратка, вельмі стаміўшыся за дзень і зусім незадаволеная сваім здароўем.

6. Са спагады да пана кардынала спусцілася, каб паабедаць з ім, але яшчэ горш сябе адчуваючы, чым учора. Пасля абеду ён з'ехаў да Мюцыга, а я пайшла ў свой пакой прылегчы.

7. Атрымала ліст ад сястры маёй, якім яна мне паведамляе, што пан Штакельберг спыніў дзейнасць сойма, атрымаўшы пошту з кур'ерам з Пецярбурга. Гэта падаецца тым больш дзіўным, што дамова, заключаная з туркамі не пакідае ім жадаць нічога лепшага, і што яны, як ніколі, здаецца, могуць вольна гаспадарыць і нішто не здольна ім замінаць.

Генерал Раманіус[201] аддаў загад паштмайстру варшаўскаму трымаць напагатове дваццаць чатыры фарэйтары, якія павінны абвесціць аб міры па прыбыцці Ільгельстрома[202],

196 Найверагодней, Шарль, граф дэ Муцье (1739–1801), падпалкоўнік кавалерыйскага рэгімента д'Артуа (1772–1776), генерал-маёр французскіх каралеўскіх войскаў (1781). Ягоны бацька, Луі Філіп Ксаўе, маркіз дэ Муцье (1707–1776), быў першым камергерам пры двары Станіслава Ляшчынскага ў Люнэвілі.

197 Луі Гіём дэ Блэр дэ Буазмон (1716–1778), каралеўскі інтэндант паліцыі, юстыцыі, фінансаў у Эльзасе (1766–1777).

198 Найверагодней, Гуга Франц Карл Аляксандр фон Кэрпэн (1749–1802), канонік майнцкага сабора, кампазітар.

199 Жан Шарль П'ер Ленуар (1732–1807), інтэндант парыжскай паліцыі (1774–1775, 1776–1785).

200 Маецца на ўвазе падпісаная 10/21.07.1774 Расійскай імперыяй і Асманскай Портай Кучук-Кайнарджыйская мірная дамова, якой скончылася руска-турэцкая вайна 1768–1774 гадоў.

201 Аўрам Іванавіч Раманіус (пам. не пазней 1798), генерал-паручнік расійскага войска (1771), у 1775 годзе ўзведзены ў шляхецкую годнасць каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім з дараваннем земляў у Ігуменскім павеце.

202 Барон Ота Генрых (Восіп Андрэевіч) Ігельстром (1737–1817), удзельнік руска-турэцкай вайны (1768–1774), генерал-паручнік (1774), граф Свяшчэннай Рымскай імперыі (1792), амбасадар Расіі ў Варшаве (1793–1794).

якога чакалі кожную хвіліну з умовамі пакта, але так яго і не дачакаліся дагэтуль, і загад паштмайстру быў скасаваны.

8. Сястра мая паведамляе мне, што пані Мараўская ўжо вярнулася. У гэты момант яна ў Варшаве, была праездам у Вене, дзе ўсе яе высока ацанілі, што пацвярджаецца ва ўсіх лістах.

9. Атрымала ліст ад князя Радзівіла ад 18 з Рагузы. Ён дасылае мне два ўрыўкі з лістоў, якія падрабязна распавядаюць пра поспехі туркаў у баях з ворагам. Па ўсім відаць, што ён яшчэ не ведае, які гаротны лёс іх напаткаў, бо няма больш ніякіх сумненняў, што ганебная дамова заключана.

10. Выйшла ў першы раз пасля таго, як некалькі дзён прабавіла ў пакоях, вельмі мала задаволеная сваім здароўем і цалкам няўпэўненая ў прычыне маёй немачы. Была на практыкаваннях Карсіканскага легіёна, якім камандаваў сам пан д'Аркамбаль; натхнёны прыкладам пана маркіза дэ Вагюэ, які прысутнічаў на раўніне, ён аддаў загад выказаць мне знакі гонару, калі рэгімент праходзіў маршам перад маёй карэтай.

Было вельмі багата людзей, шмат шэфаў іншых гарнізонаў правінцыі прыехалі паглядзець на манёўры.

Пакуль мы былі на раўніне, пан дэ Нэль, палкоўнік Каралеўскага рэгімента, прывёз нам навіну з горада, што паміж чацвёртай і пятай гадзінамі адчуваўся землятрус. Пан дэ Вагюэ заўважыў у той жа час на раўніне лёгкі падземны шум. Вярнуўшыся ў горад, мы даведаліся, што той землятрус насамрэч быў і што ўсе яго адчулі, нават у доме біскупства, які я займаю.

11. Атрымала навіны з Мюцыга, што прынц Луі прыбудзе 16 гэтага месяца, і з гэтай нагоды візіт, які думаў зрабіць пан кардынал у Верхні Эльзас, у гэты дзень не адбудзецца, хоць ён і жадаў зрабіць той візіт даўжэйшым.

12. Атрымала ліст ад сястры маёй. Яна паведамляе мне, што дамова заключана на нейкіх непрымальных умовах. Падрыхтаваныя святкаванні зусім не адбыліся, ніхто не гаворыць больш пра гэтую важную навіну і весялосць пераможнага войска змянілася на панурае маўчанне. Маці князя Радзівіла нядаўна страціла розум ад абыходжання з боку свайго сына.

Панінскі не дабіўся, як таго жадаў, пажыццёвага прызнання сваёй пасады. Ягоная прапанова была адхілена соймам, таксама як прапанова сакратара сойма ўзяць на сябе абавязкі маршалка ў выпадку ягонай адсутнасці, хваробы альбо смерці.

Сцвярджаюць, што па ўмовах пакта Малдавія і Валахія застаюцца ў туркаў і што некалькі рэгіментаў будуць стаяць лагерам, не разыходзячыся, як у часы вайны.

13. Прыехала пані дзю Пантуа з панам д'Абэркірхам і трыма абатамі са двара пана кардынала, скарыстаўшыся з яго адсутнасці ў Верхні Эльзас. Па ўсім відаць, што гэтая хеўра ўладкавалася ў мяне на дваццаць чатыры гадзіны на дзень, чым не можа мне не замінаць перад ваяжам, да якога я рыхтуюся. Увечары прымала шырокае кола: пан дэ Вагюэ з сынам, большасць палкоўнікаў з мясцовага гарнізона і да таго ж пан Беркіні[203], палкоўнік гусарскага рэгімента, які носіць ягонае імя, разам са сваім камендант-палкоўнікам, іншы палкоўнік драгунскі пан Маршо, граф Торбух і іншыя.

14. Была на практыкаваннях усёй гарнізоннай пяхоты, якім камандаваў пан дэ Вагюэ. Увечары мела столькі ж народу, колькі ўчора. Сябрына была вельмі вясёлая, забаўляліся, гулялі ў лёгкія гульні і прабавілі так час да першай гадзіны.

15. Здароўе прымусіла заставацца ў ложку, прыняла за дзень усяго некалькі асоб з ліку сяброў, бо да самага вечара адчувала ўсе прызнакі ліхаманкі. Я не даведалася

[203] Франсуа Антуан Ладзіслаў Беркіні (1744–1811), палкоўнік гусарскага рэгімента Беркіні, заснаванага яго бацькам, графам Уладзіславам Ігнацыем Беркіні (1689–1778), ганаровым дарадцам (1738–1766) Станіслава Ляшчынскага.

ніякіх навін, акрамя той, што стары парламент высоўвае ўмовы на сваё ўзнаўленне, і што праз гэта яму прадказваюць нядобрую будучыню.

16. Атрымала ліст ад сястры маёй, да якога яна далучыла копію іншага ліста, які ёй напісалі з Варшавы. З упэўненасцю паведамляюць ёй, што ўсё тое хлусня, што спачатку плявузгалі наконт дамовы; што, наадварот, Румянцаў[204] трапіў у акружэнне і быў вымушаны да міру на ўмовах, якія высунулі яму туркі і якія між тым яшчэ публічна не агалошаныя, але надта засмучаюць усе зацікаўленыя бакі.

17. Былі генеральныя практыкаванні ўсяго гарнізона, гэта значыць маленькая вайна. Здароўе маё не дазволіла туды ехаць, я прымала ванны. Войскі вырушылі аб адзінаццатай гадзіне і вярнуліся а чацвёртай. Былі абеды ва ўсіх палкоўнікаў для афіцэраў іхных рэгіментаў і вялікая вячэра ў пані дэ Нэль.

Барон дэ Вьёмэніль, прыехаўшы раніцай, быў на практыкаваннях, потым увечары завітаў да мяне. Паколькі не магла з ім паразмаўляць сам-насам, меўшы ў той жа час паноў дэ Вагюэ, Беркіні, Машо і некаторых іншых, ён паабяцаў мне вярнуцца пасля вячэры ў пані дэ Нэль. Прачакаўшы яго да паловы першай, урэшце легла. Ён прыбыў праз кароткі час пасля таго, і я адаслала прасіць яго завітаць да мяне раніцай.

18. Пан Сапега паехаў з панам Беркіні ў Ландаў[205] глядзець ягоны рэгімент. Барон дэ Вьёмэніль завітаў да мяне, мы гутарылі каля трох гадзін, развітаўшыся, ён сеў у карэту, якая чакала на яго на двары, і накіраваўся папросту да Імліна[206].

Даў мне прачытаць справаздачу аднаго афіцэра, якога ён паслаў да Пулаўскага. Тая справаздача выклікае спагаду да лёсу апошняга, што зрабіў двухмесячны марш, падчас якога зведаў найцяжэйшыя выпрабаванні. У момант турэцкай паразы прыбыў [да лагера] вялікага візіра. Быў у ім да самага Адрыянопаля, дзе застаўся без грошай і без дапамогі, пакінуты афіцэрам-здраднікам, якога ўсе, хто быў у Польшчы, ведаюць як Харвата і які, прагуляўшы давераныя яму Пулаўскім шаснаццаць тысяч ліўраў на патрэбы суполкі, склаў супраць таго змову з некаторымі іншымі французамі і ачоліў яе, і нарэшце кінуў яго, а сам вярнуўся ў Францыю, яшчэ прымусіўшы Пулаўскага даць яму вэксаль да аплаты ў Парыжы на сто пяцьдзясят дукатаў.

19. Пані дзю Пантуа развіталася са мною пасля абеду і паехала да пана кардынала ў Мюцыг. Тое самае зрабіў і пан дэ Росі, які заўтра са сваім рэгіментам выступае маршам да гарнізона ў Лібурне каля Бардо за дзвесце пяцьдзясят лье адсюль. Я вельмі расчулена гэтым расстаннем, бо прызвычаілася бачыць яго за два гады і зведала ў ім годнага і дабрачыннага мужчыну і цудоўнага сябра.

20. Пан муж мой вярнуўся з Ландаў а пятай гадзіне раніцы, каб заспець яшчэ тут пана дэ Росі. Ён накіраваўся папросту да яго, а даведаўшыся, што той ужо з’ехаў да штабкватэры, памчаў туды і прыбыў у момант, калі пан дэ Росі быў ужо на кані.

Атрымала ліст ад сястры маёй, якая [не] паведамляе мне [нічога] іншага, акрамя жарту з прымаса, які ўсталяваўся ў Гайбудзе [?] і зрабіў з яе дрэннае месца, сабраўшы там непрыстойную кампанію.

21. З другога ліста, які я атрымала ад маёй сястры, даведалася, што ўсе нашыя канфедэраты вызвалены і з Казані, і з Сібіры. Кажуць, што колькасць адпушчаных на волю сягае да дзвюх тысяч. Яны вяртаюцца натоўпам, Патоцкі[207] ў іх ліку, апошнім вярнуўся

204 Граф Пётр Аляксандравіч Румянцаў (1725–1796), генерал-фельдмаршал (1770), які за перамогі супраць турак у вайне 1768–1774 гадоў атрымаў тытул «Задунайскі».

205 Цяпер горад у федэральнай зямлі Пфальц, ФРГ.

206 Імлінг — мястэчка ў Латарынгіі за 80 кіламетраў на захад ад Страсбурга.

207 Граф Пётр Патоцкі (пам. каля 1800), кашталян люблінскі (1791–1794). Маршалак сандамірскі Барскай канфедэрацыі. Трапіў у расійскі палон увосень 1768 года, высланы ў Кіеў, потым у Казань, адкуль вызвалены 1 лютага 1774 года.

Суфчынскі[208] ў вялікай раскошы, маючы дванаццаць конных гусараў перад карэтай. Толькі брат небаракі Пулаўскага[209] яшчэ застаецца ў палоне. У Варшаве кат спаліў «Лейдэнскую газету», бо ў ёй невыгодна пісалі пра пана Панінскага.

Ваявода пазнанскі біўся з князем Антоніем Сулкоўскім[210]. Перад двубоем прыняў усе меры перасцярогі і склаў тастамент. Калі абодва яны з'явіліся на месца, стрэліў, як пакрыўджаны, першым. Ягоны пісталет даў асечку, тады ён папрасіў іншы, прапанаваўшы, аднак, права першага стрэлу свайму супраціўніку. Той быў кранути такім учынкам і падышоў да яго, і так памірыліся. […]

24. Мне паведамляюць, што аўстрыйскія войскі, размешчаныя ў Польшчы, атрымалі загад ісці да Валахіі і што камісары, прызначаныя вылучыць мяжу паміж Расіяй і Польшчай, былі адазваныя з Гродна і вярнуліся назад.

25. Я зрабіла развітальныя візіты, астатні час заняла падрыхтоўкай да майго ваяжу да Парыжа, які разлічваю прадпрыняць заўтра. […]

27. Мы прыбылі на абед у Мюцыг, пан кардынал нас настойліва заклікаў правесці з ім рэшту дня. Нарэшце мы вырашылі ехаць толькі заўтра а чацвёртай гадзіне раніцы. Што да яго самога, то ён яшчэ [не ведае], ці прабавіць зіму ў гэтым краі і ці хутка прыедзе каад'ютар, якога чакаюць тут ужо месяц.

28. Мы ледзьве даехалі ў гэты дзень да Люнэвіля, я адчувала вялікую стому за дзень. У тым месцы мы сустрэлі пана Богуша, які чакаў на нас.

29. Паабедаўшы ў Люнэвілі, прыехалі вельмі позна ў Нансі, дзе бачыліся з хірургам, які клапаціўся аб маім здароўі ў Страсбургу. Пагутарыўшы з ім, устрывожылася наконт наступстваў, якія, на яго думку, мне пагражаюць, і рызыкаў, якія могуць напаткаць мяне ў гэты момант. Я паабяцала яму ўпарадкаваць свой рэжым яшчэ праз адзін дзень пераезду. У гэты дзень дабраліся не далей за Валэн, у адной з паловай станцыі ад Нансі, бо брама Туля[211] была зачыненая.

30. Прыбыўшы ў Бар-ле-Дзюк[212], вырашыла далей не рызыкаваць, бо стан трохмесячнай цяжарнасці для мяне не сумяшчальны з такім цяжкім пераездам. Нягледзячы на маё рашэнне, да якога мяне прымусілі абставіны і мой стан, пан муж мой павінен трымаць шлях далей да Парыжа.

1 кастрычніка. Прабавіла цэлы дзень у тым самым месцы, бо мела неабходнасць працаваць над процьмай лістоў, якія могуць спатрэбіцца пану Сапегу. Калі я скончыла, ён з'ехаў. Ён выправіўся ў шлях апоўначы, з адным толькі лёкаем і ў дрэннай паштовай карэце, першай, якую змог знайсці тут.

2. Раніцай выправілася з Бар-ле-Дзюк, каб размясціцца на начлег у Нансі. Пан Богуш прыслаў мне ліст ад пана Вельгорскага, які яму паведамляе, што міністр даў яму пенсіён у чатыры тысячы ліўраў на год на той час, пакуль ён застаецца ў Францыі, але канфедэратам, якія жывуць у Швейцарыі, ён адмовіў у такога кшталту дапамозе.

3. Абедала ў Нансі, пагутарыўшы астатні час з панам Богушам, выправілася на ноч у Люнэвіль.

4. Не знайшла тут ніводнага старшага афіцэра, якога б ведала. Даведалася, што пана дэ Нарбона чакаюць тут на службу на два месяцы, чым зусім была не задаволена, бо ў гэты момант ён быў бы карысным пану Сапегу побач з маці, да якой ён вельмі прывязаны.

5. Цэлы дзень не выходзіла з пакоя, увесь свой час скарыстала на працу.

208 Адзін з некалькіх прадстаўнікоў гэтай сям'і, якія бралі ўдзел у Барскай канфедэрацыі. Магчыма, Антоні Суфчыньскі (каля 1750 — 1818), сваяк братоў Пуласкіх.

209 Антоні Пуласкі (1747–1813), удзельнік Барскай канфедэрацыі, малодшы брат Казіміра Пуласкага.

210 Князь Антоні Сулкоўскі (1735–1796), генерал-лейтэнант войска кароннага (1762), ваявода гнезненскі (1775–1786).

211 Горад у Латарынгіі за 24 кіламетры на захад ад Нансі.

212 Горад у Латарынгіі за 85 кіламетраў на захад ад Нансі.

6. Прабавіла дзень амаль так жа, як і ўчора. Адаслала пошту, прыняла візіт ад пана Аргюфа, маёра Шартрскага кавалерыйскага рэгімента, які праездам тут са сваім палком да гарнізона ў Камерсі[213]. Бавіла вечар у сына, расцалавала яго, развіталася з пані дэ Барэгар, маючыся заўтра выправіцца да Саўэрна.

7. У чаканні паштовых коней, убачыла, як праходзіў пад маімі вокнамі Шартрскі кавалерыйскі рэгімент. Маёр, які яго ачольваў, заўважыў мяне здалёк, спыніўся і, стаўшы побач, звяртаў на мяне ўвагу кожнага афіцэра і кожнаму паўтараў загад салютаваць мне. Потым развітаўся са мной, калі ўвесь рэгімент прайшоў, і стаў на чале, каб кіраваць. Паколькі коні былі са спазненнем, я змагла выехаць толькі а восьмай гадзіне. Прыбыўшы ў Імлін і маючы яшчэ дастаткова часу, каб дабрацца да Саўэрна, я спынілася перад карчмой паслаць сказаць барону дэ Вьёмэнілю, што прыеду яго адведаць, калі ў яго нікога няма. Я сустрэла ў яго трох паннаў, дзвюх англічанак і адну мясцовую з мужам. Была прынятая з вялікай пачцівасцю і радасцю з боку абодвух [супругаў]. Пані гаспадыня[214] вельмі пачцівая і шчырая, у свой час, відаць, была адной з прыгажэйшых жанчын. Яны запрасілі мяне на позні абед, адвезлі разам з усёй кампаніяй да карчмы, якая стаіць даволі далёка ад дома, і далі мне сваіх коней на адну з паловай станцыю ад гэтага месца, паколькі паштовыя коні не маглі чакаць на мяне. Аднак я загадала адаслаць коней назад з Сарбурга[215], які ляжыць у адным кроку адтуль і ў якім узяла паштовых. Яшчэ трэба сказаць слова пра становішча іхняга маёнтка, вельмі прыгожага. Асабліва дом стаіць на вельмі прыгожым і прывабным узгорку і дае цудоўны від з усіх бакоў.

Прыбыла да Саўэрна толькі каля дзясятай гадзіны, учыніўшы вялікае хваляванне за сябе пану кардыналу, які паслаў мне насустрач кур'ера даведацца, ці не здарылася са мной непрыемнасць у дарозе. Прыняў мяне са звычайнай сваёй дабрынёй і асаблівай цікавасцю, якую ўжо засведчыў мне [у лісце?], які атрымала ад яго сёння раніцай у Люнэвілі ў адказ на той ліст, што напісала яму з Бара з паведамленнем аб маім стане. Ён дадаў, што моцна жадае, каб я ўсталявалася ў яго, запэўніваючы мяне ў прыемнасці бачыць мяне побач з сабой.

8. Раніцай прайшоў праз гэта месца гусарскі рэгімент Шамбарана. Старшыя афіцэры прыйшлі на кароткі час засведчыць сваю павагу пану кардыналу. Ён запрасіў іх застацца на абед, але яны пажадалі вярнуцца да свайго рэгімента.

Прыйшла навіна пра смерць Папы[216]. Немагчыма яе паставіць пад сумнеў, бо яе паведамляюць пану кардыналу з Рыма з усімі, і вельмі падрабязнымі, акалічнасцямі. Паколькі смерць яго надышла нечакана і ёй не папярэднічала ніякая хвароба, то мяркуюць, што ён быў атручаны езуітамі. Гэтыя падазрэнні падмацоўваюцца яшчэ тым, што, не адчуваючы ніякіх прадвесцяў скону, акрамя лёгкіх колікаў у вантробах, ён загадаў незадоўга да смерці пасадзіць у турму свайго кухара.

9. Пакутавала цэлы дзень на злы галаўны боль. Не абедала зусім і спусцілася толькі праслухаць імшу і на кароткі час убачыцца з панам кардыналам, а астатні час была ў пакоі. Увечары ён зайшоў мяне адведаць разам з прынцам Латарынгскім, графам дэ Зальм[217] і ўсімі сваімі дамашнімі.

Атрымала навіны з Парыжа. Пан муж мой прыбыў толькі трэцяга. Чацвёртага шукаў тых асоб, да якіх меў ад мяне лісты і якія павінны былі патлумачыць яму ўсё на месцы. Атрымала часткова вельмі задавальняючыя адказы ад некаторых з тых асоб, якія запэўніваюць мяне, што акажуць яму ўсе магчымыя паслугі. Яны ўсе разам пагадзіліся,

[213] Горад у Латарынгіі за 55 кіламетраў на захад ад Нансі.

[214] Габрыэла Маргарыта, баранеса дэ Вьёмэніль (1737–1804), у дзявоцтве Бурдон.

[215] Мястэчка за 4 кіламетры ад Імлінга.

[216] Ларэнца Ганганэлі (1709–22.09.1774), Папа Рымскі Клімент XIV (1769–1774), забараніў Таварыства Ісуса (1773).

[217] Верагодна, Вільгельм Фларантэн, граф фон Зальм-Зальм (1745–1810), біскуп Турнэйскі (1776).

што ён мусіць неадкладна прадставіцца пані Адэлаідзе і перадаць ёй мой ліст. Ён мусіў, такім чынам, ехаць пятага ў Версаль, у той дзень, калі кароль мусіў выправіцца ў Шуазі, дзе застанецца да дзясятага і адтуль паедзе ў Фантэнбло. Пані [цётухны караля] да гэтага тэрміну застануцца ў Версалі.

Атрымала адначасова ліст ад сястры маёй, які перасылаюць мне з Парыжа. Яна паведамляе мне, што войскі імператара па-ранейшаму ідуць маршам да Валахіі, а войскі караля Прусіі збіраюцца ў Сілезіі, робячы падрыхтоўку нібы да вайны.

13 верасня ў Варшаве было вялікае свята з балем і феерверкам з нагоды мірнай дамовы. Браніцкага чакаюць з Пецярбурга кожны момант. Трэцяга мінулага месяца быў дзень, на які прызначаўся ягоны шлюб з дачкой ваяводы пазнанскага Ябланоўскага. Дэлегацыя нічым не займаецца ў чаканні, калі прывязуць Пугачова, галоўнага бунтаўшчыка, вядомага як брата няшчаснага Івана і той панны, якая з князем Радзівілам у Рагузе, пра якую кажуць, што яна яго сястра.

10. З чужынцаў былі пан граф дэ Зальм, канонік страсбургскага капітула, малады чалавек, але з рэпутацыяй вельмі мілай і стараннай асобы, і яшчэ два іншыя маладыя чалавекі, адзін генеральны адвакат і адзін дарадца з Кальмара[218], абодва вельмі пачцівыя і амаль прывабныя, калі б не былі такія асцярожныя. З гэтымі трыма панамі была на прагулянцы ў карэце пасля абеду.

Пан кардынал атрымаў навіны пра смерць Папы, якога, як кажуць па-ранейшаму, атруцілі езуіты, але праз тытунь; інакш немагчыма было да яго падступіцца, бо быў вельмі абачлівы, вельмі цвярозы і еў толькі тое, што рабіў сваімі рукамі ягоны брат, які кухарыў для яго з таго часу, як ён узышоў на святы Прастол.

11. Атрымала навіны з Парыжа ад графа д’Арнана[219], які паведамляе мне, што пан муж мой не змог убачыцца з пані Адэлаідай з прычыны трохдзённай ліхаманкі, якая напаткала яе нядаўна, але што быў ён надзвычай задаволены пані дэ Нарбон і што мае лісты перададзены абедзвюм [паннам].

Прынц каад’ютар прыехаў надвячоркам. За той кароткі час, які была з ім, падаўся мне вельмі пачцівым і бясконца прывабным.

12. Раніцай прымала з візітам прынца Луі. Гутарка доўжылася ажно да абедзеннага часу і ішла вакол польскіх спраў, цяперашніх і мінулых. Ён разважае з вялікай жвавасцю, хутка ахоплівае рэчы розумам і дакладна іх разумее.

Атрымала з Канстанцінопаля ліст ад маладога Ралана дэ Брыё, якога я накіравала ў той край з панам Касакоўскім. Ягоны аповед пра іхныя гароты ў тым краі моцна крануў мяне. Каб туды патрапіць, ім прыйшлося ісці маршам трынаццаць дзён, часта падвяргацца нападам рабаўнікоў, яшчэ рызыкаваць захварэць на чуму, якая панавала ў шмат якіх гарадах, праз якія яны праходзілі. Мір, кажа ён, ужо заключаны, але яшчэ не апублікаваны ўмовы, якія, паводле чутак, вельмі неспрыяльныя туркам. […]

14. Прыехала багата чужынцаў, большасцю жыхароў Страсбурга, некаторыя з правінцыі Эльзас, шмат жанчын. Між іншымі быў прынц Гесэнскі[220], які служыць камендант-палкоўнікам у Каралеўскім нямецкім рэгіменце, з некаторымі іншымі афіцэрамі таго ж рэгімента.

З Польшчы мне паведамляюць, што пан Браніцкі вярнуўся з Пецярбурга, адораны шчодра імператрыцай, але пра ягоную місію яшчэ ўсе маўчаць.

Сям’я Чэтвертынскіх заявіла свае правы на ўсю маёмасць маці князя Радзівіла[221], якая паходзіла з дому князёў Вішнявецкіх.

---

[218] Горад у Эльзасе за 72 кіламетры на поўдзень ад Страсбурга.

[219] Ладовіка Антоніа Арнана (1744–1816), бацька маршала Філіпа Антоніа Арнана, мужа Марыі Валеўскай (1816).

[220] Найверагодней, Людвіг Х, ландграф Гесэн-Дармштадскі (1753–1830).

[221] Княгіня Францішка Уршуля з Вішнявіцкіх Радзівіл (1705–1753), слынная літаратарка.

15. Папалудні была на прагулянцы ў карэце. Сёння не было ніякіх навін і ніякіх новых гасцей, акрамя пана прэтара і некалькіх іншых судовых са Страсбурга.

16. Атрымала ліст ад пані дэ Манкансэй, у якім яна мне піша, што яна ўжо падрыхтавала ўсе сродкі дзеля неабходных захадаў на карысць пана Сапегі; што яна пачала з таго, што дамаглася прыхільнасці пана дэ Вержэна, міністра замежных спраў, у якога яна ў даверы. Але хвароба пані Адэлаіды адтэрміноўвае ўсё, няма рабіць нічога іншага, як запасціся цярпеннем.

Была пасля абеду на паляванні з прынцам каад'ютарам, які ў гэтай справе такі ж спрытны, як і ва ўсіх іншых. Такі нецярплівы быў, што не даў мне стрэліць ніводнага разу, нягледзячы на ўсе старанні, якія рабіў, каб пагнаць дзічыну ў мой бок. Думаў, што забіў свайго любімага сабаку, стрэліўшы ў яго, каб перашкодзіць яму гнацца за сабакам, які бег папросту на мяне.

Пан дэ Блэр, інтэндант Страсбурга, прыехаў надвячоркам.

17. Цэлы дзень пакутавала на надзвычайна моцны галаўны боль, спусцілася да гасцінай толькі ўвечары. Нічога цікавага не атрымала з поштай, акрамя паведамлення, што двор застанецца ў Фантэнбло толькі да пятага наступнага месяца.

18. Прыехала прынцэса Крысціна паабедаць з пані баранесай дэ Вагюэ, сваёй прыдворнай дамай, і баронам дэ Міліцам. Барон дэ Вьёмэніль таксама прыехаў і застанецца яшчэ на заўтрашні дзень, бо пан кардынал перадаў яму праз мяне, што тое было б яму вельмі прыемна, паколькі ён бачыў яго зараз першы раз. Прынцэса з'ехала надвячоркам і вернецца сюды ў наступны панядзелак.

Здарылася са мной нядаўна надта непрыемная авантура. Пасыльны пана мужа, якога я ніколі не хацела бачыць у яго на службе, застаўся ў Люнэвілі, бо я забараніла, каб ён ехаў да Парыжа, і потым вярнуўся сюды са мной, а далей учыніў сур'ёзны крадзеж. Жывучы ў доме з маім цырульнікам, ён знайшоў магчымасць узрэзаць збоку вялікую валізу з каровінай скуры на маёй карэце, дзе было ўсё адзенне пана мужа, якое той не змог узяць з сабой у Парыж. Збегшы ад мяне ў Бары, ён выцягнуў шмат пар адзення, аксамітавых і іншых тканін, паспрабаваўшы зрабіць тое самае з іншымі [валізамі], а на шляху знайшлі ягоную багатую ліўрэю, якую яму цяжка было цягнуць разам з астатнім. Крадзеж гэты быў выкрыты ў той жа дзень праз знікненне некалькіх сарочак у майго сакратара. Тады ўзяліся percatрэсці яго, бо ўжо было на яго конт папярэджанне ўсяго за два дні да гэтага ад прынца дэ Хаэнлоэ, каноніка страсбургскага, які яго зведаў у каноніка майнцкага і параіў мне быць з ім пільнай. Я зрабіла ўсё, каб выведаць усе абставіны і дзейнічаць адпаведна, бо прынц Хаэнлоэ вагаўся і не выкрыў выразна ягоных паводзін. Але той небарака сам сябе выкрыў, адразу ж уцёкшы. Пагалоска пра здарэнне адразу распаўсюдзілася ў доме пана кардынала, і адразу ж з'явіўся да мяне афіцэр коннай варты і прапанаваў паслаць за ўцекачом сваіх вершнікаў. Я адразу ж зразумела наступствы, што тое будзе каштаваць яму жыцця, і, не жадаючы быць у тым вінаватай, падзякавала афіцэру і сказала, што не заяўляю на яго як на злодзея. Ён усумніўся ў маіх рэзонах і сказаў, што зробіць мне ласку і знойдзе мажлівасць паслаць за ўцекачом як за лёкаем, які папросту збег, не ўчыніўшы ніякага злачынства. На тым мы пагадзіліся. Ён папрасіў мяне напісаць запіску падобнага складу, і я тое зрабіла, пакуль пан афіцэр быў у мяне. Я загадала перабраць рэчы пана мужа, і хоць даведацца, чаго не хапае, не было ніякай мажлівасці, бо ягоны егер, які трымае гардэроб, знаходзіцца з ім у Парыжы, заўважылі, тым не менш, адсутнасць некалькіх пар адзення, эпалетаў і шмат яшчэ якіх рэчаў. Яшчэ потым у горадзе знайшлі вялікі пакет у адной жанчыны, дзе той сталаваўся, і ў ягоным ложку рэшту рэчаў, якія не меў часу перавезці.

19. Не было нічога новага за цэлы дзень. Пасля абеду прагулялася з прынцам Луі, панам дэ Вьёмэнілем і панам д'Абэркірхам. Другі з іх развітаўся з намі ўвечары, каб вярнуцца дадому, а адтуль неадкладна вырушыць да Парыжа.

20. На абед прыехалі пан дэ Гюстын, пан барон дэ Пуі, пан граф Людрль, двое апошніх з жонкамі. Пасля абеду зрабілі прагулянку ў карэце, каб паказаць тутэйшыя мясціны гэтай кампаніі, якая была тут упершыню. Спачатку, пасля стала, яны агледзелі пакоі, потым прагулянка склалася такім чынам, што ў маёй карэце былі панны, а прынц Луі павёз паноў. Некалькі дзён ужо не атрымліваю лістоў з Парыжа. Гэтая пагарда з боку пана мужа мне вельмі непрыемная.

21. Атрымала адзін ліст ад мужа майго, другі — ад маёй сястры. З першага даведалася, што вяж пані Адэлаіды да Фантэнбло прызначаны на 24, бо здароўе яе палепшала. Сястра мая піша мне вельмі ласкавы ліст, цікавячыся, чаму яна не атрымлівае ад мяне вестак на працягу некалькіх поштаў. Не ведаю, на што аднесці такую недакладнасць пошты, бо пішу ёй заўсёды рэгулярна. Яна перасылае мне ліст з Варшавы, у якім кажуць, што рускія з туркамі зноў распачынаюць вайну. […]

22. […] Па-ранейшаму зусім незадаволеная сваім здароўем. Сёння быў у мяне такі крывацёк, якога ніколі ў жыцці не было, разам з моцным болем у нырках. Не ведаю, ці паўплывае гэта на цяжарнасць, ці гэта несумяшчальна альбо шкодна для майго становішча, не ведаю і ўсяго баюся.

23. Цэлы дзень не выходзіла са спальні праз немач, якую адчула ўчора. Прынц Луі з вялікай пачціваснцю завітаў да мяне падтрымаць кампанію на працягу дня, таксама як некаторыя дамашнія.

Граф д'Арнана паведамляе мне з Фантэнбло, што муж мой павінен туды прыехаць 26.

24. Прынцэса Крысціна прыехала сёння раніцай са сваім паляўнічым экіпажам. На працягу дня прыехалі таксама пан і пані дэ Вагюэ, камендант Шэно, канонік страсбургскі прынц Хаэнлоэ. […]

Навіна, якую я атрымала недаўна, што Турэччына не жадае задавальняцца мірам, падпісаным візірам, здаецца, знаходзіць пацверджанне ў Вене. Прынц Луі даў тое зразумець, ён пра тое нешта ведае. […]

25. А дзясятай гадзіне раніцы прынцэса Крысціна выправілася верхам на паляванне разам з прынцам Луі і ўсёй сябрынай, якая сабралася тут да гэтага моманту. Позні абед з сённяшняга дня прызначаны на пятую гадзіну вечара. У дні палявання агульнае снеданне будзе а дзясятай гадзіне, у іншыя дні хто як захоча будзе снедаць, у сваім пакоі альбо малым колам. Гэта добра пацвярджае, што кардынал прабавіць зіму тут. Кажуць нават, што адзін раз на тыдзень сюды будзе прыязджаць трупа са Страсбурга граць камедыю.

26. Было, як учора, паляванне. Прыехалі прынцэса Гагенцолерн, прынц Гесэнскі, прынц Аранбергскі[222] і іншы афіцэр аўстрыйскай службы, абодва з рэгімента дэ Ліня. Прынцэса Крысціна з'ехала ўчора з панам і пані дэ Вагюэ.

Не было іншых навін, акрамя здарэння са знакамітым музыкам Штайміцам, які па дарозе сюды са Страсбурга перакуліўся ў карэце, спускаючыся з гары Вільтхайм. І ён, і яго жонка, і ягоны швагер моцна збіліся, фурман зламаў ногі. Жонка найбольш пацярпела, стан яе такі, што нават нельга перавезці ў Страсбург. […]

27. […] Атрымала навіны з Польшчы. Пан Штакельберг запатрабаваў ад сойма, каб барскія канфедэраты былі прызнаны бунтаўшчыкамі і ворагамі краіны. Дэпутаты, абмеркаваўшы гэтую справу, аддалі яе рашэнне на волю караля, якая яшчэ не вядома.

Імператаравы арлы ўжо дабраліся да Падолля і занялі месца, якое завецца Акоп Святой Тройцы[223]. Войскі імператара, якія ідуць маршам на Валахію, налічваюць каля 18 000 чалавек.

[222] Агюст Мары Рэмон, прынц д'Аранберг (1753–1833), граф дэ Ламарк (з 1773), аўстрыйскі і французскі вайсковы і палітычны дзеяч.

[223] Фартэцыя (альбо Акоп) Святой Тройцы, пабудаваная ў 1692 годзе пры ўпадзенні ракі Збруч да Днястра (цяпер Баршчыўскі раён Цярнопальскай вобласці), была важным абаронным пунктам Рэчы Паспалітай ад Асманскай Порты.

Ходзяць самыя супярэчлівыя чуткі наконт дамовы з боку туркаў. Адны сцвярджаюць, што яны былі прымушаныя пагадзіцца на мір, што нават стасуецца з навінамі, якія я атрымала з Канстанцінопаля. Іншыя [кажуць], што Румянцаў дагэтуль акружаны туркамі і прабудзе ў акружэнні, пакуль дамова не будзе ратыфікавана. Якімі прычынамі можна патлумачыць гэта, калі мір прыносіць карысць толькі рускім?

Пан Браніцкі ўчыніў справаздачу аб сваёй місіі пры пецярбургскім двары. Ён заўважыў імператрыцы, што дзве іншыя дзяржавы, якія бралі ўдзел у падзеле, займаюць значна больш зямлі, чым ім адведзена. Імператрыца расійская звярнулася да дзвюх дзяржаў, каб даведацца пра прычыны такіх паводзін. Атрымала яна адказ ад караля Прусіі, што ён іншых прэтэнзій не мае, як на тое, каб атрымаць у маёмасць столькі ж зямлі, колькі дасталося каралеве Вугоршчыны[224], і што дзейнічае толькі па яе прыкладзе. А тая [каралева] адказала, што не прэтэндуе на большае ў Польшчы, чым на тое, што належыць ёй па праве. Пасля гэтага пан Браніцкі папрасіў для сойма самастойнай улады над усім войскам Рэчы Паспалітай, потым палка запэўніў, што трэба выступіць супраць гвалту караля Прусіі, а таксама супраць несправядлівасці, што ён чыніць Рэчы Паспалітай, ніколі не плацячы за рамонтных коней, якіх бярэ ў Польшчы. Ён падахвоціўся абараняць Рэч Паспалітую супраць гэтых шкодных учынкаў і заўжды быць на чале войскаў супраць ворагаў. У астатнім не давяраецца нікому, нават свайму будучаму цесцю, у дачыненні да сваіх тайных заўваг аб краіне, з якой прыбыў.

Імператрыца, паміж іншымі featureі міласцямі, якімі яго ашчаслівіла, дала яму рэкамендацыю для сойма прызначыць яго пажыццёва старостам белацаркоўскім. Тое вялікае староства ляжыць ва Украіне і ўваходзіць у яе новыя валоданні ў Польшчы. […]

29. Гэтай раніцай з’ехалі прынцэса Гагенцолерн і прынц Хаэнлоэ. Сёння пошты не было, таму няма ніякіх навін.

Махляр пасыльны, выехаўшы адсюль, заставаўся восем дзён у Мюцыгу. Ён скраў у мытара пана кардынала чатыры тысячы франкаў і дубальтоўку і кожны дзень еў з унтэр-афіцэрам коннай варты, сваяком таго мытара.

Даведалася пра добрую эпіграму на смерць Папы. Аўтар распавядае, што душа Папы з’явілася ў рай, і святы Пётр ужо быў гатовы ёй адчыніць дзверы, але яго спыніў святы Ігнацы, які сказаў яму, што трэба лепш дзверы зачыніць, бо тая душа янсеніscкая. Але святы Пётр адказаў на гэта, што гэта немагчыма, бо да яго яе накіравала Таварыства Ігнацыя. […]

30. […] Бавілі вечар, слухаючы Осбрука, слыннага арфіста. Ён некалі належыў да службы прынца Луі, а яшчэ раней быў у майго дзядзькі вялікага харужага літоўскага князя Радзівіла[225]. Ён спыніўся тут на нейкі час, валодае сваім талентам у найвышэйшай меры і зрабіў нам бясконцае задавальненне.

31. Пан кардынал і каад’ютар былі запрошаны на абед да пана і пані Вагюэ. Гэтая высокая да хмараў пара зрабіла і мне тую ж ласку, але мне тое было нецікава, непажадала да іх ехаць. Абодва прынцы абавязкова хацелі, каб нехта адзін з іх застаўся і не пакінуў мяне адну, але я зрабіла так, каб паехалі абодва.

1 лістапада. Атрымала ліст з Канстанцінопаля ад маладога Ралана. Ён паведамляе мне, што пан Касакоўскі мусіў узяць 250 цэхінаў, ад якіх спачатку адмовіўся, бо ўбачыў, што ад Порты не выпадае чакаць ніякай падтрымкі ці дапамогі. Мір заключаны не навечна, як сцвярджалі спачатку. Рускія па-ранейшаму засталіся на сваіх пазіцыях і збіраюцца адступаць з Валахіі і Малдавіі толькі пасля таго, як атрымаюць ад турак тую суму

[224] Марыя Тэрэзія Вальбурга Амалія Крысціна (1717–1780), каралева Багеміі (1740), каралева Вугоршчыны (1741), імператрыца Свяшчэннай Рымскай імперыі (1745), з 1765 года кіравала імперыяй разам з сынам Іосіфам.

[225] Князь Геранім Фларыян Радзівіл (1715–1760), падчашы вялікі літоўскі (1739–1750), харужы вялікі літоўскі (1750–1760), родны дзядзька княгіні Тэафіліі Сапегі па матчынай лініі.

грошай, якую тыя вінаватыя па ўмовах пакта. Яшчэ не вядомыя па-сапраўднаму артыкулы дамовы. Крымскія татары яшчэ ваююць з рускімі і папрасілі дапамогі ў Порты, якая ў адпаведнасці з пактам ім адмовіла. Штандар Магамета вярнуўся ў Канстанцінопаль 14 верасня, адступілі ўсе войскі, таксама як і флот. Першыя захады князя Радзівіла перад Портай былі безвыніковыя. Ён недаўна зрабіў новую спробу, але няма ніякай упэўненасці ў поспеху. Напрыканцы кажа мне, што неадкладна выпраўляецца з панам Касакоўскім да Рагузы. Ён дадае, што рэчы, пакінутыя панам Пулаўскім, былі выратаваныя і перасланыя ў Францыю праз амбасадара гэтага двара.

2. Пан кардынал з'язджае на 24 гадзіны да Страсбурга, прынц Луі на шэсць дзён да Нансі. Апошні прыбыў раніцай паважна развітацца са мной і запытаўся на загады для майго сына, пра якога ведае, што той знаходзіцца ў Люнэвілі. Я хацела скарыстацца з гэтай нагоды, каб прабавіць колькі дзён у Страсбургу, але Брунэ затрымаў мяне, паведаміўшы пра свой прыезд у першыя дні бягучага месяца.

3. Прыбыў учора ўвечары граф Бжастоўскі на позні абед у замку. Ён не змог прадставіцца пану кардыналу, бо меў толькі дарожную вопратку, і выправіўся далей у свой шлях да Парыжа, калі ўжо пан кардынал выехаў да [са?] Страсбурга. Таямніча выказаўся наконт свайго ваяжу да Польшчы, якім ён, здаецца, не надта задаволены. Яшчэ менш задаволены тым, што не змог адшукаць герцага дэ Лазэна, які раз'язджае зараз па Польшчы. Такім чынам, ягоная задума ўступіць у легіён [Лазэна] надта запознілася.

Пан кардынал толькі што прывёз навіну са Страсбурга, што граф Праванскі ледзьве не забіў на паляванні караля. Патрэба прымусіла апошняга спусціцца з каня ў зараснік, і пан граф Праванскі накіраваў стрэл дакладна ў тое самае месца, заўважыўшы, што ад нечага гойдаецца галлё. Вартаўнік, які бачыў, як спускаўся ў тым месцы кароль, з асцярожнасцю адвёў стрэл, узняўшы ўгору рулю стрэльбы, наведзеную графам Праванскім, якому ў першы момант па разважанні зрабілася ад гэтага выпадку нядобра.

4. Няма зусім ніякіх навін, акрамя таго, што кароль прыедзе ў Парыж 12 і зойме месца пад балдахінам[226] з нагоды вяртання парламента.

Атрымала ад пана графа дэ Марэпа вельмі пачцівы адказ на ліст, які напісала яму з рэкамендацыяй для пана Сапегі.

5. Атрымала толькі што з сённяшняй поштай адзіны ліст, вельмі незвычайны, так што нават не магу ўзяць сябе ў рукі. Напісаны ад імя нейкага Экінга па-польску, пяро моцна макалі ў воцат. Дата 24 кастрычніка, з Марсэля. Мяне проста просяць адгукнуцца на просьбу перадаць [?] прыватны ліст пану Богушу. Уяўляецца мне, што гэта павінен быць Касакоўскі альбо Пулаўскі, а хутчэй, апошні з іх, дастаўлены якім-небудзь французскім караблём у гэты порт з Усходу.

6. Цэлы дзень была занятая ў сваім пакоі поштай. Праз дрэннае надвор'е нікога з чужых не было, і дзень так прайшоў без аніякіх навін. Абат Адаран прыехаў да мяне з найлепшымі прывітаннямі ад прынца Луі, які выказвае ў лісце.

7. З найвялікшай радасцю ўспрыняла прыезд Брунэ, які будзе бавіць тут са мной увесь гэты месяц. Ён прывёз мне вельмі пачцівы ліст ад пані дэ Форбах, якая перадае мне найлепшыя вітанні ад герцага Цвайбрукен і кажа, што ён будзе ўсцешаны прапанаваць мне ўсе магчымыя свае паслугі.

8. Пан Сапега паведамляе мне, што пані Адэлаіда дамаглася для яго чыну генерал-маёра з пенсіёнам; што ён пакуль не можа ведаць памеру [пенсіёну], паколькі справа толькі яшчэ мусіць быць уладжанай паміж панамі дэ Муі[227] і Вержэнам; што яна

226 У Францыі старога парадку — урачыстае паседжанне парламента, падчас якога кароль сам вяршыць суд.

227 Луі Нікаля Віктор дэ Фэлікс д'Альер, граф дэ Муі (1711–10.10.1775), ваенны міністр (5.06.1774–10.10.1775).

зацікавіла ўсіх міністраў на ягоную карысць і да таго ж паабяцала атрымаць камандаванне рэгіментам, хоць па гэтым пункце цяжка дамагчыся згоды ад пана дэ Муі.

У астатнім распавядае мне толькі пра паляванне на святога Губерта, на якім быў са сваім пляменнікам, маладым генералам артылерыі Сапегам[228].

9. Толькі што атрымала другі ліст ад пана мужа, у якім ён мне проста сведчыць, што князь Адам Чартарыскі тайна даслаў да Агінскага кур'ера, пра якога імкнуцца не казаць нічога ў Парыжы, з прапановай купіць у яго пасаду гетмана. На гэты план, вельмі для яго выгодны, Агінскі лёгка пагодзіцца, бо зможа такім чынам адхіліць прэтэнзіі майго брата і пазбегнуць выкліку, які пагражае ім у гэтай справе. Я спяшаюся з сённяшняй поштай паведаміць пра тое сястры маёй. […]

11. […] Агінскі выехаў з Парыжа да Варшавы. Ён бачыўся ў Нансі з панам Богушам, якому не даверыўся распавесці пра тое, пра што я даведалася з ліста мужа майго наконт прапановы ад князя Адама. Аднак ён вырашыў вярнуцца ў Польшчу, што доказвае праўдзівасць [той чуткі].

12. Сёння было некалькі чужынцаў з ліку эльзаскай шляхты, паміж іншымі пан і пані дэ Вагюэ. Зусім ніякіх навін, ёсць спадзяванне атрымаць цікавосткі з чацвярговай пошты наконт вяртання старога парламента.

13. Сёння раніцай прыбыў прынц Луі. Знайшоў тут шмат лістоў, сярод якіх ёсць лісты з Вены, адкуль яму паведамляюць, што прынц Каўніц[229] атрымаў весткі, нібы шэф бунтаўшчыкоў Пугачоў быў перададзены сваім жа войскам у рукі ягоных ворагаў. […]

15. Атрымала навіны ад пана мужа, якія сведчаць мне, што ад'езд Агінскага быў паспешлівы дзеля таго, каб з'явіцца на мяжы польскай і скончыць спрэчку з маім братам наконт пасады гетмана.

Прыехала пані дэ Барб'е[230], а таксама пан дэ Набла, брат пані, і дэ Банар, артылерыйскі афіцэр, але я іх не бачыла, бо не выходзіла цэлы дзень са сваёй спальні з прычыны злога галаўнога болю. Увечары прыйшоў прынц Луі скласці мне кампанію.

16. З Вены прыбыў экіпаж прынца Луі. Гэта агромністая колькасць людзей, нягледзячы на тое што адна іх частка ўжо прыбыла ў Парыж, а другая частка яшчэ плыве па Дунаі.

Я ўпусціла ўсіх гэтых людзей на кароткі момант у залу паглядзець на абед кардынала. Сабраўся цэлы натоўп. З імі прыбыла столькі ж коней розных парод. Ён [прынц Луі] абышоўся з дзядзькам вельмі пачціва, бо замовіў для ўсяго гэтага люду месцы для пастою ў корчмах, але быў аддадзены загад усіх усталяваць і накарміць у замку. Аднак пастой працягнецца толькі тры дні, пасля чаго яны з'едуць у Парыж. Ён шчыра распавёў мне пра ўсе гэтыя цяжкасці і немагчымасць утрымліваць свой дом без дапамогі дзядзькі, які пакуль відавочна не жадае рабіць ніякай пазыкі. Звычайна гэта годны павагі ва ўсіх адносінах стары, ні ў якім разе не скнара. Ён нават шчодры і чалавечны, але перш за ўсё любіць ва ўсім лад. Тым не менш гэта не павінна яму перашкаджаць у дапамозе каад'ютару, які яшчэ ад яго нічога не атрымаў, у той час як малодшая галіна Рашфораў, што па-ранейшаму жыве з ім, асыпана міласцямі і каштуе яму ўжо больш за 700 тысяч франкаў.

17. З прычыны адсутнасці навін выкладу тут некалькі асаблівых акалічнасцяў, якія мне паведаміў прынц каад'ютар наконт польскіх спраў, датычных канфедэрацыі. Прынц зараз вольны ад пасады амбасадара, якая да гэтага часу прымушала яго захоўваць

[228] Князь Казімір Нестар Сапега (1757–1798), генерал артылерыі войска ВКЛ (1773–1793), маршалак літоўскай канфедэрацыі сойма 1788–1792 гадоў. Знаходзіўся ў Францыі ў 1774–1776 і 1777 гадах.

[229] Венцэль Антон Дамінік, прынц Каўніц (1711–1794), дзяржаўны канцлер аўстрыйскага двара (1753–1792).

[230] Марыя Франсуаза Ксавера Лебарб'е дэ Цінан (1749–1821), у дзявоцтве Набла.

сакрэт, і таму запэўніў мяне ў тым, што ніколі пан д’Эгіён не даваў яму выконваць ніякіх даручэнняў на карысць канфедэратаў пры венскім двары.

Нават усім грашовым авансам, зробленым пану дэ Вьёмэнілю з сум, якія французскі двор прызначыў канфедэратам, абавязаны прынцу. Ён быў упэўнены ў неабходнасці і рабіў іх са сваіх асабістых сродкаў, а потым інфармаваў міністра і пакідаў на волю караля рашэнне прымаць гэтыя грошы на рахунак ці не. Ён учыніў гэты акт справядлівасці і яшчэ рабіў самыя розныя магчымыя паслугі вялікай колькасці канфедэратаў у час, калі іх жорстка пераследаваў венскі двор. Пра ўсе самыя абуральныя несправядлівасці, якія абрынуліся на іх, ён заўсёды будзе ўспамінаць з жахам.

18. Працягнула ўчарашнюю размову з прынцам. Ён паведаміў мне, што ў самы момант паразаў канфедэрацкіх у Вене давалі спектакль, у якім кпілі з палякаў. Усе персанажы, якія прамаўлялі самыя пошлыя фразы, былі выведзеныя пад польскімі імёнамі. Прысутны тады ў Вене пан Жавускі палічыў жарт вельмі неўдалым і сказаў пра гэта дырэктару, які пагадзіўся на некаторыя змены. Але як толькі яны былі заўважаныя, з’явілася патрабаванне граць п’есу ў першасным выглядзе. І на ўрад гэта не зрабіла ніякага ўражання. […]

21. Сястра мая паведамляе мне, што ваяводзіна мсціслаўская Сапега, нядаўна памерлая, пакінула нам па тастаменце спадчыну ў 60 тысяч франкаў і што наш брат з’яўляецца выканаўцам таго тастамента і кажа, што зможа выплаціць нам толькі на Іванаў дзень.

22. Урывак з ліста з Варшавы. […] Гетман Браніцкі патрабуе абавязкова вайны з трыма саюзнымі дзяржавамі. Ён публічна кажа, што хоць войска ў краіне няма, але ён знойдзе сродкі, каб паспяхова весці вайну, абы яму далі грошай. І грошы знойдуцца ў дастатковай колькасці, калі накласці руку на агромністую маёмасць, якой валодаюць мніхі і іхныя цэрквы, ад якіх дзяржаве няма ніякага прыбытку. […]

23. Справы пана мужа майго ў сталіцы ідуць зусім не добра. Ён надта рана спакусіўся бачнасцю поспеху. Зараз ён яшчэ нічога не атрымаў, пані [Адэлаіда] яшчэ не знайшла момант, каб размаўляць з каралём на яго карысць, і гэтая маруднасць не абяцае мне зусім нічога суцяшальнага. […]

25. Граф Вельгорскі паведамляе мне, што пан Сапега стаў вялікім куртызанам, але праз гэта ягоныя справы не ідуць хутчэй, паколькі пані [Адэлаіда] не знаходзіць моманту паразмаўляць з каралём, аднак ён па-ранейшаму мае надзею паступіць на службу. Ён дадае адначасова, каб паказаць цікавасць гэтага двара да спраў нашай краіны, што звычайна намі ўвогуле не займаюцца. […]

27. У размове з прынцам Луі мы прааналізавалі энтузіязм пана Браніцкага ў справе вайны з часу яго вяртання з Расіі, дзе ён адразу выказаў свае меркаванні на гэты конт. Зразумела, што ён не вар’ят і не наважыўся б ад сябе рабіць такую прапанову, тады пэўна ёсць нейкая дамова паміж вялікімі дзяржавамі супраць караля Прусіі, і Расія стаіць у яе вытокаў. Такім чынам, робячы выгляд, што выступаюць палка супраць палякаў, яны, магчыма, разам імкнуцца яго [караля Прусіі] прынізіць. Яшчэ больш мяне ў гэтым запэўнівае тое, што прынц, абнадзеіўшы мяне добрымі наступствамі, якія могуць ад гэтага быць Польшчы, дадаў, што ён нездарма казаў пра ўсё гэтае і ў яго ёсць асаблівыя рэзоны бачыць рэчы ў такім святле. Нарэшце ён сказаў мне даволі, каб не сумнявацца, што ён у нейкія тайны прысвечаны. […]

4 снежня. Атрымала ліст ад пані дэ Манкансэй, якая кажа мне несуцяшальныя рэчы пра справы майго мужа і дадае, што ніколі яна так не жадала мяне бачыць у Парыжы, як у гэты момант. Пані Адэлаіда, распачаўшы справу, праводзіць яе непаслядоўна, а са свайго боку яна можа дзейнічаць толькі прыхавана, бо вельмі дрэнна ведае людзей, з якімі трэба перамаўляць.

Напісала аднаму свайму сябру, пану дэ Росі, маёру Каралеўскага карсіканскага рэгімента, які зараз, на шчасце, знаходзіцца ў гарнізоне ў Марсэлі, дзе ў мяне няма ніякіх

іншых знаёмых, з просьбай адшукаць небараку Пулаўскага, паведаміць мне як мага хутчэй пра ягоны лёс і авансаваць яму нейкую суму грошай, якую я яму потым кампенсую.

5. Баранеса Райх, якая прабавіла тут некалькі дзён, з'ехала сёння раніцай. Усе ў доме сыходзяцца ў размовах на тым, што пан кардынал хутка з'едзе. Я ў такім выпадку выпраўлюся ў Страсбург раней за яго дзён на дзесяць. Прынц каад'ютар, аднак, мне сказаў, што яшчэ разлічвае сустрэць тут святы з панам сваім дзядзькам.

6. Зусім не атрымала ніякіх лістоў. У доме таксама нічога новага не ведаюць, нават ніякіх гасцей не было апошнія некалькі дзён з прычыны надта кепскага надвор'я. […]

8. Пан кардынал адчуў сёння ўвечары лёгкі прыступ падагры ў левай назе. З гэтай прычыны ён пажадаў сысці ў свой пакой а дзясятай гадзіне, хоць звычайна ён застаецца да палуначы. Гэты выпадак можа змяніць ягоны план паездкі ў Парыж і мець сур'ёзныя наступствы, паколькі, рэгулярна прыкладаючы на працягу двух гадоў воўчае лыка, новае адкрыццё ў медыцыне, якое робіць дзейсны эфект, ён засцярогся ад падагры, хоць не прытрымліваўся ніякага рэжыму.

9. Атрымала навіны ад пана Сапегі. Ён кажа мне, што ягоныя справы па-ранейшаму не пасоўваюцца праз тое, што ўплыў [пані Адэлаіды] ужо не такі вялікі, як пры мінулым праўленні, нават нягледзячы на найвялікшую прыязнасць да яго з яе боку. Ён дасылае мне ліст ад пані дэ Нарбон, якая яму піша, каб запэўніць у поспеху ягонай просьбы ў такіх словах: «Вы можаце цалкам разлічваць на пані Адэлаіду, і час вам гэта давядзе». І яшчэ дадае тысячу суцяшальных і ласкавых словаў.

Пан муж дадае, што перадасць з князем Любамірскім[231] некалькі пакупак для мяне. Той пакідае Парыж 14, каб вярнуцца ў Польшчу, нічога не дабіўшыся ад ваеннага міністра.

[Кажа таксама] пра пані дэ Нарбон, што ў ягоных цяжкіх справах яна яму ўсім дапамагае, піша ўсе лісты, кожную запіску сваёй рукой і займаецца імі бесперапынна, нібы рэччу, якой надае асаблівую цікавасць.

Ён паведамляе мне, што часта бачыць Бецюнаў і што маркіза не перастае з ім гутарыць наконт магчымасці шлюбу паміж адным з яе сыноў і адной з дачок майго брата, хоць той апошні мне ўжо даў адказ праз сястру маю, што ўмовы, якія яна высунула, яму ніяк не пасуюць.

10. Прыбыў да Страсбурга пан Збаінскі. Згодна з тым, што паведамляе мне мой сакратар, ён не збіраецца прыязджаць сюды. Усе нашыя канфедэраты, якія жывуць у Швейцарыі, з'ехалі з Люцэрна, каб усталявацца ў Авіньёне. Толькі Пац яшчэ застаецца, ён, магчыма, дачакаецца вяртання Збаінскага і далучыцца да астатніх.

Землятрус, які адчуваўся некалькі месяцаў таму ў Страсбургу, быў куды больш моцны ў Швейцарыі. Ён доўжыўся васямнаццаць дзён, пашкодзіў шмат дамоў, нават некалькі паглынуў, і час ад часу раздаваўся нейкі шум у скалах, нібыта яны хутка разваляцца.

11. Была на прагулянцы ў санях, якімі кіраваў сам прынц Луі. Надвор'е было лагоднае, і я шчыра цешылася ад таго, што пачувала сябе нібыта ў падарожжы па самой Польшчы, гледзячы навокал на ўсе заснежаныя і добра прыбітыя дарогі. […]

Адаслаўшы ліст небаракі Пулаўскага пану Богушу, я падзялілася з ім сваім планам зрабіць намаганне і дабіцца ад кардынала згоды дапамагчы гэтаму няшчаснаму. Ён падтрымаў той план так жвава, што ў сваім адказе напісаў па-французску нататку, з якой я выразыла добра скарыстацца. Я зачытала яго прынцу Луі, які перадаў яго свайму дзядзьку і ў той жа вечар сказаў, што атрымаў ад таго прыхільны адказ. Мы дамовіліся перамовіць аб гэтай справе, калі прынц вернецца са Страсбурга, куды з'язджае заўтра раніцай.

12. Атрымала ліст ад сястры сваёй, якая паведамляе мне, што ў Варшаве рыхтуюцца да вайны і што ўсе тры вялікія дзяржавы паводзяць сябе актыўна. Аўстрыякі

[231] Князь Аляксандр Любамірскі (каля 1750 — 1808), у 1774 годзе палкоўнік драгунскага палка Шомберга, пазней генерал французскага войска, кашталян кіеўскі (1785–1790).

па-ранейшаму захопліваюць Валахію, рускія, якія павінны пакінуць краіну, ідуць маршам на Кракаў, кароль Прусіі ўступіў у Курляндыю. Усё гэта выглядае непрымальна і з'яўляецца падрыхтоўкай да падзей з вялікімі наступствамі.

Яна дадае мне, што шлюб Браніцкага з дачкой ваяводы пазнанскага канчаткова разарваны.

13. Прынц Луі атрымаў абяцаныя раней падарункі з Вены, насамрэч вельмі прыгожыя і каштоўныя, але нічога сапраўды дзівоснага. […]

14. Атрымала ліст ад мужа майго, які перасылае мне ліст ад сваёй сястры[232] з Варшавы. Яна падрабязна выказвае яму свае разважанні наконт ягонага вяртання ў краіну і просіць яго падаць прашэнне. Ён кажа мне перадаць маёй сястры гэты ліст разам з іншым, які ён напісаў ёй на гэты конт, просячы яе апошніх парад.

15. На шляху да Валыні сястра мая [дасылае] свае навіны з Высокага[233]. Яна паўтарае мне тыя ж самыя навіны пра маршы чужаземных войскаў, якія даюць усім падставы здагадвацца пра змены ў адносінах паміж трыма вялікімі дзяржавамі. Яна дадае мне, што кошт дуката ў Польшчы знізіўся да 16 франкаў 22 грошаў.

Навіны з Парыжа перадаюць размову наконт узнаўлення старога парламента, у якой пан дэ Муі сказаў пану дэ Марэпа, што той ганьбіць сваю старасць і кідае цень на славу свайго маладога манарха.

16. Пан генерал д'Энвільe і пан Дэмарэ, сакратар-дарадца інтэнданта, прыехалі са Страсбурга. Шмат казалі пра некалькі пажараў, які былі адзін за адным, асабліва пра той, які здарыўся ў доме, што займае пан дэ Брунк, і нарабіў на дзесяць тысяч франкаў шкоды ў бібліятэцы, дзе, як кажуць, сабраныя вельмі добрыя кнігі.

17. Прымала воды, з-за якіх мусіла заставацца ў пакоі. Да мяне прыйшоў прабавіць вечар прынц Луі, а таксама генерал д'Энвільe. Сённяшні дзень цэлы, таксама як і ўчарашні, не прынёс ніякіх навін, я не атрымала ніводнага ліста.

18. Дайшла дасюль навіна ад аднаго карэспандэнта з Вены, што кароль польскі памёр. Надта цікавая навіна, каб верыць, што яна хутка спраўдзіцца. А калі так будзе, то не толькі наступяць вельмі вялікія змены, але і нашыя спадзяванні адродзяцца яшчэ раз.

19. Увечары развіталася з панам кардыналам і прынцам Луі і заўтра раніцай выпраўлюся да Страсбурга. Абодва яны жадалі, [каб я засталася?], прасілі мяне ў самых пачцівых выразах, і я магу быць упэўнена, што без ценю льсцівасці яны развітваюцца са мной не без шкадавання, якое ідзе ад іхняга сапраўднага і шчырага сяброўства да мяне. Генерал д'Энвільe едзе са мной.

20. Выправілася а восьмай гадзіне і прыбыла проста да Арсенала на позні абед. Там знайшла двух нашых сяброў, паноў Брукса і Фрэдзі. Апошні застаўся з намі, другога чакалі ў іншым месцы. А чацвёртай гадзіне прыбыла да біскупства, каб усталявацца, бо змяніла пакой на менш прасторны, але нашмат больш утульны ўзімку. Паны Фрэдзі, Брукс, абат дэ Кэрпэн, паны Збаінскі, Лапускі і Сухадольскі завіталі да мяне ўвечары.

21. Тыя ж паны, што і ўчора, завіталі да мяне ўвечары. Не даведалася нічога новага, акрамя таго, што пані Дзюбары вызвалілася і атрымала дазвол пакінуць кляштар Пон-о-Дам, аднак з загадам не набліжацца больш чым на дзесяць лье да двара. Да гэтага дадаюць такую акалічнасць, што на Дзень усіх памерлых яна была на імшы па нябожчыках і так была ёю ўражана, што страціла прытомнасць. Пра гэта данеслі каралю, і кажуць, што з той прычыны яна выйшла на волю.

22. Атрымала ліст з Канстанцінопаля ад пана Ралана дэ Брыё ад 7 лістапада. Вось урывак з яго.

[232] Княгіня Марыя Сапега (нарадзілася ў 1751 г., дата смерці невядомая).
[233] Цяпер горад у Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці.

«Я не меў гонару пісаць Вашай Міласці на працягу гэтага месяца, паколькі яшчэ нічога не было вызначана, але, на шчасце, зараз наш ад’езд прызначаны на заўтра. Амбасадар атрымаў загад з Францыі выдаць шэсць тысяч ліўраў палякам, якія знаходзяцца тут, і не марудзячы адправіць іх. Я не ведаю, як бы мы меліся, калі б не прыйшла гэтая дапамога, паколькі дагэтуль ні ад кога ніякага крэдыту не мелі. Князеў прадстаўнік, які рабіў новыя захады перад Портай, не атрымаў ніякіх рашэнняў. Драгаман[234] учора запэўніў яго, што яны будуць прыняты найпазней праз два ці тры дні і будуць спрыяльнымі. Такім чынам, мы будзем чакаць на іх у Адрынопалі, вымушаныя выправіцца раней, каб задаволіць пана амбасадара. Рускія, што знаходзяцца тут, памыкаюць Портай, як хочуць. Дастаткова ім сказаць “мы хочам”, каб ні ў чым не ведаць патрэбы. Яны запатрабавалі, каб не толькі ім былі вернутыя ваеннапалонныя, але яшчэ і ўсе рускія рабы грэчаскай веры і іншыя рабы розных нацый, і атрымалі гэта без аніякай цяжкасці». […]

23. Раніцай пусцілі мне кроў, бо тое палічыў добрым пан Брунэ. Праз нязграбнасць хірурга прыйшлося тое рабіць тры разы, хоць быў той самы, што заўсёды тут пускаў мне кроў кожны раз, як тое было неабходна, і даволі часта. Паколькі звычайна я нічога не баюся, то дазволіла маладому чалавеку адысці ад спалоху, што тройчы не здолеў патрапіць, і нарэшце здолеў пусціць мне кроў як след. Я добра зрабіла, што падумала ў гэты момант пра газету, якая два гады таму, а следам за ёй і ўсе іншыя, запэўнівала чытачоў, нібыта падобны выпадак у Страсбургу пазбавіў мяне жыцця і нібыта нават я па сваім тастаменце пакінула нешта таму самаму хірургу, бо ягоная рэпутацыя была б знішчаная такім няшчасным здарэннем.

Артымала такія жаданыя навіны з Марсэля пра небараку Пулаўскага. Пан дэ Росі, маёр Каралеўскага карсіканскага рэгімента, да якога я звярнулася, каб дапамог таму, узяўся за справу найлепшым чынам. Ён выдаў Пулаўскаму аванс у 12 луідораў, прапанаваўшы мне павялічыць суму, калі пажадаю. Ён перадае, што стан Пулаўскага самы сумны, але што той надта ўсцешыўся, даведаўшыся, што выказваю цікавасць да ягонага лёсу.

На ягоны кошт жывуць яшчэ шэсць асоб, якіх ён не можа пакінуць і не падзяліцца з імі тым, што Провід пашле яму праз тых, каго кране ягонае становішча. Маёр Росі настойліва раіў яму пакінуць толькі аднаго лёкая і толькі адзін пакой, прапанаваўшы яму свае паслугі. Пулаўскі сам напісаў мне вельмі кранальны ліст, я яго атрымала адначасова з дзвюма іншымі, ад пана Заёнчака і французскага афіцэра Гіёна, якія жывуць разам з ім. Першы з іх просіць мяне прызначыць яго на французскую службу ў які-небудзь рэгімент, другі просіць, каб дапамагла вярнуцца на службу і прасіла ласкі ў пана дэ Вьёмэніля, да чыйго легіёна ён некалі належаў, а пасля пакінуў без прычыны і тое ўжо даволі даўно. Ён жадае адначасова атрымаць крыж св. Людовіка за трыццаць гадоў службы і самае малое жалаванне, абы толькі яно давала магчымасць прыпісацца да якога-небудзь палка.

24. Атрымала ліст ад пана Жэрара, які абвяшчае мне, што выплаты па маім пенсіёне ад міністэрства замежных спраў могуць пачацца толькі ў студзені 1776 года і што гэта правіла без выключэнняў для ўсіх, хто мае патэнт, і што трэба прасіць як аб асаблівай міласці, каб быць выключаным з гэтага класа.

Пакінуўшы прынцу Луі адрас пана дэ Росі, каб адаслаў нейкую дапамогу пану Пулаўскаму, я паспяшалася сёння пераслаць яму ліст, які атрымала ўчора ад пана Росі, дадаўшы ўсё, што палічыла неабходным адначасова для поспеху і для доказу, што пакінуты мною адрас верны, калі ён пажадае ім скарыстацца.

25. Пан Брунэ, якога выклікаюць праз лісты з’явіцца ў Цвайбрукене, учыніў мне агляд разам з панам Ракілем, хірург-маёрам Каралеўскага рэгімента. Ён пакідае яму пісьмовае рэзюмэ, якога той павінен прытрымлівацца ў маім рэжыме, і дае мне копію,

[234] У даўнія часы — перакладчык пры ўсходніх дварах.

каб ні ў чым не адхіляліся ад ягоных прынцыпаў. Я напісала пану дэ Форбаху з просьбай аддзячыць герцагу за ягоны дазвол быць пану Брунэ пры мне і з папярэджаннем, каб захоўваў яго для мяне на ўсякія выпадкі, калі буду мець патрэбу ў пане Брунэ. Той вырашыў выправіцца заўтра раніцай.

26. Атрымала вельмі пачцівы адказ ад прынца Луі, які адначасова распавядае мне пра сваю місію пры пане кардынале і далучае дэпазітны сертыфікат на 25 луідораў для свайго мытара, просячы мяне перадаць яго ў Марсэль.

Між іншымі дайшоў да мяне ліст, які зрабіў мне яшчэ больш радасці верным доказам самага моцнага сяброўства, якое звычайна выгодна праяўляецца ў самых складаных выпадках і самым нечаканым чынам. Гэта піша мне пан Росі, палкоўнік Карсіканскага легіёна, брат маёра, такімі словамі: «Дзіўлюся я, што пан Пулаўскі не адрэкамендаваўся ад майго імя ў Марсэлі перад усімі афіцэрамі з рэгімента майго брата, якіх там бачыў, бо сярод іх ёсць нават багата маіх сваякоў, гатовых выцягнуць яго з таго бедства, у якім знаходзіцца. Быў я вельмі ўсцешаны атрымаць сёння раніцай ліст ад свайго брата, якім той сведчыць мне, што меў радасць адшукаць Пулаўскага і ад Вашага імя даставіць яму неабходную дапамогу. Я мяркую, што ягоныя суайчыннікі яго не пакінуць. Што да мяне, то, як ягоны сябар, я даручаю свайму брату тым жа лістом дапамагчы яму ад майго імя. Шчыра падзяляю ягоную бяду і жадаю зрабіць так, каб ён на яе забыўся».

27. Пан Сапега паведамляе мне, што пасля смерці пана дэ Феліна[235], які некалі быў рэгентам пры пармскім двары, а потым трапіў у няміласць, збег у Францыю і атрымаў пенсіён, пані дэ Нарбон параіла яму папрасіць у пані Адэлаіды, каб яна зрабіла ласку дамагчыся ў міністра на яго карысць таго пенсіёну, які пасля яго застаўся. Муж мой кажа, што зрабіў неабходныя захады перад пані [Адэлаідай], якая паабяцала яму перамовіць з панам дэ Вержэнам.

Мела сёння візіт ад пані баранесы Лефор і яе дачок. Увечары быў Збаінскі, як звычайна, з двума іншымі палякамі.

28. Прымала воды, але так няўдала, што была хворая цэлы дзень. Увечары прымала сваіх палякаў, пана Фрэдзі, барона дэ Броса і Кэрпэна. […]

30. Пані дэ Барэгар абвяшчае мне аб праездзе праз Люнэвіль пана кардынала, які, як толькі прыбыў, адаслаў з візітам маленькага прынца дэ Рашфора[236]. Потым да яго самога падчас абеду вынеслі майго сына. Ён даволі доўга з ім бавіўся і песціўся. […]

31. Напісала прынцэсе Крысціне ліст з віншаваннямі да Новага года і далучыла да яго іншы ліст для яе брата герцага Карла[237], якому выклала сітуацыю Пулаўскага, тым больш што апошні тлумачыць у сваім лісце, што спадзяецца атрымаць грошы з Польшчы праз падтрымку гэтага прынца.

Атрымала вельмі пачцівы адказ ад прынцэсы, якая запэўнівае мяне, што даможацца адказу і ад свайго брата.

Канец 1774 года

*Пераклад з французскай і польскай*
*і каментары Дзяніса КАНДАКОВА*

---

[235] Леон Гіём Дзютыё (1711–1774), першы міністр герцагства Пармскага (1759–1771), атрымаў тытул маркіза Феліна ў 1764 годзе ад герцага Філіпа дэ Бурбона.

[236] Шарль Луі Гаспар, прынц дэ Раган-Рашфор (1765–1843), стрыечны пляменнік кардынала Луі дэ Рагана.

[237] Карл Крысціян Саксонскі (1733–1796), герцаг Курляндскі (1758–1763), сын караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III.

# УСПАМІНЫ ВАНДАЛІНА ШУКЕВІЧА ПРА ПАЎСТАННЕ 1863–1864 ГАДОЎ У ЛІДСКІМ ПАВЕЦЕ

Паўстанне 1863–1864 гадоў — гэта тая падзея, якая, так бы мовіць, падзяліла на дзве часткі «доўгае XIX стагоддзе» ў гісторыі Беларусі. З аднаго боку, яно стала апафеозам доўгай серыі ўзброеных выступленняў за адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, з другога — яно больш чым на паўстагоддзя паклала канец падобным памкненням. Сістэма ж уведзеных пасля яго пераўтварэнняў моцна змяніла ўнутрыпалітычную сітуацыю на тэрыторыі Беларусі і істотна паўплывала на эканамічнае развіццё.

Паўстанне ў айчыннай гістарыяграфіі мае працяглую і насычаную традыцыю распрацоўкі. З самага пачатку станаўлення беларускай гістарыяграфіі яно стала адной з найбольш даследаваных праблем. У 1920-я гады свае працы па яго гісторыі выпусцілі такія вядомыя беларускія гісторыкі, як Уладзімір Пічэта, Усевалад Ігнатоўскі, Сяргей Цытовіч, Міхась Мялешка, Ян Віткоўскі і некаторыя іншыя. У пасляваенны савецкі перыяд вялікі ўклад у даследаванне паўстання ў Беларусі ўнеслі Анатоль Смірноў, Генадзь Кісялёў, Сусана Самбук, Уладзімір Казбярук, Давід Файнгаўз і іншыя. У перыяд існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь з'явілася цэлая плеяда айчынных даследчыкаў: Вячаслаў Швед, Алена Фірыновіч, Вольга Гарбачова, Валянціна Яноўская і шматлікія іншыя[1]. Больш за тое, паўстанне стала адной з самых дыскусійных тэм, месцам сутыкненняў гісторыкаў самых розных гістарыяграфічных плыняў.

Пласт гістарыяграфіі на тэму паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі з'яўляецца на сёння дастаткова значным і налічвае больш за тысячу бібліяграфічных пазіцый. Аднак на працягу амаль ста гадоў развіцця айчыннай гістарычнай навукі не была вырашаная адна важная праблема — увядзенне ў навуковы ўжытак наяўнага комплексу крыніц. На працягу XX–XXI стагоддзяў было выдадзена ўсяго некалькі спецыялізаваных зборнікаў дакументальных матэрыялаў[2]. Сітуацыя ж з мемуарнымі крыніцамі выглядае яшчэ горш. Яны толькі фрагментарна выкарыстоўваюцца ў сучасных навуковых працах, а некаторыя гісторыкі ў сваіх публікацыях увогуле іх не ўжываюць. Гэта тычыцца як рускамоўных, так і польскамоўных мемуараў, але для апошняй групы гэтая праблема стаіць значна больш актуальна з прычыны, як правіла, простага іх няведання гісторыкамі. Актуалізуе гэтую праблему і няведанне польскай мовы ўсімі даследчыкамі.

Толькі ў апошні перыяд пачалася ў Беларусі праца па перакладзе з польскай мовы мемуараў, прысвечаных паўстанню. У прыватнасці, былі перакладзены некаторыя ўрыўкі з успамінаў Якуба Гейштара пра Канстанціна Каліноўскага[3], успаміны Фелікса

[1] Больш падрабязны агляд гістарыяграфіі паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі гл.: Фірыновіч А. Э. Паўстанне 1863–1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў. — Мінск: Беларуская навука, 2013. — С. 6–33.

[2] Rok 1863 na Mińszczyźnie (materiały Archiwum wydziału III kancelarji cesarskiej) / zebr. i opr. J. Witkowski, O. Janiewicz i Lp. Lech. — Mińsk: Nakładem Instytutu kultury białoruskiej, 1927. — 216 s.; Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Сб. документов / [АН СССР, Ин-т славяноведения и др.]. — М.; Вроцлав: Наука, 1965. — 586 с.; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі: у 4 т., 1936–1954. Т. 2: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772–1903) / пад рэд. Н. М. Нікольскага [і інш.]. — Мінск: Выд-ва АН БССР, 1940. — 939 с.; Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях: Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі / уклад. Дз. Ч. Матвейчык; рэдкал.: У. І. Адамушка [і інш.]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — 544 с.; Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: документы и материалы. — Москва: Наука, 1964. — 707 с.

[3] Каліноўскі К. За нашую вольнасць: Творы, дакументы / Уклад., прадм., пасляcл., пер. і камент. Г. Кісялёва. — Мінск: Міжнар. фонд «Бел. кнігазбор», 1999. — 459 с., [2] л. іл. — (Беларускі кнігазбор. Серыя 2, Гісторыка-літаратурныя помнікі).

Ражанскага[4] і Ігната Арамовіча[5] пра паўстанне ў Гродзенскай губерні, Яўгена Броэль-Плятэра пра падзеі ў Дынабургскім павеце[6], Мірона Браніслава Нарбута — у Лідскім[7]. Аднак з дакладнасцю магчыма канстатаваць, што гэты працэс не мае вялікіх маштабаў, бо ўспаміны Вандаліна Чэрніка, Апалінарыя Свентарэцкага, Альжбеты Табенскай, Эдварда Паўловіча, Грасыльды Маліноўскай, Яўгена Кавалеўскага, Якуба Гейштара, Юзэфы Абязерскай (народжанай Свентарэцкай) і шматлікія іншыя большага і меншага аб'ёму застаюцца да гэтага часу неперакладзенымі. На частковае вырашэнне гэтай праблемы і накіравана гэтая публікацыя.

* * *

Аўтар ніжэй прыведзеных успамінаў дастаткова добра вядомы ў айчыннай і яшчэ лепей у польскай гістарыяграфіі. У сувязі з гэтым яго біяграфія будзе пададзена толькі ў асноўных рысах.

Вандалін Мацей Шукевіч нарадзіўся 10 снежня 1852 г. у вёсцы Нача, цэнтры воласці Лідскага павета Віленскай губерні (у цяперашні час — вёска, цэнтр с/с Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці) у сям'і віленскага адваката Аляксандра і Аліны Воўк-Карачэўскай. У сям'і ўжо была адна дачка — Ідалія, якая нарадзілася ў 1850 годзе (памерла ў 1919 г.). У хуткім часе пасля нараджэння бацькі развяліся. Пасля выхаваннем брата і сястры займаліся маці і бабка. У 1867 годзе Вандалін і Ідалія былі адпраўлены з Начы ў Вільню для далейшай адукацыі. З той жа мэтай яны ў 1869 годзе пераехалі ў Варшаву. Аднак паступіць на навучанне ва ўніверсітэт Вандалін не змог і ў 1871 годзе вярнуўся на радзіму ў Начу, дзе працягваў займацца самаадукацыяй.

У Начы ён ажаніўся з Браніславай Пятроўнай Сямашкай-Паўловіч. У сям'і нарадзіліся двое дзяцей — Раман Зыгмунт (нар. 5 ліпеня 1884 г.) і Ванда Аліна (нар. 28 лістапада 1885 г.). Аднак у хуткім часе пасля нараджэння дачкі жонка памерла. У 1888 годзе Вандалін ажаніўся ў другі раз — з Юліяй Юльянаўнай Камінскай. Ад гэтага шлюбу таксама нарадзіліся двое — сыны Зыгмунт (нар. 9 сакавіка 1890 г.) і Генрык (нар. 22 лістапада 1899 г.). Аднак сямейнае жыццё не склалася, і Юлія ў 1902 годзе пакінула мужа і дзяцей і вярнулася жыць да бацькоў. Пазней яна нават распачала судовы працэс супраць мужа і выйграла яго. У выніку ён вымушаны быў выплаціць жонцы 7000 рублёў, што вымусіла нават прадаць частку Начы. Тым не менш гэты перыяд у жыцці Шукевіча меў адзін істотна важны момант: менавіта тады ён захапіўся археалагічнымі пошукамі.

У 1896 годзе сям'я пераехала на жыццё ў Вільню. Гэта садзейнічала пашырэнню навуковых кантактаў Шукевіча. Ён заняўся яшчэ і журналістыкай, якая прыносіла яму сталы даход. Працаваў таксама ў адной з віленскіх кнігарняў і ў Таварыстве сяброў навук, уваходзіў у склад адразу некалькіх навуковых грамадскіх арганізацый — Таварыства прыхільнікаў старажытнасці і чалавеказнаўства (т. зв. археалагічны гурток), Таварыства сяброў навук і інш. У Начы ў гэты час з яго ініцыятывы былі створаны кааператыў, крама, земляробчы гурток, школа. У сваёй працы ён вылучаўся стараннасцю, самаадданасцю і апантанасцю, што садзейнічала няспыннаму павелічэнню яго аўтарытэту як навукоўца

4 Ражанскі Ф. З Гарадзенскага ваяводства (1903) / падр. З. Кузьменка // Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі: матэрыялы VII міжнароднай навуковай канферэнцыі Беларускага Гістарычнага Таварыства, Менск, 25 верасня 2009 г. / [навуковы рэдактар А. Смалянчук]. — Менск: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2011. — С. 217–221.

5 Арамовіч І. Мары. Успаміны аб партызанскім руху ў Гарадзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг. / падрыхт. А. Радзюк // ARCHE. — 2010. — № 12. — С. 18–71.

6 Броэль-Плятэр Я. Успаміны за 1863 год / пераклад і каментары Д. Матвейчыка // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 48–67.

7 Нарбут М. Б. Лідскі павет 150 гадоў таму / пераклад Г. Лаўрэш, каментары Л. Лаўрэша // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 122–123.

і грамадскага дзеяча, завязванню і актывізацыі яго шматлікіх кантактаў з навуковымі арганізацыямі па ўсёй Расійскай імперыі, а таксама з некаторымі еўрапейскімі. Адным з навукоўцаў, з якім Шукевіч кантактаваў у гэты час, быў тады яшчэ малады гісторык і археолаг, а пазней славуты стваральнік Дзяржаўнага музея ў г. Гродне (у цяперашні час — Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагаічны музей) Юзаф Ядкоўскі[8].

Аднак цяжкая праца дала і свой негатыўны вынік: здароўе Шукевіча пачало пагаршацца. Да гэтага дадаліся і іншыя праблемы. 30 кастрычніка 1919 года памерла яго жонка Юлія, а ў лістападзе — сястра Ідалія (за мужам Седлікоўская). Гэтыя цяжкія падзеі яшчэ больш пагоршылі яго стан. У выніку 1 снежня 1919 года Вандалін Шукевіч памёр[9].

* * *

Навуковая спадчына В. Шукевіча налічвае некалькі дзясяткаў разнастайных прац, пераважна артыкулаў у навуковых выданнях на археалагічныя тэмы[10]. Публікацый іншай тэматыкі ў яго няшмат, і мемуарныя творы не з’яўляюцца сярод іх асноўнымі. Адна з іх — успаміны пра паўстанне 1863–1864 гадоў у Лідскім павеце. Яны былі апублікаваны ў 13-м выпуску працяглага зборніка «Kalendarz na rok przestępny 1908 wydany staraniem Katolickiego Towarzystwa Dobroczynności przy kościele Św. Katarzyny w Petersburgu» («Каляндар на наступны 1908 год, выдадзены намаганнямі Каталіцкага таварыства дабрачыннасці пры касцёле Св. Кацярыны ў Пецярбургу») у 1907 годзе[11]. У цэлым зборнік уяўляў з сябе набор публіцыстычных і літаратурных твораў, артыкулаў з бягучымі навінамі і прыватнымі абвесткамі. Напрыклад, успаміны Шукевіча суседнічаюць з такімі публікацыямі, як апавяданне Генрыка Сянкевіча «Званар» («Dzwonnik») і артыкул «З праўдзівых здарэнняў. Міншчына», падпісаны крыптонімам «J. S.».

Мемуары не з’яўляюцца вялікімі паводле аб’ёму і займаюць у зборніку ўсяго 6 старонак. Пры знаёмстве з імі становіцца відавочным выразны публіцыстычны стыль напісання. Увесь тэкст напоўнены патрыятычным пафасам, эмацыянальным перажываннем падзей, імкненнем да гераізацыі паўстанцаў. Нават задачу сваіх успамінаў Шукевіч бачыць не навуковую, а, хутчэй, патрыятычна-мемарыяльную — «ушанаванне памяці нашага героя і яго таварышаў». Уласна фakталогія падаецца фрагментарна і не стварае агульнай карціны падзей. Таксама відавочна, што Шукевіч робіць некаторыя апісанні на падставе пазней — пасля паўстання — атрыманых звестак з друкаваных твораў ці з вуснай традыцыі, напрыклад біяграфія Нарбута да паўстання, звесткі пра бой ля Дубічаў, лёс аднаго з параненых паўстанцаў, імёны паўстанцаў з атрада Нарбута, загінулых у баі, і інш. Пры гэтым яго ўласныя ўспаміны — гэта ўсяго некалькі дробных эпізодаў, якія давялося бачыць яму, у той час 10-гадоваму хлопчыку. Аднак для гісторыка ўспаміны цікавыя і іншымі акалічнасцямі: апісаннямі агульнай сітуацыі ў рэгіёне да і падчас

[8] Матвейчык Дз. Ч. Дзейнасць Юзафа Ядкоўскага па даследаванні і папулярызацыі гісторыі паўстання 1863–1864 гадоў // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. ; вып. 13 / рэд.: Ю. М. Бохан [і інш.]. — Мінск: НГАБ, 2015. — С. 174–188; Blombergowa M. M. Józefa Jodkowskiego kłopoty z objęciem posady w Wilnie w świetle listów do Wandalina Szukiewicza // Acta Universitatis Lodziensis. Folia Archeologica. — 1992. — № 16. — 37–43; Яе ж. Wojenne losy Józefa Jodkowskiego w świetle listów do Wandalina Szukiewicza w latach 1914–1915. — Archeologia Polski. — T. XXXVII. — 1992. — Z. 1–2. — S. 41–55.

[9] Больш падрабязна пра біяграфію Шукевіча гл.: Blombergowa M. M. Szukiewicz Wandalin // Polski Słownik biograficzny. — T. XLIX/2. — Zeszyt 201. — Warszawa — Kraków, 2013. — S. 211–213; Яе ж. Wandalin Szukiewicz: Syn Ziemi Lidzkiej — badacz i społecznik (1852–1919). — Warszawa — Lida: b/w, 2010. — 84 s.

[10] Kostrzewski J. Spis prac naukowych śp. Wandalina Szukiewcza // Przegląd Archeologiczny. — T. 1. — 1919–1920. — Z. 3–4. — S. 83–84.

[11] Szukiewicz W. Wspomnienie z r. 1863 // Kalendarz na rok przestępny 1908 wydany staraniem katolickiego Towarzystwa Dobroczynności przy Kościele Św. Katarzyny w Petersburgu. — R. 13. — 1908. — S. 96–101.

паўстання, сцэн адпявання паўстанцаў у Дубіцкім касцёле і іх пахавання, прыбыцця на месца пахавання атрада расійскіх жаўнераў і іх паводзінаў ужо пасля набажэнства і інш. Тым больш што некаторыя з гэтых момантаў перагукаюцца з іншымі мемуарамі, напрыклад Мірона Браніслава Нарбута[12].

Паўстанне ў Лідскім павеце, а асабліва дзейнасць атрада лідскіх паўстанцаў пад камандаваннем Людвіка Нарбута, з'яўляецца адным з найбольш вядомых эпізодаў паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі. Ніводная з вядомых комплексных прац на адпаведную тэму не абмінае яго ўвагай. Менавіта з гэтай прычыны ў гэтай публікацыі не варта спыняцца падрабязна на саміх падзеях. Хутчэй, неабходна звярнуць увагу на тую акалічнасць, што ў ніводнай з манаграфій пра паўстанне ў Беларусі аўтарства Усевалада Ігнатоўскага[13], Аляксандра Ляскоўскага[14], Давіда Файнгаўзга[15], Анатоля Смірнова[16], а таксама ў каментарах да зборніка дакументаў, выдадзенага ў 1963 годзе ў немалой ступені дзякуючы намаганням Генадзя Кісялёва[17], гэтыя мемуары не выкарыстоўваюцца. Больш за тое, яны засталіся няўжытымі і ў вядомых біяграфічных нарысах пра Л. Нарбута аўтарства польскіх даследчыкаў Аляксандра Снежкі[18], Паўла Камароўскага і Аляксандра Калышкі[19], а таксама беларускіх гісторыкаў Вячаслава Шведа[20], Вітаўта Чаропкі[21] і Леаніда Лаўрэша[22], якія пераважна пераймаюць звесткі з польскіх прац, і Генадзя Кісялёва[23] альбо ў кароткіх зацемках, напрыклад, Адама Мальдзіса[24]. Адзіная праца, дзе вядома ўжыванне гэтых успамінаў, гэта нарыс Уладзіслава Карбоўскага[25]. Аднак і тут яны выкарыстаны дастаткова спецыфічна. Не ведаючы пра іх публікацыю, Карбоўскі карыстаўся рукапісам, запісваючы ў спіс выкарыстаных крыніц адпаведную пазіцыю наступным чынам: «Шукевіч Вандалін. З нявыдадзеных успамінаў. Сямейны архіў»[26]. Таму патрэба перакладу на беларускую мову і ўвядзення ў навуковы ўжытак гэтай крыніцы з'яўляецца відавочнай.

*Дзмітрый МАТВЕЙЧЫК*

---

12 Гл. каментары да тэксту.

13 Ігнатоўскі У. 1863 год на Беларусі: Нарыс падзей. — Мінск, 1930. — 275 с. (Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. — Кн. 13. — Працы Інстытуту гістарычных навук. — Т. V).

14 Лясковский А. И. Литва и Белоруссия в восстании 1863 г.: (по новым архивным материалам). — Берлин: Арзамас, 1939. — 189, [1] с.

15 Fajnhauz D. 1863: Litwa i Białoruś / Inst. Historii PAN. — Warszawa: Neriton, 1999. — 357 s.

16 Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. — Москва: Изд-во Акад. наук СССР, 1963. — 392 с.

17 Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Сб. документов / [АН СССР, Ин-т славяноведения и др. — Москва; Вроцлав: Наука, 1965. — 586 с.

18 Śnieżko A. Ludwik Narbutt — bohater narodowy // Ziemia Lidzka. — 1938. — Z. 5–6.

19 Komorowski P., Kołyszko A. Ludwik Narbutt: z dziejów historycznej świadomości Polaków na Ziemi Lidzkiej. — Warszawa — Lida: RetroArt, 1999. — 41 s.

20 Швед В. В. Вайсковы начальнік Лідскага павета грамадзянін Нарбут // Наш радавод. — Кн. 6. — Ліда, 1994. — С. 83–87.

21 Чаропка В. Dulce est pro patria mori. Людвік Нарбут // Беларускі гістарычны часопіс. — 2003. — № 7. — С. 30–39.

22 Людвік Нарбут: 180 гадоў з дня нараджэння / артыкул, скампанаваны паводле матэрыялаў Паўла Камароўскага, Аляксандра Колышкі, Часлава Мілеўскага // Лідскі летапісец. — 2012. — № 3. — С. 47–60; Лаўрэш Л. Людвік Нарбут // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 74–105.

23 Кісялёў Г. В. «Як соладка памерці за радзіму!.».: Паўстанцкі камандзір Францішка Багушэвіча // Кісялёў Г. В. Радаводнае дрэва: Каліноўскі — эпоха — наступнікі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — С. 53–60.

24 Мальдзіс А. Сказ пра забытых герояў: [Пра Апалінарыя Свентарэцкага, Людвіка Нарбута, Міхала Андрыёлі, Міхала Цюндзявіцкага, Тэадору Манчунскую] // Маладосць. — 1964. — № 10. — С. 138–142.

25 Karbowski W. Ludwik Narbutt: życiorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. — Grodno: Wydawnictwo 76 Lidzkiego P. P. im. Ludwika Narbutta, 1935. — 250, [3] c. + 1 карта.

26 Ibidem. — S. 223.

*Вандалін Шукевіч*

# УСПАМІНЫ 1863 ГОДА

У незабыўным для кожнага паляка 1863 годзе мы амаль не мелі зімы. Яна ледзьве пагладзіла сваім сняжыстым крылом нашую краіну і асела дзесьці там, далёка за Дзвіной і Дняпром, пакідаючы тут зіму сапраўды голую і брудную, але не замерзлую, бо ахінутую ў шэрыя завесы туманаў, якія прарываліся час ад часу светлым вокам сонца, што слала зямлі свае гарачыя пацалункі. Самыя старыя людзі не памяталі такога цяпла ў гэтую пару. Гэта прыпісвалі таксама відавочнай ласцы Пана Бога, які літаваўся над нядоляй тых, хто пакінуў свае родныя дамы і ўсё, што меў дарагога, і, туляючыся па лясах і змагаючыся за святую справу, цэлымі тыднямі не меў даху над галавой. У красавіку вясна ўжо была ў самым росквіце, шчодрай рукой рассяваючы па прабуджанай пасля зімовага сну зямліцы свае чарадзейныя дары, напаўняючы людскія сэрцы надзеяй.

Надзея! Хто яе тады не меў у нашым краі? Каму не мроіліся вялікія планы адбудовы Польшчы ад мора да мора? Хто не сніў, не верыў, што…

І тая ў свеце знікне магіла,
Што злога ката трымае сіла…[1].

Хто не чакаў уваскрэсення? Але іншымі былі планы Прызначэння! Гром з’яўляўся пасля грому, гінулі героі ідэі, пакідаючы пасля сябе незапоўненую пустату. І так заняпала святая справа, узнятая велізарнымі намаганнямі, ведзеная па-геройску, без сродкаў, без зброі, з адной толькі верай у Вышэйшую Волю і слушнасць справы.

Адна з першых сцэн гэтай гістарычнай трагедыі разыгралася на тэрыторыі Лідскага павета. Галоўным акцёрам гэтай акцыі быў Людвік Нарбут, сын Тэадора, вядомага гісторыка Літвы, і, трэба прызнаць, выканаў даверанную яму ролю па-майстэрску. Яго спосаб ваяваць, на думку знаўцаў, быў цудоўны, настолькі, што яшчэ да нядаўняга часу яго прыводзілі як узор вядзення партызанскай вайны. Ён быў у гэтым, можна сказаць, майстрам, бо навучыўся ў агні баёў на Каўказе, дзе, вырваны са школы ў Вільні ў 1848 годзе, праслужыў простым жаўнерам 11 гадоў, удзельнічаючы больш чым у дзевяноста сутычках і большых бітвах. Пасля вяртання дадому з крывава заслужаным чынам афіцэра ён ледзьве меў час перадыхнуць пасля цяжкіх прац і небяспечнасцяў і парадавацца цяплу хатняга агню — ужо «айчына, што з труны ўстае»[2], кліча яго да зброі. Прызначаны выклікаць узброены рух у Лідскім павеце, збірае атрад і роўна ў дзень Маці Божай Грамнічнай выступае на чале, каб выканаць свой святы абавязак. Але я не маю намеру пісаць гісторыю гэтага ўзброенага руху, што вёўся Нарбутам на працягу больш чым двух месяцаў. Я хацеў бы толькі для ўшанавання памяці нашага героя і яго таварышаў падаць пару ўспамінаў пра эпілог гэтых бурлівых дзён, якія нават у маім дзіцячым розуме пакінулі незабыўныя ўспаміны.

Чалавечая памяць не раз падводзіць. Асабліва ўспаміны дзіцячых гадоў расплываюцца ў забытых падрабязнасцях, часта малога значэння, сціраючы адзін аднаго, утвараючы нейкую невыразную хаатычную цэласнасць, нібы фон, на якім дзе-нідзе заблішчыць успамін асобнага, але выдатнага факта, які выключна ясна намаляваўся ў нашай памяці.

[1] Словы з пачатковай часткі паэмы польскага паэта эпохі рамантызму Зыгмунта Красінскага (1812–1859) «Світанак» («Przedświt») (1843). Пераклад Дзяніса Лісейчыкава.

[2] Словы з верша польскага паэта-рамантыка Стэфана Вітвіцкага (1801–1847) «Яшчэ Польшча не загінула…» («Jeszcze Polska nie zginęła...») (1830).

У маёй памяці адасабляецца перадусім успамін пачуцця буры, якое ахоплівала мяне заўжды, калі я заўважаў здалёк на дарозе, што вяла ад чыгункі, масу жаўнераў, якая стварала ўражанне вялізнай змяі, што блішчала на сонцы жалезнымі вастрыямі — штыкамі. Я ведаў, што гэтая змяя паўзе на нашую згубу, і нейкі страх ахопліваў маю дзіцячую душу, нібыта я ўбачыў смерць ва ўсім яе грозным выглядзе! І — дзіўная рэч — я не думаў пра сябе; вось, неяк не прыходзіла да галавы небяспека, хоць яна не раз бывала вельмі блізка, асабліва таму, што і паўстанцы не абыходзілі наш дом. Але я ведаў, што гэтая шэрая маса — гэта смерць нашых братоў, а гэтыя іскаркі — гэта громы на галовы нашых герояў, што змагаліся за волю. Далей я памятаю ашаламляльнае ўражанне, выкліканае рэхам пачутых стрэлаў бітвы[3] ў Лакштуцях[4], затым ціхія навіны пра разбіццё і расцярушанне атрада, пра смерць Нарбута пад Дубічамі[5], урэшце, пахаванне ахвяр, крыкі роспачы, што вырываюцца з усіх грудзей, страчаныя надзеі, цемра без аніводнага праменьчыка святла, пекла!

Калі сёння гэтыя ўспаміны прылятаюць з далёкай краіны мінуўшчыны і, нібы вандроўнае птаства, асядаюць на розуме, то ствараецца яшчэ ўражанне, што не астыў той жаль са страчанымі ілюзіямі, якімі жывіліся і жылі старэйшыя пакаленні, жаль, што столькі сіл, столькі энергіі, столькі гераізму патрачаны марна! Бо і гераізм быў патрэбен, каб умець загінуць, не маючы ў суцяшэнне нават той веры, што сваёй смерцю купляецца шчасце нашчадкаў. Такой веры Нарбут не мог мець, тым больш што як экс-вайсковец добра ведаў суадносіны і сілы ваюючых бакоў. Зрэшты, ён бачыў, што агонь паўстання не толькі не павялічваецца, але, наадварот, гасне з кожным днём, што сілы, на якія магчыма разлічваць, усё больш слабеюць, а чаканая дапамога ніадкуль не прыбывае. Аднак, нягледзячы ні на што, не паў духам, ваяваў да апошняй кроплі крыві і ў канцы аддаў сваё жыццё за айчыну.

Сустрэча ў Лакштуцях, стрэлы якой такім ашаламляльным рэхам адбіліся ў маёй дзіцячай душы, была для нашых адносна ўдалай. Хоць не ўтрымаліся на полі бою перад атрадам рэгулярнага войска, які наступаў у пераважнай сіле і ў дадатак з палявой гарматкай, але ўдала адстрэльваліся і значна прарэдзілі маскоўскія шэрагі, таму, непераследаваныя, маглі бесперашкодна схавацца за недаступныя балоты рэк Котра[6] і Пеляса[7], на поўдзень ад Дубічаў. Тут Нарбут, нарэшце адчуваючы сябе ў бяспецы, вырашыў трохі адпачыць пасля доўгіх і цяжкіх паходаў і павялічыць свае сілы атрадам, які павінен быў прыйсці з Троцкага павета[8]. Аднак не дачакаўся,

[3] Сутычка адбылася 20 красавіка 1863 года. Яе падрабязнае апісанне пакінуў у сваіх успамінах Міхал Эльвіра Андрыёлі [Andriolli, świadek swoich czasów. Listy i wspomnienia / oprac. J. Wiercińska. — Wrocław: Ossolineum, 1976. — S. 19, 112–114].

[4] Лакштуці — урочышча ў Лідскім павеце. Лакалізацыя гэтай мясцовасці на цяперашні час выклікае складанасці, бо ў даведніках сучаснага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі такі населены пункт адсутнічае. Яніна Вярцінска, якая займалася каментаваннем успамінаў і лістоў Андрыёлі, пра лакалізацыю Лакштуцяў піша: «пад Кавалькамі ў ранейшым Лідскім павеце» [Andriolli, świadek swoich czasów… — S. 19]. У Лідскім павеце існавалі 2 населеныя пункты з назвай Кавалькі — у Каняўскай і Аляксандраўскай валасцях. Найбольш верагодна, што тут маецца на ўвазе мясцовасць у Каняўскай воласці, побач з Дубічамі і родавым маёнткам Нарбутаў Шаўрамі.

[5] Дубічы (Дубічы Нацкія) — вёска Каняўскай воласці Лідскага павета, у цяперашні час — вёска Дубічай (літ. — Dubičiai) Варэнскага раёна Алітускага павета Літвы (ля мяжы з Беларуссю).

[6] Котра — рака ў Літве, Гродзенскім і Шчучынскім раёнах Беларусі, правы прыток Нёмана.

[7] Пеляса — рака ў Беларусі, прыток Котры, басейна Нёмана.

[8] Верагодна, маецца на ўвазе адзін з атрадаў, якія дзейнічалі на той час у Троцкім павеце, — пад камандаваннем Фелікса Віславуха, Аляксандра Стаброўскага (паўстанцкая мянушка Любіч), Максіміліяна Чэрняка (паўстанцкая мянушка Лада) і Яна Сэндэка. У канцы траўня ці на пачатку чэрвеня ўсе яны перайшлі ў Лідскі павет (Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Сб. документов / [АН СССР, Ин-т славяноведения и др.] — М.; Вроцлав: Наука, 1965. — С. 131–132).

бо праз тыдзень 22 красавіка (4 траўня) адбылася бітва, што стала апошняй у яго жыцці. Падрабязнасцяў бітвы пад Дубічамі я добра не памятаю, ведаю толькі, што палкоўнік Цімафееў[9], высланы супраць Нарбута на чале атрада гвардыі, стаяў спачатку ў Начы[10], а праз некалькі дзён — у Дубічах, як бы зацягваючы з ударам на паўстанцаў у іх бяспечнай з выгляду, абароненай ракой і балотам пазіцыі. Гэтую яго марудлівасць тлумачылі па-рознаму: адны даказвалі, што баяўся паражэння, не ведаючы, якія сілы мае Нарбут, таму чакаў падмацавання; іншыя ж прыпісвалі гэта мірнаму настрою Цімафеева, які, не жадаючы дарэмна праліваць кроў, марудзіў з атакай, каб даць Нарбуту час адысці на бяспечныя пазіцыі ў Гродзенскую пушчу[11]. На карысць гэтай апошняй версіі, як здаецца, можа казаць наступны факт, які даў лозунг да ўзброенага выступлення. Праз тры ці чатыры дні такой бяздзейнасці некалькі афіцэраў, верагодна, мяркуючы, што паўстанцы ўжо далёка, выбраліся на лодках на паляванне, і тут праз нейкія пару вёрст уніз па рацэ самым нечаканым чынам натрапілі на паўстанца. Той даў стрэл і ўцёк да сваіх, а афіцэры як мага хутчэй вярнуліся ў Дубічы, адкуль адразу выйшла войска на пошук паўстанцаў. У пераправе праз раку ля Дубічаў па вузкай кладцы ніхто ім не перашкаджаў, бо, праведзеныя вядомымі сцежкамі сярод балотаў мясцовым селянінам Базылём[12] (павешаным потым атрадам Віславуха[13]), дабраліся да паўстанцкіх пазіцый. Расправа была кароткай. Адразу пасля першых стрэлаў Нарбут паў, паранены ў нагу. Каля яго сабраліся самыя смелыя і падхапілі на рукі, стараючыся вынесці з-пад стрэлаў, але менавіта гэта звярнула ўвагу непрыяцеля, які ў гэтае месца накіраваў самы моцны агонь, паклаўшы ўсіх забітымі[14]. Так палеглі несены на руках Нарбут, якому куля

[9] Аляксей Аляксеевіч Цімафееў з 14 жніўня 1847 года служыў у лейб-гвардыі Паўлаўскім пяхотным палку расійскіх войскаў і падчас паўстання ў сакавіку — красавіку 1863 года ў чыне капітана камандаваў атрадам, што дзейнічаў супраць Нарбута. За яго разбіццё пад Дубічамі пасля вяртання ў Вільню ён атрымаў чын палкоўніка. У далейшым з 23 траўня да 15 кастрычніка 1863 года з'яўляўся ваенным начальнікам Віленскага павета [Восстание в Литве и Белоруссии… — С. 117, 118, 139–141, 576; Имеретинский Н. К. Воспоминания о графе М. Н. Муравьеве // Исторический вестник. — Год 13. — 1892. — Т. 50. — № 12. — С. 612–614; История лейб-гвардии Павловского полка / сост.: П. Воронов, В. Бутковский, И. Вальберг, Н. Карепов. — Санкт-Петербург, 1890. — С. 223–229, 40].

[10] Нача — вёска Каняўскай воласці Лідскага павета, у цяперашні час — вёска, цэнтр с/с Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці.

[11] Гродзенская пушча — лясны масіў на тэрыторыі Лідскага і Гродзенскага паветаў. Яго частка на сёння ўваходзіць у склад біясфернага рэзервата «Гродзенская пушча», размешчанага ў Гродзенскім раёне.

[12] Маецца на ўвазе ляснік з вёскі Мантаты Каняўскай воласці Адам Базылевіч Карповіч. Паводле У. Карбоўскага, ён з'яўляўся «сталым праваднікам партыі Нарбута», меў мянушку Саладушка, і змусіць яго да здрады ўдалося «нялюдскім біццём, а затым абяцаннем вялікай узнагароды». Паводле яго ж, павешаны ён быў 1 чэрвеня 1863 года на месцы свайго жыхарства, але атрадам не Фелікса Віславуха, а Аляксандра Парадоўскага («Астрогі») [Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 112, 119–120, 130]. Альжбета Табенская ў сваіх успамінах называе яго таксама проста Базылём [Tabeńska E. Z doli i niedoli. Wspomnienia wygnanki. — Kraków: W. Kornecki, 1897. — S. 33].

[13] Фелікс Віславух — адзін з найбольш актыўных і дзейных камандзіраў паўстанцкіх атрадаў у Віленскай губерні, паплечнік Канстанціна Каліноўскага па лагеры «чырвоных». Першы атрад, куды ён уваходзіў, пачаў дзейнічаць яшчэ ў лютым 1863 года ў Ашмянскім павеце. У далейшым узначальваў паўстанцкія атрады ў Троцкім і Віленскім паветах [Восстание в Литве и Белоруссии… — С. XII, XIV, XVII і інш., 128–133 і інш.; Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года… С. 138–139 і інш.].

[14] Гэтую сцэну паказаў у вядомым малюнку М. Э. Андрыёлі (заўвага В. Шукевіча). Больш падрабязна і з некаторымі адрозненнямі апісанне апошняга бою Нарбута ў мемуарах гл. успаміны Мікалая Імерацінскага [Имеретинский Н. К. Воспоминания… — С. 612–614].

трапіла ў шыю, а з ім палеглі: Леан Краінскі[15] з Грышанішкаў[16], Бразоўскія Францішак[17] і Аляксандр[18] з Гурнофеля[19] пад Васілішкамі[20], Жукоўскі Уладзіслаў[21] з Ляцка[22], Губарэвіч[23], Янкоўскі Пётр[24], Пакемпіновіч[25], Скірмунт[26] з Піншчыны, Ёдка[27]

---

[15] Леан Краінскі — памешчык Лідскага павета; да паўстання разам з братам Адольфам, які таксама ўваходзіў у склад атрада Нарбута, валодаў фальваркам Грышанішкі Лідскага павета. Далучыўся да Нарбута ўночы з 2 на 3 лютага 1863 года і прывёў з сабой яшчэ 7 паўстанцаў, у атрадзе з'яўляўся ад'ютантам камандзіра і начальнікам штаба [НГАБ. — Ф. 1416. — Воп. 6. — Спр. 274. — Справа паводле паведамлення Віленскага губернскага праўлення пра пошук і накладанне секвестру на маёмасць і капіталы, якія належаць розным асобам. 01.08.1863–20.01.1865. — 23 арк.; Восстание в Литве и Белоруссии… — С. 139, 557; Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 82, 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 66, 67, 71, 73, 127, 167, 217, 218 і інш.].

[16] Грышанішкі — вёска, фальварак Каняўскай воласці Лідскага павета, у цяперашні час — на тэрыторыі Літвы.

[17] Францішак Бразоўскі на момант паўстання меў 35 гадоў [Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 127, 162, 217].

[18] Аляксандр Бразоўскі вучыўся на медыцынскім факультэце Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта; да паўстання служыў лекарам у Гурнофелі. У паўстанні меў 32 гады, выконваў у атрадзе функцыі лекара [Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 82, 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 73, 127, 162, 217].

[19] Гурнофель — маёнтак Васілішкаўскай воласці Лідскага павета, у цяперашні час — вёска Галавічпольскага с/с Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці.

[20] Васілішкі — мястэчка, цэнтр воласці Лідскага павета, у цяперашні час — аграгарадок, цэнтр с/с Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці.

[21] Уладзіслаў Вандалін Жукоўскі — дваранін, вучыўся ў Віленскім дваранскім інстытуце, да паўстання жыў у мястэчку Лацк Лідскага павета, на час паўстання меў 27 гадоў; пасля паўстання яго маёмасць падлягала канфіскацыі [НГАБ. — Ф. 320. — Воп. 1. — Спр. 398. — Справа аб пошуку маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 г. для ўзяцця ў секвестр. 05.08.1863–30.09.1866. — Арк. 223; Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 127, 174].

[22] Ляцк — маёнтак Шчучынскай воласці Лідскага павета, у цяперашні час — вёска, цэнтр с/с Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці.

[23] Стэфан Губарэвіч — адстаўны падпаручнік, бацькі якога да паўстання валодалі маёнткам Галовічна (Галоўнічы?) ці Галавічполле і фальваркам Казляны Лідскага павета. На час паўстання меў 35 гадоў [НГАБ. — Ф. 1416. — Воп. 6. — Спр. 274; Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 127, 164, 217].

[24] Пётр Янкоўскі — дваранін, маці якога да паўстання валодала маёнткам Рачкаўшчына і фальваркам Гаўдзішкі Лідскага павета. У атрадзе Нарбута выконваў функцыі камандзіра ўзвода (плутона). У далейшым яго маёмасць падлягала канфіскацыі. У паўстанні ўдзельнічалі таксама яго браты Канстанцін і Стэфан [НГАБ. — Ф. 296. — Воп. 1. — Спр. 25. — Перапіска з віленскім генерал-губернатарам, павятовымі ваеннымі начальнікамі і спраўнікамі па пытаннях секвестру маёнткаў асоб, якія прымалі ўдзел у паўстанні; ведамасці і звесткі пра маёмасны стан кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў, ведамасці секвестраваных маёнткаў; спісы асоб, асуджаных і высланых з Мінскай губ. за ўдзел у паўстанні, прашэнні сваякоў асоб, што прымалі ўдзел у паўстанні, аб зняцці секвестру з іх маёнткаў. 16.07.1863–18.10.1864. — Арк. 102; Ф. 1416. — Воп. 6. — Спр. 264. — Справа паводле паведамлення Віленскага губернскага праўлення пра пошук для секвестру маёмасці і капіталаў двараніна Янкоўскага. 09.07.1863–09.01.1864. — 21 арк.; Ф. 1416. — Воп. 6. — Спр. 274; Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 82]. Паводле У. Карбоўскага, не загінуў у баі пад Дубічамі, а трапіў у палон і затым сасланы ў Сібір [Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 73, 75, 76, 127, 165].

[25] Юзаф Юльянавіч Пакемпіновіч — памешчык, які да паўстання валодаў маёнткам Дзітва Шамятоўская Лідскага павета, вучыўся ў Кракаўскім універсітэце. На час паўстання меў 22 гады [НГАБ. — Ф. 1416. — Воп. 6. — Спр. 274; Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 127, 170, 217].

[26] Тамаш Скірмунт паходзіў з Піншчыны, на час паўстання меў 33 гады. Да паўстання ён жыў у Вільні і да ўдзелу ў ім быў загітаваны А. Табенскай [Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 69, 171, 217].

[27] Ян Станіслаў Ёдка да паўстання валодаў сумесна са сваім братам маёнткам Петрашунцы Лідскага павета, на час паўстання меў 22 гады [НГАБ. — Ф. 1416. — Воп. 6. — Спр. 274; Лаўрэш Л. Людвік Нарбут… — С. 96; Karbowski W. Ludwik Narbutt… — S. 127, 165, 217].

з навуковай дзейнасцю і сямейным жыццём Аркадзя Смоліча. Ад Віталя Моаса ў асноўны фонд Літаратурнага музея Максіма Багдановіча паступіла 385 адзінак.

Супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча толькі пачалі публікацыю часткі архіва Аркадзя Смоліча, якая апынулася ў музеі. Першым быў артыкул Людмілы Сасонкі ў газеце «Наша слова»[5], у якім былі прыведзены вялікія цытаты з успамінаў Алесі Смоліч.

Для дадзенай публікацыі былі адабраныя дакументы, звязаныя са зняволеннем Аркадзя Смоліча па справе «Саюза вызвалення Беларусі» — ад вобшуку 27 чэрвеня 1930 года і далейшага арышту да вызвалення з-пад варты ў Маскве перад адпраўкай у ссылку 11 чэрвеня 1931 года. Большую частку гэтага часу А. Смоліча ўтрымлівалі ў следчым ізалятары ДПУ БССР у Менску, але ў траўні 1931 года перавялі ў следчы ізалятар (Бутырскую турму) у Маскве, адкуль 11 чэрвеня вывезлі на вакзал і пасадзілі ў цягнік да Свярдлоўска. А. Смоліч быў асуджаны на 5 гадоў ссылкі яшчэ 10 красавіка 1931 года пастановай калегіі АДПУ СССР. Відаць, два месяцы АДПУ вырашала пытанне пра месца ссылкі.

Пераважную частку дакументаў, якія публікуюцца, складаюць пасланні Аркадзя Смоліча жонцы Алесі. Цыдулкамі ў дадзенай публікацыі называюцца кароткія дакументы, якія перадаваліся разам з перадачамі. Аляксандра Ігнатаўна прыносіла Аркадзю Антонавічу перадачу, а з ёй перадавала цыдулку з пералікам прадуктаў і рэчаў у перадачы і некалькімі радкамі пра сябе і сям’ю (стан здароўя, настрой). У адказ Аркадзь Антонавіч мог перадаваць нейкія рэчы (зімовую вопратку ўвесну, прачытаныя кнігі, пусты посуд, брудную бялізну) і таксама пісаў цыдулку («перадачу атрымаў» і некалькі слоў пра здароўе).

Апрача таго, А. Смоліч высылаў жонцы і дзецям лісты і паштоўкі. У лістах і паштоўках напісаць было можна болей, але ішлі яны даўжэй — праходзілі цэнзуру. Так, напісаная 5 жніўня 1930 года паштоўка была праштэмпеляваная поштай толькі 9 жніўня.

Цыдулак і лістоў Алесі Смоліч, адрасаваных Аркадзю Смолічу, захавалася толькі некалькі. Верагодна, не ўсе з іх былі адпраўленыя (некаторыя могуць быць чарнавікамі). Пасля арышту мужа Алеся Смоліч засталася з трыма дзецьмі і сваімі бацькамі сталага веку. На момант арышту яна не працавала, бо даглядала маленькую дачку Мусю (Марыю). Сціплыя ашчаджэнні сям’і былі вельмі хутка праедзеныя, у значнай ступені яны пайшлі на перадачы ў турму: ежу, вопратку, газеты і кнігі. Давялося ўладкоўвацца на працу, на пошук якой сышло некалькі месяцаў. Але грошай праца прыносіла мала, часу забірала шмат. З прычыны ўладкавання на працу Алесі Смоліч давялося кінуць завочнае навучанне на педфаку ўніверсітэта.

У публікацыю таксама ўключаны тры даверанасці, напісаныя Аркадзем Смолічам, каб Алеся Смоліч магла атрымаць яго заробак і прадаць аблігацыі. Пачынаецца публікацыя пратаколам вобшуку на менскай кватэры Смолічаў, а завяршаецца атэстатам на прадукты зняволенага Смоліча пры этапаванні яго з Масквы ў Свярдлоўск.

Амаль на ўсіх цыдулках і некаторых лістах Аркадзя Смоліча стаяць даты, а часам — і нумары, прастаўленыя Алесяй Смоліч. У большасці выпадкаў гэтыя пазнакі не публікуюцца (за выняткам тых выпадкаў, калі яны дапамагаюць датаваць дакументы).

Пры параўнанні дакументаў, якія Аркадзь Смоліч напісаў у зняволенні, з пазнейшымі, дасланымі са ссылкі, кідаецца ў вочы розніца почырку. Лісты са зняволення напісаны значна больш акуратна і чытэльна. У некаторых выпадках А. Смоліч прапісвае словы яшчэ раз па прапісаных раней дзеля больш выразнага напісання і лягчэйшага прачытання. У той жа час лісты А. Смоліча з ссылкі чытаюцца значна цяжэй. Мы можам патлумачыць розніцу тым, што турэмны цэнзар прымушаў зняволеных пісаць выразна. Цэнзар жа і вымарваў непажаданыя фразы ці сказы з лістоў[6].

[5] Сасонка Л. Па матэрыялах архіва Смолічаў // Наша слова. 2015. 18 сакавіка, 25 сакавіка, 1 красавіка, 8 красавіка.

[6] Больш пра цэнзуру ліставання зняволеных у сталінскія часы можна прачытаць у кнізе: Право переписки / Научно-информационный и просветительский центр «Мемориал», Архив Международного

Цікава, што ў пазнейшы час ліставанне палітычным падследным было забаронена[7]. Тыя ж, хто праходзіў па справе «Саюза вызвалення Беларусі», мелі магчымасць пісаць бліжэйшым родным (як правіла, жонкам і дзецям). Раней былі апублікаваныя лісты Адама Бабарэкі са зняволення ў 1930–1931 гадах да жонкі Ганны і дачок Элеаноры і Алесі[8]. У параўнанні з імі лістоў Аркадзя Смоліча захавалася болей, адпаведна, і дэталяў пра год, які правёў географ у зняволенні, мы маем больш.

Спачатку цыдулкі дазвалялі пісаць па-беларуску. Але з канца ліпеня 1930 года цыдулкі Аркадзь Смоліч вымушаны пісаць толькі па-руску. Ці то турэмнага наглядчыка, адказнага за перадачы, змянілі на нядаўна прыбылага з Расіі, ці то ДПУ вырашыла аказваць на нацдэмаў дадатковы ціск, прымушаючы іх стасавацца з сем'ямі па-руску. Пры гэтым лісты і паштоўкі ў сваёй большасці пісаліся і надалей па-беларуску.

Лісты публікуюцца сучасным афіцыйным правапісам. Аркадзь Смоліч, натуральна, карыстаўся тагачасным правапісам (г. зв. тарашкевіцай), але дакладна перадаваць яго мову вельмі складана. Адно і тое слова нават у адным дакуменце А. Смоліч мог пісаць у некалькіх варыянтах (напрыклад, «наогул» і «наагул»), то бок фактычна яго мова неўнармаваная. На гэта накладаюцца асаблівасці почырку — часта складана адрозніць «о» ад «а», «е» ад «і» ці «я». Тое самае тычыцца і пунктуацыі: у лістах Аркадзя Смоліча яна неўнармаваная, часта аўтар не ставіў кропкі і коскі там, дзе па сэнсе яны зусім неабходныя. Тым не меней некаторыя асаблівасці мовы Аркадзя і Алесі Смолічаў захаваныя (напрыклад, «матар'ял», «цукер»).

Скарочана напісаныя словы, а таксама словы (фрагменты словаў), якія немагчыма прачытаць, узнаўляюцца ў квадратных дужках.

Захавана напісанне «Менск», бо ў 1930–1931 гадах афіцыйная назва горада гучала менавіта так.

Інвентарныя нумары дакументаў (згодна з дакументацыяй Літаратурнага музея Максіма Багдановіча) прыводзяцца пад кожным дакументам асобна.

Не публікуюцца напісаныя Аркадзем Смолічам дакументы перыяду чэрвеня 1930 — чэрвеня 1931 года з наступнымі інвентарнымі нумарамі: ЛММБ КП-11052 (верхні край абарваны, частка тэксту страчана, кароткая цыдулка з побытавымі просьбамі ад 9 жніўня 1930 года), ЛММБ КП-11053 (верхні край абарваны, частка тэксту страчана, немагчыма датаваць, кароткая цыдулка з побытавымі просьбамі), ЛММБ КП-11073 (верхні край абарваны, частка тэксту страчана, немагчыма датаваць, кароткая цыдулка з побытавымі просьбамі), ЛММБ КП-11074 (ніжні край абарваны, большая частка тэксту страчана, немагчыма датаваць).

У каментарыях словы тлумачацца адзін раз пры іх першым ужыванні ў ліставанні. Асобы, установы, з'явы грамадскага жыцця і г. д., пра якія не ўдалося адшукаць звестак, у каментарыях не агаворваюцца.

Публікатар выказвае шчырую падзяку калегам па Літаратурным музеі Максіма Багдановіча: Алене Кнізе, Ірыне Мышкавец і Марыне Запартыка. Без іх дзейснага ўдзелу гэтая публікацыя не магла б адбыцца.

*Уладзімір ВАЛОДЗІН,*
*старшы навуковы супрацоўнік*
*Літаратурнага музея Максіма Багдановіча*

---

общества «Мемориал»; авторы-составители Е. Жемкова, А. Козлова, Н. Михайлов, И. Островская. — Москва, 2014. — С. 66–81.

[7] Право переписки… С. 21.

[8] Бабарэка А. Збор твораў: у 2 т. Том 2. Проза, паэзія, філязофія, публіцыстыка, запісныя кніжкі, дзёньнікі, лісты. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2011. — С. 402–416.

## № 1

*Пратакол вобшуку на кватэры Аркадзя Смоліча.*
*27 чэрвеня 1930 года. Менск. Копія, напісаная пад капірку.*

Протокол обыска

1930 г. июня 27 дня, г. Минск.

Я, сотрудник ЭКО ГПУ Бел. на основании ордера от 26/VI-30 г. за № 200 произвел обыск в квартире гр. Смолича Аркадия Антоновича в гор. Минске по Сторожевской в д. № 11, кв. 1.

При обыске присутствовали: гр. Дыбовский Бронислав Иванович и Смолич Ал[екса]ндра Игнатьевна.

При обыске взято для доставления в ГПУ Бел. портфель с разными деловыми и служебными бумагами, переписка личного и служебного характера, черновики научн[ых] работ, записн[ые] книжки и карты БССР (трехверстка).

Гр. Смолич А. А. заявил, что в числе взятых документов и бумаг имеются бумаги требующие срочного исполнения.

Других претензий заявлено не было.

Обыск производил [*подпіс*]

Присутствовали: [*подпіс*]

[*подпіс*]

Копию протокола получила [*подпіс*]

*ЛММБ КП-11180.*

## № 2

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 28 чэрвеня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[9].

Смоліч Алесі

[Я][10] здароў і вясёл. Ты не [бо]йся. Максіма адпраўляй [у ла]гер. Прышлі грэбень[11]. [Атр]ымаў ручнік і мыла, сыр, [сала], цукер, ягады. Яды больш [не т]рэба пасылаць. Хіба хлеба трохі [якога].

Вітаю. Аркадзь

28/VI 30 г.[12].

*ЛММБ КП-11038.*

## № 3

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 1 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Смоліч Алесі

Напішы больш падрабязна пра дзяцей. Як маецца Масенька? Як у цябе з грашыма, мяне гэта троху непакоіць. А самому мне добра, здароў. Правізія ўся цэлая

[9] Уверсе аркуша прастаўлены дата («28-VI-30») і нумар («1»), іншым почыркам і алоўкам, а не асадкай (верагодна, Алесяй Смоліч). У далейшым даты, прастаўленыя на лістах Аркадзя Смоліча Алесяй Смоліч, агаворваюцца толькі ў выпадку несупадзення з датамі, прастаўленымі самім Аркадзем Смолічам.

[10] Левы край аркуша моцна выгарэў, ажно да поўнага выцвітання чарнілаў, таму многія словы толькі ўгадваюцца.

[11] Далей закрэслена: «і мыла».

[12] Дата ўнізе дакумента прастаўлена трэцім почыркам і іншым алоўкам (почырк не супадае з тым, якім прастаўлена дата ўверсе цыдулкі).

і псуецца, больш не прысылай[13]. Прышлі паперы белай, гадзіннік, зубную шчотку, бялізны.

Усе поўнасцю атрымаў. Дзякую сардэчна за кветкі.

Аркадзь

1-VII-930

*ЛММБ КП-11039.*

**№ 4**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*5 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Усё атрымаў, апроч гадзінніка, а шкода. Яды не пасылай, бо псуецца. Кормяць нас часта і добра, кухар варыць вельмі смачна. Частку яды адсылаю назад, бо прападзе. Цукер у мяне тут ёсць. Прышлі толькі верхнюю кашулю сінюю. Цалую вас крэп[к]а ўсіх. Пішы больш.[14]

Аркадзь

5/VII 930

*ЛММБ КП-11040.*

**№ 5**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*12 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Смоліч Алесі

Я здароў саўсім. З нецярплівасцю чакаў перадачы. Чаму не пішаш, што робіш? Не кідай вучыцца і пільнуй свайго здароўя і дзяцей.

Усё атрымаў. Ягад не пасылай, бо зубы псуюцца, лепш агурок які. Прышлі бялізны, трошкі крухмалю і пояс да сіняй кашулі.

Цалую крэпка дзетак і цябе і бабу.

Аркадзь

12/VII-930

Бялізны бруднай 1 змена і ручнік.

*ЛММБ КП-11041.*

**№ 6**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 15 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[15].

Смоліч Алесі

Маё здароўе без змен. Прывыкаю. Вельмі рад, што ў вас усё добра, мне будзе спакайней. Дзякуй Сімку за ліст, хай ён будзе добрым хлопцам і памагае маме. Добра і што вучышся. Ці шукаеш працы сталай? Як Масенька і ўсе хатнія? Абы хоць былі здаровыя. Пасланае ўсё атрымаў.

Яды ты мне не прысылай — псуецца. Асабліва не трэба яек, сыру, блінцоў, катлет, булак. Аграсту прысылай патроху. Таксама трэба прысылаць іголку з ніткай. Прышлі

[13] Словы «больш не прысылай» упісаныя драбнейшым почыркам паміж радкамі.

[14] Далей закрэслена: «Пасылаю бялізны 1 змену».

[15] У пачатку дакумента прастаўлены дата («15-VII-30») і нумар («5») іншым почыркам і іншым алоўкам (верагодна, Алесяй Смоліч).

фатаграфіі свае і дзяцей і акуратна прысылай мясцовую газету. Цалую ўсіх вас крэпка. Не нудзіцеся. Аркадзь. — Пішы больш аб сабе.

15-VII-930

*ЛММБ КП-11042.*

## № 7

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам. Паміж 15 і 19 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[16].

Даражэнькая Шурачка і дзеткі!

Вашы караценькія запіскі — для мяне вялікая і адзіная радасць. Але хацелася б ведаць і зразумець, як цяпер жывецца, як вы ўстроіліся і, самае важнае, як сябе адчуваеш. Напішыце мне па почце настаяшчы ліст аб усім гэтым і пашліце яго на такі адрас: тут, ГПУ, комнат 54, Ст.[17] Юдашкину[18]. А ў самым[19] тэксце зверху напішыце каму і ад каго ён.

Напішаш мне, як у цябе справа з Выдавецтвам. Трэба схадзіць туды яшчэ раз да Некрашэвіча, Багушэвіча і яшчэ каго трэба. Цікава, што яны гаворадь. Тое, што я арыштаваны, пакуль што не павінна перашкаджаць тваёй працы. Як з тваёй навукай? Было б вельмі добра, каб ты магла і працаваць, і вучыцца, але цяпер гэта трэба арганізаваць зусім іначай, каб часу не траціць і не адрывацца па дробязях. Большыя дзеці павінны табе ў гэтым памагчы, асабліва Котка — на фатаграфіі яна ўжо такая вялікая! Праўда, што на завочным педфаку калі троху і адстанеш, то можа не бяда. Напішы акуратна, як твае здароўе, ці не пашкодзілі яму падзеі апошняга часу.

Як твой кашаль? Таксама Масенька — можа б яе ў кансультацыю звадзіць? Ці грэюцца яны ўсе на сонцы? Трэба здароўя набірацца, бо зіма можа быць цяжкая. Хай большыя робяць гімнастыку, прывыкаюць абмывацца, як я іх вучыў. Прышлі з лістам і сваю фатаграфію, не забудзься. Як маецца бабунька і ці добрыя ў вас з ёю адносіны? Як да вас людзі ставяцца, ці не крыўдзіць хто?

Няхай дзеці напішуць, што яны робяць, ці вучацца; можа ў іх у атрадзе якія экскурсіі будуць — дак хай едуць. Ці памагаюць яны ў гаспадарцы? У тым № 9 Чырвонай Беларусі на першай старонцы — група школьнікаў і сярод яе, здаецца, Сімка. Ты бачыла? Гэта мяне чамусьці расчуліла.

Аб усіх маіх аблігацыях найлепш ведае Гарашчэня. У бумажніку ёсць на іх квітанцыя і ў камодзе — квіткі. Палічы ўсё і вядзі акуратны рахунак. Цяпер гэта ўжо не толькі праз цікавасць. Мяне гэта справа трывожыць. Але самае глаўнае — здароўе. І аб ім дбай у першую чаргу.

Што Сімка пераймае бачанае — гэта добра. Уласная творчасць — гэта працяг пераймання. Хай ён робіць тую работу, якую сам здумае. Фатаграфіі яго не кепска ўдаюцца, толькі мала прамывае, дык рудзеюць. Да якой фабрыкі прымацавалі іхнюю школу? па політэхнізацыі? Прыглядайся і ты, Шурачка, бліжэй да іх школы. Цяпер павінны там метады навучання і праграмы моцна змяніцца, а табе гэта трэба ведаць. Усё ж не раней, дык пазней у школе ты працаваць будзеш.

Ці хадзіла ты другі раз у выдавецтва і што наогул значыць іх абвестка, калі працы няма? Можа пакуль што хоць пераклад які невялікі можна было б ад іх узяць.

---

[16] Ліст датуецца па нумары ў пачатку дакумента («6»), прастаўленым, верагодна, Алесяй Смоліч, і па парадку размяшчэння ў папцы сярод іншых лістоў пры паступленні ў музей.

[17] Далей вымарана цэнзурай два словы.

[18] Так, з кірылічным «и», у тэксце дакумента.

[19] Слова «самым» прыпісана над радком.

Як будзеш у Акадэміі, спытай, што робіцца ў маей катэдры; ці распрацоўваюць яны далей матар'ялы па раёнаванні,[20] ці рысуюць карты і хто гэтым цяпер кіруе. Як выглядае мой аддзел на выстаўцы — і ці хто тлумачыць яго. — А.

*ЛММБ КП-11043.*

**№ 8**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 19 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[21].

Смоліч Алесі

Здароўе маё без змен — трохі змізарнеў, барадой аброс, але чую сябе добра, гімнастыку раблю. Хацелася б вельмі цябе пабачыць, але наўрад ці скора дазволяць. Як ты хаця выглядаеш у бядзе? Сфатаграфуйцеся там цяпер усе разам і мне прышлі[це]. Вельмі рад, што бярэшся за работу, што здаровы ўсе. Мусіць і весялей цяпер у кампаніі. Цалую крэпка цябе, дзяцей, пішыце мне больш аб сабе. — Усё пасланае атрымаў.

Аркадзь

19/VII 930

*ЛММБ КП-11044.*

**№ 9**

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*19 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[22].

Учора ў «Сав[ецкай] Беларусі» ёсць абвестка, што патрэбны стыльрэдактары Выдавецтву. Схадзі туды — для цябе гэта праца будзе вельмі выгодная. Бярыся іменна за стыльрэдакцыю, справішся напэўна. У крайнасці можна і карэктуру.

Аркадзь

19/VII 930

*ЛММБ КП-11045.*

**№ 10**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 22 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Смолич Александре Игнатьевне

Здоровье мое без перемен. Много пишу, читать нет времени. Чувствую себя хорошо. Ходила ли ты в Издательство? Постарайся получить именно там работу, ведь ее можно брать на дом. Как ты себя чувствуешь? Скажи детям, пусть напишут, как они живут и что делают. Следующий раз пришли белье и наволочку. А провизии посылай меньше: хоть аппетит у меня усилился, но я всего не съедаю. Почему ты о себе ничего не пишешь и не прислала фотографий. Пришли и свою обязательно фотографию[23]. За цветы большое спасибо. Как себя чувствует бабушка? Пиджака мне не надо пока, пришли верхнюю рубашку. Все получил[24]. Конфет мне не посылай. Белье отсылаю грязное.

[20] Далей закрэслена: «і».

[21] У пачатку дакумента прастаўленыя дата («19-VII-30») і нумар («7») іншым почыркам і іншым алоўкам (верагодна, Алесяй Смоліч).

[22] Штэмпель: «Минск — Менск, 20.7.30». Адрасавана: «Тут, Старажоўская, № 11, А. І. Смоліч». У далейшым адрас Алесі Смоліч на паштоўках публікатар не прыводзіць, калі ён не адрозніваецца нечым істотным.

[23] Сказ «Пришли и свою обязательно фотографию» ўпісаны паміж радкамі.

[24] Далей закрэслена: «кроме газет».

Береги свое здоровье. Целую крепко всех вас.

Аркадзь

22/VII 930

Греются ли дети на солнце? Не пропускайте солнечных дней.

*ЛММБ КП-11046.*

**№ 11**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*26 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дарагая!

Маю запіску з перадачай, мусіць, табе не аддалі, дык пішу нанова. Я здароў, як і раней, і ты аба мне не клапаціся. Трошкі пачынае пабаліваць плячо, дык ты мне прышлі цёплы шалік і атафан, але гэта толькі на ўсякі выпадак. Ты не пішаш, як тваё здароўе, можа кашляеш — дык зараз жа звярніся да доктара. Прышлі сваю фатаграфію канечне. І няхай дзеці напішуць, ці добрыя яны. Аб службе у Выдавецтве ты, усё-ткі, настойвай, пагавары з глаўным іхнім загадчыкам, падай заяву. — Хутру маю шыць не трэба, лепш можа прадай — цяпер якраз на гэта сезон. — Пабачэння цяпер яшчэ не прасі. Тав[арыш] Юдашкін, які вядзе маю справу, абяцаў даць яго дзён праз 10 — тады цябе[25] паведамлю.

Бывай здарова, не нудзіся, працуй. Цалую ўсіх.

Аркадзь

26/VII 930

*ЛММБ КП-11047.*

**№ 12**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*26 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Смолич Александре Игнатьевне.

Здоровье мое, в общем, без перемен. Немного побаливает плечо правое. Пришли мне в следующий раз на всякий случай теплый шарф и атофану. Нужна мне ещё иголка. Я снял бороду, постригся и выгляжу как человек. Тревожусь о твоем здоровьи, ты теперь, верно, за собой не смотришь и кашляешь? А тебе нужно беречь себя прежде всего, и чуть что — обращаться к доктору.

И пиши мне больше о себе, о детях — это моя одна радость. Насчет работы всё-таки настаивай. Мяса и масла ты мне не посылай. А почему нет твоей фотографии? — Шить шубы не надо, лучше продать. Как бабушкі[26] здоровье? Береги себя.

Целую всех вас. Жду от детей письма. Свидания ещё пока не проси — обещали дать через две недели. Все посланное получил. Очень рад, что берёшься за работу. Обо мне не беспокойся. Плечо уже почти не болит.

Аркадзь

26/VII 930. Пришли старый пиджак.

*ЛММБ КП-11048.*

---

[25] Так у дакуменце.

[26] Так, з лацінічным «і», у дакуменце.

## № 13

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*29 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Я уже здоров и плечо не болит. На днях напишу тебе по почте и ты мне можешь подробно писать, адресуя прямо следователю, а в заглавии письма указывая, что мне. Пришли мне бельё целое, сенник и насыпку на подушку. — Зачем опять много провизии — ветчина; сахару у меня больше, чем у вас. Не теряй времени на заботы о мне, работай, смотри детей. Молока и атофану не получил. Газеты и карточку попроси отправить следователю. — Ходила ли ты на работы? Почему о своём здоровьи не пишешь?

Целую крепко Масеньку, тебя, детей, бабу и Соню. Аркадзь

29-VII-930

*ЛММБ КП-11049.*

## № 14

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 30 ліпеня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Мусіць, табе шмат часу адыймаюць клопаты аба мне — ты іх па магчымасці змяншай. Бо кормяць жа мяне добра, і апроч зяляніны мне нічога не патрэбна. Адчуваю я сябе добра. Цяпер у мяне будзе шмат вольнага часу і мне дазваляюць заняцца навукаю. Дзеля таго прышлі мне такія кнігі:

M. Eckert Die Kartenwissenschaft

Лященко Социальная экономия сельского хозяйства т. II

Гордеев Сельскохоз[яйственная] экономия і яшчэ якую небудзь нямецкую паэзію — напр[ыклад], кніжку, што я Сімку прывез з нямецкімі вершамі.

Ты бачыш, што я збіраюся час правесці з карысцю. На волі быўшы — некалі было чытаць, дык казаў той — нет худа без добра. І ты працуй над собою, гэта дае [добр]ы[27] гумар. І галоўнае — прывучай дзяцей [да] сістэматычнае працы. Цалуй крэп[к]а [іх] ад мяне, і Масеньку асабліва.

[Як] дзецям з зімовай адзежай і абуткам? Аб гэтым цяпер самы час падумаць. Напішы, колькі заданняў зрабіла за гэты месяц і як будзе з залікамі і практыкай. Цераз сілу ўсё ж не бяры, як ты гэта ўмееш.

Кнігі перадай каменданту ў суботу.

Цалую крэпка ўсіх вас.

Аркадзь

30-VII-930

*ЛММБ КП-11050.*

## № 15

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*5 жніўня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[28]*.*

Дарагая! Я пісаў табе па почце[29] тыдзень назад, прасіў перадаць мне кнігі: M. Eckert. Die Kartenwissenschaft

Гордеев. Сель[ско]хоз[яйственная] экономия

Лященко. Социальная экономия сельского хозяйства

[27] Левы край аркуша выгарэў, некаторыя словы даводзіцца ўгадваць.

[28] Штэмпель: «Минск — Менск. 9.8.30». Адрасавана: «Минск, Сторожевская, № 11, Ал. Игнатьевне Смолич».

[29] Так у дакуменце.

H. Wagner. Handbuch der Geographie
і кніжку з нямецкай паэзіяй. Кнігі перадай у адрас следаваceля т[аварыша] Юдашкіна, на гэты адрас пішы мне і лісты. Зараз жа адпішы падрабязна аб усім. Прышлі ў лісце сваю фатаграфію.

Я здароў, аба мне не клапаціся. Напішы, як з працай выходзіць, што сказалі ў выдавецтве? Як дзеці, пільнуй іх на шчот зеляніны. Чаму нічога аб сваім здароўі не пішаш? Хутка, спадзяюся, пабачымся — на свіданні, як можна будзе — цябе паведамяць. Малако мне дазволілі атрымаць. Цалую.

Чакаю адказу. Аркадзь.

Пришли открыток.

5/VIII 930  Што вучышся — гэта добра.

*ЛММБ КП-11051.*

**№ 16**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 13 жніўня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Даражэнькая! 9-га атрымаў я твой мілы ліст і тваю фатаграфію; быў гэты дзень радасны для мяне, дадаў шмат бадзёрасці і спакою. Я, праўда, ведаў, што ты ў бядзе сябе лепш трымаеш, чым у бясклопатнасці, але ж за вачыма яно ўсяк здаецца. Вельмі добра, што вучышся, і чым больш, — тым лепш, — і рысаўніцтва, і педфаку кідаць не трэба. Да рысаўніцтва ў цябе павінны быць здольнасці; добра было б табе як тэхнічнае рысаўніцтва асіліць. Але не кідай цяпер шукаць працы, звярніся, можа, у саюз, у мясцком, каб яны цябе падтрымалі. Гэта вельмі шкода, што цябе ў школу не назначылі, гэта ж твая спецыяльнасьць і працавала б ты добра; але, хто ведае, можа б табе і цяжкавата цяпер было з групай справіцца. Усё ж не траць энергіі, пахадзі яшчэ па гэтай справе, а таксама ў выдавецтва; нечага ж тут трэба дабіцца.

Я даведаўся, што па закону павінны сем’ям арыштаваных пенсію выплачываць за 2 месяцы; але, апроч таго, мне належыць нескарыстаны чарговы водпуск, ці кампенсацыя за яго, што ўсё роўна. Значыць, прынамсі Акадэмія павінна выплаціць і за час водпуску. Тым часам пасылаю табе даверанасці.

Пытаешся як я жыву? Уяві сабе невялікі, сухі, светлы пакой — пад вечар і сонца ў ім бывае некалькі гадзін, — паветра досыць, крыху ёсць сквазніку, ад яго у мяне, мусіць, плячо разбалелася, але цяпер я прыстасаваўся і наогул гэта прашло. Чыстата залежыць ад мяне самога, лазня — вярней, душ, бывае кожную дэкаду. Што дня спацырую мінут 20, стараюся за гэты час як найбольш прайсці — гэта вельмі добра ўплывае на сон і наогул на самапачуццё. Спаў я раней шмат, цяпер, як кнігі ёсць, сплю ў меру, а больш чытаю. Вочы мне не баляць, ты не бойся за іх. Увечары тут свету малавата, дык я не чытаю, шануючы вочы.

За кнігі дзякую. Хацелася б закончыць артыкул у маскоўскі картаграфічны часапіс, да не ведаю, ці ўдасца сабраць літаратуру. У перспектыве думаю заняцца перакладамі некаторых твораў Маркса. Ты нагледзь дзе-небудзь «К критике политической экономии», і асабліва добра было б дастаць яе нямецкі арыгінал (Zur Kritik Der Politischen Oekonomie) — пазней гэтыя кнігі мне будуць патрэбны. Наогул, займацца навукай тут можна, ніхто і нішто не перашкаджае і часу хватае. Увогуле, праца стварае саўсім добры настрой і не агледзішся, як час бяжыць.

Таксама і ты з сваімі пераменчывымі настроямі: кінь іх, не варта часу марнаваць. А здароўя свайго і дзяцей пільнуй. Усе мае погляды на гэта ты ведаеш. Клапачуся аб Котку і аб Масеньку. Чаму Котка мне не напіша, што яна робіць і чаму іх нікуды ў экскурсіі не водзяць? У які калгас Сімка паехаў на работу і ці надоўга? Наогул, напішы мне больш

аб дзецях, як яны выглядаюць і што робяць. Сімка добра фатаграфуе, але дрэнна адмывае фіксаж — дык картачка ўжо пажаўцела. Прышлі яшчэ гэтай сваёй прадукцыі. Схадзі з дзецьмі на выстаўку, хай яны яе добра агледзяць — там ім шмат цікавага і карыснага. Пасля і мне напішуць, што бачылі. А ўвогуле, пішыце мне, гэта для мяне вялізная ўцеха.

Прышлі мне шапку чорную, камізэльку і бацінкі, а таксама хустак да носа. Добра было б, каб мне пашыла са дзве кужэльныя кашулі — у іх здаравей тут сядзець, чым у тонкіх.

Бывай здарова. Цалую. Аркадзь

13-VIII-930.

*ЛММБ КП-11054.*

**№ 17**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 16 жніўня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Всё получил. Присылай акуратно газеты. Пришли верхнюю рубашку, наволочку, больше конвертов. Здоровье и самочувствие хорошее. Спасибо за цветы; белого хлеба не надо, вообще меньше присылай — не съедаю. Пришли шапку и больше белья. Целую крепко.

[*подпіс*]

16/VIII 930

*ЛММБ КП-11055.*

**№ 18**

*Цыдулка Алесі Смоліч Аркадзю Смолічу. 19 жніўня 1930 года. Менск.*

Перадаю: кашулю верхн[юю], бялізну, прасціну, наўлечку, шапку, хустачку, ручнік, 10 марак, канверты, 14 газет, масла, малако, печан[ыя] яблыкі, салён[ыя] агуркі, вінігрэт, верхнія штаны кужэльныя і кветкі.

Ліста табе яшчэ не паслала, апрача выстаўкі нікуды не хадзіла — усё за гаспадаркай і дзецьмі няма часу. Усе здаровы, Сімка вярнуўся з калгаса, трохі пачынаюць дурэць і не слухацца. […][30] к критике политич[еской] экономии» і […][31] яе дастаць? Якія газеты пасылаць за ўсе дні? Ці выкарыстаў сяннік і насыпку, што я перадавала?

Крэпка цалую. Алеся.

19/VIII 30 г.

*ЛММБ КП-11056.*

**№ 19**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 19 жніўня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Пришли кусок мыла, зубной порошок, ниток чёрных пиджак починить, 10 конвертов. Я здоров по-прежнему. Как твоя служба? Как с квартирой? Жду подробного письма с нетерпением. Всё получил, спасибо. Присылай меньше провизии, портится; будь экономней и меньше на меня времени теряй. Сахару не присылай. Из газет можно не посылать «Эк[ономическую] жизнь», «Сов[етскую] Белорус[ь»]. Дети должны себя вести лучше и серьезней. Целую всех крепко. Жду писем и фотографий. Аркадзь.

19-VIII 930

Белья — 3 штуки.

*ЛММБ КП-11057.*

---

[30] 2-3 словы выразаны (цэнзарам?); у аркушы дзірка.

[31] Адарваны кавалачак аркуша з правага боку; па сэнсе ўгадваецца слова «дзе».

## № 20

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 23 жніўня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Моё здоровье и самочувствие без изменений. Береги детей от скарлатины, спроси доктора о прививках. Письмо твоё по почте получил, ответ отправил. Прошу свидания, проси и ты. Хорошо бы получить лекарство от ревматизма в таблетках. Болей теперь у меня нет. Газет, ниток и мыла не получил; разрешение на газеты у меня есть. Остальное получил. Пряника не присылай, бобу пришли. Крепко целую. Аркадзь

23-VIII-930

Посылаю бельё и папиросы.

*ЛММБ КП-11058.*

## № 21

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 26 жніўня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Я вполне здоров. Хотелось бы тебя видеть, не знаю, разрешат ли.[32] Много портится[33], присылай вдвое меньше. Пиши по почте сразу, жду с нетерпением. На биржу сходи, может, и стенография пригодится. Как здоровье дедушки? Была ли у доктора с Мусей? Всё получил, спасибо, меньше беспокойся. Пришли ниток, химический карандаш. Целую крепко всех, тебя, детей, стариков. Пусть дети[34] напишут мне. Аркадзь.

26-VIII-930

Присылай «Совет[скую] Беларусь» вместо «Звезды». Письмо я сдал 22-VIII.

*ЛММБ КП-11059.*

## № 22

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам.*
*22–27 жніўня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Пабачэнне дазволена на 29-VIII у 12 гадзін.

Прасі пропуск да т. Юдашкіна.

27/VIII Аркадзь[35]

22-VIII-930

Любая мая Шурачка і дзеткі! Вельмі вам дзякую за лісты, я іх так доўга чакаў, аж знудзеў, сам жа адразу адпісваю і хачу, каб вы гэтак рабілі і я ад вас атрымоўваў прыблізна раз на дэкаду ліст. Мяне ж цікавіць усякая дробязь у вашым штодзённым жыцці. Дый аб выстаўцы абяцалі вы мне напісаць шмат.

Маё жыццё цячэ спакойна і аднастайна. Прошлы раз я ўжо яго апісваў; цяпер от толькі некалькі дзён не меў спацару па тэхнічных прычынах, але хутка ізноў будзе. Адчуваю сябе не кепска. Зрабіўся я саўсім кніжным молем; днямі сяджу чытаю і перакладаю. У вечары — рабіць нечага, дык вучу на памяць нямецкія вершы. Толькі, на жаль, мала добрых у гэтай кнізе — усё старасветчына кшталтам Жуковский. Ну, але ёсць і лепшыя. Выклікаю дзяцей на спаборніцтва на конт нямецкіх вершаў. У мяне, праўда, часу больш, але памяць старэйшая, ды ўжо я проці іх абоіх стану. Вершы добра памагаюць вывучэнню мовы. А лічыць будзем на радкі. Добра?

---

32 Далей 5 словаў вымарана тым самым алоўкам, што напісана цыдулка.

33 «много пор-» закрэслена.

34 Слова «дети» ўпісана над радком.

35 Першыя тры радкі прыпісаны зверху ліста драбнейшым почыркам і чарнілам. Далей ліст напісаны алоўкам.

Артыкул я пісаў аб сваёй дазіметрычнай карце ў маскоўскую часопісь, але цяпер спыніў, бо хочу знайсці пачатак, які я ўжо быў напісаў, — у сваіх паперах. Кнігу Маркса ты дастань на расійскай мове хаця, — дзе-небудзь у бібліятэцы, а выпісваць тым часам не трэба. Газеты прысылай мне ўсе, апроч Сав[ецкай] Беларусі, якую можаш сабе пакідаць, бо я яе купляю. — Кормяць тут нас няблага, даюць спецыяльны паёк, у тым ліку і папяросы; але я курыць усё ж не вучуся. Тое, што ты прысылаеш, — вельмі добра дапаўняе мой рацыён; асабліва добра — малако, боб — увогуле гароднiна[36], і інш[ыя] рэчы. Дзякуй за вінігрэт, быў смачны,[37] але прысылай яго менш. Не трэба прысылаць цукру, аладак, і ўвогуле рабі сабе за[38] гэтага якнайменш[39] клопату. Масла гэтае порцыі хапае мне тыдні на два; прысылай яго ў якім кубку алюміневым ці што. — Сяннік мне вельмі прыгадзіўся. Саломы новай яшчэ не дастаў, але добра ўжо, што стары апрануў, дык стала чысцей і прыемней. — Аб футры я ўжо пісаў, што шыць не трэба — перахаджу я і ў старым паліце або ў кажуху. Наогул ніякіх лішніх выдаткаў не рабі. Пенсію, што астаецца, палажы на кніжку, а то яшчэ прападзе. Ці атрымала ты апошні раз па даверанасцях? — Мой прафбілет павінен быць у бумажніку, або ў якой кішэні, або ў стале. Ты яго знайдзі абавязкова.

Што з тваёй службай чуваць? Не ведаю, што табе парадзіць, але рабіць нешта трэба. Спытайся можа па лікбезу што ёсць, ці па дашкольнай адукацыі. Сходзі да начальства якога. Ці падавала ты на стацыянарны педфак? Здаецца, цяпер яшчэ не позна, спытай.

Як ідзе тваё рысаўніцтва і дзе ты бярэш лекцыі? — Пільнуй, Шурачка, здароўя свайго і дзяцей. Што там Котка пра шкарлятыну піша? А аб Мусьцы лепш усяго парадзіцца з Купэрштэйнам, бо наўрад ці цяпер хто лепшы ёсць у Менску. У кожным разе не адкладай гэтай справы, можа яшчэ кавалак лета захапіць удасца, падлячыць або загартаваць Мусю. А на пабачэнне прывядзі яе канечне. — Я між іншым сягодні сам падаю заяву аб пабачэнні.

Пішы часцей і — галоўнае — акуратна. — Вельмі рад, што большыя дзеці добра выглядаюць і слухаюцца. А здароўе ім палепшыла фізічная праца. Дык, дзеткі, скарыстайце гэты канец вакацый, будзьце больш на паветры, на сонцы, памагайце ў працы. Котчынага характару я не пазнаў, каб крыху чысцей — было б саўсім добра. Пішыце мне і далей, дзеткі, аб тым, што робіце і чытаеце. Гэта ж мне вялікая ўцеха. — Цалую вас крэпка усіх, Мусю[40] і бабуньку. Жадаю добрага здароўя і гумару. Аркадзь.

*ЛММБ КП-11060.*

**№ 23**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам.*
*1 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

1-IX-930

Дарагая Шурачка! — Пасылаю табе даверанасці, каб не затрымліваць. Я саўсім здароў, лекарства яшчэ не прыймаў, бо не трэба. Пабачэнне з табой было для мяне вялікай і дужа радаснай неспадзяванкай, ад якой доўга не мог апомніцца. Але, як заўсёды бывае, шмат аб чым забыўся сказаць. — Перш за ўсё аб тваёй службе. Калі б можна было знайсці дзе працу сталую ў іншым месцы, дык можа б лепш было, бо тут жа месяцы 2-3 прабудзеш, а далей прыдзецца ізноў ісці на біржу. А цяпер якраз фармуюцца новыя ўстановы і людзі патрэбны. Зімою можа быць з гэтага боку горш. Тут мусіць і ў саюз

36 Словы «ўвогуле гародніна» ўпісаны над радком.
37 Словы «быў смачны,» упісаны над радком.
38 Так у дакуменце.
39 Так, разам, у дакуменце.
40 «Мусю» ўпісана над радком.

цябе не прымуць, як часовую працаўніцу. Да ўсяго гэтага работа тут цяжкая, тэрміновая, і ты з ёю можаш не справіцца. Можа б лепш было пашукаць дзе, каб скарысталі тваю стэнаграфію, дзе цябе хоць троху з грамадскага боку знаюць і ўвогуле штось сталае. Парайся ў гэтай справе з знаёмымі, пагавары з Дырэкцыяй. Праўда, табе ж яно відней. Я толькі ведаю, што адтуль машыністкі ўцякалі ўвесь час. А наогул у машыністкі йсці табе трэба было б хіба тады, калі б іншага выхаду не было ніякага. Але гэтыя мае ўвагі ты не лічы за катэгарычныя, бо я шмат у чым магу ўжо не арыентавацца.

А от як будзеш на выстаўцы, дык купі, там, здаецца, ёсць фатаграфіі яе — калі што добрае. Трэба ж і мне глянуць хоць троху на выстаўку. Мілы Сімка! Дзякуй яму, што ён мяне шкадуе, — што я выстаўкі не бачу. Але ж я ўжо шмат чаго з яе бачыў, а рэшта — вы мне апішыце калі-небудзь.

Задумаў я пісаць яшчэ адну работу, ды не ведаю, як матар'ял збяру. Пакуль што прышлі мне такія кнігі:

1. Маю кнігу С[ельска]-Г[аспадарчыя] Раёны БССР
2. Матар'ялы да геаграфіі і статыстыкі БССР — том II (з маёй картай)
(або хоць асобна мой артыкул: Размяшчэнне насельніцтва…)
3. Студенский. Организация крупного сельского хозяйства в Германии
4. Aereboe. Allgemeine landwirt[schaftliche] Betriebslehre
5. Лаур. Экономия сельского хозяйства

і гімнастыку, а таксама штукі 3-4 чыстых маленькіх картаграм БССР і са два каляровых алоўкі.

Як маюцца таварышы піянеры? Хто ў Сімкі цяпер выкладае і як яму падабаецца прадметны парадак? Трэба, каб школа і асабліва атрад заахвочвалі яго да чытання, ты, Шура, пагавары калі аб гэтым. Як ідзе фатаграфічная праца? Толькі глядзі, Сімка, не папсуй аб'ектыва, бо другога не будзеш мець, асабліва такога, як гэты. Вельмі рад, Котачка, што ты шмат чытаеш, а як у цябе з фізкультурай? Вось яшчэ што. Цяпер, дзеткі, вам трэба быць сур'ёзнымі і карыснымі памоцнікамі ў сям'і. Маме аднэй будзе вельмі цяжка на вас усіх працаваць, дык вы павінны ёй і бабуньцы чым толькі можаце дапамагаць. Дый Масеньку без вас няма каму дагледзець. Але, мне здаецца, што вы і ёсць і будзеце добрымі дзецьмі, і я на вас надзеюся.

Як з нямецкімі вершамі? Можа вы і мне якую нямецкую кніжку выберыце — на свой густ.

Маё жыццё цячэ без змен. От толькі шкода, што яшчэ дагэтуль не спацарую, а так было б усё добра. Калі ты не забавішся прысляць мне кнігі, дык праз тыдзень нейкі я табе прышлю ў перапіску першы артыкул.

З правізіі, калі не можна сырых, дык хоць печаныя яблыкі прысылай. Толькі каб не былі кіслыя і зялёныя; апошнія хутка псуюцца. Як з гаспадаркай? Трэба свінні разводзіць, бо з мясам зімою, відаць, цяжка будзе. — Хоць цяпер не будзе каму гэтым і заняцца. Пішы акуратна, а то вельмі доўга лісту чакаю. Цалую крэпка цябе, [дзяц][41]ей, бабу[42].

Аркадзь.

*ЛММБ КП-11061.*

**№ 24**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 2 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Вчера отправил тебе доверенность по почте, если не получила, извести. Как ваше всех здоровье, как поживает дедушка? И долго ли он еще здесь будет? Я здоров, только

[41] Край аркуша абарваны.
[42] Няўпэўненае прачытанне.

что побрился. Получил все, но почему-то не передали молока. На газетах пиши адрес, чтобы скорее доходили. Целую крепко, жду письма. Посылаю белье, в следующий раз пришли чистое и верхнюю рубашку.

2-IX-930 А. Смоліч

*ЛММБ КП-11062.*

**№ 25**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*6 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Письма твоего еще не получил, сильно беспокоюсь о твоем здоровьи и о детях. Ничего не знаю о твоей службе. Пиши по почте хоть коротко, но чаще. Я вполне здоров, уже имею прогулки. Надеюсь получить свидание. Принеси мне механическую ручку с чернилом. Пришли хороший[43] хим[ический] карандаш № 2, общую тетрадь в клетку, бумаги для писем, брюки старые серые, книгу Крубер Общее землеведение. Очень рад, что получил от тебя весточку. Проси свиданья. Крепко целую. Аркадзь.

Приноси передачу немного раньше. 6-IX-930

В Академии требуются корректоры. Пирогов не шли, а лучше груш, соленых огурцов. Письмо получил сегодня.

*ЛММБ КП-11063.*

**№ 26**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*9 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Записки твоей сегодня не получил. Напиши сейчас и попроси передать. Книги сегодня получил, а фотографии нет. Пришли их в письме. Я здоров, работаю над статьей. Сообщи, как у тебя со службой. Нужно чего-нибудь искать постоянного. Но прежде всего смотри за здоровьем. Нашелся ли профбилет? Если нет — возьми для биржи справку в месткоме. Пришли носки, белье, чистой бумаги в клетку. Как Масенька, Ігнат[44], напиши. Целую крепко деток, тебя, всех. Спасибо за книги[45] и цветы.

Пиши чаще хоть коротко. 9-IX-930 Аркадзь.

*ЛММБ КП-11064.*

**№ 27**

*Даверанасць Аркадзя Смоліча на імя Алесі Смоліч.*
*9 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Гэтым даручаю А. І. Смоліч атрымаць маю пенсію па Бел[арускай] Ак[адэміі] Навук за 1-ую палову верасня 1930 г.

Заг[адчык] Кат[эдры] геаграфіі А. Смоліч

9-IX-930

*ЛММБ КП-11146.*

[43] Тут і далей падкрэсліванне ў дакуменце.
[44] Няўпэўненае прачытанне.
[45] Няўпэўненае прачытанне.

## № 28

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*13 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Все ждал от тебя письма эти дни. О свиданьи, если не дадут, созвонись по телефону. Здоров, несколько дней был насморк, теперь прошел. Увлекаюсь статьей и заканчиваю. Книгу получил. Со службой и союзом устраивайся скорей. Получила ли жалованье? Как с квартирой? Скоро ли уедет дедушка? Бумаги пришли еще листов 10. Передачу получил, спасибо. Денег еще не надо, пиши чаще. Берегись от простуды сама и дети[46]. Целую крепко.

Аркадзь

13/IX 930 6 шт[ук] белья

*ЛММБ КП-11065.*

## № 29

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам.*
*14 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

14/IX 930

Мілыя мае, дарагія!

І сапраўды зіма нешта рана сёлета пачала набліжацца. Я разумею твой, Шурачка, настрой і трывогу, але ўсё ж не падзяляю іх. Я думаю, што вы ўсе будзеце цяпер лепш глядзець за здароўем, бо хварэць — няма як; асабліва большым дзецям трэба мець гэта на ўвазе. А што да мяне, дык можа зімою не горш будзе, чым улетку. Усё ж ткі да зімы трэба рыхтавацца. Для мяне добра было б, час меўшы, справіць такую салдацкую ватоўку пад ніз — з рукавамі, але без каўняра — з якой-небудзь лёгкай матэрыі (як у Мусі паліто было). А то прыходзіцца мыцца на сквазніку[47], дык камізэлька мала памагае. Апроч таго наглядай дзе-небудзь валёнкі неабшываныя — цвярдыя, бо пасля можа іх не быць. А больш нічога не трэба.

А як у вас падрыхтоўка да зімы? Котка так, здаецца, і засталася без паліта. Трэба было б яе адзець у першую чаргу. Як з прадуктамі ў горадзе? Мне то тут лацьвей на усім гатовым — ды яшчэ і вы мяне ўвесь час песціце. А самім, мусіць, нялёгка прыходзіцца. Што ў цябе, Шурачка, чуваць з працай? Гэта то ў цябе была не саўсім удалая думка — ісці ў тлумачы, яшчэ добра, калі ты здароўя на гэтай справе не страціла. Лепш ужо хоць у машыністкі куды йдзі. Адкладаць гэтай справы ніяк нельга, але ж і рызыкаваць здароўем не варта.

Кнігі я атрымаў — 8 штук, вельмі дзякую. І Гейнэ мне будзе якраз дарэчы. Займаюся я цяпер тым, што пішу патроху адзін артыкул і збіраю думкі для другога. Калі б я іх напісаў, дык бы хоць з большага выканаў бы ўзятыя на сябе абавязкі. Першы артыкул збіраюся хутка скончыць, тады прышлю табе для перапіскі на машынцы. Можа прыдзецца там і картаграму якую перарысаваць, — дык цяпер я ўжо на цябе маю надзею. Ці прыслаў Сяргей гатавальню? — Чытаю я цяпер менш, галоўным чынам па-нямецку — гэта якраз ідзе ў мяне паспяхова, бо ўсё ж пісаць сур’ёзны навуковы артыкул — не так то выгодна без бібліятэкі. Штодня чытаю «Звязду» — можаш яе мне не пасылаць. Здароўе маё цяпер у парадку. Спацарую кожан дзень перад сном — гэта часткаю і добра, што позна, лепш тады спіцца. Плячо ўжо не баліць саўсім, але ўсё ж нанач цяпер фортку закрываю. Гімнастыку трохі раблю, але па-кустарнаму.

46 Так у дакуменце.
47 Падкрэслена ў дакуменце.

Нешта ж і дзеці мне мала пішуць; я і зразумець усяго не магу. Чаму Котка вышла з атраду — ён жа здаецца неблагі быў, а хадзіць усё роўна далёка і ў Сімкаў. Дый не адразу б з хаты ішлі, а па чарзе, усё маме лягчэй бы было. Ці змянілася што ў вашай школе ад таго, што яна ФЗС? А як цяпер, хто з вас больш Масю глядзіць […][48] па чарзе?

[Артыкул па][49] раёнаванні прынясеш мне на пабачэнне, а разам і бланк справаздачы. Я іх прагледжу і трэба будзе здаць. Дзяцей большых на пабачэнне не прыводзь; гэта, сапраўды, можа ўнесці нейкае раздваенне. Цалуй іх ад мяне. Вельмі б іх хацеў пабачыць — а бачу толькі што на фатаграфіі.

Ліста гэтага ўсё не пасылаў, чакаў твайго, што пасланы 12-IX, дый няма, мусіць згубіўся. Дык ты зараз жа пішы новы ліст, што ў цябе там выходзіць з біржаю і наогул аб усіх справах, а то я нічога не ведаю і трывожуся. І трэба было б пабачыцца. — Газет я прошлы раз таксама не атрымаў, прынясі хоць «Соц[иалистическое] Земледелие» за тыя дні, яно мне бывае патрэбна. І яшчэ добра было б у бібліятэцы дастаць журнал «Соц[иалистическая] реконструкция сельского хозяйства» за гэты год усе кнігі, асабліва 2-3-4. Можа б Сіманоўскі даў на тыдзень які. Або ў Ленінскім Інстытуце каб як атрымаць. Гэта мне да другога артыкулу патрэбна, а першы ўжо з большага гатовы, праз 3-4 дні саўсім скончу. За работай час хутчэй ідзе і самапачуццё лепшае, а то сядзіш нейкім дармаз'едам. Што робіцца ў БАН, у маей катэдры, ці працуюць там статыстыкі, картограф, хто імі кіруе? Даведайся там адрас Маскоўскага Інстытуту Геодезии и Картографии — здаецца Юшков, 6, можа картограф наш ведае, або на выданнях дзе можа ёсць. — Як з пенсіяй? Пасылаю даверанасці, дабівайся, каб далі за час адпачынку. Калі дастану матар'ял, дык можа і для акадэміі напішу працу. Тэрмінова пішы. Цалую крэпка ўсіх.

17/IX 930 Аркадзь

Прышлі шэры піджак, дробных грошай троху.

*ЛММБ КП-11067.*

## № 30

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*19 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[50]*.*

Дарагая Шурачка! Толькі сягодні атрымаў твой ліст; гэтымі днямі паслаў табе даверанасці, ці атрымала? Вельмі мне цябе шкода з усімі гэтымі клапотамі, а памагчы табе я не магу. Добра, што хоць гумару не траціш. Дабівайся ўсё ж ад мясцкому спраўкі, як не дасць, звярніся ў партыйную ячэйку, або ў Саюз; таксама старайся і аб рэгістрацыі на біржы. Трэба, мусіць, у гэтай справе звярнуцца да каго з больш адказных працаўнікоў, — можа гэта толькі непаразуменне ці няўвязка. Аб працы даведайся яшчэ ў ЦСУ. Адносна справы з Камгасам парайся з практычнейшымі суседзьмі, як зрабіць. У кожным разе трэба, каб яны будынак і браму перанеслі самі. Але за вочы аб гэтым цяжка раіць. Трэба канечне пабачыцца.

З непрыемнасцю прачытаў, што большыя дзеці не слухаюцца. Яны, мусіць, не разумеюць, як табе цяжка прыходзіцца. Але можа яны ўжо палепшалі? Хай мне самі напішуць.

Прышлі мне закон аб аўтарскім праве (ён ёсць у кнігарнях), даведайся пачом плацяць за карэктуру.

Цалую крэпка. Аркадзь

19-IX-930

*ЛММБ КП-11066.*

---

[48] Аркушы склееныя, 1-2 словы не бачны.

[49] Аркушы склееныя, 2 словы не бачны.

[50] Штэмпель: «Минск — Менск. 22.9.30». Адрасавана: «Тут, Старажоўская вул. № 11, Александры Ігнатаўне Смоліч».

**№ 31**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*20 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Я здоров, письмо получил 19-го, доверенности отправил 17-го. Хорошо бы работать в школе, если постоянная работа, и если скоро, но выдержит ли здоровье? Заявление в Академию все же подай. Коректура легче, если не в типографии, но смотри сама и как с союзом. Сарая, если можно, не уступай. Передачу получил. Пришли синий пояс, зубочисток, бумаги 20 л.

Целую крепко. Аркадзь 20/IX 30 г.[51]

Договорилась ли о свиданьи? Посылаю смену белья и простыню.

*ЛММБ КП-11068.*

**№ 32**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*24 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Вполне здоров, все получил полностью, мяса и сала не присылай никакого. Как у тебя со школой? Если не будешь служить и не в союзе, придется переменить квартиру, поискать маленькую. Как твое здоровье? Относительно голоса посоветуйся со специалистом, но все же лучше учительствовать. Пришли мне Ленина т. XVIII, кн. 1, 2, 3. Статью кончил. Целую вас всех, мои милые, дорогие. Аркадзь.

24-IX-930

*ЛММБ КП-11070.*

**№ 33**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам.*
*24 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Мілая мая Шурачка! Твае лісты неяк хутка адзін па адным прышлі праз дзень. Апошні мяне вельмі ўсцешыў. Каб ты ўжо хоць трохі на ўласныя ногі стала, дык быў бы я саўсім спакойны. Асабліва добра было б, каб ты працавала ў школе, бо гэта ж сапраўды твая стыхія, і ты тут можаш весці творчую работу. Гэта пасавала б і да тваёй працы на Педфаку, дадавала б кваліфікацыі — і ў выніку — маральнае здавальненне; я заўсёды трохі меў на сумленні, што адарваў цябе ад школьнай працы, хаця тут і хваробы ўсякія вінаваты. Не ведаю от толькі, што 4 група, ці не цяжка табе будзе працаваць з такімі вялікімі, і галоўнае, ці вытрымаеш ты здароўем? Але школа добрая, дык можа нічога. Добра, што і за дзецьмі троху дагледзіш. Толькі не бяры вялікай нагрузкі ў гэтым годзе, бо не вытрымаеш. Пакуль што табе лепш наогул якую-небудзь хоць невялічкую працу, бо іначай з Педфакам у цябе нічога не выйдзе. Ізноў жа дзеці таксама нельга закінуць, асабліва Мусеньку. Ты яе так і не вадзіла, мусіць, да доктара? Большыя ўжо павінны самі сябе глядзець, а яе трэба неяк падтрымаць, бо ўзімку гэта цяжэй будзе, дый хваробы ўсякія ходзяць.

З гэтых поглядаў і ўсякіх іншых у друкарні будзе цяжэй працаваць.

Там жа, мусіць, 8 гадзіновы дзень дый абед яшчэ, дык і 9 гадзін. Апроч таго, не вельмі здарова (свінцовы пыл), а калі ў 1й друкарні, дык там адносіны да карэктараў дрэнныя, а да цябе могуць быць і асабліва. Што плоцяць больш, дык ты на гэта пакуль што не глядзі, бо табе трэба прывыкнуць — гэта адно, а другое — вельмі важна і маральнае самапачуццё. Ну, але пэўне ж і перабіраць цяпер няма калі.

[51] Дата ў канцы дакумента прастаўлена іншым почыркам і чарнілам замест алоўка.

Як з маёй універсітэцкай пенсіяй, ці атрымала? І пасля не разумею, што гэта выходзіць з саюзам: ты даведайся, каму куды і колькі трэба плаціць, і пільнуй гэтай справы, а то яшчэ механічна з саюзу выключаць, а гэта не жарт.

Пасылаю паперу для Прэзідыуму БАН аб выплаце за нескарыстаны адпачынак. Ізноў жа добра было б з нейкім юрыстам параіцца, бо па справядлівасці то павінны б выплаціць, тым больш, што я затрымаўся з адпачынкам праз службовую патрэбу — праз выстаўку. Пагавары з Косцікам, ён пэўне ведае.

Як падумаю, колькі клопату на цябе звалілася цяпер — проста жах бярэ. Але ты малайчына, не здаешся.

Чым от толькі мне цябе парадаваць? Хіба што здароў толькі, стараюся быць здаровым і тым часам гэта мне ўдаецца. Артыкул свой скончыў. Хутка, спадзяюся, яго атрымаеш у перапіску і тады ацэніш. Працаваць то ў няволі цяжкавата — трэба сябе прымусіць сканцэнтраваць увагу на пэўным пытанні. Але гэта добра гартуе волю, ды і прымус не такі цяжкі. Горай тое, што няма матар'ялаў і літаратуры ўсёй.

Чытаў я гэтыя дні мала, а от цяпер вазьмуся рыхтавацца да другога артыкулу, хачу хоць троху падсумаваць тое, што зроблена па раёнаванні. Але для гэтага шмат чаго патрэбна, дык і не ведаю, як яно мне ўдасца. Ты мне не напісала нічога пра катэдру геаграфіі БАН. Мне трэба было б ведаць, ці атрымаю я адтуль матар'ялы да працы.

Харчоў прысылаеш ты мне замнога. Найгорш, што яны трываюць толькі адзін дзень, і, сумленна адносячыся да сваіх абавязкаў, за дзень цяжка бывае даць рады. А ў наступныя ўсё гэта псуецца, асабліва розныя галубцы, блінцы etc. А от малако, фрукты, бульба — гэта трывае даўжэй. Наогул жа харчуюся добра. Той запас сала, што ўзяў з дому, так і ляжыць покуль што. Значыць — не дрэнна.

Зіма была троху напалохала, дык я і пісаў пра цёплыя валёнкі. Але, відаць, яшчэ будзе цёпла. У кожным разе аб маёй адзежы не клапаціся. З дзецьмі — справа іншая.

На пабачэнне прынясі ўсе распіскі, што у канвертах. Перагледзі аблігацыі — здаецца перад самым арыштам казаў Гарашчэня, што нашы серыі выйгралі.

Вельмі рад, што ў цябе добры настрой, калі праўду пішаш. У мяне таксама бывае някепскі; асабліва вечарамі, як напр[ыклад] цяпер, і асабліва — калі атрымаю вестку ад цябе. Гэта для мяне — самыя радасныя, самыя шчаслівыя хвіліны. Пішы ж, не забывайся. Дабранач.

Цалую крэпка. Аркадзь.

24-IX-930

Дарагія дзеткі!

Вы мне прыслалі такія цікавыя і змястоўныя лісты, што я нават не спадзяваўся. Асабліва Макс. Шкада, што ты фатаграфіі свае работы не прышлеш. Мне здаецца, што ты ўжо вялікі хлопец, чуць не мужчына, дужы, разумны. Толькі чаму ты нічога пра сваю навуку не пішаш? Ці яна цябе не цікавіць? І таксама пра тое, што чытаеш. А от што памагаеш маме — малайчына.

І Котачка вельмі мілы ліст напісала, і пра Мусеньку яна не забылася ўспомніць з Джэкам. А от у атрад ты ўсё-ткі хадзі, не адгаворвайся. Ты і так неблагая дзяўчынка, а ў атрадзе — зробішся яшчэ лепшай.

Наконт нямецкай мовы ў вас як? Мусіць, не вельмі. Мой выклік так і застаўся без адказу. А я дык усё ж вучу нямецкія вершы і чытаю іх услых з тае кнігі, што вы мне прыслалі.

А як маецца бабунька? Вы пра яе мне нічога не пішыце, і ёсць у мяне такая думка, што вы яе не слухаеце і крыўдзіце. А можа я мыляюся? Пішыце ж мне яшчэ пра

ўсё падрабязна, што ў вас робіцца, мне гэта ўсё вельмі цікава, а мама мала піша пра хатнія справы.

Цалую вас крэпка-крэпка.

Ваш тата

24-IX-930

*ЛММБ КП-11069.*

**№ 34**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*27 верасня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая Шурочка!

Очень беспокоюсь о твоем здоровьи — на свиданьи ты плохо выглядела, Макс тоже. Береги здоровье, не перегружайся, белья сама пока что не мой, развлекайся, питайся лучше. Продай облигации и живите за них. Продли срок лекавай[52] книжки, а то при перерегистрации кооперативной будет затрудненье. Начинай работать в школе, но поговори еще с инспектором и высшим начальством, если он не согласится. Будь настойчива. Как я выгляжу и как твое настроение теперь. Договорись, чтобы чаще свиданья были. Пиши скорее, я уже написал тебе. Целую крепко всех. Я здоров и весел. Передачу получил, яблок слишком много. Сахар и конфеты возвращаю — только место занимают. Будь здорова и добра. Аркадзь.

27-IX-930

*ЛММБ КП-11072.*

**№ 35**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*1 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Получил все полностью. Мяса не присылай. Я здоров, чувствую хорошо. Как твое здоровье, почему не пишешь, верно плохо — береги себя и лечись. Возьми себе отдельную лечебную книжку. Питайся лучше. Продала ли облигации? Служба твоя, пожалуй, неплохая, если только надеешься закрепиться, попасть в штат. Напиши подробно условия работы и с кем работаешь. Посылаю белья 6 шт[ук]. Пришли бумаги или тетрадей. Целую крепко тебя, детей, жду письма. Аркадзь.

Счетов еще не сдавай пока. Спасибо за цветы. 1-X-930.

*ЛММБ КП-11078.*

**№ 36**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*4 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я совсем здоров, о ревматизме не бойся; настроение хорошее. Занимаемся немецким языком. Письмо получил. Если можешь выбирать службу, оставайся там, где лучше относятся к тебе. Работы пиши 4 экземпляра. Письмо пришлю скоро. Пришли ниток. Кроме обычной передачи пришли 10 яиц, 1 кг яблок, напиши сколько стоят. Кожух и все прочее получил. Масеньку и всех целую, хотел бы ее видеть. Достала ли[53] книги? За цветы спасибо. Жду от детей писем и фотографий.

4-X-930

Аркадзь

*ЛММБ КП-11079.*

---

[52] Так у дакуменце. Гл. наступны дакумент (№ 35).

[53] Далей прапушчана месца для аднаго слова.

**№ 37**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам.*
*7 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Любая Шурачка, дарагія дзеткі!

Дзякуй за ліст табе — атрымаць яго для мяне цэлае шчасце. А калі яшчэ да таго ў вас усё ў парадку — дык, здаецца, больш нічога і не трэба. Што ж гэта толькі з Мусенькай, трэба нешта рабіць, каб яе падмацаваць як. Можа лепшага доктара якога паклічаш, каб нарэшце выясніць з яе гэтым абменам. Хто яе цяпер глядзіць, як ты ідзеш на працу, і ці досыць яна бывае на паветры? Бедная дзевачка з гэтымі сваімі болькамі. Мне яе вельмі б хацелася бачыць. Як маюцца большыя і чаму яны мне нічога не пішуць?

Што ты асталася на гэтай дзелаводскай працы — можа і не блага. Павінна быць тут лягчэй, а на гэтыя месяцы, пакуль выясніцца мая справа, дык табе і цяжка было б справіцца з большай нагрузкай, дый, думаю, і тут можа прыдасца і стэнаграфія твая, і на машынцы падвучыцца лепш можна. Напішы падрабязна аб умовах працы і, галоўнае, ці замацуешся ты там, бо з гэтым трэба неяк канчаць ужо. Калі б усё ж адыходзіла, бяры пасведчанне, што працавала, а то будзеш гэтак хадзіць па часовых работах і знаку ніякага не будзе. Але лепш заставайся, калі да цябе адносіны неблагія.

Працай наогул тымчасам не перагружайся, вазьмі лепш якую грамадскую нагрузку. Дагледзь лепш дзяцей і сябе, харчуйцеся добра. Пасылаю даверанасць на аблігацыі. Хто гэта дае дазвол на прадажу іх, можа трэба якая яшчэ заява? — Ці прадоўжыла ты лекавую кніжку? Як з маім профбілетам і членскімі складкамі? Гэтыя справы трэба ўрэгуляваць, а то могуць быць якія непаразуменні пры перарэгістрацыі кааперат[ыўных] кніжак. Ці падала заяву маю ў БАН і што па ёй адказалі? Што ў Выдавецтве табе прапанавалі?

З перапіскай артыкулу цяжкасцей не павінна быць. Пішы 4 экз[эмпляры], з іх 2 — на адным баку ліста. Пісаць трэба не вельмі густа, абзацаў рабі больш[54]. Адзін экзэмпляр (горшы) прышлеш і мне, пагляджу, можа што прыдзецца паправіць, дык тады проста ў лісце напішу. Спісу назваў, што ў канцы, перадрукоўваць не трэба — ён толькі для машыністкі. У працы ёсць цытаты — з Каутскага[55], Баранскага, можа яны недакладныя, ты спраўдзі, старонкі там паказаны. Карты наклей на грубейшую паперу. Ці даведалася адрас Інстытуту геадэзіі? Ліст да яго я табе прышлю.

Мае здароўе добрае, раматуз саўсім не адзываецца, так што клапаціцца[56] табе аб гэтым не трэба. А от з тваім здароўем трэба вельмі асцерагацца. На пабачэнні ты вельмі дрэнна выглядала, Макс таксама. Аб гэтым трэба цяпер падумаць асабліва. Дзецям мусіць трэба фітын даваць. А ты старайся за сабой глядзець, бо ад твайго здароўя цяпер шмат залежыць. Як з дрыўмі у вас? Можа б Навіцкі ў гэтай справе прыняў удзел?

Пішаш ты мне вельмі рэдка і не аб усім. Калі не атрымліваеш маіх запісак — паведамляй. Прышлі канвертаў, кнігі. Яек, што я прасіў, не купляй і не прысылай. Ці аплата карэктуры, што ты пісала, — за адну карэктуру аркуша ці за дзве? Рахункі яшчэ пачакай здаваць.

Бывай здарова. Крэпка цалую ўсіх.

Аркадзь 7-X-930

*ЛММБ КП-11080.*

[54] Словы «абзацаў рабі больш» ўпісаны паміж радкамі.
[55] Так у дакуменце.
[56] Няўпэўненае прачытанне.

## № 38

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*11 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Очень рад, что справляешься со службой, напиши, не откладывая, подробнее, как вы устраиваетесь с работой и детьми. Я здоров, чувствую себя хорошо — у нас тепло и сухо, регулярно гуляем, работаю по-немецки. Пришли словарь русско-немецкий и брошюру «Русский в Германии». Новую работу пока обдумываю. Письмо с доверенностью послал 8-X. Договорилась ли о свидании? Береги здоровье свое и детей. Целую вас всех крепко-крепко. Аркадзь.

Посылку получил, масла и денег — не надо. Пришли носки.

11-X-930. Посылаю белья 5 шт[ук].

*ЛММБ КП-11081.*

## № 39

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*14 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Я здоров, чувствую себя хорошо. Статью уже понемногу пишу, но лучше ты возьми в Издательстве большой перевод и пришли мне. Бумаги пока что довольно. Немецкие книги, что я просил, у нас есть в шкафу, пришли их. Пиши скорее как со службой, не мобилизуют ли тебя в школу? Пришли ботинки, калоши, флоксов, если не смерзли. Я напишу по получении от тебя письма. Целую крепко всех, Котку в особенности. Передачу получил. Аркадзь.

14 X 930

*ЛММБ КП-11082.*

## № 40

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*18 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Книги получил, теперь читаю, они мне пригодятся для статьи. Скоро буду ее продолжать. Присылай скорее остальные. Кроме того, пришли тетрадей, бумаги тоже немного. Здоровье мое и настроение — безупречны. Письма тебе еще не послал, жду твоего, не опаздывай. Нет у меня уже зубного порошка, белья, а сегодня был в бане. Минские газеты я покупаю, присылай разве «Эконом[ическую] Жизнь». Как здоровье стариков? Спасибо за цветы. Передачу всю получил. Береги свое здоровье и смотри за детьми. Крепко целую тебя и их. Аркадзь.

18-X-930 — Посылаю 3 шт[уки] белья.

*ЛММБ КП-11083.*

## № 41

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*21 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая Шурочка! Пришли мне пенсне, вставь стекла +0,75, очки сломались. Я чувствую себя хорошо, вполне здоров. Письма твоего не получил и тебе не послал, но ты пиши новое. Как твое самочувствие? Береги здоровье и старайся меньше нервничать, больше внимания детям и учебе. Принеси немецкую книгу — чего-нибудь полегче. Как

переводы, сходишь ли ты за ними? Взяла ли себе лечебную книжку? Посылку получил, ничего больше не надо. Аппетит у меня хороший, но всего не съедаю. Крепко целую — до свиданья. Аркадзь

Ленина том XVIII принеси. 21-X-930

*ЛММБ КП-11084.*

**№ 42**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*25 кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

25-IX-30[57]

Дорогая Шурочка! Я здоров, работаю, настроение бодрое. Очков в починку не отдавай, новые хороши. О переводах спроси в Издательстве сначала — и в Ленинской комиссии; немецкие переводы менее желательны. Пиши возможно чаще по почте о себе. Береги здоровье, будь спокойнее, развлекайся. Акуратно высылай белье и все газеты, особенно местные; пришли и недосланные в этот раз. Пришли теплые носки на случай насморка. Расписки еще не относи, сегодня пошлю доверенность. Посылку и деньги получил. Целую крепко всех, особенно Масеньку — она очень мила. Аркадзь. 25/X 930

*ЛММБ КП-11071.*

**№ 43**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*Канец кастрычніка 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая Шурочка! Статью получил, когда кончу просматривать — напишу. Последние дни был нездоров (насморк, живот) — видимо, небольшой грипп. Теперь уже прошло, но еще не выхожу. Кожух как раз пригодился. Хорошо бы в субботу получить немного сухарей. А котлет, оладок не присылай, и яблок скопилось уже на долго вперед. Продала ли облигации? Живите теперь за них. Перевод попробуй просить для себя. Нетерпеливо жду от тебя письма, я свое отправил 25/X. Пришли стрекоз 4, больше ничего пока не надо. Очень рад, что берешься работать. Крепко всех целую, в частности Масеньку. Аркадзь.

X-30[58]

Передачу получил.

*ЛММБ КП-11075.*

**№ 44**

*Ліст Алесі Смоліч Аркадзю Смолічу. Кастрычнік (?) 1930 года. Менск*[59]*.*

1930 год (мусіць кастрычнік)[60]

Аркадзік мой родненькі!

Праўда, што не балую я цябе часта лістамі, але ты і так ведаеш, што я аб табе толькі думаю і жыву табой. А дзень за днём цягнецца саўсім аднолькава — у рабоце, кло-

[57] Дата ў пачатку дакумента прастаўлена іншым почыркам і іншым алоўкам. Калі меркаваць па змесце (зламаныя акуляры), то варта больш давяраць даце, прастаўленай самім Аркадзем Смолічам.

[58] Дата дакумента прастаўлена іншым почыркам і іншай асадкай (а не алоўкам, як увесь астатні тэкст).

[59] Верагодна, неадпраўлены чарнавік ліста Алесі Смоліч. Вельмі шмат выпраўленняў, ліст незавершаны, не падпісаны.

[60] Дата дакумента прастаўлена алоўкам. Далей ліст напісаны чарнілам. Падкрэсліванне ў дакуменце.

патах, а ў дадачу — электрыка не гарыць да паловы 12й,[61] асвяшчаемся 1 кухоннай лямпачкай, прыходзіцца ўсім быць у кучы, а пры тым галдзежы, суматосе і трэніі, якія ў нас тут адбываюцца паміж пяццю членамі сям'і — якраз напісанне лісту самае немагчымае дзела. Я цяпер думаю іначай устроіцца —[62] спаць ад 6й да 12й, а тады, пры электрычнасці займацца. Трэба падагнаць работу па Універсітэту,[63] атрымала паведамленне, што па некаторым прадметам зменшылі лік кантрольных прац. Гэта мне на руку.

Са службы прыходжу трохі зморaная, хоць на паперы лічуся справаводам, але паскольку ёсць сакратар, дык мне фактычна найбольш[64] прыходзіцца быць кур'ерам і экспедытарам, а ўстанова раскідана па далёкіх пакоях і на 2х паверхах. Бывае, што да 4х гадз[ін] не паспяваю закончыць сваёй працы — гэта ў тых выпадках, калі трэба перадаваць па тэлефону тэлеграмы, часта заняты тэлеграф. Праз гэта і з перадачай табе раз спазнілася.

Хатняя работа ўся ляжыць на бабуньцы, але[65] трохі памагаюць большыя[66] дзеці. Да зімы яшчэ не падрыхтаваліся, вокан не ўставілі і г. д. Дроў трохі маем, але на усю зіму[67] не хопіць. Трэба будзе яшчэ дастаць з ЦРК. х)[68]

Лекавай кніжкі не прадоўжыла — на гэтых днях мяняецца мясцком і тады ізноў пайду па гэтай справе. Таксама і з заявай тваёй аб адпачынку на днях даведаюся. Катэдрай геаграфіі ніхто не кіруе, справаздачу аб рабоце за гэты год даваў Мікалаевіч, ён, здаецца, там толькі з фатографам і працуе. Адраса Інст[ытута] картагр[афіі] і геадэзіі ён не ведае.

У выд[авецт]ва я не хадзіла, цяпер вось пайду наконт перaклада. А можа з нямецкай мовы пераклад узяць?

х)[69]

Нешта не ладзіцца сёлета з Котчыным вучэннем: няма настаўніка. Лука Савіч перашоў на працу па стыльрэдакцыі, і цяпер IV кляса[70] амаль не[71] вучыцца.

Назначылі нейкую вясковую н[астаўні]цу, але яна пабыла[72] з тыдзень і ці сама кінула ці яе звольнілі — Котка не ведае, але няма. Сягонні, напр[ыклад], займалася з імі 2 гадз[іны] вучаніца з 7й кл[ясы], а 2 гадз[іны] настаўн[іца] з II кл[ясы] урыўкамі. А прасілася туды Надзея Ягораўна, дык яе не прызначылі. Ну, а ў Сімкі ўсё добра, да таго ж ён у нас яшчэ і таржэственнік і мае ўласны гальштук, а то ўсё Котцы зайздросціў. Бяда толькі з яго гарачым характарам — крыўдзе Котку і грубіяніць бабуньцы. Мусенька — прэлесць. Саўсім добра і талкова гавора, расказвае вершы, часта для мяне саўсім не чаканыя. На дварэ бывае многа, калі добр[ая] пагода. Без мяне гуляе[73] лепей, а пры мне капрызнічае. Мусіць, я яе пешчу многа.

*ЛММБ КП-11076.*

---

61 Далей закрэслена: «прыходзіцца сядзець».
62 Далей вымарана: «класціся».
63 Далей закрэслена: «сягоння».
64 Слова «найбольш» напісана над радком.
65 Далей закрэслена: «шмат».
66 Слова «большыя» напісана над радком.
67 Далей закрэслена: «можа».
68 Такая пазнака — «х)» — зроблена почыркам самой Алесі Смоліч.
69 Далей закрэслена: «Ватоўкі табе яшчэ не пачынала шыць».
70 Далей закрэслена: «не стала».
71 Далей закрэслена: «займаецца».
72 Далей закрэслена: «каля».
73 Няўпэўненае прачытанне.

**№ 45**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*1 лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

1-XI-30[74]

Дорогая! Я совершенно здоров, хожу на прогулку, настроение хорошее в связи с погодой. Статью пересмотрел, на днях вышлю поправки, после чего можно будет ее послать. Следовало бы выяснить еще в Издательстве о переводах для тебя. Спроси также в Ленинской Комиссии и в Академии. О своем письме я наведу справки. Доверенность там на гонорар. Пиши ты сама, не ожидая, сразу же. В среду все получил, теперь также, булок больше не надо. Пришли Сталин — «Вопросы ленинизма» и мою книгу — «Орган[изация] крестьян[ского] хозяйства». Очень рад, что вы здоровы и работаете, о мне не беспокойтесь. Работой не перегружайся. Продала ли облигации? Пришли местные газеты за 25 и 26-X. Посылаю 2 простыни, 2 рубашки, 3 штанов, 1 полотенце, 1 носки, 1 платок. Простынь у меня есть еще 5 шт[ук]. Белье продезинфицируй, чтобы к вам грипп не забрался. Целую крепко тебя и детей.

Аркадзь 1-XI-930

*ЛММБ КП-11085.*

**№ 46**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*4 лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

7-XI-30[75]

Дарагая Шурачка! Пасылаю папраўкі да артыкулу, думаю, ты ў іх разбярэшся. Апроч таго, зменіш канец артыкулу — можна проста наклеіць тэкст, які я пасылаю. Адрас Інстытуту, здаецца, Юшков, 6, але абавязкова спраўдзі па «Вся Москва». — Я табе нарабіў шмат клопату сваім грыпам. Нічога асаблівага не было — дні са два была паднятая тэмпэратура, насмарк, кашаль, доктар забараніў выходзіць. I/XI я ўжо спацараваў, і цяпер жыццё маё ўваходзіць у норму. У часе хваробы я менш займаўся, больш спаў, чытаў газеты, сядзеў у кажусе і кінуў гімнастыку. Кажух наогул аказаўся дарэчы. Добра было б пры выпадку купіць яшчэ пару цёплай бялізны, каб было змяніцца. Для пэўнасці, мусіць, прыдзецца ў ёй хадзіць усю зіму. Але можа што патрабнейшае ёсць, то абыдзецца. Ці змяніла ты каапкніжку? Зайдзі ў Секцыю Нав[уковых] Працаўнікоў, даведайся, здаецца, павінны даць 27[ю] рабочую катэгорыю.

Ты так доўга не пісала, што я ўжо саўсім не ведаю, як вам жывецца ў матар’яльным і маральным сэнсе. Ці спраўляешся ты з работай і адкуль у цябе такая нагрузка? Цераз сілу ўсё ж не бяры, бо не надоўга хопіць. Старайся як рацыяналізаваць сваю работу. Дзе будзе цяпер змяшчацца твая ўстанова і ці не будзе ў ёй якіх змен? Калі б была магчымасць выбіраць, дык мусіць лепш табе было б застацца ў ВСНГ. Але табе яно відней. У кожным разе паведамі, як стаіць справа гэтая. — На пабачэнні вы адразу зрабілі на мяне добрае ўражанне — выгляд някепскі ў цябе і ў Ганулькі, Масенька надзвычайна сімпатычна сябе трымала. А толькі ты неяк за ўсмешкай хавала быццам трывогу. Гэта якраз непатрэбна: будзь спакойнай і пэўнай, менш увагі звяртай на тое, што гавораць і пішуць. Працы ў цябе цяпер шмат — службовай, вучэбнай, глядзі дзяцей і сябе — каб не страціць здароўя — гэта самае важнае. А мне падрабязна напішы аб усім — як сябе

[74] Дата ў пачатку дакумента прастаўлена іншым почыркам і іншым алоўкам (верагодна, Алесяй Смоліч).

[75] Дата прастаўлена на пазнейшым пераплёце.

чуеш, як цяпер адносіны да цябе суседзяў, на службе і г. д., як у хаце парадак, як маюцца і вучацца дзеці?

Меўшы час, добра было б схадзіць спытаць дзе пераклада якога. Найлепш было б узяць падручнік, але спытай яшчэ ў Ленінскай камісіі (яна таксама ці не пры ДзяржВыдав[ецтве]), або ў Катэдры Марксізму БАН — яны хочуць выдаваць класікаў. Аднак з нямецкага пераклады менш пажаданы пакуль што, хіба калі ёсць ужо расійскі пераклад. Умову можам пісаць ад свайго імя, або як ім выгадней.[76]

Бывай здарова. Цалую крэпка ўсіх вас.

Аркадзь.

4-XI-930

*ЛММБ КП-11086.*

**№ 47**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*8 лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

8-XI-30[77]

Дорогая Шурочка! Чувствую себя хорошо, вполне здоров, занимаюсь. Думаю браться за английский язык, поищи хороший самоучитель. Письмо отправил 4/XI, пиши скорее. Как здоровье [Ко]тки[78]? Пришли мягких карандашей, ниток. Провизия портится. Просила ли свиданья? Целую крепко. Аркадзь

8[79]-XI-930

*ЛММБ КП-11087.*

**№ 48**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*11 лістапада (?) 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

11-XI-30[80]

Дорогая! Посылаю белья 4 шт[уки]. Коопкнижку лучше бери на меня, получи все нужные справки. Деньги положи в сберкассу. Жду письма от тебя и детей. Симке нужно давать фитин, бабушку подлечивать. Пришли мелочи немного, носовой платок, носки, чернил, ниток побольше, карандашей. Передачу получил. Целую крепко всех. Аркадзь

11-X I 930[81]

*ЛММБ КП-11088.*

**№ 49**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*15 лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая Шурочка! Я вполне здоров, чувствую себя хорошо, много читаю по экономике и истории. Нетерпеливо жду письма от тебя и детей. Как идет твое ученье? Зачеты надо сдать. Пришли мне книгу: Сапегин — Статистика (есть у нас), а также брюки старые, ниток, серых кусков на заплаты, карандашей мягких. Посылаю ботинки, почини

---

76 Далей іншым алоўкам.

77 Дата ў пачатку дакумента прастаўлена іншым почыркам і іншым алоўкам.

78 Пачатак слова зацёрты.

79 «4» выпраўлена на «8».

80 Дата ў пачатку дакумента прастаўлена іншым почыркам і іншым алоўкам.

81 Невыразнае напісанне: ці тое «X 1930», ці тое «XI 930».

и верни, хочу в них ходить. Как здоровье бабушки — ей надо беречься. Ты тоже смотри за здоровьем своим и детей. Коопкнижку хорошо бы получить на меня. Целую крепко всех вас. Аркадзь

15-XI-930

Передачу получил кроме денег[82].

*ЛММБ КП-11455.*

**№ 50**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*17(?) лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

17-XI-30[83]

Мілая мая Шурачка! Не пішаш ты мне ўжо які час, — не ведаю чаму, — ці гумару няма, ці ўсё некалі. Недачакаўшыся — сам пішу, хаця навіны ў мяне больш старыя. Дзень за днём ідзе няўзнакі, работа ўносіць пэўную разнастайнасць ды яшчэ спацар. Сягодні, прыкладам, ужо можна віншаваць з зімою і снегам. Ці ацеплілі вы ўжо кватэру? У нас тут саўсім цёпла і наогул умовы для жыцця неблагія, затым і чуюся саўсім добра, бадзёра. Патроху рыхтую і працу сваю — аб спецыялізацыі сельскагаспадарчых раёнаў БССР, але бачу, што скончыць яе без свяжэйшых матар'ялаў будзе цяжка. Да таго ж у новых журналах могуць быць у гэтай справе важныя кіраўнічыя матар'ялы. Пры выпадку даведайся, можа, якія матар'ялы сёлета выдала ЦСУ (напр[ыклад], каляндар-даведнік на 1931 год, або вынікі сёлетняга перапісу).

Наогул можа лепш было б з гэтай работай пачакаць, але шкода, што матар'ял — шмат каму патрэбны — марнуецца, дый абяцаўся ж я яе зрабіць. Лепш цяпер было б якім перакладам заняцца — можа б і вас хоць троху падтрымаў, дый наогул работа больш адпаведная. Ты памятаеш, пэўне, як я калісь перакладаў новую гісторыю, і як гэта добра ўплывала на гумар, — а быў ён тады ў мяне горшы, чым цяпер. От толькі шкода, што ўсё гэта на тваю галаву клопат. Я і так не ведаю, як ты з усімі сваімі турботамі спраўляешся.

Пасылаю ізноў даверанасць на ганарар. Рахункі ты яшчэ раз прагледзь, каб там якія староннія не папалі або старыя (напр[ыклад], з 928 году) — і здай іх у Інстытут. За адно спытай там у Ганіна або Маргелава аб ганарары. Можа ў іх якія пераклады ёсць?

У газетах было аб перарэгістрацыі навуковых працаўнікоў. Меўшы час, ты, можа, схадзі ў Дом Працы, заадно і даведку атрымаеш, дый наогул выясніш, можа, плаціць што трэба. Аб усім гэтым напішы мне.

Хацеў бы я больш ведаць пра вашае жыццё і абставіны яго, нават дробныя. Дзеці аб гэтым раней так добра пісалі. Я ж от нават не ведаў пра змену ў Сімчынам жыцці. Ці слухаецца толькі ён цяпер мамы і бабунькі, я думаю ён павінен быць прыкладам для ўсіх. Ці навучыліся яны з Коткай згодна працаваць, ці сварацца, як даўней? Мусіць жа Котка памагае яму дровы пілаваць? І ўрэшце, як маецца Масенька, ці многа вырасла і што яна наогул гаворыць і ўмее? Як яе цяпер здароўе і ці бывае яна досыць на паветры?

Трывожуся я аб тваім здароўі, Шурачка. Цяпер ты ўжо на яго саўсім не глядзіш, хворая нават на службу ходзіш і наогул бярэш цераз сілу. Гэта нядобра, сама ты падумай. Не ведаю, як вы там з матар'яльнага боку ўстраіваецеся. Ці можна што цяпер на базары купіць і якія цэны (на масла, на хлеб)? Як вы з абуткам робіце, ці можа выдаюць у ЦРК? Ці ёсць надзея атрымаць дровы? Усе гэтыя дробязі — быццам — ад каторых, аднак, залежыць ваш дабрабыт, — для мяне вельмі цікавы. Аба мне клапаціся як найменш. Цяпер я пастараюся сам сябе абслугоўваць, каб табе час не марнаваць. Прысылай толькі

[82] Далей закрэслена: «карандашей, блокнота».
[83] Дата прастаўлена на пазнейшым пераплёце.

нітак — цыраваць навучыўся. Як з тваімі заняткамі на педфаку, можа адкладуць гэты тэрмін? Як здароўе бабунькі, хай бы яна мне што напісала. Цалую крэпка ўсіх. Аркадзь.

17[84]-XI-930

*ЛММБ КП-11089.*

## № 51

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*18 лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Даражэнькая! Пасылаю 3 шт[укі] бялізны і шкарпэткі (сваёй работы). Ручнікі прысылай грубыя. Я здароў, настрой добры. Ліст паслаў 17-XI, чаму ты не пішаш? Прышлі грошай троху па почце. Пабачэння прасі; пільнуй здароўя. Як з ангельскай кнігай? Пішы безадкладна. Прасі, каб астацца ў ВСНГ. Перадачу атрымаў. «Правду» не пасылай. Цалую крэпка цябе і дзяцей. Аркадзь.

18 XI 930

Той раз алоўкі і блакнот атрымаў.

*ЛММБ КП-11450.*

## № 52

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*20(?) лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

22-XI-30[85]

Дорогая! Я вполне здоров, много читаю. Книги получил. Почему мало пишешь? Как твоя служба и когда чистка? Как здоровье дедушки, — его надо лечить. Пришли ботинки, если готовы. Денег еще не получил. Передачу получил. Крепко целую. Аркадзь.

Как твое ученье? 20[86]/XI 930

*ЛММБ КП-11090.*

## № 53

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*25 лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая Шурочка! Письма и денег еще не получил, завтра буду писать. Здоров, работаю по-прежнему. Пришли том 17 Ленина, книгу «Нацпытанне і кампартыя», ниток побольше, ботинки, местные газеты аккуратнее. Пиши чаще, не ожидая ответа, береги здоровье, занимайся. Просила ли свиданья? Передачу получил. Провизии посылай много меньше. Целую крепко. Аркадзь.

25/XI 930

*ЛММБ КП-11091.*

## № 54

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 27 лістапада 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Мілая Шурачка! Я ўсё не атрымліваю тваіх лістоў; напішы, калі ты апошні выслала. Непрыемна, што я саўсім не ўяўляю сабе вашых інтарэсаў, штодзённых клопатаў, не ведаю, як вам жывецца, як думаецца. Баюся за цябе, што ты нервуешся без патрэбы.

---

84 Невыразнае напісанне: ці тое «17», ці тое «12».

85 Дата ў пачатку дакумента прастаўлена іншымі почыркам і алоўкам.

86 Невыразнае напісанне: ці тое «20», ці тое «22».

Здаецца мне, найлепш ты зробіш, калі цяпер шчыльна возьмешся за вучобу, мусіць жа надыходзіць канец залікаў? Можаш браць мяне за прыклад — працую старанна і рэгулярна. Учора атрымаў англійскую кнігу і адразу за яе ўзяўся, — ужо ёсць поспехі. Як так пойдзе — тыдні праз тры гэтую кніжку скончым. Апроч таго, чытаю я шмат і з іншых галін, галоўным чынам палітычную літаратуру. Добра было б атрымаць мне яшчэ такія кнігі: 1) Нацыянальнае пытанне і кампартыя — выдана 1924 або 1926 г. 2) Леніна т. 17, 3) Інстытут Беларускае Культуры (выданне 1926 г., з малюнкамі). Апошнія дзве ў нас павінны быць, а першую можа дзе ў бібліятэцы возьмеш, час меўшы.

Я цяпер саўсім здароў, настрой маю някепскі. Жыццё, вядома, аднастайнае, спакойнае, час ідзе хутка. Аднастайнасць гэтую нарушаюць толькі трамвайныя званкі ды гудкі заводаў — яны напамінаюць аб вольным жыцці, аб кіпучай працы, аб вас усіх — і чамусьці дадаюць шмат бадзёрасці. На спацар хаджу рэгулярна, здароўя ўвогуле пільную. Харчуюся аж праз меру, бо, сапраўды, ты залішне правізіі пасылаеш, можна зменшыць у 2-3 разы, а то шмат марнуецца, тым больш, што не так то цяпер лёгка, мусіць, што і дастаць. — Напішы мне ўвогуле пра ўсе вашы матар'яльныя справы.

Як твая служба, дзе ты працуеш, з кім і на якіх умовах; ці палягчэла хоць трохі з работай? Як ты сябе адчуваеш, напішы акуратна. За здароўем глядзі цяпер асабліва моцна, бо і празябіцца лягчэй, і хварэць табе тым часам ніяк не выпадае. Як маюцца дзеці, як яны пераносяць асенняе надвор'е? Як з навукай у большых? Ці вялікая вырасла Масенька і што яна робіць, з кім гуляе? Ці вучацца дзеці па-нямецку, ці многа чытаюць. Як іх грамадская праца ідзе? Чакаю і ад іх уласных лістоў.

Добра было б цяпер з табой пабачыцца. Да рэчы — калі твой выхадны дзень цяпер? Ці пыталася ты наконт перакладаў? Чакаю ад цябе хутка чарговага ліста. Крэпка цалую цябе, дзетак, бабуню. Аркадзь

27-XI-930

*ЛММБ КП-11092.*

**№ 55**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*Лістапад (?) 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая Шурочка! Я вполне здоров, настроение хорошее. Читаю Ленина и немецкие книги. Пришли мне, если можно, книгу Бондаря — Аграрная палітыка, Историю ВКП. Как с твоей службой? Может лучше бы тебе остаться в ВСНГ. Пришли карандашей черных и химических. Пиши чаще. Передачу получил. Возбуди вопрос о свидании в праздники.

Целую крепко. Аркадзь

? XI-30[87]

*ЛММБ КП-11077.*

**№ 56**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*2 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая Шурочка! Я здоров, работаю, самочувствие обычное, ты не беспокойся. Посылаю письмо, твоего еще не получил. Проси свиданья, пиши скорее. Здоровье береги, развлекайся.[88] Прошлый раз посылал 6 шт[ук] белья, передачу получил оба раза. Сахару

[87] Дата прастаўлена іншай рукой і асадкай (ліст напісаны алоўкам).
[88] Далей іншым алоўкам.

не надо, остается. Счета принеси, а также чернил для вечного пера. Крепко целую тебя, деда, детей. Аркадзь 2 XII 930

*ЛММБ КП-11093.*

**№ 57**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*3 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Мілая Шурачка! Апошнія дні, пэўне, прынеслі табе шмат цяжкіх перажыванняў. Мне гэта вельмі балесна, вельмі шкода тваіх нерваў. Але ж гэтага трэба было даўна чакаць, інакш бадай ці і быць магло. Затое цяпер нядоўга, мусіць, працягнецца гэтае прыкрае палажэнне невядомасці, дык трэба перацярпець. Тым больш, што аба мне клапаціцца табе асабліва няма чаго. Ты ж ведаеш, як я стараўся працаваць, выконваць узятыя на сябе абавязкі, як я думаў і гаварыў. А калі ўсё ж нарабіў памылак, дык і трэба адпакутаваць. Толькі ты старайся быць спакойнай, як можна менш нервавацца. Тады і я буду спакайней за вас. — Сам я цяпер зусім здаровы, настрой нават неблагі. Займаюся патроху ангельскай мовай, хутка буду досыць добра чытаць, а гэта ўжо поспех. Трэба было толькі які-небудзь больш кампактны падручнік прыслаць, а то гэты дужа вялікі — без патрэбы. З часам ты мне дастанеш слоўнік (выданне БСЭ) ангельска-рускі і прышлеш кнігу Davis. Principles of Geography (дакладна не помню назвы) — яна ў нас ёсць. Ці палепшала цяпер з тваімі заняткамі, як ёсць каму за дзецьмі глядзець? Дый яны ж не маленькія. Калі ў цябе будуць залікі? Ліста твайго і грошай ізноў не атрымаў, не ведаю, што за прычына. Але ты ўсё роўна пішы, толькі, можа, патрабуй проста здаць каменданту. Дый трэба было б канечне пабачыцца, і табе было б тады спакайней. Рахункі здавай усе, якія адносяцца да раёнавання, там толькі здаецца адзін ці два старых рахункі ёсць (старэй III-929), дык калі сумляваешся, прынясі гэтыя рахункі (старыя) на пабачэнне. Авансу за мной было 500 руб, можа яшчэ і астаткі якія былі ад даўнейшых авансаў, — хай вылічаць з ганарару. Вазьмі толькі квіток аб здачы дакументаў, каб не згубіліся. У справе ганарару прагледзь закон аб аўтарскім праве, ён ёсць асобнай кніжачкай.

Напішы, як жывецца цяпер з маральнага і матар'яльнага боку. Што ты цяпер робіш і як называецца твая ўстанова? Які ў вас у хаце падзел працы? Вельмі рад, што дзеці палепшалі, хай яны мне падрабязна аб усім напішуць. Можа дзед якую працу мае? Прышлі мне карандашы са 2 простыя, канвертаў 6, чарніла для ручкі. Цалую крэпка цябе і ўсіх. Аркадзь 3 XII 930

*ЛММБ КП-11094.*

**№ 58**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*6 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогие! Я здоров вполне, чувствую себя хорошо. Письма не получил, тебе отправил 3/XII. Пиши чаще хоть открытки, проси свиданья. Посылаю белья 4 шт[уки] и ботинки. Пришли скорее 2 и 3 выпуск английской книги, этот кончаю. Пришли ниток черных, смену белья. Не тревожься. Передачу получил. Целую крепко тебя, деток, стариков. Аркадзь

6/XII 930

*ЛММБ КП-11095.*

## № 59

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*6 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[89].

Даражэнькая! Копіі з рахункаў здымаць не трэба, прышлі толькі спіс іх, каб ведаць, каму і калі плочана і за што. Што чутна з ганарарам? Англійскія кнігі, што я прасіў (2гі і 3 выпуск тае самае серыі) прынясі як-небудзь гэтымі днямі. Як твая работа, як вучоба? Пішы як часцей. Цалую крэпка ўсіх вас. [*подпіс*][90]

6-XII-930 Аркадзь Смоліч

Бацінкі забыўся табе адаслаць, але правіць іх можна і пачакаўшы.

*ЛММБ КП-11096.*

## № 60

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*10 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ*[91].

Мілая Шурачка! Ты мне ўсё не пішаш, і я пачынаю трывожыцца аб тваім здароўі, аб дзецях. Пішы хоць кароценька ды часцей. Я сам саўсім здаровы, чую сябе няблага; займаюся ангельскай мовай, трохі чытаю, пішу. Прышлі мне паперы — горшай аркушаў 20 і лепшай 10, канвертаў 10 і далейшыя выпускі ангельскай кнігі, бо гэты ўжо амаль скончыў. Як маюцца дзеці, пагода цяпер нягодная, хоць бы яны не празябіліся. Як з навукаю ў іх і ў цябе самой? Ці вышла што з ганарарам? Як у цябе з грашыма і з прадуктамі? Хлеба ты мне не пасылай, кормяць нас добра, наогул умовы жыцця даўнейшыя. Цалую крэпка цябе, дзяцей і старых. Аркадзь

10-XII-930 [*подпіс*][92]

*ЛММБ КП-11097.*

## № 61

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*14 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

14-XII-930

Дорогая Шурочка! Я здоров, чувствую себя вполне хорошо. Писем не получил, деньги получил, пришли еще рублей 10. Пиши почаще открытки хоть пару слов. Посылаю белья 6[93] шт. и ботинки. Проси свиданья. Получила ли мои две открытки? Пришли зимнее пальто, старую шапку, синий галстук, конвертов[94], английские книги (первую уже кончил), «Правду» за 10/XII. Как твоя учеба? Работай, смотри за здоровьем. Целую крепко тебя и всех. Аркадзь

Передачу получил, сала не посылай, булок тоже. Кормят хорошо.

*ЛММБ КП-11098.*

89 Штэмпель: «Минск — Менск. 12.12.30».
90 Подпіс, верагодна, следчага ДПУ Сікорскага.
91 Штэмпель: «Минск — Менск. 13[?].12.30». Лічба «13» расплылася, прачытваецца няўпэўнена.
92 Подпіс, верагодна, следчага ДПУ Сікорскага.
93 Лічба некалькі разоў выпраўлена, прачытваецца няўпэўнена.
94 Слова «конвертов» упісана паміж радкамі іншым алоўкам.

## № 62

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 21 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я здоров, чувствую себя хорошо, немного занимаюсь. Книг и письма еще не получил. Беспокоюсь о вас, надо увидеться. Хлопочите. Как здоровье [Кот]очки[95]? Посылаю 3 шт[уки] белья. Береги здоровье, меньше нервничай. Как с облигациями, мебелью? Передачу получил. Пришли ниток черных. Пиши чаще. Целую крепко. Аркадзь

Что со службой? Какие мои письма получила?

21-XII-930

*ЛММБ КП-11099.*

## № 63

*Даверанасць Аркадзя Смоліча на імя Алесі Смоліч.*
*22 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

У камісію садзейнічання пазыцы пры мясцкоме БДУ
ад А. А. Смоліча.

З прычыны таго, што я ўжо чатыры месяцы не атрымліваю пенсіі, прашу дазволу на продаж маіх аблігацый на 100 руб[лёў], набытых мною пры БДУ.

Дазвол, аблігацыі і грошы даручаю атрымаць маёй жонцы Аляксандры Ігнатаўне Смоліч.

А. Смоліч

22 снежня 1930 г.

Уласнаручнасць подпісу А. А. Смоліча сцвярджаю:[96]

Подпись арестованного А. Смолича свидетельствую.

Сотр. ГПУ [*подпіс*]

27/XII 30 г.[97]

*ЛММБ КП-11147.*

## № 64

*Даверанасць Аркадзя Смоліча на імя Алесі Смоліч.*
*22 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

У Камісію садзейнічання пазыцы
пры мясцкоме Беларускай Акадэміі Навук
ад А. А. Смоліча.

Ужо чатыры месяцы, як я без працы і не атрымліваю пенсіі. Мая даволі вялікая сям'я з 3мя малымі дзецьмі пражыла ўсе запасы і залезла ў даўгі. Тым часам я маю нязначную суму аблігацый усіх пазык, бо падпісваўся звычайна на 1½-месячную пенсію. Прашу Камісію, прыняўшы пад увагу мае выключныя абставіны, дазволіць мне прадаць на 300 руб[лёў] аблігацый.

Дазвол і грошы даручаю атрымаць маёй жонцы Аляксандры Ігнатаўне Смоліч.

Аркадзь Смоліч

22 снежня 1930 г.

---

95 Пачатак слова зацёрты.

96 Далей іншым чарнілам і іншым почыркам па дыяганалі.

97 Подпіс супрацоўніка ДПУ замацаваны пячаткай: «Государственное Политическое Управление при Совнаркоме Бел. — Комендант».

Уласнаручны подпіс А. А. Смоліча сведчу:[98]
Сотруд. ГПУ [*подпіс*][99]

*ЛММБ КП-11148.*

**№ 65**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам.*
*25 снежня 1930 года. Менск, турма ДПУ.*

Ар С-чу[100]

Мілыя мае, дарагія! Сягодні атрымаў вашыя лісты і быў надзвычайна ўсцешаны, і іх зместам і настроем бадзёрым і цвярозым. Асабліва харошы ліст Котчын — яна ўжо піша саўсім як дарослая, не пазнаць, што дзіця; добра, што яна ў працы памагае, што расце. Сімка піша горш і з памылкамі, але таксама на яго век — не блага. Усё ж яму б трэба больш падвучвацца, чытаць. І падлячыць яго не шкодзіла б; выглядае ён няважна, а цяпер жа ў яго самы рост; каб не развілася анемія. У атрад хай хадзіць не кідае, хай у майстэрні працуе і наогул хай будзе добрым хлапцом, бо ён жа такі і старэйшы, павінен быць прыкладам для ўсіх. Да якога заводу прыпісана іхняя школа? І ўрэшце Масенька, якая сама нічога не піша, але аб якой усе пішуць і, відаць, яе вельмі любяць. Ці паправілася яна саўсім? Ці бывае на паветры — цяпер жа добра на дварэ. — Вельмі мяне непакоіць вашае матар'яльнае становішча. Калі ўжо цяпер вы паспелі залезці ў доўг, дык што ж далей будзе! Трэба неяк даваць сабе рады; хай бы можа дзед папрабаваў сабе якую працу знайсці — праз газеты цяпер жа ўвесь час вызываюць[101] рахунковых працаўнікоў. А тым часам жывіце на аблігацыі, трэба канечне дабіцца, каб іх дазволілі прадаць ці залажыць. Я пасылаю з гэтым заявы і ў БАН і ў БДУ, ты пагавары там асабіста. Хоць гэта месяц які не адмаўляйце сабе ў патрэбным, бо і так, пэўне ж, цяжка яго пражыць. Як з тваёй службай? Калі прыдзецца мяняць — выбірай працу, якую добра можаш рабіць, каб табою былі здаволены і каб ты сабе праз яе нервы не псавала. Нядобра, Шурачка, што ты зрываешся з вучобы. Ты так да яе імкнулася ўвесь час, і мне будзе вельмі непрыемна, што праз мяне і мае справы ты яшчэ раз атыйдзеш ад навукі. Я думаю, ведаеш, ты цяпер здай хоць некалькі залікаў і падрыхтуйся да практычных заняткаў, а з рэштай залікаў можа пачакаюць трохі. Як тваё здароўе цяпер? Неяк ты вельмі змізарнела з твару. Беражы здароўе, Шурачка, бо цяпер яно асабліва патрэбна для цябе, старайся менш нервавацца, больш бывай на людзях. Ці бачыла ты «1-ую конную»? Схадзі і мне напішы — усё роўна будзе, як бы і я там быў. — Ці здала ты рахункі? Авансавы рахунак на 100 руб. тым часам не здавай, бо ён можа і аплочаны. З маім авансам справа такая. На I/XI 929 можа і было на мне 538 р. авансу, але я пасля таго здаў справаздачу на гэтую прыблізна суму (яе ад мяне прыняў пам[очнік] бухгалтара; Нупрыеў, ці што, не помню добра фаміліі[102]). Яшчэ я яго прасіў, каб яны дзе гэтае справаздачы не закінулі; даваў яе я раней і т. Маргелаву на прагляд — пасля гэтага я ізноў атрымаў 500 р. авансу, якія толькі на мне і павінны лічыцца — можа яшчэ якіх дзесяткі два рублёў астачы. Калі яны не дойдуць ладу па сваіх[103] кнігах — падай ім заяву з маіх слоў. Таксама павінны прыняць да аплаты і рахунак на 30 руб. Гэта я заплаціў

[98] Далей іншым чарнілам і іншым почыркам.

[99] Подпіс супрацоўніка ДПУ замацаваны пячаткай: «Государственное Политическое Управление при Совнаркоме Бел. — Комендант».

[100] Пазнака ў пачатку ліста зроблена іншым почыркам і іншым чарнілам.

[101] Няўпэўненае прачытанне.

[102] Словы «Нупрыеў, ці што, не помню добра фаміліі» ўпісаны паміж радкамі.

[103] Пасля гэтага слова, унізе аркуша, прыпіска: «З тых рахункаў, аб якіх ты пытаеш, можна здаць толькі рахунак на 28 р. ад 21/IX-929 дый на 30 р. ад 7/XII-929».

за друк 2ˣ каляровых картаграм у літаграфіі БДВ[104]. Картаграмы гэтыя ўклееены пасля былі ў маю кнігу (Раёны), якая друкавалася у друкарні БАН. Таму і асобны рахунак. Картаграмы гэтыя ты ім пакажы. Падганяй і з ганарарам, пагавары з дырэктарам, бо ад бухгалтара толку не даб'ешся.

Я здароў саўсім, раматуз ад лета не адзываўся. Жыву наогул па-даўнейшаму, харчуюся добра, пэўне лепш за вас; таму ты менш прысылай усякай яды;[105] мяса, масла, булак не трэба саўсім. — Чытаю гэты час больш палітычную літаратуру, газеты, а ўвечары найбольш нямецкую кнігу па арганізацыі гаспадаркі, дый ангельскую мову вывучаў, пакуль не скончыў падручніка. Цяпер ізноў вазьмуся.

Вельмі хочацца часцей з вамі ўсімі гаварыць, мае родныя, хоць і праз ліст. Каб вы ведалі, якое гэта для мяне свята — пісалі б часцей. Калі часу няма — хоць кароценькую вестку праз паштоўку. Крэпка цалую цябе, дзетак, старых. Аркадзь

25-XII-930

*ЛММБ КП-11100.*

**№ 66**

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі, Максіму і Ганне Смолічам.*
*1 студзеня 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Ар. С-чу[106]

Мілыя мае, дарагія!

Вітаю з Новым Годам! Каб быў ён толькі ласкавейшы для вас, чым стары! Але што старога ганіць; праводзячы яго, я шмат больш цвяроза гляджу на свет: бяда розуму вучыць. Не смуткуйце ж і вы, не трацьце бадзёрасці — лягчэй будзе перацярпець.

Шмат залежыць і ад вас, мае дзеткі; хацеўшы, вы можаце шмат дапамагчы маме і ўсім разагнаць смутак, зрабіць хоць якую работу. Будзьце добрымі дзецьмі, каб у новым годзе на вас ніхто не скардзіўся, а ўсе хвалілі. Вы ж бо ўжо разумныя дзеці, арганізаваныя, яшчэ трохі — і саўсім вялікія будзеце.

Аб сабе мала маю што напісаць. Змен асаблівых у мяне няма. Здароў, чую сябе добра, у камеры цёпла — ты аб гэтым не турбуйся, Шурачка, і нічога цёплага больш не шлі мне. Каб прынялі, добра было б мне атрымаць крыху большую падушку (але не вялікую).

Увесь гэты час быў заняты, пісаў, чытаў мала, толькі газеты. Прашу дазволу на настольную лямпу. Трэба будзе добра наладзіць лямпу, што з дзераўлянай падстаўкай, і знайсці гняздо для штэпселя, што ўкручваецца (яно здаецца было ў кухні). Як будзе дазвол — паведамлю.

Нічога не ведаю, што ў вас робіцца, і трывожуся. Як з тваёй службай, Шурачка? Ці ўсталявалася ты дзе ці не? Выясняй хутчэй з аблігацыямі. Калі не дадуць дазволу — трэба скардзіцца, бо на якія ж вы сродкі будзеце жыць? Не ведаю, нават, ці здаровы вы ўсе, ці паправілася Масенька, як твае самапачуццё, Шурачка? Чытаў сягодні абвестку аб вашым педфаку. Я думаю, што ўзяўшы сябе ў рукі, ты яшчэ зможаш падрыхтавацца да гэтае сэсіі. Як маюцца і што робяць старыя? Пішыце мне ўсе часцей — хоць коратка. Цалую крэпка-крэпка. Аркадзь.

Лісты адрасуйце на тав[арыша] Сікорскага (комн[ата] 48) — будуць акуратна даходзіць.

1-I-931

*ЛММБ КП-11101.*

---

[104] Тут і далей падкрэсліванне ў дакуменце.
[105] Далей закрэслена: «і то».
[106] Заўвага прыпісана ўверсе ліста іншым почыркам і іншымі чарніламі.

## № 67

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*7 студзеня 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я здоров, чувствую себя хорошо, занимаюсь английским, читаю Ленина. Прошу свиданья. Посылаю 5 шт[ук] белья и 2 верхних рубахи. Почему не пишешь, сержусь. Тем более, что болела. Береги здоровье, не выходи зря. Пришли синих кусков, бумаги клетчатой. Передачу получил. Крепко целую тебя, Неточку[107], всех детей и стариков. Аркадзь

7-I-931

Газет столичных не выписывай.

Носков нет. Посылаю назад миску[108].

*ЛММБ КП-11102.*

## № 68

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 10 студзеня 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Мілая Шурачка! Ад цябе лісту ўсё няма, не ведаю, ці ты не пішаш, ці не даходзяць. Трывожыць мяне гэтае маўчанне, тым больш, што ты хварэла, невядома як дзеці. Ці паправілася ты сама саўсім і як перанесла хваробу? Хто лечыць вас цяпер? Трэба, каб пільнавалася цяпер сама, і дзяцей трэба глядзець, каб са школы якой хваробы не прынеслі; дый хоць у часе хваробы — часцей мяне паведамляць. — Ці ходзіш ты ўжо на працу, што цяпер робіш і ў якім аддзеле, якія ўмовы працы, ці таксама нагружана, як і даўней, ці даеш сабе рады і наогул, які твой настрой?

Мае навіны з большага тыя самыя. Здароў саўсім, чую сябе няблага, настрой — як калі. Шкода часу, што марнуецца, асабліва ведаючы, як вам цяжка жывецца. Можа б ты яшчэ дзе перакладаў якіх спытала — для мяне ці для сябе. Тым часам чытаю даволі многа, займаюся ангельскай мовай і з поспехам. Як гэтыя 3 кніжкі скончу — думаю, што змагу чытаць з слоўнікам і навуковы тэкст. Ты пашукай, у нас павінна быць ангельская кніга: Davis — Principles ці Geography ці штось у гэтым родзе, яна ў чырвонай аправе — і прышлі мне. Добра было б і слоўнік ангельскі дзе дастаць да часу. Калі купляць, дык толькі новы слоўнік — выданне «Большой Сов[етской] Энциклопедии», але тым часам не купляй, не варта траціцца. Тым часам не купляй і далейшага выпуска гэтага падручніка. Ён так нішто, але задораг, дый ёсць цяпер меншыя і дзяшовыя. — Як жа твае заняткі, можа за гэты час крануліся трохі? Як вучацца і паводзяць сябе дзеці? Калі табе няма часу — хай бы яны самастойна пісалі да мяне. Як маюцца старыя, ці саўсім выздаравеў дзед і што ён робіць? Ці дасталі дазвол на аблігацыі, як з ганарарам, рахункамі і наогул з вашымі матар'яльнымі справамі? У маім бумажніку павінны быць якія авансавыя рахункі — помню быў р[ахуна]к ад Азбукіна на 100 руб[лёў] — яго можна б здаць у НДІ, хай бы яны з яго і сысківовалі[109]. Можа і яшчэ ёсць. — Што чуваць аб маім артыкуле апошнім?

Прышлі мне т. 17 Леніна (калі ёсць дома), брашуру «Інстытут беларускай культуры» выд[анне] 1926 г. (з малюнкамі) і брашуру «Сельское хозяйство БССР и пути его восстановления» (у зялёнай вокладцы)[110] выданне 1925 г. і II і III том «Капітала». Таксама мне трэба яшчэ трохі паперы ў клетку.

---

[107] Магчыма, трэба чытаць «Коточку».

[108] Дата і два ніжнія радкі прыпісаныя Аркадзем Смолічам іншай асадкай і больш дробным почыркам.

[109] Так у дакуменце.

[110] Далей закрэслена: «таксама з».

Аб харчох для мяне — турбуйся менш, не трэба прысылаць мяса — нам жа даюць. — Наогул менш турбуйся. Цалую крэпка ўсіх вас. Аркадзь

10-I-931

*ЛММБ КП-11103.*

## № 69

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*14 студзеня 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогие! Посылаю белья 3 шт[уки] и возвращаю 3 библиотечных журнала. Письмо послал 10-I. Как с облигациями? Я здоров, настроение хорошее. Как ты? Если не совсем поправилась, не выходи сама, береги здоровье. Пришли наволочку полотняную, подвязки мои, булавок простых и двойных, бумаги. Пиши чаще открытки. Хочу увидеться, просил свиданья. Передачу получил полностью. Деньги еще не приходили. Крепко целую всех. Аркадзь.

14-I-931

Мяса не присылай, лучше капусту или что-либо в этом роде.

*ЛММБ КП-11104.*

## № 70

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*21 студзеня 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я вполне здоров, настроение рабочее — много читаю, перевожу; остальное без перемен. Белья посылаю 6 штук, обратно простыню, у меня их несколько. Пришли карандашей мягких 4 шт[уки], книгу: Дэвис «Географія», газеты Звезда от 5/I и Сов[етская] Белорусь № 293, а также мою статью — там есть ошибки, хочу исправить. Передачу получил, кроме подушки; пришли мелочи с передачей. Как твоя служба, настроение? Почему не пишете по почте, пусть дети напишут. Хотелось бы увидеться. Целую всех крепко.

Аркадзь 21-I-931

*ЛММБ КП-11105.*

## № 71

*Ліст Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 10 лютага 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Мілая Шурачка! Якраз у нядзелю атрымаў твае 2 адкрыткі (ад 1 і 3 г. м., а ліста ад 27-I[111] няма яшчэ), быў надзвычайна здаволены і думкамі ўвесь гэты Масеньчын дзень быў з вамі. Як яна яго правяла і як цяпер яна выглядае пасля хваробы? Можа праз хваробу яна і капрысная[112] стала, — трэба яе неяк падтрымаць. Ці маеце вы малако для дзяцей цяпер?

Быў я вельмі ўзрадаваны, як даведаўся аб тваім выздараўленні, але бачу, што ты ані не глядзіш сябе і, мусіць, нікога не слухаешся. Трэба, каб бабунька за табой з гэтага боку пілнавала, хоць да вясны, там ужо лягчэй будзе, а цяпер трэба глядзець за здароўем асабліва — і дзяцей, і тваім. Між іншым прышчапіце воспу малым — а можа і вялікім, мне тут прышчапілі. І цяпер яснымі днямі добра было б, каб Мася больш была на двары — гэтага маглі б дзеці дагледзіць.

---

[111] «Ад 27-I» ўпісана паміж радкамі.
[112] Так у дакуменце.

Добра таксама, што ты шмат чытаеш, гэта табе патрэбна нават і для паспяховасці тваёй працы службовай. Як табе падабаліся «раёны»? Прачытай і ранейшую маю кнігу (аб бюджэтах), асабліва агульныя раздзелы і канец. Як з тваім педфакам, пыталася ты аб адкладзе? Ад навукі ты, Шурачка, не адмаўляйся, пакуль вучыцца ёсць ахвота і якая-небудзь магчымасць. Гэта табе і нервы падмацуе, а то яны, відаць, моцна расхісталіся. Не трэба ім усё ж даваць волю, трэба сябе трымаць у руках, лягчэй будзе на свеце жыць. Можа табе патрэбны якія кнігі, што цяпер у мяне? Ці атрымала ты тыя 3 журналы, што я звяртаў? Калі б можна было як даставаць новыя журналы, было б вельмі добра. Не ведаю, ці далі б іх у бібліятэцы БАН, пагавары з імі[113] — а можа ў вашай бібліятэцы ёсць што. Мне пажадана б мець: «Petermanns Mitteilungen», «На аграрном фронте»,[114] «Социалист[ическая] реконструкция с[ельского] х[озяйства]», «Под знаменем марксизма». — Мае справы без змен. Увесь час гэты быў я здароў, адчуваю сябе наогул добра, многа працую — удзень чытаю нямецкую геаграфічную літаратуру, газеты, увечары — Маркса і канчаю ангельскай мовай. Так і ідуць дні, а працуючы, вядома, настрой добры, усё ж не дарма час ідзе. Трывожаць мяне часамі вашыя матар'яльныя справы. Аб іх трэба было б многа пагаварыць, але ўжо хіба на пабачэнні. Наогул жа табе тут відней, а не то парайся з кім практычнейшым. — Нічога мне і дзеці нешта не пішуць, а я ўжо даўна чакаю, дый шкода — яны ўмеюць іншы раз вельмі цікава і прыгожа напісаць. Як у іх справы з навукаю, ці добра глядзяць яны маму і Масю? — Не лянуйцеся, пішыце часцей хоць коратка — зробіце мне вялікую ўцеху. Сам я, бачыце, пішу рэгулярна. Крэпка, крэпка вас усіх цалую. Аркадзь.

Прышлі мне штандартных канвертаў. Правізіі прысылай менш.

10-II-931

*ЛММБ КП-11107.*

## № 72

*Паштоўка Алесі Смоліч Аркадзю Смолічу. 10–11 лютага 1931 года. Менск*[115].

10/II 31 г. — А. Смолічу[116]

Даражэнькі Аркадзь.

Я саўсім здарова, хаджу на работу, толькі зімна вельмі ў нас, прыходзіцца цёпла адзявацца. Аб ганарары яшчэ не гаварыла, не маю часу пайсці. Прыслалі мне многа аднаразовага падатку, 102 р., пайду у НКФ выясняць, скуль узялася такая сума. Дзе дастаць табе даклад Галад[зеда] і Гея на X з'ездзе, што ты просіш, запіскі ўсёй я не атрымала. Шукала ў кнігарнях — няма. Леніна XVII я табе, здаецца, ужо пасылала калісьці — не помню. Дзеці здаровы. Крэпка цалую. [*подпіс*]

11-II Сягоння ў мяне выхадны — буду займацца асабістымі справамі[117].

*ЛММБ КП-11106.*

## № 73

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч. 14 лютага 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Получил твои 2 открытки 8-II, письма — нет, сам послал 10-II. Я здоров, самочувствие хорошее, занимаюсь. Посылаю 5 шт[ук] белья, 1 миску. Как с твоим со-

---

[113] Словы «пагавары з імі» ўпісаны паміж радкамі.

[114] Далей закрэслена: «Пути сельхоз».

[115] Магчыма, паштоўка засталася неадпраўленай (на ёй няма паштовага штэмпеля). У адным з кутоў паштоўкі, на гербе СССР — тлустая пляма (магчымая прычына неадпраўкі?). Адрасавана: «ГПУ, Здесь, комн. № 48, следователю т. Сикорскому — А. Смоличу».

[116] Падкрэсліванне ў дакуменце.

[117] Апошні абзац прыпісаны збоку (па вертыкалі) дробным почыркам.

юзом, с облигациями? Пришли денег, журнал «Большевик Бел[оруссии]» № 10–12; книги пришли, если можешь достать. Просил свиданья. Передачу получил, кроме денег. Провизии присылай вдвое меньше. Жду ваших писем. Береги здоровье. Целую крепко. Аркадзь 14-II-931.

Пришли какую-либо английскую книгу научную, важнейшие газеты.

*ЛММБ КП-11108.*

**№ 74**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*21 лютага 1931 года. Менск, турма ГПУ.*

Дорогая! Посылаю смену белья, 2 простыни, полотенце, 2 чашки, миску. Я вполне здоров, настроение хорошее, налегаю на английский. Буду еще раз просить свиданья. О гонораре надо подать заявление, впрочем, тебе видней вообще. Пришли карандашей химических, перьев, бумаги, денег; хлеба, жару пока не посылай. Узнай, смогут ли починить мою ручку, сломался стержень внутри. Береги здоровье, это главное, лучше питайся, меньше работай, белья не мой. Почему не пишете? Крепко целую всех. Аркадзь.

21-II-931[118] Передачу получил. АС.

*ЛММБ КП-11109.*

**№ 75**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*1 сакавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Посылаю 3 шт[уки] белья, 2 простыни, 2 миски, кубок. Вполне здоров, занимаюсь мало. Свиданье обещали, потому и не писал. А вы пишите. Пришли ниток черных, карандашей химических, перьев, последний № «Большевика Бел[оруссии]», маленький англо-русский словарик Богданова (с произношением), денег. Передачу получил, газеты и книги тоже. Жду писем. Целую крепко тебя, детей, стариков. Аркадзь.

1-III-931

*ЛММБ КП-11110.*

**№ 76**

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*4 сакавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ*[119].

Дарагая Шурачка! Вельмі шкода, што гэты раз не ўдалося пабачыцца, — я быў заняты. Я саўсім здароў, адчуваю сябе добра. Чакаю ад вас падрабязнага ліста, бо не ведаю саўсім, што ў вас робіцца. Як тваё здароўе? — Беражы яго, менш нервуйся, працуй у меру, дый трэба было б параіцца з доктарам. Што чутно з ганарарам? Даведайся, можа Ліквідацыйная Камісія закрываецца, тады невядома з каго сысківаць. Ці прынялі да друку мой артыкул апошні? Як у цябе з грашмі? Добра было б, каб мне прыслала трохі.

Як маюцца мілыя дзеткі? Віншую Сімку з днём нараджэння. Аж не верыцца, што ён ужо такі вялікі. Крэпка яго цалую. Хай ён мне пра сябе і пра ўсіх напіша. Ці прышчапілі

[118] Далей прыпіска алоўкам.
[119] Штэмпель: «Минск — Менск. 10.3.31».

дзецям воспу — мне прышчапілі і добра прынялася. Як гадуецца Масенька? — Цал[у]ю крэпка ўсіх вас.

Аркадзь 4-ІІІ 931

У справе пабачэння пагавары з т[аварышам] Юдашкіным (комнат[а] 31) АС

Паведамі, які № службовага тэлефону[120].

*ЛММБ КП-11111.*

**№ 77**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*7 сакавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я вполне здоров. Посылаю 4 шт[уки] белья. Открытку отправил 5-го. Почему не пишешь? Как здоровье Дюньки[121], что говорит доктор? Как у тебя с союзом? Меньше работай, береги здоровье. Передачу получил. Целую крепко вас. Аркадзь.

7-ІІІ-931

*ЛММБ КП-11112.*

**№ 78**

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*10 сакавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ*[122].

Дарагая Шурачка! Я здароў, як і раней, патроху чытаю кнігі, якія ты мне прыслала, пішу. Клапоціць мяне тваё здароўе. Гэтак змізарнець за кароткі час — вельмі рызыкоўна. Ясна, што табе трэба неяк менш працаваць, лепш харчавацца. Безумоўна, на табе найцяжэй адбіваецца ўся бяда, гэта павінны разумець і дзеці, і ўсе хатнія. Трэба і самой табе гэтыя часы лепш глядзець свайго здароўя, галоўнае — менш нервавацца. Не забывайся, што ты мне абяцалася схадзіць да доктара безадкладна. Ці папраўілася бабунька і што з ёю такое? Як маюцца дзеці? Котачка зрабіла на мяне добрае ўражанне, яна мусіць шмат памагае ў хаце? Чакаю ліста ад дзяцей і ад цябе таксама ў самым хуткім часе. Крэпка цалую ўсіх.

Аркадзь. — 10-ІІІ-931

Ручку, мусіць, не аддавай у папраўку — ці варта траціцца. Новая то яна каштуе цяпер рублёў 40.

*ЛММБ КП-11113.*

**№ 79**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*14 сакавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

14-ХІІ-30[123]

Дорогая! Посылаю 6 шт[ук] белья, миску. Я по-прежнему здоров, занимаюсь. Писем от тебя не получал, пишите. Рад, что Доня поправляется, нужно ее все же подлечивать. Как здоровье Коточки? Если свиданья не получишь, поговори с начальством. Жду

120 Апошнія два радкі прыпісаны чырвоным чарнілам.

121 Няўпэўненае прачытанне.

122 Без паштовага штэмпеля.

123 Дата ў пачатку дакумента прастаўлена алоўкам іншага колеру і іншым почыркам. Дата ўказана менавіта снежнем. Пазней лічба «ХІІ» закрэслена алоўкам, пад ёй пастаўлены пытальнік.

письма нетерпеливо. Целую крепко. Аркадзь. Передачу получил, газеты тоже, кроме «Звезды» за 7/III;[124]

14-III 930

*ЛММБ КП-11114.*

## № 80

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*21 сакавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я здоров по-прежнему, самочувствие хорошее. Посылаю 4 шт[уки] белья, 1 миску, 1 блюдце, 1 чашку, 4 книги. Писем не получал. Беспокоюсь о твоем здоровьи, меньше работай, не нервничай. Что с Доней? Ее, верно, простуживают в школе, поговори с Матвеевичем. Сапог еще не заказывай. Пришли зубного порошка, бумаги, перьев, газ[ету] Рабочий № 61. Целую крепко, немедленно напиши о результатах просвечивания. Аркадзь.

21-III 931

*ЛММБ КП-11115.*

## № 81

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*Канец сакавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ*[125]*.*

Дорогая! Я вполне здоров, чувствую себя хорошо, много читаю и занимаюсь.[126] Открытку твою получил вчера, большое спасибо. Очень прошу тебя беречь здоровье, меньше беспокоиться. Передачу получил всю. Как здоровье твое и Коточки? Немедленно пиши или Котка пусть напишет. Проси свиданья. Открытку послал 23-III. Целую крепко. Аркадзь

Жду письма. Посылаю чашку и миску.

*ЛММБ КП-11116.*

## № 82

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*7 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я вполне здоров, самочувствие хорошее, много читаю. Посылаю 8 шт[ук] белья, 1 кружку, 1 миску, возвращаю журнал, пришли еще. Открытку послал тебе 1-IV. Почему не пишешь? Как здоровье Коточки? Когда выяснится с курортом? Как твой кашель, прошел ли?

Передачу получил, пришли немного сала. Жду письма. Почему в Союз не приняли? Кого вселили в квартиру? Свиданья проси еще. Целую крепко. Береги здоровье. Аркадзь.

7/IV 931 Пришли очки.

*ЛММБ КП-11117.*

---

[124] Дакумент заканчваецца не кропкай, а менавіта кропкай з коскай. Верагодна, Аркадзю Смолічу не далі скончыць думку.

[125] На адваротным баку аркуша пазнака: «№ 17-99».

[126] Далей закрэслена: «Посылаю 5 шт[ук] белья».

## № 83

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*10 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ*[127].

Дорогая Шурочка! Я вполне здоров, живу по-прежнему. Относительно обуви для меня ты не беспокойся; если есть талон — используй для себя, а мне пока почини старые ботинки. Получила ли ты 4 книги и 1 журнал, которые я возвращал с передачей? Сообщай каждый раз о получении, чтобы не затерялись книги. Почему опять долго не пишешь? Как с квартирой, надолго ли уплотнили и кто поселился? Кажется, был закон об уплотнении только на короткий срок, на месяц что ли. Как поживают дети? Не могу поверить, что на них жалуются учителя. Пусть они сами мне напишут. Как здоровье Коточки? Очень боюсь, Шурочка, чтобы все эти неприятности не отразились на твоем здоровьи — ты должна быть теперь к нему особенно внимательна, очень тебя прошу об этом. Прошел ли твой кашель и много ли приходится работать? Где решался вопрос о профсоюзе, как у вас теперь с коопкнижкой?

В передаче мяса не присылай, остального хватит. Пришли, если достанешь, что-нибудь из английских книг по географии или сельскому хозяйству. И пиши почаще хоть коротко. Крепко целую всех вас. Аркадзь.

10-IV-931

*ЛММБ КП-11118.*

## № 84

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*14 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я вполне здоров, много занимаюсь. Послал тебе открытку 10-IV. Посылаю 2 шт[уки] белья, пришли чистое, у меня уже нет запаса. Получила ли книги и журнал? Как себя ведут дети и как здоровье? Где тебя проводили в профсоюз? Свидания проси ты сама. Пришли очки, сапог пока не заказывай. Передачу получил, присылай меньше, а мяса, масла совсем не надо. Почему не пишете? Была ли Неточка[128] у доктора? Крепко целую всех вас.

Аркадзь

14-IV-931

*ЛММБ КП-11119.*

## № 85

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*21 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Посылаю зимнее пальто, ботинки, брюки, теплую шапку, 1 пару теплого белья, 2 пары теплых чулок, 2 верхних рубахи, 16 книг в наволочке (со списком). Я совсем здоров, чувствую себя хорошо. Просил свиданья, справься у т[оварища] Сикорского. Почему не пишешь? Беспокоюсь о твоем здоровьи. Передачу получил всю. Пришли ниток. Крепко целую. Аркадзь.

21-IV-931.

Отсылаю 2 миски.

*ЛММБ КП-11120.*

---

[127] Без штэмпеля. Адрасавана: «Тут, Старажоўская вул., д. № 11, Аляксандры Ігнатаўне Смоліч ад А. А. Смоліча».

[128] Магчыма, трэба чытаць «Коточка».

**№ 86**

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*21 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ*[129].

Возврат[130] книг
Александре Игнатьевне Смолич
Минск, Сторожевская, д. № 11

От арестованного
А. А. Смолича.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Попов. История ВКП. | 1 |
| 2. | Гордеев. Основные проблемы сх. экономии | 1 |
| 3. | Ленин. т. XVIII кн 1 и 2 | 2 |
| 4. | Aereboe. Allgemeine landwirtschaft. Betriebslehre | 1 |
| 5. | Смоліч. Разьмяшчэньне насельніцтва | 1 |
| 6. | Смоліч. Сельскагасп. раёны | 1 |
| 7. | Лященко. Социальная экономия сельск. хоз. | 1 |
| 8. | Лаур. Экономия сельского хозяйства | 1 |
| 9. | Словарь русско-английский | 1 |
| 10. | Словарь русско-немецкий | 1 |
| 11. | Бондарь. Аграрная рэвалюцыя | 1 |
| 12. | К. Маркс. Капитал т. I, II, III ч. 1, III ч. 2. | 4 |
| | всего | 16 книг |

Шестнадцать книг
А. Смолич

*ЛММБ КП-11123/1.*

**№ 87**

*Цыдулка Алесі Смоліч Аркадзю Смолічу.*
*24 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Смолічу[131] Аркадзю Антонавічу

Передаю: 4 рубахі, 3 кальсон, 1 прасціну, 1 пад'адзяяльнік, 2 ручнікі, 4 шкарпэтак, 2 хуст[кі], салфетачку, 3 каўнерыкі і гальштук, касцюм чорны, паліто асенняе, сала, цукер, рыж, сухары белыя, 2 кар[обкі] кансерваў, мыла 3 кав[алкі], міску, кубак, лыжку, чайнік, 2 блок-нота, 20 адкр[ытак], 5 марак, канверты і паперу[132], ніткі, іголкі, рэмні. Крэпка цалую.

Шура

24/IV 31 г.

НЯМА[133].

*ЛММБ КП-11121.*

---

[129] Датавана іншым почыркам і іншым чарнілам на асобным аркушыку, прыклееным да цыдулкі: «Май 1931 г. Менск». Намі дакумент датуецца 21 красавіка па змесце паштовак ад 3 і 10 траўня 1931 года.

[130] Тут і далей падкрэсліванне ў дакуменце.

[131] Падкрэсліванне ў дакуменце.

[132] Далей іншымі чарнілamі.

[133] Слова дапісана ўнізе аркуша справа зялёным алоўкам вялікімі друкаванымі літарамі. На адваротным баку алоўкам дапісаны яшчэ адзін абзац, не звязаны з папярэднім тэкстам (магчыма, чарнавік ліста). Першы радок заклеены пры пераплёце, прачытаць можна толькі з другога радка: «Праца канцалярыі Галоўлена ідзе саўсім нездавальняюча. Паперкі безпрызорныя валяюцца па сталах, напр[ыклад], у выхадны дзень працаўніка. Сакратарыят складаецца з новых працаўнікоў, якія

## № 88

*Цыдулка Алесі Смоліч Аркадзю Смолічу.*
*28 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Смолічу Аркадзію Антонавічу

Перадаю: 4 рубахі, 3 кальсон, 1 прасцін[у], 1 пад'адзяяльнік, 2 ручнікі, 4 шкарпэтак, 2 хусткі, салфетачку, 3 каўнер[ыкі] і гальштук, касцюм чорны, паліто асенняе, сала, цукер, гарбата, сухары белыя, 2 кар[обкі] кансерваў, мыла 3 кав[алкі], міску, кубак, лыжку, чайнік, 2 блок-нота, 2 адкрытак, 5 марак, канвэрты, паперу, ніткі, іголкі, рэмні, міногі, падушку[134].

28/IV Крэпка цалую

Шура

31 год[135]

*ЛММБ КП-11122.*

## № 89

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*29 красавіка 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Посылаю 16 шт[ук] белья, 8 книг, калоши. Я вполне здоров. Улучшилось ли здоровье Дони, оно меня немного беспокоит. Надо сходить к доктору. Береги и ты свое здоровье и бодрость духа. Как с платой за квартиру, может не стоит спешить? Передачу всю получил, пришли завтра субботний № Звезды, сухарей не надо. Крепко целую всех вас. Аркадзь. 29-IV-931. Миску возвращаю.

*ЛММБ КП-11123.*

## № 90

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*3 траўня 1931 года. Менск, турма ДПУ*[136].

Мілыя мае! Шмат чаго не паспелася сказаць у часе пабачэння, хоць можа з маіх парад цяпер карысці мала. Усё думаю, як вы выйдзеце з матар'яльных труднасцей. Можа, можна залажыць аблігацыі, а як не — дык прыдзецца прадаваць далей рэчы, маю адзежу і кнігі. Толькі не зразайце свайго і так мізэрнага пражытачнага бюджэту. Трэба ўсё зрабіць, каб захаваць тваё, Шурачка, здароўе і працаздольнасьць. Больш увагі звяртай на сябе, не кідай вучыцца. Адносна Доні пагавары з доктарам, мусіць прыдзецца ёй тым часам адмовіцца ад вучэння. Як цяпер вучацца дзеці? Ці атрымала ты ўжо даверанасць? Ці перадалі табе кнігі, што я пасылаў 21 і 29га — кожны раз з спісам. Правізіі ты мне не прысылай, баюся, што і гэта сапсуецца. Маё здароўе па-даўнейшаму і навін у мяне ніякіх няма. Няхай дзеці мне напішуць, як яны святкавалі першы май. Пішы і ты часцей. Цалую крэпка ўсіх вас. Аркадзь.

3-V-931

*ЛММБ КП-11124.*

---

халатна адносяцца да работы; прыходзе пошта найчасцей нераспячатаная, а калі і распячатаная, то толькі што без канверта перадаецца "на даклад". Зачастую губляюцца паперкі, на даклад паступае прэправадзілаўка, а якой-небудзь важнай паперкі няма. Чакаючыя закінуты, і даўно адказ на іх прышоў, а ляжаць яны ў чакаючых».

[134] Апошняе слова дапісана алоўкам.

[135] Год прыпісаны ўнізе зялёным алоўкам. На адваротным баку аркуша алоўкам дапісаны наступны тэкст: «Ці скончана следства // Якое рашэнне // Куды падаваць аб памілав[анні] // Якія матывы, // Якім парадкам вы-//сылалі?».

[136] Без паштовага штэмпеля.

## № 91

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*10 траўня 1931 года. Менск, турма ДПУ*[137].

Даражэнькая! Ты не паведаміла, ці атрымала рэчы, што я адсылаў (паліто, бацінкі, калёшы і г. д.) і кнігі. Першы раз пасылаў 16 кніг, другі раз 8, абодва разы са спіскам. Наогул ты мне не пішаш, і я не ведаю, што ў вас робіцца, ці здаровы хаця вы. Як дзеці жывуць і вучацца? Цяпер такое слаўнае надвор'е, трэба, каб вы яго выкарысталі. Ці многа Масенька бывае на паветры? Я саўсім здароў, адчуваю сябе добра, стараюся займацца, але не вельмі ўдаецца. Навін у мяне ніякіх няма. Аб дамовых справах трэба было б яшчэ з табой пагаварыць.

Пішы. Цалую крэпка. Аркадзь.

10-V-931

*ЛММБ КП-11125.*

## № 92

*Цыдулка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*14 траўня 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Дорогая! Я здоров, живу по-прежнему, занимаюсь, новостей никаких. Посылаю 11 шт[ук] белья, не смешивай его со своим. Как твое настроение? Сохраняй бодрость и энергию, береги здоровье. Заплатила ли за квартиру? Как со службой? Как здоровье стариков, слушаются ли их дети? Чем заболела Лиза? Почему ничего не пишете? Буду просить свидания. Мяса не присылай. Передачу получил всю. Крепко целую всех вас. Аркадзь.

14-V-931.

*ЛММБ КП-11126.*

## № 93

*Цыдулка Яўгена Аляксеева і Аркадзя Смоліча С. Аляксеевай і Алесі Смоліч*[138].
*21 траўня 1931 года. Менск, турма ДПУ.*

Мои дорогие! Передачу получил и благодарю. *Вполне здоров, настроение хорошее. Возвращаю миски*[139], чашку и две бутылки и еще раз благодарю. О белье не беспокойтесь; [в] случае надобности сам выстираю. При случае пришлите сала, черных сухарей. Денег у меня 40 руб; можно пока не посылать. Будьте здоровы, бодры, спокойны и терпеливы. Крепко всех целую. Письмо — *Открытку отправил 20-V. Целую* еще раз[140]. Ваш Евгений.

Грязное белье [в] случае возможности пошлю [в] следующий раз.

21/V-31 г. Скучаю о Ваших письмах.

*ЛММБ КП-11127.*

---

[137] Без паштовага штэмпеля.

[138] На адваротным баку адрасавана: «С. П. Алексеевой от Е. К. Алексеева». На пераплёце прыпісана іншым чарнілам і іншай рукой: «супольная запіска А. А-ча з Аляксеевым».

[139] Напісанае рукой Смоліча ў арыгінале дакумента абведзена сінім алоўкам, у публікацыі вылучана курсівам.

[140] Далей закрэслена: «целую».

**№ 94**

*Цыдулка Аляксандры Трампові Аркадзю Смолічу*[141]*. Канец траўня — пачатак чэрвеня 1931 года. Масква, Бутырская турма.*

Смолич Аркад[ий] Антонович
Масло
сыр 400 гр.
ветчина
колбаса 300 гр.
простыня
кальсоны
рубаха нижняя
рубаха верхняя
наволочки 2
полотенце
пара носков
платок носовой
конфекты 350 грам
лук и чеснок[142]

Тремпович[143]

Передачу получил.[144]
А. Смолич

*ЛММБ КП-11129.*

**№ 95**

*Цыдулка Аляксандры Трампові Аркадзю Смолічу. Канец траўня — пачатак чэрвеня 1931 года. Масква, Бутырская турма.*

Смолич Аркадий Антонович.
1) Ветчина 500 гр.
2) Масло 300 гр.
3) Полендвица 400 гр.
4) Сухой сыр 1
5) Сухие яблоки
6) Сахар 800 гр.
7) Сухари
8) Брюки
9) Фуражка

Адрес — Москва Мертвый п. 20 кв. 7
А Тремпович[145]

Получил сполна. Спасибо.[146]
А. Смолич

*ЛММБ КП-11130.*

---

[141] Да цыдулкі прыкладзена нататка Алесі Смоліч: «Бутыркі, Масква, май, чэрвень 1938 г. (памылка, мова вядзецца пра 1931 год. — *Рэд.*). Калі жонкі ў Менску даведаліся, што нашых мужоў перавезлі ў Маскву, мы даручылі Аляксандры Іванаўне Трамповіч (яна была бяздзетная) ехаць у Маскву і рабіць там перадачы. Сабралі грошай ёй на дарогу і на іншыя выдаткі. 2 запіскі з перадачай Смолічу ад Ал-ры Іванаўны».
[142] Далей 2 радкі вымараны іншым чарнілам (турэмшчыкам?).
[143] Далей алоўкам і іншым почыркам.
[144] Далей 2 радкі вымараны іншым алоўкам (турэмшчыкам?).
[145] Далей прыведзены тэкст, напісаны на адваротным баку алоўкам.
[146] Далей 2 радкі вымараны чарнілам (турэмшчыкам?).

## № 96

*Паштоўка Аркадзя Смоліча Алесі Смоліч.*
*1 чэрвеня 1931 года. Масква, Бутырская турма*[147].

1-VI-931

Дорогая Шурочка! Я все еще в Москве, и писать мне надо по адресу: Москва, Бутырский изолятор ОГПУ, мне. Живется мне так же, как и в Минске, питаюсь лучше, покупаю в лавочке булки. Перевод — 10 рублей и продукты получил, больше не присылай, не стоит тратиться. Я вполне здоров, занимаюсь английским. Когда объявят приговор, немедленно напишу. О вас уже три недели никаких известий. Напиши открытку, только поскорее. Забери в Минском ОГПУ книги, которые ты мне передавала последний раз, я их не успел получить, а также мелкие вещи, оставшиеся в комендатуре и все материалы, которые обещал возвратить следователь. Крепко целую. А. Смолич.

*ЛММБ КП-11128.*

## № 97

*Атэстат на прадукты Аркадзя Смоліча пры этапаванні яго*
*з Бутырскай турмы АДПУ ў Свярдлоўск. 11 чэрвеня 1931 года. Масква*[148].

Аттестат № *1248*

Дан заключенным Бутырской тюрьмы ОГПУ в числе *1* чел. отправленным *Свердловск* в том, что они удовлетворены продуктами за время следования с *12/VI* по *15/VI* вкл. в следующем количестве Хлеба ржаного *2* кил. *050* гр. Рыбы, сельдей *682,5* гр. Сахара песка *67,5* гр. и Чаю *7,5* гр.

*11 Июня* 193*1* года.
Заведующий Довольствием [*подпіс*]
Счетовод [*подпіс*]

*ЛММБ КП-11149.*

### Каментары

№ 1

*ЭКО ГПУ Бел.* — эканамічны аддзел Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення Беларусі.

№ 2

*Максім* — сын Алесі і Аркадзя Смолічаў. У далейшым таксама згадваецца як Сімка, Макс.

№ 3

*Масенька* — малодшая дачка Смолічаў Марыя. У далейшым таксама згадваецца як Муся.

№ 5

*Цалую […] бабу* — Ганна Восіпаўна Каткоўская, маці Алесі Смоліч.

№ 6

*Мясцовую газету* — верагодна, маецца на ўвазе «Звязда» або «Савецкая Беларусь».

№ 7

*Юдашкин* — адзін са следчых па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Верагодна, Юдашкін Маісей Хацкелевіч (1904, в. Алешня Гараднянскага ўезда Чарнігаўскай губерні — 1957, Ленінград), член УсеКП(б) з 1919 да 1938 года, супрацоўнік органаў УНК — АДПУ — НКУС з 1921 да 1939 года.

*Выдавецтва* — Беларускае дзяржаўнае выдавецтва.

---

[147] Штэмпель: «Москва. Казанский вокзал. 9.6.31». Адрасавана: «Минск, БССР, Сторожевская ул. № 11, Александре Игнатьевне Смолич от заключ. А. А. Смолича».

[148] Дакумент на бланку. Курсівам вылучана ўпісанае ад рукі.

*Некрашэвіч* — верагодна, маецца на ўвазе мовазнавец і грамадскі дзеяч Сцяпан Некрашэвіч (1883–1937), з 1927 да 1931 год — член Цэнтральнай выканаўчай камісіі БССР, з 1928 — віцэ-прэзідэнт Беларускай акадэміі навук і старшыня Галоўнавукі пры Народным камісарыяце асветы, адначасова з 1929 — дырэктар Інстытута мовазнаўства БАН. Арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» 21 ліпеня 1930 года.

*Котка* — старэйшая дачка Смолічаў Ганна.

*Гарашчэня* — хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе бухгалтар Беларускай акадэміі навук Іван Якаўлевіч Гарашчэня (1890–1938). Працаваў у Інстытуце беларускай культуры (пазней ператвораным у Акадэмію навук) з 1924 года. Арыштаваны 11 снежня 1937 года; на той момант займаў пасаду начальніка фінансавага аддзела БАН. Расстраляны.

*Як будзеш у Акадэміі, спытай, што робіцца ў маей катэдры* — А. Смоліч быў загадчыкам кафедры геаграфіі Беларускай акадэміі навук.

*На выстаўцы* — першая Усебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасці пачала сваю працу ў тыя дні ў Менску.

№ 11

*Атафан* — цынхафен, лекавы прэпарат, які садзейнічае пераходу мачавой кіслаты з тканак у кроў і вывядзенню яе ныркамі; узмацняе сакрэцыю жоўці і страўнікавага соку; аказвае аналгезуючае дзеянне. Прымяняюць унутр у пігулках для лячэння падагры.

№ 14

*M. Eckert Die Kartenwissenschaft* — праца Макса Экерта (Max Eckert) «Картаграфія» («Die Kartenwissenschaft») выйшла ў Берліне ў дзвюх частках (Teil 1, 1921; Teil 2, 1925).

*Лященко Социальная экономия сельского хозяйства т. II* — Лященко, Петр Иванович. Социальная экономия сельского хозяйства. Т. II. Система капиталистического сельского хозяйства в целом. Москва — Ленинград: Государственное издательство, 1930.

*Гордеев Сельскохоз[яйственная] экономия* — Гордеев, Григорий Степанович. Основные проблемы сельско-хозяйственной экономии. Т. I. Москва: Кооперативное издательство студенчества Сельско-хозяйственной академии имени Тимирязева «Новый агроном», 1929; 2-е испр. изд., 1930.

№ 15

*H. Wagner. Handbuch der Geographie* — маецца на ўвазе выданне: Wagner, Hermann. Lehrbuch der Geographie. Першапачаткова падручнік Германа Вагнера (1840–1929) быў перапрацаванай версіяй падручніка Германа Гутэ (Hermann Guthe, 1825–1874). Першае выданне, пазначанае як чацвёртае, было выдадзенае ў гановерскім выдавецтве «Hahn» у 1879 годзе. Кніга шмат разоў перавыдавалася, апошняе, дзясятае выданне выйшла ў 1920–1923 гадах.

№ 16

*Саюз* — маецца на ўвазе прафесійны саюз.

*Пенсію* — маецца на ўвазе заробак.

*У перспектыве думаю заняцца перакладамі некаторых твораў Маркса. Ты нагледзь дзе-небудзь «К критике политической экономии», і асабліва добра было б дастаць яе нямецкі арыгінал (Zur Kritik Der Politischen Oekonomie)* — праца Карла Маркса (Karl Marx) «Да крытыкі палітычнай эканоміі» («Zur Kritik der Politischen Ökonomie») была напісаная са жніўня 1858 да студзеня 1859 года і ўпершыню апублікаваная асобнай кнігай у Берліне ў 1859 годзе. Шматразова перавыдавалася; напрыклад, дзясятае выданне, укладзенае Карлам Каўцкім, выйшла ў Берліне ў 1924 годзе. Таксама шматразова выходзіла ў расійскім перакладзе, напрыклад: Маркс, Карл. К критике политической экономии: Перевод / Предисл. К. Каутского. Москва: Московский рабочий, 1922; Маркс, Карл. К критике политической экономии / Пер. И. Рубина. С вступ. статьей Д. Рязанова. Ленинград — Москва: Государственное издательство, 1930. У кнізе «Да крытыкі палітычнай эканоміі» К. Маркс прааналізаваў прыроду тавару і працы ва ўмовах таварнай вытворчасці, распрацаваў тэорыю вартасці, даследаваў пытанні паходжання, сутнасці і функцый грошай. Асаблівую вядомасць набыла прадмова да гэтай кнігі, у якой аўтар сцісла выклаў сваё

матэрыялістычнае разуменне гісторыі. Палажэнні, выказаныя К. Марксам у працы «Да крытыкі палітычнай эканоміі», атрымалі сваё развіццё ў ягоным «Капітале».

№ 19

*«Эк[ономическую] жизнь»* — штодзённая газета, «орган Народных комиссариатов СССР внешней и внутренней торговли, путей сообщения и финансов», выходзіла ў Маскве ў 1918–1937 гадах.

№ 22

*Артыкул я пісаў аб сваёй дазіметрычнай карце ў маскоўскую часопісь* — у канцы 1920-х гадоў А. Смоліч развіваў метадалогію стварэння дазіметрычных картаў (напрыклад, дазіметрычная карта шчыльнасці насельніцтва была прыкладзеная да яго артыкула 1929 года «Разьмяшчэньне насельніцтва па тэрыторыі Беларускае ССР», гл. заўвагі да дакумента № 23). У фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча захоўваецца артыкул Аркадзя Смоліча «К методологии областных карт населения» ў рукапісным (КП-11794) і машынапісным (КП-11797) варыянтах.

№ 23

*Маю кнігу С[ельска]-Г[аспадарчыя] Раёны БССР* — Смоліч А. Сельскагаспадарчыя раёны Беларускае Сав. Сац. Рэспублікі ў 1927–1928 гадох. Папярэдняя схема і мэтодолёгічныя ўвагі. Менск: Друкарня Беларускае Акадэміі Навук, 1929.

*Матар'ялы да геаграфіі і статыстыкі БССР — том II (з маёй картай) (або хоць асобна мой артыкул: Размяшчэнне насельніцтва...)* — Смоліч А. Разьмяшчэньне насельніцтва па тэрыторыі Беларускае ССР // Матар'ялы да географіі і статыстыкі Беларусі. Том другі / Беларуская Акадэмія Навук. Аддзел Прыроды і Народнай Гаспадаркі. Менск: Друкарня Бел. Акад. Навук, 1929. С. 1–36.

*Студенский. Организация крупного сельского хозяйства в Германии* — Студенский, Геннадий Александрович. Организация крупных сельско-хозяйственных предприятий в Германии. Москва: Кооперативное издательство студенчества Сельско-хозяйственной академии имени Тимирязева «Новый агроном», 1929.

*Aereboe. Allgemeine landwirt[schaftliche] Betriebslehre* — кніга Фрыдрыха Эрэбё (Friedrich Aereboe) «Усеагульнае сельскагаспадарчае працоўнае навучанне» («Allgemeine landwirtschaftliche Betriebslehre») выйшла некалькімі выданнямі ў Берліне ў розныя гады (напрыклад, пятае выданне — у 1920 годзе).

*Лаур. Экономия сельского хозяйства* — Відаць, маецца на ўвазе кніга: Лаур, Эрнст. Введение в экономию сельского хозяйства / Пер. с нем. Москва: Кооперативное издательство, 1925.

№ 24

*Дедушка* — Ігнат Антонавіч Каткоўскі, бацька Алесі Смоліч.

№ 25

*Крубер Общее землеведение* — першае выданне падручніка Аляксандра Аляксандравіча Крубера «Общее землеведение» выйшла ў Маскве ў трох частках у 1917–1922 гадах, другое выданне — у Маскве і Петраградзе ў 1923 годзе.

№ 26

*Ігнат* — магчыма, маецца на ўвазе Ігнат Антонавіч Каткоўскі, бацька Алесі Смоліч.

№ 29

*Сяргей* — верагодна, малодшы брат А. Смоліча.

*ФЗС* — фабрычна-заводская школа-сямігодка, школа ў СССР з 7-гадовым курсам навучання, звязаная з фабрычна-заводскім прадпрыемствам. Такія школы існавалі з 1926 да 1933 год. Іх колькасць істотна павялічылася пасля другой партнарады па народнай адукацыі (ліпень 1930 г.).

*«Соц[иалистическое] Земледелие»* — штодзённая газета, «орган Народного комиссариата земледелия СССР», выходзіла пад такой назвай у 1930–1953 гадах, у 1953 годзе перайменавана ў «Сельское хозяйство».

*«Соц[иалистическая] реконструкция сельского хозяйства»* — штомесячны часопіс, «орган Всесоюзной академии сельскохозяйственных наук имени В. И. Ленина, Наркомзема СССР и Наркомсовхозов СССР». Выходзіў у Маскве (выдавецтва «Сельхозгиз») у 1930–1938 гадах.

*Сіманоўскі* — верагодна, маецца на ўвазе Сіманоўскі Іосіф Бенцыянавіч (1892–1967), бібліятэказнавец, бібліёграф, перакладчык. У 1922–1937 і 1944–1961 гадах дырэктар Дзяржаўнай бібліятэкі БССР.

*Або ў Ленінскім Інстытуце* — маецца на ўвазе Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР.

*Адрас Маскоўскага Інстытуту Геодезии и Картографии — здаецца Юшков, 6* — згодна з даведнікам «Вся Москва. 6-й год издания. Адресная и справочная книга на 1930 год», Інстытут геадэзіі і картаграфіі знаходзіўся ў Маскве па адрасе: Красная пл., ГУМ, 3-і пав., пам. 238. Па адрасе праезд Уладзімірава (былы Юшкоў завулак), 6, знаходзіўся трэст «Госкартогеодезия», падпарадкаваны Інстытуту геадэзіі і картаграфіі.

№ 30

*ЦСУ* — Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне.

*Закон аб аўтарскім праве (ён ёсць у кнігарнях)* — відаць, маецца на ўвазе выданне: Пра аўтарскае права. Пастанова СНК БССР. Менск: Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, 1929. Пастанова СНК БССР «Пра аўтарскае права» ад 14 студзеня 1929 года абапіралася на супольную пастанову ЦВК і СНК СССР «О введении в действие основ авторского права в новой редакции» і пастанову ЦВК СССР «Основы авторского права» (абедзве — ад 16 траўня 1928 г.). Гэтыя агульнасаюзныя пастановы таксама былі даступныя ў некалькіх выданнях, напрыклад: Авторское право СССР и РСФСР. Сборник декретов и распоряжений и типовой издательский договор, утвержденный НКПросом и НКТоргом РСФСР, с алфавитно-предметным указателем / Составил Б. М. Ган. Москва — Ленинград: Государственное Издательство, 1929.

№ 32

*Ленина т. XVIII, кн. 1, 2, 3* — невядома, пра якое выданне вядзецца мова. У 1920–1926 гадах выйшла «Собрание сочинений» У. І. Леніна ў 20 тамах. Том XVIII складаўся з дзвюх частак: у першай змяшчаліся працы, напісаныя ў 1921 годзе, а ў другой — працы 1922–1923 гадоў. У абедзвюх частках тома шмат артыкулаў пра НЭП, якія маглі зацікавіць А. Смоліча. У 1925–1932 гадах выйшлі «Сочинения» У. І. Леніна ў 30 тамах. Том XVIII гэтага выдання выйшаў адной кнігай у 1929 годзе. У ім былі апублікаваны працы перыяду пачатку I Сусветнай вайны (1914–1915 гады), у першую чаргу прысвечаныя агітацыі за паразу «свайго» ўрада ў імперыялістычнай вайне. Зыходзячы са спіса вяртання кніг (№ 86 дадзенай публікацыі) можна меркаваць, што мова ідзе ўсё-такі пра першае выданне.

№ 33

*БАН* — Беларуская акадэмія навук.

№ 37

*З Каутскага* — Карл Каўцкі (Kautsky, 1854–1938), адзін з лідараў і тэарэтыкаў германскай сацыял-дэмакратыі і II Інтэрнацыянала, гісторык, эканаміст, філосаф, публіцыст. У артыкуле «К методологии областных карт населения» (гл. заўвагі да дакумента № 22) А. Смоліч спасылаецца на працу Каўцкага (у расійскім перакладзе) «Размножение и развитие в природе и обществе» (выданне 1923 года).

*З Баранскага* — Мікалай Мікалаевіч Баранскі (1881–1963), расійскі эканомікагеограф. Аўтар падручніка «Экономическая география Советского Союза. Обзор по областям Госплана» (Москва: Государственное Издательство, 1926). У артыкуле «К методологии областных карт населения» (гл. заўвагі да дакумента № 22) А. Смоліч спасылаецца на выпуск (том) II напісанага М. Баранскім дапаможніка «Краткий курс экономической географии» (першае выданне выйшла ў 1928 годзе). Выпуск II меў падназву «Экономическая география СССР. Общий обзор СССР в целом. Обзор по экономическим районам».

*Фітын* — фіцін, арганічнае злучэнне фосфару, якое знаходзіцца ў некаторых раслінах і ўжываецца як лекі пры асобных захворваннях нервовай сістэмы, а таксама для павышэння абмену рэчываў у арганізме.

№ 38

*Брошюру «Русский в Германии»* — брашура «Русский в Германии. Самая простая и легкая метода для скорого изучения немецкого языка с помощью хорошего произношения» у 1898–1910 гадах вытрымала некалькі выданняў у Маскве і Пецярбургу. У 1900 і 1911 гадах у Пецярбургу выходзіла брашура пад назвай «Русский в Германии. Самое простое и легкое руководство для скорого изучения немецкого языка, заключающее все самое необходимое в обыденной жизни и в путешествии, с указанием точного произношения».

№ 42

*В Ленинской комиссии* — магчыма, маецца на ўвазе камісія ленінізму, якая існавала на заснаванай у 1929 годзе кафедры марксізму і ленінізму Беларускай акадэміі навук.

*Сегодня пошлю доверенность* — у фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча захоўваецца даверанасць на атрыманне Алесяй Смоліч у Беларускім НДІ сельскай і лясной гаспадаркі ганарару за кнігу «Сельскагаспадарчыя раёны БССР у 1927–8 годзе» (НД-6686), датаваная 22 кастрычніка 1930 года і завераная пячаткай каменданта ДПУ БССР.

№ 44

*ЦРК* — Цэнтральны рабочы кааператыў.

№ 45

*Сталин — «Вопросы ленинизма»* — упершыню кніга Іосіфа Сталіна «Вопросы ленинизма» выйшла ў 1926 годзе. У шостае выданне (Москва — Ленинград: Государственное Издательство, 1929) былі ўключаны новыя прамовы і артыкулы, у т. л. «На хлебном фронте (Из беседы со студентами Института Красной Профессуры, Комакадемии и Свердловского университета 28 мая 1928 г.)», «О правом уклоне в ВКП (Речь на пленуме МК и МКК. 19 октября 1928 г.)», «Об индустриализации страны и о правом уклоне в ВКП (Речь на пленуме ЦК ВКП(б) 19 ноября 1928 г.)». У выданні 1930 года, пазначаным як «издание второе, дополненное» (Москва — Ленинград: Государственное Издательство), з'явіліся артыкулы «Год великого перелома» і «Головокружение от успехов. К вопросам колхозного движения», а таксама іншыя артыкулы і прамовы пра гвалтоўную калектывізацыю і «барацьбу з правым ухілам».

*Мою книгу — «Орган[изация] крестьян[ского] хозяйства»* — Смоліч, Аркадзь. Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі (Паводле даных бюджэтна-агрономічнага дасьледваньня 1923 году). Менск: Выданьне Інстытуту беларускае культуры, 1926.

№ 46

*Адрас Інстытуту, здаецца, Юшков, 6, але абавязкова спраўдзі па «Вся Москва»* — маюцца на ўвазе Інстытут геадэзіі і картаграфіі і даведнік «Вся Москва»; гл. заўвагі да дакумента № 29.

*ВСНГ* — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі БССР, дзяржаўны орган кіравання прамысловасцю Беларусі ў 1923–1932 гадах, у 1932 годзе рэарганізаваны ў Народны камісарыят лёгкай прамысловасці БССР.

*У Ленінскай камісіі (яна таксама ці не пры ДзяржВыдав[ецтве]), або ў Катэдры Марксізму БАН* — у 1929 годзе ў Беларускай акадэміі навук пачала працаваць новая кафедра марксізму і ленінізму, пры якой было 3 камісіі — дыялектычнага матэрыялізму, ленінізму і гістарычнага матэрыялізму.

№ 48

*Фитин* — бел. фіцін, гл. заўвагі да дакумента № 37.

№ 49

*Сапегин — Статистика* — падручнік Андрэя Афанасьевіча Сапегіна «Вариационная статистика» ўпершыню выйшаў у Харкаве ў 1922 годзе і шматразова перавыдаваўся (изд. 3-е,

исправл. и дополн., Москва — Ленинград, 1928; изд. 4-е заново переработ., Москва — Ленинград, 1929).

№ 50

*Інстытут* — Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР (скарочана — БНДІ).

*У Ганіна* — Ганін А. І. (паводле іншых звестак — Г. І.), навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, у 1928–1929 гадах выконваў у аддзеле сельска-гаспадарчай эканоміі і аграрнай палітыкі працу «Эфектыўнасць мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы БССР», у 1928 годзе ўдзельнічаў у экспедыцыі па гэтай тэме, якая праводзілася паводле дамовы БНДІ з Маскоўскім навукова-даследчым інстытутам сельскагаспадарчай эканоміі.

*Або Маргелава* — Маргелаў Сцяпан Прохаравіч (1902–1937), географ, кандыдат эканамічных навук. Скончыў аспірантуру Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. У 1930 годзе — загадчык аддзела сельскагаспадарчай эканоміі і арганізацыі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі названага інстытута. Рэпрэсаваны.

*Дом Працы* — цэнтральны будынак прафесійных саюзаў БССР на плошчы Свабоды ў Менску (былы кляштар базыльян, у другой палове XIX стагоддзя — «присутственные места», сённяшні адрас — плошча Свабоды, 23).

№ 52

*Как твоя служба и когда чистка?* — у газеце «Савецкая Беларусь» ад 20 лістапада 1930 года на 4-й паласе абвестка: «Плян правядзеньня чысткі савецкага апарату ў 1930 і 1931 г.».

№ 53

*Том 17 Ленина* — невядома, пра якое выданне вядзецца мова. У 1920–1926 гадах выйшла «Собрание сочинений» У. І. Леніна ў 20 тамах. Том XVII утрымліваў працы, напісаныя ў 1920 годзе, у т. л. «Детская болезнь “левизны” в коммунизме». У 1925–1932 гадах выйшлі «Сочинения» У. І. Леніна ў 30 тамах. Том XVII гэтага выдання выйшаў у 1929 годзе. У ім былі апублікаваны працы 1913–1914 гадоў, паміж іншага шмат па нацыянальным пытанні (напрыклад, «Критические заметки по национальному вопросу» і «О праве наций на самоопределение») і некаторыя творы пра земляробства (у т. л. «Новые данные о законах развития капитализма в земледелии. Выпуск I. Капитализм и земледелие в Соединенных Штатах Америки»).

*Книгу «Нацпытанне і кампартыя»* — Нацыянальнае пытаньне і комуністычная партыя. Зборнік артыкулаў, прамоваў і пастановаў / Уложаны пад рэдакцыяй У. Ігнатоўскага. Менск: Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства «Савецкая Беларусь», 1924.

№ 54

*Інстытут Беларускае Культуры (выданне 1926 г., з малюнкамі)* — Інстытут Беларускае Культуры (Інбелкульт). Гісторыя ўзьнікненьня. Сучасная структура. Навукова-дасьледчая дзейнасьць / Апрацаваў навуковы сакратар Інбелкульту А. І. Цьвікевіч. Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926.

№ 55

*Книгу Бондаря — Аграрная палітыка* — артыкул Г. Бондара «Аграрная політыка беларускай кандрацьцеўшчыны» быў апублікаваны ў № 8–9 за 1930 год часопіса «Бальшавік Беларусі» (с. 72–89). На с. 88 узгадваўся А. Смоліч як адзін з «нацыянал-дэмакратаў», якія дапамагалі Д. Прышчэпаву праводзіць «шкодніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі». Пазней артыкул выйшаў асобнай брашурай: Бондар Г. Аграрная політыка беларускай кандрацьеўшчыны (Стэнограма выступленьня на сходзе аграрнікаў-марксыстаў па дакладу тав. Ганіна — Кандрацьеўшчына ў БССР). Менск: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1931.

*Историю ВКП* — гл. заўвагі да дакумента № 86.

№ 57

*Апошнія дні, пэўне, прынеслі табе шмат цяжкіх перажыванняў* — у канцы 1930 года малая частка арыштаваных па справе «Саюза вызвалення Беларусі» была вызвалена, а справа Д. Ф. Прышчэпава, А. В. Баліцкага, А. Ф. Адамовіча і П. В. Ільючонка выдзеленая ў асобную.

*Слоўнік (выданне БСЭ) ангельска-рускі* — мова можа ісці пра адно з выданняў: Англо-русский словарь: 40.000 слов с указанием произношения в интернациональной фонетической транскрипции / Составили проф. В. К. Мюллер и проф. С. К. Боянус. Москва: Советская энциклопедия, 1928; Карманный англо-русский словарь: 25 000 слов, наиболее употребительных в разговорной речи, обществ.-полит. и науч.-попул. лит. С указанием произношения в междунар. фонет. транскрипции / Составил С. Г. Займовский. Москва: Советская энциклопедия, 1930. БСЭ тут — Большая советская энциклопедия.

*Кнігу Davis. Principles of Geography (дакладна не помню назвы)* — верагодна, маецца на ўвазе адна з прац Уільяма Морыса Дэвіса (William Morris Davis, 1850–1934), амерыканскага геолага, метэаролага, геамарфолага, а таксама папулярызатара геаграфічных ведаў. Сярод іншага, вядомыя яго кніга для настаўнікаў «Physical Geography» («Фізічная геаграфія», 1898) і зборнік выбраных артыкулаў «Geographical Essays» («Эсэ па геаграфіі», 1909). Вялікі артыкул Дэвіса «The Principles of Geographical Description» («Прынцыпы геаграфічнага апісання») быў апублікаваны ў 1916 годзе ў перыёдыку «Association of American Geographers Annals» («Аналы Амерыканскай асацыяцыі географаў»; 5. 61–105). Магчыма, у хатняй бібліятэцы А. Смоліча быў адбітак гэтага артыкула.

№ 61

*«Праўду» за 10/XII* — у № 339(4784) «Правды» ад 10.12.1930 былі апублікаваны вынікі працэсу г. зв. «Промпартии».

№ 65

*«1-ую конную»* — у 1929 годзе асобнай кнігай выйшла з друку п’еса Усевалада Вішнеўскага «Первая конная», якая выклікала ажыўленае абмеркаванне. У 1930 годзе п’есу паставіў У. Тэзаўроўскі ў Беларускім другім дзяржаўным тэатры, які меў базу ў Віцебску, але актыўна гастраляваў па Беларусі. Таксама ў канцы 1930 года на экраны выйшаў фільм Якава Бліоха «За фронтом — фронт» (працоўная назва «Конармия»), прысвечаны Першай коннай арміі.

*Рахунак на 28 р. ад 21/IX-929 дый на 30 р. ад 7/XII-929* — гэтыя рахункі захоўваюцца ў фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча: датаваны 21 верасня 1929 года рахунак ад мастака Генадзя Змудзінскага за выкананне картаграм на 28 рублёў (НД-6689) і датаваны 7 снежня 1929 года рахунак з Беларускага дзяржаўнага выдавецтва за друкаванне картаграм на 30 рублёў (НД-6691).

*БДВ* — Беларускае дзяржаўнае выдавецтва.

*Падганяй і з ганарарам* — у фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча захоўваецца выпіска з пратаколу № 2 Камісіі па справах былога НДІ сельскай і лясной гаспадаркі ад 17/XII-1930 г. (НД-6687). Камісія была згодна выплаціць ганарар памерам 1020 рублёў толькі пасля прадстаўлення апраўдальных дакументаў на аванс 1249 рублёў 53 капейкі.

№ 66

*На тав[арыша] Сікорскага* — следчы па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Верагодна, Сікорскі-Скрыпко Міхаіл Фёдаравіч (1904, месца нараджэння невядома — 1938, Масква), беларус, член УсеКП(б), супрацоўнік органаў АДПУ — НКУС да 1937 года. 9 ліпеня 1930 года пастановай ЦВК БССР узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. Расстраляны.

№ 68

*Ад Азбукіна* — верагодна, маецца на ўвазе Мікалай Васільевіч Азбукін (1894–1943?) — географ, краязнавец, дзяяч беларускага нацыянальнага руху. Калега А. Смоліча па БДУ, Інбелкульце, АН БССР. Арыштаваны па справе СВБ у ліпені 1930 года, асуджаны на 5 гадоў ссылкі.

*НДІ* — верагодна, маецца на ўвазе Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР.

*Брашуру «Сельское хозяйство БССР и пути его восстановления» (у зялёнай вокладцы) выдание 1925 г.* — Сельское хозяйство Белорусской ССР и мероприятия по его восстановлению / Под общей редакцией Д. Прищепова. Минск: Издание Наркомзема БССР, 1925.

№ 70

*Звезда от 5/I* — у нумары газеты «Зьвязда» ад 5 студзеня 1931 года на 2-й паласе быў размешчаны вялікі артыкул К. В. Гея «КП(б)Б у барацьбе за генеральную лінію партыі». Прыкладна палову артыкула складаюць нападкі на «нацыянал-дэмакратаў», у тым ліку на Прышчэпава, Чаржынскага, Цвікевіча ды інш.; Смоліч не згадваецца.

*Сов[етская] Белорусь № 293* — у бібліятэках Менска гэты нумар газеты «Савецкая Беларусь» за 1930 год адсутнічае.

№ 71

*«Petermanns Mitteilungen»* — часопіс «Dr. A. Petermann's Mitteilungen aus Justus Perthes' Geographischer Anstalt» выходзіў у Гоце (Gotha) з 1879 да 1937 год. З 1938 да 2004 год выходзіў пад назвай «Petermanns geographische Mitteilungen».

*«На аграрном фронте»* — штомесячны часопіс, «орган Аграрного института Коммунистической академии». Выходзіў у Маскве (выдавецтва «Сельхозгиз») у 1925–1935 гадах.

*«Социалист[ическая] реконструкция с[ельского] х[озяйства]»* — гл. заўвагі да дакумента № 29.

*«Под знаменем марксизма»* — штомесячны філасофскі і грамадска-эканамічны часопіс. Выходзіў у Маскве (выдавецтва «Правда») у 1922–1944 гадах.

№ 72

*НКФ* — Народны камісарыят фінансаў.

*Даклад Галад[зеда] і Гея на X з'ездзе* — у кнізе «X-ый съезд Коммунистической Партии (большевиков) Белоруссии. 3–10 января 1927 года. Стенографический отчет» (Минск: Белорусское Государственное Издательство, 1927) на с. 55–74 быў надрукаваны «Организационный отчет ЦК КП(б)Б. Доклад т. Голодеда». Даклада Гея ў гэтым выданні няма і не магло быць, паколькі К. В. Гей на той час працаваў у Маскве.

№ 73

*Журнал «Большевик Бел[оруссии]» № 10–12* — трайны нумар 10–12 часопіса «Бальшавік Беларусі» за 1930 год быў цалкам прысвечаны разгрому «нацдэмаўшчыны» і «правага апартунізму». Найбольшую цікавасць у Аркадзя Смоліча маглі выклікаць артыкулы А. В. «Політычная сутнасьць Беларускага нацыянал-дэмократызму» і М. Ганчарыка «Беларускі навукова-дасьледчы інстытут сел. і ляс. гаспадаркі на службе ў беларускай кандрацьцеўшчыны». У апошнім артыкуле, напоўненым лаянкай у бок былых наркама земляробства Д. Прышчэпава і дырэктара інстытута Г. Гарэцкага, як прыклад «беларускай кандрацьцеўшчыны» называюцца ў тым ліку працы А. Смоліча (с. 75).

№ 75

*Последний № «Большевика Бел[оруссии]»* — двайны нумар 1–2 «Бальшавіка Беларусі» за 1930 год складалі артыкулы: «Да вынікаў Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б» (с. 3–6, перадавіца); П. Корчык «Вынікі фашысцкай выбарчай кампаніі ў Зах. Беларусі» (с. 7–18); М. Югаў «Вялікадзяржаўная контрабанда пад сьцягам беларускага нацыяналізму» (с. 19–34; гэта першая частка разгромнай паклёпніцкай рэцэнзіі на кнігу А. Цвікевіча «Западно-руссизм»); М. Поташ «Аб рэволюцыі 1905 году» (с. 35–54; з крытыкай БСГ); Я. Г. «Аб адным важнейшым зьвяне ў справе колектывізацыі сельскай гаспадаркі (Разьмеркаваньне прыбыткаў у колгасах)» (с. 55–59). Усе гэтыя артыкулы маглі быць у той ці іншай ступені цікавыя А. Смолічу.

*Маленький англо-русский словарик Богданова (с произношением)* — Богданов, Петр Романович. Маленький англо-русский словарик. С указанием произношения и прил. русско-англ. фраз и разговоров. Москва — Ленинград: Государственное издательство, 1930.

№ 79

*Кроме «Звезды» за 7/III* — у нумары газеты «Зьвязда» ад 7 сакавіка 1931 года на 3-й паласе быў апублікаваны непадпісаны артыкул «Беларуская агентура інтэрвэнцыяністаў», прысвечаны выдуманай ДПУ «Беларускай аб’яднанай контр-рэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі», нібыта складзенай з беларускіх філіялаў «Промпартии», «Трудовой крестьянской партии» ды іншых падобных уяўных структур і «нацыянал-дэмакратаў». Цытата: «Так “прампартыец” Каплан, меншавік Шэйнін, ідэолёг кулацка-эсэраўскай “ТКП” — Бонч-Асмалоўскі, беларускія нацыянал-дэмакраты — Краскоўскі, Гарэцкі, Смоліч — уся гэта зграя працягнула адзін другому свае брудныя лапы, аб’ядналася для супольнага актыўнага змаганьня з дзяржавай дыктатуры пралетарыяту».

№ 80

*Газ[ету] Рабочий № 61* — газета «Рабочий» выходзіла ў Менску штодзённа на рускай мове. У № 61(1091) ад 13 сакавіка 1931 года на першай паласе былі апублікаваны ўрыўкі з выступу старшыні СНК БССР М. Галадзеда на VI Усесаюзным з’ездзе Саветаў. Ва ўрыўку пад назвай «Контр-революционная деятельность нацдемов» сцвярджалася: «Деятельность контрреволюционной группы белорусских национал-демократов дошла до того, что они… имели связь с Рамзиными, Кондратьевыми, Громовыми и, в надежде на военную интервенцию со стороны капиталистов Запада, подготовляли свое “правительство”».

№ 82

*Союз* — маецца на ўвазе прафесійны саюз.

№ 86

*Попов. История ВКП* — кніга віднага дзеяча КП(б) Украіны і УКП(б) Мікалая Папова (1891–1938) «Очерк истории Всесоюзной коммунистической партии (большевиков)» вытрымала 16 выданняў у розных маскоўскіх і рэгіянальных выдавецтвах у 1926–1935 гадах.

*Бондарь. Аграрная рэвалюцыя* — аспірант Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі Г. П. Бондар у 1928 і 1929 гадах распрацоўваў тэму «Аграрная рэвалюцыя на Беларусі», па якой у 1929 годзе выйшла публікацыя «Аграрная рэвалюцыя ў сьвятле поглядаў Маркса, Энгельса і Леніна» асобным выпускам «Прац Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту сельскае і лясное гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР» (том XIII, выпуск 8).

№ 89

*Субботний № Звезды* — у № 111 (4015) газеты «Зьвязда» ад суботы, 25 красавіка 1931 года. быў апублікаваны артыкул А. Альшэўскага «“Единый и неделимый” саюз Капланаў, Лёсікаў і Архангельскіх», у якім падрабязна цытуюцца нібыта «паказанні Смоліча».

№ 93

Магчыма, «суаўтарам» цыдулкі з’яўляўся Яўген Кузьміч Аляксееў (1884–1972), аграном-раслінавод, з 1940 года — акадэмік АН БССР. У 1930 годзе Я. Аляксееў быў прафесарам, загадчыкам кафедры Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, членам ЦВК БССР. Арыштаваны 29 верасня 1930 года. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23 ліпеня 1931 года за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў канцлагераў. 19 кастрычніка 1932 года справа Я. Аляксеева была спынена, а ён вызвалены і рэабілітаваны.

№ 94

*Тремпович* — Аляксандра Іванаўна Трамповіч (пам. 1975), жонка Паўла Віктаравіча Трамповіча (1889–1956), беларускага грамадскага дзеяча, урача. П. Трамповіч быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» 9 ліпеня 1930 года, асуджаны на 5 гадоў высылкі. Сем’і Смолічаў і Трамповічаў сябравалі, А. Смоліч і П. Трамповіч былі калегамі па камісіі прыроды і вытворчых сілаў Беларусі ў Інбелкульце.

Ждать пришлось долго. Много месяцев Витольд терпел голод, издевательства и лишения в советских лагерях. Его забрасывали то в Кутаиси, то в Воркуту, то в Боровичи. Спустя 3 года, апреле 1948-го, он был освобожден и вернулся домой, в Вильно. Мать и сын хотели сразу же последовать за семьей в Гданьск, но Советы выпустили их только в 1956 году.

После освобождения Венгрии весной 1945 года прибыл в Краков и вступил в Войско Польское Константин Каменский. Он служил в армии вплоть до 1950 года, пока во время несчастного случая не потерял глаз. После выхода на пенсию бывший военный повторно женился (его первая жена умерла) и вскоре перебрался в Варшаву.

В 1950-х годах Константин попытался восстановить связь с уцелевшими в войне и сталинских репрессиях оршанскими родственниками. В 1957 году после длительного перерыва он пишет первое письмо двоюродной сестре Виктории Каменской: «Дорогая, любимая Витя! Ты, наверное, не надеялась получить от меня письмо. Мы не разговаривали с тобой 38 лет. Мы постарели, а расстались молодыми, сильными, полными надежды на будущее. 38 лет промелькнуло и уже приближаемся мы к своему последнему в жизни путешествию». Он в деталях описывает гибель своих братьев Петра и Михаила и сочувствует детям репрессированных в 1937 году: «Мне жаль всех детей твоей сестры Анны и брата Антона, которых я никогда не видел, о чем очень сожалею». В Орше его письма читались при плотно задернутых шторах, не дай бог соседи увидят. Могут и донести. Некоторые письма так и остались без ответа. Боялись читать, боялись писать. Еще свежа была память о недавних расстрелах.

Умер Константин Каменский в Варшаве 25 декабря 1981 года. Умер от воспаления легких. Это была еще одна трагическая смерть. Никто не смог вызвать врача. Не работал городской телефон. Не работал и общественный транспорт, была полностью парализована междугородняя и городская коммуникация. Это коммунистические власти ввели в Польской Народной Республике военное положение. Так они боролись с внутренней оппозицией и набиравшем силу профсоюзом «Солидарность». Похоронили Константина на Повонзках — воинском кладбище в Варшаве. Через несколько лет племянник и старший сын Петра Каменского Богдан установит на его могиле символическое надгробие, на котором помимо имени Константина будет начертано имя расстрелянного немцами брата, скульптора Михаила Каменского.

Виктория Каменская пережила брата Константина почти на 4 года. Она тяжело болела и умерла в 1985 году на 93-м году жизни.

О польских корнях и расстрелянных родителях — врагах народа в уцелевших семьях Каменских старались не вспоминать. Лишь в конце 1950-х — начале 1960-х после разоблачения культа Сталина репрессированных стали реабилитировать. В 1960 году посмертно оправданы Антон и Александра Каменские, а в 1989-м — были приняты постановления о реабилитации Анны Иосифовны Каменской, ее мужа Захария Ходевцева, Анны Викентьевны Каменской с мужем Александром Раковым. Оправданы были и многие другие родственники. Государство советов стыдливо оправдывалось за свои ошибки, стоившие жизни сотням тысяч людей. Делало это тихо, незаметно, без лишней огласки. Но далеко не все дети Каменских дожили до этого момента и получили справки о реабилитации. Некоторые из них умерли раньше, так и не узнав, что отныне с них смыто позорное клеймо детей врагов народа.

*Игорь Станкевич*

# УЛАШЧЫКІ І «КРАЁВЫ СЛОЎНІК УСХОДНЯЙ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ» ЯНКІ БЯЛЬКЕВІЧА

Янка Бялькевіч нарадзіўся 6 сакавіка 1883 года ў вёсцы Варонічы Слонімскага павета Гродзенскай губерні ў беднай сялянскай сям'і. У 1909 годзе закончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю.

У 1921 годзе быў заснаваны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, і Бялькевіч паступіў на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне. Разам з ім студэнткай гэтага аддзялення стала Ніна Улашчык (сястра Мікалая Улашчыка, старэйшая за яго на чатыры з паловай гады), якая пазней выйшла замуж за Івана Кандратавіча. Тады ж студэнткай БДУ была і Юлія Восіпаўна Бібіла — вядомы беларускі бібліёграф, якая ўсё жыццё сябравала з сям'ёй Улашчыкаў.

У лютым 1925 года слоўнікавая камісія, што працавала пры Інбелкульце, была ператворана ў камісію па ўкладанні слоўнікаў жывой беларускай мовы, а ў пачатку наступнага года распачалася праца па ўкладанні краёвых слоўнікаў у акруговых краязнаўчых таварыствах. У верасні 1925 года Янка Бялькевіч паспяхова закончыў універсітэт, і яму было даручана ўзначаліць укладанне краёвага слоўніка Калініншчыны. Таму пры размеркаванні ён выбраў працу дырэктара нядаўна адкрытага Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума, бо Мсціслаў знаходзіўся на тэрыторыі Калініншчыны. Ён умела арганізаваў збор слоўнікавага матэрыялу, далучыўшы да гэтай справы ўсіх краязнаўцаў, студэнтаў, мясцовых настаўнікаў — меў больш за сто сталых карэспандэнтаў. У вольны час сам з імпэтам ездзіў у многія месцы, каб запісаць новыя словы. На канец 1926 года картатэка будучага слоўніка налічвала больш за 15 тысяч лексічных адзінак.

У верасні 1927 года Іван Кандратавіч пераехаў у Мінск, працаваў у Інбелкульце сакратаром аддзела гуманітарных навук, а пазней — вучоным спецыялістам слоўнікавай камісіі. Ён працягваў працу па стварэнні краёвага слоўніка, атрымліваючы спісы мясцовых слоў ад сваіх карэспандэнтаў, а сам выбіраў дыялектычныя словы з фальклорных запісаў, зробленых на Магілёўшчыне, а таксама з мастацкіх твораў пісьменнікаў — нараджэнцаў Магілёўшчыны. Апантаны мовазнаўствам і асабліва краёвым слоўнікам, Бялькевіч у думках ужо бачыў яго заканчэнне, прычым улічыў усе недахопы выдадзеных слоўнікаў і, напрыклад, даваў не проста пераклады беларускіх слоў на расійскую мову, а іх тлумачэнне ў беларускай жа мове. Апрача таго, ён надрукаваў шэраг артыкулаў, прысвечаных пытанням культуры беларускай літаратурнай мовы.

Бальшавіцкая рэпрэсіўная каса, якая ўжо знішчыла мільёны сваіх і чужых грамадзян, працягвала няшчадна касіць і далей пад кіраваннем «самага вялікага і мудрага правадыра ўсіх народаў свету». Пікі тэрору прыйшліся на 30-я гады мінулага стагоддзя ў сувязі з палітыкай калектывізацыі, а потым індустрыялізацыі (барацьба з «нацдэмамі» ды іншымі «ворагамі народа»), а потым у час Другой сусветнай вайны — і так да смерці Сталіна ў 1953 годзе. Страх, дэмагогія, хлусня, даносы, самагубства ахапілі ўвесь СССР. Тая бязлітасная каса моцна зачапіла і беларускі народ, яго інтэлігенцыю, у тым ліку і шматлікія сем'і Улашчыкаў і Гарэцкіх. У выніку многія «ворагі народа» і іх сем'і былі высланыя, змянілі месца жыхарства і нейкім цудам засталіся жывымі, але значная колькасць адразу пасля арышту ці пазней была расстраляная.

У 1930 годзе І. Бялькевіч быў абвінавачаны ў нацыяналізме і высланы за межы Беларусі — чатыры гады працаваў на лесапавале ў Марыйскай АССР. У 1935 годзе пераехаў у Азова-Чарнаморскі край, дзе выкладаў рускую мову і літаратуру ў Натальеўскай сярэдняй школе і школах Марыупаля (тады Жданава).

А што сталася з яго сям'ёй? Ніна Мікалаеўна жыла ў Мінску разам са сваёй старой маці і двума дзеткамі — Усяславам і Людмілай. Мікалай Улашчык у мемуарах пазней успамінаў: *«Ніну ў канцы 1937 — пачатку 1938 г. выклікалі некалькі разоў і ўсё вучылі правакатарскай дзейнасці, як трэба трымаць сябе на рабоце, на каго звярнуць найбольш увагі, што пісаць, але і калі з гэтага нічога не выйшла, то перайшлі да пагрозаў: пасадзім самую. Адзін раз пасля "размовы" яе не пусцілі дамоў, і яна пераначавала, пэўна, у падвале (знакамітым мінскім падвале). Праз тыдзень-другі яе паклікалі ізноў і ўжо не выпусцілі. Праз пяць месяцаў па арт. АСА далі пяць гадоў і паслалі на Калыму. Тэрмін канчаўся ў лютым 1943 г. Зразумела, што ў той час з Калымы не пускалі нікога, давялося пачакаць яшчэ тры гады. Значыцца, пяць гадоў Ніне далі за тое, што не хацела пісаць даносы»*[1].

З 1948 да 1955 г. І. Бялькевіч — загадчык навучальнай часткі вучэбнага пункта «Азоўсталь», з 1955 да 1958 г. быў інжынерам-метадыстам Марыупальскага філіяла Данецкага вячэрняга будаўнічага тэхнікума. Увесь час ён не спыняў работы над слоўнікам і ў 1959 годзе завершыў яго. На вялікі жаль, убачыць гэты слоўнік надрукаваным Бялькевічу не давялося: 18 кастрычніка 1960 года Іван Кандратавіч раптоўна памёр, так і не атрымаўшы дазволу вярнуцца на Радзіму.

Нягледзячы на неверагодныя пакуты, здзекі, голад у час зняволення, пасля шматразовых арыштаў (а Гаўрылу Гарэцкага[2] двойчы прысуджалі да расстрэлу), усе яны — і Бялькевіч, і Гарэцкі, і Улашчык[3] — засталіся жывымі і былі поўнасцю рэабілітаваны «за отсутствием состава преступления».

Мікалай Улашчык і Гаўрыла Гарэцкі даволі часта сустракаліся ў 60-я гады мінулага стагоддзя ў нас у Дзедаўску пад Масквой, дзе тады жылі мае бацькі, пра што я ўжо пісаў[4].

Такія сустрэчы працягваліся і ў наступнае дзесяцігоддзе пасля пераезду Г. Гарэцкага ў Мінск, у які часта прыязджаў і М. Улашчык, як па розных справах, так і да сваіх сясцёр. Я зноў нярэдка прысутнічаў пры гэтых сустрэчах, якія заўсёды былі вельмі цікавыя. Заходзіла да маіх бацькоў і Ніна Улашчык — мілавідная разумная жанчына з выразнымі зеленавата-карымі вачыма, якая размаўляла на яснай мілагучнай беларускай мове. Асаблівым клопатам Улашчыкаў, а затым і Гарэцкіх было выданне слоўніка Бялькевіча.

Яшчэ ў 1960 годзе Мікалай Улашчык у лісце да сястры пісаў: *«Ніна, вчера звонил Слава [Бялькевіч]. Сообщил о смерти Янки [Бялькеіча]. [...] Слоўник Янки остался неизданным. Крапива одервенел и не захотел ничего сделать. Судник, директор Института, признал, что работа сделана как следует, но тоже отступился. [...] Я был так ошеломлён известием о смерти, что о слоўнике вспомнил только сегодня. Вообще нужно сказать Славе, чтобы он привёз рукопис сюда. Я уже раньше был в Институте языка, здесь и разговаривали в отношении издания, но мне сказали, что у них нет возможностей. Думаю, что сейчас, когда автора нет в живых, одно из основных препятствий отпадает. Буду долбить начальство, требовать издания. Из-за этого следует исходить, так как это единственный реальный памятник человеку»*[5].

З таго часу Мікалай і Ніна Улашчыкі разам з яе сынам Усяславам і дачкой Людмілай пачалі вялікую працу па падрыхтоўцы слоўніка І. Бялькевіча да друку. Звароты М. Улашчыка ў розныя інстытуты, выдавецтвы заканчваліся адмоўна. Трэба было атрымліваць водгукі, даводзіць вартасць слоўніка, размаўляць з многімі ўплывовымі людзьмі. 9 кастрычніка 1965 года ён піша Ніне:

*«Трыццаць год таму ў Суславе сустрэўся з князем Галіцыным, а ўчора былі са Славай у графа Талстога. Сустрэча атрымалася вельмі добрай. Мы перадалі яму аўтабіяграфію Янкі, твае запісы, складзеную намі са Славай біяграфію і артыкул у "ЛіМе".*

*Ён абяцаў даць афіцыйны водзыў аддзела філалогіі Інстытута славяназнаўства, затым перагаварыць з акадэмікам Вінаградавым, каб той даў водзыў ад Інстытута мовы Акадэміі Навук СССР, і затым напісаць артыкул для "ЛіМа" з запытам, чаму няма да гэтага часу адказу на артыкул Лапава і Германовіча. З другога боку, яшчэ раз сказаў, што будзе вельмі карысна, калі з такой жа просьбай выступіць Саюз пісьменнікаў, і таму, калі спатрэбіцца маё ўмяшальніцтва ў гэту справу, то прыйшлі тэлефон Глебкі. А ўвогуле, даведайся, як гэта зрабіць, як прайсці да Броўкі, каб атрымаць водзыў. […] Вялікім плюсам у гэтай справе з'яўляецца тое, што ў 1968 г. у Празе будзе чарговы з'езд філолагаў-славістаў. Да гэтых з'ездаў звычайна і падганяецца выданне капітальных прац. […] Пры ўсіх абставінах трэба мець рукапіс у найбольшай гатовасці, бо такая вялікая і цяжкая для выдання кніга будзе яшчэ доўга рыхтавацца да набору тады, калі пытанне аб выданні будзе вырашана станоўча».*

З часам да справы выдання слоўніка далучыўся і Гаўрыла Гарэцкі. 24 студзеня 1966 года М. Улашчык піша сваёй сястры:

*«Сёння са Славаю мы былі ў Гарэцкага. Ён жыве км за 30 ад Масквы ў невялічкім рабочым пасёлку. Спаткаў ён нас надзвычайна ветліва і абяцаў зрабіць усё, што зможа, пагаварыць з прэзідэнтам і Крапівою. У яго нават захавалася фатаграфія, дзе ты з Галубоўскаю сядзіш, а над вамі стаяць Сапунянкі. Максім Гарэцкі назваў тое фота "Чатыры багародзіцы". […] Мне трэба было б спаткацца тут з Броўкам, або, на горшы выпадак, з Глебкам. Калі можаш, даведайся, калі яны будуць тут».*

Жонка Бялькевіча Ніна і сын Усяслаў прарабілі вялікую працу па падрыхтоўцы слоўніка да выдання. Разам з навуковымі рэдактарамі слоўніка М. Бірылам і А. Крывіцкім і рэдактарскай групай выдавецтва «Навука і тэхніка» яны правялі зверку матэрыялаў слоўніка з картатэкай у спрэчных і няясных выпадках, дапоўнілі асобныя артыкулы ілюстрацыямі, удакладнілі даведачны апарат у артыкулах, вычыталі і вывяралі падрыхтаваны да надрукавання машынапіс слоўніка і карэктуру. Ніне Улашчык дапамагалі ў гэтым бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі Юлія Бібіла і дачка Людміла.

Слоўнік Бялькевіча па задуме Інбелкульта і самога выканаўцы павінен быў адлюстраваць лексіку жывой народнай мовы Калініншчыны, гэта значыць былой Калінінскай акругі. Таму першапачатковая назва працы — «Краёвы слоўнік Калініншчыны». Але пазней сам аўтар ахапіў населеныя пункты больш шырокай тэрыторыі, змяніўся адміністратыўна-тэрытарыяльны падзел БССР, і таму ў рукапісе Бялькевіч пераназваў сваю працу ў «Дыялектычны слоўнік усходняй часткі Беларускай ССР». Канчатковая назва «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» была дадзеная па той прычыне, што паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу *«месцазнаходжанне пераважнай большасці населеных пунктаў, у якіх збіраўся слоўны матэрыял, дае ўсе падставы лічыць, што слоўнік, укладзены Бялькевічам, адлюстроўвае лексіку жывой народнай мовы насельніцтва ўсходняй часткі сучаснай Магілёўскай вобласці, што гэта рэгіянальны слоўнік іменна ўсходняй Магілёўшчыны, а не ўсходняй часткі Беларусі, як першапачаткова лічыў яго сам аўтар»*[6].

Слоўнік змяшчае каля 20 000 слоў. У ім даволі многа слоў агульнабеларускіх, але большасць — гэта дыялекты. Слоўнік выпускаўся ў свет пераважна такім, якім яго завяршыў укладальнік.

Пазней М. Улашчык так вызначыў ролю Ніны Улашчык у слоўнікавай «эпапеі»: *«Каб не яна, "Слоўнік" Бялькевіча так і ляжаў бы. Пшанічны — Крапіва і жывому Бялькевічу наўрад ці саступіў бы. Яна ўсю сваю пенсію на друкаванне [рукапісу] машыністцы аддала. Хадзіла па дапамогу ў Акадэмію Навук, да Крапівы — няма грошай! А з выданнем колькі тлуму было! Пісалі і Прэзідэнту [НАН], і Пілатовічу, пакуль наважыліся*

*друкаваць. А сястру абавязалі адразу выкупіць сто экземпляраў. Усіх затое адарыла — і радню, і знаёмых, і швагерак, і пляменнікаў, і ўнукаў»*[7].

Гаўрыла Гарэцкі таксама дапамагаў выдаць слоўнік Бялькевіча. Шмат разоў размаўляў па гэтай справе з прэзідэнтам АН БССР М. Барысевічам, К. Крапівою, П. Броўкам і інш. У 1970 годзе слоўнік нарэшце быў надрукаваны, і Улашчыкі падаравалі асобнік Г. Гарэцкаму, зрабіўшы такі аўтограф: «Дарагім і паважаным Гарэцкім, Ларысе Восіпаўне і Гаўрылу Іванавічу, на добры ўспамін пра аўтара і з вялікай падзякай за дапамогу ў клопатах пра надрукаванне слоўніка, за Вашу прыхільнасць і добразычлівасць. 17.IX.1970 г. Н. Улашчык, Л. Іваноўская, У. Улашчык».

## Каментары

[1] Улашчык Мікалай. Выбранае. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — С. 370.

[2] Гарэцкі Радзім. Браты Гарэцкія. — Мінск: Медысонт, 2008. — 344 с.

[3] Улашчык Мікалай. Выбранае. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — 608 с.

[4] Гарэцкі Радзім. Апантаны слуга Кліо // Мікалай Улашчык. Выбранае. — Мінск: Беларускі кнігазбор. 2001. — С. 532–534.

[5] Скарыніч. Літаратурна-навуковы гадавік. Вып. 7. — Москва: Советский писатель, 2008. — С. 197.

[6] Германовіч І. К., Лапаў Б. С. І. К. Бялькевіч і яго слоўнік // Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. — Мінск: Навука і тэхніка, 1970. — С. 5–12.

[7] Каўка Аляксей. Будам жыць! — Менск — Масква: БГАКЦ, 1998. — С. 143–144.

*Радзім ГАРЭЦКІ*

# ВІКТАР САЗОНАЎ. ВАЙСКОВЫЯ НАРЫСЫ

Віктар Сазонаў нарадзіўся ў славутым мястэчку Гальшаны. Руіны старога сапегаўскага замка, гарадзішча Карабель, рэшткі старога млына, узвышша непадалёк роднай хаты — усе гэтыя сведкі сівой даўніны і чароўныя навакольныя краявіды найперш уплывалі на светагляд і ўяўленне будучага творцы. З дзяцінства блізкімі Віктару былі героі Фенімора Купера і О'Генры, якія хіба і засталіся яго ўлюбёнымі пісьменнікамі.

Потым была вучоба ў розных гарадах і розных навучальных установах. Аднак няўрымслівая натура не дазваляла спыніцца на нечым адным. У выніку давялося паспрабаваць розных прафесій, а вышэйшую адукацыю Віктар Сазонаў атрымаў у Гародні, скончыўшы гістарычны факультэт. Яшчэ раней была служба ў савецкім войску, дзе рамантыка дэсантавых скачкоў з вышыняў неба суседнічала з жорсткай прозай армейскага побыту. Войска з яго абвастрэннем пачуццяў заўсёды завастрае якасці чалавека, якія былі закладзеныя ў ім з дзяцінства, дазваляе хутчэй дасталець і сталець.

Калі прыйшла перабудова, Віктар Сазонаў апынуўся ў ліку першых гарадзенскіх адраджэнцаў, стаў актыўным удзельнікам легендарнага клуба «Паходня», быў у ліку стваральнікаў Беларускага Народнага Фронту, дапамагаў у адраджэнні ўніяцкай царквы ў горадзе над Нёманам. Пры тым доўга заставаўся ў цені іншых аўтарытэтаў, ніколі не лез на пярэдні план, рупліва працуючы на агульную карысць беларускай справы. Тады ж ён і пачаў пісаць — спярша ў заводскую газету «Маяк», потым у аўтарытэтны на той час ЛіМ, іншыя перыёдыкі.

Кніжкі прозы Віктара Сазонава за апошнія гады здабылі дастаткова шырокае прызнанне ў беларускай літаратурнай прасторы. Дзякуючы мастацкім перакладам добра знаёмы аўтар і польскамоўнаму чытачу. Вялікі поспех выпаў на долю ўжо першай кніжкі Віктара Сазонава — «Занатоўкі кантрабандыста», зборнік адразу пасля выхаду стаў надзвычай папулярным, заняў высокае месца ў літаратурных рэйтынгах, быў прыязна прыняты крытыкамі. А сама галоўнае — атрымаў прызнанне ў звычайных чытачоў, стаў перадавацца з рук у рукі, што складае, напэўна найбольшую маральную сатысфакцыю для кожнага творцы. Потым пабачылі свет яшчэ тры кніжкі — «Сандалі мітрапалітыка», «Суседскія былі» і «Паэзія прозы», якія таксама не расчаравалі прыхільнікаў творчасці аўтара. Стыль аўтара ў гэтых зборніках збольшага захаваны і пазнавальны, дадаліся толькі новыя фарбы беларускай рэчаіснасці, яшчэ больш гумару і народнай мудрасці. Віктар Сазонаў  — адзін з нямногіх празаікаў, які звяртаецца да падзей сучаснасці, апісвае ва ўласцівым яму іранічным стылі грамадска-палітычныя рэаліі сённяшняга дня. Аўтар у аповедах і навелах абапіраецца на жыццёвы досвед, спалучае прыродную беларускую дасціпнасць і філасофскія развагі, вастрыню сарказму і мяккасць, лірычнасць роднага слова. Сюжэт і форма ягоных апавяданняў маюць надзвычай арганічны характар.

Творы Віктара Сазонава глыбейшыя, чым часам здаецца на першы погляд. За звычайнымі і незвычайнымі бытавымі гісторыямі, пададзенымі з гумарам, прыхавана жыццёвая філасофія, праз простыя рэчы ўздымаюцца галоўныя пытанні чалавечай існасці і сэнсу быцця. А ў зборніку «Паэзія прозы» весялосць і гумар спалучаюцца з глыбокай філасофіяй і смуткам, што яскрава адпавядае характару самога аўтара. Да гэтага далучаецца прапанова чытачу самому задумацца над рэчаіснасцю, самому пашукаць шляхі яе ўдасканалення.

Апавяданні і аповеды аўтара лёгка чытаюцца ў цягніку і перад сном, у вольную ад працы хвіліну і на прыродзе. Яны ўжо атрымалі шырокае прызнанне чытачоў. Віктар Сазонаў — асоба незвычайная ў нашай беларускай прасторы. Акрамя літаратурных валодае таксама мастацкімі, канструктарскімі талентамі. Схільны да рэлігійна-філасофскага асэнсавання жыцця.

Яшчэ зусім маладым хлопцам выехаўшы з роднага мястэчка Гальшаны, ён застаўся патрыётам сваёй малой Радзімы і ўсёй Беларусі. А беларуская літаратура праз два дзясяткі гадоў знайшла цікавага і адметнага творцу.

*Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ*

*Віктар САЗОНАЎ*

## ВАЙСКОВЫЯ НАРЫСЫ

### Уступ

Неяк я адзначаў свой чарговы дзень народзінаў. Эх, куды ад яго дзенешся, ад гэтага дня! Ён прыходзіць штогод у адзін і той жа каляндарны дзень, хоць здаецца, што з кожным годам прылятае ўсё хутчэй ды хутчэй. Вось і гэты раз. Здаецца, зусім нядаўна ўжо адзначалі яго, яшчэ і шклянкі самагонкай пахнуць, а ўжо трэба іх зноў напаўняць вадкасцю свежага гатунку, вырабленай пад карчамі старажытнай Белавежскай пушчы невядомым і адначасна знакамітым майстрам сваёй справы.

Добрая яна там, самагонка тая. Жытняя, моцная. Дзіва што зубры адтуль не асабліва спяшаюцца сыходзіць у іншыя лясныя масівы. Ну гэта я так ляпнуў. Дзеля смеху. Я ж добра ведаю, што зубры не п’юць. Пра гэта мне па сакрэце распавялі мясцовыя пушчанскія жыхары, якім я давяраю. Не п’юць, кажуць, зубры. У адрозненне ад нас, беларусаў. Таму што іх мала, зуброў тых. Ім берагчы сябе трэба. Нельга псаваць генафонд.

А нам, значыць, можна?! Папраўдзе сказаўшы, і нас, беларусаў, як і тых зуброў, не так ужо і шмат. Толькі вось бяда — мы не ведаем, колькі нас дакладна. Усё не можам вызначыцца, каго можна лічыць сваім, а каго не. І генафонд тут зусім ні пры чым. Ну, але вернемся да дня народзінаў.




*Віктар Сазонаў*

Як заўсёды, на святкаванні было весела. У нас, беларусаў, ёсць традыцыйныя сродкі для падняцця настрою ў такія дні. Гарэлка, закуска, шчырыя тосты і выпакутаваныя падарункі, якія для людзей такога веку, як я, ужо шукаюць з словамі: «Ну што ж яму набыць? Галаву зламаць можна! Яму ж ужо хіба нічога больш не трэба».

Але як пачынаецца застолле, то высвятляецца, што нічога практычна не змянілася за апошніх гадоў так трыццаць. Як і тры дзясяткі гадоў таму іменіннік адчувае сябе маладым і актыўным, як галодны воўк. Ці як малады жаўнер. І толькі жыццёвы досвед разам з загубленым за гэты час здароўем падказваюць свайму ўладальніку, што ганарыцца зараз ужо варта не спрытам маладосці, а чым-небудзь іншым. Калі, канешне, што-небудзь іншае ёсць у наяўнасці.

І вось сярод розных падарункаў, якія шчодра рэкламаваліся сакавітымі тостамі, быў адзін з сімволікай савецкіх паветрана-дэсантных войскаў, куды некалі даўным-даўно мяне сумесна закінулі служыць мой лёс і ашмянскі ваенкамат. І тут усе раптам узгадалі, што я былы дэсантнік, і пасыпаліся тосты за слаўнае вайсковае мінулае. Пайшоў па руках дэмбельскі альбом з пажаўцелымі чорна-белымі здымкамі звышсакрэтнай баявой тэхнікі, сфатаграфаванай на маім сціплым фоне. Ці, можа, я там сфатаграфаваны на сціплым фоне баявой звышсакрэтнай тэхнікі. Цяжка сказаць, што першасна.

Ды не гэта галоўнае. Галоўнае, што завязалася вясёлая і абуджальная размова пра слаўную вайсковую маладосць. Хоць маладосць слаўная заўсёды і без войска.

Хутка пра мяне разгарачаныя госці зусім забыліся, і кожны кожнаму распавядаў пра свой геройчны салдацкі шлях, спадзяваючыся, што яго выхвальны аповед чуе не толькі суразмоўца, але і яго жанчына, і жонка суразмоўцы, і ўсе астатнія прадстаўніцы слабага полу, якія ўрэшце даведаюцца, які ён класны мужык. Бо ўперад яны так пра яго не думалі. Асабліва свая.

Я ніколі раней не любіў, калі размовы пра войска зацягваліся. А адзін мой знаёмы, які зараз таксама прысутнічаў, увогуле вывеў цэлую тэорыю наконт гэтай сітуацыі. Ён заўсёды лічыў, што калі мужчына расказвае толькі пра сваё вайсковае мінулае, значыць, нічога ў яго жыцці цікавага пасля войска ўжо і не было, як у гарадскога ката пасля кастрацыі. Адно толькі шэрыя, падобныя адзін да другога працоўныя дні, пасля работы дахаты, абавязковы вынас смецця і паход у краму. На выходныя паездка на лецішча і бутэлька горкай па святах. Крыху больш па вялікіх святах, такіх як ад'езд жонкі да матулі на цэлы доўгачаканы тыдзень. Пра такія дні мужчыны падобнай фармацыі расказваюць з не меншым імпэтам, чым пра войска. Ну вось і ўсё. Добра калі дзеці разумныя. Ну то яшчэ і імі тады можна пахваліцца.

Так ён думаў. І думаў шчыра, як перад споведдзю. Але гэтая размова змяніла крыху нават і яго погляд.

— Хлопцы, — звяртаюся я да прысутных, каб перапыніць гаворкі пра службу ў войску. І дзялюся з імі высновамі свайго сябры. Маўляў, што там тое войска. Яно ж даўно было. І пытаю: — Я ж усяго толькі былы дэсантнік. І кім мяне зараз успрымаць сябе, тым, кім я быў некалі, ці тым, кім я ёсць цяпер? Што важней — мінулае ці сёння?

— А ты ўспрымай сябе так, як цябе ўспрымаюць іншыя, — нечакана адпарыравалі мне.

— Не хачу так, — не пагадзіўся я. Колькасць выпітага ўжо спрыяла распальванню спрэчак. — Ды мала хто як мяне ўспрымае! Можа, я з такой іхняй трактоўкай не пагаджаюся. Галоўнае, хіба што я сам пра сябе думаю.

— Няпраўда. Не так ужо і важна, кім сябе ўспрымае качан капусты, — прыводзіць свае довады мой суразмоўца. — Галоўнае, што іншыя яго лічаць ежай, чым ён і ёсць насамрэч.

— Для качана капусты, можа, гэта і актуальнае, — працягваю спрачацца я, адчуваючы, што ў мяне бракуе аргументаў. — Але ж мы гаворым пра чалавека як пра асобу. Можа, ён сам мае права вырашаць, хто ён?

— Ага, мае! — зарагаталі ўжо некалькі чалавек. — Колькі іх, такіх разумнікаў, сябе Напалеонамі лічаць?! Дык што, і нам іх лічыць Напалеонамі?

— І тое праўда, — пагаджаюся, — але і качаном капусты быць неяк не кожны захоча, нават калі пра Напалеона і не марыць.

— А што рабіць? Дзе будзем шукаць праўду?

— А праўда, як заўсёды, недзе пасярэдзіне.

— Эх, ведаць бы толькі, дзе тая сярэдзіна.

І сапраўды. Ведаць бы, дзе сярэдзіна. Хоць у адным з пытанняў, якое па-сапраўднаму ў жыцці цікавіць, даведацца б, дзе яна, тая сярэдзіна.

Вось і вырашылі, што тая сярэдзіна, якую мы ў той вечар сп'яна назвалі лічбай пі чалавечага фактару, знаходзіцца пасярэдзіне ўспрымання чалавекам самога сябе і ўспрыманнем яго навакольнымі. Такім чынам, аказалася, што, акрамя таго, кім я сам сябе хачу бачыць сёння, я маю поўнае права называць сябе і дэсантнікам таксама. Хоць гэта было так даўно, што часам і не верыцца, што са мной гэта было. Але ж многія знаёмыя мяне ўспрымаюць, акрамя іншага, таксама і дэсантнікам. Ажно да сёння. І я маю нейкае маральнае права распавесці пра тое, як там было — на мой погляд, абмінаючы міфы і прыдумкі пра самыя элітныя войскі СССР.

Ну, тады ўсё па парадку.

## Правады

А напачатку былі правады. Ну, не на самым пачатку, тут не трэба гэтую фразу блытаць з фразай з самай чытанай на свеце кнігі. Я маю на ўвазе на пачатку маёй службы. І былі яны 18 кастрычніка 1981 года. Па-іншаму і быць не магло. А калі і магло, дык не са мной. Мяне прызвалі ў войска менавіта 18 кастрычніка. Акурат у гэты дзень мне стукнула

роўна 18 год, дадаўшы да маёй калекцыі васямнаццатак адразу яшчэ дзве. У гэты памятны дзень адбыліся мае провады разам з адзначэннем дня нараджэння, якое па сумяшчальніцтве стала і днём паўнагоддзя. Як зараз сказала б пра гэта сённяшняя рэклама, два ў адным. Або два па кошце аднаго.

Гэтая лічба 18 пераследавала мяне ўсё жыццё, як хвост сабаку. Я стараўся нешта з ёй зрабіць, неяк перамагчы ці хоць бы паставіць падножку. Але пазней зразумеў, што змагацца з ёй — гэта тое самае, што сабаку ганяцца за сваім хвастом. Толку з гэтага аніякага. А вось высілкаў багата.

Вельмі шмат бедаў і праблем звязаныя ў мяне з гэтай датай. Я ўжо тады пра гэта ведаў. Сябры таксама ведалі, што я ведаю. Толькі смяяліся з мяне. Не верылі, што так можа быць.

— Вось як цябе забяруць у войска 18-га, — смяяўся з мяне адзін аднакласнік, — то тады і я паверу, што гэтая лічба нешта сапраўды значыць і неяк уплывае на твой лёс.



*Галіна Бурко, будучая Сазонава. Дзяўчына, якая дачакалася жаўнера*

Але не паверыў. Хоць мяне забралі акурат у гэтую дату. Да сёння мы з ім сябруем і да сёння ён кажа, што ўсё гэта забабоны.

Провады ў беларускай вёсцы таго часу былі вельмі важнай падзеяй. Ад службы тады практычна ніхто не ўхіляўся. Наадварот. Многія, каго не бралі па нейкіх там прычынах, перажывалі з таго, што не будуць хадзіць роўнымі шэрагамі ў кампаніі такіх жа змучаных рамантыкаў пад апантаныя каманды не заўсёды адэкватнага прагматыка. Перад дзяўчатамі саромеліся, што не залезлі на два гады ў керзавыя боты. Служыць хацелі шчыра. Хоць ужо былі выпадкі, што нехта там вярнуўся з войска калекам праз разгул дзедаўшчыны. А нехта і не вяртаўся зусім. Вайна ў Афганістане ішла поўным ходам. Толькі мы яе тут, у Саюзе, не адчувалі. Савецкая прапаганда туманіла людзям мазгі аповедамі пра нашу мірную інтэрнацыянальную і цалкам бяспечную місію так удала, што адзіна праўдзівыя расказы ветэранаў афганскай вайны здаваліся як мінімум хвалебным перабольшаннем недаспелых юнакоў.

Ну вось і ў маёй роднай вёсцы Гальшаны, што міла прытулілася да маляўнічых пагоркаў у Ашмянскім раёне, у маёй роднай і ўтульнай хаце, у той дзень зайграла музыка і накрытыя сталы заманьвалі гасцей сваімі стравамі ды напоямі. Ідзіце, маўляў, госцікі дарагія, частуйцеся тым, каму што больш даспадобы.

За плячамі заставалася вучоба ў Гальшанскай школе, няўдалая спроба павучыцца ў Мінскім тэхналагічным інстытуце, цікавая праца на адным з ашмянскіх заводаў, матацыкл ІЖ Пранета-Спорт і вольнае жыццё. Побач сядзела каханая дзяўчына, якая гэтак жа, як і я і як і мой бацька, таксама нарадзілася 18-га. Толькі ў іншым годзе і месяцы. Таксама сабраліся сябры, якія, крыху нюхнуўшы гарэлкі (тады юнакі пры дарослых саромеліся піць многа), раўлі, не патрапляючы ў музыку, Уладзіміра Шаінскага:

— Толькі дзве, толькі дзве зімы, толькі дзве, толькі дзве вясны, адслужу, адслужу, як трэба, ды вярнусь…

Кампазітар Шаінскі не мусіць на іх крыўдаваць. Бо мы ў той час на гітарах развучвалі і спявалі на вуліцах песні «Бітлоў». Таксама слухалі Севу Наўгародцава па як казалі тагачасныя ідэолагі, «варожых каналах» і тое-сёе мелі на зацёртых магнітафонных стужках з Уладзіміра Высоцкага. Таму гэтая песня пра салдата выконвалася імі ўпершыню. А, як сцвярджае старая беларуская прымаўка, першы блін заўсёды комам.

Хоць трэба аддаць сябрам належнае: выконвалася песня з неверагодным імпэтам і стараннем. Міхаіл Пляцкоўскі, аўтар слоў гэтай песні, таксама не мусіць крыўдаваць за такое скажэнне тэксту з расійскага варыянта ў бок беларускай мовы. На той час у нашай беларускамоўнай Гальшанскай сярэдняй школе расійскую мову мы чулі даволі рэдка. А ў сем'ях ды на вуліцы яшчэ радзей. Таму добра абыходзіліся неяк сваёй. Зрэшты, я і зараз думаю, што яна, свая, нам значна больш пасуе.

Я чаму так доўга спыніўся на нейкай там песні. Па-першае, каб як мага дакладней перадаць разгульны настрой гэтага перадвайсковага мерапрыемства. А па-другое, быў там адзін хлопец, які стараўся ўсіх пераспяваць ці перакрычаць. Гэта ўжо хай кожны назаве, як каму падабаецца. Роў ён так:

— Толькі тры, толькі тры зімы…

І лічбу «тры» выкрыкваў з усяе моцы, нібыта хацеў, каб яго просьбу пачуў сам міністр абароны ў маскоўскім Крамлі. А справа ўся ў тым, што яму вельмі падабалася мая дзяўчына. Таму так хацеў ён, каб я падаўжэй служыў. Думаў, можа не дачакаецца.

Але яна дачакалася. Таму мая служба праходзіла пад прыемную перапіску з сям'ёй, сябрамі і каханай дзяўчынай. Вось таму, пры ўсіх яе складанасцях и нягодах, я не магу назваць сваю службу вельмі цяжкой. Цяжка, гэта калі тут, у хаце, дзе цябе чакаюць, нешта не так. А што там у войску будзе не так, дык гэта і так было вядома, што будзе не так. Як можа быць так там, куды ты пайшоў не па сваёй ахвоце.

Міністр не пачуў раздзіраючую сэрца мальбу майго знаёмага. Далекавата ад Гальшанаў да Масквы, каб можна было дакрычацца. Нас то і ў Мінску ніхто не слухаў асабліва. І нават у Ашмянах, куды наваспечаных прызыўнікоў прывалаклі напачатку, як дровы, адразу пасля святочнага стала. Там я сустрэў яшчэ аднаго свайго аднакласніка, з якім давялося праслужыць усе два гады побач. А пасля папёрлі ўсіх, як бараноў, у Гародню. Там змучаных, але ўжо працверазеўшых размясцілі ў нейкім на той момант незнаёмым будынку, дзе і пачаліся першыя салдацкія бойкі з толькі што прызванымі на службу іншымі будучымі абаронцамі айчыны. Таўкліся па геаграфічнай прыкмеце. Ліда на Шчучын, Слонім на Гародню і гэтак далей. Пасля адны з другімі мірыліся і нападалі на трэціх.

З чаго яны ўзяліся, тыя бойкі, сам не ведаю. Напэўна, проста ёсць людзі, якія не могуць жыць з неразбітай мордай. Яны то стараюцца разбіць яе некаму, але і ім рана ці позна дастаецца. Так было і гэтым разам. Мы то былі з аднакласнікам. Пабачыўшы ці тое нашу сілу ў сяброўстве, ці тое праўду на нашым баку, яшчэ два хлопцы далучыліся да нас, і парадак быў адноўлены. Стала ціха і можна было крыху паспаць.

Толькі, на маё здзіўленне, гэта не спадабалася старым ваякам звонку, якія сябе ганарова называлі дэмбелямі.

— А што гэта вы тут пазамаўкалі? — здзіўлена запыталіся яны. — А то мы ўжо думалі, што вы тут перадохлі! Ну нічога. Не сёння, дык заўтра перадохнеце. Вам яшчэ служыць ды служыць, духі. Вешайцеся, пакуль не позна, — і рагочуць.

«Што тут робіцца, — падумалася мне. — Нейкая вар'яцкая хата. Як такое войска ваяваць зможа?»

### Купец

А назаўтра з'явіліся «купцы». Так называлі прапаршчыкаў і афіцэраў, якія прыязджалі па навабранцаў для сваіх вайсковых частак. Куплялі як быццам бы нас. Выглядалі яны так, што служыць адразу ўсім расхацелася. Усе сталі марыць толькі пра тое, каб два гады скончыліся сёння і можна было б вярнуцца дахаты нават без вайсковай формы.

Але тэорыя адноснасці вялікага Альберта Эйнштэйна ў галіне скажэння часу не распаўсюджвалася на тэрыторыю савецкіх ваенкаматаў згодна з нашымі жаданнямі. Наадварот. Час запаволіўся так моцна, што, здавалася, стрэлкі гадзіннікаў вось-вось спыняцца зусім і застынуць, як смаркачы ўзімку.

Нас строілі, праглядалі, як цыган коней на рынку, і зноў распускалі. Нейкія паперы перачытвалі. З тых «купцоў» вылучаўся адзін афіцэр, старшы лейтэнант у блакітных пагонах. Адразу было бачна, што з элітных войскаў. Дэсантнік. Трымаўся неяк больш годна ад іншых, быў цалкам цвярозы, і па ўсім выглядала, што ён мае перавагу ў выбары.



*За тры дні да войска*

— Сазонаў, Вярбіцкі, Ганчарук і Дыбуль, да мяне, — загадаў неяк ён, трымаючы ў руках паперы пералічаных асобаў. — А зараз за мной. Правяду з кожным з вас гутарку. Спачатку з усімі разам.

Яго цікавіла ўсё. Дзе вучыўся, за што выгналі, як здароўе, якія погляды на свет… А пасля некалькіх гадзін размоў ён заявіў:

— Вы мне падыходзіце. Усе чатыры. Служыць будзеце ў сакрэтным падраздзяленні за мяжой. У войсках спецыяльнага прызначэння. У спецназе. У Еўропе. Я зараз аформлю ўсе паперы — і заўтра на самалёт. Астатняе даведаецеся па прыбыцці.

На той момант я злавіў сябе на думцы, што мне нарэшце пашанцавала. Прычым двойчы. Ну хто з нас у тыя гады не марыў служыць у дэсанце. Якія рамантычныя фільмы пра хлопцаў у блакітных берэтах паказвалі тады ў кінатэатрах! А яшчэ служыць у Еўропе! Ды няважна дзе — у Польшчы, ці ў Вугоршчыне, ці ў Нямеччыне… Якая розніца. Гэта вяршыня мар для савецкага юнака. Мы ж у Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік жылі. Нашае палітычнае кіраўніцтва сцвярджала, што ў самай шчаслівай краіне. Але адразу на прызыўным пункце стала ясна, што мы жывём у такой краіне, дзе для такіх, як я, каб пабачыць тую «замяжу», вырвацца туды можна толькі на танку ці на якой іншай баявой тэхніцы з аўтаматам Калашнікава ў далонях. Ну вось і пашанцавала. Такая мажлівасць проста з неба звалілася.

Я ўжо замарыў, як вярнуся дахаты ў дэсантным мундзіры з аксельбантамі і буду апавядаць знаёмым пра «замяжу». Як там людзі жывуць і ці такія яны, як мы. Пра ўсё раскажу. Як з парашутам скакаў і пра іншыя рэчы… Але раптам з гэтага рамантычнага настрою мяне абудзіў рэзкі, як бензапіла «Дружба-2», голас усё таго ж старшага лейтэнанта:

— Апошняе пытанне. Забыўся спытаць адразу. Спадзяюся, вы ўсе беларусы?

Трое з нас у знак згоды кіўнулі галовамі. Чацвёрты зрабіў наадварот. Лейтэнант напружыўся.

— А хто вы, рускі? — перапытаў ён у таго.

— Ды не. Я паляк, — адказаў той.

— Гэта ўсё ўскладняе, — прабубніў сабе пад нос афіцэр і рушыў да будынка. Было яшчэ чуваць, што ён патрабуе ў некага тэлефон. А яму тлумачылі, што сувязь кепская і аніякі тэлефон не дапаможа яму звязацца з адрасатам.

«Ну вось і ўсё, — падумаў я. — Скончыўся мой дэсант, так і не паспеўшы пачацца. Шкада».

Старэйшага лейтэнанта не было доўга. Здавалася, што ўжо і не будзе. Так ён паляка напалохаўся, як галазады грыбнік раз’юшанага вожыка. Гадзіннікі зноў пачалі рухацца павольна. А я стаў разважаць пра сваю самую справядлівую Радзіму, якая дзесяць гадоў за школьнай партай даказвала мне, што ў нас усе людзі роўныя. Усе савецкія.

Усе з аднолькавымі правамі. І тут усяго толькі наяўнасць аднаго паляка, такога ж, як я, грамадзяніна СССР, камсамольца і нават не сына дысідэнтаў, даказала адваротнае.

Не ведаю, як там адрэагавалі б на таго паляка наверсе, каб старшаму лейтэнанту ўдалося дазваніцца да начальства. Але ў Савецкім Саюзе ўсё было савецкае. І ваенкаматы, і тэлефонная сувязь, і тэлефоны на абодвух канцах гэтай сувязі. Часам, праўда, дазвоньвацца ўдавалася. Але не гэтым разам.

Старшы лейтэнант з’явіўся заклапочаны, але з прынятым рашэннем.

— Якая ў іх сувязь, — нервова выгукнуў ён, разумеючы, што пад словамі «ў іх» трэба разумець усю вайсковую сістэму ўключна з ім самім. — Добра. Усё адно мне больш няма каго браць. Ды і служыць мы едзем не ў Польскую Народную Рэспубліку, якая таксама ёсць нашым саюзнікам, сябрам і партнёрам, а ў іншую брацкую краіну. Таму збірайцеся. Пара.

І ўжо на наступны дзень самалёт падняў нас з аднаго з айчынных аэрадромаў і панёс у заходнім кірунку.

— Прашчай, нямытая Расія, — пачаў весела і не без падколкаў цытаваць вершык Лермантава той паляк. І замоўк. Вырашыў абмежавацца першым радком.

Дастаткова, маўляў, каб выказаць свае адносіны на гэтую тэму.

Усе засмяяліся. Самалёт набраў вышыню.

### Школа разведчыкаў

Паляка звалі Віктар. Праўда, усю далейшую службу ён лічыў сябе то беларусам, то польскім беларусам, то беларускім палякам. Галоўнае, каб не савецкім. Увогуле, так атрымалася, што ў нашай чацвёрцы аказаліся тры Віктары і адзін Уладзімір. І ніхто не хацеў называцца савецкім. Таму, як кажуць, што СССР развaліў Міхаіл Гарбачоў, не верце. Гарбачова мы тады яшчэ не ведалі, а СССР ужо не хацелі ведаць. Памятаю, што слова «саветы» ці «бальшавікі» ў вуснах майго дзеда гучала як лаянка. Яны выклікалі насцярогу і недавер. І вайсковая служба толькі ўзмацніла гэтае, пакуль яшчэ кволае і неакрэсленае пачуццё.

— Мы прызямліліся ў Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, — праінфармаваў нас старшы лейтэнант. — Цягам наступных трох месяцаў вы пройдзеце падрыхтоўку ў славутай школе разведчыкаў. Пасля пры ўмове, што вытрымаеце ўсе складанасці і цяжкасці нашай спецыялізацыі, вас накіруюць на пастаяннае месца службы ў войскі спецыяльнага прызначэння. Калі наша служба вам будзе не пад сілу, вас перавядуць даслужваць у іншыя часткі. Але зараз вы падпішыце паперы, што цягам дзесяці гадоў нікому не раскажаце ні пра нашу школу, ні пра тое, дзе яна знаходзіцца, ні пра тое, чым яна займаецца. У нас сакрэтная частка. Вашы лісты дахаты таксама не павінны ўтрымліваць аніякай інфармацыі. За адно неахайнае слова можна патрапіць пад трыбунал. Ніхто з вашых знаёмых і нават родных не павінен ведаць ні тое, у якой частцы вы служыце, ні тое, у якой вы краіне.

— Вось табе і раз, — прашаптаў мне на вуха Віктар. — Увесь кайф абламалі. На які чорт патрэбна цярпець усе, як яны кажуць, цяжкасці вайсковай службы, калі гэтым нават пахваліцца нельга.

Школа разведчыкаў аказалася напачатку не такой страшнай, як нам нагаварыў афіцэр. Усё ў ёй падпарадкоўвалася сяржантам. Гэта былі старaслужачыя, і рабілі яны там, што хацелі. Хадзілі з галаўнымі ўборамі на патыліцы, боты гармонікам, а дзяжка значна ніжэй дазволенага месца. Ім здавалася, што гэта вельмі прыгожа і крута. Мне тады падалося, што гэта вельмі смешна і недарэчна. Хоць трэба прызнаць, свой густ на адзенне старaслужачага я бліжэй да канца службы памяняў на іхны.

— Дзе Сазонаў, — пачуў я неяк істэрычны крык аднаго з іх. — Сазонава да мяне! Хутчэй!

Я падляцеў да сяржанта і адрапартаваў як належыць.

— Ты Сазонаў? — спытаў ён.

— Так, — адказваю.



*Разведчыкі*

— Ну табе і пашанцавала, душара, — крычыць ён. — Мне б так у твае гады! Жыць будзеш, як у Хрыста за пазухай. Сяржантам цябе зробім. Застанешся ў школе духаў абвучаць. А ведаеш, у чым прычына?

— Не, — адказваю я шчыра.

— А справа ў тым, што я таксама Сазонаў. Ну, давай, расказвай, адкуль ты.

Але як я расказаў, то сяржант Сазонаў страціў усялякую цікавасць да шарагоўца Сазонава. Справа ў тым, што ён быў з Украіны. І, убачыўшы ў спісах такое, як у яго, прозвішча, вырашыў, што я яшчэ і яго зямляк. Але гэтым разам два ў адным не атрымалася. І ён на сваё месца ў той жа дзень падшукаў хай сабе з іншым прозвішчам, але земляка.

Да прыняцця прысягі ўсё неяк было спакойна. Ну а пасля панеслася. Тады мы зразумелі, пра што казаў старшы лейтэнант. Пра якія такія цяжкасці. Не падмануў. Ганялі нас, як скатоў, падганяючы ўдарамі ботаў і прыкладаў. І хоць ежы было дастаткова, выходзілі са сталовай усе галодныя. Бо нельга было пачынаць есці раней, чым пачнуць усе сяржанты. І заканчваць трэба было тады, як закончыць хоць адзін з іх. А часам было так, што адзін ужо наеўся, а другі яшчэ і не пачынаў. Гэта азначала, што ніхто не пачне.

Але горш за ўсё было са сном. Кожную ноч нас падымалі і штосьці прымушалі рабіць. Часам ажно да ранку. Жылы на руках і нагах паўздуваліся, як у недаваранных індыкоў. А пра пераход у іншыя часткі пачыналі думаць многія. Ужо было не да рамантыкі вяртання дахаты ў блакітным барэце. Перспектывы з гонарам падзерці дэсантную цяльняшку ля вясковага клуба на вачах ва ўсіх калгасных прыгажунь у многіх адыходзілі ў катэгорыю немажлівых.

## Сакрэтнасць

Сакрэтнасць. Вось на чым хацелася б спыніцца падрабязней. Тое, што казаў пра яе старшы лейтэнант, было толькі кветачкамі. Прычым кветачкамі, дастаткова прывабнымі. Пакуль мы былі ў школе разведчыкаў пад наглядам строгіх сяржантаў, мы яшчэ не здагадваліся, наколькі мы сакрэтныя. Хіба што і сяржанты таксама не здагадваліся. А вось як пасля трох месяцаў службы, калі патрапілі ў сваю любімую блакітнаберэтную роту спецыяльнага прызначэння, то зразумелі, што зараз мы ёсць аб’ектамі больш сакрэтнымі, чым маладая каханка першага сакратара ЦК КПСС. Калі яна ў яго была, канешне. Але ж як даведаешся такое? Аб’ект то засакрэчаны. Амаль як мы.

— Вы ўжо прысягу прынялі, і паперы пра неразгалошванне падпісалі, — у першы ж дзень прыбыцця ў нашу частку патлумачыў нам адзін старшы афіцэр. — Таму ўважліва прыслухайцеся да маіх слоў. Зараз вы пачуеце дзяржаўную таямніцу!

Афіцэр зрабіў паўзу і мнагазначным позіркам агледзеў прысутных.

— Гэтага нам толькі не хапае, — смеючыся прашаптаў мне на вуха Віктар. — Хай бы ён трымаў свае таямніцы пры сабе. Я б вельмі хацеў не ведаць дзяржаўныя таямніцы, а таксама каб дзяржава не ведала мае. Такой вось я жадаю з дзяржавай узаемнасці.

— Размовы спыніць, — загадаў афіцэр, пачуўшы наш шэпат. І працягваў: — Па заключаных дамовах паміж Варшаўскім Дагаворам і НАТА, а таксама па дамовах паміж СССР і ЗША такіх частак савецкіх войскаў, як наша ў Еўропе, быць не павінна. Але ж мы ведаем, што капіталістычныя краіны сваю частку дамовы таксама выконваць не збіраюцца. Такая ў іх ілжывая імперыялістычная натура. Таму мы тут. І тут мы сакрэтна.

— Інкогніта, — зноў прасмяяўся мне на вуха Віктар, але гэтым разам цішэй, каб ніхто не пачуў.

А афіцэр працягваў:

— Таму вы ўсе мусіце трымацца рэжыму сакрэтнасці. Ніякіх самаволкаў. Ніякага выхаду ў горад. Ніхто не павінны ўбачыць вашы пагоны. Асабліва дэсантныя эмблемы. Ды і вас саміх. Не наколвайце сабе дэсантныя знакі на рукі і іншыя часткі цела. Па іх вас таксама могуць распазнаць. Сакрэтнасць мусіць быць ва ўсім.


*Нават гэтая форма лічылася сакрэтнай*

Пасля яшчэ цэлага шэрагу загадаў нам зноў далі падпісаць паперы пра таямнічасць.

— Цяпер мы больш засакрэчаныя, чым калгасная каса, — пажартаваў я.

— Як гэта? — перапытаў афіцэр. — Растлумачце.

— Ну, ніхто не ведае пра нас, ні ЗША, ні НАТА, ні мы самі. Як і тое, колькі грошаў у калгаснай касе. Там нават бухгалтар, і нават старшыня калгаса нічога не ведаюць.

Усе жаўнеры зразумелі гэты жарт і разрагаталіся так гучна, што я пачаў прыкідваць, якую кару мне за яго дадуць. Але, на маё здзіўленне, афіцэр задумаўся, пасля падняў палец угору і на поўным сур'ёзе заявіў:

— Вельмі добры прыклад. Як у калгаснай касе! Цудоўна! Ніхто нічога не ведае. Вось так, таварышы байцы. Бярыце прыклад з вашага сябра.

І пайшоў, некалькі разоў прабубнеўшы сабе пад нос: «Як у калгаснай касе». І круціў галавой. Так яму выраз спадабаўся. Пасля ён яго выкарыстоўваў у сваёй прапагандзе.

Я думаў, байцы яшчэ больш разрагочуцца. Але ў іх толькі сківіцы адвіслі ад пачутага і ўбачанага, як у шкілетаў дыназаўраў у музеі юрскага перыяду. А Віктар зрабіў выснову:

— Праўду кажуць, чым больш у войску дубоў, тым мацнейшая наша абарона.

Але, як нас прывялі на тэрыторыю часткі, толькі тады мы ўцямілі, наколькі гэтыя словы актуальныя з дакладнасцю наадварот.

Там адусюль нас ганарова віталі сімвалы паветрана-дэсантных войскаў. Яны былі намаляваныя белай фарбай на чорным пляцы. Прычым такога памеру, што маглі б паспаборнічаць у гэтай намінацыі з малюнкамі наска. Яны былі нанесеныя на боксы з баявой тэхнікай. І іх памеры таксама маглі б даць фору егіпецкім пірамідам ці пабудовам майя.

Паўсюдна хадзілі салдаты ў блакітных берэтах, цяльняшках і блакітных пагонах з дэсантнымі эмблемамі. Яны пераскоквалі туды і назад праз плот нашай сакрэтнай часткі, лазілі па горадзе, весела шчабяталі з чэшскімі дзяўчатамі і нават часам выпівалі з чэшскімі хлопцамі.

Уся баявая тэхніка была размаляваная дэсантнымі эмблемамі. Ды і афіцэры, разыходзячыся праз горад па хатах, не спяшаліся прыкрыць чым-небудзь свае знакі прыналежнасці.

— Таварыш сяржант, — спытаў адзін з нашых у стараслужачага. — А чаму мы не сакрэцімся? Нам жа не толькі паперы на подпіс далі пра сакрэтнасць, але і канкрэтныя інструкцыі.

— Ты што, дух паскудны, мелеш, — вызверыўся на яго той. — Мы дэсантнікі, прыдурак! Дэсантнікі. Дэсантнікі нікога не баяцца. Дайшло?! Каго нам баяцца? Ад каго сакрэціцца? Ды мы ўсіх парвём, нахер! Уцяміў ці не, брыда? А пра астатняе пагаворым пасля адбою, прыдурак.

Нас завялі ў казармы і размясцілі па верхніх ярусах двух'ярусных ложкаў. На ніжнім былі месцы тых, хто праслужыў крыху больш. У казарму ў цяльняшках ганарова зайшлі дзяды.

— Ну што, духі, — заявіў адзін з іх. — Зараз будзем рабіць з вас сапраўдных дэсантнікаў.

І мы ўсе адразу зразумелі, што за адзін толькі гэты вечар мы даведаемся неверагодна шмат цікавага пра савецкую вайсковую службу.

Праз вакно ў промнях сонца блішчаў над КПП вялізны дэсантны сімвал з надпісам «Паветрана-Дзесантныя Войскі СССР».

«Не ведаю, ці бачны ён з тэрыторыі Савецкага Саюзу, — падумалася мне. — Але з статуі Свабоды ў Нью-Ёрку ён бачны напэўна. Нават без адмысловага шпіёнскага абсталявання».

### Дзяды

Усе ведалі, што такія з'явы як савецкае войска і дзедаўшчына пасуюць адно да другога, як кулак да вока. Зрэшты, звычайна ўсе спрэчкі і нязгоды з такой сістэмай так і вырашаліся — кулаком да вока. Кулак звычайна належыў стараслужачаму, а вока, наадварот, маладому байцу. Афіцэры заплюшчвалі на гэта вочы, як сава на сонца.

Хоць існавалі і іншыя, намнога больш эфектыўныя метады прымусу маладых падпарадкоўвацца старэйшым. Як кажуць у іх там, голь на выдумкі хітрая.

Найперш гэта стараслужачыя сяржанты, якія незгаворлівых маладых прымушалі падпарадкавацца шляхам сістэматычнага і бесперапыннага выканання нормаў вайсковага статута. А супраць статута не папрэш. Гэта ж сістэма. Ён — як падбіты танк. З месца не кранеш. Ён, гэты савецкі вайсковы статут, нібыта для таго і быў зроблены, каб адны, не парушаючы яго, маглі нічога не рабіць, а другія, каб яго не парушыць, мусілі рабіць усё. І за першых таксама.


*Дзед*

Усё там было па паняццях. Як у астрозе. У савецкім астрозе. Пра тое мне распавёў адзін вельмі пісьменны саслужыўца, якога выгналі з юрыдычнага факультэта хіба што за тое, як я цяпер думаю, што ён збіраўся прымяняць універсітэцкія веды на практыцы. Ну хто ў Савецкім Саюзе на практыцы прымяняў тое, чаму вучылі ў вышэйшых навуковых установах? Толькі вар'яты. Як яго яшчэ ў псіхушку не запёрлі?.. Каб усе так сталі рабіць, то СССР знік бы яшчэ да нараджэння Гарбачова. Але на той момант мой саслужывец і сам не ведаў, за што яго выперлі. Па паперах то за непаспяховасць.

— А ведаеш, — кажа неяк ён мне, — што пару дзясяткаў гадоў таму дзедаўшчыны ў войску зусім не было?

— Ведаю, — адказваю я. — Мне бацька распавядаў пра сваю службу. Казаў, што стараслужачыя былі для маладых, як старэйшыя браты. І анучы навучаць закручваць на ногі, і ўночы накрыюць, і страляць навучаць, і ад страляніны хавацца…

— І так было, пакуль зэкаў не сталі браць у войска, — перабівае ён. — Раней то іх не бралі. А пасля прыйшоў час служыць дзецям ваеннага пакалення. А дзяцей то тых мала. Вайной не асабліва нараджаць спяшаліся. Таму і прыйшлося браць усіх. Вось зэкі свае правілы жыцця ў войска і прынеслі з астрогаў. І яны тут так добра і хутка прыжыліся, бо ляглі на адпаведную ім глебу. І зараз усе па іх правілах і жывём. Калі так пойдзе далей, то хутка так будзем жыць усюды. І ў цывільным жыцці таксама.

Ну то так і жылі. Варта было аднаму маладому зрабіць нешта не так, як дзяды каралі ўсіх. Прыкладам, ганялі цэлую ноч па спартовым гарадку, як звар'яцелыя сабакі тупых бараноў. А па статуце выглядала, што яны падымалі такім чынам фізічны і маральны дух маладых байцоў. А пасля тыя змучаныя маладыя байцы помсцілі віноўніку, з-за якога нібыта іх і ганялі. Хоць усе добра ведалі, што прычына заўсёды знайшлася б. Так удавалася пераламаць многіх і прымушаць іх быць асабістай абслугай канкрэтнага дзеда. Яго рабом, які і вопратку дзеду мыў, і ежу гатаваў, і ложак засцілаў і нават пісаў лісты яго дзяўчыне. Была ў дзядоў і такая забава.

Ды і збіццё маладых у нас было справай звычайнай і штодзённай. Краіну абараняла войска, дзе салдаты ненавідзелі адзін другога больш, чым верагоднага супраціўніка. Куды той супраціўнік глядзеў у тыя часы? Халера яго ведае. Відаць, ён быў не такі агрэсіўны, як нам распавядалі.

Скараліся не ўсе. Некаторыя кучкаваліся, адбіваліся і бажыліся, што як самі стануць дзядамі, то знішчаць дзедаўшчыну ўшчэнт. Былі і больш радыкальныя спробы.

— Слухай, — кажа мне адзін з апантанымі, як у шалёнага сабакі, вачамі. — Заўтра будзе ўкладка парашутаў. Дзяды загадаюць укласці нам і іх парашуты. Трэба пагадзіцца. А зробім вось што. У кожны з іх парашутаў пакладзём цэглу. Парашут як раскрываецца, то цэглу заганяе па цэнтры купала. А пасля яна роўненька падае на галаву парашутысту, які на стропах боўтаецца, як дзярмо ў шлейках, таксама роўна пасярэдзіне, толькі ніжэй. Уяўляеш, дастаць у небе па галаве цэглай! Гэта ж адразу прамая дарога ў псіхушку. Тут кожны задумаецца потым, ці звязвацца з намі больш ці не.

— Файны план, — адказваю я. — Тут галоўнае не перафанацець, каб незнарок у свой парашут цэглу не ўперці з перапалоху. Таму справа гэта вельмі рызыкоўная, — смяюся.

Іншыя прапановы былі яшчэ больш радыкальныя.

— Давай звяжам стропы таму ды таму, — прапаноўвалі хлопцы. — Або цвікі ў парашут засунем, каб не раскрыўся. Ляснецца аб зямлю, паскуда, як каровіны блін. Туды яму і дарога, гаду.

Прага помсты за здзекі была такая вялікая, што некаторыя марылі, каб нашу роту хоць на дзянёк закінулі на баявыя дзеянні ў Афганістан. Маўляў, там то будзе магчымасць расплаціцца. А падстава то ўжо была.

Толькі вось у чым цікавы парадокс метамарфозы. Час ішоў, і маладыя станавіліся дзядамі. Паступова ў іх распраўляліся плечы, блакітныя берэты перамяшчаліся на паголеную патыліцу, а дзяжкі, дык наадварот, апускаліся пражкай з савецкім сярпом і молатам на тое месца, дзе і месца таму сярпу з молатам. І размовы пра дзедаўшчыну ўжо мяняліся на супрацьлеглыя. У кожнага згодна з яго натурай. Як і ўсё на свеце — згодна з натурай. Ды і не ва ўсіх асабісты інтэлект утрымлівае памяць. Некаторыя з тых, што бажыліся дзедаўшчыну знішчыць, цяпер шчыра сцвярджалі, што ніколі не былі супраць дзедаўшчыны.

— Ды каб не дзедаўшчына, — даводзілі ні то сабе, ні то іншым былыя аматары знішчэння нестатутных стасункаў, — маладыя не тое што страляць, але і анучы на ногі накручваць не навучыліся б. Як яны радзіму абаранілі б, такія нядолі, каб дзяды іх не навучылі. Дзядам трэба дзякаваць за навуку, а не змагацца з дзедаўшчынай.

А некаторыя не залазілі глыбока ў філасофію, а казалі прама на правах зараз ужо мацнейшага:

— Нас трахалі — і мы будзем трахаць. Мы прыслужвалі, хай цяпер і нам прыслужваюць. Прыйдзе і іх час. І на іх век маладых хопіць.

І чамусьці аніякага страху не было, што цэгла на галаву ў паветры зваліцца. Такія ж выпадкі здараліся. Ці што хто-небудзь з маладых уначы перад скокамі стропы перарэжа. Зашмат усё ж для прымусовага войска два гады служыць. Губляецца нават пачуцце самазахавання, не тое што іншыя пачуцці, такія, прыкладам, як справядлівасць.

Але не ўсе дазвалялі з сябе здзекавацца, як былі маладымі, і не ўсе здзекаваліся з маладых, як станавіліся дзядамі. Асоба — яна тым і адрозніваецца ад масы, што не крочыць масавым шляхам.

Не ведаю, ці змагло б савецкае войска існаваць без дзедаўшчыны. Ёсць у мяне два цікавыя фотаздымкі. На адным стаяць у адных трусах маладыя салдаты. Худыя такія, зусім без мышцаў. Глядзіш — і плакаць хочацца. А на другім — дзяды. Крэпкія, моцныя, спартовыя. Хоць як былі маладымі, то былі даволі здохлымі, як куры на савецкай птушкафабрыцы. Метамарфоза відавочная. Ці сталі б яны такімі без дзедаўшчыны, не ведаю. У іншых арміях то ёсць іншыя прычыны стаць добрым жаўнерам. У савецкай — хіба іншых не было, як толькі дзедаўшчына. Таму яе хоць не відавочна, але яўна падтрымлівала камандаванне.

А яшчэ дзедаўшчына ламала людзей. Вяртаючыся дахаты ў савецкую несправядлівасць, многія ўжо былі не змагары. Патрэбная, відаць, была гэтая сістэма ўладзе. Але былі і такія, хто стаў ад гэтага толькі мацнейшым. Асабліва калі адчувалі падтрымку іншых.

**Беларусы**

Што да мяне, то такая падтрымка была. Ад землякоў-беларусаў. І ад сяброў з свайго прызыву, трох Віцяў і аднаго Валодзі, і ад дзядоў-землякоў.

Шмат ад каго чуў, што беларусы ў савецкім войску былі не асабліва дружныя. Маўляў, іншыя неяк гуртаваліся, як птушкі ў зграю, а нашы — дык самі па сабе. Але гэта не пра нашу роту. У нас беларусы былі самымі сяброўскімі хлопцамі. Трымаліся адзін аднаго.

— Хто з Беларусі? — яшчэ ў першы дзень, як да нас зайшлі дзяды, пачулі мы гэтае пытанне. — Крок наперад.

Наша чацвёрка выйшла наперад так бадзёра, як жарабцы да стайні з кабыламі. Па акцэнце было чуваць, што гавораць свае. Беларусы. І нейкі давер да іх адразу, і нейкая надзея, што цяпер то выжывем.

— Вас мы ў крыўду не дадзім іншым прыдуркам, — паабяцаў адзін з старaслужачых беларусаў. — І навучым усяму што трэба. І не толькі вайсковаму. Толькі і вы нас не падвядзіце. Беларусы тут да нас былі найлепшымі, і пасля нас хай так будзе таксама.

І сапраўды, падтрымка адчувалася ў многім. Найперш маральная. І калі нам прыходзілася адбівацца ад кагосьці, то мы добра ведалі, што калі



*Беларусы майго прызыву: Віктар Вярбіцкі, Віктар Сазонаў, Віктар Дыбуль, Уладзімір Ганчарук*

нам і накастыляюць па поўнай праграме, як баксёр у грушу, то да смерці ўсё адно не затаўкуць. Нашы беларускія дзяды не дазволяць. Умяшаюцца, калі трэба, у апошні момант.

Наша баявая падрыхтоўка прадугледжвала частыя лясныя паходы. Як-ніяк мы былі разведчыкі. Дадуць нам які загад — і мы пайшлі па зямлі чэхаў ды славакаў. Пераходы былі доўгімі. Тэстам на выжыванне называліся. Вось нашы беларускія сяржанты і стараліся дамагчыся ад афіцэраў таго, каб у іх камандзе былі мы, землякі. А як яны пайшлі на дэмбель, то ўжо і мы так рабілі. Стараліся быць са сваімі.

А там, у паходзе, як няма начальства ў выглядзе афіцэраў ды прапаршчыкаў, а толькі заставаліся самі, стараліся размаўляць па-свойму, па-беларуску. Нават загады аддавалі па-нашаму.

— Вазьмі мапу, — загадвае сяржант, — зрабі план пераходу з гэтага пункта ў той, і агуч яго нам. Толькі каб па-нашаму.

І вось ужо пачынаюць гучаць геаграфічныя тэрміны «поўнач» і «поўдзень» па-беларуску, гучыць загад «наперад». У такія хвіліны здавалася, што мы не ў савецкім, а ў нашым, беларускім войску. Нават зараз — у войску незалежнай Беларусі — такое наўрад ці сустрэнеш часта. А мы так гэтым тады ганарыліся!

У нашай роце ў беларусаў нават не было прынята грошы ў маладых забіраць. У Чэхаславакіі нам тады крыху плацілі мясцовымі кронамі. На іх можна было таго-сяго набыць, што на вялікай і магутнай радзіме называлася дэфіцытам. Пад гэтае вызначэнне патрапляў пералік хіба што ўсіх тавараў. Вось кожны і хацеў дахаты прывезці багемскае шкло ці кававы сервіз «Чорны прынц» на дванаццаць персон або джынсы ды красоўкі. У Чэхаславакіі гэта дэфіцытам не было. Бяры колькі хочаш. Абы грошы. А дзе іх узяць тыя грошы? Найпрасцей адабраць у слабейшага. У беларускім асяродку такога не было.

Было крыху па-іншаму. Маладыя самі рабілі дзядам падарункі на дэмбель. Не праз страх. Проста былі ўдзячныя землякам за падтрымку і сяброўства. Гэта яшчэ больш гуртавала беларускі асяродак.

Іншыя зайздросцілі нам. Толькі ўкраінцы яшчэ спрабавалі зрабіць нешта падобнае. Але іх было намнога больш у нашай роце, чым беларусаў. І былі і з захаду, і з усходу. Часам не разумеліся паміж сабой. Сварыліся. Даходзіла і да зямляцкіх разбораў з абавязковым прымірэннем, якое канчалася прызнаннем беларускай салідарнасці як прыкладу сапраўднага вайсковага зямляцтва.

А нашы не дзяліліся на ўсходнікаў ды заходнікаў. І хоць далёка не ўсе валодалі роднай мовай, але ўсе ганарыліся, што з Беларусі.

Пашанцавала мне з землякамі ў войску.

### Чэхі

Пашанцавала і з чэхамі.

— З мясцовым насельніцтвам ні ў якія кантакты не ўступаць, — праінструктаваў нас яшчэ «купец», як толькі мы ступілі на чэхаславацкую зямлю. — Гэта строга забаронена.

Тое самае нам, як мантру, неаднаразова паўтаралі ў школе разведчыкаў. І гэтую ж фразу мы пачулі ад замапаліта нашай роты на першых жа палітычных занятках.

— Але чаму? — на гэты раз спытаўся я на правах салдата, які ўжо праслужыў больш за тры месяцы і за гэты кароткі тэрмін даслужыўся да ганаровай воінскай спецыяльнасці «старшы разведчык». — Наколькі мне вядома, гэта брацкі нам народ, які абраў, як і мы, сацыялістычны шлях развіцця і з усяе моцы дапамагае нам будаваць камунізм, ці светлую будучыню, я, папраўдзе кажучы, ужо заблытаўся ў тэрміналогіі. Але дакладна ведаю,



*Чэхаславацкія дэсантнікі*

што нешта такое яны будуюць, што і мы. Так нам на палітзанятках тлумачылі ў слаўнай школе разведчыкаў. Як мне не верыце, то можаце спытаць у іншых выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі, выхаванцаў той славутай школы выпуску 1981 года.

Зампаліт крыху напружыўся, але ніводны мускул твару не выдаў яго разгубленасці. Савецкія партыйныя школы марксізму-ленінізму, трэба аддаць ім належнае, някепска спраўляліся з задачай масава прадукаваць дастойных спадчыннікаў справы Жалезнага Фелікса.

— Так яно і ёсць, — нават не мігнуўшы вокам пацвердзіў ён. — Толькі вось іх грамадства яшчэ не цалкам справілася з задачай ачысткі свайго здаровага грамадскага арганізма ад асацыяльных элементаў, якія, карыстаючыся сваёй блізкасцю да тэлебачання і радыё з капіталістычнай прапагандай, памнажаюць варожыя нам ідэі сярод недастатковa палітычна падкаваных адзінкавых грамадзян. Вось хоць бы адзін прыклад. У 1968 годзе яны паспрабавалі дэстабілізаваць сітуацыю ў грамадстве. Таму, каб не дапусціць ахвяр сярод мірнага насельніцтва, краіны Варшаўскага дагавора вымушаныя былі прадэманстраваць капіталістам усяго свету сваю рашучасць і ўзаемападтрымку ў кірунку адстойвання сацыялістычных ідэалаў і інтэрнацыянальнага духу.

Так мы атрымалі хоць нейкую інфармацыю пра «Пражскую вясну». Я то і раней пра яе чуў па радыёхвалі «Голас Амерыкі». Толькі зараз гэта было акурат на той зямлі, якую, як мы лічылі, мы прыйшлі абараняць ад капіталістычнай агрэсіі.

А вось чэхі, і нават славакі ў бальшыні сваёй менавіта нас лічылі акупантамі. Дзе б мы ні ехалі, ці дзе б ні з’яўляліся на якіх вучэннях са зброяй, паўсюдна нам паказвалі паднятыя ўгору два пальцы як знак вікторыі.

«Мы пераможам», — казалі яны.

Хоць на афіцыйных спатканнях нібыта ўсё было добра, як у двух катоў, пакуль гаспадары ў хаце. А такія кантакты часам здараліся. Аднойчы нас нават у іхны калгас запрасілі дапамагчы прыбраць бручку. Калгасы ж усюды аднолькавыя, дзе іх ні зрабі — паўсюдна бручку збіраюць пасля маразоў. Як казаў мой дзед: «Як зіма, дык сена косяць».

І кармілі нас там добра, і нават шкадавалі. Але, як мы, выканаўшы і на калгасным полі свой інтэрнацыянальны абавязак, ад’язджалі назад і шчыра ад усёй душы прапанавалі, што можам яшчэ прыехаць дапамагчы ім, як трэба, хтосьці з іхных рабочых сказаў, што лепш не трэба. І што лепш бы мы да іх зусім не прыязджалі. І не толькі ў калгас, а ўвогуле. Тады яны самі змаглі б без нашай дапамогі сабраць тую бручку ў належны тэрмін. Так, кажа, раней і было. Яшчэ да вашага прыходу. А зараз, маўляў, і з нашай дапамогай не спраўляюцца.

Нам было па-сапраўднаму крыўдна чуць такое. Мы насамрэч лічылі, што без нас яны прапалі б. Што іх без нас войскі НАТА захапілі б адразу, як мы сыйдзем. І што ім у капіталістычным рабстве прыйшлося б нялёгка.

Эх, як вынікова дзейнічала савецкая прапаганда. Што значыць не мець альтэрнатыўнай інфармацыі. Мы яе не мелі. А вось чэхі мелі. І, збягаючы ў самаволку, я з некалькімі з іх пазнаёміўся.

— Зразумейце нарэшце, што мы самі хочам выбіраць свой шлях. Не навязвайце нам вашага шчасця. Самі яго сабе вазьміце. Жылі ж мы неяк без вас, — сказаў аднойчы адзін з чэхаў. Сказаў без злосці. Вельмі добразычліва сказаў. Таму я і задумаўся.

Я прыпомніў расповеды маіх дзядоў пра тое, як гвалтоўна людзей зганялі ў калгасы, як вывозілі ў невядомым кірунку, як забаранялі ведаць, кім мы ёсць. Успомніў страхі маёй мамы, калі яна была малая. Бо ўвесь час слухала, як яе бацькі шапталіся па начах і баяліся, што сям'ю разлучаць. Што яе бацьку, майго дзеда, абавязкова забяруць. Толькі за тое, што той нарадзіўся ў ЗША ў Нью-Ёрку. Успомніў расказы пра нашых родзічаў, як адмаўляліся, прызваныя ў савецкае войска, пад страхам смерці прымаць прысягу на вернасць савецкай уладзе і як уцякалі яны з камуністычнага раю куды вочы глядзяць.

Я ўжо ў войску зразумеў, пра што казалі чэхі. І не толькі я адзін. Савецкая прапаганда пачала даваць кардынальныя і сістэматычныя збоі. Яна не магла канкураваць з альтэрнатыўнай інфармацыяй.

А аднойчы на нейкіх стрэльбах мы пазнаёміліся з «братамі па зброі». З чэхаславацкімі дэсантнікамі.

— Добрыя вы хлопцы, — сказаў адзін з іх. — Хацеў бы я такіх сяброў мець, як вы. Надзейныя вы.

— І што табе перашкаджае? — спыталіся мы.

— А тое, што вы акупанты. Вы прыйшлі ў 1968-м і знішчылі ўсе нашы надзеі на свабоду. Вы пра «Пражскую вясну» чулі што-небудзь? Вы яе знішчылі.

— Ты лепш думай, як нам сумесна ад ворага адбівацца, калі ён прыйдзе на вашу зямлю, — заявіў хтосьці з нашых.

— А як вораг прыйдзе на нашу зямлю, то мы будзем ваяваць на яго баку. Супраць вас ваяваць будзем, — адказаў той.

І няхай хто хоча зараз сумуе па былой веліччы Варшаўскага дагавора, а я заяўляю як відавочца: ніякага Варшаўскага дагавора не было. Ніколі не было. Ну, ясна, што былі паперы пра яго. Ясна, што на іх распісваліся чырванашчокія пад колер савецкага сцяга генералы сацыялістычных краін і нават галоўнакамандуючыя. Зразумела, што былі рашэнні генеральных сакратароў усіх гэтых шматлікіх камуністычных партый. Але Варшаўскага дагавора па вялікім рахунку не існавала ніколі. Толькі на паперы ён фігураваў. Як і дабрабыт грамадзян СССР, як і поспехі ў будаўніцтве камунізму, як і небывалыя дасягненні савецкай эканомікі… Як і ўся камуністычная ліпа тых часоў.

А былі мы, і былі чэхі. Чэхі хацелі з намі сябраваць гэтак жа, як з усімі іншымі. Мы ж хацелі іх абараняць ад усіх іншых.

І калі я часамі разважаю пра тое, што мне дала служба ў Чэхаславакіі, то адным з галоўных мне падаецца непасрэднае знаёмства ў той час з вольналюбівымі чэхамі, якім надзею на нацыянальную салідарнасць і, як вынік, свабоду дала «Пражская вясна». Гэтае знаёмства завяршыла фармаванне майго светагляду на сітуацыю ў сябе на радзіме. Яксьці і раней было заўважна, што нешта не тое там робіцца. Ну а зараз стаў яшчэ больш відавочны гэты бесперапынны фальш, устойлівы падман і, як вынік, поўны абсурд усяго існавання краіны, якая сама ёсць ворагам сваёй ідэалогіі.

## Абсурд

Войска — усяго толькі адзін з інстытутаў дзяржавы. Не самы горшы, дарэчы. Якая дзяржава, такія і яе інстытуты. Ваякі ж — людзі дастаткова прамыя, як правая лінія роўнастаронняга чатырохкутніка. Ды і не толькі правая. З іншымі лініямі таго чатырохкут-

ніка іх таксама можна параўноўваць з такой жа паспяховасцю, як і з правай. Таму ў савецкім войску было намнога менш, чым у самой савецкай дзяржаве, такіх негатыўных праяў, як фальш або адмыслова прадуманая подласць.

Але вось па паказчыках абсурднасці войска ўпэўнена крочыла ў нагу не толькі з сваімі камандзірамі, але і з перастарэлым палітычным кіраўніцтвам камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Адным словам, левай, левай ды левай… Так шмат левай, што аж заносіла ў левы бок, як на паваротах зайца з прывязанай да хваста пяцікілаграмовай гантэляй.

— Эй вы трое, абодва да мяне, — неяк скамандаваў нашай кампаніі адзін старшы прапаршчык.

Мы рэзка сталі, як глыбока ўкапаныя тэлеграфныя слупы, і не ведалі, як нам выканаць гэтую каманду. Хоць вельмі стараліся.

Я то і раней чуў гісторыі пра канкрэтна такі загад. Але шчыра думаў, што гэта ўсяго толькі трапны анекдот. Аказалася, што гэта рэальная гісторыя, якая стабільна паўтаралася ў розных кутках на неабсяжных тэрыторыях, занятых доблеснай Чырвонай арміяй. Ну, убачыў старшы трох байцоў. А яму патрэбныя толькі двое. Вось так і скамандаваў. Толькі ў нашай гісторыі каэфіцыент абсурду быў яшчэ большы. Бо нас было чацвёра.

Ну а загады падмятаць пляц ад плота і да абеду паўтараліся ўвесь час у розных інтэрпрэтацыях. Аднойчы мне нават загадалі вучыць на памяць статут ад сёмай старонкі да дэмбелю. Прычым было сказана так:

— Сазонаў, ты што, вайсковага статута не ведаеш? Ты чаму, сустрэўшы камандзіра, не перайшоў на страявы крок своечасова, а толькі перад самым маім носам? Дык слухай загад. Будзеш вучыць статут на памяць ад сёмай старонкі і да самога дэмбелю. І каб да заўтрашняга абеду ўсё было выканана! З самага ранку прыйду і праверу.

Да дэмбелю мне заставалася яшчэ паўтара года. Да заўтрашняга абеду — цэлая ноч, якую я вырашыў сумленна прысвяціць здароваму салдацкаму сну, і раніца, каб разабрацца ў тым, як можна выканаць гэты загад. І толькі назаўтра пад вечар камандзір успомніў, што нешта ад мяне хацеў.

— Сазонаў, — грымнуў ён выбуховым басам, зморшчваючы лоб ад успамінання нечага важнага. Было бачна па яго счырванелым твары, што ўчора ён не разлічыў дозу чужой гарэлкі на кілю ўласнай вагі, і цяпер кожная новая думка або стары ўспамін выклікалі ў яго дзікі галаўны боль. — Ты выканаў мой загад? — урэшце ацяліўся ён.

— Так, выканаў, — адказваю я.

— Ну глядзі, — памякчэў крыху камандзір. — І каб больш я цябе не бачыў у барэце на патыліцы. Галаўны ўбор байца — гэта не бабская хустка. Ён прыдуманы не для таго, каб яго насілі як хто хоча, а для камандзіра. Зразумеў?

— Зразумеў!

— Ну то глядзі ў мяне. А то наступны раз загадаю статут вучыць ад вокладкі да старонкі. Будзеш тады ведаць.

Але галоўны абсурд быў не ў гэтым. З такімі камандамі нават весялей было жыць. Сапраўдны абсурд надыходзіў тады, калі ў роту прыязджала праверка. Як заўсёды — нечакана. Ці, як казаў мой сябра яшчэ на прызыўным пункце ў Гародні, інкогніта. Пра той нечаканы тайны прыезд ведалі мінімум за тыдзень. І гэты тыдзень ператвараўся ў пекла і для жаўнераў, і для афіцэраў. Поўны алярм.

Здавалася б, дзеля чаго прыязджаюць праверкі. Адказ відавочны: каб праверыць боегатоўнасць вайсковай баявой адзінкі. Ну то трэба хіба што падцягваць недахопы ў гэтым кірунку. Кепскіх стралкоў трэніраваць у стральбе, напрыклад. Кепскіх шафёраў падвучыць ездзіць, хіба што.



*Фота дахаты*

Але ж усё было наадварот. Страляць зусім перасталі. А пачыналі ўсё мыць, чысціць і фарбаваць. Дэсантныя эмблемы — у блакітны колер, падлогу ў казармах — у чырвоны, траву на газонах — у зялёны… І ўсе сумленна выконвалі гэты абсурдны загад. Нават калі была цяпер залатая восень і трава ўжо мусіла быць жоўтай згодна з спрадвечнымі законамі прыроды, якія, вядома, узніклі нашмат раней, чым вайсковыя праверкі.

Але найабсурднейшымі былі трывогі. Іх таксама абвяшчалі нечакана. Камандзір так і заявіў аднойчы:

— Таварышы байцы. Заўтра раніцай роўна ў пяць гадзін дваццаць пяць хвілін, ні хвілінай раней і ні хвілінай пазней, адбудзецца нечаканая баявая трывога. Да нас завітае генеральская праверка, каб праверыць, як мы тут навучыліся ваяваць. Таму мы — як элітная частка Цэнтральнай групы войск Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — мусім паказаць нашу баявую вывучку толькі на выдатна.

Таму слухай мой загад. Байцам да гэтага часу трэба быць апранутымі і з зброяй у руках. А то яшчэ пазатоптваеце адзін другога ў мітусні. Адладжаны выхад з казармаў адрэпеціраваць сёння ўдзень. Каб на памяць ведалі, хто за кім выходзіць. Іншае таксама адшліфаваць, як мармур на маўзалеі.

Асабістую зброю вычысціць, каб блішчала, як яйцы ў ката. Камандзіры ўзводаў адказваюць за гэта галавой. І нават тым, што ў ката блішчыць.

Цяпер таварышы афіцэры. Сёння ўночы дахаты не едзеце. Начуеце нарэшце з салдатамі ў казармах. Як на вайне. Толькі глядзіце, каб праверка вас не заўважыла. На пляц прыбываеце праз столькі часу, колькі займае дарога ад вашага месца начной дыслакацыі да баявой часткі. Да заўтра праверце, колькі гэта часу займае. Не выскачыце раней, як чорт з кустоў, а то стане відавочным, што вы былі праінфармаваныя пра нечаканую трывогу.

І галоўнае. Баявая тэхніка. Мінулы раз у некаторых машынах нават бензіну не было заліта. А што, калі б сапраўдная вайна пачалася?! Таму заліць на ўсялякі выпадак поўныя бакі. Можа, нарэшце пачнецца.

Яшчэ з вечара запусціць рухавікі і хай працуюць цэлую ноч. А то чаго добрага зранку не завядуцца. І як пачуеце сігнал баявой трывогі, роўнымі калонамі высунуцца ў належнае месца без мітусні і панікі.

Запомніце. Кожнае ваша дзеянне будуць правяраць з секундамерамі. Таму трэба ўсім укласціся ў нарматыў. І глядзіце, каб ніхто не даведаўся, што вы ўжо ведалі пра нечаканую баявую трывогу. А то яшчэ ляпніце чаго не таго, як вас будуць распытваць.

Гаварыў ён гэта так таямніча, што нават свабодныя конікі на газонах і вольныя мухі ў казармах пакорліва прыціхлі. Што ўжо было казаць пра нас, паднявольных. Мы былі ўпэўненыя, што не ўдарым брудам у твар, як любіў выслаўляцца наш ротны старшына. А яшчэ ён у такіх сітуацыях любіў паўтараць:

— Ну вось табе і на! І навошта нам гэта? Лепш бы вайна!

Ну а мой сябра Віктар, як заўсёды, нагнуўся да майго вуха і прашаптаў сваю знакамітую фразу:

— Толькі гэтага нам не хапала!

Гэты прамежкавы загад быў выкананы дасканала. Усе старанна рыхтаваліся да нечаканай баявой трывогі і чакалі яе з усім падораным натурай цярпеннем. Адпрацавалі

выхад з казармаў, ляглі спаць апранутыя з аўтаматамі ў руках і мацернымі фразамі на вуснах. Афіцэры таксама затаіліся ў казармах, як мышы пад венікам.

Найгорш было з тэхнікай. Яна ў адрозненне ад нас на пляцы не стаяла, як камандзір аддаваў загады. Таму хіба іх не чула і аніяк не хацела іх выконваць. Але і яе завялі ўжо глыбокай ноччу, а шафёры засталіся начаваць у яе ўтульных кабінах пад рытмічную песню баявых рухавікоў.

Усё было гатова калі не да вайны, то да нечаканай баявой трывогі дакладна.

Але ўсё пайшло з дакладнасцю наадварот. З усяго задуманага спрацавала толькі такая доўгачаканая нечаканая трывога. Яна нечакана зараўла роўна ў 5 гадзін 25 хвілін, ні хвілінай раней і ні хвілінай пазней, як і было прадказана камандзірам. Хоць ты яго ў экстрасэнсы запісвай. Ну а далей пайшло па законах подласці.

Жаўнеры, якія цэлую ноч не спалі, чакаючы нечаканай баявой трывогі, пазасыналі салодкім маладым сном акурат за некалькі хвілін да яе жудаснага і невыноснага гвізду. І, папрасынаўшыся, у мітусні аніяк не маглі прыйсці да сябе і зразумець, чаму яны апранутыя і навошта ў іх руках баявая зброя.

Афіцэры пастроіліся на пляцы ў тры разы хутчэй, чым маглі даехаць да пляца з сваіх хат.

Ну а баявая тэхніка пры спробе выезду з боксаў стала глухнуць і перакрываць рух той, што яшчэ працавала.

Увесь абсурд сітуацыі ў тым, што, каб трывога сапраўды прагучала нечакана, усё прайшло б значна лепш. Думаю, што нават на выдатна. Мы ўсё ж сапраўды былі элітнымі часткамі і шмат трэніраваліся. І ўсё раней на нашых трэніроўках праходзіла без праколаў. Ну навошта было папярэджваць, калі нечаканая трывога будзе? Навошта чакаць нечаканае?

Але правяральшчыкі таксама хіба праспалі нечаканую. Бо так і не з'явіліся. Прыехалі толькі праз некалькі гадзін. Выслухалі даклад, як у нас усё было цудоўна, убачылі чыстыя казармы, свежапафарбаваную тэхніку, падлогу і траву і засталіся задаволеныя, як чэрці чаркай.

Ну і нашы камандзіры таксама балі задаволеныя пастаўленымі ім адзнакамі, як вядзьмаркі п'янымі чарцямі. І чорт з ёй, той нечаканай баявой трывогай.

А колькі было абсурдных сітуацый, калі ты проста не можаш зразумець, што ад цябе хочуць. І тыя, што хочуць, хіба таксама не да канца разумеюць чаго. Вось аднойчы прычапіўся да мяне адзін палкоўнік з пытаннем:

— Што такое куст?

— Куст — гэта куст, — адказваю.

А ён як разышоўся, як свіння на дождж. Крычыць, як гэта старшы разведчык не ведае, што такое куст. Я яму тлумачу што я з вёскі і сам тыя кусты садзіў і высякаў. Як гэта — я не ведаю. А ён сваё нясе, маўляў, кепска разведчыкаў рыхтуюць.

Затое, як вярнуўся з войска дахаты, у нашай вёсцы ведаў толькі я адзін, што такое куст. Гэта не сакрэт. Таму дзялюся, які адказ хацеў пачуць ад мяне палкоўнік. А куст, аказваецца, гэта не тое, што мы думаем. Цытую: «Куст — гэта сукупнасць сукоў і галузаў, з лістамі летам і без лістоў зімой, якія тарчаць з зямлі з аднаго месца».

Вось так во. А яшчэ я тады даведаўся, што куст, аказваецца, служыць. Раней я думаў, што служаць жаўнеры. Так палкоўніку і сказаў. А ён мне раскрыў таямніцу, што куст таксама служыць для маскіроўкі, прыстрэлу, арыентацыі на мясцовасці і яшчэ для шэрагу вельмі патрэбных рэчаў.

Ну, а як скончалася трывога, можна было пачынаць здымаць стрэс і прыдумляць для сваёй шырокай дэсанцкай душы якую-небудзь іншую вясёлую забаву.

### Вольны час, або Салдацкія забавы

У афіцэраў свае забавы, у жаўнераў — свае. Салдацкія забавы па-вайсковаму называліся «вольны час». І мелі задачу даць жаўнеру адпачыць ад цяжкасцяў вайсковай службы. Цяжкасці ў службе былі вялікія, але яны не маглі перамагчы маладосці з яе прагай да забаў і весялосці, гарэзаў ды жулікаватасці. Зразумела, што для чалавека паднявольнага найлепшая забава — гэта гарэлка. Ці што-небудзь з гэтай серыі для затуманьвання мазгоў. Салдату ж думаць забаронена. Гэта факт. Ён мусіць выконваць загады не думаючы. Але і сродкі для адключэння мазгоў яму таксама забаронена ўжываць. Яшчэ адзін парадокс сістэмы. А калі яшчэ служыш за мяжой, у звышсакрэтнай частцы, ды пад пільным і несупынным кантролем вайсковага кіраўніцтва, такая забава ў нас выпадала даволі рэдка.

Ну, бывала, з палучкі, як тады яе называлі і ў войску, і на волі і якую ў дэсанце плацілі значна большую, чым другім салдатам, жаўнерам удавалася адкласці пару чэхаславацкіх крон на дурманячыя напоі. А пасля весела, як і належыць слаўным гвардзейцам-дэсантнікам, нікога нарэшце не баючыся — ні лютых ворагаў, ні сваіх камандзіраў, — паспяваць перарobленую на той момант папулярную песню: «Мільён, мільён, мільён чэшскіх крон…».

Ці як было наведаць сталіцу найлепшага ў свеце піва і не паспрабаваць максімум яго гатункаў? А пасля слаўна паванітаваць ля дзвярэй камандзіра роты. Пра што тады расказваць сябрам, як дахаты вернешся?! Усё ж астатняе нібыта сакрэт. Расказваць нельга. Падпіску давалі. Зрэшты, калі служба ў каго была абы-што і няма чаго расказваць пра яе, то тады трэба так і гаварыць:

— А вось я пра сваю службу распавесці нічога не маю права. Падпіску даваў.

І калі гэта сказаць такім таямнічым, як у ахрыплай савы, голасам, то станоўчы эфект на захмялеўшых слухачоў, а тым больш на слухачак забяспечаны. Паспрабуйце якнебудзь. Не пашкадуеце. Толькі яшчэ выраз твару пры гэтым павінен быць задуменны і пакутлівы.

А піва ў Чэхаславакіі было нічога сабе. Не такія памыі, як у Саюзе. Ну, бывалі яшчэ выпадкі, калі ўдавалася па выхадах памяняць свой дэсантны сухпаёк на чэшскае самаробнае віно. Файнае, зараза! Умеюць рабіць. Гаспадарлівыя яны там.

Ну, хадзіла неяк паўроты стараслужачых жаўнераў з чорнымі языкамі, калі ротны пісар атрымаў вялікую партыю чарніла на спіртавой базе. Дрэнь паскудная. Во жа дзе гадасць. Але ў нас такія забавы былі вялікай рэдкасцю.

Што ратавала, дык гэта гітара. І песні пра саміх сябе каханых: «Якія ў нас цяльняшкі ды берэты, падобныя да колеру нябёс». Аж цяпер слязу прабівае. Ці: «АН-12 хуткасць набірае…».

Толькі, як віртуальная муза пачынала надакучваць, а інтэлект не быў прытуплены дурманам алкаголю, народ пачынаў дзічэць. У добрым сэнсе гэтага слова. Возьмуць якому маладому і зробяць «ровар». Справа не хітрая, але эфектыўная. Як той засне, засунуць яму паміж пальцаў ног вату, падпаляць і чакаюць, пакуль яна датлее да нагі. Бядак праз сон пачынае так махаць нагамі, нібы на ровары едзе. Ды з такой хуткасцю, што ўсе чэмпіёны далёка ззаду пыл глыкаюць. А народ у казарме рагоча як дзеці.

Бывалі і больш жорсткія задумкі. Яшчэ ў школе разведчыкаў прывязалі маладыя адзін канец доўгай парашутнай страпы да бота сяржанта. А другі наматалі, пакуль ён салодка спаў, на яго мужчынскую вартасць. Што той сніў, пакуль прывязвалі, засталося таямніцай. Але ўсміхаўся праз сон вельмі рамантычна. Зусім тады не быў падобны да нашага суровага сяржанта, якога мы прывыклі бачыць штодзень. Ну а пасля яму гэты бот лясь на морду.

Той ускочыў і як зараве:

— Якія скаты на мяне бот кінулі? Пазабіваю, паскуды!

А пасля хапае гэты бот і з усяе сілы кідае яго ў першага, каго бачыць. Страпа нацягнулася і як рванула за тое, што было на другім канцы прывязана, — мы думалі, больш у сяржанта салодкіх сноў ніколі не будзе. Але абышлося. Толькі гаспадар бота некалькі метраў за ім ляцеў з хуткасцю спрынтара, пакуль не дагнаў. Так маладыя забілі двух зайцаў. І сяржанту адпомсцілі, і пацешыліся ад душы.



*Вольны час*

Але самыя вясёлыя забавы прыдумвалі дзяды. Возьме які з іх ды ляжа на другі ярус ложка ля вакна і ў вакно глядзіць.

— А ну пакажыце мне, як я на дэмбель дахаты еду, — крычыць ён маладым.

А тыя ўжо ведаюць свае ролі. Некалькі хапаюцца і ложак раскочваюць, нібыта дэмбель сапраўды ў вагоне едзе. Іншыя хапаюць сукі, слупы і іншыя прадметы і лётаюць за вакном. І як ляжыш на тым ложку ды глядзіш у вакно, то складаецца ўражанне, што едзе цягнік, а за вакном праплываць дрэвы, слупы і іншыя атрыбуты роднага пейзажу.

А дзяды цешацца тады. Глядзіш, ужо і іншыя на дэмбель паехалі. У госці адзін да другога заходзяць у вагоны…

Якія там шашкі ці шахматы могуць з гэтым параўнацца ў войску! Хоць і ў такія гульні таксама гулялі.

Найцікавейшая забава ў нас была падкалоць чым-небудзь афіцэра ці прапаршчыка. Ідзе прапаршчык, а жаўнер сядзе задуменна на лаўцы і робіць выгляд, што не бачыць таго. А прапаршчык ніколі не пройдзе проста так, абавязкова прычэпіцца:

— Таварыш яфрэйтар, а вы чаму нічым не занятыя?

— Як гэта не заняты, — адказвае яфрэйтар. — Я заняты ўсе 24 гадзіны ў суткі і так кожны дзень!

— А дазвольце даведацца, чым гэта вы занятыя зараз? — не супакойваецца прапаршчык.

— Ну як чым, — чуе ў адказ. — Дэмбелю чакаю.

І колькі разоў не паўтарай гэты трук, прапаршчык заўсёды на яго патрапіць. Як рускія з граблямі.

Або падвесці размову з афіцэрам так, каб сказаць:

— Ай, таварыш лейтэнант! Мне то засталося служыць яшчэ тры месяцы, а вам тры месяцы і дваццаць тры гады.

Афіцэры тады чамусьці сыходзілі і не працягвалі размову. Можна было крыху адпачыць ад загадаў, якіх у нашых афіцэраў было, як у рускіх ракет.

Лісты на радзіму — гэта святое. Нават дзяды маладых не чапалі, калі тыя чыталі або пісалі лісты. Большага і лепшага адпачынку для жаўнера не трэба. Лісты ад маці, бацькі, родных, блізкіх, сяброў, каханай… Асабліва калі добрыя лісты.

Ну і, канешне, самаволка. А вось пра яе пісаць падрабязна не буду. Пра сябе пісаць не хачу. А пра іншых нічога не ведаю. Вось дзе сапраўды звышсакрэтная справа.

## Служба

Не ведаю чаму, але я вельмі задаволены тым, што служыў у войску, што служыў менавіта ў тых войсках, дзе служыў, і што гэта было ў Чэхаславакіі. Я заўсёды выступаў і выступаю за прафесійнае войска. У першую чаргу таму, што паважаю свабоду кожнага чалавека і лічу, што ніхто не мае права ў мірны час забіраць у яго два гады жыцця і нават два дні, калі ў яго на гэты перыяд ёсць іншыя планы.

Чаму ж тады я задаволены? Можа быць, таму, што ў той час, каб не было, як яго называлі, усеагульнага пачэснага абавязку служыць у войску, я б туды і так пайшоў. На нейкі час. Можа, нават на большы, чым прыйшлося. Можа, на меншы. Зараз сказаць цяжка. Але калі адкінуць увесь той негатыў, які суправаджаў жаўнера ў савецкім войску, і прыпомніць усё добрае, то часам хочацца і паўспамінаць.

— Зараз ваша вайсковая спецыяльнасць называецца «старшы разведчык войскаў спецыяльнага прызначэння», — сказаў мне камандзір узвода, гледзячы на свежы запіс у маім ваенным білеце. — Скарочана — спецназа. Вайсковы код 0018.

«Зноў гэтыя васямнаццаткі, — падумаў я. — Вось жа прычапіліся. Толькі на гэты раз з двума нулямі наперадзе».

— Два нулі наперадзе азначаюць звышсакрэтнасць, — нібыта прачытаўшы мае думкі, працягваў афіцэр. — Адзін нуль — гэта ўжо сакрэтна. Два — гэта вельмі. Як вы думаеце чаму? Адказваю. Таму што вы атрымаеце такія веды і навыкі, што ворагі не павінны ведаць, што вы іх маеце.

Папраўдзе сказаўшы, нічога сакрэтнага мне за два гады так і не расказалі, акрамя паказу зноў жа няведама чаму засакрэчаных фільмаў Галоўнага Разведвальнага Упраўлення Генеральнага Штаба пра дзейнасць кітайскага спецназа і іншых спецназаў на свеце. Зараз гэта можна паглядзець хоць у якім амерыканскім баевіку. Відаць, усё тая ж параноя сакрэтнасці. А ў рэальнасці нас вучылі знаходзіць і знішчаць ракеты сярэдняй дальнасці «Ланс» і «Першынг».

— На такіх ракетах можа быць ядзерная зброя, — тлумачыў нам інструктар. — Таму вы разумееце, што мусіце быць дасканалымі.

На тэарэтычных занятках мы вывучалі, у што апранутыя жаўнеры войскаў НАТА, якія ў іх апазнавальныя знакі, павінны вызначыць былі адразу, што за баявыя адзінкі, якія мы бачым, і асабліва тыя, што нас цікавяць. На памяць ведаць, колькі ў іх чалавек, сістэму аховы і нават структуру кухні. Ведаць пра іх усё.

На практычных занятках гэта быў рух. Рух, рух і рух… Бягом, паўзком, на каленях, прыгнуўшыся, коцячыся, але ўвесь час рух. Толькі пачынаўся дзень і на кожнай ранішняй зарадцы — бег. Пасля спартовы гарадок — і зноў бег. Сняданак — і папаўзлі. У снезе, у балоце, у вадзе, дзе ні прыйдзецца — мы паўзём. Нават калі калены і локці працерлі да крыві. Тады яшчэ больш вучымся поўзаць так, каб яны не праціраліся.

І зноў бяжым. Цяпер ужо з поўнай амуніцыяй. А пасля крадземся на паўсагнутых нагах. Называецца — бязгучная хада. Разведчык мусіць хадзіць цішэй, чым вясковы кот пры спробе ўкрасці з стала катлету. Страшна баляць мышцы на нагах. Але ўсё адно вучымся так хадзіць. Пакуль не навучымся так, каб мышцы не балелі.

А пасля маскіроўка.

— Вы мусіце ўмець маскіравацца так, каб той, хто бачыць, як вы хаваецеся, падумаў, што ён памыліўся. Што яму здалося, што вы былі тут. Ён мусіць хадзіць па вас нагамі, шчупаць вас рукамі, тыкаць у вас зброяй і вас не заўважаць, — тлумачыў інструктар.

Я думаў, ён гаворыць метафарамі. Але ж не. Прафесіяналізм узрастаў з кожнымі заняткамі. І вось я бачу, як мой напарнік маскіруецца на дрэве. І вось я яго больш не бачу.

Я шукаю яго на дрэве, але яго няма. Я не веру вачам сваім. Я думаю, ён пералез на другое дрэва. Але ён не пералазіў. Ён адкрываецца там, дзе я глядзеў, але не бачыў.

І вось ужо ён шукае мяне ў траве. Ён наступае мне на руку і ідзе далей. Ён не знаходзіць мяне.

— Добра, — кажа камандзір. — А цяпер ідзём праз лес, у якім паўсюдна расстаўленыя міны і сігнальныя расцяжкі. Ідзём уночы. Ні адна з іх не павінна спрацаваць. Хоць адну не заўважыце — і ваша разведгрупа ў лепшым выпадку загіне. У горшым — вы трапіце ў палон. Вы іх мусіце ўсе выявіць.

Але яны ўзрываюцца. Вучэбныя, канешне. Не баявыя. Але таксама непрыемна. А мы ўсё ходзім з ночы ў ноч, як вясковыя бабнікі. А яны ўзрываюцца, як нервы мужыкоў, ваkол жонак якіх тыя бабнікі круцяцца. Толькі ўжо радзей узрываюцца. Радзей з кожным разам. І вось мы адчуваем кожную расцяжку. Мы ідзём па замініраванай мясцовасці — і ўсё ціха. Міны застаюцца ззаду.

— А цяпер пераход зялёнай лініі. Так мы называем лінію фронту, — тлумачыць інструктар. — Мясцовасць там можа быць розная. Таму вы павінны навучыцца…

— А цяпер навучымся правільна рабіць засаду…

— А зараз будзем браць языка…

— А гэтым разам рэпетуем дыверсію на чыгунцы…

— Цяпер навучымся назіранню. Быць назіральнікам вельмі складана. Спачатку тэорыя. Калі разведчык назірае нейкі доўгі час, у яго пачынае, як мы кажам, замыльвацца вока. Ён можа не заўважыць відавочнага. А можа ўбачыць тое, чаго не было. Каб гэтага не здарылася, трэба…

І зноў бяжым. Вучымся адрывацца ад праследу. Пасля вучымся праследаваць. І бяжым. Адна група праследуе другую. І абавязкова мусіць дагнаць. Другая — абавязкова мусіць уцячы. Назаўтра групы мяняюцца месцамі. І зноў пабеглі.

Зброя больш не перашкаджае. Прывыклі. Нічога не перашкаджае. Прывыклі. Галоўнае — выканаць загад. Прывыклі. Для гэтага ёсць таксама заняткі. З табой працуюць псіхалагічна. Прывыклі.

Фізічная падрыхтоўка, спартовы гарадок, рукапашны бой, нож, лапатка, стральба з аўтамата… Кепска адстралялі. А нельга прамазаць ні разу.

— У разведчыка не бывае часу на другі стрэл, — кажа камандзір. — Заўтра зноў страляем.

— Заўтра нядзеля, вольны дзень, — папраўляем мы недасведчанасць камандзіра.

— Нядзеля для тых, хто ўмее страляць. У вас жа няма заўтра нядзелі, — адразае ён.

Патронаў не шкада. Іх мноства. Зямля засыпаная гільзамі. Дасведчаныя ў стральбе афіцэры ўказваюць на памылкі. І вось ужо ўсе мішэні падаюць. І стаячыя, і бягучыя. Цяпер стральба з пісталета…

І так штодзённа. Ты пачынаеш разумець, чаму гэтыя войскі называюцца элітнымі. Ты пачынаеш хацець служыць толькі там. Ты пачынаеш ганарыцца, што там служыш. Ты хочаш ганарыцца, што там служыў…

Скокі з парашутам. Ну хто не хоча хоць раз скочыць з парашутам! Думаю, што толькі тыя, хто наскакаўся. Сапраўды, зямля зверху надзвычай прыгожая. Неверагодна прыгожая.

— Гэта таму, — тлумачыць мне адзін вельмі талковы прапаршчык, — што вы развучыліся з-за мітусні бачыць прыгажосць з зямлі. З зямлі зямля яшчэ прыгажэйшая, чым зверху. Прыгледзьцеся як-небудзь.

— Парашут для спецназаўца — гэта толькі ўсяго адзін з спосабаў даставіць вас у належнае месца, — навучае інструктар. — Але важны спосаб. Вы мусіце прызямліцца дакладна ў тое месца, дзе задумана. Калі ж не, то ў лепшым выпадку група гіне. У горшым — палон.



*Служба*

Скакаць хацелі ўсе. Горш з укладкай парашутаў. Нудная справа. Гэта — як у дзяцінстве катацца на санках. З'ехаць з гары — добра. Цягнуць санкі назад — нудна.

А вось скакаць цікава. Гэта зусім не страшна. Ніхто не адмаўляўся. Гэта самы цікавы і самы лёгкі занятак, якому нас навучалі ў войску. Ехаць на скокі было для ўсіх ледзьве не святам. Самалёт падымаецца ў неба, а за тваімі плячамі найлепшы сябра дэсантніка — парашут.

Я, як ляцеў самалётам з Прагі ў Мінск пасля заканчэння службы дахаты, упершыню адчуў пачуццё страху, як падняўся самалёт. Я не мог зразумець, у чым прычына. Я ж дэсантнік! Я столькі разоў падымаўся ў неба на самалёце і нават скакаў з яго. Дык у чым справа? А пасля зразумеў. За плячамі не было парашута. І да сёння не магу зразумець, чаму пасажырам самалётаў не выдаюць парашуты. Хоць бы для прыліку. Ім не будзе страшна лятаць.

З самалёта мы скакалі з радасцю. Але як прызямліліся, то адразу пабеглі. Бо няма такога загаду, каб толькі скочыць з парашутам. Гэта не спартовы парашутны клуб. Загад ёсць нешта зрабіць. А скок — гэта ўсяго толькі адзін з спосабаў дастаўкі спецназаўца. І вось мы ўжо бяжым, паўзём, ціха абмінаем варожыя сакрэты, назіраем, карэктуем дзеянні і выконваем загад.

— Таварыш палкоўнік, — дакладваем мы старшаму афіцэру, які прыехаў праверыць, як дзейнічала група. Прыехаў на месца выканання задання. Не чакаў, калі мы вернемся. — Разведгрупа заданне выканала.

— Віншую вас з выкананнем задання, — прыкладвае палкоўнік руку да брыля фуражкі.

— Служым Савецкаму Саюзу, — бадзёра адказваем мы.

Нібыта ўсё цікава, рамантычна і нават захапляльна. Каб не гэтыя словы, што калі разведгрупа памыляецца, то ў лепшым выпадку яна гіне, а ў горшым — патрапляе ў палон. Гібель групы называўся лепшым выпадкам. Нас як бы замбіравалі на гэта. Галоўнае — каб у палон не патрапілі. Гібель — гэта лепшы выпадак! Не самы горшы! Не такі ўжо і кепскі! Самы лепшы! А вось палон… Жыццё савецкага жаўнера нікога не цікавіла. Ніколі. Цікавіла толькі, каб ён мог выканаць канкрэтны загад.

Не ведаю, як з гэтым у іншых арміях свету. Ці там гэтак жа, як у савецкім войску, не вучаць, як выжыць пасля выканання задання. Не ведаю, як цяпер у войску незалежнай Беларусі. Не спецыяліст па войсках. Але што тычыцца нас, то мы ўсе, хто служыў, яшчэ тады заўважылі, што нас вучаць прыйсці, куды трэба, і зрабіць тое, што трэба. На вучобу, як нам вярнуцца назад або як проста выжыць пасля выканання загаду, ніхто не губляў часу. Хоць усім відавочна, што калі разведгрупа выканала заданне, то яна сябе выявіла. Яе цяпер шукаюць. І знойдуць. Для гэтага ёсць адмыслова навучаныя спецыялісты. Як іх абдурыць, нас не вучылі.

Відаць, савецкіх вайсковых спецыялістаў не асабліва цікавіў лёс ужо выкарыстанай групы. Трэба будзе выканаць іншае заданне — пойдзе іншая група. Салдат у Саюзе багата. І калі глянуць на гісторыю, то так у СССР было заўсёды. Ну а калі нейкім цудам разведгрупа вярталася з тылу ворага, то імі адразу пачыналі займацца спецыяльныя органы і высвятляць, ці не перавербавалі іх.

Напэўна, гэта была частка савецкай ваеннай дактрыны. Заўсёды ваяваць людзьмі, колькасцю, мясам.

Але як бы там ні было, хоць у нашай роце жаўнеры здзіўляліся гэтаму і задавалі пытанні афіцэрам, усе гатовыя былі выканаць загад, калі гэта спатрэбіцца. Афіцэры толькі паціскалі плячамі і казалі:

— Ну вы ж ведаеце, што на кожнае заданне мы пойдзем з вамі разам. Камандаваць групай будуць афіцэры. Таму наш лёс будзе аднолькавы.

Яны таксама пра гэта думалі. І таксама, як і мы, а можа і больш за нас, былі гатовыя выканаць кожны загад.

### Заключэнне

Шмат чаго пра войска расказаць яшчэ можна. І пра што гаварылі ў нашай роце, як памёр Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў, і як мянялася сітуацыя ў войску, як быў прызначаны Юры Андропаў, новы кіраўнік самай вялікай у свеце краіны, якая, яшчэ гэтага не ведаючы, дажывала сваё апошняе дзесяцігоддзе. І як наш прызыў адзначаў сто дзён да дэмбелю. І як зразалі з парашутаў стропы, каб зрабіць дэмбельскія аксельбанты. І як у нас шукалі дэмбельскія альбомы, каб мы не вывезлі з войска аніводнага фотаздымка. Мы ж сакрэтныя. І як уцякалі ад патруля, і як даганялі цягнік, і пра кур'ёзы ў паветры, і пра супрацьстаянне, і пра сяброўства, і пра подласць, і пра самаахвярнасць… Шмат чаго. Паперы не хопіць. Хоць і кажуць, што папера ўсё сцерпіць, але і яе паважаць трэба. Ці хоць бы берагчы.

Хочацца толькі сказаць яшчэ вось пра што. Успамінаецца мне гэта часта. Таму хіба гэта важна.

Вярнуўшыся з войска дахаты, я неяк паказваў, як спрытна ўмею валодаць нажом. Махаў ім, як вар'ят падзёртымі кальсонамі. Аднагодкі былі ў дзікім захапленні, як калгасныя дзеці ад шакаладнага марожанага. Нават вясковыя сабакі брахаць перасталі. І толькі адзін сталага веку дасведчаны мужчына хітра так ўсміхнуўся сабе ў вусы:

— Так цябе нажом махаць навучылі для таго, каб ты загінуў, — сказаў ён.

— Як так? — спытаўся я.

— А вось так, — засмяяўся той. — Няўжо ты думаеш, што, як станеш махаць нажом, узброены вогнепальнай зброяй вораг уцячэ ў жаху куды вочы глядзяць, пакідаўшы амуніцыю, баб і грошы? Ясна, што не. Ты ж з такіх войскаў, што ворагі цябе абавязкова захочуць у палон узяць. А ты нажом махаеш, як дурань на плошчы ў святочны дзень шарыкамі. Хоць і параніць нават ім нікога не зможаш, а глядзіцца надзвычай эфектна. Як у фільмах для недасведчаных дурняў. Ну ў некага з тых ворагаў нервы не вытрымаюць, ён і шмальне па табе з гранатамёта. Вось для чаго цябе так вучылі нажом махаць. Каб ты ў палон не патрапіў. А то там прыцісну́ць адно месца — і ўсё раскажаш. А каму гэта трэба? А так усе задаволеныя. І козы цэлыя, і ваўкі сытыя. І для цябе хіба што лепш так. Хоць зараз я ўжо не ўпэўнены ў гэтым.

— А вы хто такі? — пытаю я яго.

— Я палкоўнік войскаў спецыяльнага прызначэння ў адстаўцы. Дэсантнік. Як і ты. Пайшлі вып'ем за блакітныя берэты, брат.

— Пайшлі, — адказаў я, ні хвіліны не сумняваючыся, што палкоўнік дэсантнік з радасцю вып'е з малодшым сяржантам дэсантнікам. Калі абодва ў адстаўцы, канешне.

Думаю, што нічога больш выразнага і зразумелага пра сваю службу ў савецкім войску не скажаш, як пра яе сам гаворыць гэты выпадак.



*Скок з баявога самалёта*

З аднаго боку, тваё жыццё ніхто не цэніць. З другога боку, ты брат. Сапраўды брат, з якім і выпіць не грэбліва і за якога і сваю скуру падставіць за гонар.

А яшчэ мне распавядаў адзін таксама палкоўнік у адстаўцы. Штабіст. Узровень яго сакрэтнасці хіба быў з дзесяццю нулямі наперадзе. Не тое што ў мяне з двума. Лепш бы, канешне, нулі ззаду. Тады хоць лічба салідная. Асабліва калі ў грашах. Ну, але не ўсім шанцуе.

Ну дык той казаў, што ў некаторых гарачых штабных галовах узнікалі і такія вар'яцкія ідэі вядзення вайны, каб набудаваць цэлы ланцужок АЭС у Беларусі і на Украіне. І калі вораг з Еўропы будзе мацнейшы і пачне адціскаць савецкія войскі на ўсход, то проста іх узарваць. І вораг не зможа прайсці на Маскву праз радыяцыйную тэрыторыю.

Вось, аказваецца, як усё проста. Але я думаю, што фраза «ўсё геніяльнае проста» была прыдуманая не для такіх выпадкаў. Дык хто там будзе думаць пра жыццё салдата, калі, каб ўратаваць перастарэлае кіраўніцтва камуністычнай партыі, таксама дажываючага ўжо свае дні Савецкага Саюза, нейкія штабныя прыхвасні гатовыя былі атруціць аграмадныя тэрыторыі, дзе жывуць цывільныя людзі.

Праўда гэта ці не, для мяне да канца невядома. Але не здзіўлюся, калі пабачу на свае вочы яшчэ больш страшнейшыя планы і праекты. Проста пасля войска жыў не толькі ўспамінамі пра войска.

І пра гэта заўсёды трэба думаць, калі мы ўспамінаем сваю службу ў войску. Бо ў адваротным выпадку гэта азначае, што ў вас нічога не было пасля войска. Вы нідзе не ўдзельнічалі, ні пра што не думалі, ні за што не змагаліся… І, акрамя як пра сваю службу ў войску, вам няма пра што больш успомніць. «Адно толькі шэрыя, падобныя адзін да другога працоўныя дні, пасля работы дахаты, абавязковы вынас смецця і паход у краму. На выходныя паездка на лецішча і бутэлька горкай па святах. Крыху больш па вялікіх святах, такіх як ад'езд жонкі да матулі на цэлы доўгачаканы тыдзень». Памятаеце геніяльную тэорыю майго сябра?

Але і забывацца пра два не самыя горшыя гады сваёй маладосці таксама не варта. Пра вайсковае мужчынскае сяброўства, пра пераадоленне цяжкасцяў, пра простыя радасці, пра няхітрыя забавы, пра першыя філасофскія роздумы, пра абавязак, вернасць слову…

Не, гэта таксама не забываецца. Ні краіна вялікага Вацлава Гавела, якая раздзялілася на Чэхію і Славакію без адзінага стрэлу і без пралітай крыві. І нікому ад гэтага горш не стала, а толькі лепш. Ні свае сябры-саслужыўцы…

На маім вяселлі з той дзяўчынай, якая мяне дачакалася з войска, мае вайсковыя сябры, тыя Віці і адзін Валодзя, былі пачэснымі гасцямі. З многімі, з кім служыў, падтрымліваю кантакт да сёння. Рэдка, але часам перапісваемся. Запрашаюць у госці. Нават на такое далёкае ад нас возера Байкал.

Ну і, канешне, віншаванні на дзень дэсантніка. Кожнага другога жніўня. І не толькі ад знаёмых. Ад кожнага дэсантніка. У гэты дзень мы ўсе браты. Нават калі і ўзнікаюць п'яныя бойкі. Яны не са зла. Ад родных, знаёмых, сяброў…

Але ў фантаны не скакаў ніколі. Чаго туды скакаць? Чаму радавацца? У чым мая заслуга, што некалі, у 1981 годзе, нейкі «купец» з усходу, выпускнік Разанскага паветрана-дэсантнага вучылішча, прыйшоў на прызыўны пункт у старадаўнім заходнебеларускім горадзе Гародня і, як барана на рынку, выбраў мяне і яшчэ трох беларусаў. І сам, не пытаючы нічыёй згоды, вырашыў, што я буду служыць у войсках спецыяльнага прызначэння.

Я то не супраць быў. Але мяне і не пыталіся. Хоць я і задаволены тым, што зведаў і гэта ў сваім жыцці.

# «Я ЗАГЛЫБІЎСЯ Ў ФІЛЯЗОЎСКІЯ РАЗВАГІ, АЛЕ ГЭТА МНЕ ЎЛАСЬЦІВА»
## (лісты Юрыя Гуменюка да Алеся Аркуша, 1991–1993)

*У 1989 годзе я заснаваў на Полаччыне падпольны літаратурны альманах «Ксэракс беларускі». Першы нумар сапраўды таемна друкаваўся ў Вільні. Але ўжо на пачатку 1990-х адкрыліся цэнзарскія «шлюзы» і выдаваць альманах можна было легальна ў мясцовых друкарнях. Паўстала іншая праблема — брак адпаведных аўтараў. Далейшае існаванне «Ксэракса» мела сэнс пры ўмове друкавання ў ім чагосьці арыгінальнага, новага, магчыма, дзёрзкага, што не трапляла ў афіцыйныя беларускія літаратурныя перыёдыкі. Напачатку аўтараў для майго выдання хапала мясцовых, бо Полацак-Наваполацак прыканцы 1980-х з'яўляўся другой літаратурнай сталіцай Беларусі. Але ўжо на пачатку 1990-х полацкія пісьменнікі пачалі раз'язджацца па ўсім свеце. З'ехалі Уладзімір Арлоў, Сяржук Сокалаў-Воюш, Лявон Баршчэўскі, Якуб Лапатка, Валянціна Аксак, Іна Снарская... І я пачаў шукаць аўтараў за межамі полацкага рэгіёна.*

*Ігар Сідарук, з якім я пазнаёміўся на нарадзе маладых пісьменнікаў у Іслачы, параіў мне звярнуцца да маладога гарадзенскага паэта Юрыя Гуменюка і даў мне яго адрас. Я напісаў яму ліст. І так пачалося наша сяброўства і агульная праца на ніве беларускай літаратуры.*

*Праз Юру да супрацоўніцтва з «Ксэраксам беларускім» была далучана практычна ўся таленавітая літаратурная моладзь Гродна: Юрась Пацюпа, Андрэй Пяткевіч, Эдуард Мазько, Анатоль Брусевіч, Анжаліна Дабравольская, Віктар Варанец...*

*Вельмі хутка мы з Юрам прыйшлі да высновы, што больш плённа пайшлі б справы і ў альманаха, і ў выдавецкай суполкі «Полацкае ляда», якую я заснаваў следам за «Ксэраксам», калі б была створана ўласная, няхай сабе невялікая літаратурная арганізацыя. І практычна ўсё нашае ліставанне з Юрам, якое адбывалася ў 1992 годзе, было прысвечана тэме Таварыства вольных літаратараў (так мы вырашылі назваць сваю суполку).*

*Увазе чытачоў прапануюцца лісты Юрыя Гуменюка, якія ахопліваюць нашую перапіску да ўтварэння ТВЛ. Гэта вельмі каштоўны матэрыял для літаратуразнаўцаў, якія будуць вывучаць бурлівыя літаратурныя 1990-я гады. Па гэтых лістах можна прасачыць светапоглядную эвалюцыя таленавітага гарадзенскага паэта, адчуць літаратурную атмасферу таго часу, зразумець, які сэнс укладаў Юры Гумянюк у сваё любімае слова «нонканфармізм».*

*Алесь АРКУШ*

Прывітаньне, шаноўны Алесь!

Шчыра кажучы, я задаволены, што атрымаў ад Цябе ліст. Даўно хацелася пазнаёміцца асабіста, бо з Тваёй «маладосьцеўскай» кніжыцай[1] я пазнаёміўся значна раней, дзякуючы свайму паплечніку Юрасю Пацюпу[2]. Ты вось пытаешся: дзе ён зараз. Пакуль што жыве і працуе ў Менску, але хутка (прыкладна ў верасьні) зьбіраецца вяртацца ў Гародню. Тады наша літаратурная суполка зноў будзе ў першапачатковым складзе[3]. Ты вось

[1] Маецца на ўвазе зборнік вершаў Алеся Аркуша «Вяртанне» (1988, «Бібліятэчка часопіса "Маладосць"»).

[2] Юрась Пацюпа (1965) — мовазнавец, паэт, празаік, крытык. Скончыў філфак Гарадзенскага ўніверсітэта (1992). Разам з Юрыем Гуменюком, Андрэем Пяткевічам і Едрусем Мазько ў студэнцкія гады стварыў паэтычную суполку «Верш-гурт Дыяген».

[3] Маецца на ўвазе суполка «Верш-гурт Дыяген».

пытаешся яшчэ пра літ. сілы Гародні на сёньняшні дзень. Калі ведаеш маё імя, то пэўна ведаеш ці чуў Андрэя Пяткевіча[4], Сяргея Астраўцова[5], Алеся Чобата[6], Едруся Мазько[7], Юру Карэйву[8]. Думаю, што гэта найбольш перспектыўныя і адносна незалежныя ў творчасьці літаратары новае генерацыі, хаця погляды на рэчаіснасьць у іх розныя. Больш пісаць пра гэта ня буду, бо гэта тэма не для ліставаньня.

Дасылаю Табе «КОЛА»[9], выданьне, якое сёлета дзякуючы маім намаганьням убачыла сьвет. Цяжка рабіць літаратурную справу, калі знаходзішся пад сталым доглядам, калі не адчуваеш свабоды дэцызій. Яшчэ непісьменныя наборшчыкі, якія лепяць не толькі арфаграфічныя памылкі, але і фактычныя… Нягледзячы на ўсе дробныя перашкоды і непаразуменьні «Кола» карыстаецца папулярнасьцю ў чытачоў. Шкада, канешне, што «Кола» не трапляе да ўсіх, хто хацеў бы яго мець. Але некаторыя літ. суполкі падпісаліся, у тым ліку і Ігар Сідарук, некаторыя зь менчукоў і г. д.

Дзякуй Табе за падарунак з аўтографам[10] і за запрашэньне на імпрэзу. Я прымаю гэтую прапанову. А якія ўмовы? Разумееш, я ніколі ня быў ані ў Полацку, ані ў Наваполацку… Таму паведамі, калі ласка, тэрмін і ўсё астатняе…

З павагай

Юры Гумянюк

*3–5 жніўня 1991, Гародня*

Дарагі Алесь!

Сталася так, што я не паехаў у Польшчу на Сусьветны Фестываль Каталіцкай моладзі, які адбываецца зараз у Чэнстахове. Таму і маю магчымасьць напісаць колькі радкоў да цябе, нават больш, чымся на тваёй картцы. Хутка скончыцца лета, гэты прыемны перыяд адпачынку, і зноў пачнецца вар'яцкае жыцьцё. А пакуль можна і не ўспамінаць пра тое, што пачнецца з кастрычніка, а займацца сваёй асобай, напісаць нешта. Шкада, канешне, што цэлае лета нічога не пісалася… Акрамя лістоў. Так, амаль 3 месяцы ня бачыўся зь іншымі літаратарамі твар у твар. Размаўляў, праўда, праз тэлефон, адказваў на лісты, якія прыходзяць з розных куткоў Беларусі і Польшчы. Лісты ды іншыя карэспандэнцыі — сьвятая справа! Вялікую культуру ліставаньня паказвае Ігар Сідарук[11], які зараз у адпачынку на Поўдні. Я адзін толькі нікуды ня зьехаў! Можа ў Менск махну на вечарыну з нагоды юбілея Вітаўта Чаропкі[12]. Гэта адбудзецца толькі тады, калі атрымаю афіцыйнае запрашэньне ад Віці…

[4] Андрэй Пяткевіч (1966–1995) — паэт. З'яўляўся сябрам суполкі «Верш-гурт Дыяген». Вучыўся ў ГрДУ (не скончыў). Аўтар радыкальных антыкамуністычных вершаў, сам сябе называў літаратурным «нінзя».

[5] Сяргей Астраўцоў (1959) — празаік, журналіст. Літаратурны псеўданім — Сяргей Астравец. У 1984 закончыў журфак БДУ. У 1992–1993 рэдагаваў незалежную гарадзенскую газету «Пагоня».

[6] Алесь Чобат (1959) — паэт, публіцыст. На пачатку 1990-х з'яўляўся намеснікам старшыні Гарадзенскай Рады БНФ «Адраджэньне» і каардынатарам выбарчай кампаніі Рэгіянальнага блока «Саветы-1990». Літаратурную дзейнасць пачаў у 1990.

[7] Эдуард (Едрусь) Мазько (1970–2011) — паэт, гісторык. Скончыў гістфак ГрДУ. З'яўляўся сябрам суполкі «Верш-гурт Дыяген».

[8] Юры Карэйва (1954) — паэт. Скончыў філфак ГрДУ. Падчас вучобы разам кватараваў з Андрэем Пяткевічам.

[9] «Кола» — літаратурная старонка ў малатыражкі ГрДУ «Гродзенскі ўніверсітэт», якую ў 1991 рэдагаваў Юры Гумянюк (пад яго рэдакцыяй выйшла 3 нумары).

[10] Паэтычны зборнік Алеся Аркуша і Паўла Бурдыкі «Тайніца» (1991, Полацак).

[11] Ігар Сідарук (1964) — паэт, празаік, драматург. Скончыў філфак БДУ (1986). Адзін са стваральнікаў Таварыства вольных літаратараў.

[12] Вітаўт Чаропка (1961) — пісьменнік, гісторык. Быў сябрам літаратурнай суполкі «Тутэйшыя». Дэбютаваў у друку ў 1988. Піша перважна на гістарычную тэму.

Праштудыраваў вашу «Тайніцу». Як адрозьніваюцца канцэпцыі творчасьці Гарадзенскай і Полацка-Наваполацкай школ! Гэта вельмі добра, што беларуская літаратура робіцца каляровай. Але пакуль шэры колер дамінуе (не ў нашай творчасьці) у рэспубліцы. Ня хачу аб гэтым распавядаць, сам ведаеш.

Ты вось паведамляеш, што «Імпрэза» будзе напрыканцы верасьня. Добра. Хай так. Было б цудоўна, каб засталося пасьля сустрэчы ў Наваполацку нешта. Маю на ўвазе фотаздымкі, якія пайшлі б у друк разам зь іншымі матэрыяламі з «Імпрэзы». Але думаю, што праблемы не ўзьнікне. Хацелася бы ў «Кола» нешта даць.

Нягледзячы на тое, што я не трапіў у Польшчу, усё ж дасылаю невялічкі падарунак адтуль, які я прывёз летась з Кракава. Гэта Маці Божая Чэнстахоўская.

Юры Гумянюк

*12.08.1991, Гародня*

Дарагі Алесь!

Нечакана атрымаў сёньня Твой ліст. Зараз я знаходжуся ў бібліятэцы нашага ўніверсітэта. Тутака амаль нікога няма, замагільная цішыня. Таму і пісаць вельмі добра, бо ніхто не перашкаджае.

Так, не магу не пагадзіцца з Тваёй тэзай аб тым, што сітуацыя на Беларусі істотна зьмянілася. Але ў літаратараў тыя ж самыя праблемы. Я маю на ўвазе эстэтычныя, а не іншыя. Зараз можна друкаваць амаль усё. Гэта маё асабістае меркаваньне. Праз 10–15 дзён у Гародні выходзіць з друку калектыўны зборнік вершаў маладых літаратараў «Шлях»[13], якім мы з Пацюпам не задаволены, бо «зоркі» «разбаўлены» вялікай колькасьцю выпадковых аўтараў. Нягледзячы на ўсё, там, у кніжцы, шмат добрых твораў. Справа ў тым, што складаўся гэты зборнік 1,5 года таму, а тады было зусім іншае становішча. За гэты час мы ўзмоцнілі свае пазіцыі і думаем далей іх узмацняць (рэарганізацыя літаратурнай дзейнасьці, выданьне альманаха, радыёперадачы і г. д.) У хуткім часе будзе створана абласное таварыства гродзенскіх літаратараў з цэнтрам у Гародні і «абласны рынак» літаратуры. Мы не задаволены тым, што некаторыя нашы «адраджэнцы-актывісты» рэкламуюць і гандлююць нетутэйшай прадукцыяй. Маю на ўвазе «дэтэктывы» Глёбуса[14], Шайбака[15] і К°, а таксама некаторыя газэты. Думаю, што хутка адрэгулюем гэтую справу, як і ўсе астатнія.

Ты пытаешся пра стасункі з Данутай Янаўнай[16]. Яны нармалёвыя. Часам кансультуюся зь ёю, разам рыхтавалі маю кніжачку вершаў «Вампірава вока»[17]. Дакладней, я сам рыхтаваў, яна перадрукавала на машынцы. Зараз «старэйшыя» нас не хвалююць і не перашкаджаюць нам. Мы маем ужо «Кола», хутка будзем выдаваць альманах, выпускаць радыёчасопіс… Усё гэта радуе, акрамя эканамічнай сітуацыі. Зрэшты, аб усім і не напішаш, трэба проста сустрэцца ды паразмаўляць спакойна ў інтымнай абстаноўцы. Я разумею, як і ты, што трэба трымаць моцныя сувязі і г. д., кансультавацца, каб не было, як ты пішаш, «трений». Трэба выпрацаваць нейкія праграмы

---

[13] «Шлях» (1991, Гродна) — калектыўны зборнік вершаў маладых гродзенскіх паэтаў.

[14] Адам Глобус (Глёбус) (1959) — паэт, празаік, выдавец. Сын пісьменніка Вячаслава Адамчыка. Адзін з лідараў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» (1986–1990). З пачатку 1990-х заняўся камерцыйнай выдавецкай дзейнасцю.

[15] Міраслаў Шайбак (Адамчык) (1965) — празаік, выдавец. Родны брат Адама Глобуса.

[16] Данута Янаўна Бічэль (1937) — паэтка, грамадскі дзеяч. Стваральніца і першая загадчыца Дома-музея Максіма Багдановіча ў Гародні. Каардынавала дзейнасць рэгіянальных суполак БНФ у Гарадзенскай вобласці. Стваральніца суполкі імя Максіма Багдановіча. Была адным з ініцыятараў выпуску самвыдавецкай газеты «Рэанімова».

[17] Выйшла пад назвай «Водар цела» (1992, «Полацкае ляда»).

на будучыню. Калі пажадаеце, то я магу выслаць вам пэўную колькасьць зборнікаў. Кошт 3 р (100 стар.). Але загадзя напішы колькасьць асобнікаў. Тады дамовімся, як разьлічыцца.

Усяго найлепшага.

Юры Гумянюк

*3.09.1991, Гародня*

Дарагі Алесь!

Атрымаў Твой ліст учора. Па-першае: дзякуй за запрашэньне, якое для мяне, як сьнег на галаву зваліўся. Я і ня думаў, што тэрмін будзе такі блізкі. Маю на ўвазе прэзентацыю «Расколіны» Мінкіна[18]. Таму і не пасьпею даехаць да Вас. А хацелася б, канешне, пабачыць і Цябе, і Алега Мінкіна (ён адзін з маіх улюбёных сучасных беларускіх паэтаў), паразмаўляць аб усім і адначасова аб нічым. Ты вось пішаш: «Мінкін, іншыя нонканфармісты». Ведаеш, я не лічу творчасьць Мінкіна нонканфармістычнай. Ня трэба блытаць НОНКАНФАРМІЗМ зь НЕканфармізмам. Гэта зусім розныя паняцьці. Нонканфармізм набліжаецца, нават пераходзіць межы касмапалітызму, адмаўляе як афіцыйную, так і апазіцыйную ідэалёгію, культывуе ўласнае EGO, абвостранае асабістае і г. д. А ў Мінкіна шмат так званых «адраджэнскіх», «бел-чырвона-белых» вершаў. Ён, вядома, добры стыліст. Культура радка ў яго на вышэйшым за некаторых узроўні. Не, на Беларусі сапраўдных нонканфармістаў яшчэ няма, бо няма сапраўднай свабоды ва ўсіх сферах жыцьця. Нямногія дасягнулі пэўнага ўзроўню, калі могуць лічыць сябе Н. Бо Н. — гэта яшчэ і стыль жыцьця: бісэксуальнасьць, раскаванасьць духу, альтэрнатыўныя ідэалы, зьнешні і ўнутраны касмапалітызм… Зрэшты, мне і ня трэба было пісаць пра гэта. Ты разумееш усё сам. Мы яшчэ толькі пачынаем, нягледзячы на ўзрост некаторых з нас. Нават сярод літаратурна-мастацкага асяроддзя зрэдку знойдзеш чалавека, які асэнсоўвае рэалістычна тое, што робіцца навокал. Тутака і ня ў творчасьці справа, а ў разуменьні той жа творчасьці і таго ж жыцьця. Я заўсёды прыпамінаю страфу зь верша Андрэя Пяткевіча, які лічыць сваім ідэалам Дыягена (Дыяген — сапраўды нонканфарміст, калі разглядаць яго ідэалёгію не прымітыўна, а з развагай). Дык вось гэта страфа:

Жыцьцё ня сьпешнае, жыцьцё.
Маўкліва хмары сонца б’юць.
А тое дзікае выцьцё —
То ж людзі, не ваўкі пяюць…

Ах, нешта кінуўся я ў філязофію. Зрэшты, як заўсёды, калі хто-небудзь закранае вострую праблему. А потым параўноўваю. Ты напісаў некалькі радкоў, якія нясуць сьціслую інфармацыю, а я вось зноў разважаю па старой звычцы…

Па-другое: я ўжо купіў квіток і заўтра буду ў Менску, сустрэнуся зь літаратарамі, паразмаўляю аб усім і аб нічым. Як дагэтуль. Як заўсёды…

Па-трэцяе: ты называеш дату і гадзіну прэзентацыі, а месца не называеш. Навапалацак — гэта што, маленькая вёсачка? Тым больш, што я там ніколі ня быў. Але ня злуй за «фразу, што як нож». Дзякуй за тэлефоны. Няблага б было, каб ты яшчэ і код Наваполацкі «нашкрабаў» разам з нумарамі. Я тады б патэлефанаваў з Гародні…

---

[18] Алег Мінкін (1952) — паэт, празаік, перакладчык. У 1985 выдаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» свой першы зборнік «Сурма». Пасля гэтага для нацыянальна арыентаванай моладзі стаў культавым паэтам. Прыканцы 1980-х пераехаў жыць у Вільню. «Расколіна» — другая паэтычная кніга Алега Мінкіна (1991, «Мастацкая літаратура»).

А «Шлях» пакуль ня выйшаў. Гэта ўжо па-чацьвертае… Няма з чым ехаць, праўда? Шкада толькі, што не атрымаю аўтограф Алега Мінкіна разам з «Расколінай», якую я чытаў у Алеся Аўчыньнікава[19], а ў хаце асабістага экзэмпляра ня маю.

Добра, што імпрэзу перанесьлі на лістапад, бо ў кастрычніку ў мяне атрымоўваюцца цэлыя гастролі (выступ у Берасьці і ў Менску 10.10.1991 у Доме літаратара).

Заўсёды Твой Юры Гумянюк

*15.09. 1991, Гародня*

P. S. Сардэчнае прывітаньне ад Алеся Аўчыньнікава.

Добры дзень, дарагі Алесь!

Твой ліст парадаваў мяне, бо ў ім ня толькі сухая інфармацыя, але і разважаньні. Адразу відаць, што я закрануў за жывое. Гэта нам абодвум пойдзе на карысьць, высьветліць пазіцыі ды, маю надзею, яшчэ ўзмацніць нашае супрацоўніцтва, мо і сяброўства, якога так не стае апошнім часам маладым літаратарам. Думаю, што ты не крыўдуеш за мой апошні ліст. Проста я не люблю маніць, прыстасоўвацца (як і вы) пад афіцыйныя літструктуры. Я чалавек шчыры і таму шчэ раз нагадаю, што вельмі паважаю і Цябе, і Мінкіна. Ты вось пішаш, што я малады і не зусім разумею, што было 5–6 год таму і як адчувалі сябе пачынаючыя (ды і ня толькі яны) літаратары. Ах, ведаю, разумею, сам адчуваў на ўласнай скуры. Я тады толькі скончыў школу і пісаў вершы па-расейску. Мяне, памятаю, абвінавацілі ў «падражании гнилому Западу и рекламе буржуазного образа жизни». Зараз гэта выклікае толькі сьмех, бо пісаў я пад рускіх сімвалістаў, якіх зараз выдаюць і перавыдаюць вялікімі тыражамі. Нам такія наклады і ў сьне ня ўбачыць!

А зараз аб іншым. Нядаўна атрымаў ліст ад Ігара Сідарука. У гэтым годзе выступ гарадзенскіх літаратараў у Берасьці не адбыўся. Берасьцейскі СП адмовіў. Відаць, чыталі артыкул Генрыха Далідовіча[20] «З верай і праўдай» («ЛіМ» 25.01.1991) і хацелі, каб тое, што было на «Ісачы-90» не паўтарылася ў Берасьці[21]. Я напісаў Ігару, каб ён больш не зьвязваўся з СП. Выступ зробім і ў 1992-м, калі зьменіцца літаратурная сітуацыя. А ў Менску вечарына маладых літаратараў адбудзецца 8-га кастрычніка ў Доме літаратараў а 18-й гадзіне. Вечарыну арганізуе Алесь Масарэнка[22]. Вось такія, мой дарагі, справы…

А як прэзэнтацыя «Расколіны»[23]? Хацелася б чыркануць колькі слоў у «КОЛА». І, увогуле, якія яшчэ ў вас там літаратурна-мастацкія падзеі? Бо тутака пакуль замагільная цішыня. Наступны нумар «КОЛА» выходзіць у кастрычніку. Я дашлю табе колькі асобнікаў…

[19] Алесь Аўчыннікаў (1951) — мастак. Працаваў у гарадзенскім Доме народнай творчасці. Аўтар вокладкі першай кнігі Юрыя Гуменюка «Водар цела» (1992, Полацак).

[20] Генрых Далідовіч (1946) — празаік. Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» (1991–2002).

[21] У 1990 у Доме творчасці Саюза пісьменнікаў адбыўся творчы семінар для маладых літаратараў. З Гарадзеншчыны ў ім удзельнічалі Юры Гумянюк, Андрэй Пяткевіч, Алесь Чобат і Юры Карэйва. Семінарысты паводзілі задзірліва і выдалі дзёрзкую насценгазету. Адбыўся канфлікт паміж маладымі семінарыстамі і старэйшымі пісьменнікамі, якія ўдзельнічалі ў семінары. Пра гэты канфлікт пакаленняў і напісаў актыкул Генрых Далідовіч у тыднёвік «Літаратура і мастацтва». Ігар Сідарук таксама ўдзельнічаў у тым семінары і трапіў такім чынам у «няблаганадзейныя».

[22] Алесь Масарэнка (1938) — празаік, перакладчык. З 1989 — літкансультант літаб’яднання «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена», у 1992–1998 — галоўны рэдактар часопіса маладых літаратараў «Першацвет».

[23] «Расколіна» (1991, «Мастацкая літаратура») — другая паэтычная кніга Алега Мінкіна. Алесь Аркуш наладзіў прэзентацыю ў Наваполацку.

Маю да Цябе невялічкую «просьбу». Справа ў тым, што «КОЛА» хоча зрабіць фотаплакат «NEW BELORASSIAN LITERATURE IN 1991», куды павінны ўвайсьці здымкі літаратараў-нонканфармістаў, якія зрабілі нешта вартае ў гэтым годзе (выхад кнігі, выступы, публікацыі ў прэсе і г. д.). «Тайніца» і «Расколіна» — гэта, безумоўна, падзеі, таму дашлі, калі ласка, якія-небудзь арыгінальныя фотаздымкі Алега Мінкіна, Павала Бурдыкі[24] і, канешне, свой. Наколькі мне вядома, такія агляды ніхто пакуль не рабіў у Беларусі. Я ня ведаю: ці будзем мы зь Сержуком Лаўнікам[25] надалей выдаваць «Кола», ці не ў 1992-м. Цяперашні «статус» нашага выданьня нас не задавальняе, хаця посьпех відавочны. Калі нам разьвяжуць рукі — мы, магчыма, разгорнемся па вялікаму ліку і зьбярэма падпіску. Пакуль трэба правясьці падрыхтоўку. Будзем спадзявацца на лепшае. Усё залежыць ад нас…

Ах, няма сіл, няма настрою, няма добразычлівасьці сярод літаратараў… Я тры дні гасьціў у Менску, але не атрымаў ад паездкі задавальненьня. Ты спытаеш: «Чаму? Што здарылася?» Ды і то, калі ўвогуле спытаеш. Але аб гэтым у наступным лісьце.

Цябе цікавіць, з кім я кантактую ў Менску? Калі ласка, гэта не сакрэт. Юрась Пацюпа, Алесь Масарэнка, Уладзімір Клімовіч[26], Сяргей Вераціла[27], Мікола Касьцюкевіч[28], Сяржук Мінскевіч[29]. Гэта тыя людзі, зь якімі я часам размаўляю праз тэлефон, лістуюся. Пацюпа пакуль застаўся жыць у Менску, ягоны пераезд не атрымаецца, відаць, у гэтым годзе. Файныя стасункі маю зь Вітакам Чаропкам. Зь ім у мяне асаблівае сяброўства і супрацоўніцтва. Ну, здаецца, адказаў на ўсе твае пытаньні.

Удзячны Юры Гумянюк

*21–22.09.1991, Гародня*

P. S. Ты пісаў, што не зусім мяне ўяўляеш. Ну дык паглядзі некаторыя выданьні за гэты год, дзе ёсьць мой фотафэйс («Чырвоная Змена»[30] /20.5–26.5.1991/; «Маладосць»[31] № 7, 1991 і інш.) У апошняй «Чырвонцы» Масакэнка надрукаваў мой здымак 1985-га года. Зрэшты, я ж дасылаў табе «КОЛА» са сваім здымкам пачатку 1991-га года. Так што маеш мажлівасьць параўнаць, наколькі я зьмяніўся за 6 год перабудовы.

[24] Павел Бурдыка — паэт, журналіст. Працаваў на наваполацкім заводзе «Вымяральнік» на заводскім радыё, затым у «Новай газеце» (орган Наваполацкага гарвыканкама). У 1991 выдаў у Полацку разам з Алесем Аркушам паэтычны зборнік «Тайніца».

[25] Сяржук Лаўнік — гарадзенскі журналіст. На пачатку 1990-х — рэдактар малатыражкі «Гродзенскі ўніверсітэт», затым працаваў адказным сакратаром у газеце «Пагоня».

[26] Уладзімір Клімовіч (1969) — празаік, публіцыст. Нарадзіўся на Лідчыне. Цяпер жыве ў Мексіцы.

[27] Сяргей Вераціла (1961) — паэт, празаік, перакладчык. Паходзіць з Ваўкавыскага раёна. Жыў і працаваў у Эквадоры. У 2010-х лічыўся ахоўнікам Лысай гары (славуты дачны кааператыў пісьменнікаў). Першая кніжка выйшла ў 2012 («Разбітае сэрца Вітаўта», Менск).

[28] Мікола Касцюкевіч (1967) — паэт. Вучыўся ў БДУ (не скончыў). Першы зборнік паэзіі «Вяртанне» выдаў у 1991. Удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе Таварыства вольных літаратараў (1993).

[29] Сяржук Мінскевіч (1969) — паэт, празаік, перакладчык. Скончыў філфак БДУ (1995). Удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе Таварыства вольных літаратараў (1993). Затым быў сярод заснавальнікаў мастацка-літаратурнага руху «Бум-Бам-Літ». Выдаў у выдавецтве «Полацкае ляда» зборнік паэзіі «Праз галеРэю» (1995). Пераклаў паэму Адама Міцкевіча «Дзяды» (1999).

[30] «Чырвоная змена» — агульнарэспубліканская моладзевая газета «Чырвоная змена», пры якой дзейнічала літаб’яднанне «Крыніцы». У 1921–2002 з’яўлялася самастойным выданнем. З 2002 дадатак да газеты «Звязда».

[31] «Маладосць» — беларускі літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з красавіка 1953. З 1988 да пачатку 2000-х выдавалася «Бібліятэка часопіса “Маладосць”» (12 кніг у год).

Прывітаньне, шаноўны Алесь!

Твой ліст парадаваў мяне, як заўсёды радуюць карэспандэнцыі з далёкіх мясьцін. І вось зараз, калі за вокнамі пануе ноч, калі самота дыктуе жорсткія варункі, калі жыцьцё рыхтуе неспадзяванкі на кожным кроку, — прыемна весьці «ліставаную» размову з чалавекам, якога быццам бы ведаеш па некаторых творах з друку, па папярэдніх лістах, а асабістай сустрэчы зь якім пакуль не адбылося… Увогуле, для мяне такое — першы выпадак. Звычайна напачатку адбывалася сустрэча, а ўжо потым пачыналася ліставаньне. Не магу не пагадзіцца з тваімі меркаваньнямі наконт сяброўства і г. д. Гэта — шчырая праўда. Больш таго — аксіёма! Кожны зь цягам часу ў тым пераканаецца. Калісьці ў мяне таксама было некалькі «вялікіх» ліставаньняў. Дзякуй Богу, што не зь літаратарамі. А сяброўства сапраўднага не атрымалася. Я і не шкадую. Раней сьветаадчуваньне было трошкі іншым. На памылках вучацца. Так, творца павінен адчуць «асалоду» ўзаемаадносінаў на ўласнай скуры. Інакш ён вымушаны хлусіць на кожным кроку. Ды што там! Ня трэба разводзіць тары-бары. Што прайшло — таго ня вернеш. Шкада толькі, што страцілася вера ў сяброўства. Магчыма, і не страцілася цалкам, але пахіснулася вельмі-вельмі моцна. Ты ж ведаеш, якія паэты ўражлівыя. Мне проста цяжка нават уявіць сапраўднае сяброўства спаміж літаратарамі. Вашай камандзе можна толькі пазайздросьціць, калі наконт сяброўства ўсё о’кей. А я вось ані з адным гарадзенскім пісьменьнікам не пасябраваў. Гэта зусім ня значыць, што йснуе нейкая варожасьць ці штосьці падобнае. А мо і так. Ня маю пэўнасьці. Адным лістом не растлумачыш. Ты, Алесь, напэўна, зразумеў, ШТО я маю на ўвазе. Зараз надышлі часы няпэўнасьці, карацей кажучы, дурныя часы. Наша гарадзенская каманда альтэрнатыўных паэтаў амаль не йснуе (баюся сказаць «разваліласяя»). Але я не хачу хлусіць. Што будзе далей — ня ведаю. Разумееш, адбылося гэта тады, калі набылі аўтарытэт і папулярнасьць, калі я стварыў «КОЛА», калі зараз амаль «выбіў» праграму на радыё, калі хутка павінен выйсьці «Шлях», які прабіваў сабе дарогу 1,5 года… Крызіс відавочны. Я даўно гэта прадчуваў. Таму і тэрмінова наладзіў яшчэ на «Іслачы-90» цесныя кантакты зь літаратарамі іншых суполак у надзеі скласьці новую каманду, толькі ўжо на рэспубліканскім узроўні. Прайшоў пэўны час, працэс адбору «кадраў» набліжаецца да фінішу, выпрацоўваецца сістэма дзеяньняў, рыхтуецца новае выданьне (ці то альманах, ці то квартальнік), знайшліся добрыя спонсары і г. д. Мяне пасьля «выпрабаваньняў» узялі ў новую каманду, адразу запланавалі падборку вершаў, за якую абяцалі добра заплаціць, замовілі аповесьць… Пакуль канкрэтызаваць ня буду, бо не адпавядаю за дакладнасьць фактаў. Будзем спадзявацца на лепшае. Такія вось справы, дарагі Алесь.

Так атрымалася, што гэты ліст пазначаны тэмай сяброўства. Таму хачу задаць табе невялічкае пытаньне. Чуў я ад кагосьці (напэўна, ад Аўчыньнікава), што ты меў «ліставаньне» сяброўства і зь Ю. Пацюпам. Наколькі я зразумеў: яно скончылася. Зь якой нагоды? Бо ты неяк пытаўся ў мяне: «Дзе зараз Пацюпа?» А Юрась, калі я паведаміў яго, што атрымаў ад цябе ліст, вельмі зьдзівіўся і не хацеў аб гэтым размаўляць. Увогуле, якімі былі вашыя адносіны? Юрась усё ж зьбіраецца вяртацца ў Гародню недзе пасьля кастрычніцкіх. Відаць, не ўпісаўся ў менскую багему, не ўзялі Адам Глобус і К° да сябе. З новай камандай таксама не знайшоў агульнай мовы. Хай вяртаецца дамоў. Можа, сапраўды, сябра зь яго і ня выйшаў, але ён добры літаратуразнаўца, паплечнік і супрацоўнік.

Ты вось пытаешся наконт рэалізацыі вашых ксёнжачак. Ты маеш на ўвазе «ТАЙНІЦУ»? Бачыў я ў апошнім «ЛіМе» рэклямку, з чым і віншую! Які кошт аднаго асобніка? Дашлі, калі ласка, пасьля 10.10.1991 спачатку 10 асобнікаў. Я рэалізую, перашлю табе выручку, потым зноў дашлеш 10. Згодзен? Так проста складаюцца абставіны.

Дзякуй вялікі за здымак. Я ўвесь час (пакуль пісаў ліст) глядзеў на яго і быццам размаўляў з табой. Адным словам, файная забава. Калі пажадаеш — дасылай яшчэ што цікавае; вершы можаш даслаць. Надрукуем у лістападзе. Кастрычніцкі нумар «КОЛА» ўжо складзены. Але, магчыма, што здымак, які ты даслаў, пойдзе ўжо туды разам з рэклямай «Тайніцы». Паглядзім. А пакуль разьвітваюся і чакаю наступнага ліста. Ага, дасылаю табе і свой фотафэйс у падарунак. Здымак зроблены год таму.

Твой Юры Гумянюк, «ліставаны» сябра (або лепш сябра па ліставаньню)

29.09.1991, Гародня

Прывітаньне, мой сябра па ліставаньню!

Шчыра кажучы, я чакаў твайго ліста менавіта сягоньня. Было проста нейкае прадчуваньне. І я не памыліўся. Ліст гэты выклікае неадэкватныя эмоцыі. Але, па-першае, дзякуй вялікі за шчырасьць, а па-другое, за цікавую інфармацыю. Я так і ўяўляў сабе развіцьцё адносінаў зь літаратарамі, у прыватнасьці з Пацюпам. Ён, дарэчы, прыходзіў да мяне сёньня з раніцы, выцягнуў з ложка, бо хацеў паразмаўляць і ўбачыць матэрыялы чарговага нумару «КОЛА». Размаўлялі мы ўсяго нейкіх 30–40 хвілінак, але Юрась абяцаў яшчэ раз зьявіцца.

Як і мінулым разам, не магу не пагадзіцца з тваімі разважаньнямі наконт Сокалава-Воюша[32] і г. д. Астатняе я ўсё ведаю.

А вось і Юрась. Прыйдзецца спыніць пісаньне на нейкі час ды паабедаць разам зь ім…

Ну вось і паабедалі. Цяпер я прапаную Юрасю нашкрабаць колькі словаў да цябе. Можа і ня трэба было гэтага рабіць. Але быў у мяне адпаведны настрой дый захацелася прачытаць Юрасю твой ліст, каб выклікаць у яго адпаведную рэакцыю. І вось ён разам са мной піша. Цікавая справа, бо атрымаецца нейкі агульны (бінарны) ліст. Гэта адбываецца зрэдку, тым больш у літаратурным асяродзьдзі.

Некалькі слоў наконт майго «супрацоўніцтва» з «Ч. З.»[33]. Я, зразумела, не зьбіраюся апраўдвацца, але ў той час, калі я даслаў у «Чырвонку» свае вершы, на іншыя выданьні не спадзяваўся. А тое, што там афіцыёз, мяне абсалютна не цікавіць. Разумееш, зараз няма цалкам андэграўндных выданьняў. А ў «Чырвонцы» ні ў кога ня хопіць сьмеласьці рэзаць вершы ды трымаць 1–2 гады ненадрукаванымі. Мяне не задавальняе толькі тое, што малыя ганарары ды акрамя вершаў і прозы (часам нядрэнных!) друкуюць іншую лухту і займаюцца дробнатэм’ем.

Як толькі выйдзе «Кола» — адразу дашлю. Там будзе твой здымак і колькі словаў пра дзейнасьць вашай суполкі[34], пра «Тайніцу» і г. д. Спадзяюся, што ты, дарагі Алесь, будзеш задаволены. Як бачыш, я чалавек вельмі дэмакратычны і заўсёды спрыяю нечаму сьвежаму ў нашым «постсацыялістычным» жыцьці. Хочаш — можаш напісаць нейкі праблемны артыкул для «КОЛА», можаш распачаць палеміку наконт андэграўнду, выказаць свае меркаваньні. Мы заўсёды рады. Тым больш, што «КОЛА» йдзе, а дакладней, коціцца па ўсёй Беларусі. Нягледзячы на тое, што гэта прыгожыя словы, выданьне

[32] Сяржук Сокалаў-Воюш (1957) — паэт, драматург, бард. З 1988 да 1990 працаваў загадчыкам літаратурнай часткі лялечнай трупы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск). Актыўна займаўся грамадска-палітычнай дзейнасцю. Стваральнік суполкі БНФ у Наваполацку. Першы зборнік паэзіі «Кроў на сумётах» (1989) выдаў у дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура». У 1991 з’ехаў у Прагу працаваць на Радыё «Свабода». Цяпер жыве ў ЗША.

[33] «Ч. З.» — газета «Чырвоная змена».

[34] Маецца на ўвазе кола людзей вакол альманаха «Ксэрак беларускі», які Алесь Аркуш заснаваў на Полаччыне ў 1989.

чытаецца і добра прымаецца. Альманахі, зборнікі і г. д. кожны месяц ня выпусьціш, а газэтку ціскануць заўсёды знойдзецца магчымасьць.

Таму сьціскаю тваю нябачную руку, разьвітваюся і чакаю чарговага ліста ад цябе. Good bay!

Юры Гумянюк

*5.10.1991, Гародня*

*У капэрце разам з лістом ад Юрыя Гуменюка быў і ліст ад Юрася Пацюпы.*

*5.10.91 г.*

Добры дзень, Алесь.

Вось і сплачу табе доўг наконт ліставаньня. Сапраўды, я ўпэўніўся, што маюць рацыю заходнія навукоўцы-тэхнакраты: «Ніхто нікога не разумее, а калі і разумее, дык зусім ня тое, і ня так». Па-першае, не зразумеў я, тлумачачы сабе тваё ўспрыманьне мае «эпісталярнае» віны. Але гэта «зьнялося» праз твой ліст, які мне вялікадушна прачытаў Юра. Лічу, ён на гэта меў абсалютнае права, але перайду да свае асобы.

Мне сапраўды было сорамна, што не адказаў табе, але на лісты ў мяне йдзе шмат часу (я тугадум). Галоўнае ж тое, што пакуль я думаў і разважаў, многае зьмянілася. Спачатку гэта мне вельмі спадабалася, пасьля разважыў: а ў якіх формах усё адбывацімецца, ці не застанецца, як і іншае, на паперы? Потым — зьмены ў Гародні, зьмены ці проста турботы ў асабістым жыцьці… Ну, а чым даўжэй не адпісваеш, тым больш няёмка. З другім лістом было амаль тое самае, адно з тою розьніцаю, што я адразу хацеў адмовіцца ад твае прыемнае прапановы. Гэта блізка тое самае, каб я прапанаваў табе пераехаць у Гародню. Занадта моцна я зьнітаваны з вулкамі свайго гораду, зь цішынёю свае вёскі (дзе часьцей за ўсё й пішу), з нашаю, як ты кажаш, «камандаю». Ды і ў Менску не затрымаюся.

Цікава, Алесь, ты мяркуеш наконт нашых адносін, а тое-сёе нават непрыемна. Напрыклад, як ты ўтрыруеш (ці забываешся?) факты і адценьні. Мяне таксама заўсёды раздражняла быццам бы разуменьне і прыйманьне толькі класікі. Ты напаў не на той адрас. Па-першае, гэта зусім іншае адчуваньне, якое назавём неафіцыйным, шчырым марксізмам: на той час я любіў энергічныя, з «гістарычным аптымізмам» вершы, але метафарычныя і адметныя паводле стылю. Да ўсяго дайходзіў сам, як А. Газанаў кажа, «стукаўся ў неба», таму застойны літаратурны канктэкст мне здаваўся залішне «афіцыйна-бедным». Або «дробязна-псіхалагічным». Па-другое, я ніколі ня кляўся імем Пушкіна (тут і далей у мяне памяць аказваецца лепшаю за тваю), ён мне, наадварот, не падабаўся абсалютна, а палюбіў я яго недзе гады паўтары таму і менавіта не за «чувства добрые», а за «французкую» лёгкасьць, іронію і г. д. Назваў я тады (і гэта супадае з папярэднім пунктам (гл. «па-першае») Фета, Блока, Ясеніна, Маякоўскага, П. Васільлева. Па-трэцяе, калі я не назваў сучасных паэтаў, дык гэта ня значыць, што іх ня ведаю, напрыклад, І. Шклярэўскага я і зараз уважаю ледзь не за найбольш блізкага маёй душы аўтара. Яго як рэаліста (калі рэалізм і рамантызм разумець як трансгістарычныя тэндэнцыі) я прыймаю больш за Ю. Кузьняцова, які мяне цікавіць больш фармальна. Дарэчы, з гэтым паэтам ты мяне не знаёміў, ва ўсякім разе, ня помню, і знайшоў я яго сам праз лаянкавую рэцэнзію. Гісторыя нашага магчымага ліставаньня мяне не зьбянтэжыла (дзіўная заяўка), а прыемна зьдзівіла, ну, можа, сапраўды тое-сёе ў сваіх тагчасных поглядах палічыў за наіўнае, але яшчэ раз нагадаю, што я тады быў звычайны савецкі «хабзаец», учарашні школьнік, значна маладзейшы за цябе, Алесь.

Так што на сябе ў 17 гадоў бы «кума оборотилась». Жылі мы не з Чаропкам у Іслачы[35], а з Бабковым[36]. Спаліў я той верш абсалютна не празь цябе (не бяры лішняга на плечы), а праз С. Сыса[37], які перш хваліў, а пасьля тваёй, як ты яе атэстоўваеш, «зьедлівай» крытыкі пачаў лаяць, табе гэта магло быць невядома… Не шкадую, добра, што спаліў. Такой лухты ў мяне шмат, найгоршае я нішчу, а «сярэдняе» адкладаю на дапрацоўку, часта вечную. Цікава даведацца пра свае думкі, маўляў, я лічу, што ты мяне не ўспрымаеш за паэта. Цікава, але магу цябе ўпэўніць, што ня думаю так, але й не абнадзейваюся. Ды й гэта неістотна.

Наконт «Крыніц»[38]. Ты іх ня ведаеш. «Крыніц» не існуе як плыні, так не існуе нічога савецкага. Ёсьць людзі: і графаманы, і вельмі цікавыя. Няўжо ты думаеш, што, хто друкуецца там, вельмі захапляюцца «Чырвонкаю». Няўжо думаеш, падпарадкуюцца нечаму, «Крыніцы» («Чырвонкі») свабаднейшыя за іншыя выданні на Беларусі. І я лепш друкавацімуся ў савецкіх посттаталітарных сінкрэтычных выданьнях, чымся ў кічавай «Крыніцы» («Роднику»)[39]. Хай жыве кіч! Але безь мяне. Ідэальна, вядома, лепш ігнараваць посттаталітарную прэсу, ствараць сваю, але ня падаць яшчэ ніжэй.

На тым, да пабачэньня. Прабач за крэсьленьне — сьпяшаўся. Спадзяюся ты ня будзеш крыўдзіцца і адкажаш мне на адрас 220056, Менск, Спартыўная, 9, 8. Адновім сяброўства, якое ў цябе такое складанае.

Твой Юрась.

Вітаю Цябе, далёкі сябра!

Твой ліст парадаваў мяне. Як дагэтуль. Як заўсёды. Тым больш дасылаеш уласнае інтэрв'ю, дзе вылучаеш сярод іншых і маё сьціплае імя. Гэта ўражвае. Бо гучыць шчыра, непасрэдна, неафіцыйна. Я вось таксама дасылаю табе падарунак. Я заўсёды выконваю абяцаньні. Праўда, зноў нарабілі ляпсусаў, з-за якіх я вельмі знэрваваўся ўчора. Няма ўжо сіл змагацца з навакольным сьветам. Не, ня трэба ўпадаць загадзя ў меланхолію. Наперадзе — сустрэча з табой!

Томік вершаў Т. Сапач[40] я разглядаў учора ў Дануты Янаўны, так што, я ў курсе. Чытаў таксама і артыкул Л. Галубовіча[41]. А вось што выдаецца кніжачка А. Сыса[42] —

[35] Маецца на ўвазе семінар маладых літаратараў у Доме творчасці Саюза пісьменнікаў «Іслач», які адбыўся ў 1988. На ім Алесь Аркуш і пазнаёміўся з Юрасём Пацюпам.

[36] Ігар Бабкоў (1964) — паэт, празаік, філосаф. Скончыў аддзяленне філасофіі БДУ. Прыканцы 1980-х быў сябрам літаратурных суполак «Бабілон» і «Тутэйшыя». Адзін з заснавальнікаў Беларускага калегіума (1997), выдаваў і рэдагаваў часопіс «Фрагмэнты» (другая палова 1990-х). Першы лаўрэат ТВЛ-аўскай літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (1993). Куратар кніжнай серыі «Галерэя Б».

[37] Сяргей (Сяржук) Сыс (1962) — паэт, журналіст. Скончыў Гомельскі ўніверсітэт. Вучыўся ў адзін час з Анатолем Сысом, Эдуардам Акуліным і Алесем Бяляцкім. Быў сябрам суполкі «Тутэйшыя».

[38] Маецца на ўвазе літаратурнае аб'яднанне «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена», якое ў той час узначальваў Алесь Масарэнка.

[39] «Крыніца» (Родник) — часопіс «Крыніца» пачаў выходзіць з 1989 пад кіраваннем Уладзіміра Някляева. Выходзіў на беларускай і рускай мовах — дублявана. Першапачаткова быў моладзевым ілюстраваным часопісам. У1994–2002 «Крыніца» — элітарны інтэлектуальны літаратурны часопіс на беларускай мове, арыентаваны выключна на беларускую чытацкую аўдыторыю, перадусім на творчую інтэлігенцыю. У 2003 выданне было зачынена ўладамі.

[40] Таццяна Сапач (1962–2010) — паэтка, журналіста, жонка пісьменніка Сяргея Дубаўца. Скончыла журфак БДУ. Аўтарка паэтычнага зборніка «Восень» (1992). На пачатку 1990-х разам з мужам пераехала жыць у Вільню. Рэдактарка і аўтарка праграмы «Віленскі сшытак» на Літоўскім нацыянальным тэлебачанні. Загінула ў аўтакатастрофе.

[41] Леанід Галубовіч (1950) — паэт, эсэіст, журналіст. У 1984 выдаў свой першы зборнік вершаў «Таемнасць агню», які быў вельмі прыхільна сустрэты літаратуразнаўцамі і чытачамі. Вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах ў Маскве (канец 1980-х). Працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных праграм на Беларускім тэлебачанні.

[42] Анатоль Сыс (1959–2005) — паэт. Адзін з заснавальнікаў літаратурнай суполкі «Тутэйшыя». Скончыў філфак Гомельскага ўніверсітэта. У 1988 выдаў свой першы зборнік вершаў «Агмень»

цікавая навіна. Усе думалі, што Толя сьпіўся і паставілі крыж на ягонай творчасьці. А ён бац — і кнігу выдае!

Ты пішаш, каб я ня ўлазіў у афіцыёз, трымаўся незалежнікаў. Я так і раблю. Мяне не спакушае літаратурная «кар'ера» Андрэя Федарэнкі[43] ды Анатоля Казлова[44], якія працуюць у часопісе «Полымя»[45]. Дарэчы, маю падборку вершаў у «Полымі» зарубілі. Яна павінна была зьявіцца ў лістападзе. Каментарыі не патрэбны. Сам разумееш. Так што, мой дарагі сябра, я як знаходзіўся ў апазыцыі, так і застаюся. І застануся, відаць за ўсё, апазыцыянерам назаўсёды. Твая прапанова (наконт «Нашай нівы») больш рэальная, чымся падборка ў афіцыйным «Полымі». Дзякуй табе за клопат.

Ведаеш, Алесь, я і сам разумею, што неабходна прыехаць 13-га, а не 14-га. Гэта лагічна і само сабой зразумела. Я, канешне, і квіток вазьму, і цябе загадзя папярэджу, каб ты сустрэў мяне на вакзале. Вельмі добра, што ты мяне возьмеш да сябе. Будзе больш часу паразмаўляць, бо наступная сустрэча не вядома калі адбудзецца… Каб толькі паездку ў Полацак не перакрыла выцечка ў Польшчу (wycieczka do Warszawy). Думаю, што гэта не павінна здарыцца, хаця тэрмін паездкі на Захад невядомы.

Сягоньня я размаўляў праз тэлефон з Пацюпам, запрашаў яго прыняць удзел у тэлеперадачы. Ён, відаць, таксама прыедзе, хаця цьвёрда не абяцае, што 13–14-га трапіць на імпрэзу «Н. Г. Б. П.» у НП[46].

Юры Гумянюк

*26.10.1991, Гародня*

P. S. Зусім забыўся нашкрабаць колькі словаў пра твой партрэт у інтэрв'ю, што ты даслаў. Ён вельмі-вельмі… карацей кажучы, файны! Мне заўсёды падабалася дэманічнасьць барадатых паэтаў у акулярах… Хацелася б мець такі здымак ня толькі на кавалку газэтнага аркуша, але і ў арыгінале.

Шчыра вітаю!

Вось ізноў нас дзеляць сотні кіламетраў… Я, як заўсёды, сяджу ды ўзіраюся ў начное прадоньне за вакном… Так, ужо даўно па дванаццатай… Але я не кладуся спаць, бо пішу ліст да далёкага сябра, які калісьці напісаў да мяне першы, даслаў падарунак — уласную кніжыцу. Мабыць, гэта й паспрыяла разьвіцьцю завочнага сяброўства. Яно ўзмацнілася нашай нядаўняй сустрэчай. Я вельмі задаволены, нягледзячы нават на тое, што паклаў пэўную ахвяру — парасон. Мастацтва патрабуе ахвяры. Сяброўства, відаць за ўсё, таксама…

Шлях дамоў быў значна лягчэйшы, чымся ў Полацак. Аўтобус прыйшоў у Гародню на гадзіну раней. Так што каля дванаццатай я быў ужо ў хаце ды слухаў музыку Pink Floyd. У памяці ўзьнікалі выявы нашай сустрэчы. Думкі несьліся кудысьці ўдалячынь.

(«Бібліятэчка часопіса “Маладосць”»). Тут маецца на ўвазе выхад кнігі «Пан лес» (1989) у дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура».

[43] Андрэй Федарэнка (1964) — празаік. Быў сябрам літаратурнай суполкі «Тутэйшыя». Скончыў бібліятэчны факультэт Мінскага інстытута культуры (1990). Працаваў загадчыкам аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя». Першы зборнік апавяданняў «Гісторыя хваробы» выйшаў у 1989 («Бібліятэчка часопіса “Маладосць”»).

[44] Анатоль Казлоў (1962) — празаік. Скончыў Гомельскі ўніверсітэт (1985). У 1988–1990 вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры АН БССР. У 1990–1992 загадчык аддзела публіцыстыкі і нарыса часопіса «Полымя».

[45] «Полымя» — найстарэйшы штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выдаецца з снежня 1922 на беларускай мове ў Мінску.

[46] «Н. Г. Б. П.» у НП — «новай генерацыі беларускай паэзіі» ў Наваполацку. Тэрмін «новая генерацыя» ўвёў Алесь Аркуш для пазначэння паэтаў-нетрадыцыяналістаў.

Неабходна было пераварыць тое, што адбылося… Ведаеш, дарагі Алесь, гэта цудоўна, што нашыя погляды сышліся амаль на 100 %. Сапраўды, такое бывае зрэдку. Ну дык файна!

Учора размаўляў праз тэлефон з Пацюпам; казаў яму, каб хутчэй рыхтаваў сваю нізку да нашага зборніка. Сустракаўся я таксама з Алесем Аўчыньнікавым, які адразу згадзіўся адрабіць кніжачку сваімі малюнкамі. Так што мы хутка падрыхтуем рукапіс да друку. Нам толькі неабходна ведаць памеры і аб'ём. Ці памеры тыя самыя, што ў вашай «Тайніцы»? І яшчэ адно пытаньне маю да цябе, дарагі Алесь. Як хутка можна выдаць нашае сумеснае дзіцятка ў Полацку? Ці выйдзе яно ўжо вясной 1992-га, калі я пакладу рукапіс зборніка табе на стол яшчэ ў сьнежні?

Дасылаю табе «Шлях». Пагартай, паглядзі.

Я, канешне, не абяцаю, але пастараюся яшчэ прыехаць да цябе ў гэтым годзе. Магчыма, пад Новы год, які мо й сустрэнем разам. Было б жаданьне. Усім астатнім прыйдзецца ахвяраваць, як нечым зьнікомым і другасным…

Прывітаньне ад Алеся Аўчыньнікава. Я буду яго ўвесь час угаворваць, каб рыхтаваў выставу для Наваполацкага культурнага асяродьдзя. Ён у Гародні зараз самы блізкі мне чалавек. Мы зь ім прайшлі ўсе выпрабаваньні лёсу. Ён заўсёды падтрымлівае маю пазіцыю, за што я яму вельмі ўдзячны. І зараз, калі я зрабіўся незалежным літаратарам, Аўчыньнікаў кажа: «І добра зрабіў, што кінуў гэтае балота, паказаў зубкі афіцыйным дзеячам ад літаратуры… Лепш супрацоўнічай з Аркушам, чымся з хлопчыкамі, якіх правялі, як дурачкоў… Вось і спазнаў "сяброў" на справе[47]». Зрэшты, ты ўжо ведаеш, як разгарнуліся падзеі. Пакуль нічога не чуваць новага. А здарыцца што — абавязкова паведамлю. Чакаю твайго ліста. Як дагэтуль. Як заўсёды. Кланяюся тваёй жонцы. Пацалуй ад майго імя маленькага Антосіка.

Юра Гумянюк

*16.11.1991, Гародня*

*23.11.1991*
*Гародня*

Шчыра вітаю Цябе, дарагі Алесь!

Нарэшце я за сталом сам-насам. Сяджу вельмі задаволены апошнімі падзеямі на літаратурным фронце ў Гародні. Сёньня ўжо дакладна высьветлілася: хто ёсьць хто, таму я магу са спакойнай душой адпачыць ад баталій ды заняцца ўласным зборнікам. Зрэшты, ён ужо падрыхтаваны; Алесь Аўчыньнікаў з задавальненьнем яго аздабляе. Так што кніжачка пад назовам «ЛЕАПАРДАВАЯ СКУРА»[48] хутка трапіць у твае рукі. Паслухай, а ці абавязкова табе дасылаць рукапіс, перадрукаваны на машынцы? Ці можна ад рукі? Бо ведаеш, толькі я адышоў ад «Кола» і ад Дануты, хутка перадрукаваць на машынцы ня маю мажлівасьці. А разумею, што ты хочаш чым хутчэй атрымаць матэрыял. Думаю, што ты разьбіраеш мой почарк. Тым больш вершы я пішу больш каліграфічна, чымся лісты. Дашлю табе, зразумела, і ўласны здымак. Аднак мяне цікавіць сума грошай, якую я павінен унесьці. А галоўнае — калі яе ўнесьці. Разумею — гэта проста так ня робіцца — даў некаму грошы і ўсё… А потым Бог ведае…

Зараз я, канешне, яшчэ знаходжуся пад уражаньнем адбыўшагася. Мы прыйшлі да агульнага знамянальніка — разарвалі з «КОЛАМ». Мы — гэта я, Пацюпа і Андрэй Пяткевіч. Бо працаваць далей — немагчыма. 20-га адбылося паседжаньне «но-

[47] Маецца на ўвазе канфлікт вакол літаратурнай старонкі «Кола», якая выходзіла пры малатыражцы «Гродзенскі ўніверсітэт».

[48] Зборнік выйшаў пад назвай «Водар цела» (Полацак, 1992).

вай» (фікцыйнай) рэдкалегіі, якая займалася «пытаньнем Гуменюка». Бачыш ты, яны (Лаўнік, Мікуліч[49], Мазько) «вырашылі» мой лёс: ці быць мне ў рэдкалегіі, ці ня быць. Сапраўды, шэкспіраўскі варыянт! Мікуліч, зразумела, правіў бал. А я й не прэтэндаваў ні на што, толькі хацеў паслухаць, што яны будуць брахаць на мяне. Карацей, тады нічога не атрымалася, а Пяткевіч ледзь-ледзь не пабіўся з Мазько. Затое ўчора, 22-га, зьявіўся Юрась Пацюпа. Зусім нечакана і для мяне з Аўчыньнікавым, як і для варожага стану: Мікуліч і К°. Ну дык тут усё і пачалося: разборкі, зьнявагі, «моўныя накаты», супэраргумэнтацыя і г. д. Самае дзіўнае, што ўсё з-за таго, што мяне «выгналі» з «КОЛА». А мо і ня дзіўна, хутчэй заканамернае. У выніку — я, Пацюпа і Пяткевіч кінулі гэтае багна. Пасьля апошняе баталіі замачылі сваю перамогу ды нешта намецілі на будучыню. А будучыня павінна належыць «Новай генэрацыі».

Зараз ужо 2 гадзіны ночы, а я вось расьпісваю табе, дарагі Алесь, нейкія сярэднявечныя сутыкненьні ў стылі Вальтара Скота…

Прапанова твая цікавая і разумная, як і ўсе астатнія прапановы і пляны. Мне толькі застаецца адно чакаць на твой ліст ды спадзявацца, што сустрэнемся ў Полацку-Наваполацку пад Новы год. Апошняе залежыць выключна ад цябе.

Заўсёды Твой Юры Гумянюк

Добры вечар, Алесь!

Вялікі дзякуй за нататку і здымак. А ліст я табе даслаў. Ты павінен ужо яго атрымаць. Яшчэ раз паўтаруся, што я згодны з тваёй прапановай. Аўчыньнікаў ужо аздабляе маю кніжыцу. Рукапіс з малюнкамі ды здымкам хутка патрапіць у твае рукі. Праблема толькі адна — перадрукаваць вершы. Але я, відаць, дашлю ў рукапісным варыянце. Так што чакай. Свой партрэт на «паштовы праект»[50] не зусім ухваляю, бо хачу даслаць табе ўсё ж нешта іншае. На гэтым здымачку ў мяне левае вока крыху косіць. Відаць за ўсё, гэта нэрвовая рэакцыя (цік) на згубу парасона. Таму пачакай, калі ласка, з «запускам» у вытворчасьць. А так гэтак здымак неблагі. А хто яшчэ акрамя Сапач, Сільновай[51], Глёбуса ўдзельнічае ў «паштовачнай справе»? Ведаеш, дарагі, Пацюпа добра вайшаў на здымку. Я, відаць, перадрукую тваю нататку са ўсімі здымкамі ў «Гарадзенскім універсітэце».

Дасылаю табе апошні нумар «КОЛА». Яго рабіў Андрэй Пяткевіч. Мы «адвесілі» спадару Мікулічу некалькі накаўтаў і вырашылі выйсьці зь літаб'яднаньня поўным складам верш-гурта «Дыяген». Здрадзіў нам толькі Едрусь Мазько. Зараз верш-гурт — альтэрнатыўная суполка (я, Пацюпа, Пяткевіч, Брусевіч[52]).

Нядаўна размаўляў я праз тэлефон з Алегам Мінкіным. Ён адкінуў версію-інсінуацыю Дануты, даў мне зразумець, што ўсё цудоўна, што ўсё файна, сказаў, што хоча мець прыязныя стасункі ды супрацоўнічаць. Зрэшты, я, ды ўсе знаёмыя так і думалі, бо былі ўпэўнены, што Данута схлусіла і распускае брудныя плёткі разам з Чобатам. Я, Пяткевіч ды Пацюпа — іхнія канкурэнты на літаратурнай ніве… Алег гэта зразумеў адразу.

[49] Мікалай Мікуліч (1960) — літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1990). Працаваў у Гродзенскім універсітэце (1987–2005). Быў кіраўніком універсітэцкага літаратурнага аб'яднання «Наднёманскія галасы».

[50] Маецца на ўвазе набор фотапартрэтаў паэтаў новай генерацыі, які выдаў Алесь Аркуш у Наваполацку ў 1991.

[51] Людка Сільнова (1957) — паэтка. Скончыла філфак БДУ (1979). З 1986 працуе ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Была блізкая да Таварыства вольных літарараратараў. У 1994 выдавецкая суполка «Полацкае ляда» выдала яе зборнік візуальнай паэзіі «Рысасловы».

[52] Анатоль Брусевіч (1977) — паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Скончыў філфак ГрДУ, дзе цяпер і працуе. Даследуе беларуска-польскія літаратурныя сувязі. У 1992 у Гародні выйшаў яго першы паэтычны зборнік «Дуэль», прадмову да якога напісала Данута Бічэль.

Наконт зборнічка крытычных артыкулаў. Ты вось пішаш, дарагі Алесь, каб падумаў і я. А над чым? Я ведаю, што ў Пацюпы ёсьць тое-сёе. А нядаўна ён напісаў цэлае дасьледваньне пра маю творчасьць. Ён, дарэчы, зараз у Гародні. Я спытаю ў яго.

А пакуль чакаю твайго ліста.

*29.11.1991, Гародня*

Шчыра вітаю, my friend!

Прабач, што не напісаў раней. Але ж мы тыдзень таму размаўлялі праз тэлефон. Тым не менш я заўсёды адказваю на лісты, нават на суперканспектныя, як твой апошні. Дзякуй за кніжэнцыі. Думаю, што яны спатрэбяцца гарадзенскім пачынаючым літаратарам. Гэта, зразумела, мяне з Пацюпам ня тычыцца. Тут яшчэ ёсьць некалькі чалавек, якім было б карысна пачытаць, каб мець нейкае ўяўленьне. Іхніх уражаньняў я пакуль ня ведаю. Спадзяюся, што хлопцы паведамяць мяне, выкажуцца шчыра й аб'ктыўна. Андрэй Пяткевіч нават захацеў напісаць рэцэнзію. Але пасьля аўторка на тым тыдні я яго ня бачыў. Аўчыньнікаў з Храмковай[53] (мастацтвазнаўца) сёньня паехалі ў Вільню на выставу скандынаўскага мастацтва. Хачу вось зрабіць радыёперадачу з Пацюпам. Я, дарэчы, у мінулай распавядаў пра «Тайніцу», «Нашу ніву» і г. д. Так што можаш сказаць Мінкіну, што я ня кідаю слоў на вецер…

Ты вось пішаш, што здаў друкаваць абгортку паштовак і што патрэбны нейкія зьвесткі біяграфічнага характару. Вось дасылаю на асобным аркушыку некалькі радкоў. Дык ты лічыш, што ТОЙ здымак з маёй выявай, што ты даслаў, будзе файна глядзецца? А мо хай ідзе? Я і сам ня ведаю. Можа новы здымак дамо ў наступным выпуску (калі такі прадбачыцца)? Зараз цяжка сказаць…

А на вуліцы такая халадзіна! Я вось сяджу ля пліты, узіраюся ў вагністыя стужкі ды пішу табе ліст. Праўда, не канспектнага характару, як твой. Трэба калі-небудзь паспрабаваць у тваім жанры. Ці патрэбны вялікі вопыт! Га?

Дасылаю табе газэтку з артыкулам М. Мікуліча, які Пацюпа зьбіраецца разграміць. Будзеш мець уяўленьне…

Перадавай прывітаньне Вінцэсю, Павалу і ўсім сваім. Ну і (што ўжо ўвайшло ў традыцыю) трымай сувязь!

(Подпіс)

*10.12.1991, Гародня*

P. S. Маё прозьвішча ў назоўным склоне пішацца па-беларуску праз Я: ГУМЯНЮК, бо першы склад перад націскам.

ЮРЫ ГУМЯНЮК нарадзіўся ў Гародні 24-га верасня 1969 года. Па заканчэньні сярэдняй школы (1986) актыўна займаецца творчай дзейнасьцю, у студзені-лютым 1987-га разам з Юрасём Пацюпам і Андрэем Пяткевічам стварае альтэрнатыўную літаратурную суполку ВЕРШ-ГУРТ «ДЫЯГЕН», якая займалася эпатажам партапаратчыкаў, камсамольскіх актывістаў, пракамуністычна настроеных выкладчыкаў; а таксама прапагандай авангарднага мастацтва. Зараз Юры студэнт філалагічнага факультэта Гродзенскага ўніверсітэта, вядучы літаратурнай праграмы абласнога радыё. Вершы друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Зрок», штотыднёвіку «ЛіМ», рэспубліканскіх газэтах.

---

[53] Алена Храмкова — гарадзенская мастацтвазнаўца.

Вітаю Цябе, дарагі Алесь, з маленькага Парыжа!

Ведаеш, нягледзячы на тое, што на насу сэсія і я «закапаўся» з гэтым савецкім дэбілізмам, я шчэ дыхаю літаратурным паветрам. Тым больш пасьля нашае апошняе тэлефоннае размовы. Так, я вырашыў працаваць з табой надалей, бо (яшчэ раз хачу запэўніць) слоў на вецер ня кідаю.

Вядома, нам трэба стварыць «шчыльную», «жорсткую» каманду, як ты пісаў у папярэдніх лістах, дзе за кожнага будзеш упэўнены і г. д. Так што ты, Алесь, меў 100 %-ю рацыю. Зрэшты, я заўсёды так думаў, але спадзяваўся на Пацюпу, як на самага «аўтарытэтнага», ствараў яму добрую «опінію» і г. д. А гэты Юрась «і нашым, і вашым». Ёсьць файная прыказка: «За двума зайцамі пагонішся…». Ты вось пытаешся: «Што думае Пацюпа?» Пакуль нічога ня думае. Ці адказаў ён на твой ліст? Ці зноў тая самая гісторыя, як некалькі год таму? Няма, дарагі Алесь, больш сіл. Здаецца, і кінуў ужо гэты афіцыёз, разьвітаўся з гэтай бандай. А ўсё роўна — няма душэўнай раўнавагі. Вось і Пяткевіч зьнік бязь сьледу… Толькі Алесь Аўчыньнкаў, як стары філін, мовіць; «Гаварыў я табе, каб ты не пітаў ілюзій да гэтых хлопчыкаў…» Зараз гэтыя словы, быццам рэха, стаяць у вушах…

Твае прапановы, Алесь, вельмі цікавыя і своечасовыя. Я паспрабую нешта напісаць. Думкі — яны заўсёды ёсьць. Застаецца толькі рэалізаваць на паперы. Грошы за паштоўкі «Новай генерацыі» і на перадрукоўку майго зборніка «Леапардавая скура» хутка вышлю. Крышку пазьней рукапіс з малюнкамі. А як вы назвалі сваё выдавецтва? Гэта ж таксама важна, тым больш што адкрываеце рахунак.

Хвалюе мяне толькі эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы. Баюся, каб не прыйшлося плаціць больш у наступным годзе за маю кніжыцу… Тым часам ворагі актывізуюцца, будуць ствараць перашкоды…

Ага! Ну дык як тэкст маёй біяграфіі? Пайшоў? Ці, як я зразумеў укладыш да паштовак таксама быў ужо надрукаваны? І як, цікава, гэта ты падлічыў, што я з 1970-га года? Добра, калі ўсё будзе файна! Ты, увогуле, малайчына! Трэба табе, відаць прысьвяціць верш, а то й некалькі.

Ты, мой дарагі, пішаш, што трэба спланаваць яшчэ адну акцыю на вясну. Трэба, толькі не адну. Вось, калі выйдзе «Леапардавая скура», зробім прэзентацыі, правядзем там-сям сустрэчы, запісы на TV і радыё. Як у вас, так і ў нас. Дамо шмат інтэрв’ю прэсе, зробім розныя фоткі. Ты казаў некалі, што можна на відэа запісацца. Усё залежыць ад нас і ад часу, які настане. Пажывем — паглядзім. Я ж заўсёды прыслухоўваўся да тваіх прапаноў і цалкам патрымліваю цябе й нашу агульную справу. Непакоіць толькі, як я ўжо пісаў вышэй, эканамічнае становішча. Як і што будзе? Хто ж ведае?

Я, канешне, паведамлю табе, калі прыеду ў Полацак, каб сустрэцца асабіста і накрэсьліць плян далейшай дзейнасьці НАШАЕ суполкі. Ня ведаю толькі, як яе назваць. Назова пакуль канкрэтнага няма. Але ж мы трымаем кантакт ліставаны і тэлефанічны. Ну, усяго табе найлепшага.

Заўсёды Твой Юры Гумянюк

*17.12.1991, Гародня*

Дарагі Алесь!

Вось, нарэшце, дасылаю табе рукапіс «Леапардавай скуры». Прыйшлю хутка й грошы на перадрукоўку і на паштоўкі з нашымі выявамі. Зараз некалькі аўтарскіх заўваг да працы над зборнікам. Мо, хутчэй, просьбаў.

У зборнік увайшло 33 вершы, якія дзеляцца на 2 разьдзелы: 1) Відэакліпы 2) МУЗА Ў БУТЭЛЬЦЫ.

Назовы разьдзелаў павінны, на маю думку займаць чыстую старонку бяз тэксту (як у вашай «Тайніцы»)

Верш «Зялёнае вока» — сваеасаблівы ўступ, ён ідзе першы і ў аніякую нізку не ўваходзіць.

Старонкі зь вершамі не нумарую, а дасылаю зьмест з нумарацыяй вершаў. Г. з. які за якім ідзе. Справа ў тым, што кожны верш павінен займаць адпаведную старонку. Але ёсьць некалькі «вялікіх» вершаў, якія парушаюць межы. Таму старонкі вы ўжо паглядзіце.

Хацелася б (так павінна быць) каб шрыфт быў такі, як і ў «ШЛЯХУ».

Дасылаю вокладку працы Аўчыньнікава.

Маё прозвішча ЮРЫ ГУМЯНЮК і

назоў ЛЕАПАРДАВАЯ СКУРА лепш даваць

такім жа шрыфтам, як і вашыя прозвішчы на «Тайніцы».

Астатнія два малюнкі можна выкарыстаць як віньеткі да назоваў разьдзелаў.

Уласны здымак дашлю крышку пазьней. Аб астатнім дамовімся па тэлефоне. Загадзя ўдзячны ТАБЕ, Алесь!

Шчыра аддады (подпіс)

*19.12.1991, Гародня*

Cześć Panu!

Jeszcze raz witam serdecznie oraz składam zyczenia z okazji świąt Bożego Narodzenia!

Ну а зараз з польскай мовы пераходжу на беларускую. Ты, Алесь, маеш рацыю, — падзеі разгортваюцца ў спрыяльным для нас варыянце. Застаецца толькі жадаць, каб усё рухалася ў адпаведным кірунку надалей.

З «ЧЗ», Масарэнка і К° мы, здаецца, усё высьветлілі падчас тэлефоннай размовы. Аднак ты ў лісьце кранаеш адзіную дэталь, якую нельга абмінуць. Ты сцьвярджаеш, што мне трэба чакаць розных «козней». Зь якога боку? Для мяне гэта ўжо мінулы этап. Я добра разумею імкненьне Масарэнкі кантраляваць усю маладую літаратуру Беларусі. Я згодзен з табой, што «Крыніцы» — літаб'яднаньне постсацыялістычнага тыпу, бо ведаю іхнюю «кухню» вельмі добра. Некалькі разоў наведваў масарэнкаўскія «паседжаньні», каб спаткацца там з Чаропкам. Наконт Пацюпы. Масарэнка (я зразумеў па некальніх ягоных «адзначэньнях») ня любіць Пацюпу. Бо Юрась не сьпявае ў адзін голас з «крынічанцамі», а падчас крытыкуе як любімчыкаў Масарэнкі, так і самога Масарэнку. Так што сам разумееш. Апошняя іхняя «стычка» была, здаецца, з-за назову калектыўнага зборніка «Першацвет». Я даведаўся ад самога Алеся Герасімавіча, што туды войдзе ажно 50 аўтараў! Слухай, дык гэта ж суцэльнае вар'яцтва!

Я размаўляў нядаўна з Пацюпам. Ён запэўніваў мяне, што не зьбіраецца йсьці на кампраміс з афіцыёзнымі дзеячамі, якія любяць зьлізваць пенку ад нашае дзейнасьці. Я сказаў Юрасю, каб ён не «забываўся» адказваць на твае лісты. А ўвогуле, ты ж трымаеш сувязь са мной, так што… non problem.

А задзірацца я ні з кім не зьбіраюся. Проста, як я ўжо тлумачыў і табе, і Алегу Мінкіну, на мяне нападалі як «правыя», так і «левыя». Яны прымусілі мяне абараняцца.

Дарэчы, учора дый сёньня ў мяне сьвяточны настрой. І ня толькі таму, што Boże Narodzenie, што ўчора адбылася тэлефонная гаворка з табой, а ўвечары банкецік… Ведаеш, на маіх вачах Мазько (сёньняшні складальнік «КОЛА») пасварыўся зь Мікулічам, які выгнаў мяне з «КОЛА». Гэта значыць, што варожая групоўка сама сябе зьнішчыла! Файна было прысутнічаць на ўрачыстым «паседжаньні»! Зараз у іх катастрафічнае

становішча: недахоп матэрыялаў, гвалтоўнае зьнішчэньне ўзроўню і г. д. Плюс Мазько кінуў пасаду складальніка. Так што пазытыўныя зьмены ня толькі ў Наваполацку, але і ў Гародні.

Зараз галоўнае — выданьне маёй кніжыцы. Можа назваць яе «ПСІХАДЭЛІЧНАЕ МАСТАЦТВА»? Альбо «ПАВУЦІНА», альбо «КЕЛІХ», альбо «НАРКАТЫЧНАЕ МОРА», альбо «ПАВЕРХНЯ», альбо «АМАРОКА»?

Я так цаню тваю руплівасьць! Тым больш ты дастаў паперу на вокладку!

Усяго табе найлепшага, дарагі Алесь! Маю надзею, што спаткаемся пасьля сьвятаў недзе напрыканцы студзеня альбо лютага.

(подпіс)

*25–26.12.1991, Гародня*

*У капэрце была таксама навагодняя паштоўка.*

Дарагі Алесь!

Віншую сардэчна Цябе і Тваю сям' з надыходзячым Новым Годам.

Жадаю ад усяе душы творчых посьпехаў, добрага здароўя, шчасьця ў асабістым жыцьці.

Жадаю таксама, каб у 1992-м зьдзейсьніліся нашы агульныя мары!

Твой Юры Гумянюк

*25.12.1991, Гародня*

Прывітаньне!

Вось і сустракаемся мы ўжо ў Новым, 1992-м годзе, пад знакам ЧОРНАЙ МАЛПЫ. У гэнай малпы вельмі жахлівы твар ды драпежныя паводзіны. Зрэшты, не ў малпе справа. Гэта наш «цудоўны» ўрад зрабіў файны навагодні падарунак паспалітаму люду — новыя «рынкавыя» цэны. Ты, Алесь, жадаеш «здароўя — для змаганьня з рынкам-цмокам». Які там к чорту рынак! Гэта ня рынак — абшчак. Да сапраўднага рынку яшчэ топаць ды топаць. Спачатку трэба было вырашыць пытаньне аб прыватнай уласнасьці, а ўжо потым адкручваць цэны. Ня хочацца нават і гаварыць пра гэта. Крыўдна за ўсё. Баліць сэрца і душа. Бо палітычна-эканамічная сітуацыя душыць мастацтва, імкнецца пакрыжаваць нашыя агульныя пляны…

Ты жадаеш мне «першай кніжкі». Дзякуй. Але гэта залежыць у большай ступені ўжо ад цябе. І зноў жа — у якой атмасферы адбудзецца выхад «ПСІХАДЭЛІЧНАГА МАСТАЦТВА»? Зноў жа: б'е ў твар бессаромная рэчаіснасьць цэнамі, купонамі, пустымі паліцамі ў крамах і г. д. Я вось думаю: «Як людзі адрэагуюць на выхад маёй кніжыцы?». Вядома, каб яна выйшла 2 гады таму, яна б зрабіла фурор і магла б быць «касавай». У тыя часы посьпех маіх вершаў (як і ў мінулым годзе) быў відавочны. Думаю, што й зараз будзе тое самае, але зь іншым прысмакам. Я вось задумаўся над тым, як рабіць «раскрутку» ў такі складаны час. Сягоньня, прачытаўшы ў абласной газэце артыкул пра цэны на праезд у аўтобусах «міжгарад», жахнуўся. Ад Гародні да Менску білет каштуе 78 р.! Вось табе і зрабілі «гастролі» па рэспубліцы й раскрутку зборніка. Трэба яшчэ даведацца колькі каштуе квіт да Полацку з Гародні. Баюся, што больш, чым да Менску. А сустракацца неабходна ўсё роўна, бо лісты й тэлефонныя размовы дапамагаюць толькі на 50 %. Хаця й гэтыя сродкі камунікацыі файныя.

Вось такія, Алесь, справы. «ЖЫВЕ МАСТАЦТВА!!!» — адпаведны лёзунг. А як жыць тым, хто стварае мастацтва? Як жыць, каб ствараць яго на адпаведным узроўні?

Як ладзіць, у рэшце рэшт, агульную справу: новыя выданьні, «гастролі», прэзентацыі, інаўгурацыі і г. д.? Узьнікае шмат пытаньняў. Тутака абяцаюць даць стыпендыю каля 500 р. Калі так — то добра. Тады змагу даехаць да Полацка, каб спаткацца з табой…

29.12.1991 — выйшаў чарговы нумар «КОЛА», які складаў спадар Мікуліч. Большасьць аўтараў мне зусім нічога не гаворыць. Абсалютна новыя людзі. Даслаць табе для «аналізу» не магу, сам толькі атрымаў ад Мікуліча адзін экз. Шыльду яны намалявалі іншую, але назоў захавалі разам з выявай Купалы. Больш няма чаго сказаць аб выпуску.

Думаў я над артыкулам і ўвогуле тэмамі да зборніка-маніхвэста. Мне падаецца, што ты бярэш сабе даволі шырокую тэму «Мастацтва ў часы агоніі». Назоў трэба зьмяніць ды канкрэтызаваць: «Літаратура часоў агоніі Савецкай Беларусі» альбо нешта на кшталт гэтага. Пацюпа казаў, што ўвогуле ня трэба нейкага разьмеркаваньня тэм, бо гэта нагадвае метады працы ў нашым «славутым» Інстытуце літаратуры АН Беларусі. Я яму растлумачыў, што гэта ня так, аўтар вольны выбраць сабе адпаведную тэму. Я, відаць, буду пісаць аб паталагічных зьявах савецкай сьвядомасьці ў паэтаўаксакалаў (Панчанка[54], Русецкі[55], Грахоўскі[56] і К). Тэма «Сацрэалізм і метафізічны гомасэксуалізм». За Андрэя Пяткевіча я нічога не магу казаць, бо ён асоба «няроўная» ды апошнім часам зьнік, відаць, зноў пайшоў у «падпольле».

Вось такія, дарагі Алесь, справы.

Усяго табе добрага. Чакаю чарговага ліста.

Прывітаньне жонцы, Вінцэсю Мудрову і г. д.

Твой аднадумца і паплечнік.

ЖЫВЕ МАСТАЦТВА!!!

*5.01.1992*
*Гародня*

P. S. Хутка дашлю табе «КОЛА» і вокладку з малюнкамі да майго зборніка. Трэба толькі сустрэцца з Аўчыньнікавым.

Добры дзень!

Ты мяне, дарагі Алесь, парадаваў сваім лістом, нягледзячы на тое, што ад яго «цягне» рацыяналістычным халадком. А мой песымізм хвілёвы і пазытыўны ў нечым. І ўзьнікае ён часамі, але зусім не ад таго, што я, кажучы тваімі словамі, «зь вежы сваіх невялікіх гадоў» разьлічваю на бліжэйшыя рэзультаты. У творчасьці я не кіруюся нейкім разьлікам, бо ведаю (так як і ты), што гэта марны занятак, ведаю таксама, у якіх варунках мы жывём і невядома колькі будзем так жыць… Але добра й тое, што літаратары трымаюць сувязь і яшчэ ўмудраюцца вершы пісаць.

Ці чытаў ты ў «ЛіМе»[57] анкету, дзе розныя пісьменьнікі выказваюцца наконт становішча і будучыні бел. літ-ры? Вось яны і сапраўды глядзяць на ўсё зь вежы, толькі ня «зь вежы сваіх невялікіх гадоў», а, наадварот, зь вежы вялікіх гадоў. Так што разуменьне сытуацыі не залежыць ад узросту. Прагляндзі, калі будзеш мець ахвоту і час, і прааналізуй.

[54] Пімен Панчанка (1917–1995) — народны паэт Беларусі, лаўрэат шматлікіх савецкіх літаратурных прэмій.

[55] Аляксей Русецкі (1912–2000) — паэт.

[56] Сяргей Грахоўскі (1913–2002) — паэт, празаік. У 1936 арыштаваны як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і асуджаны да 10 гадоў Гулагу. Вызвалены 19.10.1946. Аўтар успамінаў пра пакуты ў зняволенні.

[57] «ЛіМ» («Літаратура і мастацтва») — штотыднёвая літаратурная газета. Заснавана ў 1932.

Гэта добра, што Павел хутка стане рэдактарам новай газэты[58] і ты будзеш працаваць там. Гэта повад для аптымізму. Такім чынам усё ж ствараецца нейкая супольнасць выданьняў, якія будуць працаваць на агульную карысьць. Дый манаполія Глёбуса канчаецца. Я вось таксама буду, відаць, падпісваць кантракт-дамову зь мясцовай тэлерадыёкампаніяй, дзе я заснаваў літвыпуск «КАНТЭКСТ». Акрамя ўсяго, абласная газэта «Маладзёжны кур'ер»[59] прыхільна ставіцца да мяне, рэкламуе маю асобу. Так што бачыш, Алесь, пакуль ёсьць каналы. Ад «КОЛА» я ўжо адмовіўся, яшчэ ў той час, калі мы сустрэліся ў Наваполацку.

Бачыў я ў «Народнай газеце» здымак Цімохавых[60], чытаў нататку Валі Аксак[61]. Малайцы! Алесь Аўчыньнікаў іх хваліў таксама, казаў, што яны добрыя мастакі.

Добра, што выйшаў набор паштовак з выявамі паэтаў «Новае генэрацыі». Трэба ўзгадаць аб гэтым у «КАНТЭКСЬЦЕ». Гэта ж падзея ў літаратурным жыцьці рэспублікі! Вось і назьбіраўся матэрыял да радыёперадачы. Зараз напішу сцэнар, а ў панядзелак зробім запіс. Ты, дарагі Алесь, паведамляй мяне, калі ласка, аб культурным жыцьці вашых мясьцін. Помніш, ты абяцаў даслаць арыгінал здымку, які быў у газэце «Местное время»[62]. Здаецца, у інтэрвью, што Марцінкевіч браў у цябе. Гэты здымак мне надта падабаецца. А ўвогуле трэба ж займацца рэклямай, стварэньнем «опініі публічнай». У «Маладзёжным кур'еры» хочуць мець цэлую сэрыю (са здымкамі, зразумела) публікацыяў пра НОВУЮ ГЕНЭРАЦЫЮ. Я вырашыў заняцца гэтым асабіста. Зрэшты, пагаворым яшчэ, калі я прыеду да цябе зноў. Шмат аб чым трэба паразмаўляць. Трэба вось сэсію здаць і разьлічыцца з універам. А там па студэнцкаму білету вазьму квіт і — да цябе. Напрыканцы студзеня — у пачатку лютага. Згодны?

Дзякуй табе за ўсё. Пішы.

Шчыра адданы Юра

*12.01.1992*
*Гародня*

Cześć Panu, witam serdecznie!

Шчыра кажучы, чакаў твайго ліста крышку раней. Учора атрымаў карэспандэнцыі ад Пяткевіча і Сідарука. Ігар Сідарук даслаў мне ўласны зборнік «ЧАРНАБЕЛ», які выдаў у Кобрыне. Вось гэта навіна! Ці даслаў табе асобнік з аўтографам? Нечакана й тое, што рэдактар кніжачкі — Алег Мінкін. Я ўжо павіншаваў Ігара зь першачком і адпісаў яму яшчэ ўчора. Вось і яшчэ адзін сюжэцік для майго «Кантэксту».

А «Споведзь стукача»[63] Славаміра Адамовіча чытаў я. А як жа! Дакладней — чыталі разам з Аўчыньнікавым. Навошта Славамір друкуе такія «Споведзі»? Быццам апраўдваецца перад кімсьці. Ты вось пішаш: А колькі было стукачоў яшчэ «покруче». Мой дарагі, а колькі іх яшчэ ёсьць! Сёньня здарыўся са мной вось які выпадак. Помніш, я табе распавядаў пра Мікуліча, які «кантраляваў» самых актыўных маладых літаратараў Гародні? Ну дык вось. Прыходжу сёньня я на радыё дамаўляцца на-

[58] Наваполацкі гарвыканкам, які ўзначаліў дэмакрат Аляксандр Ніякоўскі, заснаваў новы орган «Новая газета», першым рэдактарам якой стаў Павел Бурдыка.

[59] «Маладзёжны кур'ер» — абласная моладзевая газета Гарадзеншчыны.

[60] Сяргей (Сяржук) Цімохаў (1960–2012) і Рыта Цімохава (1962) — мастакі, муж і жонка, на пачатку 1990-х жылі ў Полацку. Сяржук Цімохаў — аўтар эмблемы Таварыства вольных літаратараў.

[61] Валянціна Аксак (Арлова) (1953) — паэтка, журналістка. Жонка пісьменніка Уладзіміра Арлова.

[62] «Местное время» — газета, заснаваная Наваполацкім гаркамам камсамола, выйшла ўсяго некалькі нумароў. Рэдагаваў выданне Сяргей Пятроў.

[63] «Споведзь стукача» — артыкул Славаміра Адамовіча пра яго вярбоўку з боку КДБ, надрукаваны ў маскоўскай «Литературной газете».

конт далейшага лёсу «Кантэксту», а начальнік кажа: так і так, маўляў, прыходзіў той самы Мікуліч і патрабаваў, каб мяне і блізка да мікрафона не падпускалі, бо я ненадзейны і злы чалавек. Разумееш!? А кіраўнік радыё кажа яму, што хто вы, маўляў, такі, каб тут распараджацца і загадваць, што нам рабіць? А Мікуліч яму кажа: Я кіраўнік літаб'яднаньня «Наднёманскія галасы»! А той яму тлумачыць: «Ну і кіруйце, калі ласка, а на радыё ня лезьце! А з Гуменюком мы будзем супрацоўнічаць, бо ў яго ёсьць талент і здольнасьці…» Вось такі выпадак. Справа ў тым, што тут каса найшла на камень. Мікуліч спадзяваўся зрабіць мяне стукачом, а ўсіх астатніх сваёй сьвітай. Але, як кажуць, факір быў п'яны, фокус праваліўся! А зараз, калі самыя лепшыя кінулі «КОЛА» і літаб'яднаньне, ён пачаў кусаць сябе за зад. Ты ведаеш, я ўкладаў «КОЛА, а ён, аказваецца, грошы атрымліваў. Вось так, мой дарагі. Пяткевіч зьбіраецца пісаць на яго разгромны артыкул. Дарэчы, ці чуў ты інтэрв'ю Пяткевіча на радыё «Свабода»? Файная рэч! Многія чулі і потым распавядалі…

Дзякуй табе за ўкладыш. Там, праўда, ёсьць некалькі памылак. Бог зь імі. А калі дашлеш паштоўкі? Тут у Гародні яшчэ ёсьць жадаючыя набыць нашыя фотафэйсы. Вось калі прыеду да цябе — дамовімся. А пакуль мне застаецца адзін іспыт па расейскай літ-ры і запазычанасьць — залік па методыцы выкладаньня. Усё астатняе я паздаваў на «5». Апошні іспыт 26-га. Вось пасьля 26-га і буду зьбірацца ў дарогу, да цябе. Трэба ж абмеркаваць шмат справаў!

Паглядзі, калі ласка, часопіс «ЗРОК»[64] № 9–10, 1991. Там мае вершы і Пацюпы. Здаецца, у рукапісе, які табе даслаў, я зрабіў некалькі памылак. Параўнай, калі ласка, з часопіснай публікацыяй. Верш «ЧОРНАЕ ВОЗЕРА» апошні радок павінен быць «на тле адраджэньня».

Верш «ЭКЗАТЫЧНАЯ ЛЮБОЎ» — 3-я страфа, апошні радок: «пацякуць па пакою напоем з ранэта». Астатняе ўсё файна. І яшчэ адно. Пра які здымак (твой ці мой) ты распавядаеш? Які будзе і ў маім наборы? І каму ня варта дасылаць яго асобна?

Чакаю допісаў. Усяго добрага.

Твой удзячны сябра (подпіс)

*21–22.01.91*
*Гародня*

Прывітаньне, шаноўны!

Вось і ты, нарэшце, адгукнуўся. Тутака ўжо даслалі свае «эпістолі» Андрэй Пяткевіч і Ігар Сідарук (двойчы), нават Чаропка шкрабануў з тры тузіны радкоў. Мы зь ім амаль год не ліставаліся. Вітак усхваляваўся, што я недзе зьнік, не тэлефаную, не пішу, папрасіў прабачэньня, што не павіншаваў з Новым годам. Потым нечакана Вера Бародзіч[65] даслала свой альманах «Запалі імгненьне» з прадмовай У. Арлова[66]. Ці бачыў ты гэтую кніжыцу? Я пакуль яе толькі прабег вачыма, уважліва ня ўчытваўся, але заўважыў, — там тыпова дзявочыя рэчы. Як калісьці напісаў мне Лёнік Дранько-Майсюк[67], параўноўваючы артыкулы Ю. Пацюпы і нейкай Зінаіды Драздовай[68] пра свой зборнік «ТУТ».

---

[64] «Зрок» — штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны беларускамоўны часопіс, які выдавала Беларускае таварыства інвалідаў па зроку.

[65] Вера Бародзіч — паэтка. Кіраўніца літаратурнага аб'яднання ў Лепелі.

[66] Уладзімір Арлоў (1953) — празаік, паэт, журналіст. Кіраваў літаратурным аб'яднаннем «Крыніцы» пры наваполацкай газеце «Хімік». У 1989 пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск.

[67] Леанід Дранько-Майсюк (1957) — паэт, празаік. У 1980–1990-я працаваў рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

[68] Зінаіда Драздова — літаратурны крытык.

Справа з залікам пакуль канчаткова не высьветлілася. Вядома адно, што той дубовы выкладчык ня будзе ўжо ў мяне прымаць. А стыпендыю шаснулі, далі нейкіх 100 р. Як здам — зноў будзе ўсё добра. Настрой крыху палепшыўся, нягледзячы на цалкам згубленыя з-за заліка 1,5 месяца. Правалілася турнэ «Гародня — Менск — Полацак — Наваполацак — Гародня», якое я намеціў раней.

Такія, мой дарагі, справы ў мяне. Што ж, раблю свой радыёчасопіс «КАНТЭКСТ». Вось мінулым разам прачытаў тры тваіх вершы зь «Вяртаньня», запісаў ужо наступны выпуск з удзелам Толіка Брусевіча. Яму ж Масарэнка даў прэмію за 1991 год.

Наконт надзейнага чалавека. У Менску я нікога такога ня ведаю, калі суадносіць з тваімі патрабаваньнямі. Усе мае знаёмыя так ці інакш уваходзяць у нейкія групоўкі. А незалежных, тым больш маладых, цяжка знайсьці. Сапраўды. Тым больш, каб гэты чалавек быў усебакова на ўзроўні. Дый выдаваць сёньня таксама трэба на ўзроўні. Маю на ўвазе друкарскую якасьць, колеры і г. д. Пра зьмест ужо няма мовы. Мо таму «Ксэракс…» зараз ня йдзе?

Так, нядрэнна, каб мець яшчэ колькі камплектаў «МБП»[69]. Тым больш Аўчыньнікаў хацеў. А ці Пацюпу ты прапанаваў? Яшчэ каму ў Менску?

Неяк у адной з тэлефонных размоваў Чаропка пытаўся: «Калі празаікаў пачнуць выдаваць?»

Я й ня ведаў, што ты зрабіўся летапісцам «Мясцовага часу»[70]. Дзе зьбіраешся выдаваць гэтую кніжыцу?

Ага! Ці даведаўся ў друкарні, колькі будзе каштаваць выданьне майго «П. М.»? Гэта ж вельмі надзённае пытаньне.

Ну ўсяго табе. Перадавай прывітаньне жонцы, Антосіку, а таксама шаноўнаму Вінцэсю.

Ваш сябра (подпіс)

*15.02.1992*
*Гародня*

Добры дзень, дарагі Алесь!

Прабач, што доўга не адпісваў, маўчаў, як у рот вады набраўшы. Справа ў тым, што ўвесь гэты час ішлі баявыя дзеяньні ў Гарадзенскім універы. Зразумела, спаміж мной і ворагамі роднага слова, якія заварылі катавасію. Так, мой канфлікт з адыёзнымі асобамі з-за заліка па матэматыцы ўсё яшчэ цягнецца. Ворагі два тыдні таму «состряпали приказ» аб маім адлічэньні і выкарысталі прыём псіхалагічнага ціску. Але іхні нумар не прайшоў. І я пакуль застаўся вучыцца… Камэнтаваць і ня трэба. Сам разумееш, што тут справа не ў маім няведаньні дысцыпліны, а значна глыбей.

А зараз пяройдзем непасрэдна да майго зборніка. Зь некаторымі заўвагамі Вінцэся я цалкам згодзен. А менавіта:

у вершах «Фотафэйс» і «Твая Венэцыя» сапраўды трэба пісаць В э н Э ц ы я

у вершы «Тэлеграф» б л Ё к і б л Я к а д а

у вершы «Э п і ц э н т А р»

у вершы «Амарока» машыністка надрукавала замест НАФТА (гл. апошнюю страфу) КАФТА. Вінцэсь, праўда, гэтага не заўважыў.

У вершы «Чорнае возера» апошні радок павінен быць такі «на тле адраджэньня» (было «падчас адраджэньня»)

---

[69] «МБП» — «Маладая беларуская паэзія», камплект фотапартрэтаў паэтаў.

[70] «Мясцовы час» (1987–1998) — полацкі рок-гурт. Алесь Аркуш, як тэкставік, працаваў над альбомам гурта «Наша ўскраіна» (1991).

у вершы «Агністы мак» машыністка згубіла ў трэцім выпадку — Ь- у слове прасЬцірадле

у вершы «Паверхня» замест КАТ трэба:

«Яе ня зьнішчыць НАТ кіслотны дождж…»

у вершы «Тост фіялетавай грушы» трэба а н Э к д о т

Вось, відаць, і ўсе мае заўвагі. «Ружавокі дракон» — так трэба, і я катэгарычна ня згодзен нічога тут мяняць.

Вялікі вам дзякуй за працу над маёй кніжачкай. Хутка дашлю вокладку з малюнкам Аўчыньнікава. Адзінае спрэчнае пытаньне — назоў зборніка! Пацюпа рэзка пакрытыкаваў мяне за «ПСІХАДЭЛІЧНАЕ МАСТАЦТВА». Таму пытаньне пакуль застаецца адкрытым. Не набірайце яшчэ назоў. Хацелася б, каб шрыфт быў такі, як і ў зборніку Пацюпы, альбо ў зб. «Шлях».

Хутка ўжо 3 гадзіны ночы, трэба класьціся. 14–15.03.92, відаць, буду ў Менску на вечарыне з нагоды 27-годьдзя Пацюпы.

Ну, усяго табе найлепшага.

Твой малодшы сябра (подпіс)

*9.03.1992*
*Гародня*

Сардэчна вітаю, цябе, дарагі Алесь!

Нарэшце атрымаў твой доўгачаканы ліст. Ну дык віншую вас са стварэньнем «Новай газэты»! Добрая справа. Тым больш і каманда ў вас файная. Ты вось пішаш, што і Вінцэсь да вас перайшоў. Адкуль, калі не сакрэт?

Так, быў я 14–15-га сакавіка ў Менску. У тым ліку і на Пацюпавай вечарыне. Прысутнічалі акрамя мяне: Анатоль Сыс, Славамір Адамовіч, Вітаўт Чаропка, Сяржук Мінскевіч, Андрэй Пяткевіч, Уладзімір Пучынскі-Пірог[71], Натальля Кучмель[72] і, зразумела, Анэля[73], Пацюпава жонка. Ведаеш, пасядзелі, паелі, папілі, паразмаўлялі і разышліся. Другі дзень я правёў з Чаропкам.

«Маладая паэзія» набыла невялікі розгалас. С. Адамовіч набыў камплект, Пацюпа, чуў пра паштоўкі і Сыс. Табе, Алесь, трэба было напісаць нататку ў «ЛіМ». Так, як ты напісаў пра Цімохава. Тады б і быў вялікі розгалас. Я рабіў паведамленьне ў сваім «Кантэксьце». Так што наконт розгаласу табе не трэба хвалявацца. Ці ёсьць у цябе яшчэ гэтыя камплекты паштовак? Ці можаш выслаць набораў 15? Прапаную бартэр. Я табе вышлю калекцыю выцінанак А. Аўчыньнікава. Надта ж файныя тыя выцінанкі!

Вось дасылаю нарэшце вокладку да майго зборніка. Унізе, дзе белае поле, набярыце шрыфтам назоў «ВОДАР ЦЕЛА». На тытульным лісьце

ВОДАР ЦЕЛА
(псыхадэлічнае мастацтва)

Полацак 1992

[71] Уладзімір Пучынскі-Пірог (1970) — паэт, журналіст. На пачатку 1990-х сябра літаратурнага аб’яднання «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена».

[72] Наталля Кучмель (1964) — паэтка. На пачатку 1990-х сябра літаратурнага аб’яднання «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена».

[73] Анжаліна Дабравольская (1969) — паэтка. Першая жонка Юрася Пацюпы. У 1994 «Полацкае ляда» выдала яе зборнік паэзіі «Пазамежнасць».

Ага, пракансультуйся зь Вінцэсем, калі ласка, наконт слова псЫхадэлічнае. Як яго трэба пісаць. Калі праз Ы — то зьмяніце, калі ласка, у аднайменным вершы. Здымак мой маеш. Так што запускайце ў вытворчасьць. Дасылаю таксама некалькі віньетак. Іх можна выкарыстаць (не ўсе, канешне) таксама. Напрыклад, калі верш надта доўгі, а на наступнай старонцы яшчэ застаецца месца.

Ну вось і ўсё. Мне застаецца спадзявацца, што ўсё будзе добра і акуратна зроблена і, самае галоўнае, што спатрэбіцца ня так многа грошай. Бо я ў стане пакласьці толькі 1000 р.

Ведаеш, Алесь, віньетачкі можна выкарыстоўваць і ў іншай справе. Што тычыцца маёй кніжкі. То можна віньеткі выкарыстаць для аздабленьня назваў разьдзелаў «Відэакліпы», «Наркатычнае мора». Тады асобныя вершы і ня трэба аздабляць. Тым больш ты казаў, што гэта цяжкая справа.

Карацей, дарагі Алесь, паведамляй аб усім, калі ласка. Будзе час — патэлефануй.

Усяго найлепшага. (подпіс)

*25.03.1992*
*Гародня*

Дарагі Алесь!

Вось дасылаю табе «Пагоню». Дзякуй за матэрыяльчык пра «М. Ч.»[74] і здымак А. Кузьміна[75]. У хуткім часе надрукуем. Вось учора ўвечары вярнуўся я зь Менску. Вечарына 29.04. у Д. Л. СП Беларусі[76] прайшла добра. Вёў сустрэчу Сяргей Кавалёў[77]. Акрамя мяне, Пацюпы і Сідарука выступілі: Леанід Дранько-Майсюк, Славамір Адамовіч, Сяржук Мінскевіч, мастацтвазнаўца Яўген Шунейка[78]. Вечарына праходзіла ў Камiннай зале. Лёнік Галубовіч здымаў для ТБ. Так што глядзі праграму «Студыя МЭТА». На вечарыне прысутнічала ў асноўным моладзь. Ведаеш, як ні дзіўна, але аніхто з кіраўніцтва СП не прысутнічаў, хаця ў той час шмат старэйшых пісьменьнікаў бадзялася па калідорах Д. Л., альбо піла ў кавярні…

Ідэя стварэньня альтэрнатыўнай літарганізацыі вельмі слушная і, згодзен з табой, трэба пачынаць падрыхтоўчую работу. Але хто згадзіцца ўвайсьці ў новую суполку? Якія кандыдатуры? Дзе ўзяць сродкі і г. д.? Мо маеш якія прапановы? Добра, канешне, што мы ўжо тое-сёе маем (некалькі выданьняў, саюзьнікаў у СП…). Напішы, калі ласка, як ты сябе гэта ўсё ўяўляеш, падзяліся меркаваньнямі. Дзе праводзіць устаноўчы сход? З кім ты ўжо вёў перамовы?

Ці чытаў ты ў «Маладосці» № 3, 92 агляд паэзіі 1991 А. Марціновіча[79]? Ведаеш, ён з такім імпэтам бэсьціць «новую генерацыю» і робіць напрыканцы высновы, што «ўсё гэта» (творчасьць маладых, якія заўсёды «ўрожкі» са старэйшымі) — узьдзеяньне гнілога Захаду. Калі не чытаў — абавязкова пачытай. Там пра ўсіх: і пра мяне, і пра Пацюпу, і пра Мінкіна, і пра цябе з Павалам.

Пацюпа піша своеасаблівы адказ Марціновічу. Які мы зьбіраемся ў хуткім часе надрукаваць.

---

74 «М. Ч.» — рок-гурт «Мясцовы час».

75 Алесь Кузьмін — лідар і вакаліст полацкага рок-гурта «Мясцовы час».

76 Д. Л. СП Беларусі — Дом літаратараў Саюза пісьменнікаў Беларусі.

77 Сяргей Кавалёў (1963) — літаратуразнаўца, крытык, драматург. Быў сябрам літаратурнай суполкі «Тутэйшыя».

78 Яўген Шунейка (1954) — мастацтвазнаўца. З 1989 выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў.

79 Алесь Марціновіч (1946) — пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца. У 1990-я працаваў у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

Ну, здаецца, і ўсё. Дзякую загадзя за працу над маёй кніжыцай. Спадзяюся, што ўсё будзе на ўзроўні.

Чакаю лістоў ад цябе з допісамі.

Твой Юра

*2–3.05.1992, Гародня*

P. S. Перадавай прывітаньне жонцы, Вінцэсю, Павалу і ўсім астатнім.

Добры дзень, дарагі Алесь!

Атрымаў адразу два лісты ад цябе. Дзякуй за газэтку і за артыкул. Які, вядома, хутка надрукую ў «Пагоні»[80]. Сотні дзве-тры падкінем у Менск, каб была нейкая рэакцыя і розгалас. Рэдактар Бараноўскі[81] нібыта прачытаў мае думкі і сам прапанаваў «Н. Г.» згуртавацца вакол «ПАГОНІ». Так што цэнзурнай праблемы не йснуе, тым больш літаратурай займаюся я. Вядома, з газэткі нашай ёсьць праблемы. Добра, што хоць не матэрыяльна-тэхнічныя й фінансавыя. Так, да сёе пары йснуе праблема з памылкамі. А ў мяне, мой дарагі, няма ані часу, ані сілаў, каб пракантраляваць супрацоўнікаў друкарні і г. д. Згодзен з табой, што трэба неяк выпраўляцца. Хочацца закрануць іншыя, найбольш, відаць, цяжкія з псыхалягічнага пункту праблемы. А менавіта тое, што ў «ПАГОНІ» зьявіліся ворагі…

Не, не русіфікатары й паланізатары, а беларусы. З аднаго боку Данута з Чобатам, з другога — яшчэ некалькі асобаў, якіх ты ня ведаеш. Я меў «радасьць» сустрэцца з Данутай і паразмаўляць. Гэтым разам размова была даволі спакойная. Без напружанасьці і сваркі. Але Данута збэсьціла і газэту і «Н. Г.», і мяне й цябе асабіста. Яна, аказалася, валодае пэўнай інфармацыяй пра дзейнасьць «Н. Г.». А калі прачытала «ПАГОНЮ» № 2 — узбурылася нашым «нахабствам», «выпендрожам», «шэрай бульваршчынай» і г. д. Карацей кажучы, Данута з Чобатам зараз накаталі нейкія артыкулы. Рукапіс Дануты я чытаў, пра нас там анічога няма. А вось Чобат што нашкрабаў — невядома.

Ну дык Бог зь імі! Вось дасылаю табе яшчэ газэтку. Праўда, пазаўчора выйшаў № 3. Пішы. Усяго табе добрага. Прывітаньне Вінцэсю, Павалу і іншым.

(подпіс)

*17.05.1992*
*Гародня*

Добры дзень, дарагі сябра!

Твой апошні ліст крыху засмуціў мяне, хаця я звычайна рады кожнаму лісту незалежна ад зместу. Перш-найперш напужала сума 20.000, якую павінен друкарні дзядуля-паэт. Адсюль і ўвесь сум, бо цэны растуць кожны дзень. Раней творцаў душылі камунякі, зараз, відаць, цэны. Слухай, мой дарагі, ці нельга неяк падлічыць кошт выданьня загадзя, каб ужо ведаць, на якія цяжкасьці рыхтавацца, альбо зрэзыгнаваць?

Што тычыцца Дануты, то ёй не даспадобы, напэўна, увесь акаляючы сьвет. А ня толькі «ПАГОНЯ», супраць якой шаноўная паэтка разам з Чобатам усчала барацьбу. Дарэчы, тут і без Дануты ўзьніклі цяжкасьці. Не, не матэрыяльнага характару. Выйдзе яшчэ адзін нумар, і газэта перапыніць выхад амаль на 2 месяцы. Справа ў тым, што

[80] «Пагоня» — беларускамоўная незалежная газэта, якая выдавалася ад 25 сакавіка 1992 да 12 лістапада 2001 у Гародні.

[81] Віктар Бараноўскі — выконваў абавязкі галоўнага рэдактара газеты «Пагоня» на пачатку яе заснавання, затым галоўны рэдактар гарадзенскай газеты «Перспектыва».

рэдактар Бараноўскі ўзнавіў былую газэту «ПЕРСПЕКТИВА»[82] і будзе рабіць там (ён і раней тамака працаваў разам з Чобатам). Таму зараз няма каму рабіць «Пагоню». Спадзяюся, што ў апошні нумар патрапяць твой і Пацюпавы артыкулы. Апошні нумар будзе рабіць С. Астраўцоў. Ён, хутчэй за ўсё, і будзе рэдактарам «Пагоні», калі ўсё ўсталюецца. Адказным сакратаром — Сяргей Лаўнік. Карэктарам і выпускаючым — Міхал Карневіч[83]. Я размаўляў ужо з усімі. С. Астраўцоў і М. Карневіч паставіліся да мяне халаднавата, быццам чагосьці баяцца ці асьцерагаюцца, як нейкай міны. Трэба, відаць, сабрацца ўсім разам і вырашыць накірунак і канцэпцыю газэты. Хацелася, каб не было напружанасьці ў адносінах, бо ўсё ў такім выпадку паляціць к чортавай бабулі. Спадзяюся, што ўсё будзе файна. Бо, сам разумееш, губляць шанц — вар'яцтва, недаравальная памылка.

Да пабачэньня.

(подпіс)

*26.05.1992*
*Гародня*

*(Паштоўка)*

Прывітаньне, Алесь!

Вось дасылаю табе «ПАГОНЮ» з тваім артыкулам. Я чакаў цэлы тыдзень ліста ад цябе, але не дачакаўся і вырашыў больш не чакаць. Як ты там жывеш? Дзе лётаеш? Бо немагчыма цябе застаць на працы! Я амаль разьлічыўся з універам і хутка буду ўжо адпачываць. У другой палове ліпеня папрацую ў лягеры, а ў жніўні зноў буду вольны. Што чутна наконт маёй кніжыцы?

Прывітаньне жонцы, Вінцэсю і ўсім вашым.

Твой (подпіс)

*14.06.1992*
*Гародня*

Дарагі Алесь!

Вось дасылаю табе матэрыялы на «К. Б.»[84]*2 № 3 (вершы А. Пяткевіча, Ю. Пацюпы, І. Сідарука і свае). Спадзяюся, што ўсё табе спадабаецца і пойдзе ў альманах. Агульналітаратурная сытуацыя складаецца на нашу карысьць. Ці ведаеш, што Масарэнка стварыў новы часопіс «ПЕРШАЦВЕТ»[85], а Вітак Чаропка — часопіс «ЛАБІРЫНТЫ»[86]. Першы нумар абодвух выданьняў ужо ў наборы. У «Лабірынтах» ідзе падборка маіх вершаў. Больш падрабязна, калі цікавішся, у наступным лісьце.

Прывітаньне ад Андрэя Пяткевіча.

Твой (подпіс)

*15.07.1992*
*Гародня*

---

[82] «Перспектива» — гарадзенская рэгіянальная газета, першая прыватная газета ў Гародні другой паловы ХХ стагоддзя.

[83] Міхал Карневіч — гарадзенскі журналіст.

[84] «Ксэракс беларускі» — літаратурны альманах, які выдаваў на Полаччыне Алесь Аркуш.

[85] «Першацвет» (1992–2002) — літаратурны часопіс для маладых аўтараў.

[86] Часопіс «Лабірынты» не пабачыў свет.

Прывітаньне, Алесь!

Нарэшце ты адгукнуўся. Даўно ўжо чакаў я ад цябе зьвестак. Што ж, радуюся разам з табой, што «К. Б» № 3 падрыхтаваны. Ведаеш, я глядзеў рукапіс Пацюпавай «ГЛЮКАЎКІ»[87]. Там дакладна так: «Сьмецьцем становяцца творы многіх афіцыйных геніяў…» і далей па тэксту. Што тычыцца слова «адзяюць», то ў Пацюпавым рукапісе менавіта адзяюць, а не апранаюць. Думаю, што твая заўвага не істотная, бо ў народзе выкарыстоўваюць гэты дзеяслоў. Гл. аднакарэннае адзежа.

Пацюпа ўжо павінен быць у Гародні й уладкавацца ва ўнівер. Пасьля вечарынкі ў С. Адамовіча я яго ня бачыў, а перад ад'ездам зь Менску толькі размаўляў праз тэлефон. Напэўна дашле табе тое-сёе на «К. Б.» № 4, не хвалюйся. А што даслаць мне? Ты некалі ўзгадваў пра інтэрв'ю. Я згодны, дасылай пытаньні. У верасьні, дарэчы, Масарэнка ў «Ч. З.» надрукуе мой адказ на крынічанскую анкету.

Вось дасылаю табе апошні нумар «Пагоні». Балазе, яна пачала выходзіць цяпер рэгулярна — штодватыдні. Нават А. Чобат пачаў друкавацца. Набыў я ў Менску ажно 7 ягоных зборнічкаў[88]. Разьбіралі з Чаропкам па косткам і прыйшлі да высновы, што ў Чобата вельмі нізкая паэтычная культура. Аказалася, што такой жа думкі й Пацюпа, і Алена Храмкова (мастацтвазнаўца), і Алесь Аўчыньнікаў. Пяткевіч гразіўся напісаць адмоўную рэцэнзію. Нягледзячы на тое, што творам Чобата ўласьціва публіцыстычнасьць, дэкляратыўная агітка, прыземленасьць, піша ён усё ж шчыра, адчуваецца нейкі хранічны боль. Усе ягоныя натуралістычныя замалёўкі, быццам рана, якая павольна крывавіць, але ня можа загаіцца. Я вось думаю: ці не напісаць мне рэцэнзію на «ГОД» А. Чобата?

Пасьля менскіх гучных «баляваньняў» адчуваеш сябе неяк разгублена. Зноў надыходзіць нейкі песымізм, хаця часам нешта ўдаецца выплюснуць на паперу. Пакрысе «рухаецца» мая аповесьць[89]. Друкаваць, відаць, буду ў «ПЕРШАЦВЕЦЕ». Гэта гарантыя, што мой твор выйдзе досыць хутка, бяз усялякіх чэргаў. Балазе «Першацвет» — гэта штомесячнік. Мы з Пацюпам вырашылі ўзмацніць свой «уплыў» на кшталт гэтага выданьня. Мо ўдасца вывесьці часопіс на нонканфармісцкі прасьцяг. Як добра, калі ёсьць папера й фінансы ды ганарары (100 р. за старонку друк.)! Як абрыдла быць бедным, прыніжацца перад моцнымі сьвету!

Ну добра, трэба закругляцца. Мо калісь патэлефаную.

Пакуль!

Твой (подпіс)

*1.09.1992*
*Гародня*

Прывітаньне, Алесь!

Вялікі дзякуй табе за цёплы ліст, за клопат пра маладых літаратараў. Гэта выдатна, што «КБ № 3» запускаеш у вытворчасьць! Магу прапанаваць у № 4 урывачак з аповесьці «Д'ябліца». Ты толькі напішы, колькі старонак мне дасылаць. Увогуле, аповесьць ужо выклікала цікавасьць у шырокіх колах. Замовілі ўрыўкі «Ч. З.» і гарадзенскі «Маладзёжны кур'ер», які мае наклад 20.000 асобнікаў і добра разыходзіцца. Цалкам «Д'ябліца» будзе друкавацца ў часопісе «ПЕРШАЦВЕТ» у 1993 годзе. «Першацвет» прыняў таксама

87 «Глюкаўка» — эсэ Юрася Пацюпы, якое было надрукавана ў альманаху «Ксэракс беларускі» (№ 3, 1992).

88 Маецца на ўвазе зборнік паэзіі Алеся Чобата «Год» (1992, «Мастацкая літаратура»).

89 Твор (спачатку аўтар называў яго аповесцю, а затым раманам), назва якога ўвесь час мянялася, так і не быў скончаны. Першы раздзел пад назвай «Апосталы нірваны» быў надрукаваны ў часопісе «Калосьсе» (№ 2–3, 1995).

і аповесьць В. Чаропкі. Мы вось з Пацюпам думалі-думалі ды вырашылі менавіта гэты часопіс зрабіць сваёй трыбунай. Няма альтэрнатывы. З «Пагоняй», відаць, разьвітаемся назаўсёды. Так што, дарагі Алесь, свой артыкул прапануй лепш у «Першацвет». Балазе матэрыялы можна друкаваць паводле граматыкі Б. Тарашкевіча. Дый ганар яшчэ атрымаеш. Я ўчора размаўляў з А. Масарэнкам. Усё залежыць выключна ад нас. Як зробім часопіс — такім ён і будзе. Першы нумар вось-вось павінен зьявіцца. Будзе падпіска, толькі не па каналах саюздруку, а па замовах. Кошт нумара — 10 р. (5 друк. аркушаў).

Што ж, пажывем — пабачым. Вось дасылаю табе «Пагоню» з графаманскай паэмай А. Чобата. Самы выдатны момант я пазначыў. Гэта адзінае файнае месца ў паэме…

На паўгадзіны адарваўся ад пісаніны, бо праслухаў разам з маці ўласную радыёперадачу. Трэба брацца за новы сцэнарый і рыхтаваць наступную перадачу. Вось запрасіў да ўдзелу Ю. Пацюпу.

А Пяткевіч жыве ў вёсцы (170 км ад Гародні), працуе вартаўніком у лясьніцтве. Ну і, вядома, піша вершы. Ён даволі плодны. Бо праца вартаўніка спрыяе творчасьці. Зараз чакаю ад яго ліст. Мо і дашле што на «К. Б.» № 4. Ці зьезьдзіў ты да Алега Мінкіна?

Славік Адамовіч, відавочна, напужаўся вялікіх выдаткаў на кніжыцу. Жах мае вялікія вочы!

Стварэньне галерэі, мой дарагі, выдатная справа. Але ці пацягнеш? Застаецца адно пажадаць табе посьпехаў у гэтае справе, а таксама ў вычытваньні «Водара цела»… Пакуль.

Твой (подпіс)

*19–20.09.1992*
*Гародня*

Прывітаньне, дарагі Алесь!

Добра, канешне, што мы вось сёньня з табой прыемна паразмаўлялі. Таму я адразу выконваю тваю просьбу, дасылаю ўрывак са сваёй аповесьці «Д’ябліца» на «К. Б.» № 4. Выбачай, што ня цалкам машынапісны. Але вы ўсё роўна будзеце перадрукоўваць, каб падагнаць старонкі. Праўда?

Ты зрабіўся для мяне даволі блізкім чалавекам, і не толькі таму, што «адыграў першую скрыпку» ў выданьні маёй паэтычнай кніжачкі. Ведаеш, мяне не хвалююць розныя брахуны, якія… мякка кажучы, выдумляюць неверагодныя рэчы, каб толькі спляжыць Новую генэрацыю. Таму я падтрымліваю цябе на ўсіх франтах. І мяне не пужаюць «тэрміны», якія выкарыстоўваюць прыхільнікі адзінага й непадзельнага СП Беларусі. Накшталт «паўжыдак», «паслугач сіяністаў» і т. п. Выбачай, дружа, але такое мае месца. Бацыла таварыства «ПАМЯЦЬ» знайшла сабе сваю аўру й на Беларусі. Між іншым, п’еса І. Сідарука «ТОРБА» ў гэтым сэнсе — рэч актуальная. І мае яна сымбалічны сэнс. Вядома, міжнацыянальныя зносіны не павінны будавацца на ўзаемных зьнявагах. Для мяне, як для асобы, якая стаіць вышэй нацыянальных стэрэатыпаў, не істотна, да якой расы ці нацыі належыць чалавек. Абы ён быў сапраўдным, «аўтэнтычным» чалавекам. Бо мяне хвалюе вышэйшая форма сьвядомасьці, сфера пачуцьцяў, вытанчаных узаемаадносін etc.

Зрэшты, я ўжо заглыбіўся ў філязоўскія развагі. Але гэта ўласьціва мне, бо я належу да знаку ШАЛЯЎ. На заканчэньне зазначу, што не ўспрымаю звычайна хамства і хлусьні. Жадаю табе, наўрымсьліваму рупліўцу, усяго найлепшага. Пішы.

Шчыра Твой Юра (подпіс)

*12–13.10.1992*
*Гародня*

P. S. Мой празаічны ўрывак затытулуйце «АПОСТАЛЫ НІРВАНЫ». Загадзя ўдзячны. Сардэчнае прывітаньне жонцы й Мудрову.

Дарагі Алесь!

Ты мяне абрадаваў, даслаўшы асобнічак маёй ксёнжачкі. Я вельмі ўдзячны табе, бо «ВОДАР ЦЕЛА» глядзіцца нармалёва, салідна. Нават без фотаздымкаў і малюнкаў. Хаця яны тутака былі б дарэчы. Праўда, вы (ты й Вінцэсь) як рэдактары ўставілі й сваіх 5 капеек. Але нічога, Бог вам прабачыць! Бо вы ўсё ж як ніяк хросныя бацькі маёй ксёнжачкі! Трэба, Алесь, ужо пачынаць раскрутку, рыхтаваць «опінію» праз прэсу. Вядома, самому мне ў «ЛіМ» пісаць няёмка, але на Гарадзеншчыне амаль уся прэса «падвязана»…

Чытаў я ў «ЛіМе» артыкул Н. Гальпяровіча[90]. Нешта дзядзька гаворыць слушна, але й не заўсёды рацыя на ягоным баку. Лічу, што якраз трэба ствараць альтэрнатыўныя суполкі. А нашыя выданьні ані якім «самвыдам» назваць нельга. Зь цягам часу, спадзяюся, будзе ўсё на высокім узроўні. І ў вас, і ў нас у Гародні.

А вось з прэзэнтацыяй «В. Ц.» у вас і ня ведаю што рабіць. Канешне, буду тэлефанаваць табе. Вось учора размаўляў па фоне (які тэле-) з Масарэнкам наконт аплаты дарогі. Ён абяцаў высьветліць. Запрашаў я таксама й Вітака Чаропку на прэзэнтацыю у НП. Ён згадзіўся, але таксама ня ўпэўнены. Ведаеш, зараз цяжка з часам і транспартам. Але я пастараюся пад'ехаць да цябе (як і казаў раней) недзе 14-га.

Карацей, буду тэлефанаваць. Пастарайся быць на працы 9-га, 10-га, 13-га, каб атрымаць ад мяне інфармацыю. Сустрэчу можна было б правесьці 15–16, каб мы з Чаропкам спакойна паехалі ў Менск і патрапілі на прэм'еру «Першацвета» 17-га. Дарэчы, чытаў у «Ч. З.» урывак з маёй аповесьці…

Прывітаньне Вінцэсю!

Шчыра аддады Юры Гумянюк

*4.11.1992*
*Гародня*

Прывітаньне, Алесь!

Вось нарэшце атрымаў ад цябе ліст. Добра, канешне, што ліставаньне зноўку наладзілася пасьля невялічкага перапынку. Так, з пасылкай тваёй усё файна. Грошы вышлю заўтра, бо сягоньня субота, а празь нейкі час будзе ўжо нядзеля. Учора правялі «bomond», прысьвечаны мне й выхаду «Водара цела». Кола прысутных было даволі вузкім: Юрась Пацюпа, Анжаліна Дабравольская, Янка Трацяк[91], Едрусь Мазько і Сьвятлана Словік[92]. Папілі гарэлачкі, паслухалі музыку, пасьпявалі. Янка Трацяк, акрамя таго, што піша прозу і краязнаўчыя артыкулы, добра грае на гармоніку!

«В. Ц.» набыў неблагі розгалас. Вось у сераду я выступіў у тэлевізіі. Гаворка там вялася і пра суполку «Полацкае ляда». Так што плён працы відавочны. Мастацтвазнаўца Яўген Шунэйка піша рэцэнзію на «В. Ц.».

Я рады, што Славамір прывёз табе «Зямлю Ханаан»[93] і што ў 1993-м выйдзе 6 ксёнжачак. Гэта будзе фурор. Я вось усё нагадваю Пацюпу, каб ён найхутчэй дасылаў вам свой зборнік вершаў ці эсэ. Бо трэба сьпяшацца, сапраўды.

[90] Навум Гальпяровіч (1948) — паэт, журналіст. У 1990-х жыў у Наваполацку, працаваў на гарадскім радыё.

[91] Янка Трацяк (1956) — культуролаг, выкладчык. Скончыў філфак ГрДУ (1985). З 1991 на кафедры беларускай культуры ГрДУ. Даследуе гісторыю беларускай культуры, гісторыю рэлігіі, канфесійнага руху і хрысціянскай культуры ў Беларусі.

[92] Святлана Словік (1967) — культуролаг, гісторык. Скончыла гістфак ГрДУ (1996). Працуе ў Гродзенскім універсітэце.

[93] «Зямля Ханаан»(1993) — зборнік вершаў Славаміра Адамовіча, які выдала выдавецкая суполка «Полацкае ляда».

Так, я ўжо табе казаў праз тэлефон, што «Першацвет» — гэта прафанацыя бел. літры. Мы ж былі са Славамірам на прэзентацыі ў Д. Л., і я там выступаў. Ды Масарэнка пакрыўдзіўся, што я «асьмеліўся» пакрытыкаваць гэтае выданьне. Алесь Герасімавіч ведаў, што гарадзенцы — асобы «ненадзейныя», таму не ўключыў аніводнага з нас у рэдкалегію. А то Гумянюк, Пацюпа ці, напрыклад, Вераціла з Чаропкам «муцяць» толькі ваду на «крыштальна-чыстых» КРЫНІЦАХ. А дзеля понту Масарэнка ўключыў 15-цігадовага Толіка Брусевіча, які, зразумела, аніякага ўплыву на «Першацвет» не акажа. Я моцна расчараваны ў «Першацьвеце» і зараз думаю: ці здаваць ім цалкам аповесьць, ці не? Масарэнка казаў, што ня зможа мне заплаціць за яе 15–20 тыс. Я, дарэчы, толькі на гэта і спадзяваўся. А зараз вось буду думаць, што рабіць. Няўжо прыйдзецца перакладаць на польскую мову і друкаваць па частках у «Глосе знад Неманам»[94], а цалкам у Польшчы? Балазе ёсьць прапановы. У 1993-м паеду на конкурс паэзіі ў Люблін. Дакладна ня ведаю, ці ў Люблін, ці яшчэ куды. На весну еду на лінгвістычную й літаратурную практыку ў Гданьск. А зараз набліжаецца сэсія. Шмат часу ўсё гэта праглынае. Няма калі займацца пісаньнем. Дый я ж яшчэ перадачу вяду на радыё, каб трохі падзарабіць і не памерці з голаду.

Дарэчы, чаго не дасылаеш які артыкул ці эсэ? Пажадана што-небудзь караценькае. 2,5–3 друкаваныя старонкі. А дзе той артыкул пра Н. Г. № 2?

Час, відаць, ствараць нейкую літаратурную суполку, бо, сапраўды, з афіцыёзнымі літструктурамі мы далёка не заедзем і згубім імідж нонканфармістаў. Ці распрацаваў ты якія пастуляты праграмы дзейнасьці? Мо трэба якую нараду правесьці? Дарэчы, гэта можна правесьці падчас прэзэнтацыі «В. Ц.» у вас, ці ў нас, у Гародні напрыканцы студзеня, альбо ў пачатку лютага. Хацелася б, канешне, правесьці мерапрыемствы і ў вас, і ў нас. Як ты на гэта глядзіш? Я думаю, што зараз рэальна і можна выйсьці на шырокі прасьцяг, зьвярнуцца за дапамогай за мяжу ў рэшце рэшт.

Наконт Дануты Янаўны. Першы раз чую, што яна вядзе актыўную выдавецкую дзейнасьць. Праўда, яна з Чобатам выдала нумарок газэты «Рэанімова». Выслаць не магу, бо сам ня маю. Але бачыў і чытаў. Уся пісаніна — Данута + Чобат.

Ну што табе мовіць наконт КБ-4, дарагі сябра? Урывак мой вышлі мне. Дашлю другі альбо што іншае. А Пацюпу перадам, каб ён даслаў эсэ.

Усяго табе файнага! Пішы наконт маёй прапановы.

Заўсёды твой Юры Гумянюк

*12–13 сьнежня 1992*
*Гародня*

(подпіс)

*Паштоўка*

Прывітаньне, дарагі Алесь!

Вось, нарэшце, узяўся я напісаць колькі радкоў табе, як далёкаму ў геаграфічным сэнсе і блізкаму ў духоўным, як сябру й хаўрусьніку ў літаратуры. Які ён будзе для нас, гэты 1993-ці год, ГОД ПЕЎНЯ?

Я сам калісьці нарадзіўся ў год пеўня, толькі зараз ня думаю аб гэтым. Спадзяюся, што ў наступным годзе мы спатыкаемся, каб пагутарыць у нармальных умовах і нейкім чынам вырашыць агульныя праблемы. Думаю, што мара аб кансалідацыі незалежных сіл зьдзейсьніцца, што створыцца асацыяцыя пісьменьнкаў-нонканфармістаў,

[94] «Глос знад Немна» — газета, выдаецца ў Гародні з 1989 на польскай мове Саюзам палякаў на Беларусі.

якая будзе мець уласны часопіс. Дарэчы, часопіс, відаць, лепш выдаваць у нас, а ў вас ксёнжачкі асобных аўтараў. Зрэшты, пры сустрэчы ўсё абмяркуем. Чаму не дасылаеш свае супер-артыкулы? Мы ўжо зьбіраем матэрыялы на першы нумар часопіса…

Віншую Цябе, дружа, з надыходзячым Новым годам, жадаю Табе стаць прэзідэнтам асацыяцыі незалежных пісьменьнікаў; крэпкага здароўя і моцы, каб змагацца з прыхільнікамі сацрэалізму, а таксама дабрабыту і шасьця!

Заўсёды Твой Юры Гумянюк

*30.12.1992*
*Гародня*

Дарагі, Алесь!

Выбачай, дружа, што адразу не адпісаў. Здаваў іспыты. Зараз вольны ад вучобы, але трэба ўладкаваць некаторыя бытавыя справы перад дарогай. Ня ведаю, ці патраплю да цябе. Вось выбіраюся да Мінкіна ў Вільню. Нядаўна размаўляў з Алегам па тэлефоне. Ён пытае, маўляў, чаму ня еду? Трэба наведаць шаноўнага нонканфарміста.

Пару навінаў з Гародні ўсё ж ёсьць. Прыйшлі мы нарэшце да такога-сякога кампрамісу з Астраўцовым. «Пагоня» хоча стаць штотыднёвікам. А для гэтага трэба пашырыць кола аўтараў. Вось выклікала мяне рэдкалегія «Пагоні» на размову. Тое-сёе высьветлілі. Сёньня павінен выйсьці чарговы нумар (зараз другая гадзіна ночы). Пагляджу, ці «шлёпнулі» мой артыкул.

Прасілі прабачэньня ў мяне Галя Плаўская[95] і Андрэй Пяткевіч. Помніш, я паведамляў аб іх злаўчынках[96]. А вось Пацюпа нешта зусім страціў актыўнасьць. Учора нават нас з Мазько не пусьціў да сябе ў пакой. Маўляў, не прыёмны дзень! Я, канешне, абурыўся і больш да яго не пайду. Зашмат у яго эгаізму. А калі чалавек толькі гаворыць, дык справа ад гэтага не рухаецца. Трэба ж часопіс хутчэй ствараць. А наш Юрась аніяк не перадрукоўвае свой матэрыял. Няма, Алесь, сіл! Відаць, прыйдзецца браць адказнасьць на сябе і дзейнічаць па ўласнаму плану. Дарэчы, ці падабаюцца табе назовы для выданьня — «ЛІТФРОНТ», «ПІРАМІДА», «МІФ». Лічу, што «АБСЯГ» таксама неблагі назоў.

Якія ўжо ёсьць кандыдатуры ў ТВЛ? Ці раіўся з Уладзем? Ці ўяўляеш, як адбудзецца ўстаноўчы сход? Ты вось пішаш пра членаў СП. А як быць з тымі, хто прыхільна ставіцца да нас? Напрыклад, зь Мінкіным, Галубовічам? Ці запрасіць як назіральнікаў?

Я ведаю, што нашай працай шмат незадаваленых. Гэтага і трэба было чакаць.

Наконт крытыкі. Так, трэба пісаць нам і рэцэнзіі, і аповеды і т. п. Цалкам згодны з тваім меркаваньнем. Але часу амаль няма. Вось аніяк ня скончу аповесьць. Праўда, нядаўна напісаў два публіцыстычныя артыкулы «АДКУЛЬ БЕЛАРУСЫ? АД РУСКІХ, ВЯДОМА» і «МАСТУРБАЦЫЯ РУСКАЙ ІДЭІ». Першы павінна надрукаваць «Наша слова», другі — «Пагоня». Учора адаслаў сваё інтэрв'ю для «Настаўніцкай газеты». Славік Адамовіч прасіў. Балазе ў гэтага выданьня наклад недзе 50.000. Як бачыш, ёсьць сэнс «рэклямавацца».

А я вось штосьці і ня бачыў кніжак В. Аксак і В. Мудрова. Хацеў даць інфармацыю ў сваім радыёчасопісе «КАНТЭКСТ», ды ня ведаю, што да чаго, бо ня маю арыгіналаў.

Такія вось, Алесь, справы. Хутка вось пабачыць сьвет чарговы нумар «Першацвета». Размаўляў я нядаўна па тэлефоне з Масарэнкам. Дык ён мне пачаў плясьці нейкую

[95] Галя Плаўская — жонка паэта Андрэя Пяткевіча.

[96] Напісалі ліст-ультыматум, у якім Пяткевіч абвінавачваў Гуменюка, што той нібыта заляцаўся да яго жонкі.

ахінею. Маўляў, усе ня могуць пісаць, як Гумянюк ці Аркуш, а Яўген Хвалей[97] добры пісьменьнік, таму Юля[98] напісала рэцэнзію і г. д.

Вось такія пірагі, my friend (подпіс)

*22.01.1993*
*Гародня*

Прывітаньне, дарагі Алесь!

Вялікі дзякуй, за «КБ-3». Згодзен з табой, нумар атрымаўся неблагі. Канешне, можна было б яшчэ надрукаваць зьмест. Тады б, увогуле, атрымаўся файны часопіс. Усё ж выданьне «КБ» спыняць ня трэба, бо пакуль ён выконвае ролю часопіса «Н. Г.» (ТВЛ[99]). Адзінае, што яго неабходна выдаваць перыядычна (у залежнасьці ад магчымасьцяў), увесьці нейкія разьдзелы, рубрыкі і г. д. Разумееш?

А ў нас пакуль глуха, як у танку. Справа з часопісам ня рухаецца. Я табе казаў, што думкі адносна канцэпцыі й назову падзяліліся. Атрымалася, як у байцы Крылова «Лебедзь, рак і шчупак». І я пакуль вырашыў ня рыпацца. Буду раіцца з табой і трымаць шчыльную сувязь, бо ў Гародні літсітуацыя нездаровая. Я пакуль спыніўся на думцы выдаваць у Гародні штогадовы альманах ТВЛ. Паглядзім. Пацюпа заняў нейкую пасыўную пазіцыю, заглыбіўся ў сябе…

Ты вось просіш што-небудзь на «КБ-4». Я заўтра ж скантактуюся зь Едрусем Мазько і Толікам Брусевічам. Яны, відаць, што-небудзь дадуць. А пакуль дасылаю сваю падборку вершаў. Зьмясьці, калі ласка, верш «ВАР'ЯЦКІ КІРМАШ» першым у падборцы, а верш «ГАРЭЛКІ ПОЎНЫ КАПЯЛЮШ» — апошнім. Магчыма, яшчэ дашлю верш «Фанэра над Парыжам» разам з творамі хлопцаў.

Я на працягу двух тыдняў спрабаваў да цябе дазваніцца. Але — безвынікова. А тваё запрашэньне ў Менск прыйшло якраз у той дзень, калі павінна была адбывацца вечарына Гальпяровіча. Каб пад бокам быў рэактыўны самалёт…

Ну пакуль, дружа. Дашлі яшчэ мо штук пяць «КБ-3». Ці разышоўся «КБ-2»?

Твой Юра

*27.01.1993, Гародня*

P. S. Я закрэсьліў вершы, якія былі ў «КБ-3». Проста гэта старыя паперы. Зараз ужо позна, і не хацелася губляць часу на перапісваньне.

Прывітаньне, Алесь!

Атрымаў твой чарговы ліст, які датаваны 28.01.93. Але ж мы з табой файна паразмаўлялі 29-га, таму многія пытаньні аўтаматычна здымаюцца. Затое пытаньне назвы нашага будучага часопіса застаецца адкрытым. Я не разумею, чаму табе мае прапановы прыйшліся недаспадобы. Асабліва «Піраміда», у якой ты бачыш адно геамэтрычную фігуру і перадражніваеш «чаму не "Цыліндар"». Гэта, відаць, выдаткі тваёй «тэхнічнай» адукацыі. Дарэчы, ці чытаў у апошняй «КУЛЬТУРЫ»[100] інтэрв'ю Акудовіча[101]

[97] Яўген Хвалей (1947) — паэт, крытык. Працаваў у выдавецтве «Юнацтва».

[98] Юля — дачка Масарэнкі.

[99] ТВЛ (Таварыства вольных літаратараў) — назва літаратурнай суполкі, якую ў 1993 стварылі Алесь Аркуш і Юры Гумянюк.

[100] «Культура» — штотыднёвая грамадска-асветніцкая газета. Выдаецца з кастрычніка 1991.

[101] Валянцін Акудовіч (1950) — філосаф, эсэіст, літаратурны крытык. Скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага (Масква, 1980). Працаваў у штотыднёвіках «Культура», «ЛіМ», часопісе «Крыніца». Лічыцца хросным бацькам літаратурнага руху «Бум-Бам-Літ».

з Разанавым[102]? Дык Разанаў тлумачыць «сэнс» пірамiды. Я ж не вінаваты, што што ты жывеш далёка і да вас не даходзіць найноўшая мастацкая інфармацыя. Калі выданьне мае быць постмадэрністычным, то й назоў павінен быць адпаведным. А «Піраміда» ня горш за «Абсяг». Вось я, напрыклад, не адкідваю кандыдатуру твайго назову, а ты адразу катэгарычны! Што тычыцца назова «Міф», то я, дружа, ведаю, па Ластоўскаму — «Міт», гэтаксама як ШКУРА — СКУРА. Ведаеш, самы, бадай, дакладны назоў, на якім мы спыніліся (я, Пацюпа і Сідарук), — гэта «КАНТЭКСТ». Вельмі надзённы назоў. Зрэшты, мы ж зьбіраемся на нараду ў Вільні, каб абмеркаваць усе арганізацыйныя пытаньні.

Нам, дарагі мой, трэба дакладна дамовіцца наконт тэрміну сустрэчы ў Вільні. Бо да мяне тады прыедзе І. Сідарук, і мы зь ім цягніком пад'едзем. Галоўнае, каб не разьмінуцца! Думаю, зручней усяго гэта зрабіць недзе ў пятніцу — нядзелю. Дату ўзгоднім. Пацюпа выказаў думку: «А ці ня будзе дыктату з боку Аркуша — Мінкіна — Мудрова?» Гэтае пытаньне я адрасую табе. Крышачку растлумачу. Я вырашыў, што часопіс лепей выдаваць у ВАС, бо ты маеш вопыт і ведаеш, дзе набыць паперу і г. д. Але пытаньні пабудовы, мастацкага аздабленьня, падбору матэрыялаў трэба вырашаць разам, калегіяльна. Каб не было недарэчнасьцяў і непаразуменьняў. Мяркую, што Алег Мінкін далучыцца да нас. Зьдзіўляе тое, што ён «супрацоўнічае» з Дубаўцом[103]…

А Дубавец, дарэчы, ашчасьлівіў Гародню сваім візытам. Будзе супрацоўнічаць з «ПАГОНЯЙ», бо справы «Нашай Нівы» кепскія. Вось і скончыцца «форс» славутага «крытыка». Я стаўлюся да гэтага абыякава. Хаця зь Менску многія літаратары абрадаваліся «канцу» «Нашай Нівы».

Што ты вырашыў з СП? Ці чытаў у «Звяздзе»[104] за 30.01.93, што пісьменьнікі-камуністы прагнуць далучыцца да Бялова, Бондарава і Распуціна[105] (г. зн. аднавіць былы СП СССР)? Так што хай Емяльянаў[106] ня бае байкі. Адкат да старых часоў відавочны!

Што ж, дарагі Алесь, пакуль разьвітваюся і чакаю зьвестак. Спадзяюся, сустрэнемся ў Вільні й вырашым усе справы. Галоўнае — вызначыць тэрмін і не разьмінуцца.

Пакуль. Твой Юра.

*3.03.1993*
*Гародня*

Дарагі Алесь!

Атрымаў твой чарговы ліст. Вельмі рады! Тым больш мы файна паразмаўлялі ў аўторак. Аднак у лісьце ты закранаеш моманты, якія ў размове ня ўзгадваў…

Ведаеш, Арлоў мае рацыю. Сапраўды, у сакавіку будуць адзначацца 75-я ўгодкі БНР. Таму трэба арыентавацца на нейкі іншы тэрмін, каб інфармацыйная прастора была адносна вольная. Тады б і розгалас быў максімальны. Гэта бясспрэчная тэза. Каб толькі сабрацца ў Алега ды абмеркаваць…

З другім пунктам тваёй прапановы я таксама згодны. Крытэрыі адбору ў ТВЛ павінны быць строгімі. Бо справа сур'ёзная. А кандыдатаў ня так ужо і мала. Думаю, на

[102] Алесь Разанаў (1947) — культавы паэт літаратурнай моладзі 1990-х.

[103] Сяргей Дубавец (1959) — пісьменнік, журналіст. У 1991 аднавіў выданне беларускай легендарнай газеты «Наша ніва».

[104] «Звязда» — агульнарэспубліканская беларускамоўная газета.

[105] Бялоў, Бондараў, Распуцін — Васіль Бялоў (1932–2012), Юры Бондараў (1924), Валянцін Распуцін (1937–2015), рускія пісьменнікі-традыцыяналісты, якія выступілі супраць дэмакратычных зменаў у СССР, крытыкавалі палітыку Міхаіла Гарбачова і Барыса Ельцына, заклікалі прадухіліць распад СССР.

[106] Алесь Емяльянаў (1952–2005) — паэт. У 1990-х працаваў у структурах Саюза пісьменнікаў Беларусі.

першы час чалавек 10 хопіць. Потым далучацца астатнія, калі зразумеюць, што НАШ ШЛЯХ пэрспэктыўны. А наконт Ю. Пацюпы ты памыляешся (а мо дрэнна зразумеў?). Ён як раз прыхільнік ТВЛ і, безумоўна, далучыцца да нас. Я ўжо размаўляў зь ім некалькі разоў. У СП яму даўно расхацелася. Дый у маёй радыёперадачы ён выказаўся, маўляў, прагне выдаць наступную кніжку не ў афіцыйным выдавецтве, а ў незалежным, накшталт «Полацкага ляда». Проста Юрась заўсёды выказвае свае заўвагі. Лічу, што гэта й добра. Бо лепей хай чалавек выкажацца шчыра, чым утоіць альтэрнатыўныя думкі альбо незадаволенасьць. Патэнцыял яго, канешне, салідны. Асабліва ў галіне тэарэтычнае крытыкі (праца пра Багдановіча; праца пра соцрэалізм «Серп і молат», эсэ, рукапіс зборніка вершаў «Сабака»).

Каго я прапаную з гарадзенцаў? Адназначна адказаць цяжка. Вядома, другі кандыдат — Пацюпава жонка, Анжэліна Дабравольская. Думаю, што й Сяргей Астраўцоў ня супраць далучыцца, хаця ён і ў камандзе Дубаўца. Але шаноўны рэдактар «ПАГОНІ» выказаў жаданьне надрукавацца ў «КБ» і прапанаваў старонкі газэты як пляцоўку для ідэй ТВЛ. Што ж, нарэшце С. Астраўцоў усьвядоміў, што сам ён не пацягне газэту рэспубліканскага маштабу…

Што тычыцца Янкі Трацяка і Едруся Мазько, то хай далучаюцца, але крыху пазьней. Я распытаю іх падрабязна й высьветлю. А іхні трыб жыцьця не дапаможа ім рэалізавацца як творцам. Калі амаль штотыдзень «зазіраюць у шклянку» — далёка не заедзеш…

Наконт менчукоў. Што ж, Славік Адамовіч хлопец неблагі. Пасьля выхаду «В. Ц.» пачалі ліставацца. Але як прыгадаю ягоную «адысею» з КДБ — стыгне ў жылах кроў. Хаця чаму б не дапамагчы яму? Мы ж гуманістыя. Тым больш чалавек адважыўся на такі крок — надрукаваў сваю «споведзь» у «Л. Г.»[107]! Я ведаю, што ў менскім літасяродзьдзі пасьля гэтага ўчынку многія адвярнуліся ад Славіка, лічачы яго фіскалам, здраднікам і т. п.; некаторыя пачалі распускаць брудныя плёткі. Я быў у Менску у той час, як выйшла гэтая «споведзь». У Масарэнкавых «Крыніцах» беднага Славіка паносілі апошнімі словамі А Акулін нават зьняў свой ухвальны матэрыял пра Славіка ў часопісе «Беларусь»…

Я ўжо пытаўся ў Адамовіча, каго ён прапануе зь менчукоў у ТВЛ. Ён выдзьвінуў 3 кандыдатуры: Валадара Бараніча[108] (выкладчык замежнай літ-ры ў БДУ, цудоўна валодае ангельскай мовай, перакладае), Андрэя Гуцава[109] (рукапіс вершаў ляжыць у «Маст. літ.») і Міколу Касьцюкевіча (паэта і празаіка). Усе гэтыя людзі з патэнцыялам. Зрэшты, спытай у Славіка сам. Яго працоўны тэлефон у «Наст. г.» 36-43-62.

А зараз аб маіх вершах колькі сэнтэнцый.

«ВАР’ЯЦКІ КІРМАШ» — чытай: «УбачыШ, дружа, хлопчыкаў…»

«ШАРАЯ ГАДЗІНА Ў НОВЫМ ЁРКУ».

Чаму гэта, па-твойму, эмаль ня можа зьлятаць лускою з шыбаў? Ты сам некалі абмовіўся, што літаратура — гэта не фізыка. У дадзеным выпадку — разгорнутая мэтафара. Таму тут аніякіх пытаньняў не павінна ўзьнікаць.

«ГАРЭЛКІ ПОЎНЫ КАПЯЛЮШ» — «ім МЭВЫ песьні эксклюзіўныя пяюць».

Здаецца ўсё. Думаю, падборка на «КБ-4» атрымалася.

Твой Юра (подпіс)

*11.02.1993*
*Гародня*

---

[107] «Л. Г.» — расійская «Литературная газета».

[108] Валадар Бараніч — празаік. Да ТВЛ не далучыўся.

[109] Андрэй Гуцаў (1967) — паэт, празаік, перакладчык. У 1989 з 4-га курса перавёўся на 1-ы курс групы перакладчыкаў філалагічнага факультэта Латвійскага ўніверсітэта, скончыў у 1993. З 1994 працаваў настаўнікам у беларускай школе ў Рызе. Да ТВЛ не далучыўся.

Прывітаньне, шаноўны!

Атрымаў твой артыкул. Дзякуй. У панядзелак занясу Астраўцову. Перад тым, зразумела, уключу ў сваю радыёперадачу, і «CHE-E-ESE» прагучыць на ўсю Гарадзеншчыну ў сераду. Неблагую рэч ты даслаў. Якраз у «пагонеўскім» стылі.

Вось дасылаю табе апошні нумар «ПАГОНІ». Там ёсць мой артыкульчык. Падобны забракавалі ў «Нашым слове». Я Шніпу[110] «выпісаў» праз тэлефон «накаўцік». Ён пабажыўся надрукаваць хаця б у скарочаным варыянце ў сакавіку.

Ці прыдумаў ты што новага адносна ТВЛ і часопіса? Я таксама, як і Мудроў, люблю пачытаць нешта з «беларускага чытва», каб парагатаць і сарваць дурны настрой. Вось чытаю «Маладосць» № 1, 93. Сапраўды, чамусьці сьмешна становіцца, да прыкладу, ад твораў Акуліна і Федарэнкі. Пачытай, які лубок! Як «надзённа»! «На Беларусі няма часопісаў, у якіх не сорамна было б друкавацца… Другасны кантэкст...» — кажа Ю. Пацюпа. І я цалкам згодны. Цікавасьць выклікае хіба што некаторая інфармацыя ды фактычныя зьвесткі. Пра астатняе і ўзгадваць няварта….

Як з папярэднім сходам у Вільні? Калі плануеш арганізаваць КАНГРЭС з нагоды стварэньня ТВЛ?

Твой Юра (подпіс)

*13–14.02.1993*
*Гародня*

Прывітаньне, Алесь!

Вось атрымаў твой ліст. Так, я чакаў, пакуль ты адгукнешся пасьля падарожжа ў Вільню і распавядзеш аб усім больш падрабязна. Ведаеш, у Вільню зараз тэлефанаваць накладна. Так што выбачай, што я быў вельмі «кароткі» ці «лаканічны» падчас апошняй размовы. У студзені я наразмаўляў з Алегам Мінкіным амаль на 920 р! Дык Алег будзе ўдзельнічаць у ТВЛ? Я зразумеў, што ён ня супраць, бо выдае ў «Полацкай лядзе» кнігу прозы. А слова — ВОЛЬНЫХ — трэба абавязкова захаваць, бо інакш губляецца ўвесь смак назвы ды й сэнс нашай дзейнасьці і згуртаваньня. Так, зараз, калі не «нашумець», то аніхто ня зьверне ўвагі. Адзіная перашкода — вялікая адлегласьць (у геаграфічным сэнсе, не ў духоўным) спаміж намі…

Безумоўна, трэба сур’ёзна папрацаваць над паперамі. Толькі я не арыентуюся, што ты маеш на ўвазе пад словам «статут». Над чым яшчэ трэба папрацаваць? Думаю, што жорсткія «маніхвэсты» і строгія «канцэпцыі» нам не адпавядаюць, хаця нейкая нонканфармістская канцэпцыя павінна быць, нейкая тэорыя заўсёды не зашкодзіць. Твой артыкул «Без надрыву, роўным голасам» не зьяўляецца літаратуразнаўчай працай. Гэта таксама ня крытыка, як напісалі ў «ЛіМе». Карацей — публіцыстыка. Мы з Пацюпам троху глыбей займаемся тэорыяй літ-ры і крытыкай. Але трэба неяк разам вызначыць канцэпцыю. Можа, ты накідай пракладны статут і дашлі? Мо мы ўнясем якія карэктывы. Зрэшты, напішы, якія ты маеш на ўвазе «паперы» ўвогуле…

Ты вось пытаўся пра Пацюпу. Зараз ён у Менску на нейкай канфэрэнцыі. Аднак Анэля ўжо падрыхтавала ўласны зборнік і нават перадрукавала. Я, відаць, вазьму пачытаць, каб мець нейкае цалкавітае ўражаньне. Мо прапануем у «Полацкую ляду». Зараз я працую над уласнай кніжачкай «ТЭКСТЫ ПІРАМІДАЎ». Мо запลануеш мяне на пачатак 1994-га? Рукапіс прывязу альбо на «Кангрэс», альбо пазьней

[110] Віктар Шніп (1960) — паэт. Працаваў старшым рэдактарам аддзела культуры ў часопісе «Беларусь» (1987–1991), у газетах «Наша слова» (1991–1995) і «Літаратура і мастацтва» (1995–2000). Зараз галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

дашлю ўлетку. Увогуле, у ліпені я еду ў Польшчу на цэлы месяц. Зрэшты, каб не губляць час, пачынаю перадрукоўваць. Тым больш ўжо неяк дамаўляліся наконт гэтага па тэлефоне…

А калі ты дакладна зьбіраешся пад’ехаць у Менск? Мо й я туды пад’еду напрыканцы сакавіка. Якраз нагода для сустрэчы. Ведаеш, я б прыехаў у Вільню, калі б слухаўку тэлефона падняў Алег замест жонкі. Зь ім бы я дамовіўся, тым больш ты ўжо ў гэты час прыехаў. Вы б мяне сустрэлі і г. д. Я хацеў ехаць са «зброяносцам», але й ён «падкачаў» — захварэў. Ну ды ладна. Як наконт Менску? Праўда, дзе ж бы нам сустрэцца? У каго ты спыняешся ў Менску? У Арлова? Зрэшты, трэба загадзя дамовіцца.

Зараз чытаю «ЛАБИРИНТ / ЭКСЦЭНТР» (современное творчество и культура) № 3. Можна толькі пазайздросьціць, як наладжана справа выданьня незалежных часопісаў у Расеі. «Л/Э», зразумела, выданьне супермадэрновае з выключным мастацкім аздабленьнем у колеры і файным зьместам. Яны друкуюць і пераклады замежнага авангарду, і спадчыну (Введенский, Хармс і г. д.), і культуралягічныя, тэарэтычна-крытычныя рэчы. Карацей, Беларусь ня мае такіх выданьняў. «Першацвет» № 2 ужо далі ў кіёскі «Саюздруку». Але нешта ніхто не бярэ.

Вось такія, дружа, справы. Нядаўна тэлефанаваў Вінцэсю, віншаваў з выхадам «Жанчыны ля басейна»[111]. Ты, Алесь, меў рацыю, Вінцэсь класны, шчыра падтрымлівае ідэю ТВЛ. Як справы з «КБ-4»?

Твой Юра.

*3–4.03.1993*
*Гародня*

P. S. Тэрмін «кангрэс» ты вызначыў файны. Так, недзе на пачатку траўня якраз і правядзем.

Дарагі, Алесь!

Што ж, файна, калі справа пакрысе рухаецца. Безумоўна, трэба спаткацца ў Менску, каб абмеркаваць асноўныя накірункі нашай дзейнасьці. Шчыра кажучы, я яшчэ не зусім уяўляю, як будзе выглядаць «статут» ТВЛ і праграмны зварот. Асабліва непакоіць слова «зварот». Да каго будзем зьвяртацца і з чым? Мы можам напісаць нешта накшталт літаратурнага маніхвэста, пазначыць тэарэтычную канцэпцыю. Пацюпа з задавальненьнем згадзіўся. Мо трэба акрамя ўсяго напісаць некалькі праграмных артыкулаў і зьмясьціць іх у розных выданьнях? Кожны напіша так, як ён уяўляе ідэйную накіраванасьць ТВЛ і г. д. Але перад гэтым неабходна сустрэцца, дамовіцца, каб не было разнабою…

Цудоўна, што «Н. Г.» атрымае выдавецкі цэнтар. Спадзяюся, што палепшыцца дызайн і паліграфічная якасьць твл-аўскіх выданьняў. Добра й тое, што знаходзяцца сталыя фундатары. Мо тады ўдасца рэалізаваць галоўную задуму — часопіс? Пакуль гэта нерэальна, бо фінансы пяюць рамансы. Але ў будучым такое выданьне проста неабходна, бо аб’ём «К. Б.» малы, а трэба друкаваць творы па 40–70 стар. Што ж, будзем «назапашваць» матэрыялы для будучага выданьня.

Рэцэнзію на «Жанчыны ля басэйна» дасылай мне. Прапануем у «ПАГОНЮ». Дарэчы, тваё эсэ ідзе на красавік. Астраўцоў абяцаў надрукаваць і рэкляму «П. Л.». Я спадзяваўся, што «ПАГОНЯ» ўжо ў сакавіку выйдзе на штотыднёвік. Але нешта

[111] «Жанчыны ля басейна» (1992, «Мастацкая літаратура») — зборнік апавяданняў Вінцэся Мудрова, першая яго кніга.

не атрымліваецца. Мяркую, што наша літсупрацоўніцтва з «ПАГОНЯЙ» наладзіцца. Мы з Астраўцовым нават прыдумалі цэлую рубрыку «АПОСТРАФЫ». Каб яна была разнастайнай, трэба будзе друкаваць і крытыку, і эсэ, і прозу з паэзіяй.

Каго ты плануеш запрасіць на «кангрэс» і як уяўляеш усю гэтую «працэдуру»? Дзе сустрэнемся ў Менску?

Твой Юры (подпіс)

*12.03.1993*
*Гародня*

P. S. Вазьмі на сустрэчу праект «статута» ды іншыя накіды.

Дарагі Алесь!

Добра, канешне, што мы сустрэліся ў Менску. Жывая гутарка й сяброўскае абмеркаваньне спрыяе агульнай справе. Хацелася б часьцей спаткацца ў непасрэднай абстаноўцы. Нават, калі ўзьнікаюць аб’ектыўныя перашкоды. Зараз, калі менскія ўражаньні паціху адышлі на другі плян, і я панурыўся ў руцінную багну штодзённасьці, ёсьць мажлівасьць асэнсаваць некаторыя рэчы. Асабліва тыя, што былі нібыта па-за полем зроку.

Мінулы панядзелак, апошні дзень майго візіту ў сталіцу, быў даволі напружаны, але надзвычай плённы. Трэба, відаць, таксама згадаць некалькі момантаў апошняй чвэрці нядзелі, апасьля твайго ад’езду. Ну дык вось. Мы з Адамовічам наведалі Уладзю Давыдоўскага[112] — экс-гітарыст «Мроі»[113], выпускнік мастацкага вучылішча, а зараз супрацоўнік «Беларускай маладзёжнай»[114], ён падтрымаў ідэю стварэньня ТВЛ. Больш таго, выказаў жаданьне стаць сябрам ТВЛ. У панядзелак я даў яму інтэрв’ю адносна ТВЛ. Так што нашыя ўплывы растуць. Гэта значыць, што мы будзем мець маленькае вакенца на «Б. М.». Акрамя музыкі і радыё У. Давыдоўскі піша прозу. Ты, напэўна, чытаў яго апавяданьні ў часопісе «КРЫНІЦА».

Напружанасьць пачалася яшчэ ў нядзелю, калі я завітаў да Чаропкі. Неўзабаве патэлефанаваў Мінскевіч і… расчараваў мяне канчаткова. Слухай, ты меў рацыю. Ён ня тое што не арыгінал, а проста чалавек з прымітыўнымі поглядамі. Што ж, прыйшлося паставіць яго на месца, асабліва пасьля ягоных «пасажаў» адносна ТВЛ. Маўляў, што Аркуш і Гумянюк самыя разумныя? Чаму ні з кім не параіліся, не пракансультаваліся зь пісьменьнікамі? І ўвогуле, паводле Мінскевіча, стварэньне ТВЛ — шкода беларускай літаратуры і г. д. Ну, яшчэ ён мне ймкнуўся даказаць, што С. Кавалёў — ягоны настаўнік, а сам М. хоча аб’яднаць маладых літаратараў, а суполкі кшталту ТВЛ толькі перашкаджаюць, псуюць справу. Што ты, Алесь, думаеш на гэты конт?

Ня менш цікавая размова адбылася і з Чаропкам. Ён зайздросьціць, што нам удалося нейкім чынам аб’яднацца. Чаропка гэтаксама хацеў дзейнічаць. Але плян з часопісам «ЛЯБІРЫНТЫ» праваліўся.

Аднак цьвікам «праграмы» была сустрэча з Масарэнкам у «Першацвеце». Небарака амаль 2 гадзіны пераконваў мяне кінуць «жыдамасонскую» суполку і тэрмінова ўсту-

[112] Уладзімір Давыдоўскі (1964) — музыка, пісьменнік, журналіст. Адзін з заснавальнікаў беларускага рок-гурта «Мроя», які пакінуў у верасні 1989. На пачатку 1990-х працаваў на радыё «Беларуская маладзёжная».

[113] «Мроя» — рок-гурт, заснаваны ў 1981 студэнтамі 2-га курса Мінскай мастацкай вучэльні Лявонам Вольскім і Уладзімірам Давыдоўскім. У сярэдзіне 1990-х гурт змяніў назву на N.R.M.

[114] «Беларуская маладзёжная» (галоўная рэдакцыя праграм для моладзі) была створаная ў межах дзяржаўнага Беларускага радыё ў 1963. На пачатку 1990-х вызначалася дэмакратычнай і нацыянальна арыентаванай пазіцыяй. Вясной 1994, напярэдадні першых прэзідэнцкіх выбараў, было зачыненае.

паць у СП. Аргументы шаноўнага рэдактара былі настолькі плоскімі й недарэчнымі, ажно я ня змог устрымацца ад сьмеху. Масарэнка даў мне пачытаць рэцэнзію (карэктуру) на «ВОДАР ЦЕЛА». Яе напісаў сын рэдактара «ЛіМа» Мікола Віч (Гілевіч)[115]. Артыкул цікавы, хаця аўтар спрабуе палемізаваць са мной, а заадно і зь некаторымі ідэямі ТВЛ, бачачы нейкі антытрадыцыяналізм.

Цікавыя рэчы, праўда? Што ж, Менск дае пэўны зараз пазытыўных эмоцыяў. Ведаеш, я забіў адразу некалькі зайцаў. Наведаў рэдакцыі часопіса «МАСТАЦТВА»[116] і газэты «Навіны БНФ»[117]. Асабліва плённай аказалася сустрэча ў «МАСТАЦТВЕ». Дамовіўся, што ТВЛ будзе супрацоўнічаць з гэтым часопісам. Яны не супраць надрукаваць здымкі з прэзэнтацыі ТВЛ, інфармацыю, а таксама нешта агульнатэарэтычнае пра сучасны стан культуры, мастацтва, літ-ры. Замовілі мне пераклад «лекцыі» Фердынанда Рушчыца[118]…

Вярнуўшыся ў Гародню, я ўсё ж падумаў, што крытычны абстрэл афіцыёзных структур і канцэпцый нам спыняць ня трэба. Хаця бы з тае прычыны, што хутка прыйдзецца адбівацца. Як у прымаўцы: «Узяўся за гуж…» Тым ня менш ранейшай апатыі й песымізму ў мяне няма. Ты, Алесь, узьдзейнічаеш на мяне станоўча!

Красавік для мяне будзе цяжкім месяцам. Навязваюць практыку ў школе. Гэта значыць, што я не змагу рабіць радыёперадачы й мае даходы ўпадуць на 50 %. Хіба што спадзявацца на Астраўцова і прапанаваць яму тое-сёе для «Пагоні». Спадзяюся, што да «кангрэса» практыка скончыцца і мы зноўку пабачымся. Трэба мне таксама складаць свой новы зборнік, каб прапанаваць «П. Л.». Думаю, што ўлетку ты атрымаеш рукапіс.

Твой Юра (подпіс)

*26.03.1993*
*Гародня*

Прывітаньне, Алесь!

Твой ліст я атрымаў разам зь сідарукоўскім. Ведаеш, мне ўдалося пераканаць Ігара. І вось што ён піша: «Як у СП аднавілася суполка камуністых?! Ну, то калі я раней яшчэ вагаўся, то цяпер выбар зроблены канчаткова… Таму — я з вамі, мы ўсе разам!»

Што ж, Сідарук мяне парадаваў. Ён хоча арганізаваць выступ ТВЛаўцаў у Берасьці. Але ў траўні-чэрвені гэта немагчыма. У ліпені я зьязджаю ў Польшчу. Зараз галоўнае — стварыць ТВЛ.

Учора быў у гасьцёх. Дзень народзінаў Анэлі. Дык вось Едрусь Мазько казаў мне, што Мінскевіч выступаў па тэлевізіі, тлумачачы «сутнасьць (?) сучаснае паэзіі». Я ня бачыў. Цікава, што вучань Кавалёва там нагаварыў?

Нядаўна размаўляў праз тэлефон з Адамовічам. Прыемны ён чалавек. Аднак пра выбранцоў нічога не казаў. Але ж яны хітруны! Ну дык Бог ім судзьдзя. Канфліктаваць зь імі нам ня варта. Вядома, яны баяцца згубіць «менскі рынак», дзе хочуць быць манапалістамі. А што яны выдаюць? Зараз ідзе натуралёвы працэс падзелу «сфэраў уплыву». Трэба як мага хутчэй займаць адпаведную нішу…

---

[115] Мікола Віч (Гілевіч) — паэт, празаік. Сын пісьменніка Міколы Гіля.

[116] «Мастацтва» — штомесячны грамадска-палітычны і навукова-папулярны часопіс па пытаннях мастацтва. Выдаецца са студзеня 1983 у Мінску на беларускай мове (да 1991 пад назвай «Мастацтва Беларусі»).

[117] «Навіны БНФ» — газета, орган Беларускага народнага фронту «Адраджэньне». Выдавалася са снежня 1988 да мая 1994 у Мінску на беларускай мове.

[118] Фердынанд Рушчыц (1870–1936) — мастак, графік, тэатральны дэкаратар і педагог.

Што тычыцца «ПАГОНІ», то яна ўжо надрукавала рэклямку «П. Л.» У хуткім часе дадуць твой артыкульчык. «ПАГОНЯ» ўжо штотыднёвік і на яе можна падпісацца на другую палову года (гл. каталог). Дасылаю табе кавалачак газэткі.

Наконт «К. Б.» № 5. Маё эсэ гатова. Дашлю наступным лістом. Над артыкулам трэба яшчэ папрацаваць. Выпадкам ці не ў № 5 даецё ўспаміны пра «Блакітны ліхтар»[119]? Ведаеш, у нас у Гародні на пачатку 80-х выдаваўся андэграўндны часопіс «МІСТЫКА»[120]. Дык вось ягоны былы рэдактар Віктар Варанец[121] ня супраць напісаць пра ўсе «нягоды й пасьледствы» гэтай справы. Як ты глядзіш на гэта? Вядома, калі «К. Б.» № 5 — чыста праграмовы, то аніякія іранічныя ўспаміны ў ім не павінны быць. Зрэшты, як сказаць. Трэба азнаёміцца са зьместам. Дый ад падачы ўсё залежыць…

Файна, што вы нарэшце атрымалі камп’ютэр. Файна, што Людка Сільнова[122] далучаецца да нас. А як там, дарэчы, маецца Павел Бурдыка? Нешта ты нічога ня ўзгадваеш аб ім. А як жыве Вінцэсь? Перадаў ім усім ад мяне прывітаньне.

Ты вось пытаешся пра пазыцыю Пацюпы. Ён адказаў, што пазыцыя ў яго цьвёрдая й ТВЛ ён падтрымлівае дзьвюма рукамі.

Недзе празь месяц павінен зьявіцца калектыўны зборнік «Наднёманскія галасы» — «КОЛА». Друкуюць у Лідзе. Як аддрукуюць — дашлю.

Няблага было б зрабіць пасьведчаньні сябрам ТВЛ. Га?

Заўсёды Твой Юра (подпіс)

*6.04.1993*
*Гародня*

*Публікацыя і каментары Алеся АРКУША*

---

[119] «Блакітны ліхтар» — літаратурны рукапісны альманах, які выдаваў Вінцэсь Мудроў з сябрамі ў Наваполацку ў 1971–1974. Увосень 1974 усе 15 нумараў альманаха былі канфіскаваныя КДБ.

[120] «Містыка» — машынапісны часопіс студэнтаў Гарадзенскага ўніверсітэта; выдавалі Віктар Варанец і Юры Камягін. На працягу 1982–1983 выйшла чатыры выпускі.

[121] Віктар Варынец (1962) — лексікограф, педагог. Скончыў гістфак ГрДУ (1985). З 1992 працуе ў Гарадзенскім медыцынскім універсітэце.

[122] Людка Сільнова фармальна не далучылася да Таварыства вольных літаратараў.

# ЗАМІЖ КВЕТАК НА МАГІЛУ

У амерыканцаў ёсць добры звычай: замiж кветак на свежую магілу ахвяраваць іх кошт на дабрачыннасць або на тую грамадскую справу, якой гэты чалавек быў аддадзены пры жыцці. Прадоўжыць тым самым ягоную дзейнасць… І гэтай публікацыяй мы, хто ведаў і шанаваў Веру Чуйко, спадзяемся замацаваць яе імя ў памяці нашчадкаў, праз лёс адной з актывістак Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» паказаць складаныя ды імклівыя змены ў грамадскай свядомасці канца мінулага стагоддзя.

Вера была вельмі актыўным і дзейным чалавекам, пры гэтым надзвычай сціплым. Некалькі гадоў мы займаліся з ёю падрыхтоўкай даведніка «Хто ёсць хто ў Беларусі», і мне так і не ўдалося ўгаварыць яе запоўніць анкету для напісання біяграмы. «Давайце лепш NN або XY прапануем анкету» — быў яе заўсёдны адказ. Таму біяграфічныя звесткі цяпер давялося збіраць пры дапамозе родзічаў ды калегаў. Дзякуй ім усім!

Нарадзілася Вера Чуйко 10 лютага 1950 года ў г. Фразіна пад Масквою. Маці паехала нараджаць да сваёй сястры. А ўсё далейшае жыццё Веры Андрэеўны прайшло ў Мінску. Спачатку сям’я жыла ў Траецкім прадмесці, дзе акно іх камунальнай кватэры выходзіла на сённяшні Дом прыроды. Потым бацька атрымаў хрушчоўку-палутарку на вуліцы Кедышкі, дзе праз усе наступныя гады ўтульна пачуваліся самі гаспадары ды любілі бываць іхныя сябры.

Бацькі Веры былі рускімі, прыехалі ў паваенны Мінск уздымаць зруйнаваную рэспубліку-партызанку. Андрэй Кірылавіч, хімік-тэхнолаг паводле адукацыі, працаваў у Дзяржплане БССР, а Галіна Мікалаеўна — фармацэўтам. Вера была іх познім і адзіным дзіцём, выхаваным у духу старой (кніжнай) расейскай інтэлігенцыі, з натуральным у штодзённасці зваротам на Вы — з імем па бацьку. (Толькі рыхтуючы лісты да друку, звярнула ўвагу, што мы з ёю карысталіся падобным зваротам, і гэта было проста звычкай, узаемнай павагай, ветлівасцю, без ніякага афіцыёзу.)

Вера Чуйко скончыла сярэднюю школу з сярэбраным медалём, год павучылася на фізфаку Белдзяржуніверсітэта… І зразумела: «Не маё!» Зноў падалася ў абітурыенты. Хімфак яна скончыла ў 1973 годзе і паводле размеркавання пачала працаваць у Інстытуце фізіка-арганічнай хіміі АН БССР, у лабараторыі тэрпеноідаў. Сваю навуковую працу Вера Андрэеўна абараніла ў 1984 годзе, стала кандыдатам хімічных навук. Захаплялася турызмам, плаваннем (была нават трэнерам для супрацоўнікаў, басейн жа знаходзіўся паблізу ад Інстытута), у самадзейных канцэртах выступала ў ролі чытальніка або канферансье, разам з сябрамі спявала парадыйныя песні — самі сачынялі або адаптавалі (перакладалі) тэксты. Пачуццё гумару ў яе было вельмі адточанае. І характар моцны, рашучы, а яе прынцыповасць некаторым нават здавалася залішняй.

Абвешчаная Міхаілам Гарбачовым *перестройка* ўспрынялася Вераю як пазітыўны крок. Яна імкнулася чытаць усё новае, што пачало масава друкавацца, хадзіць на розныя выступы, лекцыі. Так трапіла і на славутыя цяпер менскія Дзяды 1988 года. Падзея сталася для яе пераломнай. Лёгкае інтэлігенцкае дысідэнцтва даволі хутка трансфармавалася ў актыўную беларускую змагарную дзейнасць — яна зробіцца дамінуючай у Верыным жыцці на 20 наступных гадоў. Сярод супрацоўнікаў Акадэміі навук у той час было нямала прыхільнікаў дзяржаўнай незалежнасці, дэмакратыі, знаўцаў нацыянальнай гісторыі, культуры, мовы, традыцый. Вера становіцца ў іх шэрагі. Ужо ў 1990 годзе яна ўдзельнічае ў выбарчай кампаніі як сябра Беларускага народнага фронту: у акрузе, дзе ў Вярхоўны Савет балатуецца прафесар Юры Хадыка, Вера Чуйко ідзе ў Мінскі гарадскі савет. (Вось тут мы ўпершыню з ёю перасекліся, бо я мела такую ж пазіцыю кандыдата ў дэпутаты гарсавета, і на сустрэчах з патэнцыйнымі выбаршчыкамі мы часам аб’ядноўвалі свае сілы, узаемна дапамагаючы Юрыю Віктаравічу і адна адной.) Наша «каманда» не пера-

магла, але неўзабаве нам абедзвюм давялося займець «корачкі» памочнікаў народнага дэпутата: Веры — Зянона Пазняка, а мне — Валянціна Голубева. Чарнавой працы тады было з каптуром і трошкі! Вера прысутнічала на ўсіх соймах БНФ, розных фронтаўскіх пасяджэннях, імпрэзах, нарадах, нячаста, але вельмі прынцыпова выступаючы па розных пытаннях. Як памочнік дэпутата яна ездзіла разбіраць скаргі, якія людзі прысылалі дэпутату Пазьняку, «выбівала» кватэры для тых, чые правы на гэта былі парушаны мясцовымі ўладамі. Маючы звычку ўсё рабіць грунтоўна, яна штудзіравала беларускія законы (і не толькі беларускія), пастаянна кансультавалася з адмыслоўцамі і праз некаторы час уключылася ў заканатворчасць разам з дэпутатамі апазіцыі Вярхоўнага Савета Беларусі. Юрыдычная рэгістрацыя БНФ «Адраджэньне», законапраект пра выбары, збор подпісаў за рэферэндум, стварэнне Партыі БНФ, выбарчая кампанія кандыдата ў прэзідэнты Зянона Пазняка… Запамінальныя вехі з Верынай біяграфіі! Як цяпер модна гаварыць, сюжэты для шматсерыйнага фільма.

З канца 1995 года яна пераносіць свае здольнасці і веды на новую грамадскую дзялянку — асветніцтва. Пры яе актыўным удзеле ствараецца Міжнародны грамадска-аналітычны цэнтр «Беларуская перспектыва», асноўны праект якога — «Народны ўніверсітэт» — працаваў і пасля таго, як Міністэрства юстыцыі ў 2005 годзе скасавала рэгістрацыю «БП». Пакрысе звужаецца поле грамадскай дзейнасці, усё складаней ажыццяўляць задуманае. Да таго ж шмат клопату і часу патрабуе аўдавелая маці…

Наша перапіска, выбраныя лісты з якой друкуюцца ў гэтым нумары альманаха, пачалася неспадзявана. У 2008 годзе я паехала ў ЗША, дзе ў мяне нарадзіўся ўнук і патрабавалася тэрміновая бабуліна дапамога. Завяршэнне праекта, над якім мы з Вераю працавалі апошнім часам, міжволі звалілася на яе. Я імкнулася дапамагаць праз інтэрнэт. Паступова «дзелавая перапіска» трансфармавалася ў чыста чалавечыя кантакты. Веры было цікава «адкрываць Амерыку», а мне, натуральна, дзяліцца з разумным і дапытлівым чалавекам сваімі назіраннямі ды роздумамі. Лістоў у электроннай пошце збераглося некалькі дзясяткаў. (Пазней мы з ёю пераключыліся на размовы ў скайпе.)

Калі пачала набіраць сілу яе бязлітасная хвароба, я моцна перажывала, спрабавала шукаць ёй нейкіх парадаў, кансультацый… А яна паводзіла сябе вельмі мужна. Ніякай панікі. Пачытайце лісты! Яна ведала пра сваю хваробу ўсё, што здолела прачытаць або выцягнуць з лекараў. І старалася жыць напоўніцу. Падарожнічала (машыну, «Мікусю», яна набыла ўжо ў даволі сталым веку і правы атрымала насуперак усім перашкодам), радавалася поспехам сваёй пляменніцы Юлі, шмат чытала, хадзіла ў тэатры, глядзела навінкі кіно (а старую, чорна-белую версію экранізацыі «Сагі пра Фарсайтаў» мы маглі абмяркоўваць нястомна)… Ёй пашанцавала з сябрамі: Людміла Ізотава і Кама Міхалковіч, знаёмства з якімі пачалося, калі выпускніца ўніверсітэта Вера Чуйко прыйшла на працу ў акадэмічны інстытут, былі з ёю побач праз усё жыццё, да апошняга дня. Колішні супрацоўнік лабараторыі тэрпеноідаў Алег Выглазаў стаў вядомым парфумерам, і ў 2003 годзе Вера перайшла ў прыватную фірму «Тэрэза-Інтэр», мінскае прадстаўніцтва якой узначальвае яе былы калега. Ёй было цікава ў гэтай фірме, я ведаю. У працоўнай кніжцы апошні запіс тут зрабілі ў дзень яе смерці: «…дамова спынена».

Я ўдзячна Богу, што паспела прыехаць у Беларусь і адведаць Веру — пагаварыць напаследак. У сераду (з яе згоды) прывезла святара, які спавядаў і прычасціў хворую, а ў суботу (30 жніўня) яна адышла. Супакой, Госпадзе, яе душу…

«Светлы быў чалавек!» Гэтыя словы рэфрэнам гучалі ва ўсіх выступах на развітанні з Верай Чуйко ў крэматорыі мінскіх Паўночных могілак і на памінках. Яе лісты таксама сведчаць пра абаяльнасць асобы і глыбокае жыццялюбства.

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*

# ВЕРА ЧУЙКО. «НЯХАЙ БОГ БУДЗЕ ЛІТАСЦІВЫ ДА ВАС…» (з лістоў да Валянціны Трыгубовіч)

*30.05.11*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Нарэшце маю магчымасць Вам напісаць. Апошнія два месяцы я сапраўды была занятая сваім здароўем. У мяне, калі Вы памятаеце, былі праблемы з парашчытападобнай залозай. Але ўмяшалася анкалогія, і пра тое я ўжо не ўзгадвала. Але за гэты год сітуацыя пагоршылася, я мусіла праходзіць даследаванні, і высветлілася, што неадкладна неабходная аперацыя. Рабілі там жа, у анкалагічным цэнтры, бо я ў іх пад наглядам, але пухліна, дзякуй Богу, дабраякасная. У пятніцу выпісалася, а сёння прыйшла на працу, хоць маю бальнічны. Адчуваю сябе някепска, гэтая аперацыя зусім не тое, што было ў мінулым годзе, калі пуза парэзалі. І добра, што тут рабілі, тут лепшыя ў рэспубліцы хірургі па гэтай частцы. Было невялікае ўскладненне са швом, пратрымалі на пару дзён болей, чым было запланавана, і цяпер я буду хадзіць да іх на лячэнне, але гэта часовыя цяжкасці, у асноўным усё ў парадку.

Валянціна Андрэеўна, праз пару дзён напішу Вам «нармальны» ліст. Я крыху адстала ад падзеяў, і апошнія прысуды, і дэвальвацыя прайшлі без мяне, даганяю, сяджу ў інтэрнэце (на працы, бо хатні быў неаплочаны з-за таго, што была ў шпіталі), дый па службовых справах падаспела тое-сёе тэрміновае. <…>

Спадзяюся, што разлічылася са сваімі балячкамі канчаткова і пачынаецца новае жыццё!

Усяго Вам найлепшага! Здароўя!

Вера

*23.06.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Не паспела пасля аперацыі напісаць Вам сапраўдны ліст, як ізноў пачаліся медыцынскія прыгоды. Я ізноў патрапіла ў шпіталь, а ўжо думала, што разлічылася з усімі хваробамі. На гэты раз, праўда, на кантрольнае абследаванне, па маім мінулагоднім захворванні. Піхалі мяне ў розныя прыборы і рабілі розныя аналізы, галоўнае — зрабілі біяпсію з месца аперацыі і аналіз крыві на злаякасныя клеткі, вось апошнія дні чакала вынікаў, не магла ні пра што думаць. Адчуваю сябе добра, але ўсё роўна хвалявалася. Учора сказалі: усё ў парадку. Так што яшчэ пажыву!

Так здарылася, што мае ўласныя праблемы цяпер для мяне на першым месцы. Па сутнасці, мне вельмі пашанцавала, магло быць інакш. Мяне засмуціла гісторыя Віталя Сіліцкага, Вы, пэўна, ведаеце такога палітолага. Яму зрабілі аперацыю ў мінулым годзе, крыху раней, чым мне, і пасля трох месяцаў (гэта першы кантрольны тэрмін) усё было добра, біяпсія нармальная, але потым стан яго пагоршыўся, ён лячыўся ў Бельгіі і нядаўна памёр. А быў жа зусім маладым, здаецца, 40 гадоў не было.

Жыццё цяпер існуе на нейкім пачуццёвым узроўні. Вельмі востра адчуваецца прырода, музыка, нават смачная ежа. С задавальненнем працую, у мяне ж цікавая праца, не зусім навуковая, але ў пэўным сэнсе даследчая, люблю разгадваць хімічныя галаваломкі.

Адразу пасля шпіталю патрапіла на прэм’еру «Аіды», гэта Люся[1] са сваёй сваячкай актывізаваліся, бо тая вельмі хацела паслухаць гэтую оперу, і мяне прыцягнулі.

[1] Люся — Людміла Васільеўна Ізотава, шматгадовая сяброўка, калега па працы.

Вельмі прыгожы спектакль, шыкоўна (і небанальна) аздоблены, і галасы мне спадабаліся. Радамеса сляваў той жа спявак, што і Каварадосі — памятаеце? Ён малы і тоўсценькі, але голас неблагі. Аіда таксама тоўсценькая была, так што гарманічная пара атрымалася.

Я часта ўзгадваю «Тоску», якую мы з Вамі слухалі. А яшчэ, як і Ірка[2], мінулагоднія прагулкі. Калі бываю ля фантанаў, заўсёды думаю, што яна з задавальненнем пашлёпала б па вадзе! Яна падрасла і стала, напэўна, яшчэ больш цікавым чалавечкам, «партнёрам», як Вы казалі.

Пра нашую рэальнасць мала што магу Вам напісаць. Вы ж чытаеце пэўныя сайты ў інтэрнэце, самі ўсё ведаеце. Учора схадзіла на «маўклівую» прагулку ў цэнтр. Усё было перакрыта, «агародамі» дабралася да Энгельса, мала што бачыла, натоўп адціскалі з праспекту (людзей было шмат), не ўдалося праціснуцца бліжэй да падзей. Адзін эпізод непрыемна ўразіў: малады хлопец стаў задзірацца з міліцыяй (словамі), яго схапілі і пацягнулі кудысьці, і ніхто не паспрабаваў адбіць. Праўда, і я таксама разгубілася. А можа, узрост… раней я ўмяшалася б. І што будзе на дзень вызвалення? Трывожна неяк на душы. Галоўны, здаецца, зусім неадэкватны.

Ужо пасля аперацыі даведалася пра прысуд Карлсану[3]. Спачатку хацела патэлефанаваць, але пачытала выказванні ягонага патрона ды і яго ўласную пісаніну, і неяк не хочацца мне з ім кантактаваць. Так мне не падабаюцца іхныя гульні з усходнім суседам! Я хоць і руская, але лічу, што самая страшная небяспека для Беларусі зыходзіць з Усходу. І дамаўляцца з тамтэйшымі дзеячамі, хоць манархістамі, хоць дэмакратамі, хоць камерсантамі — сабе даражэй. Потым будуць такія рахункі — не разлічышся. <…>

Ну, неяк выжываем. Я вось гляджу з вакна: зялёная трава, бабка казу вывела пасвіць, сама спіць, а малы ўнук ганяе гэтую казу, як сідараву… Так мне гэтая букалічная карцінка падабаецца… у цэнтры Мінску, можна сказаць!

Пачытала Вашу анатацыю (водгук? рэцэнзію?) на кніжку Шалкевіча; забаўна… і прыгадала «Таварышча Сапегу», гэта і цяпер актуальна.

Дарэчы, знайшла сайт з песнямі Шалкевіча, Воюша, іншых бардаў, трэба пасядзець, выбраць, скачаць. Пакуль што скачала «Мы выйдзем…», даўно марыла, пастаўлю як сігнал у тэлефоне.

Пакуль усё!

Да пабачэння!

Вера

*06.07.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Як Вы можаце бачыць, напружанне ў нас не спадае. Гэта адбіваецца і на штодзённым жыцці, увесь час вылазяць нейкія праблемы, свае пакуль што дробныя, у сваякоў і знаёмых больш істотныя. Сям'я майго дваюраднага брата меркавала ўзяць крэдыт і пабудаваць кватэру, яны пяцёра (двое дарослых дзяцей і цешча) жывуць у двухпакаёўцы; але гэтыя планы накрыліся медным тазам. Іра Віцязь раней летам вазіла дачку на поўдзень, дзеля здароўя, але ў гэтым годзе, пэўна, не зможа: і валюту набыць цяжка, і білеты падаражэлі (яна, дарэчы, стала начальнікам на працы, былы кіраўнік пайшоў на пенсію, але гэта дадало ёй не столькі грошаў, колькі клопатаў). Сябар пазычыў грошы на машыну ў «зялёных», мусіць цяпер здабываць у валютчыкаў па чорным курсе, каб аддаць

[2] Ірка — унучка Валянціны Трыгубовіч, якая жыве ў Мінску.

[3] Карлсан — маецца на ўвазе Аляксандр Фядута, грамадска-палітычны дзеяч, навуковец, літаратар.

пазыку… (Віктар[4] пажартаваў: «Лекара, адваката і валютчыка трэба мець свайго».) Ва ўсіх праблемы. <…>

У мінулую сераду ізноў «маўчала», і зноў неяк няўдала. Даволі спакойна прыехала на Кастрычніцкую, хадзіла ўздоўж плошчы амаль гадзіну, то па адным баку, то па другім… Бачыла знаёмых, але няшмат. Лёшу Хадыку, аднаго дзядзьку з Першамайскай рады; Шчукіна (яго быццам потым затрымалі), Бухвостава. На Плошчы дыскатэка ішла, для брсм-аўцаў, там было агароджана. Мянтоў у форме было няшмат, а малыя адмарозкі-гопнікі ў цывільным стаялі праз кожныя 5 метраў, ад ГУМу да цырку, спакойна, не перашкаджалі хадзіць. А ў Купалаўскі сквер не пускалі, і ў сквер да хлопчыка з лебедзем, дзе мы гулялі з Іркаю, таксама. Я стамілася і а 8-й гадзіне паехала дадому. А потым даведалася, што асноўныя падзеі былі на праспекце Машэрава і на Нямізе. Не ведаю, ці ехаць сёння. Пакуль што ідзе праліўны дождж… У мяне нейкае дзіўнае адчуванне, што я там чужая. Наш час мінуў, прыйшлі новыя людзі, маладыя (!), і робяць па-свойму. Гэта сапраўдная наша змена (у гістарычным сэнсе), а зусім не «маладыя ваўкі», хоць з апошнімі ў нас больш агульнага, чым з цяперашняй моладдзю. Як дзіўна развіваецца гісторыя! Пасля ўкраінскага Майдану думалі, якого колеру будзе ў нас рэвалюцыя (памятаеце?). Думалі, джынсавая, але цяпер ужо ясна, што спробы рабіць нейкія калькі — марныя, і ў нас усё атрымалася зусім інакш, яшчэ пару месяцаў таму ніхто і ўявіць не мог, што наш шлях — гэта маўчанне і апладысменты. Нідзе ж у свеце такога не было, наколькі я ведаю. І гэта выдатна, на фоне маўчання так выразна відаць проста фантастычныя глупствы, якія робіць улада. Адно кепска — так шкада гэтых маладых, якія выйшлі наперад і за гэта церпяць. А як ім дапамагчы? Толькі стварыць «колькасць». Дарэчы, пра гэта ёсць артыкул Шарамета, я, калі прачытала, здзівілася, так усё адпавядае маім думкам. Пакуль няма выразнага лідара, але, можа, так і трэба? Час не прыйшоў. А калі прыйдзе, з’явіцца ці проста з турмы вызваліцца…

Дарэчы, я усё больш пераконваюся, што гісторыя ўсё прадугледжвае. Як было крыўдна ў 1995 годзе за сцяг! І як добра, што тое, што цяпер адбываецца, робіцца не пад нашым сцягам! Я ўпэўнена, што сцяг вернецца ўжо ў хуткім часе і будзе прыняты «на ўра!» абсалютнай большасцю.

Сітуацыя нагадвае мне канец 80-х — пачатак 90-х. Нас спачатку было мала, хадзілі на плошчу перад Домам ураду, невялікія купкі стаялі. А потым, у 91-м, туды прыйшлі рабочыя падчас страйкаў, і гэта была ўнушальная маса. Я памятаю, як Вы тады сказалі: гэта мы ім шлях паказалі, куды ісці… Можа, і цяпер «маўчуны» — гэта першыя ластаўкі, яны паказваюць нейкі новы шлях, куды пойдуць масы.

Можа, смешныя мае разважанні? Праўда, адарваная я ад падзей. Усё збіраюся праведаць Дзіяну[5] з Віктарам, пакуль ніяк не выпадае.

У Валянціна[6] справы так сабе; дысертацыю ў трэці раз накіравалі на чорную рэцэнзію. Сам ён у Польшчы, дамовіліся сустрэцца, калі вернецца. <…>

Усяго найлепшага!

Вера

*27.07.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Віншую Вас з Днём незалежнасці!

Будзем спадзявацца, што давядзецца яшчэ святкаваць гэтае свята свабодна…

---

[4] Віктар — Віктар Івашкевіч (1959–2013), грамадска-палітычны дзеяч, журналіст.

[5] Дзіяна — Дзіяна Мікульская, грамадская дзяячка, сяброўка і паплечніца Віктара Івашкевіча.

[6] Валянцін — Валянцін Голубеў, гісторык, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання.

Апошнія тыдні былі для мяне не вельмі добрымі. Тыдні два ці тры таму я патрапіла проста ў самы хапун, давялося літаральна ўцякаць, і потым дзве серады прапусціла, не ездзіла ў цэнтр, сорамна было, людзі ж ходзяць, а усё роўна не ехала, страшна было. Цяжка гэта нават успамінаць, хаджу, як апляваная. Не хочацца ні з кім гаварыць пра гэта, нават пэўны час не лазіла ў інтэрнэт, паглядзець, што робіцца.

Навін сваіх няма, жыву паціху, шэра і нецікава.

Можа, пазней напішу больш аптымістычна.

Вера

*29.08.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Спадзяюся, ён добры, прынамсі, нармальны. Як Вы перажылі ўраган[7]?

І Вашая сям'я і сябры? Пішуць, што Нью-Ёрк амаль не пацярпеў, толькі паводка была. Па тэлевізару паказвалі, як амерыканцы загадзя рыхтаваліс да шторму, усё прадумана, арганізавана. Вы мелі магчымасць гэта назіраць. А можа, і не мелі, не да таго было? Можа, давялося эвакуіравацца?

А ў нас — проста восень. Апошнія дні былі цёплымі і сонечнымі, але гэта апошнія летнія дні…

Часопіс я замовіла, і для Вас, і для сябе.

Вера

*27.09.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Не дайшла пакуль да бібліятэкі, добра, што Вам гэта не тэрмінова. І справа не ў надвор'і, восень стаіць залатая, хоць і даволі прахладна, але ўвесь час нейкія справы замінаюць… Але я памятаю і абавязкова схаджу. Дарэчы, «Arche» і слоўнікі атрымала, чакаюць яны Вас.

Была на пахаванні Сямдзянавай. Вельмі шкада яе дачку. Яна зусім маладая, ды яшчэ такая хворая. Зусім схуднела, рукі як запалкі, вочы нейкія трывожныя… (Ды Вы, пэўна, бачылі здымкі з пахавання.) У яе на галаве была чорная шапка, відаць, ад хіміятэрапіі валасы вылезлі. А ёй яшчэ давядзецца вытрымаць абпраменьванне. Я з ёй пагаварыла, распавяла, што валасы потым ізноў вырастуць, свае паказала… Яна мужна трымаецца.

Праўду сказаць, у такім узросце яе захворванне, як правіла, вылечваецца. У мяне сяброўка два гады таму захварэла, прайшла і хімію, і абпраменьванне, цяпер, дзякуй Богу, справы нічога. І валасы выраслі. А ёй 43 гады.

Канешне, рана пайшла Г. Г.[8]. І гэтак раптоўна. Вы ж ведаеце, спачатку лічылі, што ў яе інсульт, а гэта метастаз раздушыў сасуд у мозгу. І высветлілася, што ў яе ўжо 4-я стадыя. Як раней не заўважалі, ці то не было ніякіх прыкметаў і адчування ў яе самой… Незразумела.

На пахаванні былі ў асноўным «нашы» — людзі нашага пакалення, усе знаёмыя твары, хоць і з розных партый, маладых практычна не было. Шмат дэпутатаў з Апазіцыі.

[7] Перажылі ўраган — маецца на ўвазе ўраган Айрын (Harricane Irene), які праляцеў над Нью-Ёркам 22 жніўня. Мы з сябрамі перажылі яго ў весёлых бяседах: з вінам і вялікай колькасцю яды, бо імклíва размарожваўся халадзільнік. Электрыкі не было некалькі дзён, адпаведна — не працавалі тэлевізар, камп'ютар, тэлефоны…

[8] Г. Г. — Галіна Георгіеўна Сямдзянава (1947–2011) — экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання.

Свяцкая сказала, што з Санкт-Пецярбургу прыязджаў развітацца Радамысльскі — памятаеце такога дэпутата-святара? Ён цяпер галоўны (не ведаю, як дакладна завецца ягоная пасада) у Аляксандра-Неўскай лаўры.

На памінках ужо ў канцы мы сабраліся «сваёй» кампаніяй — Садоўскі, Антончык, Міхноў, мы з Дзіянай (толькі Голубева ад нас адарвалі) — і зусім добра выпілі, і ў памяць Г. Г., і проста мінулае паўспаміналі. І вырашылі, што мы, нягледзячы на паразу — мы ж не дасягнулі сваёй мэты, вольнай і дэмакратычнай Беларусі, — усё роўна шчаслівыя людзі! Удзельнічалі ў такіх падзеях! У гэтым сэнсе і жыццё Г. Г. было вельмі поўным, хай сабе і не надта шчаслівым ў асабістым плане.

А сын яе не прыехаў з Масквы, хоць і ведаў пра смерць маці.

Але не толькі сумнае ў нашым жыцці! Літаральна на наступны дзень я была на дні нараджэння ў Віктара. Яны нікога не запрашалі, так што была я (сама прыйшла) і Віктараў брат. Вельмі добра пасядзелі. (Дарэчы, гульня слоў — Дзіяна па сакрэту расказала, што Віктар перажывае: яго лепшыя сябры сядзяць[9], а ён — не. І сумна, і крыху смешна.) У Віктара палепшала здароўе, ён нават з твару лепей выглядае, пасвяжэў. Ён жа ў адзін момант кінуў піць і паліць, калі стала зусім кепска. Чокаўся з намі гарбатай і, як заўсёды, выказваў нетрывіяльныя думкі… Яны перадаюць Вам прывітанне, а Дзіяна ўсё марыць, што Вы прыедеце, і вось мы збярэмся… <…>

Была на прэм’еры «Севільскага цырульніка», зусім незвычайная пастаноўка, я ў захапленні, абавязкова з Вамі пойдзем, я Вас ужо запрашаю. <…>

Усяго найлепшага!

Вера

*17.10.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Даўно ад Вас нічога не было. Праўда, я атрымала спасылку на ролік з Вашым выступам у падтрымку НС[10]. Добры выступ, коратка і па справе.

Віктар кажа, што Вы зрабілі вялікую справу — у сэнсе падтрымкі НС тамтэйшымі беларусамі, насуперак меркаванню лідэра нацы. <…>

У мяне даволі непрыемная сітуацыя — заўтра кладуся ў шпіталь, ізноў аперацыя. Неяк дзіўна ўсё адбылося, праблемы пачаліся амаль адразу — дзён праз дзесяць — пасля чэрвеньскага абследавання. Пакуль спрабавала справіцца сама, а потым чакала прыёму анколага, прайшло паўтара месяца.

Доктар (не мой, нейкі новы, малады) сказаў, што так хутка нічога кепскага развіцца не можа, і загадаў прыйсці ў канцы лістапада на чарговае абследаванне. Тым часам мне стала лепей, ну я і чакала спакойна. А днямі патрапіла на УЗІ па шчытападобнай залозе і папрасіла на ўсялякі выпадак пагледзець печань. Сапраўды выпадак, для мяне ўдалы. Доктарка знайшла нешта падазронае, я без усякіх папярэдніх запісаў прабілася да лекара (свайго), ну і далей ўсё адбылося імгненна.

Усе абследаванні, уключаючы пункцыю, зрабілі ў тэрміновым парадку і прызначылі аперацыю. Шансы ёсць, бо не спазнілася. І адчуваю сябе значна лепей, чым у мінулым годзе. Праўда, орган больш небяспечны — печань. Ну, буду спадзявацца на лепшае.

Мяне навучылі карыстацца Скайпам. Бог дасць, тыдні праз тры пагаворым «жыўцом»…

Вера

Памаліцеся за мяне…

---

[9] ...сябры сядзяць — ідзецца аб зняволеных пасля Плошчы-2010.

[10] НС — Народны сход, палітычная акцыя беларускай апазіцыі, праведзеная адначасна ў 25 гарадах 10 кастрычніка. В. Івашкевіч яе асноўны пасыл да ўладаў акрэсліў так: «вярніце людзям тое, што ў іх укралі».

*06.12.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Рада зноў пагаварыць з Вамі. Я ў шпіталі вельмі хутка патраціла свой ліміт інтэрнэту, праўда, я лічу, што мяне чарговы раз падманула кампанія, з якой у мяне была дамова. Я толькі два дні глядзела навіны, адказала на пару лістоў, ну і яшчэ паглядзела «Днюку». І скончыўся мой інтэрнэт. А цяпер я на працы, і магу нармальна чытаць і пісаць. І на хатні кампутар заключу дамову з іншым аператарам.

Мне заўсёды цікава, як Вы пішаце пра малых. <…>

У мяне справы адносна някепскія, улічваючы аб’ектыўную сітуацыю. У суботу-нядзелю нават вадзіла машыну. Гэта для мяне лепш за ўсялякія лекі! Дарэчы, адносна лекаў: яны імкліва даражэюць, і я апошнім часам шукала па аптэках неабходныя мне лекі па старых коштах; у перыферыйных аптэках можна было знайсці. А ў суботу махнула ў Маладзечна, скарыстаўшы гэтую прычыну, і паехалі са мною Люся з Андрэем[11]. Андрэй потым смяяўся — на бензін патраціла больш у тры разы, чым сэканоміла на леках. Але атрымала вялікае задавальненне! І мы наведалі лебедзяў, па дарозе ёсць такое «лебядзінае возера», я туды час ад часу заязджала летам, карміла гэтых прыгожах птушак, бачыла, як растуць птушаняты.

Што тычыцца Вашых пытанняў пра медыцыну. Яна ў нас бясплатная, як Вы ведаеце. Добра гэта ці кепска — цяжка сказаць. Пры цяперашнім жабрацкім стане грамадства, можа, і добра. У анкалогіі вельмі дарагія лекі. Хворым усё даюць бясплатна, ніякіх даплат не трэба. З другога боку, бачна, што і медыцына нашая жабрацкая. У тым корпусе, дзе я ляжала, не пашкодзіў бы рамонт, хоць корпус, як я разумею, яшчэ з лепшых.

Я ляжала ў палаце на чатыры месцы, мне было нармальна; а ёсць і на два. Ёсць нават аднамесныя, платныя, там тэлевізар, і халадзільнік, і асобны душ. Але нешта няма жадаючых, як я разумею, аднаму кепска, усё ж такі з суседзямі і пагаворыш, і дапамагаюць хворыя адзін аднаму, і досведам дзеляцца.

Арганізацыйны бок вельмі добра наладжаны — лекар прызначае працэдуру, сястра ў пэўны час прыводзіць у адпаведны кабінет, а там ужо чакаюць, і гісторыя хваробы ўжо там, і неабходныя аналізы. Усё хутка, рацыянальна. Канешне, калі працуюць прыборы. Я Вам пісала — мне чатыры разы рабілі пункцыю лёгкіх, і рабілі ўручную, бо сапсавалася прыстасаванне, якое адпампоўвае вадкасць. Ужо больш за год не працуе кампутарны тамограф — няма грошаў на рамонт, а для анколагаў гэта ж адзін з самых неабходных інструментаў! Мяне вазілі ў іншую клініку, каб зрабіць абследаванне. Карацей, на адпаведным узроўні толькі майстэрства лекараў і хірургаў. Якраз як я выпісвалася, гаварылі, легла на аперацыю жанчына з Украіны, там ёй адмовіліся рабіць аперацыю, а нашыя лекары ўзяліся. Але ж яна мусіць плаціць, як не грамадзянка Беларусі. І мне вельмі шкада медсясцёр і санітарак, у іх мізэрныя зарплаты, а праца вельмі цяжкая. Раней — з савецкіх часоў так вялося — ім давалі шакаладкі за розныя паслугі, але што ім з тых шакаладак! І яны ўсё робяць, што трэба, а хто і як можа аддзячыць — гэта ж ужо пасля высняецца… Я, прызнаюся, падзячыла тых, хто дапамагаў, трэба ж было і судна выносіць, і бялізну бясконца перасцілаць, і проста дапамагаць сесці ці падняцца, пра розныя клізмы і ўколы я і не кажу. <…>

Пакуль усё. Стамілася! Пайду зараз дадому. Як падключу інтэрнэт да хатняга кампутара, буду пісаць больш разумныя лісты.

Вера

---

[11] Андрэй — Андрэй Анікееў, сын Людмілы Ізотавай.

*25.12.11*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Віншую са святам Нараджэння Хрыстова ўсіх, хто святкуе яго ў гэты дзень!

Усім здароўя, радасці, міру! <…>

Сёння ў нас прыемны дзень, крыху снег нападаў, стала светла, і мароз невялікі, так што настрой добры, будем цяпер чакаць Новага году і «сваіх» Калядаў. Для мяне ў гэтыя дні маленькае асабістае свята, я люблю 22 снежня, калі дзень пачне павялічвацца і можна ўжо чакаць вясну!

Навінаў ніякіх няма, што, магчыма, і добра, прынамсі для мяне. Пакрысе адчуваю сябе лепей, доктар-хіміятэрапеўт задаволена, як я пераношу лячэнне, так што пакуль няма на што скардзіцца…

Вельмі спадабаўся кот на плоце, якога Вы даслалі, у яго такі выразны «твар»! І вочы філосафа!

Наконт Вашых планаў тут — я бачу, Вы прачыталі, што ў нашым заапарку будзе дэльфінарый. І я таксама вельмі хачу там пабываць, Вы дзеля Іркі, а я мару паплаваць з дэльфінамі. Мяркуецца, што з цягам часу будуць даваць наведвальнікам такую магчымасць. Здурнела старая цётка, так? Але ж вельмі хочацца! Яны — дэльфіны — выглядаюць такімі вясёлымі і прыязнымі!

І наконт тэатру. Збіралася Вам напісаць пра «Севільскага цырульніка», адразу не атрымалася, а потым забылася. Вельмі цікавая новая пастаноўка. Звычайна гэтую оперу ставяць як лірычную камедыю, з націскам на лірыку. А тут яе паставілі як камедыю, больш таго, амаль фарс. Ідэя — у наш час, недзе ў бедным квартале Венецыі (чамусьці Венецыі!) перад кавярняй проста на вуліцы стаяць столікі, і перад наведвальнікамі (у джынсах, футболках, міні-спадніцах) разыгрываюць прадстаўленне персанажы класічнай італьянскай камедыі масак: Разіна — Каламбіна, Альмавіва — Пьеро, Фігара — Арлекін. Камічныя дэталі падкрэслены амаль да абсурду. Ну, музыка з-за гэтага не пацярпела, і, на мой погляд, спектакль атрымаўся выдатны, жывы, бадзёры, нейкі святочны. Мне страшэнна спадабалася. А публіка прымала гэтыя навацыі па-рознаму, альбо прыходзіла ў захапленне, альбо абуралася, абыякавых не было. Я была з Юляй[12] і яе бойфрэндам, вось гэтаму хлопцу не спадабалася, ён лічыць, што класіка павінна быць класічнай, і няма чаго блытаць жанры. Я думаю, мы з Вамі пойдзем на гэты спектакль, цікава, як Вы яго ацэніце.

Бачыце, я таксама складаю планы на будучыню.

Усяго найлепшага!

Вера

*13.01.12*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Віншую Вас з Днём нараджэння! <…>

А мяне павіншаваў з Новым годам Анцулевіч! Вось не чакала! 15 гадоў не сустракаліся і нават не размаўлялі. Я так мяркую, што гэта Юры Віктаравіч[13] паспрыяў. На пахаванні Сямдзянавай я выказала здзіўленне, што Валодзі няма, вы ж памятаеце, як мы шчыльна з ёй працавалі, я чакала, што ён абавязкова будзе. Канешне, сумная нагода, але нам, тым, хто застаўся, варта трымацца разам, тое, што нас звязвае, большае за тое, што нас падзяліла. Напэўна, Ю. В. гэта Валодзю перадаў, вось ён і патэлефанаваў і нават

[12] Юля Нікуліна — пляменніца Веры Чуйко.

[13] Юры Віктаравіч — Ю. В. Хадыка, доктар фізіка-матэматычных навук, грамадска-палітычны дзеяч.

запрасіў у госці, я была ў іх на Каляды. <…> Пагаварылі, паўспаміналі мінулае. Шчыра кажучы, вострых тэм пазбягалі. Ну і праўда, што ж цяпер, да сканчэння веку песціць свае крыўды… Добрага было болей, чым кепскага. <…>

Зімы ў нас няма, іншы раз пройдзе мокры снег і тут жа растае. Апошнія дні толькі быў мароз невялікі, крыху снег папарашыў. Я пачала спадзявацца, што да Вадохрышча хоць які лёд намёрзне, але тут мяне напаткала расчараванне, адкуль я і не чакала. Пайшла да доктара праверыць лёгкія перад «заплывам», а ён катэгарычна забараніў, і не з-за лёгкіх ці печані, а з-за таго, што пры хіміятэрапіі выкід адрэналіну падчас купання ў палонцы можа спыніць сэрца. Ну, не ведаю. Якраз сэрца, як мне здаецца, працуе добра. Пакуль вагаюся, паслухацца яго ці не… Кажуць, на Вадохрышча чалавек захварэць не можа. Падумаю.

Ну вось пакуль і ўсё.

Яшчэ раз — найлепшыя пажаданні! Спадзяюся, Вы добра правядзеце гэты дзень з сябрамі!

Вера

*15.02.12*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Дзякуй за такі цікавы і змястоўны ліст, ён мяне вельмі ўсцешыў. Я апошнім часам у нейкай дэпрэсіі, так на мяне ўздзейнічала навіна пра Саннікава. Што ж з ім зрабілі, нават падумаць страшна. І такая абраза для нас усіх — гэтыя пачвары імкнуцца прынізіць чалавека скоцкімі метадамі, бо іншых яны не ведаюць. Самі скаты! Сэрца баліць за Андрэя і Ірыну, і Даніка. І сама хаджу як апляваная, бо нейкія жывёлы, тупыя, гнусныя і подлыя хамы маюць над намі ўладу… Яны нават не здольныя зразумець, што тое, што атрымана такімі метадамі, не мае ні маральнага, ні юрыдычнага значэння!

Так што Ваш ліст вельмі дарэчы. Прыемна чытаць пра нармальнае жыццё, хоць бы і не простае. А ў мяне была цікавая падзея: Хадыкі загітавалі мяне пайсці з імі ў госці да Ірыны Міхайлаўны Быкавай. У яе 13 студзеня (!) быў дзень нараджэння, споўнілася 85 гадоў. Я спачатку сумнявалася, ці дарэчны будзе такі візіт, бо я ж з ёю асабіста не знаёмая, але Ю. В. запэўніў, што ён усё патлумачыць… Яны (Ю. В. з жонкай) увесь час падтрымліваюць з І. М. адносіны. Карацей, я пайшла, і сапраўды, калі спачатку была нейкая нацягнутасць, то потым усё стала проста і добра. <…> І. М. у свае гады на дзіва бадзёрая жанчына, вельмі гаваркая і ўвогуле няўрымслівая. Чысты халерык па тэмпераменце, нават дзіўна, як яны ладзілі з Васілём Уладзіміравічам. Можа, таму, што супрацьлегласці прыцягваюцца… Увесь час завіхалася, нешта распавядала, паказвала, вельмі горача спрачалася з Ю. В. па рэлігійных пытаннях. Але сумна было глядзець на гэты дом, час разбурае яго, і няма добрых рук, каб ашчадна зберагчы тое, што засталося ад жыцця В. У. На жаль, на сыноў В. У. у гэтым сэнсе спадзяванняў няма… І. М. скардзілася, што баіцца аддаваць рукапісы і рэчы ў афіцыйныя ўстановы, бо шмат чаго і так ужо згубілася. (У гэтай сувязі яна вельмі непрыязна гаварыла пра Сяргея Шапрана.) Да яе прыязджаў Латушка, пераконваў аддаць усё ў дзяржаўны архіў, сказаў, што гарантуе захаванасць. А І. М. яму адказала (па-мойму, вельмі трапна): Як Вы можаце што-небудзь гарантаваць, сёння Вы міністр культуры, а заўтра — пасол у Нігерыі? Праўда, Ю. В. лічыць, што трэба ўсё аддаць у архіў, нават калі матэрыялы будуць ляжаць у нейкіх закрытых фондах, яны ўсё роўна захаваюцца, і з цягам часу стануць даступныя ўсім. І. М. з сумным гумарам казала, што ў гэтай сітуацыі ў яе адзінае выйсце — дажыць да ста гадоў, як Барыс Кіт. А тады ў дзяржаве зменіцца ўлада, і зменіцца стаўленне да Быкава. Яна некалькі разоў паўтарыла — гэта проста смешна, Быкава шмат выдаюць

у Расеі, на Захадзе, нядаўна выдалі «Мёртвым не баліць» у Штатах, у вельмі добрым перакладзе (так кажуць тыя, хто ведае ангельскую мову). А ў Беларусі — не. На самой справе гэта, канешне, не смешна, а вельмі горка. <…>

Жыве І. М. бедна, дом недагледжаны, усё старое, часам паламанае, нязграбнае. Разумею, яна старая адзінокая жанчына, ёй цяжка даглядаць дом, але адчуваецца, што і грошаў там няшмат… Не ведаю, ці атрымлівае яна нейкія адлічэнні ад перавыданняў твораў Быкава. Думаю, што ў тым элітным доме (Вы ж ведаеце гэтыя «прэстыжныя» дамы на Танкавай) кватэра Быкава — самая бедная. А Быкаў жа самы вялікі пісьменнік Беларусі, гонар краіны.

Праўда, і раней ў іх дома было даволі сціпла, але прыстойна, я думаю, як у любой інтэлігенцкай сям'і з сярэднім дастаткам.

Галоўнае — І. М. шчыра рупіцца пра спадчыну В. У., дзякуючы ёй захаваецца (я спадзяюся) усё да дробязяў.

А пра сябе — чуюся някепска, мая хіміятэрапія падыходзіць да сярэдзіны, чаму я вельмі рада. Тыдні праз тры мне зробяць кампутарную тамаграфію, каб паглядзець, як аднаўляецца мая печань. Спадзяюся, што ўсё будзе добра.

Я вельмі рада, што Вы збіраецеся прыехаць. Мне падаравалі шыкоўную каву, не буду адчыняць банку, пачакаю Вас, разам пакаштуем. Я ўжо ўяўляю, як добра мы пасядзім за кавай, пагаворым… І абавязкова паездзім па розных цікавых месцах!

Пра кіно напішу Вам наступны раз, цяпер не той настрой.

Вера

Чакаю Вас с задавальненнем і нецярпеннем!

*25.03.12*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Віншую Вас с Днём Волі!

Будзем спадзявацца, што і наша Воля ўжо недалёка, што можам — будзем рабіць дзеля гэтага.

Я толькі што прыйшла з шэсця, на мітынгу не была. Я паспрабавала дабрацца да Акадэміі на метро, але на гэтай станцыі электрычкі не спыняліся (уладныя трусы перакрылі станцыю), давялося ехаць да Якуба Коласа і адтуль даганяць калону. Прыйшлося літаральна бегчы, дагнала, калі хвост быў ля лініі трамвая (на Сурганава), потым старалася хутчэй дабрацца да галавы калоны, каб пабачыць сваіх. Карацей, стамілася страшэнна. Ужо на плошчы Бангалор пабачылася з Дзіянай, і мы разам вырашылі ісці дадому, бо яна вымакла пад дажджом, а ў мяне сілы скончыліся. Так, быў дождж, і ўсё роўна народу было шмат, я даўно такога не бачыла. А твары — зусім незнаёмыя, чаму я вельмі рада, значыць, далучаюцца новыя людзі. Шмат было моладзі, але і людзей сярэдняга ўзросту шмат. І такі добры, бадзёры настрой быў у людзей, адчувалася адзінства, зусім, як у нашы часы. Але былі чуткі, што будуць правакацыі, каб учыніць разгон, «разлічыцца» за санкцыі ЕС. Трывожна на душы. Дзіяна сабрала Віктару торбачку «на пасадку», бо ўсяго можна чакаць. Мне здаецца, Віктар цяпер — самая сур'ёзная фігура на палітычным полі. Ну, будзем спадзявацца на лепшае.

Разборкі ў асяроддзі эміграцыі неяк засмучаюць, хоць усё гэта ад нас далёка. Мушу сказаць, што мне бліжэй пазіцыя старой эміграцыі. Мы ж і самі былі напачатку рамантыкамі. Для нас ідэя была галоўнае, а грошы (на Захадзе — і маёмасць) — толькі сродак. А для маладых, мне здаецца, наадварот, яны выкарыстоўваюць ідэю, каб дабрацца да грошаў і маёмасці (якая, дарэчы, не з неба звалілася, тыя ж старыя

з уласнай кішэні яе набылі). Але, можа быць, я несправядлівая, бо мала пра ўсё гэта ведаю. <…>

Пачала пасля зімы ездзіць на машыне, і адразу палепшыўся настрой, я так гэта люблю! Напэўна, у мінулым жыцці я была кіроўцам, мне здаецца, я гадзінамі магла б сядзець за рулём. Так што павандруем з Вамі летам!

Толькі што патэлефанаваў Карлсан, павіншаваў са святам. Паважае! І свята, і мяне…

Усяго Вам добрага! Вера

*12.02.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна!

Я дома і неверагодна шчаслівая! Прыехала са шпіталю толькі ўчора. Больш за месяц усё гэта цягнулася.

Аперацыя была даволі складаная, адрэзалі больш за палову пячонкі. І працягвалася аперацыя 6,5 гадзін. А потым двое сутак я ляжала ў рэанімацыі. Ну, гэта ўсё прайшло, і цяпер трэба хутчэй прыходзіць у форму — наперадзе яшчэ хіміятэрапія.

Апераваў мяне малады (гадоў прыкладна 35) энергічны доктар; і што цікава — беларускамоўны! Так дзіўна было чуць мову на прафесарскіх абходах! Але такі ўпарты хлопец — у яго пытаюць па-руску, а ён усё роўна адказвае па-беларуску! Можа, гэта знак лёсу, што я патрапіла ў ягоныя рукі! А яшчэ цікава — адзін з дактароў, які прысутнічаў пры нашай з маім доктарам гутарцы (вядома, па-беларуску!), потым, калі дзяжурыў і падыходзіў да мяне, таксама пераходзіў на мову! Так што не толькі медыцынскія ў мяне ўражанні…

Маім сябрам хапіла са мной клопату! Пасля аперацыі, калі мне дазволілі есці, кожны дзень хто-небудзь прыязджаў, прывозілі мне свежую дыетычную ежу. А гэта ж Бараўляны, не блізкі свет, не ў горадзе! Але мне параіла (можна сказаць, загадала!) Іра Жыхар — прыцягнуць да гэтай справы болей сяброў і знаёмых. Сказала — няма чаго саромецца, любы чалавек хоць бы раз можа прыехаць, а харчаванне пасля такой аперацыі — самае галоўнае. І ўвогуле — не перашкаджайце людзям тварыць дабро! (Гэта яе словы!) І праўда, адгукнуліся людзі. Я нават Фаіну Ціханаўну[14] папрасіла, яна двойчы прыязджала.

Думала шмат напісаць, але ўжо стамілася сядзець напаўсагнутай, трымаючы кампутар на пузе. Напішу потым яшчэ, можа заўтра.

Дзякуй Вам, што памяталі пра мяне і маліліся. У крытычных сітуацыях разумееш, што людзі пра цябе памятаюць і гатовыя прыйсці на дапамогу. Так што я проста абавязана паправіцца!

У нас таксама навалiла снегу ў нядзелю і сёння. Але цёпла, каля 0°. А ў нядзелю Люся бачыла жураваў, вяртаюцца дадому! Напэўна, будзе ранняя вясна!

Дзякуй!

Да сустрэчы!

Вера

*17.02.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Дзякуй Вам за віншаванне, за шчырыя цёплыя словы, так прыемна ведаць, што пра цябе думаюць і хвалююцца, і жадаюць дабра!

---

[14] Фаіна Ціханаўна — Ф. Ц. Рымша, грамадская актывістка, архіварыус.

Я паціху папраўляюся, стараюся праяўляць актыўнасць (у межах магчымага), і спадзяюся, што «працэс ідзе» да лепшага. У пятніцу канчаткова знялі швы, у Бараўлянах гэта зрабілі няпоўнасцю, вельмі вялікі быў разрэз. Заўтра пайду да хіміятэрапеўта, паглядзім, што яна скажа. Спадзяюся, дасць мне хоць бы яшчэ тыдзень адпачыць. А ўвогуле, яна ў мяне добры доктар, вельмі мяне падтрымала і нават падштурхнула на аперацыю, бо, шчыра кажучы, няпроста было на яе адважыцца. І нават потым, калі я была ў шпіталі, тэлефанавала і пытала, як мае справы.

Ну, гэта ўжо мінулае, а пакуль я кожны дзень выхожу на шпацыр — у аптэку, у краму… З маёй хуткасцю перасоўвання гэта гадзіна-паўтары, выдатная размінка.

Апошнім часам мне даволі актыўна тэлефанавала Валянціна Кірылаўна, жонка Хадыкі. Ёй таксама рабілі аперацыю, знялі катаракту з аднаго вока. Яна ўвесь час парывалася наведаць мяне ў шпіталі, я яе ледзь стрымала — у такім стане, ды яшчэ з хворымі нагамі, цягнуцца за горад… Дамовіліся, што сустрэнемся ў мяне дома. (…)

А так — жыццё ідзе нармальна. Сонейка свеціць па-вясноваму, хоць стаяць невялікія маразы. Прыйду на працу, дашлю Вам забаўны здымак снегавікоў, гэта нашы суседзі зрабілі на пачатку зімы. А Вы, напэўна, пра снег ужо і не думаеце, мабыць, кветкі пачынаюць прабівацца!

Усяго найлепшага!

Вера

*01.03.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Урэшце сабралася Вам напісаць. Паціху актывізуюся; хаджу на працу (пешкі, гэта з маёй хуткасцю 40–45 мінут, так што добрая фізкультура), хоць вытрымліваю пакуль толькі 3–4 гадзіны. А ў панядзелак ужо іду на хімію. Вядома, не хочацца, але суцяшае, што гэта апошнія выпрабаванні. А наперадзе лета, так што я спяшаюся прайсці ўсё — і за руль, у дарогу (любую!). У нас яшчэ ляжыць снег, але сапраўдная вясна, днём такое сонейка, што вочы слепіць. Валянціна Андрэеўна, я разбіралася са сваімі паштовымі скрынямі, шмат чаго туды звалілася, пакуль я адсутнічала, і знайшла Ваш маленькі лісцік, які Вы мне даслалі яшчэ да аперацыі; дзякуй Вам за добрыя словы, і што памаліліся за мяне… Гэта шчырая падтрымка! А яшчэ я знайшла адрас фотаальбома і з задавальненнем паглядзела і хлопчыкаў, і Вас. Здымкі ў музеі цікавыя, сам музей уражвае. А яшчэ — тая фотка, дзе Нікалас Стэфан і Лёва з імянінным торцікам. Палічыла свечкі — гэта ж Колю ўжо 5 гадоў! проста не верыцца; і Вы столькі часу ўжо там. <…>

Да сустрэчы!

Вера

*8.03.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Віншую Вас са святам вясны! Няхай неба будзе блакітным, трава зялёнаю, настрой добрым і ўсе вашы блізкія здаровымі!

У вас там алені прымулы ядуць, а ў нас ізноў маразы. Але ўсё адно — вясна!

Я прахімічылася і ўжо дома, таму настрой добры.

Так смешна было чытаць пра вырошчванне цыбулі[15]… Я сама ў дзяцінстве рабіла тое ж самае! Кожны дзень церабіла тую няшчасную цыбуліну… Напэўна, дзеці ў нечым не мяняюцца, хоць якія кампутары ім дай.

---

[15] Вырошчванне цыбулі — «звычайны цуд» для дзяцей: цыбуліна ў слоіку з вадою выпускае і карані, і зялёныя пёркі…

Пра эмігранцкую моладзь Вы слушна напісалі. Канешне, у грамадскае жыццё іх могуць прыцягнуць толькі абноўленыя ідэі. Што за карысць бараніцца ад часу, трэба ўлічваць змены і разумна прыстасоўвацца да іх, тады і моладзь прыйдзе са сваімі свежымі ідэямі. <…> Не магу не адзначыць — людзі вясну святкуюць, а ў нас у Беларусі гора, «лепшы сябар»[16] памёр… Можа, гэта і грэх, усё ж такі чалавека не стала, але ўлада сама ператварыла гэтую падзею ў фарс. Я на свае вушы чула такія салёныя жартачкі і лаянку ў бок Чавеса! Гэтая трохдзённая жалоба замест свята — проста здзек. Людзі, здаецца, святкуюць нават з большым азартам, чым звычайна.

Усяго Вам найлепшага.

Да сустрэчы!

Вера

*26.03.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Віншую Вас са святам! Як і Вы, мару дачакацца — прайсці па праспекце са сцягамі!..

Выбачайце, што крыху спазнілася, спадзявалася напісаць ліст учора, а прыйшла дадому — не працуе тэлефон і, адпаведна, інтэрнэт. Планавы рамонт, папярэджвалі яшчэ тры тыдні таму, ды я забылася. Так што пішу ўжо сёння на працы.

На сайце «Хартыі» (а можа, «Свабоды», не памятаю) пабачыла ролік — як мы святкавалі Дзень Волі дваццаць гадоў таму. Памятаеце, у Філармоніі было ўрачыстае пасяджэнне. Там і Вы ёсць, некалькі разоў паказалі Вас. Уся зала стоячы спявае «Мы выйдзем…», твары ва ўсіх натхнёныя, шчаслівыя! Я падумала — у 18-м годзе колькі часу была БНР, амаль нічога, на другі раз сапраўдная незалежная Беларусь была ўжо тры гады, будзе і трэці раз, і каб ужо назаўсёды. Хацелася б дажыць, а то гістарычныя працэсы ідуць так павольна!

Мушу сказаць, што на шэсце ў гэтым годзе я не хадзіла, я ўсё ж такі пакуль не ў лепшай фізічнай форме. Пасля шэсця тэлефанавала Дзіяне, каб даведацца, ці ўсё у парадку, і патрапіла на святкаванне, да іх прыйшлі брат Віці, Жук с жонкай, адзначалі свята, Дзіяна і мяне клікала, але куды мне са сваімі балячкамі. Аднак папрасіла папярэдзіць Жука, каб да лета рыхтаваў лазню і вуды, на што ён з задавальненнем пагадзіўся.

Дарэчы, «Мы выйдзем» — мой любімы гімн, канешне, я цаню і «Пагоню», і «Магутны Божа», але менавіта як гімн мне падабаецца гэты твор. І «Паланэз» Агінскага люблю, але прапанова Юрыя Віктаравіча зрабіць яго гімнам мне не здаецца ўдалай. <…>
Да пабачэння!

Вера

*14.04.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Так прыемна атрымаць ад Вас кветкі! Мае любімыя гіяцынты! Нават не верыцца, што недзе цёпла і можна гуляць без паліто па зялёнай траўцы.

Выбачайце, што доўга не пісала. Цяжка перанесла апошнюю хімію, і фізічна, і галоўнае, псіхалагічна, забілася ў сваю норку і стараюся паменшыць кантакты з людзьмі, нават любімымі, каб не псаваць ім настрой. Засталося прайсці ўсяго тры курсы, і не магу дачакацца сканчэння лячэння. Вось бачыце, і Вам скарджуся! Ну, больш не буду.

[16] Гаворка ідзе пра Уга Чавеса (1954–2013), прэзідэнта Венесуэлы, якога беларуская афіцыйная прапаганда называла лепшым сябрам нашага народа.

Заўтра кладуся на чарговы курс, а пяты будзе паміж Вербнай і Пасхаю. Так хацелася ўласнаручна зрабіць куліч, два мінулыя гады абыходзілася пакупным (а раней заўсёды сама пякла, казалі, смачны быў), сама сабе дала зарок, што ў гэтым годзе спяку, але ці атрымаецца — не ведаю. А шосты — апошні — курс прыйдзецца на Радаўніцу. Можа, што-небудзь гэта азначае, што мае пакуты скончацца на светлыя і светла-сумныя святы…

Спачатку пра сумнае — Вы, канешне, чыталі, што памёр Віктар Чарноў. Я яго мала ведала, чула выступы некалькі разоў, а Вы, пэўна, добра, па Універсітэту[17] і ўвогуле… Разумны быў хлопец, і ніхто нічога кепскага пра яго не гаварыў… І ўзрост такі, яшчэ жыць ды жыць. Ізноў анкалогія, гэта нейкі праклён на нашых людзей. («Нянашых» ніякая трасца не бярэ, не чуваць, каб хто-небудзь з паплечнікаў нашага сіпатага хварэў ці памёр, а сам так выглядае, што рылдлёўкай не прышыбеш…). Не ведаю, ці чулі Вы, што ўвосені памерла Рая Рыжкоўская, у яе было тое ж, што ў Чарнова. Мяне заўсёды ўражвала яе энергія, з якой яна бралася за любую справу — удзельнічала ў арганізацыі фронтаўскіх мерапрыемстваў, пякла піражкі для святочных імпрэзаў, бясконца пераўладкоўвала сваю кватэру… <…> У «Народнай волі» быў вялікі артыкул пра Раю, Ф. Ц. абяцала паказаць. Цікава, хто аўтар, хто ведаў яе так добра, каб апісаць усё яе жыццё.

У мяне ёсць і добрыя  навіны. Ну, не зусім у мяне, але мяне гэта вельмі радуе. Юля чакае дзіця! Так што буду я бабуляю! <…>

А пакуль што я чакаю сярэдзіны мая — вырвацца на волю ад гэтай хіміі, і восені — нарадзіцца ўнук (ці ўнучка, гэта пакуль невядома). Я часта прыгадваю, як Вы гаварылі мінулым летам пра Ірку — гэта ўжо не абуза, гэта партнёр. Вельмі хочацца дажыць да «партнёра», пагуляць з ім па парку, па фантанах, з’ездзіць да лебедзяў. <…>

Пакуль усё.

Да сустрэчы! Вера

*5.05.2013*

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Дарагая Валянціна Андрэеўна! Няхай будзе святло ў душы і цяпло ў сэрцы!

Няхай будзе цёпла і ўтульна на гэтым свеце ўсім, каго вы любіце!

Дзякуй вялікі за Ваш апошні ліст. Для мяне вялікае суцяшэнне ведаць, што Вы заўсёды зразумееце і падтрымаеце ў любой сітуацыі. Таму мне і паскардзіцца Вам лягчэй, чым іншым (акрамя маёй Люсі, яна таксама ўсё разумее і ставіцца да маіх цяжкасцяў спагадліва і спачувальна). А так я стараюся трымаць хвост пісталетам, а гэта забірае сілы.

Я думаю, што разумею і Вашы праблемы. <…> Дзякуй Богу, што ў Вас там ёсць добрыя сябры, якім патрэбна і Ваша дружба, і Ваша праца, і Вашы веды, і якія з павагай ставяцца да Вашай годнасці. Ну і хлопчыкі — Вашы надзейныя сябры!

Учора была ў царкве — нашай — Петрапаўлаўскай. Я заўсёды хаджу у суботу, у першай палове дня. Звычайна ў гэты дзень бывае добрае надвор’е, і я вельмі люблю, пасвяціўшы куліч і яйкі, проста пасядзець у двары, ведаеце, там лавачка вакол дрэва. Мір у душы наступае, неяк ціха робіцца. Але ўчора ўвесь дзень ішоў дождж, так што я была ў царкве, пакуль не скончылася служба. Праўда, сядзела, мне пакуль яшчэ цяжка стаяць доўга. А потым, калі свяцілі кулічы, атрымалася так, што бацюшка, адвярнуўшыся ад стала, шчыра пакрапіў мяне персанальна (людзей у той момант няшмат было, зусім побач

[17] Маецца на ўвазе Народны ўніверсітэт — праграма Міжнароднага грамадска-аналітычнага цэнтра «Беларуская перспектыва» (1995–2005), дзе разам працавалі амаль усе людзі, згаданыя ў лістах.

нікога). Я ажно засмяялася — і так мокрая ад дажджу, ды яшчэ святая вада! І бацюшка, быццам зразумеў, таксама заўсміхаўся. Можа, гэта і няправільна па канону, але ж гэта самое жыццё! Можа, я несапраўдны вернік, я больш за ўсё цаню тую прыналежнасць да жыцця, якую дае вера ў вышэйшую — добрую! — сілу.

А ўвогуле для мяне гэта сумны перыяд — 29 красавіка дзень нараджэння мамы, а 4 мая — дзень яе смерці. Адно за адным. Ездзіла на могілкі, добра што помнік зрабіла ўвосені. Мае зямныя справы ў адносным парадку, таму можна спакойна жыць далей. <…> Так хочацца, каб было ўсё добра ў дарагіх мне людзей! Вось за гэта і малюся, як умею.

Да сустрэчы!

Вера

*24.06.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

Ізноў мушу пачынаць ліст з прабачэнняў, што не пісала так доўга. Прычым цяпер у мяне няма ніякай «адмазкі», лічу сябе здаровай і мушу паводзіць адпаведна…

Стала надзвычай лянівая. Толькі хаджу на працу, ем і сплю. Кніжку не магу пачытаць, імгненна засынаю. І нават навіны на «Хартыі» не заўсёды даглядаю да канца. Сплю можа 14–15 гадзін… Расслабілася! Не крыўдуйце! Столькі разоў збіралася напісаць, у думках прагаворвала тэкст, ды вось засынала…

Праўда, вонкавыя падзеі штурхаюць у бакі. Па запрашэнні Іры Жыхар удзельнічала ў «Круглым стале», прысвечаным асвятленню анкалагічных праблем у прэсе, які яна арганізавала. Былі лекары, журналісты і мы, некалькі пацыентаў, у якасці экспанатаў. Ну, з мяне экспанат няўдалы, агрызалася і на лекараў (не практыкаў, гэтых я вельмі паважаю, а на выкладчыкаў-тэарэтыкаў), і на журналістаў. І са сваёй актыўнасці буду мець дадатковыя клопаты, некалькі журналістаў пабралі мае каардынаты, каб узяць інтэрв’ю. Праўда, пакуль ніхто не звяртаўся.

З Віктарам з’ездзілі ў Рубяжэвічы па траву[18], бо скончыліся мае запасы. Ён атрымаў траву ўжо персанальна для сябе; Дзіяне сказаў: а Веры болей далі… у сэнсе ў мой збор уваходзіць больш траў. Дык у нас жа захворванні розныя! Віктар часам смешны, як дзіця. А справы ў яго зусім не смешныя, стан яго не надта добры. Нядаўна ляжаў у шпіталі, ставілі яму капельніцы, але не змаглі правесці поўны курс, вельмі ломкія вены ў яго. Не памятаю, ці пісала я Вам, што яго паставілі ў чаргу на перасадку печані, але ж гэтага трэба чакаць некалькі гадоў. Адзін знаёмы прапанаваў яму пасадзейнічаць, каб паскорыць аперацыю, але Віктар адмовіўся, маўляў, няхай ідзе, як ідзе. Дзіяна кажа, што ён баіцца аперацыі. Ну, гэта можна зразумець, я таксама вельмі баялася апошняй аперацыі, бо пячонкавая недастатковасць, якая пагражала, магла прывесці да *слабоумия*. У Віктара свае страхі. Дзіяна кажа, што ён марыць з’ездзіць ў Ерусалім, у святыя месцы, але ж дзе ўзяць грошы! Яны вельмі сціпла жывуць, лекі для Віктара дорага каштуюць, Дзіяна ў гэтым сэнсе малайчына, не шкадуе для яго нічога. Дзякуй Богу, і я часам магу нечым дапамагчы.

Нядаўна прыязджала Юліна мама, я яе два выхадныя дні вазіла, куды яна хацела. Яна захацела ў Станькава, гэта вёска паблізу ад Дзяржынска. Вы, пэўна, ведаеце, там знаходзіцца абраз Валянціны Блажэннай Мінскай, яе кананізавалі ў 2006 годзе. Так дзіўна нам спрыяў Бог ці лёс! Спачатку мы заблудзіліся, і ніхто нам не мог падказаць правільную дарогу, потым, паблукаўшы, неяк вырулілі проста ў гэтае Станькава.

[18] У Рубяжэвічах працаваў (працуе?) выдатны спецыяліст па лячэбных зёлках.

Папыталі мясцовых жыхароў пра царкву, нам паказалі, але папярэдзілі, што служба скончылася і ў царкве нікога няма, зачынена. Аказалася — не, царква была адчынена і нават бацюшка яшчэ быў. Зусім малады, выйшаў нам насустрач паўнаваты хлопец у джынсах і каўбойцы, мы і думаць не маглі, што гэта святар. Ён сам з Мінску, прыязджае служыць у Станькава. Ужо збіраўся ад'язджаць, але, пачуўшы, што мы прыехалі з Мінску паглядзець на ікону, папрасіў жанчыну, якая там усім займаецца, паказаць яе нам. Ікона захоўваецца ў сейфе. (Дарэчы, сама царква — просты сялянскі дом, а сапраўдны будынак царквы рамантуецца.) Правёў па царкве, распавёў гісторыю яшчэ двух ікон, потым пры нагодзе напішу, гэта цікава. А потым сказаў, як праехаць да магілы Валянціны Блажэннай. Мы і не меркавалі, а вось патрапілі і туды (ізноў паблукаўшы, але тут людзі нам дапамаглі знайсці дарогу). Так што вельмі ўдалая атрымалася паездка.

8 чэрвеня былі з Юляй на Лебядзіным возеры, у нас такі звычай — на яе дзень нараджэння ездзім туды. Звычайна бывалі ўжо маленькія лебедзяняты, але ў гэты раз лебядзіха яшчэ сядзела на яйках! Вясна спазнілася… А тату-лебедзю, пэўна, надакучыла ўвесь час праводзіць побач з жонкаю, плаваў па ўсім возеры, і да нас падплыў, паласаваўся хлебам. А ўчора ізноў паехалі туды з Люсіным сынам і нашай агульнай сяброўкай <…> і пабачылі маленькіх лебедзеў! Іх ўсяго тры, звычайна было не менш за 6, памятаеце, у мінулым годзе было 8. І яны не падплывалі да берага, плавалі ў цэнтры возера. Можа, нешта кепскае здарылася, і яны цяпер баяцца людзей… Ну, будзе бачна, за лета мы там пабываем яшчэ не адзін раз. <…>

Валянціна Андрэеўна, у адным з апошніх лістоў Вы пісалі пра свой пяцігадовы «юбілей» знаходжання ў Штатах. І тое галоўнае ў Вашым досведзе тамтэйшага жыцця: адчуванне свабоды і ветлівасць людзей. Я думаю, гэта ўзаемазвязаныя рэчы, усё ідзе ад пачуцця ўласнай годнасці, і гэта галоўнае, чаго не хапае нам тут. Я ўпэўнена, што і ў нас гэта будзе, але калі?! Як дачакацца?! А так хочацца пажыць проста ў нармальных умовах! <…>

Да сустрэчы!

Вера

*16.07.2013*

Дарагая Валянціна Андрэеўна,

<…> А яшчэ ёсць планы з'ездзіць у Наваполацк, нас з Люсяй запрашае Юліна мама. Яна вялікая энтузіястка свайго гораду і, вядома, Полацку. Таня — мая дваюродная сястра з мамінага боку, нашы мамы былі сёстрамі. Тут даволі цікавая гісторыя. У свой час мая мама перацягнула Таню з іх радзімы, правінцыйнага расейскага гарадка (край Калужскай вобласці, побач з Магілёўскай) у Мінск, тут яна скончыла музычнае вучылішча і потым кансерваторыю, па размеркаванні паехала працаваць у Наваполацк. І стала заўзятай прыхільніцай беларускай культуры. Вядома, на першым плане ў яе беларуская музыка. Яна гаворыць аб ёй з такім запалам, якога я ад яе ніколі чакаць не магла. Яна лічыць, што беларуская музыка недаацэненая, напрыклад, што Смольскі мог быць у беларускай культуры такой жа постаццю, як Шнітке ў расейскай, хоць і пагаджаецца, што маштаб меншы. З гонарам гаворыць, што першае выкананне 13-й сімфоніі Шастаковіча, неафіцыйна забароненай у Маскве, адбылося ў Мінску, прычым ноты сюды вазілі ледзь не кантрабандай. І падкрэслівае, што ў Шастаковіча беларуска-літоўскія карані… У сваім вучылішчы пастаянна арганізоўвала ўсялякія пазапраграмныя імпрэзы, запрашала вядомых (і малавядомых, але цікавых, на яе погляд) беларускіх выканаўцаў і кампазітараў, падтрымлівала з імі сувязі. Некалькі гадоў таму здарыўся ў яе нервовы зрыў, дактары так і не зразумелі, што гэта было. Глыбокая дэпрэсія, жудасныя страхі без пры-

чыны, слёзы на роўным месцы… Яна вымушана была пакінуць працу, Юля вазіла яе па дактарах, яна нават ў Мінску ляжала на абследаванні. Лячылі фізіятэрапіяй і лекамі, спачатку абсалютна безвынікова. А потым неяк прайшло. <…> Яна прыязджала ў Мінск за апошні час двойчы, хадзіла па канцэртах, працавала з нейкімі матэрыяламі ў Нацыянальнай бібліятэцы, нават пабывала на выставе Шылава, ведаеце, расейскі мастак; спецыяльна з'ездзіла на Маскоўскія могілкі — паклапілася Яўгену Глебаву. Напісала працу (культуралагічную? не ведаю, як назваць) пра ўзроўні ўспрыняцця музыкі (ці яе пабудовы, я не надта зразумела), сама смяецца — нікому гэта не патрэбна, нават прадаць як дыпломную работу не атрымаецца… Ну, галоўнае, што яна сама атрымала ад гэтай працы задавальненне. <…>

Не ведаю, ці Вам гэта ўсё цікава. А гэта ж мая сям'я. Таня так смешна сказала пра мяне: ты цяпер — глава п***е***ршанскай сям'і (Першыны — гэта прозвішча нашых маці). І праўда, я самая старэйшая з яе сваякоў, прынамсі з тых, што жывуць у Беларусі.

Юля адчувае сябе добра, ёй паставілі тэрмін нараджэння сына 15 лістапада. А зараз яна са сваім хлопцам збіраецца на кароткі адпачынак у Літву. <…>

Столькі напісала, і ўсё пра пабочных Вам людзей. А пра сябе няма чаго пісаць. Ну, лепш нічога, чым кепскае. <…> Пакуль усё.

Да сустрэчы!

Вера

*20.08.2013*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

Адгуляла я свае канікулы і паціху вяртаюся да звычайнага жыцця. З'ездзіла на свае любімыя Блакітныя азёры. Адчула і задавальненне, і расчараванне. Я не была там адзінаццаць гадоў, а фактычна — 18, проста адзін раз Юля мяне адпусціла на тры дні, пабыла з мамаю[19]. Але тады я амаль нічога і не бачыла. А цяпер — так усё змянілася, лес, які я знала і так любіла, паразрастаўся, няма былых палянак і сцежак, нейкія балаціны з'явіліся… А з другога боку — панаехалі гараджане, набудавалі харомаў, бліжнія лясы проста нейкія сметнікі… Такія былі ціхія вёсачкі, ма***е*** Станычкі і суседнія Вайшкуны. Там на пачатку дзевяностых гадоў прыжыліся нашыя «барбізонцы», была нават выстава — «Барвы Вайшкун». Ці жывуць цяпер там мастакі — не ведаю. Я асабіста была знаёмая толькі з Л. Панамарэнкам, яго ў нашых вёсках звалі Ганчар, ён зрабіў ганчарную печ і займаўся керамікай, я была ў яго ў хатняй майстэрні. А яшчэ ён вырошчваў грачыху, і гэта было дзіва для тамтэйшых жыхароў, яны ніколі яе не сеялі. Ён мяне пераконваў, што грэчка выспявае. Ён памёр, хто жыве ў яго хаце — не ведаю. Хата, дзе жыла сям'я Бартлавых, стаіць зачыненая і мае запушчаны выгляд. Увогуле, тады менчукі куплялі вясковыя хаты, папраўлялі іх, і жылі даволі сціпла. А цяпер збудаваныя двух-трохпавярховыя асабнякі, альбо на ўчастку за высокім плотам 3–4 будынкі — дом, лазня, гараж і г. д. Будуюць, падобна, і дзеля продажу, прынамсі ў нашай вёсцы тры такія будоўлі, і ўсе няскончаныя і кінутыя, напэўна, няма пакупнікоў. Надта ўжо далёка ад Мінску, 200 км, і мясціны не цывілізаваныя. Хто любіў гэтыя мясціны, даўно ўжо ўладкаваліся (сціпла), хто хацеў і меў грошы, пабудаваўся сам, а набываць такія дарагія «дачы» і так далёка — няма жадаючых. Бабуля, у якой спынялася наша кампанія і якая прымала нас, як родных, памерла шэсць гадоў таму; яе хату прадалі і спачатку там жылі нейкія людзі, а потым выставілі яе на продаж, але так яна і не прадалася за тры гады. Там запусценне, усё зарасло травою, плот разбурыўся… Сумна. Я Вам дасылаю

[19] Пабыла з мамаю — Галіна Мікалаеўна, Верына мама, апошнія гады жыцця патрабавала пастаяннага догляду, яе нельга было надоўга пакідаць адну.

некалькі фотак, там і хата, і возера, і рыба (якую я злавіла!), і вожык, які прыходзіў да нас падсілкавацца. Я толькі і рабіла, што хадзіла купацца (у Вайшкуны, гэта 1,5 км ад нас, бо з нашага боку да возера немагчыма падысці, густы лес і хмызнякі) і на рыбалку. Ну, усё роўна, я рада, што там пабыла, невядома, ці давядзецца калі-небудзь яшчэ. І адпачыла, гэта здорава — актыўная дзейнасць і ніякіх цяжкіх думак. <…>

Усяго добрага!

Вера

*16.09.2013*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна, Учора мне перадалі ад Вас КоКью, дзякуй Вам вялікі! З тым, што ў мяне заставалася, хопіць месяцы на 4, гэта выдатна! Я думаю, што менавіта гэтае рэчыва забяспечвае мне магчымасць змагацца, дае сілы. Дзякуй! <…> Дарэчы, дзякуй Вам за «наводку» на сайт сп. Мазаніка, я ўжо прыглядзела пэўныя падарункі для сяброў, у тым ліку і для малых. Яшчэ крыху павыбіраю і сфарміруюзамову. Можа, Вам будзе смешна, але мне было так прыемна пабачыць адрас, напісаны Вашай рукой! Ёсць у гэтым нешта цёплае, перапіска па эл. пошце — гэта цікава і прыемна, але ж усё-такі абстрактна, а тут да лекаў дадалася сапраўдная матэрыяльная добрая энергія! Увесь вечар была ў прыўзнятым настроі, і гэта ж не проста таму, што атрымала порцыю лекаў! Я нарэшце здзейсніла сваю даўнюю мару — падбухторыла сяброў, Люсю з Андрэем і нашу сяброўку Каму[20], і мы з’ездзілі ў Гальшаны! І так нам пашчасціла, якраз у той дзень, што мы сабраліся, там быў фэст, прадстаўленне ў сярэдневяковых касцюмах, спевы, рыцарскі турнір, а ўвечары — вогненнае шоў. Ну, турніру і шоў мы не дачакаліся, паехалі, бо далёка ехаць. Мае сябры былі здзіўленыя, калі пабачылі гальшанскія руіны, яны чакалі, што там будзе «Чорны замак Альшанскі», кшталту Мірскага замку. А мне якраз усё спадабалася. Толькі зразумейце мяне правільна! Я не радуюся, што такі выдатны гістарычны помнік разбураны, гэта суцэльнае варварства. Але, калі я лазіла па тых руінах, я проста дакраналася да нечага сапраўднага, адчувала матэрыяльную прыроду часу, нейкую незвычайную атмасферу, тут лягчэй было ўявіць тагачаснае жыццё (як бы кепска я яго ні ведала), чым у Мірскім ці Нясвіжскім акуратным навадзеле. І зноў падзівілася фантазіі Караткевіча — разбураныя цагляныя сцены, запусценне, а якое выклікалі натхненне, якія прыгоды ён навараціў! Карацей, кожны з нас быў задаволены па-свойму. І надвор’е нам спрыяла, у Менску было пахмурна і нават крыху марасіла, а ў Гальшанах цэлы дзень ззяла сонейка! Я Вам дасылаю некалькі фотак, у тым ліку сваёй рукі з пячаткай, гэта ставілі пры ўваходзе на тэрыторыю фэсту. Многа ёсць яшчэ чаго напісаць, але ўжо наступным разам. Перадала ад Вас прывітанне Віктару і Дзіяне, яны задаволеныя. Віктару крыху лепей. З яго ўзялі «падпіску аб нявыездзе», не мянты, а медыкі, ён мусіць быць у межах двухгадзіннай дасягальнасці на выпадак, калі з’явіцца магчымасць аперацыі. 21-га верасня ў яго дзень нараджэння, схаджу да іх у госці.

Яшчэ раз — ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!

Вера

*31.10.2013*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна, атрымала «хэлоўінскія» здымкі, вельмі забаўна. Тут у нас у крамах прадаецца ўсялякая атрыбутыка да гэтага «свята» — гарбузы са свечкамі, маскі, касцюмы з выявамі шкілетаў і чарапоў. Але, вядома, такога размаху,

[20] Кама — Кама Аляксееўна Міхалковіч, калега па працы і сяброўка — ад першых дзён працы пасля ўніверсітэта і да апошніх гадзінаў жыцця. Як і Люся Ізотава…

як у Амерыцы, няма. Моладзь і дзеці выбіраюць, прымерваюць, смяюцца. Ім весела! Ну і добра. Хоць афіцыйная царква не ўхваляе гэтае мерапрыемства. Хутка Дзяды, і 25 гадоў з тых Дзядоў, 30-га кастрычніка. Для мяне тады ўсё пачалося, у сэнсе — мой свядомы ўдзел у руху. Дарэчы, тады, 30-га кастрычніка, я ўпершыню пабачыла бел-чырвона-белы сцяг. Калі пачалася *перестройка*, я чытала «цэнтральныя» газеты і часопісы, глядзела перадачы з розных маскоўскіх з'ездаў і канферэнцый і лічыла, што асноўныя падзеі там, у Маскве, а мы што… ціхая правінцыя! У іх там Сахараў, Сабчак, Папоў, Старавойтава, а у нас хто?.. Дык вось і пабачыла, што і ў нас ёсць! Не адразу, але пакрыху зразумела, што ў нас і не можа быць так, як у Маскве, бо яны — імперыя, а мы — калонія. Прынцыпова розныя сітуацыі. І за Беларусь палезуць пад дубінкі і газы толькі беларусы. Карацей, зразумела, што ў нас шлях да дэмакратыі магчымы толькі праз нацыянальную ідэю. І я страшна ўдзячна лёсу, што патрапіла ў самы гушчар падзеяў, пазнаёмілася з лепшымі людзьмі Беларусі. Гэта ўсё — свядомая пазіцыя, а да таго я проста любіла Беларусь, сама для сябе, як сваю зямлю. У сваіх любімых Станчыках часта сядзела на ўзгорачку, ён зусім адкрыты, і толькі маленькая елка і зусім побач з ёй сасонка, я глядзела на іх і дзівілася, як трапна напісаў Колас — «Елка ў пары з хваіною»… Простыя словы, але мяне яны кранаілі. Спачатку гэтыя дрэўцы былі аднаго памеру, потым пакрыху сасна пачала абганяць елку, а цяпер, калі я была там летам, яны ізноў зраўняліся, на адкрытай прасторы сасна не надта ідзе ў вышыню. І «крынічкі вузенькае ложа» ёсць недалёка. Дарэчы, не разумею крыўды АІФа[21] з нагоды моўнага пытання. Як было, так і было. Сапраўды ж была прымусовая русіфікацыя, цяпер я гэта разумею, а ў савецкія часы пра гэта ўвогуле не думала, што ж, такое было асяроддзе. А ён жа жыў у Гародні, там, мне здаецца, была не зусім тая атмасфера, што ў Мінску, мог бы нешта лепш разумець. Да таго ж персанальна яго ніхто не дакарае за тую русіфікацыю А можа, падсвядома адчувае, што варты дакору, таму і ўзбрыкнуў… (Ці адказалі Вам з МЗС на ліст да Макея?[22] Па закону мусілі адказаць, прычым на мове звароту…) <…> Валянціна Андрэеўна, вы мяне некалькі разоў пыталі пра Юлю, а я ўсё забывалася адказаць. Яна адчувае сябе добра… Пакуль усё. Да сустрэчы!

Вера

P. S. У «Нашай ніве» бачыла вельмі забаўны пераклад вершыка Маршака на беларускую мову: «Пані здавала ў багаж…». Можа, Вам будзе цікава, пачытаеце хлопчыкам! <…> В.

*6.11.2013*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна,

У мяне дзве навіны: учора ў Юлі нарадзіўся сын; і ўчора ж, нарэшце, атрымала кніжку Запрудніка[23].

Юлін сын адносна маленькі — 2830г, ціхі, ёй два разы ўжо яго прыносілі, спіць, не хоча сасаць. <…> Але галоўнае — усё прайшло ў штатным рэжыме, без ускладненняў.

Дзякуй за кніжку! І прашу Вас, Валянціна Андрэеўна, перадаць маю шчырую падзяку спадару Запрудніку за надпіс на кніжцы. Я з вялікай павагай да яго стаўлюся, і не толькі

[21] АІФ — маецца на ўвазе Аляксандр Іосіфавіч Фядута, вядомы пушкініст і грамадска-палітычны дзеяч.

[22] Я пісала скаргу міністру замежных справаў, калі не змагла атрымаць у беларускім консуляце ў Нью-Ёрку патрэбны мне дакумент на беларускай мове. Затое праз год атрымала такі без праблемаў.

[23] Гаворка пра кнігу Янкі Запрудніка «Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011 гг.)» (Нью-Ёрк, 2013).

з-за яго грамадскай дзейнасці. Тое, што ён з вясковага хлопца з ціхай правінцыйнай Беларусі дарос да амерыканскага прафесара, — гэта здаецца амаль неверагодным. Вучыцца падчас вайны і адразу пасля яе, у разбуранай Еўропе, не ведаючы моваў, гэта патрабавала не толькі прыродных здольнасцяў, але і вялікай працы і сілы волі. <…>

Кніжка вельмі прыгожа выдадзена. Я пакуль што толькі пагартала, паглядзела фотаздымкі. <…> І яшчэ — прачытала, што на нейкай імпрэзе беларускі хор выконваў амерыканскі і беларускі нацыянальныя гімны. Ну, з амерыканскім усё ясна, а вось што беларуская эміграцыя лічыць нацыянальным беларускім гімнам? Доўга шукала, і ў іншым месцы знайшла: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…». Атрымала «глыбокае маральнае задавальненне»; Вы ж ведаеце, што падчас нашай нядоўгай беларусізацыі ў пачатку 90-х так і не здолелі дамовіцца пра гімн. І «Пагоню» прапаноўвалі, і «Магутны Божа», і «Мы выйдзем…». Я памятаю нават артыкул Юрася Віктаравіча пра «Паланэз» Агінскага. А мне больш за ўсё падабалася «Мы выйдзем…». Відаць, не толькі мне!

У нас сапраўдная восень, сёння ўсю ноч і раніцу ліў халодны дождж. Мне тут паралі народны сродак — настойку мухамора, і нават сказалі, што мухаморы ў лесе яшчэ ёсць. Але я не знайшла ніводнага. Холадна, мокра, пажухлае лісце — якія мухаморы?! Адклала на наступнае лета.

Да сустрэчы!

Вера

*02.02.2014*

Дарагая Валянціна Андрэеўна!

Выбачайце, доўга не пісала.

Прыміце, хоць і са спазненнем, мае віншаванні з Днем нараджэння! Самыя шчырыя пажаданні здароўя Вам і Вашай сям'і! Пасля апошняй бальніцы не надта добра сябе адчувала, скуголіць і скардзіцца не хацелася, а пісаць аптымістычныя лісты не атрымлівалася. Вельмі спадзяюся, што вясна надыдзе, і усё палепшае, і маё самаадчуванне таксама.

З любоўю

Вера

*26.02.2014*

Дарагая Валянціна Андрэеўна!

Дзякуй за віншаванне!

Выбачайце, што не пішу. Адчуваю сябе «так сабе», стамілася ад пастаяннай барацьбы і атупела. Не магу доўга чытаць, пісаць і нават думаць адну думку.

Канешне, я гляжу тое, што адбываецца на Украіне; і таксама зайздрошчу. Якія малайцы! Але якім коштам здабытая гэтая перамога! Хоць бы не былі змарнаваныя намаганні ўсіх гэтых шчырых і самаахвярных людзей! Нешта няма ў мяне вялікага даверу да тройкі «лідараў», здаецца, гэта слабыя духам, амаль выпадковыя фігуры. Мне здаецца, сама сітуацыя надзвычай выразна паказвае, што ў былых савецкіх рэспубліках нельга заводзіць пасаду прэзідэнта, толькі парламенцкія дзяржавы! Дзіўна, што пра гэта ніхто не гаворыць, вяртанне Украіны да Канстытуцыі 2004 года — не зусім тое, прэзідэнт, хоць і слабы, усё ж прэзідэнт, і гісторыя паказала, што аўтарытарызм вельмі лёгка прыжываецца на постсавецкай глебе.

Я бачыла ролік пра мітынг у Нью-Ёрку, той, дзе змрочны ЗП[24]. Шчыра кажучы, была ўпэўнена, што Вы там, і спадзявалася пабачыць.

З Дзіянай кожны дзень абмяркоўваем падзеі, добра, што пры гэтым мне выказвацца не абавязкова, яна гаворыць за дваіх. Яна нядаўна з'ездзіла ў Варшаву, там на Белсаце ўручалі прэміі імя Віктара Івашкевіча актывістам у галіне барацьбы за правы чалавека, вось і яе запрасілі, і яна ўручала. Сустракалася там з Андрэем Саннікавым і Зміцерам[25]; яны перадаюць Вам прывітанне!

Цяпер Дзіяна з роднымі і сябрамі Віктара займаецца помнікам, і мяне падключыла — да абмеркавання праекта…

Да сустрэчы!

Вера

*24.03.2015*

Дарагая Валянціна Андрэеўна!

Шчыра дзякую за віншаванне! І я Вас віншую ад усёй душы! Праўда, неяк сумна — праз тры гады будзе 100-годдзе, а Беларусь і не бачыла той Волі!.. Ці пабачыць калі-небудзь! Я проста фізічна адчуваю, якая страшэнная пачвара побач — Расея! Адтуль хвалямі ідзе дурасць і нянавісць. Вось не пашанцавала з суседзямі! Што за народ такі, самі голыя і босыя, крызіс, а ўсё роўна — карціць ім біць «украінскіх фашыстаў»! Я разумею, прапаганда, але трэба ж і сваімі мазгамі крыху варушыць! Дарэчы, тая прапаганда і на нашых уплывае. Таксама «ватнікаў» хапае. Хто будзе бараніць Беларусь, калі што… Мы з Дзіянай смяемся, што прыйдзецца нам з ёю ісці ў адзін акоп з Лукашэнкам; праўда, горкі смех. Вельмі перажываем за Украіну, там усё вырашыцца. Можа, Амерыка ўсё ж дапаможа ўзбраеннем! Дарэчы, Навальны (пасля забойства Нямцова — самы галоўны лідар расейскай апазіцыі) заклікаў Штаты не даваць зброю Украіне, маўляў, Украіна ўсё роўна Расею не пераможа, а ад амерыканскай зброі будуць гінуць расіяне… Тое, што ад расейскай зброі гінуць украінцы, яго не надта хвалюе. Такія вось расейскія дэмакраты! Выбачайце, ліст атрымліваецца несвяточны… Спадзяюся, пры выпадку пагаворым. На шэсце я, напэўна, не пайду, нешта слабая я стала. Дзіяна запрашае прыйсці да яе ўвечары, пасвяткаваць, ну, будзе бачна. Яшчэ раз са Святам!

А Вы чулі новую песню Вайцюшкевіча «Жыве Беларусь»? Словы (Някляева) вельмі простыя, нават прымітыўныя, але добры маршавы матыў, я думаю, для моладзі гэта тое, што трэба.

Вера

*11.02.15*

Добры дзень, Валянціна Андрэеўна!

Дзякуй вялікі за віншаванні і такія добрыя словы!

Столькі я пачула добрага ў свой адрас, што нават няёмка. Мне здаецца, людзі бачаць мяне значна ў лепшым святле, чым гэта ёсць на самой справе. І як жа мне за гэта аддзячыць!..

Адказваю Вам праз пошту, бо не ведаю, як карыстацца Facebook'ам. Гэта Дзіяна прымусіла мяне завесці старонку, а я не ведаю, што там трэба рабіць. Кожны дзень

---

[24] ЗП — Зянон Пазняк, старшыня Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, палітэмігрант.

[25] Зміцер — Зміцер Бандарэнка падчас выбарчай кампаніі 2010 года — актывіст штаба кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава, быў асуджаны на два гады калоніі.

пішуць нейкія патэнцыйныя «сябры», я большасць і не ведаю. Пазначыла сабе 6 сяброў, гляжу на іх час ад часу. Затое паглядзела фоткі у альбоме Сержа, і з Вамі пабачылася на снежаньскай старонцы. Спадабалася, як танцуе Нікалас Стэфан[26]. Не ведаю, як ён там пачуваецца, але звонку ўсё выглядае проста цудоўна! Такі элегантны кавалер! <…>

АІФ таксама павіншаваў праз Facebook; ну, яму я проста патэлефаную. Пакуль не атрымала ад яго кніжку. Хачу сказаць, што вельмі добра Вы выглядаеце на здымку «Што робім сёння на обед?»; ён мяне заўсёды радуе.

Усяго найлепшага!

Вера

*12.04.2015*

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Дарагая Валянціна Андрэеўна!

Віншую Вас са святам — Светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем!

Няхай Бог будзе літасцівы да Вас — здароўя Вам і Вашым родным, радасці, бадзёрасці на доўгія гады!

З любоўю

Вера

*Публікацыя і каментары Валянціны ТРЫГУБОВІЧ*

[26] Коля (Нікалас Стэфан) — старэйшы амерыканскі ўнук Валянціны Трыгубовіч.

